# 1

Калі ў доўгіх прыцемненых калідорах з незлічонай колькасцю аднолькавых дзвярэй са стандартнымі шыльдачкамі на іх заціхалі людскія галасы, а часам стрыманы. нейкі абачлівы смех, і ў шматпавярховай будыніне рабілася ціха, Скачкоў любіў застацца ў сваім кабінеце. У такія хвіліны асабліва засяроджана думалася, лёгка пісалася. За якую гадзіну зробіш болей, чым за ўвесь дзень, нашпігаваны тэлефоннымі званкамі, нарадамі, гутаркамі з наведвальнікамі, рознымі ўдакладненнямі, высвятленнямі, адным словам, той бязладнай мітуснёй, якой хапае ва ўсялякай саліднай установе.

У гэты ж вечар Скачкоў нічога не пісаў, ні пра што не думаў, а пераглядаў чарнавікі, копіі даўно напісаных і забытых даведак, справаздач, праектаў пастаноў і рашэнняў, якіх накапілася поўныя шуфляды двухтумбовага пісьмовага стала. Ён прачытваў загалоўкі, спадзеючыся, што раптам пападзецца якая патрэбная паперына, ірваў пажоўклыя і струхлелыя аркушы на вузкія палоскі і кідаў іх у сплеценую з тонкіх дроцікаў сметніцу. Ён пераглядзеў усе шуфлядкі, але нічога каштоўнага так і не трапілася на вочы. Усё было пустое, дробязнае...

Сметніца даўно схавалася пад рыхлай кучай пакамечаных папер. Ад сухога папяровага пылу пяршыла ў горле. Скачкоў зазірнуў у шафу для адзення, дзе ўнізе заўсёды стаялі пляшкі мінеральнай вады. Вады не было. Забыўся, што апошнімі днямі не рабіў запасу. Скачкоў глынуў з ружовага графіна, што стаяў на асобным століку ў кутку кабінета. Вада была цёплая і, падалося, прапахла цвілой паперай.

Спыніўшыся ў адчыненых дзвярах, развітальным позіркам агледзеў кабінет з вялікім акном, паўзакрытым цяжкой зялёнай шторай, з тэлефонамі на нізкай прыстаўцы за сталом. Убачыўшы радыёпрыёмнік, здзіўлена падумаў, што ніколі не ўключаў яго. А потым ціха, каб не грукнуць, прычыніў дзверы, шчоўкнуў замком. Ключ не стаў хаваць у кішэню, каб не забыць здаць вахцёру, а панёс, раскручваючы на ўказальным пальцы.

У самым канцы калідора, калі Скачкоў намерыўся збочыць на лесвіцу ўніз, раптам пачулася гулкае, частае тупаценне і ўзрушаны покліч:

— Валерый Міхайлавіч! Валерый Міхайлавіч!

Скачкова непрыемна ўразіла, што яшчэ нехта затрымаўся на працы і цяпер, дагнаўшы яго, прыліпне са службовымі праблемамі, пра якія яму не хацелася і думаць, развярэдзіць душу.

Ля яго спыніўся, з разгону праехаўшы на слізкім паркеце на доўгіх і крыху цыбатых нагах высокі і танклявы Капшукоў. Ён быў зусім яшчэ малады, можа, нават не багата маладзейшы за ўсіх супрацоўнікаў аддзела, чарнявы, заўсёды з падкрэсленай да смешнага засяроджанасцю на кірпаносым твары.

— Здаецца, сёння не сустракаліся,— Скачкоў падаў яму руку, стрымана ўсміхнуўшыся.— Сядзеў, бабкі падбіваў, так сказаць. Рыхтаваў кабінет для вас. Дарэчы, віншую!

— Ой, дзякую, Валерый Міхайлавіч, дзякую! — схіліў галаву Капшукоў.— Мяне сёння ўсе віншуюць. Але не шчыра, праз зубы. Інакш і не магло быць. Яны даўжэй за мяне робяць, а я толькі прыйшоў. Як след не паспеў асвоіцца і раптам... такое павышэнне. Намеснік начальніка пададдзела. Я спачатку падумаў, што мяне разыгрываюць. Не мог паверыць, што вы пакідаеце нас. А калі даведаўся, куды едзеце, зусім разгубіўся. Адсюль і туды? Няхай праштрафіліся б, ці што. А то ж усе самай лепшай думкі пра вас. Сапраўды, Валерый Міхайлавіч, навошта вам гэта? Адтуль кожны пабег бы не тое што на ваша месца, а на маё. Там няма кім кіраваць, усё трэба рабіць самому, самому за ўсё адказваць, нават за дробязі. Каб вас узялі куды вышэй, было б ясна. А так...— Капшукоў ішоў па лесвіцы следам за Скачковым і тараторыў без супынку.

Скачкоў бачыў, што Капшукоў гаворыць шчыра. Ён сапраўды не думаў пра павышэнне. Не спадзяваўся. Разу-

меў, што ў аддзеле нямала супрацоўнікаў, якія маюць болей вопыту і правоў на павышэнне. І сапраўды, некаторыя прасіліся на яго, Скачкова, месца, бегалі да сваіх уплывовых знаёмых,— хто куды мог даступіцца. Капшукоў не прасіўся, нікуды не бегаў. Гэта спадабалася Скачкову, і ён настояў, каб на яго месца прызначылі іменна Капшукова.

— Можа, крыху пройдземся, калі не спяшаецеся? — Скачкоў узяў свайго наступніка пад локаць, калі яны выйшлі на вуліцу.

— З вамі хоць куды,— узрадаваўся Капшукоў.

Яны перасеклі невялічкі скверык і скіравалі на алею з маладых ліпак, якая вузкаю лентаю рэзала шырокі праспект на дзве паласы. Скверык быў амаль бязлюдны, толькі зрэдку можна было сустрэць пенсіянера, які трушком уцякаў ад інфаркту.

— Вось вы,— пачаў паблажліва Скачкоў,— сказалі, што там няма кім камандаваць, усё трэба арганізоўваць самому... А ведаеце, мне якраз гэтага і хочацца. Хочацца пераканацца, ці здольны я на нешта самастойнае.

— Некалі ж рабілі,— па голасу Капшукова адчувалася, што ён не вельмі верыць Скачкову.

— Даўно. А цяпер? На цяперашнім узроўні вытворчасці? Ды і не гэта галоўнае. Галоўнае, што мне абрыдла тут. Больш пятнаццаці гадоў на адным месцы... Патрабую ад вас паперы, прымушаю перарабляць іх, а потым падаю вышэй. Усе мы робім тое, што трэба іншым ці за іншых. Абрыдла ўсё. Здаецца, ходзіш па адным і тым жа крузе. Такое ўражанне, што жыццё калі не спынілася, то пачало паўтарацца. А ў чалавека заўсёды павінна быць перспектыва. Калі яе няма, жыццё страчвае сэнс. Вось так. А потым хочацца рабіць нешта такое, каб усе бачылі тваю, іменна тваю работу,— і ён, спыніўшыся перад Капшуковым, спытаў: — А вам не хочацца гэтага?

— Разумееце,— з асцярожнай разважлівасцю пачаў Капшукоў,— цяпер час калектыўнай працы.

— А куды дзяваць эмоцыі? — спытаў Скачкоў, крыху прайшоўшы.— Якія часам не хочуць слухаць галаву, калі з'яўляецца адчуванне, што няма чым жыць...

— Можа, гэта ад таго, што сапраўды доўга сядзім на адным месцы? — у сваю чаргу спытаў Капшукоў.— Я недзе чытаў, што чалавек павінен перыядычна мяняць работу, каб не абрыдла жыццё. Але для гэтага зусім не абавязкова некуды ехаць.

— Абавязкова. Бо тут і жыць не цікава,— ён збоку глянуў на субяседніка.— У мяне ўсё ёсць. Дачка жыве самастойна. Тых грошай, што з жонкай зарабляем, не можам спажыць. Што рабіць? Набіваць кватэру непатрэбшчынай? Здаецца ж, не абывацелі. Раней хоць кніжкамі захапляўся. Нацягаў багата. Але чытаць іх няма часу. Здаецца, усяго, чаго мне хацелася, я дасягнуў. А далей? А мне ж і пяцідзесяці няма. Яшчэ жыць і жыць. За нешта трэба змагацца, а не хочацца. Вось у чым ісціна.

— Вясёленькая ісціна,— Капшукоў памкнуўся сказаць так жа расчаравана, як гэта выйшла ў Скачкова.

— Для вас гэта яшчэ не ісціна. Яна стане ісцінай, калі дойдзеце да яе сваім жыццём. Так што не спяшайцеся жыць,— засмяяўся Скачкоў.— Відаць, я паспяшаўся. А можа, спозніўся. На сваю станцыю... І мяне загналі ў тупік. Вы чулі калі-небудзь на станцыі, каб аб'яўлялі, што такі-то хуткі цягнік спазніўся на дзве-тры гадзіны? Чулі. А вось каб так аб'яўлялі пра прыгарадны? Не чулі? І я не чуў. Хачу, дарагі мой, стаць прыгарадным. Вось і паеду на раён, узначалю ўпраўленне. Здаецца, яно не благое. Праўда, цяпер у іх з планам не вельмі, але нічога... Можа, якраз мне і ўдасца наладзіць там рытмічную работу,—глянуў на Капшукова. Яму падалося, што той не вельмі яго слухае. Замаўчаў.

— Можа, у бар заглянем, Валерый Міхайлавіч? — спахапіўся Капшукоў.— Тут блізка, у канцы сквера. Я вельмі ўдзячны вам за ўсё. Вы так шчыра пагаварылі са мной. А самае галоўнае, я ведаю праўду. А то плявузгаюць усялякае...

— А што? — не вытрымаў Скачкоў.

— Што вас папрасілі, што вы паспрачаліся са сваім шэфам. Адным словам, плёткі. Я нікольκі ім не верыў... Мяне ўразіла ваша чэснасць, патрабавальнасць да сябе. Так што, Валерый Міхайлавіч, мне вельмі будзе карысна паслухаць вас. Можа, раскажыце пра якія сакрэты пасады.

— Не хвалюйцеся, усё будзе нармальна. Заўтра вы толькі сядзеце за стол, адразу ж тэлефонны званок. Трэба тое, тое. Вы званок сваім супрацоўнікам. І пачнецца... І ўсе сакрэты.

— І ўсё ж, можа, трошкі пасядзім, Валерый Міхайлавіч?

«А ён далёка пойдзе,— падумаў Скачкоў пра Капшукова, разглядаючы яго такі ясны і такі знешне наіўны

твар з упартым паглядам даверлівых вачэй.— На хаду ўмее прыстасавацца. Можа, ён яшчэ болей за ўсіх у аддзеле марыў пра павышэнне ды ведаў, што яго час не настаў, таму і выдаваў сябе такім сціпленькім».

— Я ніколі не хадзіў у гэтыя бары,— сказаў Скачкоў.— І вам не раю. Вялікі цень кідаюць яны на нашага брата,— і падаў руку на развітанне.

Звычайна Скачкоў любіў быць дома адзін. Можна было пасядзець у мяккім і ўтульным крэсле, прагледзець газеты, падумаць над паперамі, якія ён прыносіў з работы, а то і проста падрамаць, адысці ад дзённых трывог, хваляванняў, адпачыць у чаканні жонкі, якая заўсёды вярталася з работы вясёлай, гаваркой, пазбаўляючы яго цішыні і спакою аж да самага сну.

Сёння ж яму не было чаго рабіць. Па звычцы апаласнуўшыся пад халодным душам, захінуўшыся ў доўгі махровы халат у чырвоную і сінюю палосачкі, усеўся перад тэлевізарам. Хоць фільм, які ён ніколі не бачыў, здаецца, быў цікавым, але засяродзіцца на ім ён так і не змог. Выключыў. Узяў стос кніг, якія нядаўна прынёс з кнігарні і яшчэ не паглядзеў. Не зацікавілі і кнігі. Перашкаджалі незразумелая ўстрывожанасць, незадаволенасць сабой. Падняўся, падышоў да люстра, што ледзь не на ўсю сцяну вісела ў пярэдняй, стаў углядацца ў сябе з такой увагай і цікавасцю, нібы раптам убачыў упершыню. Стомлены кіслы твар, абыякавыя вочы, хоць, здаецца, і гарачь яшчэ маладым бляскам. Над вушамі тырчаць ускудлачаныя касмылі сівых валасоў. Жонка не адзін раз гаварыла, каб падстрыгаўся вышэй, маўляў, вушы ж не тырчаць, каб іх хаваць, тады і сівізна не так будзе кідацца ў вочы. Глянуў на гадзіннік, што мігаў зялёнымі лічбамі на стале ў зале. Жонка павінна была ўжо прыйсці дамоў. Хоць казала, што сёння затрымаецца. Дык яна кожны вечар затрымлівалася, але не так, як сёння. Ці, можа, наладзіла развітальную вячэру? Яны ж не могуць там без развітальных застолляў. Увайшло ў прывычку ўжо...

Выйшаў на балкон. Шэрае неба асела, закаламуціўшы паветра, ахутала горад. Усё невыразнае знікла, а белыя кубы новых дамоў яшчэ зырчэй заззялі белізной.

Прама перад ім, праз двор, стаялі два пяціпавярховыя будынкі. Стандартныя, шэрыя. Ва ўсялякім выпадку, ён заўсёды бачыў іх такімі. Аказваецца, адзін з іх крыху ружовы, а другі — светла-салатавы. А правей ад іх зусім нядаўна вырас гмах з шырокімі вокнамі, закрываючы сабой

паўнеба. У некаторых кватэрах дзверы на балкон былі адчынены, і адтуль падалі кволенькія слупы святла, высвечваючы белыя і ружовыя кветкі, што цвілі ў доўгіх зялёных скрынках, прымацаваных звонку да балконаў. А яшчэ правей за скопішчам блакітных шыферных і бляшаных дахаў стаяў сіні будынак, разлінееены вертыкальнымі белымі палосамі, як хто напяў там доўгія ручнікі. За ім ірваўся ў неба белы будынак факультэта журналістыкі універсітэта. Крылатая надбудова над ім у выглядзе разгорнутай газеты надавала будынку ўзлётную лёгкасць, нагадвала ўсім, хто там вучыўся, пра іх пакуль што нязлзейсненае будучае. Шкада, што гэты светлы сімвал можна ўбачыць толькі здалёк, а не з вокнаў збудавання. Ды і сам Скачкоў убачыў той будынак такім крылатым упершыню. Як упершыню, убачыў зараз, што дрэвы з пацямнелай зелянінай у вечаровай шэрані надаюць усяму архітэктурнаму малюнку яшчэ больш выразную акрэсленасць.

У прагалах паміж збудаваннямі зіхатліва бліШчэлі пункціры вулічных ліхтароў, чырвоныя агні машын напаўнялі вуліцу рухам, ажыўлялі яе.

Адбітак паэтычнай загадкавасці ляжаў на гарадскім пейзажы.

Скачкоў пашкадаваў, што мала цікавіўся сваім горадам раней, не прыглядаўся да яго, а цяпер застанецца гэты горад назаўсёды неразгаданым, нязведаным. Можа, там, куды ён збіраўся паехаць, яму не будзе хапаць гэтага горада, з якім, аказваецца, так моцна зжыўся...

А можа, ён дарэмна звольніўся? Дарэмна нагаварыў Капшукову прыгожай лухты? Не асмеліўся, не захацеў сказаць усю праўду. Але ж ён і не нахлусіў яму. Ён сапраўды незадаволены сваёй працай. Ён сапраўды хоча змяніць яе. Ён сапраўды хоча паехаць працаваць бліжэй да родных мясцін, да мясцін свайго дзяцінства, да тых мясцін, дзе змагаўся, загінуў і пахаваны яго бацька.

Так, ён не нахлусіў Капшукову. Ён толькі не ўсё сказаў.

Хутчэй бы вярталася жонка. Аднаму проста немагчыма. Можа, Кірылаву пазваніць? З тым ніколі не сумна.

Зайшоў у кватэру, пазваніў Кірылаву, які рабіў рэдактарам галіновага часопіса і жыў у суседнім пад'ездзе.

— Зайдзі,— папрасіў яго.

Скачкоў не паспеў заглянуць у халадзільнік, што ёсць там з закускі, як Кірылаў ужо бомкаў званком.

— Ну, што здарылася? — спытаў яшчэ ў парозе.

— Нічога асаблівага. Вось звольніўся...

— Дурань, калі праўда.

— З гэтай нагоды і пасядзім,— яго словы Скачкоў прапусціў міма вушэй.

— Мне нельга,— сказаў Кірылаў.— Урач забараніў.

Кірылаў сапраўды выглядаў хваравіта. Твар апухлы, пад вачыма сіняватыя мяшкі.

— Нельга дык нельга. Так пасядзім,— і паказаў сябру на крэсла ля газетнага століка ў зале.

— Якую яшчэ праблему прыдумаў сабе? — спытаў Кірылаў, усеўшыся.— Ці сумна аднаму стала?

— І праблема ёсць, і сум ёсць,— Скачкоў сеў насупраць.— А можа, па трошкі? У мяне цудоўны каньяк.

— Не сумняваюся, што ён у цябе цудоўны, але...— Кірылаў узяў са стоса верхнюю кнігу, глянуў на загаловак, кінуў зноў на столік.— Начытаешся за дзень у рэдакцыі, на кніжкі праціўна глядзець.

— Я звольніўся...

— Канешне, ты смелы чалавек, але...

— Што але?

— Я табе гаварыў. Баішся, пад старасць рогі паставіць? Не бойся. Рогі не паставіць, не той узрост, а рожкі на тваю лысінку прыладзіць можа,— і ён засмяяўся. Убачыўшы, што Скачкоў не рэагуе на яго жарт, сказаў без насмешлівасці, шчыра.— Я даўно табе раіў знайсці маладуху, схадзіць раз-другі ў госці, і на жончыны фіглі-міглі будзеш глядзець спакойна. А то ўявіў, што свет клінам на ёй сышоўся, вось і трымціш...

— Не думай, што я толькі з-за жонкі,— ён паглядзеў уважліва на Кірылава, нібы раздумваючы, гаварыць далей ці не.— Гэта ў мяне даўно. Яшчэ гады два назад у нас пайшлі чуткі, што аднаго з начальнікаў пападдзелаў будуць падымаць вышэй. Я лічыў, што падымуць мяне. Паднялі іншага. Вось тады я і падумаў, што нечага мне тут сядзець, усё роўна нічога не выседжу. Лепей плюнуць на ўсё і паехаць да сябе на радзіму, у які Зуеў. Ведаеш, пад старасць цягне туды, дзе пупавіну закапалі...— Скачкоў замаўчаў, чакаючы, што скажа Кірылаў. А той глядзеў на яго стомленымі вачыма і ледзь прыкметна ўсміхаўся.— А калі дачка выйшла замуж, пайшла жыць на прыватную кватэру, я яшчэ раз падумаў пра Зуеў. А што? Мы паедзем, а кватэра застанецца дачцэ. Ніхто не выганіць. Прапісана.

— Слухай, у тваім становішчы ды не выбіць хату?

— Трэба ж некага прасіць, перад некім прыніжацца. Лезці без чаргі. Не, гэта не па мне...

— Святы знайшоўся.

— Святы не святы, а не магу. А можа, не ўмею... І яшчэ прычына — маці. Адна там. Так што, бачыш, прычын багата. А жонка... Жонка — апошні штуршок.

— Я і гавару пра апошні штуршок,— хмыкнуў Кірылаў. Ён яўна блазнаваў.— Што б ты ні гаварыў, а гэта самы сур'ёзны штуршок... Занадта аддады ты ёй. А жанчына, запомні, заўсёды мае больш улады над адданым мужам і, вядома, карыстаецца гэтым, калі не апошняя тупіца. І наогул... Каб у нашым узросце пухла галава ад гэтага, не ўяўляю. Мяне, напрыклад, зараз больш за ўсё хвалюе, куды паехаць на рыбалку ў суботу. Можа, з'ездзім? А што? Пасядзіш з вудай, падчэпіш лешчыка, на жонку махнеш рукой. Дарэчы, там паблізу піянерскі лагер, у лагеры, як правіла,— выхавацелькі. Паехалі? Калі ты паедзеш, мая пусціць мяне таксама.

— Апошнім часам я заўважыў,— працягваў Скачкоў, нібы і не пачуў яго запрашэння на рыбалку,— што яна неяк аддаляецца ад мяне. Паступова становімся чужымі. Не тое што нам нечага сказаць адзін аднаму, а часам нічога не хочацца гаварыць. Раней мы не маглі адзін без аднаго. Сэнс жыцця быў у гэтым. Можа, таму, што з намі жыла дачка. Агульныя клопаты. І ўсё такое. Цяпер жа нібы нечым жыць. І ў той жа час яна даражэй для мяне цяпер, чым калі. Яна — маё мінулае. А яго не паўторыш.

— А гаворыш, што мяняеш работу не з-за жонкі,— зноў рагатнуў Кірылаў і ўпэўнена заключыў: — Перабольшваеш.

— Можа. Не ведаю. Але мне здаецца, што ёй не цікава са мной. А можа, ёй абрыдла праца ў гандлёвай рэкламе, вось і шукае, чым запоўніць жыццё. Кожны дзень сходы, нарады, пасяджэнні. То прафсаюзныя, то вытворчыя. І так бясконца. Не, трэба было рабіць нешта вельмі рашучае. Не ведаю, што можна было прыдумаць, але мне здаецца, самае лепшае — пераехаць на новае месца... Новыя абставіны, новае асяроддзе, новыя клопаты... Яна будзе рабіць у школе.

— Гэта ўсё настолькі тонка, што я не магу нічога ўлавіць сваім практычным розумам. Я толькі перакананы, што ні тут, ні там нічога з ёй не здарыцца. Нікуды яна не дзенецца. Не думай, бабы, можа, не вельмі паважаюць ад-

даных мужоў, але даражаць імі. Так што на тваім месцы я не хваляваўся б. Але калі гаварыць сур'ёзна, то за цябе баюся. Перспектывы ніякай. Нафты там кот наплакаў. Выціскаюць апошнія кроплі. Не паспееш прыняць упраўленне, як яна скончыцца. Хе-хе... Я ведаю, як дастаецца кіраўнікам на нізавой рабоце. Глядзі не памыліся.

— Я добра ведаю вытворчасць,— запярэчыў Скачкоў.

— Гэтага вельмі мала. Там трэба ўмець круціцца, а ты занадта чэсны. А потым ад дабра дабра не шукаюць. Так што падумай.

— Што думаць? Я ўжо атрымаў накіраванне.

— Глядзі,— Кірылаў кінуў хуткі позірк на гадзіннік, што свяціўся зялёнымі лічбамі на стале, падняўся.— Ну я пайшоў. Сваёй сказаў, што ненадоўга, а заседзеўся... І ўсё ж, здаецца мне, ты ўскладняеш сабе жыццё.— Спыніўшыся ў дзвярах, спытаў: — Можа, усё ж паедзем на рыбалку?

— Якая рыбалка! — зачыніўшы дзверы за сябрам, Скачкоў зноў выйшаў на балкон. Добра звечарэла. Будынкі растварыліся ў цемры, зніклі. Увесь горад быў з адных агнёў, застылых у вокнах і на слупах, рухомых на аўтамабілях.

Ён з устрывожанай нецярплівасцю глядзеў на сцежку, што шэраю стужкай выгіналася з вуліцы ў двор. Заехала легкавушка, высвеціўшы пасярод двара дзіцячыя гушкалкі, лесвічкі, пясочніцу, высадзіла пасажыраў, паехала назад.

Ён паднёс руку бліжэй да асветленага акна, глянуў на гадзіннік. Было позна. Занадта ж зацягнулася развітанне з супрацоўнікамі... Эх, дарэмна яна некалі пайшла ў тую гандлёвую рэкламу. Ён, Скачкоў, быў супроць, хацеў, каб жонка працавала ў школе. Яшчэ калі яны жылі ў раённым, а потым і ў абласным цэнтрах, яна настаўнічала, і ёй падабалася ў школе. Праўда, тут, у Мінску, адразу не знайшлося месца ў школе, але можна было і пачакаць,— абяцалі ж праз які час уладкаваць. Ала Пятроўна і не супроць была пасядзець дома, тым больш што дачка пайшла ў першы клас, клопатаў дома прыбавілася. Але тут якраз Кірылаў падвярнуўся са сваім практыцызмам. Маўляў, нечага класці здароўе, змагаючыся з перакормленымі аболтусамі. Наогул, калі жанчына настаўніца, то ў хаце няма гаспадыні, у дзяцей — маці, у мужа — жонкі. Так што, дарагі Валерый Міхайлавіч, не пускай жонку ў школу. З філалагічнай адукацыяй можна знайсці і лепшую ра-

боту. Узяць хаця б гандлёвую рэкламу. Чаму б не пайсці туды рэдактарам? Дарэчы, у яго, Кірылава, там знаёмы дырэктар. Зарплата не меншая, чым у школе. Вечары вольныя,— не трэба пісаць планы ўрокаў, гібець над сшыткамі. Два выхадныя. Сувязі з усім гарадскім гандлем. Ніякіх праблем з дэфіцытамі. Хай толькі грошы мужык носіць.

Працаваць у гандлёвай рэкламе Але Пятроўне падабалася. Ёй падабалася пісаць пра жаночыя паліто мясцовай вытворчасці, пра рыбныя кансервы, пра вялікую карысць для чалавека марской капусты, кальмараў. Пра што толькі яна тады не пісала! Часта брала сваё пісанне дамоў, сякі дзела вечарамі. Хацела, каб словы гучалі як музыка. Каб кожны, хто прачытае іх у газеце ці пачуе па радыё, хапаў грошы і апрамеццю бег у магазін.

Але з часам Ала Пятроўна астыла да свае працы. Ці, можа, яна знадаела ёй, як знадаядае ўсялякая праца, калі доўга робіш адно і тое ж, ці, можа, усвядоміла жанчына бязмэтнасць сваіх стараннясў. Яна неяк гаварыла яму, што людзі не рэагуюць на рэкламу, самі добра разбіраюцца, што купляць, а што не. Мяняць работу Ала Пятроўна не думала: прывыкла да людзей. Але не ў яе характары было проста «адбываць час». І яна захапілася грамадскай работай. Пачала верхаводзіць на сходах, семінарах. Яе абралі ў прафсаюзны камітэт, у склад розных камісій, таварыстваў. Яна выступала з прамовамі, выпускала насценную газету, з дружыннікамі хадзіла па вуліцах, віншавала юбіляраў, наведвала парадзіх, хворых.

Збіў іх тады з панталыку Кірылаў сваёй гандлёвай рэкламай і зараз не раіць звальняцца. «Ад дабра дабра не шукаюць». А што рабіць, калі ад гэтага дабра ніякай радасці?

На шэрай сцежцы з'явілася чалавечая постаць у белым. Спачатку нельга было яе разгледзець, віднелася толькі рухомая пляма. Выразна чуўся постук жаночых абцасаў аб вечаровы гулкі асфальт. Бліжэй да дому жанчына схавалася пад кучаравымі дрэўцамі, якія густа падняліся паўз сцежку перад домам.

Скачкоў кінуўся адчыняць дзверы.

Зайшоўшы, Ала Пятроўна перадала яму цяжкую сумку, скінула з ног белыя туфлі і басанож патэпала ў ванную. Пакуль Скачкоў на кухні перакладаў з сумкі ў халадзільнік важкія пакункі, Ала Пятроўна паспела апаласнуцца пад душам і выйшла з ваннай у доўгім махровым халаце такога ж колеру, як і ў Скачкова,— у сінюю

і чырвоную палосачкі,— села ў зале ў глыбокае крэсла, паклаўшы на пуфік свае поўныя ногі з паліраванымі ногцямі і з ружовымі палоскамі ад туфель, крыху вышэй пальцаў.

— Ну як, развіталася са сваім любімым калектывам? — з'едліва спытаў Скачкоў, зайшоўшы ў залу.

— Развіталася,— адказала стомлена.— Разгаварыліся, не хацелі і разыходзіцца. Каб не зачынялі кафэ, яшчэ б сядзелі... Усе шкадуюць, што я...

— Званіў сёння ў Зуеўскі райком партыі,— не стаў слухаць далей яе Скачкоў.— Абяцалі месца ў школе. Думаю, табе ў школе будзе цікавей.

— Ведаю я школу,— уздыхнула Ала Пятроўна.— І наогул...

— Што наогул?

— Усё неяк недарэчна. Прывыклі, абжыліся. І раптам усё кідай, едзь чортведама куды. Людзі лезуць сюды, а мы назад. Пад старасць...

— Ты ж пагадзілася?

— Ды пагадзілася...

— Што, перадумала? — з насцярогай глянуў Скачкоў на жонку.

— Што цяпер гаварыць? Раз трэба, то трэба. Я пра другое. Вы толькі балбочыце пра нашу роўнасць з мужчынамі, а нас, баб, ніколі не слухалі і не лічыліся з намі,— і глянуўшы на ўшчэнт разгубленага мужа, раптам прыязна і ласкава ўсміхнулася: — Стамілася я, Валера. Можа б, раскінуў пасцелю?

Скачкоў падаўся ў спальню.

Спакою на душы не было...

## 2

Алесіч разуў кірзачы з парэпанымі передамі, скінуў куртку з прапаленай знізу палой, кінуў яе на расхітаную тумбачку, картовыя штаны ў тлустых плямах і зялёных пісягах ад травы павесіў на спінку ложка ў нагах і нырнуў пад калючую коўдру з галавой, каб не чуць галасоў таварышаў, якія яшчэ доўга не маглі ўгаманіцца, расказвалі анекдоты, смешныя выпадкі са свайго нядаўняга алкагольнага быцця, рагаталі прастуджанымі галасамі.

Алесіча адразу ж ахутала вялая цеплыня. Пацяжэлі павекі. Галасы гучалі глуха, як праз тоўшчу вады. «Яшчэ

трошкі — і я засну,— варушылася кволая думка недзе ў нетрах анямелай свядомасці.— Але навошта я думаю пра сон? Мне не трэба зараз думаць, а то адна думка пацягне другую і тады не засну...» Канешне, ён даўно б спаў, каб не гэтая балбатня. Прыслухаўся — у палаце ціха. Яго ахапіла незразумелая ўстрывожанасць. Лоб макрэе, як у хворага. У вачах мітусяцца жоўтыя кругі, нібы толькі што глянуў на сонца, плывуць хвалістыя каляровыя пісягі, znічкамі ўзрываюцца яркія матылі. Каб пазбавіцца гэтай мітуслівай мяцеліцы, ён адкрывае вочы...

У палаце цёмна. Блякла святлеюць вокны. Нехта смачна пасвіствае носам у сне. Каб ведаць хто, падняўся б, разбудзіў. Можа, з-за гэтага посвісту ён і прачнуўся? Нехта ў калідоры бразнуў крышкай, якой накрываўся бачок з вадою.

«Няўжо зноў бяссонніца?» — з жахам думае Алесіч.

Ён не спаў ужо некалькі начэй запар. Ляжаў, пакутаваў ад бяссонніцы і яшчэ болей ад бяссілля перад ёй. Праўда, недзе пад раніцу, перад самым пад'ёмам, сон зводзіў яго павекі, зморанасць усё ж брала сваё, але выспацца ўжо не хапала часу.

Алесіч стараўся думаць пра што-небудзь далёкае ад свайго мінулага ды і цяперашняга жыцця, каб не хвалявацца, супакоіцца, нарэшце, стаміцца ад гэтага думання, але не мог саўладаць з думкамі. З галавы не выходзілі жонка, сын... І чым мацней ён супраціўляўся думкам, тым з большай упартасцю яны лезлі ў галаву. Як слепні ў гарачы ліпеньскі дзень.

Вера даўно не пісала. Апошняе пісьмо ад яе было на пачатку вясны. Яна вельмі сцісла расказала пра сына, пра яго вучобу,— канчаў год без троек. У канцы прыпісала, што яны з сынам адвыклі ад яго, так што можна не прыязджаць дамоў, ім нядрэнна жывецца і без бацькі.

Тады ён не надаў асаблівага значэння той прыпісцы, рашыў, што блазнуе жанчына. І вось зараз ляжаў, думаў пра яе доўгае маўчанне, пра тую прыпіску. Можа, не піша, ведаючы, што ён хутка вернецца? А можа, сапраўды не чакае? Не хоча і бачыць? Ні разу ж не прыехала, не адведала. Можа, не было як? І грошы на паездку трэба. А адкуль яны ў яе?

Ён пасылаў ёй лісты ледзь не кожны тыдзень, а яна прысылала яму ў тры месяцы раз якую карацельку. Маўляў, сын не хварэе, вучыцца. А пра сябе, пра сваё жыццё ні слова. Але ён быў рады і такім пісьмам. Ведаў, ін-

шая на яе месцы і зусім не пісала б, столькі прынёс ёй пакут. Што было, тое было. Але болей такога не будзе! Цяпер будзе ўсё інакш. Цяпер будзе як у людзей, а то і лепей. У іх з Верай яшчэ нямала жыцця наперадзе, і ён пастараецца, каб яна была шчаслівай, каб ніводная хмурынка не кранула яе твару...

Пакутліва марудна плыве ноч. Нібы смалой прыкіпела да зямлі, знерухомела. Далёкая зорка застыла ў акне. Можа, і зямля спынілася, не імчыць у сусвеце?

Алесіч падняўся. Спатыкаючыся аб кірзачы, табурэткі, выбраўся з лабірынту ложкаў, выйшаў з надыханай палаты ў калідор. Напіўся вады. Вада была цёплая. Не ахаладзіла, не супакоіла. Выглянуў на вуліцу. Стаяла анямелая цемень. Толькі там, дзе была прахадная, трымцеў востранькі агеньчык. Вартаўнік заўсёды спаў у сваёй вузкай, як купэ вагона, дзяжурцы — усе ведалі пра гэта,— але святла не выключаў, каб бачылі, што ён пільна вартуе начны спакой хворых. З-за будынка пацягнула халодным спалоханым ветрыкам. Алесіча працяло калючай зябкасцю. Ён паспешліва вярнуўся ў палату.

Калі першы раз ахапіла яго бяссонніца, ён не вельмі ўстрывожыўся. Падумаў, пройдзе. А яна не прайшла. Няўжо вярнулася яго немач? Здаецца ж, пра гарэлку і не ўспамінаў... Можа, сапраўды захварэў? Яму зараз толькі гэтага не хапала. Калі знойдуць у яго хваробу, не адпусцяць дамоў, пакуль не вылечаць. Можа, маўчаць, нікому не прызнавацца? Але і не ехаць жа дамоў хворым? Тут хоць падлечаць, калі ў яго што сур'ёзнае.

Раніцай папрасіўся на прыём да ўрача, расказаў пра сваю бяду. Той, уткнуўшы нос у тоўсты сшытак з жоўтай паперы, у якім нешта запісваў, спытаў:

— Хутка дамоў?

— Праз тыдзень.

— Ясна,— з нечаканa добрай усмешкаю глянуў на Алесіча.— Ад страху ўсё гэта, ад страху. Каб раптам чаго не здарылася ў апошнія дні. Можа, так і не думаеце, але трывога ў душы жыве. Вы не першы ў мяне такі. А здароўе ў вас — пазайздросціць можна,— урач загарнуў сшытак, ляпнуў па ім далоняй, каб не тапырыўся.— Вось што, Алесіч. Вам нечага хвалявацца. Усё нармальна. Спіце спакойна. Ну, а калі не будзе спацца, то вось прыміце,— і ён дастаў з шуфлядкі стала шкляную прабірачку, выняў з яе дзве беленькія таблеткі.

Раздражнены на сябе, што з такой пусцяковінай пры-

бег да ўрача, Алесіч, выйшаўшы ў калідор, кінуў таблеткі ў куток калідора, дзе стаяла мятла з мокрай анучай на ёй. Не пасплю, маўляў, ноч-другую, потым засну...

І сапраўды, у наступную ноч, Алесіч як упаў на ложак, так і праспаў на адным баку да раніцы. Бяссонніцу як рукой зняло. Толькі напярэдадні выпіскі спалася трывожна. Хоць яму і аформілі ўсе дакументы, выплацілі грошы, якія зарабіў за два гады, але баяўся — раптам раніцай затрымаюць з-за якой дробязі. Ніхто не затрымаў. Нават галоўны ўрач, які пасля снедання запрасіў яго ў свой кабінет і які любіў паразважаць на развітанне, гаварыў мала. Павіншаваў з паспяховым заканчэннем лячэння, прызнаўся, што спачатку не верыў у такі вынік, бо занадта была запушчана хвароба, запэўніў, што калі Алесіч і далей будзе адносіцца да сваіх паводзін з такой жа адказнасцю, як тут, то ён, галоўны ўрач, гарантуе яму доўгае і прыгожае жыццё.

Мінуўшы прахадную, Алесіч спыніўся. Хоць і не раем быў прафілакторый, але прывык да людзей, да мясціны, і вось гэтая прывычка зараз і варухнулася ў сэрцы нечаканым сумам. Азірнуўся апошні раз на белую цагляную прахадную з маленькім у адну шыбку акенцам і пайшоў паўз высокую неахайна пафарбаваную — пісягамі — у зялёны колер высокую дашчаную агароджу, а потым — вузкай брукаванай вуліцай, сплюснутай агародчыкамі, у якіх густа, аж перавальваліся праз плот, буялі бэзы. На аўтобусным прыпынку было багата людзей. Алесіч не стаў чакаць аўтобуса, ледзь не подбегам скіраваў у цэнтр гарадка, дзе на шырокай плошчы стаяў амаль з аднаго шкла двухпавярховы універмаг.

Алесіч яшчэ раней угледзеў там шэры з чорнымі крапінкамі касцюм. Ён нават прымераў яго тады, упрошваў прадаўшчыцу прытрымаць яго, абяцаў абавязкова купіць у канцы месяца. Маладая дзяўчына сказала, што не мае права рабіць гэта, але запэўніла, што ў іх такіх касцюмаў яшчэ багата. Некалі Алесіч ішоў са сваёй Верай па вуліцы і яна паказала яму на мужчыну, высокага, з лысай галавой, які клыпаў наперадзе ў шэрым у чорную крапінку касцюме. «Які прыгожы касцюм,— сказала яна.— А ты пражывеш усё жыццё і не зносіш такога са сваім дзіравым ротам». Калі Алесіч убачыў ва універмазе якраз такі, то, вырашыў, што перад ад'ездам дамоў купіць яго, колькі б ён ні каштаваў. Хоць усе грошы, якія ён зарабіў.

У гэты ж дзень пад вечар з цягніка, які толькі паспеў

прыпыніцца, на перон саскочыў хударлявы чалавек у шэрым касцюме ў чорную крапінку, у белай кашулі, пад гальштукам. Ён нёс чорны з алюмініевым абадком дыпламат. І каб не да смуглявасці загарэлы твар, які бывае толькі ў людзей, што круглы год, улетку і ўзімку, робяць пад адкрытым небам, яго можна было б прыняць за якога сталічнага лектара ці маладога ўдачлівага вучонага. І пакуль з вагонаў вывальваліся абцяжараныя сумкамі і чамаданамі пасажыры, Алесіч, сігаючы праз дзве прыступкі, спусціўся ў падземны пераход і подбегам, абмінаючы стрэчных, выскачыў на прывакзальную плошчу, кінуўся да стаянкі таксі, дзе яшчэ не паспела сабрацца чарга. Адчыніўшы дзверцы, яшчэ не ўсеўшыся, назваў адрас. Вадзіцель зразумеў, што чалавек спяшаецца, газануў з месца, як кажуць, на ўсю катушку. Ля гастранома Алесіч папрасіў спыніцца. Вярнуўся з шэрай каробкай, перавязанай тоўстым жаўтаватым шпагатам, прабурчэў:

— Торта добрага не купіш, развучыліся рабіць, ці што...

— Густы ў людзей растуць хутчэй, чым магчымасці іх задаволіць,— нібы цытату, прачытаў вадзіцель, не глянуўшы на свайго пасажыра. Алесіч не адгукнуўся, напружана сачыў за дарогай, і як толькі машына спынілася ля знаёмага пад'езда, кінуў вадзіцелю пакамечаную траячку і, не развітаўшыся, выскачыў з машыны. Без перадыху ўзляцеў на чацвёрты паверх, спыніўся перад дзвярыма, прыслухаўся. Было ціха, толькі недзе вышэй бумкала піяніна. Ігралі, здаецца, тую ж самую мелодыю,— а больш дакладна, ніякай мелодыі,— па-вучнёўску няўмела, як і два гады таму. Моцна, ледзь не раструшчыў, тэрцнуў пальцам у чорную кропку. Ціха меладычна блямкнула. Значыцца, памяняла званок. Раней ён верашчаў на ўвесь пад'езд.

Ледзь чуйна шчоўкнуў замок.

— Гэта я! — з радаснай усхваляванасцю сказаў Алесіч, пераступіўшы парог.

Вера з натапыранымі ледзь не бясколернымі кудзеркамі на галаве,— валасы раней у яе былі, здаецца, русыя,— прыкметна памаладзелая, нечым ужо і незнаёмая, стаяла ў пярэдняй, скрыжаваўшы рукі на грудзях пад падбародкам, нібы хацела захіліць імі кідкі выраз у ружовым плацці, злякана і разгублена глядзела на мужа. А ён, не меней за яе разгублены, неяк бездапаможна шукаў ва-

чыма, куды б паставіць дыпламат і торт, каб вызваліць рукі і абняць жонку.

Нарэшце ён паставіў дыпламат на падлогу, а торт занёс на кухню, заўважыўшы там новыя стол і табурэткі, якіх раней не было, вярнуўся, узяў Веру за плечы, памкнуўся парывіста прыхінуць яе да сябе, але жонка ўпёрлася рукамі яму ў грудзі.

— Не пазнаеш, ці што? Гэта ж я... Ды ты што? Ці, можа, прымака тут прывяла? — і ён кінуў позірк на вешалку ў парозе, ці няма там і сапраўды якой мужчынскай адзежы.

— Пашукай, можа, каго і знойдзеш,— злавіла ягоны позірк.

— Пашукаю,— уздыхнуў Алесіч, адпусціў жанчыну, зайшоў у залу — не для таго, каб выглядзець некага там, а каб сабрацца з думкамі, вырашыць, што рабіць. Але ніякіх думак, ніякага рашэння не было. Бездапаможна азірнуўся. На стале ў шкляной вазачцы стаялі чырвоныя цюльпаны з паніклымі галоўкамі. У кутку — пісьмовы столік з невялічкай кніжнай паліцай над ім. На палічцы — кнігі. У старым абшарпаным буфеце, які яны купілі яшчэ адразу ж пасля жаніцьбы і які заўсёды стаяў парожнім, цяпер фанабэрыўся крыштальны графінчык з чародкай прысадзістых чарачак вакол. Праз прыадчыненыя дзверы ў спальню быў відаць ложак, засланы жоўтым у чырвоныя кветкі пакрывалам. Сцены ружавелі новымі абоямі, падлога зіхацела таксама новай фарбай.

— Та-а-к, выходзіць, не чакала? — Алесіч падумаў, яна такая ад таго, што з'явіўся, як той снег на галаву, без папярэджання.— Я ж пісаў.

— І я пісала.

— Даўно ж. Забыўся.

— Мог і запомніць. Пісала, каб не прыязджаў,— яна стаяла ў дзвярах і неяк вельмі ўжо насцярожана сачыла за кожным яго рухам. Ці не баіцца яна яго?

— Правільна,— засмяяўся ён, знайшоўшы раптам зачэпку для гаворкі.— Я зразумеў так, каб не прыязджаў такім, які быў. Я і прыехаў другім. Што было, таго не будзе. Мінулае там, за зялёнай агароджай. Назаўсёды. Дарэчы, дзякуй, што заканапаціла мяне туды. Правільна зрабіла. Прапаў бы. А так...

— Думаеш, касцюмчык нацягнуў, дык і змяніўся сам? — з іранічнай здзеклівасцю сказала яна.— Аднясеш у піўны бар і павесіш на цвічок...

— Я багата, Вера, думаў,— з крыўдаю ў голасе пачаў ён.— Вельмі багата. Багата зразумеў... Цяпер усё будзе як трэба. Убачыш.

— Наслухалася казак. І тады кляўся. Як праспішся, так і клянешся. А потым зноў спачатку. Не веру я табе,— і каб не пакінуць ніякай надзеі, дадала: — І ніколі не паверу. Ніколі! Чуеш?

— Дзе сын? — праглынуўшы даўкі камок, паныла спытаў Алесіч.

— У школе. Дзе ж яму быць? З ім не трэба сустракацца. Хлопец адвык, і нечага яго трывожыць.

— Можа, хопіць... жартаваць, Вера? — ён як праз туман, глядзеў на яе ногі, амаль схаваныя доўгім плаццем.

— Я не жартую,— з упартай рашучасцю стаяла на сваім, не заўважаючы ці не жадаючы заўважыць яго настрою.— Без цябе мне лепей. Чалавекам сябе адчула. Не пазычаю ў суседзяў капейку на хлеб. І адзелася трохі. І ў хаце... А то ж сорамна было на людзі выйсці. Хлопец галадранцам хадзіў. Горш за сірату якую. А купіш што, дык хавай, каб не ўкраў на гарэлку. Не, хопіць! Зведала шчасцейка з табой. Болей не хачу.

— Я ж кажу табе, Вера...

— Не трэба, Іван, хлусіць. Мне і сабе.

— Я ж кажу, што не такі.

— Ну калі не такі, а лепшы,— сказала яна так, як звычайна гавораць перад развітаннем з надакучыўшымі гасцямі, з ненатуральнаю вясёласцю і палёгкаю,— знойдзеш сабе якую... Хай яшчэ хто парадуецца такому шчасцю. Мне хопіць.

— Куды мне ісці?..

— У цябе іх нямала было. Можа, якая прызнае, калі не здохла пад плотам п'яная.

— У мяне нікога не было! — ледзь не крыкнуў Алесіч. Ён пачынаў страчваць уладу над сабой.

— Ідзі да якога алкашыка. Пажывеш, пакуль размяняем кватэру. Я адрамантавала яе, каб лягчэй было мяняць.

Некаторы час ён маўчаў. Адчуваў, што не хапае вытрымкі, каб спакойна гаварыць далей. Яго так і падмывала размалаціць усё ўшчэнт, разарваць і патаптаць нагамі яе бессаромнае ружовае плацце, якое яна адзела не для яго... Там, за зялёнай агароджай, усялякай уяўляў ён сустрэчу, толькі не такой... Не хацелася верыць і не мог па-

верыць, што ўсе яго мары, спадзяванні, надзеі праваліліся.

— Можа, падумаем, Вера? — спытаў, не падымаючы вачэй.

— Думала. Не адзін раз думала,— усё тым жа роўным і нейкім чужым голасам даводзіла сваё яна.— Я падала на развод.

— Усё? — з-пад ілба глянуў на жонку. Зараз яна ўяўлялася яму не толькі той, дзеля якой ён пераламаў сябе, узяў у рукі, да якой ляцеў як на крылах, а неадольнай перашкодай на шляху да таго жыцця, пра якое марыў. Алесіч адчуваў, што застаніся ён хоць на мінуту, не стрымаецца, наробіць бяды.

— Усё! — яна, не зводзячы ▪ яго насцярожаных вачэй, адступілася да дзвярэй.

Ён прайшоў паўз яе, спыніўся ў парозе, глянуў на жонку, нібы сапраўды не верыў, што яна сказала ўсё.

— Вось што,— ён паказаў вачыма на дыпламат.— Чамаданчык аддасі сыну. Там і табе падарунак... Можа, калі ўспомніш. Кватэру мяняць не будзем. Я не такі злыдзень. Жыві...

Алесіч збег па прыступках, ля пад'езда спыніўся. Стаяў, думаючы, што, можа, апомніцца яна, кінецца следам. Потым, адышоўшыся, азірнуўся на балкон. Там на шнуры сіратліва выбельваўся адзін ручнік.

Куды ж ісці? Можа, заглянуць у школу? Пабачыцца з сынам? Можа, ён абрадуецца яму, захоча, каб бацька вярнуўся дамоў, паўплывае на маці? А калі раптам і сын адмовіцца ад яго? Тады хоць не жыві на свеце...

Алесіч дайшоў да жалезнай агароджы, якой быў абнесены школьны двор. За зараснікамі густой акацыі бязладна гучалі дзіцячыя галасы,— быў, відаць, якраз перапынак,— заглянуць у двор не адважыўся. Пасунуўся па тратуары далей. Да каго ж кінуцца? Дзе прытуліцца хоць ненадоўга? Недзе ж у горадзе жывуць і працуюць яго аднавяскоўцы Скачкоў і Кірылаў. Можа, зайсці да каго з іх? Успомнілася, як некалі запрасіў да сябе Кірылава, спадзяваўся, што той сумее памірыць яго з жонкай. Думалася, журналіст, разумны чалавек, павінен ведаць, што да чаго. Ды і Вера, пабачыўшы, з кім ён водзіцца, якія людзі з ім сябруюць, болей паважаць яго стане. Кірылаў прыйшоў, пасядзеў, выпіў пляшку гарэлкі, парасказваў анекдоты і развітаўся. А Скачкоў і зусім апанеў. Заходзіў Алесіч да яго, каб памог уладкавацца на працу. Ён нават не даслу-

хаў да канца. Сказаў, што не можа. А па ім відаць было, што гаворыць няпраўду,— баяўся сустрэцца позіркам, рабіў выгляд, што заняты надта, корпаўся ў нейкіх паперах. Не, за дапамогай лепей звяртацца да чужых людзей. Тыя хутчэй паверацъ табе, хутчэй паспачуваюць. А свае ўсё ведаюць пра цябе. Ды і за сябе трымцяць...

Тратуары прыкметна поўніліся людзьмі. Пабольшала іх на аўтобусных прыпынках. Тоўпіліся ў магазінах. Рабочы дзень скончыўся, усе спяшаліся дамоў. Столькі навокал людзей, а ён зусім чужы сярод іх, нікому не патрэбны. Нават няма да каго папрасіцца нанач. Пачаў перабіраць у памяці сваіх знаёмых. Успаміналіся толькі тыя, з кім апошнім часам піў, сабутэльнікі. Да іх не папросішся. Невядома яшчэ, якія ў іх адносіны з жонкамі. Хутчэй за ўсё, не самыя лепшыя.

Алесіч не заўважыў, як апынуўся на рагу вуліцы, дзе ля гастранома быў піўны бар,— утульнае памяшканне з вузкімі прыцемненымі вокнамі, з доўгімі дубовымі сталамі. Сцены абшаляваны вагонкай. Алесіч заўсёды заходзіў сюды са сваімі таварышамі. Пачыналі з піва, а потым пасылалі каго ў гастраном за падмацаваннем.

Ён даў сабе слова і блізка не падыходзіць да гэтых бараў. Але цяпер не было ніякага сэнсу трымацца яго, тым больш што ў бары ён, можа, сустрэне каго-небудзь са сваіх былых знаёмых.

Нягледзячы на адчыненыя насцеж дзверы, у памяшканні было накурана. Дым сінім воблакам вісеў пад столлю. Мокрыя сталы былі застаўлены заплямленымі парожнімі келіхамі. Вакол сталоў ляпіліся мужчыны няпэўнага ўзросту з няголенымі тварамі, з бледнымі залысінамі. Паветра гуло ад бязладнай гаворкі. Алесіч узяў келіх піва і прымасціўся ля стала ў самым кутку, каб лепей сачыць за ўсімі, хто заходзіў у бар.

— Прывітанне, дзед! — нечакана вырас побач, нібы вылез з-пад стала, Карасік, невысокі, каржакаваты, з чырвоным тварам, з густой шапкай сівых валасоў на вузкай галаве. Ён паставіў на стол два келіхі піва з пеністымі шапкамі, падаў Алесічу шурпатую ад застарэлых мазалёў далонь.— Вярнуўся, значыцца? Я заўсёды гаварыў, што зямля круглая. Адкуль пойдзеш, туды і прыйдзеш. Не ўсе толькі хочуць гэта разумець... Ты, брацец, хоць і вярнуўся на кругі своя, але — фраер, фраер. Па тэлевізары можна паказваць.

Як і помніў Алесіч Карасіка, той заўсёды быў аднолъ-

кавым, не мяняўся. Нават знешне. Заўсёды насіў адну і тую ж сінюю куртку з абвіслымі нашыўнымі кішэнямі на полах знізу. Ён у суседнім гастраноме прымаў ад насельніцтва шклатару і пасля работы штодня заглядваў у бар, выпіваў свае, як ён казаў, законныя два келіхі з «прыцэпам» — чацвярцінку гарэлкі, якую ён прыносіў з сабой,— і ішоў дамоў. Алесіч ніколі не бачыў яго п'яным, як ніколі не бачыў і зусім цвярозым. Карасік сцвярджаў, што алкаголікамі становяцца толькі нервовыя інтэлігенты, а не рабацягі. Бо ў рабацягі, колькі б ён ні выпіў, усё перагарыць,— няма на свеце яшчэ таго пітва, з якім бы не справіўся страўнік рабочага чалавека.

Карасік дастаў з глыбокай адтапыранай кішэні чацвярцінку, палову адліў у свой келіх, палову, не спытаўшыся,— у келіх Алесіча.

— Не трэба, я ж...— запознена запярэчыў той.

— За вяртанне! — Карасік тыцнуў сваім келіхам у Алесічаў келіх, выпіў без перадыху.

Алесіч думаў зрабіць толькі адзін глыток дзеля прыліку, а глынуўшы раз, глынуў яшчэ і яшчэ. Выжлукціў усё да дна. Пад грудзямі пацяжэла, па ўсяму целу расцяклася лагодная цеплыня. У галаве павяло, затуманілася, нібы крутануўся на пяце.

— Жыццё набывае фарбы,— неяк вінавата ўсміхнуўся Алесіч, дастаў з кішэні траячку, якая засталася ад яго пакупак.— Слухай, друг. Шмаргані ў магазін. Мне неададуць, сем гадзін ужо, а цябе ведаюць.

— А можа, не трэба? — Карасік дапытліва глянуў з глыбокіх шчылін сытага твару вострымі вочкамі на Алесіча.

— Трэба. За сустрэчу,— засмучана прызнаўся.— Болей няма. Патраціўся.— І заўважыўшы нерашучасць Карасіка, спытаў: — Можа, няма дабавіць? То прабач...

— Няма,— з іранічнаю ўсмешкаю на тонкіх пасінелых вуснах сказаў Карасік, пакруціў галавой, якая, здавалася, ляпілася адразу на плячах, без шыі.— Запомні, у мяне заўсёды ёсць.

Пакуль Карасік бегаў у гастраном, Алесіч яшчэ палахаў у кішэнях, назбіраў дробязі аж на два келіхі. Грошай няма, і дробязь — не грошы. Ды калі б іх было і болей, ён зараз не пашкадаваў бы ўсіх. Ён не думаў, за што будзе жыць не толькі заўтра, нават не думаў, што будзе рабіць, куды пойдзе праз якія дзве гадзіны, калі зачыніцца бар. Увесь сэнс жыцця зараз звузіўся да гэтага брудна-чорнага

стала, засмечанага калючымі рыбнымі хрыбетнікамі. Яму хацелася напіцца і ні пра што не думаць. Хай будзе хоць трохі ачмуранай радасці, абы не вяртацца да цвярозага жыцця, дзе яму, аказваецца, няма месца...

— Я гаварыў і гавару,— яшчэ на падыходзе да стала пачаў Карасік,— ад гэтай заразы няма ніякіх лекаў. Гэта не хвароба. Гэта жыццё. Нельга лячыцца ад жыцця. Усё жыццё ідзе па правілах. Кожны чалавек павінен жыць па гэтых правілах. Не хочаш жыць па тых правілах, па якіх жывуць усе, прыдумай свае, абы яны не супярэчылі агульным. І жыві сабе. Мае правілы. Першае. Зарплату аддай жонцы. Каб ніякіх прэтэнзій. На выпіўку зарабі, калі хочаш выпіць. У наш час гэта не праблема. Толькі не спі ў шапку. Той не мужык, што зарплату прапівае. Другое правіла. Паважай сябе. Не напівайся так, каб цябе прыводзілі, а яшчэ горш, прывозілі. Сапраўдны мужчына павінен ісці дамоў на сваіх двaіх. За сцены не чапляцца, слупы не абдымаць. Слупы без нас стаяць будуць, хе-хе... Трэцяе правіла. Трэба ведаць сваю норму, ведаць так, як ведаеш памер сваіх штаноў. Што будзе, калі купіш вялікія ці цесныя штаны?.. Вось так. Нават гэтых правіл хопіць, каб быць перадавым чалавекам, прыкладным сем'янінам... Ну, паехалі! — Карасік адпіў крыху, паставіў келіх.— Нікому не вер, што гэта шкодна для здароўя. Ты паглядзі, хто цяпер здае бутэлькі. Жанчыны. І не толькі ад малака. Значыцца, яны, як і мы. Цяпер усе п'юць. І не меней. Пра гэта сведчыць і навука. Я чытаў брашурку. Тая ж навука гаворыць, што людзі цяпер жывуць болей. Заўважаеш сувязь? Канешне, мая жонка грозіцца, што адправіць мяне лячыцца. Я ведаю, не сама прыдумала. Дактароў наслухалася. Па радыё, тэлевізары. Ты ведаеш, чаму дактары крычаць пра лячэнне, хоць самі не меней за нас п'юць? Багата дактароў развялося, без работы сумна. Вось і шукаюць хваробы ў людзей. Яшчэ ніколі столькі хвароб не было. Чаму? Людзі сталі горш жыць? Не. Навука гаворыць, што людзі цяпер лепей жывуць. Кватэры лепшыя. Санвузлы цёплыя. Харч каларыйны. Адзенне ёсць. А хвароб болей. Ясна, выдумалі дактары. А выпіўка ніколі хваробай не была. Людзі не дурныя, ведалі, што жыццё на зямлі цяжкае. Вось і прыдумалі гарэліцу сабе на радасць. Гэта не хвароба. Гэта настрой, радасць,— і ён ласкава пагладзіў келіх кароткапалай далоняй.— Навошта ж ад гэтага лячыцца?

— Я вылечыўся. Добра вылечыўся. Зусім,— гаварыў

Алесіч неяк замаруджана, бо язык яго крыху заплятаўся.— Я хацеў вылечыцца. Я вельмі вінаваты перад сям'ёй. Вельмі! Ведаеш, дайшло да таго, што не было за што купіць школьную форму сыну, калі той ішоў у першы клас. Ну, мая і не вытрымала, заканапаціла мяне. Не будзем пра тое, як мне было там. Колькі разоў і як я судзіў сябе! Думаў, вярнуся чалавекам дамоў. На крылах ляцеў. Купіў усё новае, пайшоў на рэчку, пакупаўся, старое спаліў. Каб нічога не засталося ад таго жыцця. Вось так... А яна не пусціла. Не паверыла. А можа, каго завяла. Не ведаю. Адным словам, ад варот паварот. Меў жонку, сына, хату, заўтрашні дзень... І раптам нічога. Разумееш? Нічога! Ніколі не думаў, што пападу ў такую пастку...

Алесіч дапіў келіх, штурхануў яго далей ад сябе так, што парожнія келіхі ледзь не пасыпаліся на падлогу, але іх затрымаў рукою Карасік. Ён больш за ўсё баяўся ўліпнуць у якую п'яную гісторыю. І цяпер, узяўшы за руку Алесіча, каб той асабліва не размахваў ёй, загаварыў з клапатлівай ласкавасцю:

— Канешне, хрэнова. Але не так ужо хрэнова, як думаеш. Ты не ў дзікім лесе. Сярод людзей, жывых людзей. Не звяры... Ты неяк хваліўся, што ў цябе ў вёсцы маці. Хата, сад... Табе ж ёсць дзе падлячыць свае абкусаныя бакі. Вёсцы толькі дай людзей. Гуляць не будзеш. З тваімі спецыяльнасцямі цябе ўсюды з рукамі і нагамі. Не спадабаецца, вернешся. Канешне, калі адразу на галаву такое, то хрэнова. Але нічога, пройдзе. Усё праходзіць. Ну, дык за светлую, як кажуць, будучыню!..

Да другога келіха Алесіч не дакрануўся.

— Слухай,— пачаў ён неяк ціха і лісліва, відаць, нялёгка было яму сказаць тое, што намерыўся.— Можа, пераначую ў цябе? А раніцай разжывуся грошай, даеду да маці,— ён паспрабаваў усміхнуцца, але ўсмешкі не атрымалася, а выйшла нешта падобнае на грымасу ад нечаканага болю.— Усё прасіла, каб прыехаў з унукам. Абрадую...— і ён ніжэй апусціў галаву, каб схаваць ад Карасіка свае вочы.

— Дзівак! Навошта заўтра? — Карасік падняў руку, задраў рукаў, глянуў на залаты гадзіннік на шырокім залатым бранзалеце.— Можа, і сёння. Поезд на Гомель ёсць. Час таксама ёсць. А галоўнае, грошы ёсць. Думаеш, пікла-тара толькі тара? Яна і нета. Так што ў мяне заўсёды ёсць манета... І ніякіх праблем. Мая баба, ведаеш, які звер.

Бывае, так нас сустрэне... Так што давай дап'ём і на вакзал.

На вакзале Карасік купіў Алесічу білет, талон на пасцелю, у буфеце ўзяў некалькі бутэлек піва і, запіхваючы іх у кішэні Алесіча, стаўшага раптам абыякавым да ўсяго, прыгаворваў:

— Бяры, бяры. Захочацца смагу прагнаць...

Ля вагона Карасік дастаў свой пацёрты пульхны бумажнік, доўга капаўся ў яго шматлікіх закутках, выцягнуў дзесятку, сунуў у нагрудную кішэньку пінжака Алесічу.

— Каб не прасіў у маці на пахмелку, хе-хе,— потым, падпіхваючы Алесіча да дзвярэй вагона, засвяціўшыся сваім масляністым тварам, сказаў правадніцы: — Ты, зямлячка, разбудзі яго, каб не праспаў станцыю...— і ўзяўшыся за плечы Алесіча, прыхінуў да сябе, выцягваючыся на дыбачках, каб дастаць пацалаваць сябра.— Ну, бывай, друг!

Алесіч пад націскам учэпістых рук крыху нахіліўся, чмокнуў губамі і ў цёплае і салёна-ліпкае, потым, узяўшыся за поручні, плюнуў пад прыступкі на рэйкі, падняўся ў вагон. Бутэлькі паставіў на столік у купэ, распрануў пінжак, павесіў яго на кручок, лёг на лаўку, падклаўшы рукі пад галаву, і адразу ж, як праваліўся ў бездань, заснуў...

## 3

Дарашэвіч падняўся, але не кінуўся насустрач, расставіўшы рукі для абдымкаў, як гэта рабіў заўсёды, калі Скачкоў прыязджаў раней сюды ў камандзіроўку, а стаяў за сталом з нерухомаю ветліваю ўсмешкаю на твары, чакаючы, пакуль госць сам падыдзе да яго. Скачкоў добра ведаў гэтыя стандартныя ўсмешкі, якімі маскіравалася абыякавасць, а то і варожасць, і якія часам зводзяць у зман нявопытных і наіўных. Не пачуўшы яшчэ ніводнага слова ад Дарашэвіча, Скачкоў ужо ведаў, што той сустракае яго без усялякай радасці, больш таго, з непрыязнасцю.

— Прыехаў да вас у якасці...— пачаў Скачкоў, пацісйуўшы пульхную, як жаночую, руку генеральнаму дырэктару вытворчага аб'яднання.

— Ведаю, ведаю,— усё з той жа ўсмешкаю сказаў Дарашэвіч.— Прашу садзіцца,— і, не чакаючы, пакуль Скач-

коў апусціцца ў цяжкое і нізкае крэсла ля папярочнага стала, усеўся сам і, адваліўшыся на спінку, разміналочы пукаты жывоцік растапыранымі пальцамі, на гэты раз шчыра рагатнуў.— Хе-хе... Значыцца, вырашылі прамяняць сталіцу на Зуеў. Прызнацца, я не верыў. І зараз, калі вы ў маім кабінеце з накіраваннем, таксама не веру.— Ён задумаўся. Іранічная ўсмешка не зыходзіла з круглага твару.— Помню, мы са сваім суседам па кватэры паехалі лавіць рыбу на Бесядзь. Закінулі донкі. За ноч ні адна не ўзялася. Раніцу прасядзелі з вудамі, таксама нічога. Няёмка вяртацца дамоў пустымі. Сусед кажа: будзем лавіць ракаў. А як? Няма ж нічога. Ні сеткі, ні падсакі. Рукамі, кажа. І нырнуў пад высокі абрыў. Вынырнуў, у кожнай руцэ па вялікаму чорнаму раку. Ён іх рукой з нор даставаў. Мне паказаў, як рабіць. Да абеда паўмяшка нацягалі. Але я не пра гэта. Сабраліся там з вёскі на беразе, глядзяць, як мы ракаў цягаем. Дзівяцца. Адзін стары і кажа:

— Бач, паны. Наеліся мяса, дык жукоў захацелася. Хе-хе...

— Я, Віталій Антонавіч, не дзеля экзотыкі прыехаў, працаваць...

— Я не пра вас. Проста ўспомнілася нечага,— і генеральны загаварыў пра вытворчасць.— Мы ўсе тут вельмі задаволены, што іменна вы прыехалі да нас. Зараз, як ніколі, нам трэба работнік іменна такога маштабу, як вы. Зуеўскае ўпраўленне асноўнае ў аб'яднанні. Яно здабывае нафту. Па яго рабоце мяркуюць аб усім аб'яднанні. А зараз там адбываецца нешта незразумелае. Пачалося ўсё літаральна з таго дня, як Балыша забралі ў міністэрства. Пры ім упраўленне давала фактычна два планы. А зараз і аднаго няма. Толькі і займаемся гэтай праблемай. Я па тыдню сяджу там. Самае цікавае, што вінаватых няма. Аб'ектыўныя прычыны. План прыросту запасаў геолагамі не выконваецца. Пластавы ціск упаў. Нізкі дэбет. Воданагнятальных свідравін не хапае. Увод новых сістэматычна зрываецца з-за адсутнасці абсталявання. Часам няма нават самых прымітыўных балтоў. Мясцовы метызны завод заказы нафтавікоў выконвае абы-як. У яго свой план. Багата недакладнасцей у прагнозах геолагаў. Бурым, бурым, а там нафты няма. Аварыйнасць звыш усялякай нормы. Свідравіны часта выходзяць са строю. Не ўсе свідравіны працуюць. Амаль усе яны патрабуюць капітальнага рамонту. Рамонт зацягваецца. Рамонтная ба-

за вельмі слабая. Наогул, я мог бы нагаварыць вам багата чаго, але ўбачыце самі. Адным словам, ваш папярэднік выціснуў з нафтапромыслу ўсё, што мог, атрымаў павышэнне па службе, так сказаць, зрабіў кар'еру. Нам пакінуў даведзенае да ручкі ўпраўленне. Цяпер сядзіць у міністэрскім кабінеце і крычыць па тэлефоне, што мы тут развучыліся працаваць,— гаварыў Дарашэвіч, абураючыся і нібы скардзячыся адначасова.— Хоць мы ўсе тыя ж, не змяніліся. Работнікі добрыя, вопытныя. А што за людзі, самі ўбачыце. Гэта, ведаеце, не заўсёды супадае,— добры спецыяліст і добры чалавек. Галоўны геолаг там, мне здаецца, вельмі разважлівы чалавек. Умее думаць. Працько яго прозвішча. Станоўчы чалавек. Спецыяліст добры. Нядрэнны спецыяліст галоўны інжынер Бурдзей. Вопытны работнік, хоць і малады яшчэ, начальнік тэхналагічнага аддзела Кацянок. Як пра чалавека пра яго нічога не магу сказаць. Ведаю, што сябраваў з былым начальнікам упраўлення Балышом. І ўсё. Думаецца, вам няпроста будзе заваяваць там аўтарытэт. А як вам удасца палепшыць справы там, прызнацца, не ўяўляю...

Скачкоў лічыў, што Дарашэвіч яўна перабольшвае пра непаладкі ва ўпраўленні. Але няхай ён перабольшыў нават у некалькі разоў, то і тады становішча там, відаць, не з лепшых. Скачкоў ведаў, што ўпраўленне з выкананнем плана пачало істотна адставаць, але думаў, што гэта з-за адсутнасці начальніка. Вось ён, Скачкоў, прыедзе, паднаціснe, і ўсё нармалізуецца. А там, аказваецца, не ўсё так проста. А можа, і не так складана? Можа, генеральны знарок яго лякае? Хоча, каб ён, Скачкоў, адмовіўся. Хіба не ведае, што адмаўляцца позна? Ва ўсялякім разе, слухаць Дарашэвіча яму болей не хацелася, і Скачкоў, не хаваючыся, глянуў на гадзіннік.

— Не церпіцца на нафтапромысел? — з ледзь улоўным здзекам спытаў Дарашэвіч.— Не хвалюйцеся, я дам вам машыну.

— Не,— падняўся Скачкоў.— Хачу з'ездзіць да маці. Хутка аўтобус...

— Дам машыну і да маці,— адчувалася, што Дарашэвіч, акрамя ўсяго, усяляк хоча паказаць, што тут ён гаспадар і Скачкоў цяпер поўнасцю залежыць ад яго. Прыгажэй, вядома, было б не прыняць гэтую міласць, але ці варта звяртаць увагу на настрой начальніка, калі на машыне можна хутчэй дабрацца да свае вёскі, а па дарозе заглянуць яшчэ і да бацькі.

Выгінастай стужкай шаша рэзала ўзгоркі, крутыя схілы якіх паўз дарогу ўзяліся густой шчоткай травы і цяпер жаўцелі люцікамі, сярод якіх пападаліся купкі ружовых смалянак. Праплывалі маладыя, прапахлыя жывіцай сасоннікі, абветраныя бярозавыя гайкі, груваасткія прысадзістыя забудовы калгасных ферм, угрэлыя сонцам палі. За разлінаваным на зялёныя шнурочкі бульбянішчам, за трапяткімі аўсамі, за скошанымі ярка-зялёнымі лугамі бясконца цягнуліся лясы, цямнеючы сасновымі барамі, перасыпанымі далікатнай зелянінай рэдкіх бяроз. Ад шашы ў бакі разбягаліся ледзь прыкметныя палявыя дарогі, з вадою ў каляінах пад навіссю сакавітай травы, абяцаючы кожнаму, хто скіруе на іх, сустрэчу з сунічнымі палянкамі, з баравічкамі-каласавікамі, што пахаваліся ў мяккіх парыжэлых імхах.

Звычайна, калі Скачкоў ехаў да маці на машыне, ён заўсёды прагна прыглядаўся да такіх знаёмых і кожны раз у нечым абноўленых краявідаў. Цяпер ён таксама глядзеў перад сабой, але нічога не заўважаў, не бачыў: з галавы не выходзіла гаворка з генеральным дырэктарам. Прызнацца, ён нічога новага не пачуў. Усё гэта ведаў з розных даведак, справаздач. Але раней усе праблемы, цяжкасці нафтаздабытчыкаў уяўляліся абстрактна, не хвалявалі. Закрываючы дзверы рабочага кабінета, ён пакідаў там і праблемы, забываў пра іх, не думаў. А цяпер жа самому прыйдзецца выконваць план, выбіваць кватэры, шукаць запчасткі, рамантаваць свідравіны... Ён фізічна адчуваў тую клапатлівую адказнасць, якую збіраўся ўзваліць на свае плечы. Пасля гутаркі з Дарашэвічам, ён разгубіўся настолькі, што забыўся пазваніць жонцы, як абяцаў. Успомніў пра гэта, мінуўшы мост праз Сож, убачыўшы ля маста чырвоныя тэлефонныя будкі. Вяртацца ў горад не стаў. Хоць лепей зараз не званіць. Яна адразу ж здагадаецца пра яго настрой і, вядома, не паспачувае, а яшчэ ўпікне: маўляў, гаварыла, што задумаў глупства, дык не паслухаўся.

Машына ўзляцела на ўзлобак, і адразу ж наперадзе, крыху ва ўпадзіне, паказаліся старыя бярозы, ля іх — сасна, каржакаватая, з верхавінай, расколатай маланкай. З аднаго боку дрэва высахла. Зжаўцелую ігліцу абцерушыў вецер, агаліўшы пакручастае голле. Другая ж палова дрэва кучаравілася густой зелянінай.

Адразу ж перад гэтымі дрэвамі ад шашы адыходзіла дарога ўправа, перасякала невялічкі гаёк і кіравала да

недалёкай буравой вышкі, што толькі напалову ўзнесла свае карункі ў сіняе неба.

Калі гэтая дарога мільганула перад вачыма невялічкай калюжынай адразу ж ля шашы, унізе, Скачкоў спахапіўся:

— Назад, калі ласка!

Машына пранізліва запішчала тармазамі, падалася назад, збочыла, кульнулася ўніз, расплёскаўшы ваду ў калюжыне, закалыхалася па пабітай цяжкімі самазваламі дарозе. Мінуўшы гаёк, вадзіцель быў скіраваў да буравой, вакол якой ляжалі гурбы жоўтага пяску, штабелі доўгіх труб. Скачкоў даў знак спыніцца і, выйшаўшы з машыны, наўспрамкі рушыў па высокай траве, у глыбінях якой трымалася яшчэ ранішняя раса, да зараснікаў арэшніку.

Калі расхінуліся кусты, адкрылася невялічкая палянка з нізкарослым дубам. Пад пакрыццём яго выгоністага голля стаялі помнікі з шэрага бетону. Сярод іх, у цэнтры, мармуровы абеліск. Пад кругленькім шкельцам, умураваным у камень, здымак маладога ўсмешлівага хлопца ў кубанцы, перавязанай спераду лентай, набакір. Пад здымкам залатыя літары: «Камандзір партызанскай брыгады «Палессе» Міхаіл Пятровіч Скачкоў». Магілы былі абнесены нізенькім штыкетнікам, на якім, як стомленыя птушачкі, віселі злінялыя піянерскія гальштукі. Перашэптвалася на дубе лісце, недзе блізка стракацела спуджаная сарока.

Яшчэ вясной Скачкову пазваніў Працько, галоўны геолаг упраўлення, сказаў, што плануюць забурыць свідравіну недалёка ад гайка, у якім магілы партызан і яго бацькі, і спытаў, ці не будзе ён супраць. Скачкоў адказаў, што не будзе, маўляў, хай паслухае стары, што робіцца на яго роднай зямлі.

Скачкоў стаяў, абапёршыся рукамі на штыкетнік, углядаўся ў малады твар бацькі, якога ён памятаў вельмі цьмяна, больш ведаў па фотаздымках. Дарэмна ён тады ў размове з галоўным геолагам назваў яго старым. Бацька на фотаздымку быў, можа, удвая маладзейшы за яго, сына, які паспеў ужо аблысець і ссівець.

І кожны раз, калі Скачкоў углядаўся ў вясёлы твар бацькі, у яго светлыя незасмучаныя вочы, заўсёды думаў, адкуль у яго, удвая маладзейшага за сына, столькі яснасці, непахіснасці ў паглядзе? Была ж вайна, лілася кроў, а салдаты, партызаны, змагары за вызваленне роднай зямлі ад фашысцкай нечысці ўмелі смяяцца. І яшчэ

як! Бо не ведалі сумненняў, верылі, што будучыня на зямлі будзе светлай для ўсяго чалавецтва.

Нeяк яны заязджалі сюды разам з жонкай. Ала Пятроўна сказала яму: «Хоць бы раз у жыцці засмяяўся так...»

Скачкоў з дзяцінства зайздросціў узнёслай усмешцы бацькі, хацеў, каб і ў яго была такая. Нават раней, калі быў малады, часам трэніраваўся перад люстэркам, хацеў дабіцца падабенства свае ўсмешкі на бацькаву. Цяпер ён заўсёды чырванеў, успамінаючы тыя наіўныя практыкаванні.

Ля помніка бацькі яму заўсёды думалася пра значнае. Знікала драбяза. З'яўлялася засяроджанасць, а з ёю супакоенасць і ўпэўненасць у сабе. Гэты настрой для Скачкова быў паратункам ад турботнай паўсядзённасці. І зараз, як і кожны раз, яму хацелася надалей захаваць гэты стан.

Развітаўшыся з вадзіцелем перад вёскай, ён нетаропка скіраваў па загараддзю да матчынай хаты, якую здалёк пазнаў па густому вішанніку пад счарнелым шчыкетнікам у канцы саду.

На градах, паміж зрэджаных яблынь, буяла агародніна. Зялёнай шчоткай узнімалася цыбуля. Сярод яе часта вытыркаліся з белымі дзюбкамі-пікамі стрэлкі. У далёкім дзяцінстве Скачкоў вельмі любіў ласавацца імі. Аблупіш яе, хрумстаеш крамяную трубку, а яна пырскае з сярэдзіны ахаладжаным прыемна гаркаватым сокам. Раскінуўшы шурпатае лісце, драмалі сланечнікі. Пад яблынямі расла цімафееўка ўперамешку з яжой. Ля варот у двор траву выкасілі. Відаць, маці падкармлівае карову, каб спакайней стаяла ў час дойкі.

Двор чыста падмецены. Не валялася ніводнай звялай травінкі, ніводнай трэсачкі.

Скачкоў зайшоў у хату.

У хаце таксама была ўзорная чысціня. У парозе ляжала ануча, чыстая, нібы яе толькі паклалі тут. Чыгункі, гаршкі не стаялі ля печы. Падлога такая жоўценькая, што відаць кожны сучок. Стаяў пах свежай калодзежнай вады. У светлай хаце падлога заслана яшчэ даўнімі даматканымі дарожкамі. Шыбкі ў вокнах былі такія чыстыя, як і няма іх.

Скачкоў не пайшоў у хату, збаяўся наслядзіць. Паставіўшы саквояж у парозе, выйшаў у двор, праз круглую касаватую шчылінку ад сучка ў веснічках глянуў на

вуліцу. Думаў, маці сядзіць ля двара на лавачцы. Але яе там не было. Пад лавачкай у пяску купаліся куры. Ён вярнуўся, прысеў на ганак, прыхінуўшыся спіною да нагрэтых сонцам дзвярэй.

Сядзеў і сачыў, як раз-пораз шмыгаюць над варотамі ў хлеў вастракрылыя ластаўкі. Раптам бразнула клямка.

Скачкоў падхапіўся насустрач маці.

— Я сяджу ля Параскі, аж ідзе Акуліна і кажа, агародамі ж твой Валерык пайшоў,— павітаўшыся, расказвала яна.— Я не паверыла. Заўсёды ж на машыне... Але, думаю, пайду гляну, можа, і праўда. Аж яно праўда. Адзін?

— Заскочыў па дарозе.

У хаце Хоўра дастала з-пад печча «казу», паставіла на прыпечак, адсунуўшы ўбок белую паркалёвую занавесачку, пачала масціць пад «казой» смалістыя лучынкі.

— Яешаньку зараз. Абеду няма,— шкадавала старая.— Адна дык якога крупніку сабе трохі звару, і ўсё. Каб знаццё, што заедзеш, а то... Хоць напісаў бы...

Скачкоў, усеўшыся на хісткі ўслон, што заўсёды стаяў за сталом, глядзеў на маці, схуднелую, памізарнелую. І калі тая трымала лучынку ў руцэ, раздумваючы, як лепей яе пакласці пад «казу», рука прыкметна калацілася. Ён упершыню, можа, падумаў, што нялёгка тут маці адной жыць, нялёгка трымаць гаспадарку, ды яшчэ так пільна сачыць за чысцінёй. Адкуль толькі сілы бяруцца?

Яму захацелася хоць чым абрадаваць маці. Ён сказаў:

— Нічога, цяпер часцей буду бываць у цябе. У Зуеў прызначылі начальнікам упраўлення...

— За што ж цябе, сын? — насцярожылася Хоўра.

— Сам захацеў.

— Мо скарацілі? — не верыла яна.— Хай бы там далі работу, а то ў Зуеў...

— Я сам, мама,— усміхнуўся яе недаверу Скачкоў.— Захацелася бліжэй да цябе. А то...

— Я пакуль што слава богу,— як упікнула сына. Відаць, не верыла, што ён па сваёй ахвоце пераязджае.— Пакуль трохі здароўя ёсць, дык нічога. Можна і адной. Цяжка стане, прыеду да вас.

— Да бацькі заязджаў,— перамяніў гаворку Скачкоў, засмучаны, што маці нікольки не ўзрадавалася яго пераезду.

— Я вясной была,— уздыхнула Хоўра.— Вазілі. Прыехалі піянеры, паехалі, кажуць, раскажыце нам пра Мі-

хаіла Пятровіча. Паехала. А мне і расказваць няма чаго. Колькі мы там пажылі да вайны? Сфатаграфіравалі. Абяцалі здымкі прыслаць, ды не шлюць нешта,— і зноў пацікавілася: — Можа, заробак тут большы?

— Вядома,— упэўнена сказаў Скачкоў, хоць пра заробак нічога не ведаў, не пацікавіўся.— Удвая.

Хоўра, здавалася, не пачула адказу сына ці зрабіла выгляд, што яе асабліва не цікавіў яго адказ, падпаліла лучынкі, паставіла скавараду на «казу», выбегла ў камору па яйкі.

Хваляванні апошніх дзён, абрывісты сон у купэ вагона якраз над грукатлівымі коламі далі сябе адчуць адразу ж пасля абеду. Скачкова пацягнула на сон. А можа, прычынай была нязвыклая цішыня, утульнасць матчынай хаты, раптоўная адлучанасць ад усіх сваіх турбот, якія заўсёды пакідалі яго тут, у вёсцы. Ён прылёг на ложак у светлай палавіне хаты. Маці зашмаргнула паркалёвую занавеску, каб сыну спакайней адпачывалася. Ён заснуў хутка. І відаць, доўга спаў бы, можа, і ночы прыхапіў, каб непрыглушаныя галасы за дзвярыма. Прачнуўся, глянуў на гадзіннік. Было ля шасці гадзін вечара. Падняўся, сеў на ложку. Ва ўсім целе трымалася млявасць, а ў галаве — нейкая тлумнасць. Можа, выйсці, абадзёрыцца на свежым паветры? Узмахнуў занавескай. Яна, скрыгануўшы жалезнымі кольцамі па напятым дроце, адляцела да самай сцяны.

— Ты не спіш? — заглянула ў пакой маці.— Мы тут з Параскай шэпчамся, баімся, каб цябе не патрывожыць. А мо ненарокам разбудзілі?

— Не, мама. Сам прачнуўся,— ён намацаў нагамі чаравікі, сунуў у іх ногі. Добра, што чаравікі на гумцы, не трэба нагінацца, завязваць шнуркі.

— Гэта ж, сын, Параска да цябе,— і маці, азірнуўшыся, паклікала: — Заходзь, Парасачка, заходзь!

— Добры вечар вам,— спыніўшыся ў дзвярах, Параска стаяла сіратліва разгубленая, не ведаючы, што рабіць далей. Яна была ў злінялай чорнай кофце, у доўгай чорнай спадніцы, у вялікіх, ці не мужчынскіх, чаравіках без шнуркоў. На галаве абапнута таксама цёмная хустка. І твар у яе быў такі ж, як і хустка,— зямліста-шэры, бляклы. А вочы як вылінялыя, слязліва блішчэлі, паглядваючы на свет з тужлівай бездапаможнасцю.

— Вы праходзьце, Параска Арцёмаўна, праходзьце,— сказаў са спагадлівай ласкавасцю Скачкоў, падаўшы жан-

3. Зак. 1816

чыне табурэтку. Сам зноў усеўся на ложак.— Што здарылася?

— Ой, сынок... Ты вось прыехаў, як чалавек, матцы радасць, а мой жа,— яна ўсхліпнула, а потым, спахапіўшыся, што дала сабе ў чужых людзей так расслабіцца, памуляла губамі, сказала спакайней: — Гэта ж мой Іван тыдні два дома, а я слова ад яго яшчэ не пачула. Як адняло язык. Чуе маё сэрца, нешта няладнае з ім... Відаць, давяла яго тая змяя. Я казала, калі жаніўся, што не пара яна яму. Ты ж ведаеш, Валерык, да жаніцьбы ён у рот не браў гарэлкі. Зрабіла ж алкаголікам, каб ёй... Міліцыю падкупіла, лячыцца выправіла. Не ведала ж, як пазбавіцца, дык прыдумала. Як у турму. На два гады. Пытаюся, як жонка, дык як гыркне, каб не памінала. Не было ў мяне жонкі і няма. Болей ні слова. Маўчыць, як ноч. Не, не ад добрага гэта. Баюся, каб не нарабіў чаго. Зрабіўся як цень. На свет глядзець не хоча,— яна зноў усхліпнула, выцерла далоняй вочы.— Не ведае, да чаго рукі прыкласці. За вуды — і на возера. Пакуль не сцямнее, сядзіць там. На абед не прыходзіць. А ўчора, не, пазаўчора, панесла яму есці. Супу ўзяла, сыраквашкі. Не ўзяў. Ідзі, кажа, мяне тут няма. Як жа няма, калі сядзіш? А ён сваё. Сказаў няма, значыцца, няма. Не дай бог, можа, з галавой што. Хоць бы рыбу лавіў. Дзеці пабягуць і ўжо, глядзіш, па вядзёрку карасікаў нясуць. А ён ніводнага карасіка за ўсе дні не спаймаў. Сядзіць і глядзіць на ваду. Як што думае. Хіба можна так доўга думаць? — жанчына глянула на Скачкова.— Каб яму за дзело якое ўзяцца, ці што? Можа, перастаў бы думаць.

— Канешне, у рабоце і чалавек — чалавек,— уставіла сваё Хоўра.— Я сама, калі няма чаго рабіць, месца сабе не знаходжу. Тады бяру анучу і давай падлогі мыць. Аднойчы за дзень два разы памыла,— засмяялася.

— Можа, пагаварыў бы з ім, Валерык? Можа, цябе паслухае. Нікога ж слухаць не хоча... Каб рабіць куды пайшоў.

Скачкоў разумеў, што Алесіч хутчэй за ўсё не паслухаецца яго. А пасля таго як ён некалі адмовіўся памагчы яму ўладкавацца на працу, можа, зусім не стане размаўляць з ім. І ўсё ж у яго не хапіла рашучасці адмовіць жанчыне.

— Пагаворым, Параска Арцёмаўна, пагаворым,— паабяцаў ён.— Дзе ён цяпер?

— Дзе ж яму быць? На возеры. Як пачне цямнець,

тады прысунецца. Малака вып'е і спаць. Калі і так ляжа. Можа, увечары, Валерык, заглянеш?

— Мы з ім і зараз пагаворым,— Скачкову не хацелася ісці да Параскі ў хату.

— Ой, няхай бог здароўечка дае табе, Валерык,— паднялася Параска.— Не ведаю, як і дзякаваць. Нічога не хацелася б, абы ён пры дзеле быў. І табе, Хоўрачка, дзякую, што ўважыла...

— Не хвалюйся, Параска Арцёмаўна. Усё добра будзе,— запэўніў жанчыну Скачкоў.

Праводзіўшы Параску і вярнуўшыся ў хату, Хоўра прысела на табурэтку, уздыхнула:

— Ой, дарэмна, сын, паабяцаў. Нічога не будзе. Каб яшчэ цвярозы быў. А то ж п'е. Без просыпу. Кажуць, кожную раніцу ля магазіна дзяжурыць. Чакае прадаўшчыцу. Бярэ пляшку — і на возера. Там і п'е. Вып'е ўсё, тады сядзіць і пляшку нюхае. Пастух казаў. Дастане пляшку, панюхае і зноў схавае. Лячылі, лячылі і не далячылі... Маладзіца недзе цярпела, цярпела, пакуль цярпенне лопнула. Вось і прыехаў да маткі. Матка не выганіць. А як цяжка расціла яна яго. Без бацькі. Іх жа бацька яшчэ хусім маладым загінуў. На лесанарыхтоўках забіла. З апошняй капейкі вучыла. Хацела, каб чалавекам стаў. Цяпер глядзі на ета гора. Тут хоць якога сэрца не хопіць...

— Канешне, калі ён запіў, то гавары не гавары, толку не будзе. Але паспрабуем. Шкада старую...

— Глядзі, сын, каб не вельмі з ім,— папрасіла Хоўра.— Хто ведае, што ў яго ў галаве. Яго бацька, помню, таксама ўрэднюшчы быў. Як панюхае, слова супроць не скажы.

— Нічога, мама. Не хвалюйся, біцца не будзем,— засмяяўся Скачкоў. Дастаў спартыўнае трыко, якое завёз у вёску яшчэ гадоў пяць назад і якое заўсёды вісела на жэрдачцы над палком за печчу. Трыко на жываце туга напіналася, нібы паменшала за гэты час.

«Варта было б заняцца бегам»,— падумаў Скачкоў, агледзеўшы сваё каржакаватае пашырэлае цела на скасалапіўшыхся і танклявых нагах. У сенцах абуў таксама даўнія, ссохлыя і крыху мулкія чаравікі. Прайшоўшы паўз двары, скіраваў у канцы вуліцы па ледзь прыкметнай дарозе праз поплаў да возера, што вузкай стужкай бліщчэла пад самым лесам.

Яшчэ даўно, гадоў, можа, з дзесяць назад, з доўгага,

3*

зарослага куп'ём балота спусцілі ваду, вышкраблі бульдозерам на бераг торф і іл. Торф доўга вывозілі на палі, але нямала яго і засталося,— цэлыя горы, якія з часам узяліся густым дзірваном і на якіх любілі загараць дзеці і студэнты, што прыязджалі на канікулы ў вёску.

Цяпер жа, калі сонца вісела над самым лесам, хутчэй за ўсё на возеры нікога не было. Сустрэўся Скачкову адзін толькі хлапчук на веласіпедзе з прывязанай да рамы касою. Яго галаву абляпілі доўгія мокрыя валасы. Відаць, пасля касьбы заехаў на возера пакупацца і цяпер руляваў дамоў.

Скачкоў падняўся на першы ж узгорак. Макушку яго так утапталі, што на ёй не расла і трава. Возера выгіналася вузкаю паласой сярод узгорыстых берагоў, ля якіх зрэдку застылі купкі чароту, разраслася асака.

З таго канца возера, пад самым лесам, на беразе чарнела постаць адзінокага чалавека.

Скачкоў збег з узгорка і па роўнаму, далей ад берага, скіраваў туды.

Чалавек быў у выгаралай, аж белая на спіне, кашулі ў клетачку, у кепцы, насунутай ледзь не на самыя вочы. З-пад казырка тырчэў завостраным клінам дзюбаты нос. Увесь твар зарос густым чорным шчаціннем. Чалавек пільна глядзеў перад сабой, на ваду. Паплавок даўно збіла ўбок, да самай асакі ля берага. Ля рыбака стаяла стаўбунатая пагнутая бляшанка, відаць, для чарвякоў.

Цяжка было пазнаць у гэтым чалавеку Алесіча, і Скачкоў прасунуўся міма, спадзеючыся, што Алесіч прызнае яго і адгукнецца, калі толькі гэта сапраўды ён.

Чалавек не павярухнуўся.

Скачкоў дайшоў да канца возера і больш нікога не ўбачыў. Цяпер ён не сумняваўся, што той насаты і ёсць Алесіч. Ён вярнуўся, спыніўся ў некалькіх кроках.

— Ну, бярэцца рыбка? — пацікавіўся Скачкоў.

— А-а, Валерый Міхайлавіч,— мелькам глянуў Алесіч на Скачкова і зноў утаропіўся ў толькі яму вядомую кропку на вадзе.

— Не клюе?

— Не.

— Чаго ж тут сядзець тады?

— Можа, клюне...— Алесіч азірнуўся на Скачкова запалымі вачыма, потым палахаў пад ватоўкай, якая ляжала ў яго за спіной, дастаў з-пад яе неадкаркаваную паў-

літэрку.— Мо па кроплі за сустрэчу? Толькі шклянкі няма...

— Можа, не будзем распачынаць?

— За сустрэчу трэба. Усё роўна не клюе.

— А калі б клявала? — не разумеў Скачкоў, пры чым тут рыба.

— Я даўно накляваўся б. Я сказаў сабе, што буду піць толькі пасля таго, як клюне. Як сказаў, яна перастала кляваць. А раней клявала добра. А то адразу. Жонка не хоча, каб я піў, матка не хоча, цяпер і рыба,— засмяяўся Алесіч, паказаўшы рэдкія зубы.— Пазаўчора ніводная не клюнула. Засталася цэлая пляшка. Што рабіць? Дамоў несці? Не ў маіх правілах. Выпіць? За адзін раз і для мяне багата. Дамоў не дапаўзу. Са злосці шпурльнуў вунь туды, дзе асака. Там якраз карасі разгуляліся. Не хочаце, каб я піў, самі піце. Потым, пакуль не сцямнела, лахаў па вадзе, шукаў пляшку. Так і не знайшоў. Зацягнула недзе ілам. Учора, праўда, павязло. Клюнула. Ды з самой раніцы. Толькі вуду закінуў — і гатова. Ну і глынуў... А сёння зноў не клюе. Добра, што вы падышлі,— ён адкаркаваў бутэльку, падаў Скачкову.— Глыніце з пляшкі.

Скачкоў узяў бутэльку, глынуў раз смярдзючай цёплай гарэлкі.

— Загрызіце,— падаў Алесіч некалькі зялёных пер'ін цыбулі, выпіў сам, закаркаваў бутэльку і зноў сунуў яе пад ватоўку.

— У адпачынку? — Скачкоў непрыкметна выкінуў пакамечаную цыбулю.

Алесіч маўчаў, гледзячы на ваду, а потым з нечаканай шчырасцю прызнаўся:

— Не хочацца, Валерый Міхайлавіч, ні рабіць, ні адпачываць.

— Не разумею,— падсеў да Алесіча Скачкоў.— Каб жывому чалавеку нічога не хацелася.

— Няма чым жыць,— сказаў так проста, што Алесічу нельга было не паверыць. І ўсё ж Скачкоў не паверыў яму. Не так даўно нешта падобнае ён сам гаварыў свайму настаўніку, дык ён жа, лічы, жыццё пражыў, дасягнуў у ім такіх вышынь, якіх не кожнаму ўдаецца дасягнуць. А Алесіч, калі разабрацца, нічога ж яшчэ не бачыў, яму багата чаго павінна хацецца.

— Як няма чым? А праца? Сям'я?

— У сям'ю не веру... Сям'я, калі ўсё шчыра, калі да-

вер, павага, падтрымка. А калі толькі агульная газавая пліта ды, прабачце, агульны сарцір, гэта не сям'я.

Адчуўшы ў словах Алесіча нешта гуллівае, Скачкоў сказаў нібы жартам:

— Ведаеш, Іван, як гэта называецца? Капітуляцыя. Капітуляцыя перад жыццём. Калі мы ўсе з-за бутэлькі свету белага бачыць не станем, то нам хана. Здадзім свае пазіцыі. Дэградзіруем. А тым часам жанчыны заваююць свет...

— Яны і так нас на задні план... Толькі харахорымся, што мы то ды сё, а на справе даўно танцуем пад іх дудку. А хто не хоча танцаваць, выганяюць з хаты, шукаюць паслухмянага танцора. Нам толькі застаецца адно...— Алесіч зноў дастаў бутэльку.— Можа, яшчэ па глытку?

— Не, дзякую.

— Няхай і так,— схаваў Алесіч бутэльку.— Я сам цярпець яе не магу. Гадасць. Праціўна глядзець, але...

— Слухай, Іван,— раздумліва пачаў пасля кароткага маўчання Скачкоў.— Я не ведаю, што адбылося ў тваім жыцці, але нельга ж так...

— Як?

— Ну вось так. Сядзець і глядзець на ваду. Так можна сябе чортведама да чаго давесці. Трэба жыць, дзейнічаць, працаваць.

— Навошта?

— Каб з людзьмі разам. Нарэшце, каб было за што жыць. Ці мала жывому чалавеку трэба?

— Нічога мне не трэба. Я сам сабе не трэба.

— А людзям?

— А што людзі? Яны мне не трэба. А хто трэба мне, таму я не трэба.

— Дарэмна ты так. Не паверу, каб усе былі да цябе такія, як лічыш. Далёка не ўсе. Вазьмі маці сваю. Думаеш, ёй весела глядзець на цябе, такога. Ты ж малады чалавек. Табе жыць ды жыць... Мне не хочацца, каб ты быў такі. Шчыра. Праўда, тады, калі ты прыходзіў, каб памог, я не ўзяўся. Прызнаюся, пабаяўся. Пабаяўся, што падвядзеш.

— Канешне, падвёў бы,— без усялякай крыўды пагадзіўся Алесіч.

— Я хачу, каб ты пайшоў працаваць. У калектыве не дадуць закіснуць. Як ты? Я зараз буду ў Зуеве. Так што прыходзь. Пашкадуй сваю маці. Заробіш грошай, ёй паможаш. Папрашу, каб узялі на буравую. Далей ад гарадоў

і вёсак. Толькі трэба ўзяць сябе ў рукі. А ты гэта можаш. Тым больш што работа цікавая. Будзеш шукаць нафту. Сам не заўважыш, як ажывеш. А чаго тут сядзець? Лупаціцца на ваду, пакуль вочы не стануць пустыя, як гэтая вада?

— Падумаю,— сказаў абыякава Алесіч, але без ранейшай, як падалося Скачкову, паныласці ў голасе.

— Думай, думай. Чакаю. Прыкладна, праз тыдзень.

— Дык, можа, за ваша новае месца? — пацягнуўся Алесіч за бутэлькай.

— Не, не будзем,— адмахнуўся Скачкоў.— Вось уладкуюся, цябе ўладкую, тады і пасядзім. Дамовіліся? — падняўся Скачкоў.— Можа, пойдзем?

Алесіч нічога не адказаў. Як глядзеў на ваду, так і працягваў глядзець. Скачкоў пастаяў крыху і пайшоў.

Ля двара, накінуўшы на плечы паліто, яго чакала маці.

— Я сяджу як на іголках,— сказала Хоўра.— Ледзь не пабегла насустрач.

— Чаго?

— Баюся я гэтых маўчуноў. Ніколі не ведаеш, што ад іх чакаць. Нелюдзь. Яму што? А матцы гора. На Параску глядзець шкада. Хіба тут не згібееш, калі ў дзяцей жыццё не клеіцца?

— Дзеці,— хмыкнуў Скачкоў.— Самі даўно бацькі. Пара навучыцца самім пра сябе думаць.

— Ай, сын, для матак вы заўсёды дзеці.

— Калі аўтобус на Гомель? — раптам пацікавіўся Скачкоў.

— Хіба паедзеш? — не без расчаравання спытала Хоўра.

— Трэба ў Зуеў. Паглядзець кватэру, пра жончыну работу пагаварыць. Не хочацца цягнуць з пераездам...

## 4

— Валера, сонца праспіш,— Ала Пятроўна села на ложку, пашукала нагамі тапачкі.

— Можа, парадак у кватэры навядзём? — Скачкоў дастаў з-пад падушкі гадзіннік, глянуў на яго, пакруціў, стаў надзяваць на руку.— Паспаць мы любім...

— Калі табе на працу? — Не чакаючы адказу, Ала Пятроўна паднялася і, чапляючыся ў залі нагамі за вузлы, мяшкі, картонныя скрынкі, скіравала ў ванную.

Яны болей тыдня жылі ў Зуеве. Усе рэчы, якія прывезлі з сабой, ляжалі нераспакаванымі. Толькі паставілі ложак, занеслі на кухню столік, пару табурэтак,— вось і ўсё, што яны паспелі зрабіць, пераехаўшы.

Кожны дзень яны хадзілі на Днепр загараць.

— Я абяцаў Дарашэвічу раней выйсці на працу,— сказаў Скачкоў, калі жонка вярнулася.

— Скажаш свайму Дарашэвічу, што я не пусціла цябе,— і смеючыся, сцягнула з яго коўдру.— Падымайся, лежабока, а то кафэ зачыняць.

Снедалі ў кафэ пры мясцовай гасцініцы. Калі яны прыходзілі туды, там ужо нікога не было. Гэта якраз і падабалася ім. Іх нішто не цікавіла ў навакольным свеце. Раздражняла, калі хто-небудзь браў на сябе іх увагу. Па гэтай прычыне яны не загаралі на гарадскім пляжы, хоць на яго прывозілі бочку з хлебным квасам, і зусім блізка стаяў над вадою на тонкіх драўляных палях рэстаранчык «Хваля», учапіўшыся за бераг вузенькім ганкам.

Паснедаўшы аладкамі з нейкім кіслым павідлам і чаем, які толькі сваім выглядам нагадваў чай, купіўшы на абед некалькі высахлых катлет, сыру, хлеба, пару пляшак мінеральнай вады, яны спусціліся праз парк да ракі і скіравалі па беразе туды, дзе ўжо за горадам раслі купкай прысадзістыя дубкі, у цяньку якіх можна было адпачыць ад санцапёку.

Мінуўшы пляж, наткнуліся на белагаловага падлетка, які сцягваў з мокрага пяску ў ваду счарнелы човен з зеленаватай вадой на дне. У чоўне ляжалі кароткія, як абламаныя, вёслы, жаўцела тонкае вудзільна з бамбука.

— Хлопча, перакінь на той бераг,— зачапіў яго Скачкоў.

— Дваццаць капеек,— выскаліўся хлапец.

— За дваццаць можна,— Скачкоў глянуў на жонку.

— А што? Мы ж там не былі,— заахвоцілася Ала Пятроўна.

Як ні стараўся хлапчына веславаць, цяжкая лодка ледзь паўзла. Цячэннем яе аднесла далёка за горад.

— Ой, якая шырокая рака,— прысела на самлелыя ногі Ала Пятроўна, ступіўшы на жоўценькі пясочак.— Думала, не пераплывём.

— Гэта ад страху,— за руку падтрымаў яе Скачкоў.— Бачыў, як учапілася ў барты, аж пальцы пабялелі.

— Яна так хіталася, думала, вось-вось кульнецца,— у яе пад нагамі гойдалася зямля.

— Малады чалавек! — спахапіўся Скачкоў, калі хлапчук, адштурхнуўшыся ад берага, бразнуў уключынамі і, як падрэзанымі крыламі, зашлёпаў вёсламі па вадзе.— Назад перавязеш?

— Дзесяць рэ.

— Ой, Валера, з ім задарам не паеду,— сказала Ала Пятроўна.

— Ты, юны бізнесмен, піянер? — крыкнуў Скачкоў.

— Няма грошай, кукуйце там. Піянерскі салют! — засмяяўся вясляр шчарбатым ротам.

— Што ж, будзем жыць як рабінзоны,— акінуў позіркам пустынны бераг Скачкоў, шукаючы найбольш утульную мясцінку, дзе можна было б атабарыцца.

— Цудоўна! — Алу Пятроўну радавала ўсё, што здаралася з імі ў гэтыя дні.

Бераг Дняпра пакацісты, нізкі. Трэба было зайсці далёка па вадзе, каб апынуцца на глыбокім. Пясок на пляжы чыстага светла-жоўтага колеру, як дробнае шкло. Ён спявае пад нагамі, калі ідзеш па ім. Ногі правальваюцца, як у проса. На сонцы награваецца так, што голы не ўлежыш. Як прысак.

Калі сонца паднялося высока, Ала Пятроўна і Скачкоў скіравалі ў зараснікі лазняку, якія пачыналіся адразу за пляжам, у спадзяванні знайсці там зацішны цянёк. Але лазнякі толькі здаля здаваліся прываблівa густымі. Старую лазу высеклі, высокія купіны-пні рагаціліся вострымі высахлымі прытарчнямі, аб якія лёгка было парэзаць ногі. Ва ўпадзінах, паміж купін-пнёў, на чорнай высахлай, аж патрэсканай зямлі, бялелі парожнія ракавінкі. Яны хрумсцелі, калі траплялі пад ногі.

За лазняком пачынаўся скошаны луг, часта ўтырканы стагамі. На іх кучаравілася лазовае голле, каб вецер не схіліў вострыя верхавіны. Лісце на тым голлі пажоўкла, ды і самі стагі парудзелі ад расы і сонца, былі як леташнія. А навокал зелянела маладзенькая шаўкавістая атава.

Скачкоў надзёргаў зляжалага сена, раскідаў яго пад стогам там, дзе быў цянёк, прылёг, раскінуў рукі, усклікнуў:

— Як здорава!

— А ты хацеў ісці на работу,— упікнула Ала Пятроўна яго, прысеўшы побач.

— Каб так заўсёды. Луг, стагі, сіняе неба. І толькі мы

з табой. Ведаеш, мне ніколі не было так хораша, як зараз. А табе?

Яна падумала якраз так, як і ён, але прамаўчала,— навошта словы, калі і так усё зразумела? Ала Пятроўна толькі няпэўна ўсміхнулася, успомніўшы, як некалі ў далёкай маладосці яны аднойчы пайшлі па грыбы. Вяртаючыся дамоў праз калгасны луг, адпачывалі якраз пад такім вось стогам, як зараз. Ён, заўсёды такі рахманы, нясмелы, раптам палез да яе з пацалункамі. Яна, вырваўшыся з абдымкаў, уцякла, кінуўшы яму кошык з грыбамі. У той жа дзень пад вечар ён прынёс грыбы. Яны разам перабіралі іх, смажылі на скавярадзе. Здаецца, праз тыдзень пасля таго выпадку яны запісаліся.

— Помніш, як некалі мы вярталіся з грыбоў і адпачывалі пад стогам? — спытаў Скачкоў.

— Пагавары лішняе, дык і зараз уцяку,— яна памкнулася падняцца, але ён схапіў яе за руку.

Вецер шамацеў у маладой атаве, паветра поўнілася сухім патрэскваннем конікаў, недзе зусім блізка дудзела пчала, відаць, шукала скошаныя кветкі ці, можа, дзе блізка жылі лугавыя пчолы...

Скачкоў спаў. Ала Пятроўна ляжала, заклаўшы рукі пад галаву, выставіўшы ногі на сонца. Ёй хацелася, каб яны болей загарэлі. У высокім блакітным небе плылі рэдкія кучаравыя аблачынкі.

Як тыя аблачынкі, плылі і думкі ў жанчыны...

Яе ўразіла, што яны тут, ля гэтага стога, разам успомнілі пра адно і тое ж. Няўжо ніколі ў жыцці болей не было так, як тады і вось цяпер, калі ўвесь свет, здаецца, існуе толькі для дваіх? А калі наогул былі адны, каб іх ніхто не ведаў і яны нікога не ведалі? Хіба тады, калі толькі пажаніліся і жылі ў невялікім раённым гарадку, можа, у некалькі разоў меншым, чым гэты Зуеў. У іх не было сяброў, не было да каго хадзіць у госці, ніхто не хадзіў і да іх. А можа, ім, аглушаным уласным шчасцем, ніхто і не трэба быў? А можа, такое жыццё ў гэтых раённых гарадках, якія і сваёй знешнасцю бліжэй да вёскі, чым да горада? Людзі жывуць натуральна, спакойна, усе заняты сямейнымі клопатамі, сваёй гаспадаркай. А можа, людзі тады яшчэ не ведалі такой мітусні, як зараз?

З таго часу, як яны пераехалі ў абласны цэнтр, а потым і ў Мінск, яны ніколі не былі адны. Нават у час адпачынку, калі жылі ў палатцы на рацэ ці на якім глухім лясным возеры, заўсёды з імі была адна, а то і некалькі

сямей. Пра дамы ж адпачынку ды ўсялякія санаторыі і гаварыць нечага,— там адна калатнеча. Цесныя сталоўкі, перапоўненыя пляжы, чэргі ля бочак з квасам. Натомішся ад той таўханіны болей, чым на рабоце. Толькі лічыцца — адпачынак... Хоць усё гэта няпраўда. Заставаліся часта яны адны і раней. І ў адпачынку і дома. Адны, ды не адны. Вечна былі нечым заклапочаны. Больш працай. Жылі ёй, думалі пра яе. Праца тады яшчэ захапляла іх. Ён рабіў у нейкай доследнай геалагічнай партыі, а яна — у школе. Звычайна ледзь не кожны тыдзень знікаў на некалькі дзён,— недзе нешта ламалася, недзе трэба было манціраваць новыя буравыя ўстаноўкі. Нялёгкая была ў яго работа. Нялёгка працавалася ёй і ў школе. Вольнай хвіліны не мела. Але яна любіла літаратуру, пра якую расказвала дзецям, любіла дзяцей. Яе заўважылі, ацанілі, абралі дэпутатам райсавета. Урэшце не гэта было галоўнае. Ім было цікава жыць і працаваць. Дома яны расказвалі адзін аднаму пра сваю працу. Кожнаму было цікава расказваць, а яшчэ цікавей слухаць. З таго жыцця і захаваліся ў памяці вечары, калі яны, засядзеўшыся на кухні пасля вячэры, гаварылі пра свае справы. Яшчэ невядома, як склалася б у іх жыццё, каб тады не было ў кожнага з іх любімай працы.

Пераехаўшы ў Мінск, яны амаль не гаварылі ўжо пра сваю працу. Ці нецікавая яна была, ці ўсю ўвагу ўзяла дачка, якая змалку часта хварэла, а потым, калі вучылася, даводзілася сачыць за яе вучобай,— нялёгка яна ёй давалася, асабліва ў малодшых класах. Хоць за вучобай дачкі болей сачыла яна, чым ён.

Скачкоў працаваў у саліднай установе, ганарыўся сваёй пасадай, але нічога не расказваў пра яе. Неяк яна спытала ў яго, як і што там. Нічога асаблівага, адказаў, пішам паперы.

Рабіць у гандлёвай рэкламе ёй было цікава. Новае асяроддзе, новыя людзі. Яна называлася непрывычна самавіта — рэдактарам. Работа лічылася творчай, як у газеце. Кожны дзень было нешта новае. Гэта з гадамі яна заўважыла, што ўсё паўтараецца. Работа ў гандлёвай рэкламе ёй падабалася яшчэ і тым, што ў яе быў вольны час, які якраз быў вельмі патрэбен,— расціла дачку.

А калі дачка вырасла, стала студэнткай, выйшла замуж і, здавалася б, у Алы Пятроўны павінна было з'явіцца больш часу, яго якраз стала меней. Работа ў рэкламе даўно абрыдла, рабіла там больш па прывычцы, аўтама-

тычна. Затое яна занялася грамадскай работай. Чым яна толькі не займалася! Але затое тая дзейнасць напаўняла яе жыццё сэнсам. Каб не яна, жыць не было б чым.

Успамінаючы сваю работу ў гандлёвай рэкламе, яна нічога цікавага не магла ўспомніць. Памяці не было за што зачапіцца. Як і не было васемнаццаці гадоў. Увесь час уяўляўся як адно імгненне. А нечым жа была занятая, нешта ж рабіла. І ніякага следу. Ні ў душы, ні ў памяці. Што ж тады засталося ў памяці людзей, дзеля якіх яна старалася? Няўжо марна пражыла яна самыя спелыя гады свайго жыцця?

Пра гэта, дарэчы, яна ўпершыню падумала, калі перабірала кнігі, збіраючыся пераязджаць.

Кнігі яны куплялі з мужам удваіх. Яна мела знаёмых амаль ва ўсіх кнігарнях горада, а ў мужа на рабоце быў добры кіёск. Новыя кнігі звычайна клалі на тумбачку ля ложка ў марным спадзяванні прачытаць іх. Яны ляжалі на тумбачцы, нават не гартаныя, пакуль іх не замянялі новымі. А тыя, што адляжалі свой тэрмін, ставілі на паліцу і забываліся на іх.

Адбіраючы кнігі, якія хацела ўзяць з сабой у Зуеў, яна раптам убачыла, што амаль усе яны непрачытаныя. А цяпер і жыцця ўжо не хопіць, каб іх прачытаць.

А некалі ж яна любіла чытаць і чытала багата. Яна і вучыцца пайшла на філалагічны факультэт толькі таму, што любіла мастацкую літаратуру.

Як жа здарылася, што яна здрадзіла свайму прызванню, здрадзіла сабе?

І ўсё з-за работы, пра якую зараз нечага ўспомніць. А яны з мужам дзеля работы, акрамя кніг, ахвяравалі і асабістым жыццём. Дайшло да таго, што жылі пад адным дахам, а былі як чужыя. Адзін аднаго не заўважалі. Не бачылі. Прапала цікавасць. А можа, ва ўсіх так у гэтым узросце? Можа, наогул такі закон жыцця? Спачатку ўсе жывуць для сябе, а потым для дзяцей?.. Няўжо пра гэта думаў і яе муж? Думаў. Думаў яшчэ раней за яе. І не толькі думаў, а шукаў выйсце. І знайшоў... Пераехалі вось у Зуеў.

І ўсё ж тое шчаслівае даўняе, нягледзячы на мітуслівае жыццё, жыло ў іхніх сэрцах. Гэта яны са Скачковым толькі забыліся на яго, а цяпер яно дачакалася свайго часу. Ці надоўга толькі? Хоць лепей не думаць пра гэта. Добра, што яно вярнулася. Добра, што яно было ў іх некалі, што ёсць цяпер...

Успомнілася дачка. Хоць бы яна не празявала ў сваім жыцці галоўнае, не растраціла шчасце. Вельмі ж мітуслі-ва яны з мужам пачалі жыць. Не паспелі агледзецца па-сля інстытута, кінуліся ў жыццё, як у вір. Днююць і на-чуюць у бальніцы. Робяць на паўтары стаўкі. А зяць і ў выхадныя дні дзяжурыць на «хуткай дапамозе». Пакінулі кватэру, мэблю, бібліятэку, а ім усё мала. Пра машыну мараць. Падарвуць здароўе, тады нічога не трэба будзе.

А можа, усё і не так? Можа, яны сапраўды захапіліся медыцынай. Тады яшчэ нічога. Калі работа цікавая, то можна і так жыць...

Хацелася пагаварыць з дачкой, званіла, прасіла па-дысці, памагчы пакавацца. Не знайшлося часу. Не прый-шла. А яна ж, Ала Пятроўна, не столькі помачы ад яе чакала, колькі хацела паразважаць пра жыццё, падзяліц-ца думкамі, што ўзніклі, калі перабірала кнігі.

Потым, развітваючыся, яна гаварыла з ёй. Але не той быў настрой. Трэба б напісаць ёй пра ўсё гэта. Ды хіба маладыя слухаюцца парад бацькоў? Парады старэйшых для іх — пусты гук. Пакуль жыццё не навучыць.

Ала Пятроўна прыўзнялася на локці, глянула на му-жа. Ён спаў, крыху схіліўшы галаву да пляча, нечаму ўсміхаўся.

Яго ўсмешка зараз была вельмі падобная на тую, якую яна бачыла на фотаздымку яго бацькі, што на абеліску. І каб не залысіны, не гэтыя сівыя касмылі над вушамі, ён быў бы, як кажуць, выліты бацька.

Яна доўга не зводзіла з яго вачэй, пакуль не занылі локці. Села, пачала правіць сваю прычоску, абцярушвац-ца ад сена.

— Што табе ўсё не спіцца? — спытаў Скачкоў, прач-нуўшыся ад шамацення сена. Твар яго цяпер быў заспа-ны, абвялы, нейкі шэры ад выступіўшага шчэцця. Ад нядаўняй усмешкі не засталося і следу.

— Я не спала.

— Так паляжы, адпачні,— ён спаймаў яе за руку.

Вярнуліся на бераг Дняпра, калі сонца, кінуўшы праз раку чырвоны слуп, вісела над самым Зуевам. Ала Пят-роўна раздзелася, палезла ў ваду. Вада была па-вечаро-ваму прыціхлая, цёплая, не хацелася вылазіць. Скачкоў, заклапочаны тым, як вярнуцца дамоў, нерваваўся, бегаў па беразе, крычаў некалькім чалавекам, што праплывалі на маторках міма. Яны, відаць, не пачулі яго, бо плылі далекавата ад берага, па сярэдзіне ракі.

— Чаго раскрычаўся? Давай лезь купацца,— бесклапотна смяялася Ала Пятроўна.

І ўжо ледзь не прыцемкамі, калі яны сабраліся ісці пехатою да моста праз раку, які блішчэў кволенькім пункцірам агеньчыкаў далёка злева, якраз насупроць Зуева, іх перавёз на другі бераг бакеншчык, які запальваў бакены.

## 5

— Ты мяне кахаеш? — Ала Пятроўна глядзела на мужа крыху прыжмуранымі, па-маладому гарэзлівымі вачыма. Пабітыя сівізной, як рэдкім павуціннем, яе светла-каштанавыя валасы з пасвятлеўшымі, як вылінялымі, канцамі, раскідзіста ляжалі на падушцы. Нос, апалены на сонцы, лупіўся і, здавалася, знізу крыху распух, надаючы твару нешта па-дзіцячы бездапаможнае.— Ну, што маўчыш? — яна ўсміхнулася, і ад бляску белых зубоў твар яшчэ болей памаладзеў.

— Няўжо за дваццаць пяць гадоў не зразумела? — памкнуўся падняцца Скачкоў.

— Не, ты скажы,— яна схапіла яго аберуч за шыю.

— Ну, вядома, кахаю,— сказаў скорагаворкай.

— Не тое.

— Ну кахаю, кахаю, кахаю...

— Цяпер ужо лепей,— не адпускала яна яго.

Ён раптам нагнуўся, шмаргануўшы сваім няголеным тварам па яе плячы, выслізнуў з яе рук, падхапіўся, адышоў ад ложка.

— Яшчэ гаворыць, што кахае, а калючы лезе да жонкі,— яна мацала рукою плячо, якое зашчымела, быццам апечанае.

— Прабач, Алачка,— падсеў ён да яе.

— Не падыходзь, пакуль не паголішся.

— Зараз будзе зроблена,— ён узяў электрабрытву, якая ляжала на акне ў спальні, пашукаў вачыма разетку.— Ніяк не мог прывыкнуць у новай кватэры.

— Ідзі ў калідор, а то будзеш трашчаць мне над вухам,— загадала Ала Пятроўна.

Забрынчаў тэлефон.

Шкадуючы, што не адключыў яго на час адпачынку, Скачкоў выйшаў у пярэднюю, узяў трубку. Голас генеральнага дырэктара аб'яднання пазнаў адразу:

— Слухаю вас, Віталій Апанасавіч.

— Усё выгульваемся, Валерый Міхайлавіч? — спытаў здзекліва Дарашэвіч.

— Законны адпачынак, Віталій Апанасавіч,— стрымана адказаў Скачкоў, абурыўшыся, што з ім так размаўляе генеральны дырэктар.— Вы ж самі пагадзіліся, каб пару тыдняў якіх...

— Помню, помню, яшчэ, здаецца, не склеротык,— не даў дагаварыць ён Скачкову.— Ведаеце, Валерый Міхайлавіч, мне некалькі год назад будавалі садовы домік. Вы ведаеце, як працуюць будаўнікі з рамонтных арганізацый. Спачатку прывезлі дошкі, праз месяц — цэглу. Прыехалі, вырылі канаўкі пад фундамент, зноў зніклі на месяц. Цэгла прарасла травой, дошкі пачарнелі. Але я не пра гэта хачу сказаць. Ведаеце, пад дошкамі пасяліліся вожыкі. Яны любяць ціхія мясціны. Каб іх ніхто не трывожыў. За лета яны паспелі нават вырасціць маленькіх вожыкаў... Баюся, Валерый Міхайлавіч, каб у вашым кабінеце таксама не пасяліліся вожыкі...

— Разумееце, Віталій Апанасавіч,— пачаў разважліва Скачкоў, не адразу знайшоўшыся, што адказаць.— Гэта будзе выдатна, калі ў маім кабінеце паселіцца такая калючка. У кожнага начальніка павінен быць свой вожык, каб асабліва не заседжваўся, а часцей бываў на месцах, сярод людзей.

— Відаць, у маім кабінеце жыве такая калючка, як вы гаворыце, што мне не сядзіцца на месцы,— адчувалася, што Дарашэвічу не спадабаўся адказ падначаленага.— Карацей, Валерый Міхайлавіч, гадзін у адзінаццаць буду ў вас. Калі знойдзеце час, то загляніце, калі ласка, у кантору. Хачу прадставіць вас калектыву.

— Буду,— паспешліва запэўніў Скачкоў, жадаючы хутчэй спыніць гаворку.

Але Дарашэвіч, відавочна, яшчэ не выказаўся да канца, не думаў вешаць трубку, але цяпер гаварыў нейкім сумнаватым, бляклым голасам, нібы без ахвоты:

— Ведаеце, Валерый Міхайлавіч, паказчыкі ва ўпраўленні вельмі пагоршыліся. План гарыць. Усе развінціліся без гаспадара. Званіў Балыш з Масквы, пытаўся, ці доўга яго пераемнік будзе адлежвацца на пляжы. Так і спытаў, Валерый Міхайлавіч. Нехта данёс. Вось так...

— Я ж сказаў, Віталій Апанасавіч, што буду,— не мог схаваць свае раздражненасці Скачкоў.

— Дзякую вам, Валерый Міхайлавіч, што вы знайшлі

магчымасць прыступіць да выканання службовых абавязкаў,— не абышоўся без яхідства дырэктар.

У трубцы запішчэла.

— Што здарылася? — крыкнула Ала Пятроўна.

— Каб ведаў, што такі зануда гэты Дарашэвіч, ніколі б не паехаў сюды працаваць,— адказаў Скачкоў.— Загадана тэрмінова прыступіць да выканання службовых абавязкаў,— і ён затарахцеў электрабрытвай.

— Зайдзі ж у цырульню, а то пойдзеш з сівымі касмылямі над вушамі,— накінуўшы на плечы халацік, яна заспяшалася на кухню.

Праводзячы мужа, Ала Пятроўна агледзела яго касцюм, каб раптам дзе не прыліпла якая парушынка, папраўіла гальштук, які крыху ссунуўся ўбок, праверыла, ці захапіў насоўку, і ўжо ў дзвярах паныла сказала:

— Зноў адной развязваць вузлы...

— Адпачывай. Разам паразвязваем. Можа, нават сёння. Думаю, што мяне асабліва не затрымаюць.

Калі ён пачаў спускацца па лесвіцы, крыкнула ўслед:

— Глядзі ж, не забудзь пастрыгчыся.

Калі яму абстрыглі касмылі, то сівізна сапраўды не кідалася ў вочы, затое вушы пабольшалі, а шчокі прыкметна пакруглелі. Кідаліся ў вочы незагарэлыя белыя плямы над вушамі. Скачкоў шкадаваў, што паслухаў жонку. Выйшаўшы з цырульні, глянуў на гадзіннік і адразу ж, перастаўшы думаць пра сваю знешнасць, пайшоў хутчэй. Хацеў прыйсці ў кантору раней, чым прыедзе з вобласці начальства.

Ля двухпавярховага з шырокімі вокнамі будынка канторы ўпраўлення, абсаджанага ліпамі, якія ўжо паднялі свае густыя кроны да самага даху, стаялі дзве «Волгі». Значыцца, начальства было тут. Цяпер можна і не спяшацца. Скачкоў запаволіў крок, каб зайсці ў памяшканне не такім задыханым.

— Міхайлавіч! — паклікаў яго нясмелы хрыплаваты голас.

Скачкоў азірнуўся,— падняўшыся з лаўкі, якіх тут некалькі стаяла пад засенню дрэў, кіраваў да яго Алесіч. Ён быў у новенькім шэрым касцюме ў чорную крапінку, у белай кашулі. Ён зусім не быў падобны на таго схуднелага і змрочнага небараку, якога Скачкоў бачыў ля возера. Толькі сумныя запалыя вочы былі тыя ж.

— Да мяне? — падаў яму руку Скачкоў.

— Вы ж запрашалі на работу.

4. Зак. 1816

— Ясна. Слухай, Іван, пагуляй трохі. Я сам першы раз сёння выйшаў. Зараз будуць прадстаўляць калектыву. Так што пачакай...

— Нічога, болей чакаў,— адказаў Алесіч.

Генеральны дырэктар аб'яднання Дарашэвіч і сакратар райкома партыі Міхейка сядзелі ў кабінеце, доўгім вузкаватым пакоі, засланым дываном. На глухой сцяне віселі шматлікія карты, дыяграмы. Тры акны выходзілі ў сквер. Праз іх цадзілася зеленаватае святло, напаўняючы пакой засяроджанай утульнасцю.

— Не спяшаемся, таварыш Скачкоў,— падаў яму руку Дарашэвіч.— Прывык там, каб цябе чакалі...

— Думаеце, лёгка адвыкнуць ад гэтага? — усміхнуўся Скачкоў.

— Канешне, перад такім штурмам яно не лішне і адпачыць,— пацiснуў яму руку сакратар райкома, хударлявы, высокі, можа, удвая маладзейшы за Скачкова.

— Пойдземце,— сказаў Дарашэвіч, нібы баяўся, што Скачкоў раптам разгаворыцца з сакратаром райкома.— Людзі зачакаліся.

У канферэнц-зале на першым паверсе сабраліся ўсе супрацоўнікі канторы, тыя рабочыя, якія ў гэтую раніцу апынуліся тут. Яны выдзяляліся сярод іншых сваімі чорнымі камбінезонамі, брызентавымі курткамі.

На невялічкім узвышэнні накшталт сцэны хаваўся пад зялёным сукном, якое звісала ледзь не да падлогі, доўгі стол. На стале, акрамя некалькіх бутэлек мінеральнай вады і шклянак, нічога не было.

Падняўшыся першым за стол, Дарашэвіч счакаў, пакуль сядуць сакратар райкома і Скачкоў, і пачаў гаварыць, яўна жадаючы паказацца дасціпным:

— Я вось гляджу на вас і не магу паверыць, што вы такія маладыя, дужыя, прыгожыя, вось які ўжо месяц запар не выконваеце план. У чым справа? Мы з вамі так і не змаглі разабрацца. Спадзяюся, што ва ўсім гэтым разбярэцца новы начальнік упраўлення, сталы, вопытны і мудры кіраўнік, якога зараз і прадставіць вам сакратар райкома партыі Міхейка Яўген Васільевіч.

Міхейка, адчуўшы ў словах, а яшчэ больш у інтанацыі Дарашэвіча прыхаваную іранічнасць і каб развеяць падобнае ўражанне ў прысутных, калі яно раптам узнікла, глянуўшы ў залу з крыху гарэзлівай усмешкай на твары, сказаў:

— Адразу хочацца адзначыць, што ў вас тут сабрала-

ся вельмі багата мудрых людзей. Вы ўсе, як тут гаварылася, умудраецеся не выконваць план. Сам генеральны дырэктар аб'яднання Віталій Апанасавіч таксама мудры чалавек. Маўляў, няхай сакратар райкома прадстаўляе новага начальніка ўпраўлення і, зразумела, сам потым адказвае за яго, а ён, Віталій Апанасавіч, нібы і ні пры чым,— у зале пракаціўся стрыманы смяшок. Счакаўшы крыху, Міхейка працягваў.— Але, прызнаюся, я шчыра рады, што мне выпаў гонар прадставіць вам таварыша Скачкова Валерыя Міхайлавіча. Ён быў у нас у райкоме партыі, мы гутарылі з ім, тое-сёе я паспеў даведацца пра яго. Валерый Міхайлавіч багата папрацаваў у сваім жыцці на розных пасадах, прайшоў шлях ад раённага работніка да работніка рэспубліканскага маштабу. Ён добраахвотна прыехаў сюды, каб узначаліць упраўленне, што гаворыць пра высакародства душы, пра пачуццё адказнасці перад народам. Людзі, якія думаюць пра сябе, пра свой уласны дабрабыт, на такое не здольны. Мяне асабіста радуе і тое, што ён родам з нашых мясцін. З суседняга раёна. І вось зараз, такім чынам, ён прыехаў працаваць на родную зямлю. Тут некалі працаваў яго бацька, тут ён партызаніў, тут гераічна загінуў у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Гэта таксама гаворыць за тое, што Скачкоў тут чалавек невыпадковы. У сувязі з гэтым ёсць у мяне яшчэ адно патаемнае спадзяванне, адна надзея. Яго папярэднік, былы начальнік вашага ўпраўлення таварыш Балыш, трэба прызнаць, умеў працаваць. Але... Часам забываў, што працуе на калгаснай зямлі. Колькі мы з ім паваявалі з-за гэтага! Бывала, цудоўны сенакос. Тыдзень-два — і касі. Перакапаюць, пераварнуць усё — бачыце, нельга пачакаць: план. Мне хочацца сказаць не толькі вашаму новаму начальніку, а і ўсім вам, каб помнілі, не забывалі, што нафта трэба краіне, але ёй не меней трэба і хлеб.

Сакратар райкома глянуў на Скачкова, чакаючы, што той нешта скажа пасля яго. Але Скачкоў не паспеў ні пагадзіцца, ні адмовіцца, як падхапіўся Дарашэвіч.

— Канешне,— пачаў разважліва ён,— гэта добра, што якраз цяпер прыехаў да нас Валерый Міхайлавіч, каб узначаліць ваша ўпраўленне. Справа ў тым, што ваша ўпраўленне — вядучае ў аб'яднанні. Усе іншыя ўпраўленні фактычна працуюць на вас. Такім чынам, таварышы, вашы поспехі — гэта поспехі ўсяго аб'яднання. Нам прыемна ўсведамляць, што з прыходам Валерыя Міхай-

4*

лавіча, вопытнага кіраўніка, справы ў вас пойдуць значна лепш. Вядома, яму не лёгка прыйдзецца. Перад упраўленнем, як і перад усім аб'яднаннем стаяць даволі складаныя праблемы,— і Дарашэвіч, часта муляючы губамі, пачаў расказваць пра гэтыя праблемы,— доўга, нудна і сумна.

Скачкоў за сваё жыццё нямала насядзеўся на шматлікіх нарадах, сходах, канферэнцыях, сімпозіумах і даўно навучыўся не слухаць прамоўцаў, калі тыя гавораць нецікава ці нясуць якую лухту. Зараз, зразумеўшы, што Дарашэвіч нічога новага для яго, Скачкова, не скажа,— ён пра ўсё гэта расказаў яму яшчэ ў сваім кабінеце пры сустрэчы,— амаль не слухаў яго, перабіраў вачыма людзей у зале.

Наперадзе сядзелі супрацоўнікі канторы. Іх можна было пазнаць па белых тварах. Нібы ніколі не бачылі сонца. Няўжо ў іх не знайшлося часу пазагараць? Відаць, любяць заседжвацца ў кабінетах, рэдка выязджаюць на аб'екты, а калі і выязджаюць, то на машынах...

Большасць жа прысутных былі маладыя, дужыя. Твары загарэлыя, спакойныя, часам сумнаватыя. Людзі прывыклі да працы, да канкрэтных дзеянняў, не любяць губляць час на гэтых паседжаннях. Сапраўды некаторыя з нецярпеннем паглядваюць на гадзіннікі, перашэптваюцца паміж сабой, іранічна ўсміхаюцца.

Наогул, усе ў зале рабілі ўражанне ўпэўненых у сабе людзей, якія ведаюць, для чаго жывуць на зямлі, з якімі ён, Скачкоў, не толькі даб'ецца выканання планаў, а наладзіць усю працу так, што да іх яшчэ паедуць вучыцца з іншых упраўленняў. Пра іх будуць пісаць у газетах, іх будуць паказваць па тэлебачанні, пачнуць ездзіць адказныя таварышы з розных устаноў вывучаць іх вопыт. На момант уявіў, як раптам прыедуць сюды яго былыя калегі, можа, нават сам Капшукоў, будуць ахаць і охаць, распытваць пра ўсё, употайкі зайздросціць яму, і міжвольна ўсміхнуўся.

Ён сядзеў і радаваўся, што прыехаў працаваць сюды.

Скачкоў так задумаўся, што не пачуў, калі Дарашэвіч скончыў гаварыць, і спытаў у яго, ці не хоча ён выступіць. Скачкоў сядзеў у маўклівай зацятасці, глядзеў перад сабой і ўсміхаўся.

— Вам слова, Валерый Міхайлавіч,— крануў яго за плячо сакратар райкома.

— А трэба? — спытаўся Скачкоў, потым падняўся,

пачакаў, пакуль спадзе ажыўленасць у зале, і канчаткова вярнуўшыся са сваіх мрояў у рэчаіснасць, сказаў: — Тут мяне занадта хвалілі, гаварылі, што вось прыйшоў Скачкоў і ўсё цяпер пойдзе як па масле. Не ўпэўнен. Калі не спраўляецца калектыў, што можа зрабіць адзін чалавек? Мы ўсе разам добра падумаем, памяркуем, як і што, і, упэўнен, нечага даб'емся. Хачу запэўніць вас, што мне прыемна стаць членам вашага калектыву. Дзякую за давер!

Дарашэвіч аб'явіў, што на гэтым сход закрываецца. Людзі застукалі крэсламі, падымаючыся, але не ўсе імкнуліся да выхаду, пачалі прабірацца бліжэй да сцэны. Акружылі Дарашэвіча, перабіваючы адзін аднаго, пра нешта пыталіся, нечага прасілі. На сакратара райкома Міхейку і Скачкова не звярталі ўвагі. Яны пастаялі крыху, чакаючы Дарашэвіча, потым выйшлі ў калідор.

— Паеду я,— сказаў Міхейка.— У вас тут свае праблемы, займайцеся імі. А мяне чакаюць,— ён глянуў на гадзіннік.

Скачкоў пайшоў праводзіць яго.

— Вы правільна сказалі пра калектыў,— затрымаўся ля машыны Міхейка.— Паправілі, так сказаць, мяне... Толькі з людзьмі разам можна нешта зрабіць. Але,— сакратар глянуў на Скачкова, усміхнуўся, садзіцца ў машыну не спяшаўся.— Але за ўсё спытаем у вас, а не ў калектыву. Гэта таксама ведайце,— і нечакана пачырванеўшы, відаць, засаромеўся, што гаворыць такое чалавеку, удвая старэйшаму за сябе, паспешліва падаў руку на развітанне.

Падняўшыся на другі паверх, у сваёй прыёмнай Скачкоў убачыў Алесіча.

— Гэта да вас, Валерый Міхайлавіч,— сказала сакратарка, мажная сівагаловая жанчына, павёўшы чарнявымі вачыма на Алесіча, паскардзілася.— Я гаварыла яму, што не ў час.

— Заходзь,— Скачкоў адчыніў дзверы перад Алесічам у свой кабінет, папрасіў сакратарку: — Злучыце мяне, Эма Рыгораўна, з начальнікам упраўлення буравых работ.

Не паспеў Скачкоў перакінуцца з Алесічам і словам, як зазваніў тэлефон.

— Прывітанне! — узяўшы тэлефонную трубку, Скачкоў усеўся на сваё месца за сталом.— Гаворыць новы начальнік НГДУ Скачкоў Валерый Міхайлавіч... Дзякую!

А вас?.. Убачымся, Сяргей Іванавіч, абавязкова ўбачымся. Крыху асвоюся тут... Сяргей Іванавіч, тут у мяне просьба адна. Мой аднавясковец без работы. Так сказаць, выкінула рака жыцця на сушу. Майстар на ўсе рукі, але... Так... Яго толькі пашліце куды далей ад цывілізацыі. Упэўнен... Дзякую!.. Праз паўгадзіны будзе... Усяго! — паклаўшы трубку, глянуў на Алесіча, які ўсё яшчэ стаяў у парозе.— Чуў? Вось так. Ідзі ў аддзел кадраў буравікоў, возьмеш накіраванне. Будзеш рабіць на буравой. Работа там вельмі адказная, так што глядзі, каб без гэтага.

— Завязаў, Міхайлавіч,— запэўніў Алесіч. Па голасу адчувалася, што яму прыемна было сказаць гэта.

— Даўно?

— Учора.

— ?!

— Праўда, Міхайлавіч,— убачыўшы, што Скачкоў яму не верыць, растлумачыў: — Думаеш, мне самому падабалася ўсё гэта? Каціўся, як камень з гары, а спыніць некаму. І сам не мог, хоць і спрабаваў. Былі дні, што ні кроплі. Я ж вам расказваў на возеры. Было, калі рыба не клявала. І не піў. Чэсна. А потым, як назло, пачала кляваць. Раз і бутэлькі не хапіла. Вядро карасёў налавіў. Прападзі пропадам тая рыба!.. Учора прачнуўся, палахаў па кішэнях, а там — вецер. А яно ж як няма за што, тады асабліва хочацца. У маці не папросіш. Прасіў не адзін раз. Сорамна, канешне. Гаварыў, што аддам. Вось сяджу на ложку і думаю, дзе б перахапіць рубель які... Раптам бачу, як пад вокнамі ў двары нечая постаць мільганула. Маці, значыцца. Вярнулася, паклала на стале пяцёрку. Сяджу, а мне здаецца, ад сораму зараз дымам сыду. Глянуў ёй у спіну і, ведаеце, упершыню заўважыў, што на ёй спадніца з маіх старых штаноў, а кофта з нейкай даўняй сарочкі маёй, а на нагах таксама мае старыя чаравікі без шнуркоў. Адзяюся, а тая пяцёрка агнём смаліць у вочы. І ўсё ж я ўзяў яе, выскачыў з хаты... Зайшоў, вядома, у сельмаг. Сяджу на возеры, а мне нешта не хочацца з той пляшкі піць. Прахадзіў дзень па лесе, прыцемкамі вярнуўся дамоў, каб не сустракацца з маці, а на досвітку на аўтобус і сюды. Дзякую вам, што не адмовілі, Міхайлавіч. Паспрабую пачаць усё спачатку. А калі што, няхай выганяюць, крыўдаваць не буду.

— Добра, калі так,— Скачкоў правёў Алесіча да

дзвярэй.— Сёння ў нас з табой знамянальны дзень, разам прыступаем да работы.

— І не можам адзначыць такую падзею,— засмяяўся Алесіч.

— Нічога, у нас з табой яшчэ багата часу наперадзе,— Скачкоў развітаўся з земляком, вярнуўся да стала. Імкліва зайшоўшы, Дарашэвіч напіўся з графіна вады, выцер мясістыя губы, лоб хустачкай.

— Ну і праблем у цябе... Што значыць не выконваць план. Гэта вельмі дрэнна для ўпраўлення, але яшчэ горш для людзей. Няма прэмій, няма прагрэсіўкі. Ведаеш, усе твае спецыялісты просяцца ў Сібір. Абступілі, адпускай — і ўсё. Нешта тэрмінова трэба рабіць. Неадкладна! А вы,— ён пранізліва паглядзеў на Скачкова,— збіраецеся яшчэ раскачвацца. Тут трэба паказаць характар, каб адразу ўсе адчулі гаспадара, сапраўднага гаспадара. Кожны дзень, кожная гадзіна бяздзейнасці ў такіх умовах — злачынства!

— Прабачце, Віталій Апанасавіч,— не стрываў Скачкоў.— Вы размаўляеце са мной так, нібы я прыехаў сюды лайдачыць, а не працаваць.

— Але і не спяшаецеся прыступаць.

— Адпачынак жа. Між іншым, законны. З вашага ведама...

— Ха! — крутануўся на пяце Дарашэвіч, падтрымліваючы рукамі свой жывоцік, нібы баяўся, што ён расплешчыцца.— У такой сітуацыі ён яшчэ думае пра адпачынак. Трэба брацца за работу неадкладна, калі не хочаце, каб ад вас разбегліся лепшыя спецыялісты. Іх гадамі збіралі з усёй краіны. Вы гэта разумееце?

— Разумею. Але, каб прыняць дзейсныя меры, трэба ва ўсім тут добра разабрацца.

— Колькі вам часу для гэтага спатрэбіцца?

— Ну, можа, дзён...— задумаўся Скачкоў. Хацелася спачатку сказаць, што яму спатрэбіцца дзён дзесяць, але падумаў, што гэта замнога: Дарашэвіч можа расцаніць гэта як няўпэўненасць яго ў сабе. А сказаць меней — можа ўспрыняць як легкадумства.

— Дзён? — нахіліўся ўсім целам да Скачкова Дарашэвіч.— Я буду рады, калі вы праз месяц мне скажаце нешта слушнае.

— Я ж гэту сістэму крыху ведаю,— пачаў апраўдвацца Скачкоў.

— Ведаеце зверху. Вашы веды занадта агульныя. Так

што не суцяшайцеся. Пачынайце з нуля. Майце на ўвазе, трэба ўсё вельмі дакладна ўзважыць, каб выбраць адзіны правільны накірунак... Каб не памыліцца з самага пачатку. Сыходзьце з рэальных магчымасцей. Не спадзявайцеся, што вас нехта выручыць. Вас выручаць ніхто не прыйдзе.

— Як-небудзь абыдземся,— буркнуў Скачкоў.

— Добра. Будзем спадзявацца. Больш дэталёва пагутарым, калі вы, так сказаць, унікніце, а пакуль бывайце! — ён усміхнуўся нерухомай ветлівай усмешкай, сунуў Скачкову сваю пульхную руку і выйшаў. Пакуль Скачкоў разважаў, праводзіць генеральнага дырэктара ці не, таго і след прастыў. Які час начальнік упраўлення стаяў за сваім сталом. Нешта трэба было рабіць. І неадкладна. Людзі чакаюць ад яго дзейсных указанняў. А ён?.. Правільна сказаў Дарашэвіч, што трэба пачынаць з нуля. Трэба дык трэба. Ён выйшаў у прыёмную.

— Эма Рыгораўна, хто ў нас самы дасведчаны, каб паказаў мне нашу гаспадарку? — пацікавіўся ў сакратаркі.

— Багата ў нас такіх,— пакорліва адказала жанчына.

— Паклічце каго-небудзь.

Хутка зайшлі ў кабінет удвух. Галоўны інжынер і начальнік тэхналагічнага аддзела.

Галоўны інжынер упраўлення Ігар Сямёнавіч Бурдзей, высокі, худы, з доўгім вузкім тварам, парэзаным маршчынамі, у шэрым касцюме і чорнай вадалазцы, якая хавала яго высахлую шыю. Ён падышоў да начальніка, ледзь прыкметна пакланіўся, пацiснуў руку, нетаропка і паважна сеў у крэсла ля сцяны, паклаў нага на нагу. Пад штанінай напялася вострае калена.

Начальнік тэхналагічнага аддзела Вячаслаў Мікітавіч Кацянок, невысокі, дробненькі, з дзюбатым носам, натапыраным чубчыкам усёй сваёй паставай нагадваў задзірыстага вераб'я. Ён першым падбег да начальніка, счакаў, пакуль з ім павітаецца галоўны інжынер, потым і сам падаў руку, сеў за прыстаўны столік, дастаў з кішэнькі джынсавай курткі блакноцік, падрыхтаваўся запісваць.

Скачкоў іх адразу пазнаў. На сходзе яны сядзелі наперадзе, часта кідаючы позіркі па прэзідыум, увесь час перашэптваліся.

Пачуўшы, што хоча ад іх начальнік упраўлення, галоўны інжынер сказаў:

— Кацянок усё пакажа. Ён часцей за мяне бывае на месцах.

Праз некаторы час Скачкоў з Кацянком ехалі на «козліку» па вузкай асфальтаванай дарозе, што ішла праз высокі зацемнены лес, які пачынаўся адразу за Зуевам.

— Раскажыце, Вячаслаў Мікітавіч, што тут робіцца,— папрасіў Скачкоў начальніка аддзела.

Скачкову спачатку падумалася, што Кацянок, відаць, з тых людзей, што вельмі абвострана, да хваравітасці, успрымаюць недахопы, ва ўсялякім разе, яго знешнасць гаварыла за гэта. Ён і зараз сядзеў нейкі натапыраны, з ледзь улоўнай нецярплівай усмешкай на тонкіх губах. Здавалася, толькі папрасі яго і ён раскажа пра ўсе недахопы, раскажа шчыра, з абурэннем, не выключана, што і з перабольшваннем. Але нечакана ён загаварыў спакойна, нават абыякава, загаварыў пра агульнае, відаць, асцерагаўся ці, можа, нават яшчэ не давяраў новаму начальству, ва ўсялякім разе, нічога новага да таго, што ўжо ведаў Скачкоў, ён не дадаў.

— Чаго вы, малады чалавек, хаваецеся? — не вытрываў Скачкоў.— Я ж не правяральшчык, якога можна вадзіць за нос, а прыехаў сюды надоўга, калі не назаўсёды.

— А што гаварыць, Валерый Міхайлавіч? — іранічна ўсміхнуўся Кацянок.— Самі ўбачыце. Хваліцца няма чым...

Скачкоў, вядома, не чакаў убачыць узорную вытворчасць, але тое, што ён убачыў на промысле і ў цэхах падземнага капітальнага рамонту свідравін, на базе вытворчага абслугоўвання, усюды, дзе яны паспелі пабыць да канца дня, яго не проста ўразіла і ўзрушыла, а ашаламіла настолькі, што ён, вяртаючыся ў Зуеў, сядзеў у засяроджанай маўклівасці, не спрабаваў не толькі тое-сёе высвятляць у Кацянка, а не хацеў нават гаварыць з ім. А хацелася, вельмі хацелася спытаць, што ж ён тут рабіў, куды глядзеў. Настрой начальніка, відаць, угадваў і Кацянок, які, зашыўшыся ў цёмны куточак на заднім сядзенні, прыціх, здавалася, нават не дыхаў,— як і не было яго. Цяпер Скачкоў не думаў, што дарэмна прыехаў сюды,— позна было думаць пра гэта,— ён ведаў, нават быў упэўнены, што не справіцца са сваімі абавязкамі, не сумее вывесці ўпраўленне з прарыву, бо зараз і сапраўды не бачыў выйсця. Успомніліся яго мроі, калі ён

сядзеў за сталом прэзідыума і разглядаў нафтавікоў у зале, і яму сорамна было за сябе, за свае такія ружовыя, такія наіўныя летуценні.

— Слухайце, Вячаслаў Мікітавіч,— звярнуўся Скачкоў да начальніка аддзела.— Калі зрабіць так. Прапанаваць рабочаму, брыгадзіру, начальніку цэха, каб падумалі, што зрабіць кожнаму з іх, каб вытворчасць працавала рытмічна, каб план выконваўся...

— Гэта было б тое, што трэба,— сказаў Кацянок.— Але толькі ў ідэальных умовах. Мы не спраўляемся з планам не таму, што людзі дрэнна працуюць ці не хочуць. Тут аб'ектыўныя прычыны. Запушчан рамонт, не хапае труб, не хапае запасных частак.

— Якое ж выйсце? — не ў Кацянка, а хутчэй сам у сябе спытаў Скачкоў.

— Я, Валерый Міхайлавіч, багата думаў пра гэта,— пачаў Кацянок ажыўлена. Падалося, што ён толькі і чакаў зручнага моманту, каб загаварыць пра гэта.— Нават склаў мерапрыемствы. Намячаў толькі тое, што можна зрабіць у нашых умовах. Паказаў галоўнаму інжынеру. Той у прынцыпе адобрыў, але сказаў, што трэба пачакаць новага начальніка. Мы ўжо ведалі, што вы прыедзеце.

— Пазнаёміце мяне з вашымі меркаваннямі?

— Абавязкова, Валерый Міхайлавіч. Яшчэ тое-сёе ўдакладню.

— Калі пакажаце.

— Трэба ўсё падлічыць. Пакуль што ў мяне там болей ідэй, чым разлікаў... Думаю, праз месяц будзе гатова з усімі разлікамі...

У Зуеў прыехалі надвячоркам.

Ала Пятроўна, адчыніўшы дзверы мужу, адразу ж знікла на кухні,— значыцца, не ў настроі, нечым незадаволена.

Скачкоў спыніўся ў парозе здзіўлены, убачыўшы на сцяне ў пярэдняй вешалку, якая яшчэ раніцай ляжала пад вузламі ў зале. На вешалцы віселі, як некалі ў Мінску, яго і жончын парасоны, дажджавікі. Зазірнуў у залю. На падлозе ляжаў дыван. Ля глухой сцяны стаялі кніжныя паліцы. Кнігі былі расстаўлены. На стале паблісквау зялёнымі лічбамі гадзіннік. Ля яго стаяла каробка з люстрай. Значыцца, не толькі навяла парадак у кватэры, а яшчэ паспела схадзіць у магазін па абнову.

У дзвярах на кухню спыніўся, доўга глядзеў, як Ала Пятроўна раскладвала на талеркі вячэру.

— Не ведаю, чаго спяшаешся? — сказаў ён са скрухаю.— Хто цябе прымушае надрывацца? Я ж казаў, зробім разам...

— Цябе дачакаешся,— у голасе нічога і блізкага да крыўды.— Ты ж так запрацаваўся, што і на абед забыўся. Ці не захацелася табе пад старасць ордэн зарабіць?

— Які ордэн! — хмыкнуў ён, пайшоў у ванную памыць рукі, а потым, вярнуўшыся, усеўся ля стала на табурэтку, прызнаўся: — Тут трэба богу маліцца, каб хоць не аскандаліцца. Я ўсяго не бачыў, але і ад таго, што ўбачыў, не вельмі весела на душы. Ніколі не думаў, што ўсё тут дабіта да ручкі. Усе свідравіны трэба рамантаваць. Уяўляеш? Нафта ледзь цячэ, паўсюдна знізіўся пластавы ціск. А каб новую станцыю пабудаваць для закачкі вады, няма ні помпаў, ні труб. На даўніх плошчах так выціскалі нафту, так стараліся заганяць пад зямлю ваду, што цяпер нафта ідзе ледзь не папалам з вадой. Некалькі свідравін зусім выйшлі са строю, так абвадніліся. Нафтаводы старыя. Не хапае рамонтнікаў, патрэбнай апаратуры. Нават тыя трубы, якія паднялі, каб ачысціць ад парафіну, не могуць ачысціць, няма патрэбнай устаноўкі. Мой папярэднік выціснуў з промысла ўсё, што мог, і ўцёк у Маскву. Вельмі своечасова збег... Адзін толькі цэх падрыхтоўкі нафты мяне парадаваў. Новы, магутны. Але працуе на палову свае магутнасці. Разлічвалі на вялікую нафту, калі будавалі. Нафты вялікай няма. І самае жахлівае, у бліжэйшы час не будзе. Геолагі нічога не могуць знайсці. А перспектыўны план разлічаны на новыя радовішчы... Дапусцім, мне ўдасца навесці на промысле нейкі парадак, але гэтым усё роўна нічога не даб'юся. Болей нафты не здабудзем, няма. Адным словам, Ала Пятроўна, папаўся твой благаверны, як курыца ў суп...— адарваўся ад талеркі, глянуў на жонку. Тая сядзела, падпёршы рукой падбародак, і стомленымі вачыма глядзела на яго.— Відаць, табе гэта не цікава. Прабач...

— Чаму ж, цікава,— уздыхнула яна.— Я не пра гэта думаю. Спадзявалася, што хоць пад старасць пажывём як людзі. Але і тут...— яна ўважліва паглядзела на мужа.— Развядзе нас работа, Валера... Зноў пачнём забывацца адзін аднаго. Так і жыццё праляціць...

# 6

Ала Пятроўна доўга стаяла перад адкрытай шафай, разглядала свае шматлікія ўборы, раздумваючы, што ёй сёння адзець. Хоць не ўсе рэчы былі новыя, але яшчэ не выйшлі з моды, асабліва тут, у Зуеве, дзе насілі і такія фасоны, ад якіх яна даўно адмовілася.

За сваё немалое жыццё Ала Пятроўна паспела ўведаць, што людзі ў большасці выпадкаў ацэньваюць чалавека не столькі па яго сапраўдных вартасцях, а па тым, як ён сумее паставіць сябе. Асабліва напачатку. Тут маюць значэнне яго паводзіны, настрой, асабліва знешні выгляд, яго адзенне. А ў жаночым калектыве дык найчасцей адзенне. Хоць праверана жыццём ісціна, што толькі сустракаюць па адзенню, але і тут бываюць выключэнні. І не так рэдка. Часам усе вельмі доўга знаходзяцца пад першым уражаннем, асабліва калі яшчэ яго расвядома падтрымліваюць. Ала Пятроўна гэта ўмела рабіць.

Але Пятроўне хацелася быць сёння святочнай, прыгожай. Нядрэнна было б, каб самай прыгожай сярод усіх настаўніц,— але ў той жа час хацелася, каб адзенне было строгім, нават без намёку на какетлівасць, хай сабе і даравальную для жанчыны,— у школьным калектыве гэта могуць прыняць за адзнаку легкадумства.

Яна дастала блакітны касцюм, які пашыла яшчэ мінулым летам і адзявала адзін толькі раз, калі хадзіла з мужам на банкет з нагоды абароны доктарскай дысертацыі дырэктарам аднаго інстытута, нейкім чынам звязанага з установай, у якой працаваў Скачкоў. Дарэчы, яна і пашыла гэты касцюм спецыяльна для таго банкету: не хацелася быць апошняй сярод жонак вучоных тузоў. Калі яна зайшла ў банкетную залу і ўбачыла, як адны, відаць, халасцякі, адкрыта, а другія ўпотайкі ад сваіх жонак зыркалі на яе, а ўсе жанчыны дружна не заўважалі яе, маўляў, няма на што глядзець, яна зразумела, што ёй удалося ўразіць усіх. І сапраўды, калі пачаліся танцы, адбою не было ад кавалераў. Лысыя, сівыя, мяшкаватыя дактары, як хлапчукі, круціліся ля яе, а ў час танца кожны аж са скуры вылузваўся, так стараўся заваяваць яе ўвагу сваёй далёкай ад навукі легкадумнай балбатнёй.

Ала Пятроўна адзела гэты касцюм, потым, узбіўшы крыху валасы, завязаўшы іх у буйны вузел на патыліцы, яшчэ доўга прыглядалася, ці не відаць дзе сівых. Учора

цэлы вечар фарбавала іх, дабіваючыся натуральнага светла-каштанавага колеру. Пацапіла залатую брошку, пакруціўшыся перад люстэркам, зняла яе, а павесіла на шыю танюсенькі, ледзь прыкметны на загарэлай скуры, залаты ланцужок. Абула белыя басаножкі на шпільцы, выйшла на кухню, паставіла рукі ў бокі, уся залаціста-блакітная, стромкая, павярнулася перад мужам, які, спяшаючыся на работу, стоячы, дапіваў свой чай. Падалося, яна не зрабіла ўражання на яго, бо ён спакойна спытаў:

— Па якой вуліцы пойдзеш?

— А навошта? — пакрыўдзілася яго абыякавасцю жанчына.

— Падашлю самазвал з грузчыкамі. Трупы падбіраць. Уяўляю, колькі мужыкоў паскручваюць сабе шыі, азіраючыся.

— Аднаго самазвала будзе мала,— бліснула яна белымі зубамі.

Сапраўды, калі яна ішла па вуліцы, то заўважала, як кідалі хуткія баязлівыя позіркі на яе стрэчныя юнакі, як здзіўлена і бессаромна лупаціліся пажылыя.

Нягледзячы на ўпэўненасць у сабе, у сваёй абаяльнасці, яна хвалявалася якраз так, як і тады, калі ішла на свой першы ўрок. Была і радасць якраз такая. Яна заўсёды бывае перад нечым урачыстым, нязведаным, новым. Ёй цяжка было сабрацца з думкамі, засяродзіцца. Ала Пятроўна ішла, шчаслівая і прыгожая, няцямна ўсміхалася свайму настрою, сонечнаму дню, стрэчным людзям. З такім настроем яна зайшла і ў школьны двор, стракаты ад чырвоных гальштукаў і белых кофтачак, ад шматлікіх букетаў кветак. Вучні стаялі купкамі, нешта расказвалі адзін аднаму, гучна і весела смяяліся. Меншыя мітусліва насіліся па двару. У маўклівым маўчанні, абляпіўшы ганак, стаялі бацькі. І ўсе яны, бацькі і дзеці, пачціва расступіліся, прапусціўшы яе да школьных дзвярэй. Гэтая пачцівасць памагла Але Пятроўне неяк адразу адчуць сябе настаўніцай. Яна, прыкметна паспакайнеўшы, зайшла ў настаўніцкую, стрымана ўсміхнулася, абы толькі мігнуць сваімі белымі зубамі, якія, ведала, надавалі яе абліччу яшчэ болей прываблівасці. Павіталася. Амаль усе,— хто адкрыта, хто мелькам, хто бакавым зрокам,— глянулі на яе. Ва ўсіх позірках яна паспела заўважыць незразумелую іранічнасць. Асабліва багата было гэтай іранічнасці на твары Антаніны Сяргееўны, дырэктаркі школы, якая ў карычневым у дробны гарошак

касцюме стаяла ля акна, прыхінуўшыся да падаконніка. І толькі адна настаўніца, драбнатварая, з сумнымі вачыма, з тонкай пасмачкай светлых валасоў, перахопленай, як у падлетка, чорнай гумкай, глядзела на яе з незразумелым спачуваннем. Ала Пятроўна, акінуўшы хуткім позіркам сябе,— ці не з'явіўся раптам які дэфект у яе адзенні,— асабліва не стала разважаць, чаму яна зрабіла двайстае ўражанне, спытала ў дырэктаркі, з якой пазнаёмілася яшчэ раней:

— Дзе журнальчык маіх вундэркіндзікаў?

— Там,— кіўнула дырэктарка на шафу з заляпанымі чарніламі паліцамі, дзе стаялі ў капронавых зялёных вокладках класныя журналы.

Ала Пятроўна знайшла журнал сёмага «Б», азірнулася, за які б столік сесці.

— Ваш стол другі ад сцяны,— сказала Антаніна Сяргееўна і растлумачыла, як першакласніцы, нетаропка, робячы націск ледзь не на кожным слове: — У нас у кожнай настаўніцы свой стол. Вы можаце за ім не толькі працаваць, але і пакідаць у яго шуфлядках сшыткі, кнігі...

— Дзякую! — Ала Пятроўна дастала з чорнага зграбнага партфельчыка белую насоўку, пачала старанна церці ёю стол, потым крэсла. Яна бачыла, што стол і крэсла чыстыя, без ніводнай пылінкі, але ёй хацелася хоць нечым уесці дырэктарку, такую важную і ганарлівую, маўляў, глядзі, паважаная Антаніна Сяргееўна, нос закапыліла, а не бачыш, што ўсё пылам зарасло. Выцершы стол і крэсла, скамечыла насоўку і грэбліва, трымаючы яе двума пальчыкамі, кінула ў сметніцу, што стаяла ў кутку пакоя. Уселася ў чаканні, што яе выхадка абавязкова выкліча рэакцыю ў прысутных. Можа, хто засмяецца ці абурыцца. У настаўніцкай стаяла такая напружаная цішыня, што, здавалася, ніхто не дыхаў. Чулася, як недзе, заблытаўшыся ў павуціні, ціха дудзела, заміраючы, муха.

Дырэктарка глянула на маленькі залаты гадзіннік, задраўшы крыху рукаў на кастлявай руцэ, і спакойна, нібы нічога прыкрага не здарылася, запрасіла:

— Ну што ж, таварышы, пара на лінейку. Майце на ўвазе, першы ўрок будзе скарочаны якраз настолькі, колькі працягнецца лінейка,— і яна, счакаўшы, пакуль выйдуць усе, пакінула настаўніцкую апошняй.

У двары, разабраўшыся па класах, вучні стаялі доўгай шарэнгай перад школай.

Ала Пятроўна не ведала свайго класа, таму крыху затрымалася на ганку, чакаючы, пакуль класныя кіраўнікі падыдуць да сваіх класаў, і тады яна лягчэй знойдзе свой.

— Выглядаеце свой сёмы «Б»? — спытала ў яе невысокая кругленькая ў сціплым цёмна-сінім плацці настаўніца, гледзячы на яе круглымі блакітнымі па-дзіцячы наіўнымі вачыма. Прычоска ў яе таксама была нейкая дзіцячая — кароткая стрыжка, пад хлопчыка.— Пойдземце, пакажу.

Ала Пятроўна прыдзірліва агледзела сваіх вучняў,— усе загарэлыя, цыбатыя, рослыя. Ёй нават падалося, што яны выглядаюць лепей за астатніх, болей засяроджаныя, не такія шумлівыя. У іх вобліку нешта было ад разважлівай даросласці. Лепей жа разгледзець сваіх вучняў ёй не ўдалося. Антаніна Сяргееўна, прыняўшы рапарт ад фізрука школы, пачала гаварыць. Ала Пятроўна хацела яе паслухаць. Каб разабраць словы, даводзілася напружвацца, бо гаварыла дырэктарка не вельмі выразна, глухавата. Добра, што гаварыла мала. Павіншавала вучняў і выкладчыкаў з пачаткам новага навучальнага года, пажадала поспехаў у вучобе. Пасля прамовы дырэктаркі дзесяцікласнікі па камандзе фізрука выйшлі наперад, спыніліся супроць першакласнікаў, уручылі ім свае сувеніры — паштоўкі, кніжкі, ручкі... Калі зазвінеў званок, яны падхапілі малых на рукі, панеслі ў школу. Першакласнікі, убачыўшы сваіх бацькоў, развітваліся з імі, махаючы рукамі.

Расчуленая дырэктарка выцірала вочы насоўкай.

Ала Пятроўна таксама адчула, як нешта заказытала ў яе вачах, яна неўпрыкметку павяла вакол вачэй рукою, не хацелася паказваць слёзы.

У настаўніцкай, куды Ала Пятроўна забегла ўзяць класны журнал, яе спыніла ўсё тая ж настаўніца з блакітнымі наіўнымі вачыма.

— Вы, значыцца, ідзеце ў сёмы «Б»? — і яна дробненька рассмяялася немаведама чаго.— Мой былы клас. Ой, як я шкадую, што не змагла болей работаць з імі,— такія цудоўныя дзеткі, такія цудоўныя... Але, ведаеце, дзеці ёсць дзеці. За лета пазабываюць, пачынаеш патрабаваць, губляюцца... Асабліва калі новы настаўнік. Потым прывыкаюць, і ўсё ідзе нармальна. Але спачатку...

— Хто ж іх так налякаў, што баяцца новых настаўнікаў? — спытала Ала Пятроўна, улавіўшы нейкую пітуч-

насць, няшчырасць у голасе настаўніцы. Адказу не стала чакаць, няхай не думаюць, што яна ахвотніца збіраць усялякія плёткі.

Ала Пятроўна нетаропка ішла па доўгім калідоры, думаючы, як правесці свой першы ўрок. Некалькі гадзін адводзілася на паўтарэнне пройдзенага матэрыялу. Усё паўтараць, вядома, няма сэнсу, ды і часу не хопіць. Трэба выявіць, што найбольш забылі дзеці. Але як выявіць? Яны ж, як сказала гэта сіняя, усё забываюць за лета. Можа, даць дыктант? Але дыктант заўсёды выклікае ў дзяцей насцярожанасць, а цяпер, у першы дзень заняткаў, школьнікі навогул могуць так разгубіцца, што ніякіх ведаў не выявіш. Яна са школы яшчэ помніць, як перад дыктантам, асабліва нечаканым, заўсёды бралі дрыжыкі...

Вучні сустрэлі Алу Пятроўну насцярожана. Дружна падняліся, паслухмяна селі, без лішніх гукаў і характэрнага ў такіх выпадках тлуму. У прыціхлым чаканні глядзелі на яе.

— Мяне завуць Ала Пятроўна,— сказала яна, спыніўшыся ля стала, на які паклала класны журнал.— Мяне прызначылі да вас класным кіраўніком. Будзем з вамі вывучаць рускую мову і літаратуру. А сёння... Сёння мы паўторым тыя правілы, якія вы вучылі ў мінулым годзе і, канешне, усе іх добра ведаеце.

— У-у-у! — дружна загудзеў клас, пратэстуючы.

— Я вас зразумела,— сказала Ала Пятроўна.— Вам зусім няцяжка ўспомніць мінулагоднія правілы, вы іх ведаеце і не хочаце дарэмна губляць час. Вам, відаць, адразу хочацца вучыць новыя...

— Не-е,— цяпер смялей і весялей адказалі дзеці. Па настрою было відаць, што новая настаўніца пакуль што ім падабалася.

— Вам зараз вельмі хочацца расказаць адзін аднаму, як вы правялі лета, як адпачывалі, што бачылі цікавага. Так, дзеці?

— Та-ак! — хорам адказалі ўсе.

— Ну і выдатна! — рашэнне напісаць з дзецьмі пра канікулы прыйшло неяк нечакана, зараз. Хай вось сядзяць і пішуць. Будзе адразу відаць, якія яны пісьменныя, як мысляць.— Вы ж разумееце, калі будзеце расказваць па чарзе, то на гэта трэба багата часу. Калі пачнем расказваць усе адразу, такі гвалт будзе, нікому ўрокі не дадзім весці. Таму зробім так. Спачатку дастанем свае сшыткі. Відаць, вы за лета не забылі, што ў школу трэба

прыносіць сшыткі. Няхай кожны з вас напіша пра сваё лета. Згода? Тады не будзем губляць часу.

Вучні заляпалі вечкамі, дастаючы сшыткі. Было ўражанне, што ім вельмі спадабалася заданне. Некаторыя адразу ж узяліся пісаць, другія сядзелі, уставіўшыся вачыма перад сабой, думалі, іншыя перашэптваліся, відаць, раіліся, пра што і як пісаць. Няхай і параяцца, абы не перапісвалі адзін у аднаго.

Ала Пятроўна сядзела за сталом, гартала падручнік за мінулы год, глядзела, што вучылі дзеці, зрэдку паглядвала на найбольш непаседлівых, але заўваг не рабіла: ёй хацелася хутчэй даведацца пра кожнага, пра яго характар, паводзіны. Перашэптванне, прыглушаны смяшок, які часам узнікаў то ў адным, то ў другім месцы класа, чуліся да самага званка. Відавочна, не ўсе дзеці захапіліся заданнем. Гэта не засмучала настаўніцу. Пасля доўгіх канікул, разважала яна, сапраўды нялёгка прымусіць сябе да ўдумлівай работы. Для гэтага трэба пэўны час.

Празвінеў званок. Вучні навыперадкі пачалі насіць сшыткі ёй на стол. Ніхто не затрымаўся, каб закончыць сказ, дапісаць слова, нібы ўсе толькі сядзелі і чакалі званка.

Наступная гадзіна ў Алы Пятроўны была вольная — «фортачка», як гавораць настаўнікі. Ёй карцела хутчэй паглядзець, што панапісвалі яе вучні, і таму, як толькі настаўнікі разышліся на ўрокі, яна дастала сшыткі, аўтаручку з чырвоным чарнілам і пачала чытаць. Адразу ж зразумела, што чытаць нечага, больш дакладна, немагчыма было чытаць напісанае. Складвалася ўражанне, што школьнікі наогул забыліся, як пішуцца літары. Памылкі былі ў кожным слове. А пра кропкі ды коскі нібы і не чулі. Сказы незакончаныя, думкі невыразныя. Некаторыя зусім нічога не напісалі,— здалі чыстыя сшыткі ці намалявалі сабачак, рыбак, птушачак. Няўжо так можна ўсё забыць за лета, за якіх тры месяцы? Яны ж, відаць, чыталі кніжкі, пісалі з піянерскіх лагераў бацькам. У журнале за мінулы год ва ўсіх амаль пяцёркі ды чацвёркі. Рэдка ў каго тройка. Мяркуючы па ацэнках, клас — з мацнейшых у школе. Відаць, за лета проста адвыклі ад вучобы. Не варта было даваць ім такое заданне. Толькі час патраціла. Багата захацела яна ад дзяцей. Не дарэмна ж першыя гадзіны заўсёды адводзяцца для паўтарэння. Трэба было паўтараць, не мудрыць. Пасля даць дыктант.

5. Зак. 1816

Вось тады б і выявіліся веды кожнага. Адным словам, паспяшалася. Але нічога. У сёмым «В» яна так не зробіць. Там яна дасць урок які трэба,— будзе паўтараць з вучнямі мінулагодні матэрыял, нават не будзе ні пра што пытацца ў іх, будзе толькі сама расказваць. Каб болей зацікавіліся... Помніцца, яна так рабіла ў гады свае маладосці, калі пачынала працаваць у школе, так яна зробіць і зараз.

Вучні слухалі яе ўважліва. Аж раты паразяўлялі. Яна расказвала пра рускую мову, прачытала, што пра яе гаварылі вялікія пісьменнікі, вучоныя, чытала на памяць вершы Пушкіна, Някрасава. І ўсё ж у канцы ўрока не ўтрымалася, каб не праверыць, як ведаюць прадмет вучні і гэтага класа: спадзявалася, можа, абрадуюць яе, развеюць дрэннае ўражанне, якое засталося ад папярэдняга класа.

Ала Пятроўна выклікала да дошкі дзяўчынку, якая сядзела на першай парце і ўвесь урок не зводзіла з яе вачэй. Такая прыкладная, уважлівая вучаніца. Прадыктавала сказ. Дзяўчынка зрабіла адну памылку. Для першага дня гэта было нядрэнна. Спытала ў дзяцей, ці ўсё правільна напісана на дошцы. Ніхто з вучняў не знайшоў памылкі. Да званка настаўніца паспела выклікаць да дошкі некалькі чалавек. Яны яшчэ болей нарабілі памылак. І зноў ніхто не ўбачыў іх. «Вясёленькае ў вас лета было»,— сказала яна, загортваючы класны журнал. Яна яшчэ не магла паверыць, што дзеці былі так запушчаны. Не спяшалася з канчатковымі вывадамі. Гэта можна зрабіць толькі праз некаторы час. Пакуль ясна адно: дзеці забылі ўсё і з імі нямала прыйдзецца павазіцца. Некаторыя тэмы, можа, прыйдзецца вучыць занава. Што ж, жыццё пакажа. А пакуль... Пакуль яна адчувала стомленасць ва ўсім целе. Ад шуму і галгатні ў калідоры, ад непрывычнай напружанасці на ўроках балела галава. Ад пылу, які вісеў у паветры, пяршыла ў горле. Ёй хацелася пайсці дамоў у ціхую кватэру, змыць з сябе пыл, які яна, здавалася, адчувала сваёй скурай, адпачыць.

Ала Пятроўна зайшла ў настаўніцкую, склала ў партфель сшыткі, не хацела, каб яны раптам трапілі каму на вочы, перапісала расклад на заўтрашні дзень, спусцілася па лесвіцы на першы паверх. У калідоры сутыкнулася з дырэктаркай. Антаніна Сяргееўна павольна ішла, выносячы наперад болей, чым звычайна, кароткія, пасечаныя

сінімі вузельчыкамі састарэлых вен ногі, любуючыся, як прыгожа сядзяць на іх чорныя бліскучыя лодачкі. Відаць, ёй падабалася яе абнова,— на твары застыла шчырае замілаванне сабой. Убачыўшы Алу Пятроўну, спахапілася, узняла галаву, зрабіла твар сур'ёзным, строга спытала:

— Як першыя ўрокі?

— Дзякую!

— А дзеці?

— Вы ведаеце іх лепей за мяне.

— Мы, вядома, ведаем,— няпэўна адказала дырэктарка. Але Пятроўне падалося, што яна нібы сумелася, але адразу ж узяла сябе ў рукі, уладна спытала, як і паложана начальству: — Мяне цікавіць ваша ўражанне.

Ала Пятроўна ўсміхнулася той абыякавай усмешкай, за якой заўсёды добра хаваць свой сапраўдны настрой:

— Дзякую за клопаты, Антаніна Сяргееўна. За давер. Калі вы адважыліся даручыць мне такіх дзяцей, то вы... вельмі высокай думкі пра мае педагагічныя здольнасці.

— Я адразу паверыла вам,— дырэктарка ці сапраўды не зразумела іроніі ў словах настаўніцы, ці пастаралася знарок не заўважыць яе.— Калі чалавек пасля такога перарыву і ў такім узросце вяртаецца ў школу, значыцца, у яго сапраўднае прызванне педагога. Гэта вельмі важна ў нашай рабоце. Можа, нават самае галоўнае. Без прызвання, мая дарагая, тут нечага рабіць,— яна даволі ветліва ўсміхнулася і ўжо цішэй, як па сакрэту, сказала: — Помніце, у нашай школе вельмі спецыфічныя школьнікі. Горад расце хутка. З'язджаюцца людзі не толькі з акаляючых вёсак, а, можна сказаць, з усея краіны. І часта, на вялікі жаль, не самыя лепшыя. Сярод іх нямала і такіх, якіх нідзе не хочуць трымаць. Многія наогул часта мяняюць месца жыхарства. Дзеці вучацца ў розных школах... Ад нас патрабуюць, каб не было адстаючых. Бо калі вучні маюць двойкі, лічыцца, што настаўнік не ўмее з імі працаваць. Так што хай вас не бянтэжаць розныя нечаканасці, без якіх нельга абысціся ў нашай рабоце, асабліва напачатку. Але, галоўнае, не губляцца, не панікаваць. Спакойна і ўпарта ісці да мэты. Спадзяюся, у вас усё будзе добра,— цяпер дырэктарка ўсміхнулася ёй больш адкрыта, хоць і гэтая ўсмешка падалася Але Пятроўне загадзя падрыхтаванай.

5*

— Дзякую за шчырыя пажаданні,— развіталася Ала Пятроўна.

Але радасці ад увагі начальства не было, а нейкая прыкрасць, расчараванне. Падазрона багата гавораць ёй пра нейкія адметныя асаблівасці яе вучняў і тая сіняя, і зараз — дырэктарка. Як згаварыліся. Стараюцца падрыхтаваць да нейкай нечаканасці, ходзяць вакол кругамі, на прамую выйсці не асмеляцца. Першая гаварыла пра папалахлівасць вучняў, а гэта пра нейкія загадкавыя нечаканасці. Пра ўзрост нагадала, нібы сама маладзенькая. Ці сапраўды тупіца, ці прыкідваецца?

Ала Пятроўна спынілася на ганку, уражаная цішынёй і чыстым празрыстым паветрам, потым скіравала па асфальтавай дарожцы да выхаду са школьнага двара. Паабапал раслі старыя з абвіслым голлем яблыні. Траву пад дрэвамі скасілі, відаць, даўно, бо тая ляжала ў счарнелых пакосах, прашытых зялёнымі стрэлачкамі атавы. Пакосы пахлі сапрэлым асеннім лісцем. Там-сям сярод травы, на невялікіх градках, ці клумбах, жаўцела пеўнева галава, чырванелі нізкарослыя чарнабрыўчыкі. Ад гэтых бездапаможных яблынь, ад пакінутых пакосаў і ад запушчаных кветнікаў веяла нейкай даўнінай, супакоенасцю, затоеным сумам. Яна ішла ў сцішанай задуменасці, адчуваючы, як паступова вызваляецца ад нервовай напружанасці, ад тлумнасці. Нагадалася далёкае дзяцінства, той час ранняй восені, калі яна прыходзіла са школы, залазіла на яблыню,— у іх садзе расла старая пуцімка,— усаджвалася на тоўстую выгінастую галіну, як у крэсла, грызла духмяны жаўтабокі яблык, глядзела праз разрэджанае лісце ў сіняе неба...

— Я чакаю вас,— пачулася побач. Ала Пятроўна аж здрыганулася ад раптоўнасці, падняла вочы і ўбачыла настаўніцу з тоненькай пасмачкай светлых валасоў на патыліцы.— Ну як прайшлі ўрокі?

«Ой, і гэта туды»,— з прыкрасцю падумала Ала Пятроўна і паспешліва, каб хутчэй адвязацца, буркнула, паскорыўшы крок: — Нічога!

— Мне спачатку таксама падалося, што нічога,— настаўніца не заўважыла ці, можа, знарок не заўважала настрою Алы Пятроўны. Забягаючы наперад, старалася заглянуць у твар.— Ніхто ж нічога не падказаў. Пакуль сама разабралася, дык позна было. Тады ўжо не было вінаватых, тады толькі я засталася вінаватая.

Ала Пятроўна акінула поглядам невысокую хударля-

вую постаць жанчыны ў нейкім шэрым плацці,— нібы знарок так адзелася, каб не кідацца ў вочы. З твару бязрадасная, як пакрыўджаная, і даўно не заўважае гэтай пакрыўджанасці, прывыкла да яе, вось і носіць на сабе яе заўсёдны адбітак.

— Прабачце, я не ведаю, як вас...— Але Пятроўне стала шкада яе.

— Фаіна Алегаўна...

— У чым вас абвінавацілі, Фаіна Алегаўна?

— Навешалі грахоў, не пералічыць,— адчуўшы ўвагу да сябе, весялей сказала Фаіна Алегаўна.— Што не люблю дзяцей, што сапсавала лепшыя класы, што наогул не ўмею працаваць. А спачатку ўсе ў адзін голас гаварылі, што я сапраўдны педагог, што ў мяне прызванне.

— Мае таксама дрэнныя класы?

— Дзеці, можа, нядрэнныя. Мае, напрыклад, аказаліся вельмі добрыя. Але нічога не ведалі, былі вельмі запушчаныя. Як ніколі ніхто іх не вучыў. Я, праўда, адразу ўбачыла, што яны такія. Але падумала, што, можа, забылі за лета. Ды мне так і ўнушалі. Спадзявалася, за месяц-другі выраўняюцца. Не выраўняліся. На педсавеце ў мяне спыталіся, чаму ў маіх вучняў такія дрэнныя ацэнкі. Маўляў, раней былі выдатнікі, а цяпер... А я вазьмі і скажы, што дзеці былі запушчаныя. Што пачалося! Ледзь не з'елі. А тая, з блакітнымі вачыма, кошкай кідалася. Мяне самую трэба праверыць, крычала. Ці ўмею я вучыць дзяцей. І праверылі. Ведаеце, калі захацець, то можна заўсёды знайсці недахопы. Нагаварылі абы-чаго. Праўда, гэтым і абмежаваліся. Бачылі, што працую шчыра, не шкадую сябе, але рот заткнулі. Я рабіла, старалася, але маўчала. Прыціхла... Вясной далі міністэрскую дыктоўку, мае дзеці напісалі яе лепей за ўсіх у школе. Тады пачалі мяне хваліць, маўляў, вось прыслухалася да крытыкі, зрабіла вывады. Спрачацца не будзеш. Знешне ўсё так.

— А на справе?

— На справе? Абдурылі мяне. Вас таксама хочуць абдурыць. Я таму і вырашыла ўсё расказаць вам. Каб ведалі. Бачу, вы мацнейшая за мяне. Я адразу гэта заўважыла. Можа, сумееце іх правучыць, калі ўсё загадзя будзеце ведаць... Спачатку, калі пра вас даведалася, падумала, што не асмеляцца яны паступіць так з вамі, як са мной. Потым бачу, вам далі якраз такія класы, як некалі і мне.

— У школе багата запушчаных класаў? — яна, узяўшы пад руку Фаіну Алегаўну, прыцішыла хаду.

— Не. У тым і сакрэт, што не. Запушчаныя толькі вашы. Астатнія нармальныя. Ды і ваш запушчаны толькі па аднаму прадмету. Настаўнікі тут нядрэнныя. Ёсць вельмі добрыя. Калектыў даўні, жывуць усе як адна сям'я. Адзін за аднаго гарой. Але ёсць адна настаўніца, якая круціць нават дырэктаркай. Дарэчы, самая дрэнная настаўніца. Гэта, з блакітнымі вачыма, што падыходзіла да вас. Святлана Маркаўна. Дура дурай. Бот. Знешне нічога, нібы разумная. Язык як памяло. Пагаварыць умее. Яна вашы класы вяла. Цяпер ёй далі новыя. Гады за два давядзе іх да ручкі, потым зноў перададуць навічку.

— Чаму ж з ёй нянькаюцца? — не верыла Ала Пятроўна пачутаму.

— Усё проста. Антаніна Сяргееўна як дырэктарка, асабліва што тычыцца розных гаспадарчых пытанняў, нуль. У Святланы Маркаўны муж будаўнічы начальнік. Жонку, гавораць, гатоў на руках насіць, для яе зробіць усё. Па яе просьбе ён рамантуе школу. Ні адна школа ў горадзе не выглядае так, як наша. Самая лепшая. Дырэктарцы слава. Дык яна ж для гэтай жонкі будаўніка зробіць усё. І робіць. Вельмі баіцца, каб яна не перайшла ў другую школу. Стараецца не пакрыўдзіць. Таму Святлана Маркаўна лічыцца лепшай настаўніцай. Хоць усе добра ведаюць, якая яна настаўніца. Паспяховасць яе вучняў самая высокая, урокі самыя лепшыя. Асабліва адкрытыя. Ёй за месяц гавораць пра адкрыты ўрок. Яна рыхтуе яго як спектакль. Загадзя кожнаму вучню раздасць пытанні, і тыя зубраць адказы. У кожнага вучня дублёр. Калі хто захварэе, ёсць кім замяніць. Гавораць, калі вучань адкажа на «выдатна», пяцёрка ставіцца і яго дублёру. Каб той, значыцца, не крыўдзіўся. Вось так.

— А куды завуч глядзіць?

— Завуч... У яго жонка хворая, трое дзяцей. Часта спазняецца. Бегае па магазінах. Які з яго змагар? Маўчыць як рыба... Так што Віктар Іванавіч у яе пад пятой... А каб гэтая... Святлана Маркаўна не нанесла вялікай шкоды школьнікам, яе звычайна праз год-два перакідваюць на новыя класы. Вось так. Зараз вы атрымалі яе класы. Цяпер яны будуць перад вамі замятаць сляды, гаварыць, што дзеці выдатныя, але за лета ўсё забылі... У першай чвэрці вам не дазволяць паставіць двойкі. Вы паставіце тройкі. Праз паўгода вы ўжо не паскардзіцеся,

што дзеці дасталіся запушчаныя. За паўгода, вам скажуць, можна было навучыць. І вы ў іхніх руках. Пытанні ёсць?

— Як гэта не дазволяць паставіць двойкі? — абурылася Ала Пятроўна.— Я працавала ў школе, праўда, даўнавата, але заўсёды ставіла тыя ацэнкі, якія трэба было.

— То даўно, а то цяпер... У вас дырэктар не прыме ведамасць за чвэрць, калі там будзе стаяць хоць адна двойка. Я некалькі разоў насіла. Няправільная ведамасць, і ўсё. А пра двойкі не кажуць. Вось так. Хоць з вамі, можа, не будуць так абыходзіцца. Ваш муж начальнік. Зробіць што карыснае для школы, і вы будзеце таксама лепшая настаўніца.

— Муж, можа, зрабіў бы, але я,— засмяялася Ала Пятроўна,— не стану яго прасіць. А потым, што могуць нафтавікі?

— Могуць... Калі дырэктарка даведалася, што мой у канторы робіць... Ой, я ж забыла вам сказаць, што мой планавіком у вашага працуе. Ён расказаў мне, што ў іх новага начальніка жонка настаўніца. Гэта пра вас. Калі вы прыйшлі ў школу, я адразу вырашыла, што ўсё раскажу вам, каб вы не папаліся, як я... Дык вось, даведалася дырэктрыса пра майго мужа і просіць мяне, каб нафтавікі нарэзалі з буравых труб слупкоў для агароджы вакол школы. Дачулася, што тыя трубы з японскай сталі, вось і захацелася ёй вечныя слупкі паставіць. Мой, канешне, не мог гэтага зрабіць. А вось я ў школе цяпер ніхто. Трымаешся толькі тым, што працуеш, не шкадуючы сябе. Ім няма да чаго прыдрацца... Во, ледзь не забылася яшчэ пра адно сказаць. Наша дырэктарка не церпіць, калі хто з настаўніц адзяваецца прыгажэй, чым яна. Калі вы сёння зайшлі ў настаўніцкую, я адразу падумала, што дырэктарка вам ніколі не даруе. Ну, што вы прыгажэй за яе выглядалі. Гэта расцэньваецца як падрыў яе аўтарытэту. Тут яна непрымірымая. Яна ж да чаго дайшла? У класе Святланы Маркаўны вучыўся сын закройшчыка. Цяпер ён будзе ў вас. Журавель, здаецца, яго прозвішча. Дык яны дамовіліся з закройшчыкам, каб ён нікому з настаўніц нічога не шыў, толькі ёй. А сыну яго ставілі пяцёркі... Яе хваробу ведаюць усе, таму стараюцца адзявацца так, каб не кідацца ў вочы.

— Тады ад яе аўтарытэту хутка нічога не застанецца,— весела сказала Ала Пятроўна.— І вучням буду ставіць тыя ацэнкі, якія яны заслужаць... Вы гаворыце, наша

школа лепшая ў горадзе? Нічога, у першай жа чвэрці яна стане самай горшай...

— І правільна будзе. Я не вытрывала іх націску, уступіла,— пазайздросціла Фаіна Алегаўна яе рашучасці.— Я вельмі хачу, каб вы выстаялі.

— Дзякую, што папярэдзілі... Хацелася б з вамі болей пагаварыць. Можа, зойдземце да мяне? — запрасіла Ала Пятроўна настаўніцу.— Паабедаем разам...

— Ой, дзякую, Ала Пятроўна. Трэба дамоў бегчы, я і так забарылася. Недзе мае школьнікі пад дзвярыма стаяць. Двое ж іх у мяне. Іншым разам,— і яна хуткімі дробненькімі крокамі, ледзь не подбегам, размахваючы цяжкой і вялікай сумкай з сшыткамі, паспяшалася на другі бок вуліцы, дзе да аўтобуснага прыпынку набліжаўся аўтобус.

Тое, што пачула Ала Пятроўна ад Фаіны Алегаўны, асабліва не засмуціла яе, а нават надало ваяўнічага настрою. Што ж, жыццё падкідвае сапраўднае выпрабаванне, яна пастараецца не схіляць галаву перад ім.

Дома, адразу ж пасля абеду, яна яшчэ раз перагледзела ўсё сваё адзенне ў шафе, падабрала назаўтра яркажоўтае плацце. Яно для школы было занадта кідкае, занадта святочнае. Але нічога... Хай пазлуецца Антаніна Сяргееўна!

Ала Пятроўна ўзяла падручнікі і села рыхтавацца да ўрокаў. За васемнаццаць гадоў яна забыла свой прадмет і цяпер, як прыкладная вучаніца, вучыла ўсё спачатку.

Калі Скачкоў прыйшоў дамоў, ён застаў яе за сталом. Яна так захапілася, што забыла ўключыць і святло, сядзела ў прыцемках.

— Як справы? — спытаў ён, разуваючыся.

— Лепей не трэба,— паднялася, памахала закляклымі рукамі, паспяшалася на кухню.

Скачкоў зразумеў, што жонка не хоча шчыраваць, і болей ні пра што ў яе не пытаўся. Разуўшыся, прыхапіў халат у чырвоную і сінюю палосачку, пайшоў у ванную.

## 7

Зноў не спалася...

Алесіч некалькі гадзін ляжаў з адкрытымі вачыма. Праўда, звечара ён задрамаў, а потым сон як рукой зняло. Можа, дызелі сваім гулам перашкаджаюць? Дык не.

Ён паспеў прывыкнуць да іх. А гукі дробныя, выпадковыя, якіх раней не чуў, цяпер лезуць у вушы. Вось нехта на буравой падаў голас. Той голас, здаецца, гучыць побач. Нехта прайшоў паўз вагончык, трэснуў сучком, наступіўшы на яго. Гэты гук стрэлам адазваўся ў яго галаве. Нават камар, які зазвінеў над вухам, які звычайна яшчэ болей навяваў сон, цяпер настолькі раздражняў яго, што Алесічу хацелася падхапіцца, уключыць святло, спаймаць даўганосага парушальніка цішыні. Ён і падхапіўся б, каб у вагончыку не спалі нафтавікі.

Алесіч уюном круціўся на металічным ложку са скрыпучай сеткай і ніяк не мог знайсці для свайго цела, стаўшага вельмі чуйным да самых нязначных бугаркоў, нават да складак у прасцірадле, найбольш зручнай паставы. А тут яшчэ і матрац такі мулкі, нібы не ватай, а каменнем набіты.

А самае прыкрае, што бяссонніца нараджае незразумелую ўстрывожанасць, самотнасць. Хацелася некуды пайсці, з некім пагаварыць, паскардзіцца, наогул пабыць з кім-небудзь, перакінуцца словам. Хоць разбудзі каго з таварышаў. Але кожны, хто зараз моцна спіць, напрацаваўшыся, не вельмі абрадуецца, калі патрывожыш яго без дай прычыны. Каб быў сябра, той зразумеў бы. А то ўсе чужыя. Хоць шчырыя, таварысцкія, чулыя, але чужыя.

Калі ж гаварыць праўду, яму зараз ніхто не паможа. Нават самы блізкі сябра.

Было з ім такое, і не адзін раз. Яшчэ да лячэння. Ён тады падымаўся, выпіваў гарэлкі, калі была, ці піва і засынаў. У лячэбна-працоўным прафілакторыі, асабліва ў першыя месяцы лячэння, ён глынаў нейкія пілюлі. Таксама памагалі.

Каб знацьё, што такое здарыцца з ім тут, накупляў бы тых пілюль, хай былі б. А то ляжы цяпер, пакутуй.

Пасля бяссоннай ночы не вельмі напрацуеш.

А можа, яго хвароба ні пры чым? Спаў жа тут, на буравой, і вельмі добра спаў. Раніцай сам не прачынаўся, таварышы будзілі. А можа, у першыя дні, стараючыся даказаць, што ён не такі, як лічыць майстар, рабіў больш зацята, больш стамляўся.

Калі Алесіч упершыню прыйшоў на буравую, ён не застаў майстра на месцы. Яму параілі пасядзець у вагончыку, пачакаць, той абавязкова загляне. Ён сядзеў і чакаў. Раптам пачуліся хуткія крокі і блізка, ля самых дзвярэй, заклапочаны голас:

— Я хутка. Тут прыслалі нейкага алкаша, пагутару з ім...

Зайшоў каржакаваты хлопец, з круглым румяным тварам чалавека, які багата жыве на свежым паветры. У яго былі карыя вясёлыя вочы пад ледзь прыкметнымі белымі брывамі. Пад носам тырчэлі рэдзенькія, як пух, вусы. Павітаўшыся з Алесічам, ён сеў за самаробны столік.

— Вы да мяне? — спытаў нечакана строгім баском.

— Мне трэба Сцяпан Юр'евіч Рослік.

— Я Рослік.

Алесіч падаў яму накіраванне.

— Мне па рацыі перадавалі пра вас з аддзела кадраў,— усё з той жа строгасцю гаварыў майстар.— Што ўмееце рабіць?

— Паколькі я алкаш,— пачаў Алесіч,— то вы разумееце, нідзе доўга не затрымліваўся. Пабыў на ўсялякіх работах, так што ўмею багата чаго. Токар, фрэзероўшчык, слесар, шафёр, сантэхнік, ліфцёр, электрык...

Майстар пачырванеў так, што скура на галаве засвяцілася праз бялявыя валасы ружовасцю.

— Мне падабаецца ваша шчырасць,— памаўчаўшы, сказаў ён.— Але ж... Разумееце, у нас такая вытворчасць...

— Разумею. Не хвалюйцеся, я даў слова не такому начальніку, як вы, што завязаў на ўсё жыццё.

— Ну добра,— глянуў недаверліва майстар на Алесіча.— З дызелямі знаёмы?

— Тры гады ажыўляў іх на аўтарамонтным заводзе.

— Цудоўна! У нас якраз ёсць месца памочніка дызеліста. Згода?

— А я што? — цялёпнуў плячыма Алесіч.— Куды пашлюць.

Памочнікам, ці другім дызелістам, як пісалася ў загадзе, ён прарабіў некалькі дзён. Болей не змог. Засумаваў. Не цікавая была работа. Сноўдайся паміж металічнымі аграмадзінамі, падлівай масла, сачы, каб не пераграваліся, каб быў запас саляркі. І ўсё. Не тое што галаве, рукам нечага рабіць.

Сустрэўшы неяк у канцы змены майстра, Алесіч спытаў у яго:

— Што, камандзір, да мяне няма прэтэнзій?

— Няма. Каб і далей так, то...

— Хутка будуць. Пакінеце на гэтай рабоце, абавязкова нап'юся. Сумная работа, камандзір. Ходзіш як лунацік які. Дайце што весялейшае.

— Не адпраўлю ж я вас наверх?
— Чаму б і не? Там работа весялейшая.
— Весялейшая ж,— хмыкнуў майстар.— Добра, пойдзеце наверх. Якраз адзін верхавы едзе на сесію ў інстытут, месца ёсць. Пакуль што. А там пабачым. Калі не засумуеце...

Паназіраўшы знізу, як і што робіць верхавы, а потым і пастаяўшы наверсе ў люльцы побач, Алесіч даволі смела ўзяўся за работу, такую простую і нескладаную знешне. Хацеў паказаць усім, асабліва майстру, які ён лоўкі. Узяў крук, памкнуўся перахапіць свечку, падцягнуць да элеватара, каб той апусціў яе ў свідравіну, але свечка вырвалася, затанцавала сярод металічных бэлек, як у клетцы. Самае прыкрае было ў тым, што чым болей ён стараўся, тым горш у яго выходзіла. А тут яшчэ Рослік стаяў унізе і назіраў за ім. Нарэшце майстар не вытрываў, падняўся наверх, паказаў, як трэба заводзіць свечку ў элеватар.

— Галоўнае, Іван Андрэевіч, не спяшайцеся. Рухі павінны быць дакладныя. Нічога, калі элеватар пачакае якую секунду. Калі прыстраляецеся, вы яго будзеце чакаць.

Праз некалькі дзён Алесіч спраўляўся са свечкамі не горш за вопытнага рабочага. Галоўнае ж, яму падабалася яго работа. Прымаеш трубы, ставіш на месца ці падаеш іх і не заўважаеш, як час ляціць. Здаецца, толькі падняўся ў люльку, а ўжо змена канчаецца...

І трэба ж іменна цяпер прычапіцца гэтай бяссонніцы. Як падсцерагала, калі ў яго ўсё наладзіцца.

Яшчэ ў прафілакторыі ўрач гаварыў яму, калі наступае бяссонніца, то, галоўнае, не хвалявацца, не прымушаць сябе заснуць. Ляжы спакойна, не думай пра сон, а пра што-небудзь прыемнае, непрыкметна для сябе і заснеш. У прафілакторыі ён думаў пра Веру, пра сына, пра тое, як яны чакаюць яго, колькі радасці будзе пры сустрэчы, як зусім па-новаму ён зажыве ў сям'і. А пра што думаць цяпер? Пра жонку? Успаміны пра яе выклікаюць яшчэ большую раздражненасць. А ўспаміны пра сына, якога ён, можа, страціў назаўсёды, адклікаюцца ў душы пякучым болем. Не, лепей думаць пра што іншае, толькі не пра іх. А пра што? Можа, пра сваё маленства? Якое б яно ні было ў чалавека, ён заўсёды ўспамінае пра яго, як пра самае лепшае ў жыцці. Алесіч напружваецца, каб спыніць памяць на тых далёкіх днях, калі на золку гнаў

свіней за вёску на паплавы, а на ганку стаяла яшчэ маладая, прыгожая, у квяцістым плацці маці і прасіла яго лепей пільнаваць скаціну, каб тая не забрыла ў калгасную бульбу. А ў галаву лезе Вера з натапыранымі белымі кудзеркамі на галаве, у блакітным плацці, якое яна адзела не для яго...

Алесіч паварочваецца на другі бок, нацягвае коўдру на галаву, пакідаючы толькі вузкую шчылінку перад носам. Можа, думаць пра Кацю? Дарэчы, яна не першы раз успамінаецца яму. Усплывае аблічча, як сонечны зайчык у хмурных закутках памяці. Яна і сёння ўспаміналася, але не магла захапіць думкі цалкам. Яна кінулася ў вочы ў першы дзень, як ён прыйшоў на буравую. Але ён нават не разгледзеў яе. І не мог сказаць цяпер, прыгожая яна ці не. Яна і ўразіла яго не знешнасцю, а сваім з'яўленнем сярод гэтых стандартных вагончыкаў, іржавых труб, рабацяг у заплямленых глінай брызентавых робах,— мільганула ў белым халаце і белай хустынцы і схавалася ў сінім вагончыку, які стаяў крыху воддаль ад астатніх і ў якім быў брыгадны харчпункт. Потым некалькі дзён ён не бачыў яе і, здавалася, забыў на яе. Ружовыя і распухлыя ад вады рукі, якія мільгалі ў акенцы, ставячы на пластмасавы паднос талеркі з ежаю, не мелі нічога агульнага з той, якая мільганула тады перад ім загадкавым прывідам. Некаторыя буравікі, прыгінаючыся, заглядвалі ў акенца, гаварылі ёй, відаць, нешта дасціпнае, бо адтуль чуўся звонкі жаночы смех. Алесіч ні разу не асмеліўся заглянуць у акенца. Але, седзячы за сваім столікам у кутку вагончыка, чуйна прыслухоўваўся да кожнага гуку з кухні. Не адзін раз яму карцела азірнуцца, убачыць яе твар, але так і не азірнуўся. Якая яму справа да яе, наогул да ўсіх жанчын на свеце, калі ён не верыць ім, прыстасаванкам, эгаісткам. Учора ў абед ён, схапіўшы паднос з першым і другім, кінуўся да свайго месца, далей ад гэтага акенца, ля якога ён саромеўся затрымлівацца, як раптам яна паклікала яго. «Што гэта вы кампот забылі?» — сказала дакорліва, калі ён вярнуўся. У яе шэрых сумнаватых вачах было столькі спагадлівай увагі, дабрыні, што Алесіч адчуў, як у яго грудзях нешта растала і ўсяго заліло гарачым. Не чуючы ног пад сабой, вярнуўся да свайго століка, сядзеў як аглушаны...

Нешта падобнае было, калі ён першы раз убачыў Веру. Спачатку ў святле ліхтара заўважыў толькі белыя стройныя ногі,— мускулістыя галёнкі, вузкія шчыкалаткі.

Запрасіўшы на танцы, разгледзеў і твар, звычайны, нават нейкі невыразны. Калі праводзіў дамоў, яна тоненькім галаском спявала яму песні. Яго ўразіла, што яна ведала іх безліч. Ён часта слухаў тыя песні па радыё, але ніводнай не запомніў. Чорт ведае што з ім робіцца сёння! Зноў Вера... Не, лепей ужо думаць пра Кацю. Дык вось... Сядзеў ён за столікам і напружана прыслухоўваўся да кожнага гуку на кухні. Яму зноў хацелася ўбачыць той позірк, пераканацца, што ён быў невыпадковы.

Звычайна, паабедаўшы, ён пакідаў талеркі на стале — так усе рабілі,— а цяпер паставіў на паднос, каб падаць іх у акенца. Спадзяваўся, што яна адгукнецца на яго голас, нешта скажа, можа, яны нават разгаворацца. У вагончыку якраз нікога не было. Яна не падышла. Аднекуль з глыбіні кухні, залітай парай, як туманам, раздражнена крыкнула: «Ды пастаўце вы там...» Эх, лепей не лез бы ён з тым посудам! Не было б такога раптоўнага расчаравання. Насуплены і змрочны, ён выбраўся з вагончыка, даўшы слова сабе больш не заглядваць у тое акенца. Хопіць! Адной паверыў!.. Каця — не тая жанчына, каб пра яе столькі думаць. Такая ж, як і Вера. Можа, і горшая. Чуў, як буравікі гаварылі, нібы не толькі муж прагнаў яе, а нават з горада прагналі за любоў да чужых мужыкоў. Нібы і тут, як толькі з'явілася, толькі тое і рабіла, што прызначала нафтавікам спатканні, пакуль майстар не прыгразіў, што прагоніць, калі не супакоіцца...

А можа, бяссонніца ў яго ад таго, што ў вагончыку надыхана, не хапае паветра? Ён падняўся, асцярожна, босымі нагамі мацаючы перад сабой, каб раптам не грукнуць чым, прайшоў да акенца, якое бледнай плямай выдзялялася ў густой цемры, каб адчыніць яго. Яно было адчынена. Пастаяў ля яго, прынікшы тварам да металічнай сеткі ад камароў, некалькі разоў глыбока дыхнуў. Але на вуліцы паветра было не лепшым, чым у вагончыку. Цёплае, прапахлае гарэлай мазутай. Відаць, ад дызеляў цягнула ветрыкам.

Алесіч вярнуўся, лёг на спіну, паклаўшы рукі пад галаву. Ляжаў, глядзеў у цемру, не думаючы болей пра сваю бяссонніцу, не змагаючыся з ёй, не адганяў прывідаў, што ў бязладнай мітуслівасці таўкліся перад вачыма. Але вось яго ногі як хто апусціў у цёплую ваду. Цяпло пачынала разлівацца па ўсяму целу, робячы яго вялым, санлівым. Галаву запоўніла туманам, векі пацяжэлі. Алесіч з радасцю падумаў, што нарэшце засынае. І каб

яго нішто не патрывожыла, ён праспаў бы моцна да самае раніцы, але якраз у гэты момант нехта зусім блізка прайшоў паўз вагончык, нават знарок ці, можа, знячэўку ўдарыў нагой ці рукой аб сцяну. Крокі хутка аддаліліся: пачуўся ўпарты стук у акенца суседняга вагончыка, прыглушаны голас:

— Гэта я.

— А хто цябе прасіў? — раздражнены голас Каці.

— Пагаварыць трэба.

— Гавары.

— Ты пусці.

— Правяраць мяне прыехаў?

— Кажу ж, пагаварыць трэба.

— Гавары, я чую.

— Не магу я так, праз рашотку.

— Пачую.

— Я прашу цябе, Каця.

— Я табе сказала.

— Што ты сказала?

— Каб не хадзіў, не надакучаў. Забудзь, што ў цябе была Каця.

На нейкі момант галасы прыціхлі. Сон Алесіча як рукой зняло. Ляжаў і злаваўся на таго няпрошанага госця, які перашкодзіў яму заснуць.

— Каця, нельга ж так,— пачаў ціхэй незнаёмы.— Пагаварыць трэба.

— Гавары.

— Адчыні.

— Ой, зноў за сваё.

— Каця...

— Ведаю, што я Каця. Не перашкаджай спаць, мне рана падымацца.

— Каця!

— Слухай, едзь ты туды, адкуль прыехаў! Усё!

— Каця! Я ж хачу пагаварыць пра вучобу тваю. Я дамовіўся... Паказаць, як і што. Адчыні. Прашу цябе.

— Не трэба мяне прасіць. Адыдзі ад акна,— і дабавіла з насмешкаю: — Нечага біць машыну па начных дарогах.

— Ды чорт з ёй, з машынаю. Каця!

— Я табе сказала.

— Каця!

Алесіч не вытрымаў, упоцьмах намацаў штаны, адзеўся, абуў басанож чаравікі, не завязаўшы шнуркоў, вы-

скачыў з вагончыка, пабег прама на галасы. Заўважыў ля вагончыка Каці мужчыну ў белай кашулі. Падбег, хацеў схапіць за карак, але ў яго не хапіла рукі, толькі згроб пальцамі кашулю.

— Марш адсюль, пакуль жывы! — піхнуў мужчыну ў спіну. Той не варухнуўся, стаяў, як валун. Тады Алесіч схапіў яго аберуч за плечы, але той і цяпер стаяў як урослы ў зямлю.

— Тут спаць трэба, а ён шастае,— закрычаў Алесіч.

— Пусці,— неяк нечакана лагодна сказаў незнаёмы, варухнуў плячыма, лёгка адкінуўшы ад сябе Алесіча.— Ідзі спаць, друг, не лезь не ў сваё дзела.

— Нам заўтра на вахту, а ты...— зноў кінуўся на мужчыну Алесіч у неасвядомленай лютасці.

— Чаго ты сам крычыш? — з дакорлівасцю спытаў мужчына.— Людзі ж спяць. Ідзі таксама спаць, муха. Пакуль не прыхлопнуў.

— Мяне? — не мог справіцца з сабой Алесіч.— Ты хоць ведаеш, колькі трэба такіх, як ты, на фунт сушаных?

— Ведаю,— сказаў незнаёмы.— Пойдзем, пакажу.

— Пайшлі!

Яны прайшлі крыху па дарозе, спыніліся ля легкавушкі, якая святлела ў цемры, пабліскваючы нікіляваным бамперам.

— Яна цябе наняла? — спытаў незнаёмы, спыніўшыся.

— Ведаць яе не ведаю,— узрушана адказаў Алесіч.— Але шумець ноччу...

— Нервішкі ў цябе,— пашкадаваў мужчына.— Запомні. Каб у маё дзела не лез. Я да жонкі прыехаў. Поняў? А будзеш нервнічаць, то...

— То што? — петушыўся Алесіч.

— Вось што,— той нечакана адной рукою падхапіў Алесіча пад рэмень на штанах, падняў над сабой вышэй галавы, шпурльнуў ў цемру, далей ад дарогі. Алесіч упаў спіною на нейкі куст, той абдаў яго пранізліва зябкай расой. Скаціўшыся з куста на зямлю, Алесіч схапіў першае, што трапіла яму пад руку,— нейкі камяк зямлі,— кінуўся на дарогу і толькі ўбачыў, як у цемры мігаюць чырвоныя агеньчыкі машыны, якая ішла чамусьці з выключанымі фарамі.

Кінуў наўздагон машыне камяк, той рассыпаўся ў паветры на мелкія кавалкі. Яны, падаючы на дарогу, зашлёпалі, быццам хто лінуў вадой.

— Ой, я так баялася за вас,— сустрэла Алесіча Каця. Яна, захутаўшыся ў коўдру, сядзела на лаўцы ля століка, за якім звычайна буравікі гулялі ў даміно.

— Чаго? — спытаў Алесіч хвалюючыся: ён ніяк не чакаў сустрэць зараз жанчыну.

— Ён жа штангіст. Майстар спорту. Можа трактар перавярнуць, не тое што...

— Драпануў, як заяц. Хай моліцца, што ўцёк на машыне, а то б...— ён не дагаварыў, што было б тады, запэўніў: — Але і так болей носа не пакажа сюды.

Убачыўшы, што Каця сядзіць, не збіраецца ісці, ён таксама прысеў на другі канец лаўкі, але адразу ж падхапіўся: кашуля нацягнулася і спіну апякло як агнём. Відаць, пашкодзіў якім сучком, калі ўпаў на куст.

— Ой, каб жа яно так,— уздыхнула Каця. Яна не верыла Алесічу.— І што за чалавек? Сказала ж ясней яснага, што болей бачыць яго не хачу, а ён ездзіць. Думае, пажартавала, спадзяецца, што вярнуся. А мне не тое што варочацца, мне думаць пра яго праціўна.

— П'е?

— Каб жа піў. У рот не бярэ. Кажу ж, штангіст. Усё трэніруецца,— памаўчаўшы, прызналася: — Раўнуе.

— Значыцца, любіць,— паныла сказаў Алесіч.

— Хай ён праваліцца са сваёй любоўю! — абурылася Каця.— Каб ведала, што такі, у яго бок не глядзела б.

— Бывае,— заўважыў Алесіч.— Спачатку здаецца ого, а потым хоць локці кусай.

— Спачатку ён здаўся мне не такім, як усе... Я рабіла афіцыянткай. Ён і ўгледзеў мяне ў рэстаране. Прыйдзе абедаць, возьме бутэльку мінералкі, і ўсё. Прыгожы, ветлівы. Яго нашы дзяўчаты не хацелі абслугоўваць, казалі, скупы, раз не п'е. А мне падабалася, што не п'е. Думаю, сур'ёзны мужчына. Пазнаёміліся. Запрасіў на стадыён. На футбол. Хадзілі і ў цырк. Пасля завёў да сябе на кватэру. Я, дура, таксама. Апомнілася, ды позна было. Праўда, ён парадачны аказаўся. Запісаліся, вяселле згулялі. Усё як у людзей. Кожны вечар заходзіў на работу. Зойдзе, возьме шклянку чаю ці мінералкі, сядзіць, чакае... Дамоў разам ідзём. Думаеце, ён праводзіць прыходзіў? Сачыць за мной. Як ля каго затрымаюся, усміхнуся каму,— ведаеце, людзі на падпітку пагаварыць любяць,— тут жа кліча, дапытваецца, хто, што, пра што гаварылі. Даказваеш, што першы раз бачыш, не верыць... Дайшло да таго, што не рада была, калі ў рэстаран прыходзіў. Так і хацелася за-

пусціць у яго якім шніцалем. Хутка настолькі ўсё абрыдла, што папрасіла, каб уладкаваў у сваёй сталоўцы. Думаю, там яго ведаюць, не будуць да мяне прыставаць, ён супакоіцца. Згадзіўся, памог. Там яшчэ горш пачалося. Спартсмены хлопцы маладыя, любяць языкі пачасаць. Як што, так і крычаць: «Кацюха, давай хутчэй!» А які з роспытамі лезе. Я і руку стараюся так трымаць, каб кольца добра відно, а яны на кольца тое нуль увагі. Рагочуць. А мой дапякае потым мяне, што ўсім вочкі паказваю, што ў галаве маёй не работа, а кабялі. Так і кажа. Паверыце? Але цярпела. Бачыла, што любіць. Спадзявалася, перакаваецца, што я не такая, як думае, супакоіцца. Час ішоў, нічога не мянялася. Ён яшчэ болей прыдзіраўся. А потым купілі машыну. Аказалася, раўнаваў ён не толькі мяне, але і машыну. Машыну яшчэ болей. Папрасіла яго, каб звазіў да бацькоў, за Мазыр, а ён: «Навошта ж машыну біць, калі туды аўтобусы ходзяць».

— Дзівак! Я на яго месцы толькі тое і рабіў бы, што вас катаў на машыне,— не вытрываў Алесіч.

Каця, нібы і не пачула яго, працягвала далей:

— А дзе раптам шкрабне тую машыну, ноч не спіць, пакутуе. Але больш за ўсё мяне абурала, што ён не хацеў дзяцей. Маўляў, яму нельга ніякіх лішніх клопатаў, бо цяпер самы адказны перыяд яго спартыўнай кар'еры... А потым, казаў, каб я таксама пра інстытут падумала. Будзе малое, тады не да вучобы. А навошта мне той інстытут? Мне і так добра. А ён сваё... Я цярпела, цярпела, потым плюнула на яго, на яго машыну, на яго кар'еру і сюды... Думала, не знойдзе. Дапытаўся. Пачаў ездзіць. Ну прыехаў бы ўдзень, пагаварыў як чалавек. А то ж крадком, ноччу, каб ніхто не бачыў. А як жа! Не хоча, каб людзі ведалі, што ад яго, такой славутасці, жонка ўцякла. Ну няхай прыехаў ноччу, дык хоць бы што талковае сказаў. А то... Першы раз прыехаў, паклікаў, адразу ж накінуўся на мяне, што ён ведае, чаго я сюды прыехала, маўляў, тут мужыкоў багата і ў лесе ніхто нічога не бачыць. Я плюнула ў твар — і ў вагончык. Ну, думаю, зараз ці дзверы вываліць, ці вагончык перакуліць. Што яму? Бугай такі... Перакуліць і пойдзе. Не, стаіць як слуп перад акном. Я крыкнула, каб болей не ездзіў. Кажа і не падумае. Я проста, кажа, хацеў пераканацца, якая ты верціхвостка. Аказваецца, не памыліўся. Ну і едзь, кажу, раз пераканаўся. Паехаў. Не ездзіў. Потым зноў пачаў. Адзін раз з майстрам гаварыў. Вы ж ведаеце, які Рослік. Ён на-

конт усяго такога вельмі строгі. Калі заўважыць якія шуры-муры, у той жа дзень прагоніць з буравой. Адну пав振рыху, што была да мяне, прагнаў за гэта. Можа, і правільна. Не ведаю, што мой нагаварыў майстру, не ведаю, што майстар яму сказаў, але потым пачаў ён прасіць мяне вярнуцца дамоў. Абяцаў не прыдзірацца і ў інстытут уладкаваць. Я, вядома, ні ў якую. Хопіць. Не магу, каб мяне прыніжалі. Я чалавек, не карова, мяне не трэба пасвіць. Ну чаму так? Паверыш якому дурню, а потым жыць не хочацца. Дзякую вам, што прагналі яго. Да раніцы б шкрабаўся...

— Не спалася, а тут яшчэ гэтая балбатня, ну і выскачыў,— Алесіч адчуў, што яго спіна, мокрая ад расы, зусім акалела.

— Ой, загаварыліся мы з вамі,— спахапілася Каця.

Яна развіталася і бязгучна знікла, нібы не пакрочыла, а паплыла белай плямай у густой цемені да свайго вагончыка. Алесіч пастаяў, пачакаў, пакуль жанчына грукне дзвярыма, потым пайшоў да сябе. У вагончыку з-за адчыненых дзвярэй пасвяжэла. Ён залез пад коўдру, лёг бокам, бо спіна балела. Ляжаў, думаў пра Кацю...

Раніцай, калі ўсе падымаліся, не хацелася ўставаць. Усё цела было як не сваё, прасіла спачыну. Галава балела. І хоць у яго не было ніякага жадання ісці на харчпункт і наогул рабіць што-небудзь, ён усё ж падняўся, пайшоў снедаць. Хацелася ўбачыць Кацю. Падышоў да акенца з падносам. Мільганулі рукі, паставіўшы на паднос талеркі. Алесіч прыгнуўся, каб убачыць жанчыну, але яна адышлася ад акенца, стаяла да яго спіной, памешваючы ў высокай алюмініевай каструлі, з якой падымалася густая пара. Каця адкінула крыху галаву назад, каб не апаліць парам твар.

— Што застраў у амбразуры? — пачуўся за спіной у Алесіча нецярплівы голас.

Алесіч узяў паднос, пабрыў за свой столік у кутку. Чуў яшчэ, як той жа нецярплівы голас прасіў Кацю: — Красуля, не пашкадуй яшчэ чарпачок кашы!..

Алесіч паставіў паднос з талеркамі на стол, пакорпаўся відэльцам у кашы, выпіў кампот. Смага не прайшла. Папрасіць яшчэ кампоту не адважыўся. Баяўся сустрэць яе абыякавы позірк.

Ён сядзеў і чакаў, пакуль Каця выйдзе збіраць посуд і, можа, спытае сама ў яго, чаго яму яшчэ хочацца. Вось амаль усе выйшлі з вагончыка. І раптам Каця заспявала.

Не вельмі гучна, але праз акенца добра была чуваць яе песня. Відаць, добры настрой. А што ёй? Выспацца паспела, нафтавікі нагаварылі ёй кампліментаў, вось і весела жанчыне ад усеагульнай увагі. Тое, што яна шчыравала ноччу з ім, яшчэ нічога не азначае. Яна расказала б тое самае ўсялякаму, хто апынуўся б ля яе. А можа, яна наогул забылася пра начную прыгоду: не першая і не апошняя яна ў яе. Прывыкла. Відаць, сапраўды легкадумная жанчына. Канешне, прыгожая. Ну і што? Ці мала іх такіх? Ёсць яшчэ прыгажэйшыя. А потым ён, Алесіч, не маладзёнак які, ведае, што прыгажосць не самае галоўнае ў жыцці. У яго была ўжо прыгажуня. Лепей не сустракалася б яму. І гэта. Ну глянула на яго, як яму падалося, спачувальна, ну і што? Можа, яна так на кожнага глядзіць? Па сто разоў за дзень. А ён, дурань, уявіў, што яна толькі на яго так паглядзела. Вядома, на яго мала хто з жанчын так глядзеў, вось і разнюніўся...

Алесіч падняўся, пайшоў у бытоўку, не азіраючыся.

Каляная, крыху вільготная роба, з тоўстага брызенту падалася цяжкой. Пластмасавая каска муляла галаву. Пакуль Алесіч падымаўся па лесвіцы, спыняўся некалькі разоў. Пот заліваў вочы. Млелі рукі, ногі. Былі такія моманты, што здавалася, не ўтрымаецца на лесвіцы, абсунецца ўніз. Ледзь дапяў да свае люлькі. Пастаяў, крыху адпачыў. Яго абвяваў прахладны ветрык. Алесіч спадзяваўся, што млявасць хутка пройдзе і ён вытрымае вахту. Зараз павінны былі падымаць трубы. Перахопліваць іх крукам і ставіць на месца не так цяжка. І ўсё ж першую свечку ён празяваў. Яна затанцавала паміж металічнымі бэлькамі. Ледзь не агрэла яго па карку, калі ён нахіліўся. Знізу замахаў кулаком майстар. Ён нешта крычаў, але з-за дызеляў нельга было пачуць. Другую свечку Алесіч падхапіў удала, паставіў на месца, а трэцюю зноў празяваў. Браў жа яе, здаецца, па ўсіх правілах, а яна, як жывая, выгнулася, каўзанула ўбок.

Гул дызеляў аціх. Майстар спыніў пад'ём буравых труб. Махнуў рукой Алесічу, каб злазіў.

Спускацца ўніз было лягчэй, чым падымацца,— але ўсё ж адчувалася стомленасць, вяласць.

— Што з табой? — сустрэў яго Рослік.— Можа, таго?

— Ноч не спаў,— паскардзіўся Алесіч.— Нешта галава...

— Дыхніце! — папрасіў майстар.

Алесіч азірнуўся. Бурыльшчыкі, сабраўшыся ля ротара, сачылі за імі.

— Адыдземся, Сцяпан Юр'евіч,— узяў Алесіч майстра пад руку.

Калі яны па жалезных прыступках спусціліся з буравой на зямлю, Алесіч вяла ўсміхнуўся:

— Слухай, майстар, я аднаму дыхнуў, цяпер яшчэ лечыцца. Але табе дыхну, бо сапраўды падумаеш. Але запомні, каб гэта было апошні раз. Не люблю, калі мяне нюхаюць,— нагнуўшыся, ён дыхнуў у твар майстру.— Можа, яшчэ?

— Хопіць,— буркнуў той.— Ідзіце спаць, калі сапраўды не спалася,— і скіраваў на буравую, але ўбачыў на дарозе легкавушку,— ехала начальства,— паспяшыў ёй насустрач.

Алесіч зайшоў у бытоўку, пераапрануўся, прыхапіў з сабой нечую ватоўку і наўспрамкі скіраваў у гаёк. Пад нагамі шаргацела падсохлая трава. На кустах арэшніку, як застылыя сонечныя зайчыкі, зырчэла рэдкае залацістае лісце. Выйшаў на паляну, на якой ля дуба стаялі абеліскі. Ён і забыўся пра іх. Яшчэ некалі школьнікам прыязджаў сюды з класам, і з таго часу яму ні разу не давялося тут быць. Навокал стаяла такая сцішанасць і супакоенасць, што яго пацягнула на дрымоту. Алесіч прысеў пад дубам, прыхінуўшыся спіной да парэпанай, прыгрэтай сонцам кары. Здаецца, каб не грукат крыві ў скронях, заснуў бы адразу. Ён сядзеў, заплюшчыўшы вочы, дыхаў паветрам, прапахлым прэлым лісцем і падсохлай травой.

— Я думаў, ты на вахце,— пачуўся побач знаёмы голас.

Алесіч убачыў Скачкова. Ён стаяў перад ім у скураным пінжаку, у заляпаных глінай кірзачах, без шапкі. Твар і лысіну прыхапіла сонцам, і яны былі не такія белыя, як тады ў вёсцы.

— Зняў мяне з вахты майстар,— прызнаўся Алесіч.— Нешта нездаровіцца.

— Можа, у паліклініку падкінуць?

— Не-е,— усміхнуўся Алесіч.— Я ведаю сваю хваробу. Дзень-два і пройдзе. Толькі б утрымацца.

— Трымайся...

— Не падвяду,— падняўся Алесіч.— Калі не ўтрымаюся, Валерый Міхайлавіч, сам падам заяву. Так што... А як у вас?

— Не вельмі. Гарым з планам. Во прыязджаў, цікавіўся, ці нельга хутчэй бурыць.

— Яны спяшаюцца. Толькі пра метры і гаворка. Усё падлічваюць. Пра нафту ні слова. Нібы яна ім не трэба.

— Ім нафта сапраўды не трэба. Бурыльшчыкам плоцяць за метры, за хуткасць. Вось і гоняць. У даным выпадку ніякай шкоды ад гэтага. Тут усё даўно разведана, ведаем, на якой глыбіні нафта, так што няхай гоняць,— глянуўшы на абеліск, сказаў: — Во і да бацькі заехаў. Уяві сабе, удвая быў маладзейшы за нас. Як падумаеш пра гэта, болей жыццём даражыш... Ну трымайся, я паехаў,— ён развітаўся і, трымаючы руку перад сабой, каб не чаплялася за твар павуцінне, пайшоў на дарогу.

Алесіч разаслаў на траве ватоўку, прылёг.

Праз глухі натужлівы гул дызеляў чулася, як недзе блізка, над самым вухам звініць муха...

## 8

Скачкоў дачытаў апошнюю старонку надрукаванага на машынцы тэкста, загарнуў папку, сказаў Кацянку, які сядзеў ля прыстаўнога століка, чакаў:

— Гэта не мерапрыемствы, скажу вам. Аптымістычная сімфонія!

Кацянок сціпла ўсміхнуўся.

— Галава ў вас што трэба,— прайшоўся па кабінеце Скачкоў.— Залатая галава. Прызнацца, я толькі зараз паверыў, што нам удасца нечага дабіцца... Канешне, рызыка. Канешне, між намі кажучы, ёсць элементы авантурызму. Але іншага выйсця зараз я проста не бачу. Заўтра на нарадзе скажам пра гэта. Думаю, нас зразумеюць.

— І падтрымаюць,— запэўніў Макухін.— Людзям абрыдла таптацца на месцы. Думаеце, ім хочацца хадзіць у адстаючых? Людзі хочуць працаваць, умеюць працаваць, але яны хочуць і мець за сваю працу...

— Дзякую вам, Вячаслаў Мікітавіч,— Скачкоў падняўся, падышоў да Кацянка, узяў яго за руку ля локця, сказаў праніклівa: — Я рад, што мне пашчасціла працаваць з такім вопытным работнікам, як вы.

— Гэта вам дзякуй, Валерый Міхайлавіч,— падхапіўся начальнік тэхналагічнага аддзела,— за смеласць вашу, рашучасць...

— Ну хопіць, хопіць,— крыху пачырванеў Скачкоў,

вярнуўся на сваё месца.— Сядайце, чаго стаяць... Скажыце, як аднёсся да нашых прапаноў галоўны інжынер?

— Не вельмі. Але сказаў, што можна і так.

— Можа, у яго ёсць свае меркаванні?

— Былі б, не маўчаў бы,— і ўпэўнена дадаў: — Няма ў яго ніякіх меркаванняў. Мне здаецца, ён разгубіўся болей за ўсіх.

— Скажыце, Вячаслаў Мікітавіч, няўжо не бачыў галоўны інжынер, куды ідзе промысел? Катастрофа наступіла ж не адразу.

— Бачыў. Можа, раней за ўсіх убачыў. Гаварыць пачаў першы.

— Каму?

— Як каму? Быломy начальніку Балышу Раману Тарасавічу.

— А Балыш?

— А што ён мог? — у сваю чаргу спытаў Кацянок.— Ён нічога не мог. Нафта была, план перавыконвалі. Хто хацеў слухаць, што абсталяванне знасілася, хутка пачне ламацца? Ніхто. Нават сам Дарашэвіч не хацеў слухаць. Яго задавальняў план. А потым ніхто не ведаў, калі нафта пойдзе на спад, праз год ці два. А можа, праз тры. Мне ж асабіста здаецца, што Балыш прадбачыў такое, бо інакш ён не перайшоў бы ў міністэрства. Я яго ведаю.

— Хай Балыш збег. А вы ж тут засталіся. Чаму ніхто з вас не падняў гэтыя пытанні перад інстанцыямі? Абсталяванне можна было даўно заказаць. А дзе цяпер яго возьмеш? Усё падзелена, нам не запланавана.

— Я гаварыў. Не ў інстанцыях, вядома. Галоўнаму інжынеру гаварыў. Ён выходзіў на Дарашэвіча, у міністэрства. А дзе вы раней былі, пытаюцца ў яго. Што скажаш на гэта? Ну і маўчалі. Чакалі новага начальніка,— і Кацянок з ледзь улоўнаю ўсмешкаю ў вачах пільна паглядзеў на Скачкова.

— Няхай новы начальнік і выкручваецца? — абурыўся Скачкоў.

— Так і не так. Справа ў тым, што вы зараз можаце смела і адкрыта гаварыць пра недахопы ў рабоце нафтапромысла. Вы за іх не адказваеце. Вас тут не было. Канешне, самае рацыянальнае было б настояць на спыненні работ на промысле, на капітальным рамонце, каб потым працаваць рытмічна, без збою. Але гэта азначае — невыкананне плана яшчэ некалькі месяцаў. Ніхто на гэта не пойдзе. Значыцца, трэба прымаць нейкія іншыя меры. Не-

каторыя спадзяваліся, што вы, як новы начальнік, нешта прапануеце сваё...

— Сваё, сваё... Сваё можа прапанаваць толькі той, хто добра ведае вытворчасць. Вось вы змаглі прапанаваць сваё, бо вы добра ведаеце ўсе магчымасці, усе хібы лепей за мяне,— ён нібы апраўдваўся перад начальнікам тэхналагічнага аддзела. Замаўчаў, глянуў на гадзіннік, сказаў больш спакойна: — Позна ўжо.

— То хадземце дамоў, Валерый Міхайлавіч,— падняўся Кацянок.

— Вы ідзіце, а я пасяджу. Падумаю яшчэ над заўтрашнім выступленнем.

— Можа, памагчы? — не спяшаўся пакідаць кабінет начальніка Кацянок.

— Не, дзякую! На выступленнях я ў свой час зубы з'еў. Так што дзякую. Дарэчы, ледзь не забыўся. Гэтыя мерапрыемствы мы будзем выносіць на абмеркаванне ад імя кіраўніцтва ўпраўлення...

— Толькі так,— усміхнуўся Кацянок і, як падалося Скачкову, без ахвоты выйшаў. Нібы яшчэ хацеў нешта сказаць, але не асмеліўся. А можа, хацеў разам пайсці? Ці да сябе запрасіць? Ён ужо не раз запрашаў зайсці да яго на шклянку кавы, ды ўсё ніяк не выпадала. Кожны раз было позна, як і цяпер. А потым ён заўсёды падбіраў такі момант для запрашэння, калі Скачкоў заставаўся адзін. Ці не хоча сведак, ці гэтым самым хоча падкрэсліць больш чым таварысцкія адносіны да яго. Відаць, хоча пасябраваць. Але так, каб пра гэта меней ведала людзей. Бо ў прысутнасці каго-небудзь далікатна трымаецца на адпаведнай дыстанцыі, толькі ўсяляк падкрэсліваючы сваю пачцівасць да яго. Сваёй стрыманасцю ён падабаўся Скачкову. Але яшчэ болей падабаўся веданнем вытворчасці, уменнем сярод шматлікіх складаных і заблытаных праблем выдзеліць самую галоўную. Невядома, як усё пойдзе далей, але пакуль што другога начальніка тэхналагічнага аддзела Скачкоў не жадаў бы. Ва ўсялякім разе, пакуль што ні адзін з супрацоўнікаў не зрабіў для яго столькі карыснага, як Кацянок. Фактычна, ён выручыў яго якраз тады, калі Скачкоў пачынаў страчваць веру ў сябе. І як выручыў! Бліскуча!

Скачкоў яшчэ раз уважліва прагледзеў разлікі Кацянка. Канешне, у яго мерапрыемствах ні слова пра перспектыву развіцця промыслу, толькі пра тое, што трэба зрабіць неадкладна. Але нічога. Наладзім рытмічную ра-

боту промыслу, падумаем потым і пра перспектыву. Ён накідаў план заўтрашняга выступлення. Папку з прапановамі Кацянка і свой канспект схаваў у шуфлядку стала, замкнуў на ключ.

Быў позні вечар. Рэдка ў якіх вокнах гарэла святло. На аўтобусным прыпынку ніводнага чалавека. Можа, цяпер і аўтобусы не ходзяць? Ён не ведаў. Здаецца, так позна ніколі не затрымліваўся ў канторы. Пайшоў пехатою. Пад нагамі шаргацела сухое лісце.

Ала Пятроўна не спала. Стоячы каленямі на крэсле, аблакаціўшыся на стол, правярала сшыткі.

Скачкоў, павесіўшы ў пярэдняй плашч, зайшоў у залу, засмяяўся:

— Прыгожа сустракаеш свайго мужыка.

— Ой, не ведаю, як і сесці. Замучылі мяне гэтыя сшыткі,— яна паставіла некаму прыгожую чырвоную двойку, загарнула сшытак, паправіла на плячах цёплую хустку, якая крыху з'ехала,— у кватэры было халаднавата.— Чаго сёння такі вясёленькі? Ёсць план? — і зноў уткнулася ў новы сшытак.

— Які план? Але...— ён сеў у нізкае крэсла ля стала.— Падрыхтаваны мерапрыемствы. Так сказаць, канкрэтная праграма. Думаю, месяцы праз тры-чатыры выйдзем на планавыя паказчыкі. Так што ўсё нармальна. Адна толькі непрыемная дэталь ва ўсім гэтым. Ты мяне слухаеш?

— Слухаю, слухаю,— крэсліла чырвоным у сшытку Ала Пятроўна.

— Дык вось... Я, вядома, стараўся разабрацца ва ўсім. Ездзіў, глядзеў, вывучаў. Гутарыў з рабочымі, начальнікамі цэхаў, кіраўнікамі розных служб. Хацелася ў выніку прапанаваць самому выхад са становішча. Але не знайшоў. Разумееш, трэба больш часу, каб ва ўсім разабрацца, даведацца, так сказаць, пра ўсе падводныя цячэнні. Мерапрыемствы прапанаваў начальнік тэхналагічнага аддзела, які тут робіць даўно і ведае вытворчасць як свае пяць пальцаў. Адсюль непрыемнае адчуванне залежнасці ад падначаленага, чаго не хацелася б. Але калі падумаць, робім мы ўсе агульную справу. Начальнік аддзела на сёмым небе, што яго прапановы прайшлі. Згодзен, каб яны былі вынесены на абмеркаванне калектыву ад імя кіраўніцтва.

— Абы падвоху не было,— заўважыла Ала Пятроўна.— Ведаеш, якія цяпер людзі.

— Які падвох! Сумленны хлапец.

— Я таксама думала, што ў школе ўсе сумленныя. Аказалася...— яна ўзяла зноў новы сшытак. Іх, неправераных, быў яшчэ ладнаваты стос.

Скачкоў задумаўся. Лепей бы ён нічога не гаварыў жонцы. Які там падвох? Каму ён трэба? Не, гэта немагчыма. Вядома, немагчыма. Але радасны настрой знік, заварушылася сумненне, якое заўсёды вядзе да няўпэўненасці. Каб не думаць пра сваю работу, пацікавіўся:

— А як у цябе?

— Хіба не бачыш? Ад абеду во над сшыткамі, не разгінаючыся. Памылка на памылцы. Рука самлела. Не хочуць вучыцца дзеці. Атлусцелі, ці што?

— Ніякіх зрухаў?

— Ледзь-ледзь.

— Ну, не ўсё адразу.

— На гэта толькі і спадзяюся. Слухай, Валера, ідзі пастаў чайнік. І наогул паглядзі, што там ёсць. Я яшчэ не вячэрала.

Скачкоў выйшаў на кухню. Зазірнуў у халадзільнік. Там стаяў цэлафанавы мяшэчак з яйкамі. У маразілцы ляжала заіндзівелая курыца і пачак масла.

Скачкоў наліў у чайнік вады і паставіў на пліту.

Вярнуўшыся ў залу, спытаў:

— Ад дачкі ёсць што?

— Сёння званіла. Я толькі за дзверы, і яна звоніць. Казала, некалькі разоў званіла, нікога не магла застаць. Усё ў іх нармальна. Пафарбавалі кухню. Паклеілі новыя абоі ў зале і спальні. Палову кніг адвезлі ў букіністычны. За тыя грошы купілі поўную медыцынскую энцыклапедыю і новую пральную машыну. Па-ранейшаму робяць на паўтары стаўкі.

— Практычныя,— сказаў Скачкоў.

— Занадта.

— Чайнік зараз таго. Можа, яшчэ якую яешню?

— Не лянуешся, зрабі.

— Весела мы з табой жывём,— уздыхнуў Скачкоў і выйшаў на кухню.

На другі дзень раніцай не паспеў Скачкоў зайсці ў свой кабінет, як зверашчаў тэлефон. Падумаў, што званілі з дыспетчарскай. Яму кожную раніцу дакладвалі, як ідзе план. Кінуўся да тэлефона. Званіў генеральны дырэктар. Размаўляў Дарашэвіч як і заўсёды незадаволеным голасам, з папрокамі, нават са здзеклівай абразлівасцю.

Скачкоў спачатку думаў, што той размаўляе так толькі з ім, апошнім часам пачынаў думаць, што, відаць, з усімі.

— Я разумею, Валерый Міхайлавіч, што істотна паправіць становішча ва ўпраўленні вы яшчэ не мелі часу, але вось як думаеце гэта зрабіць, маглі б і далажыць. Доўга раскачваемся...

— Далажу, Віталій Апанасавіч, далажу,— весела сказаў Скачкоў.

— Помніце, вы збіраліся далажыць праз некалькі дзён? Колькі часу прайшло? Ледзь не два месяцы? Праз колькі дзён вы паабяцаеце далажыць зараз? — не мог генеральны абысціся без кепікаў.

— Праз пяць,— сказаў Скачкоў і, памаўчаўшы, дадаў: — Гадзін, можа, праз чатыры, калі людзі не вельмі разгаворацца. Зараз у нас нарада ва ўпраўленні. Не магу ж я ехаць да вас, не параіўшыся з калектывам. Пасля нарады прыеду, калі, вядома, у вас ёсць настрой бачыць мяне сёння,— не ўтрымаўся і Скачкоў, каб не ўпікнуць свайго начальніка.

— Чакаю,— буркнуў Дарашэвіч і паклаў трубку.

Скачкоў усеўся за стол, дастаў сінюю папачку, прагледзеў канспект выступлення, прагартаў прапановы. Яны сёння спадабаліся яшчэ болей, чым учора. Можа, удасца паўплываць не толькі на вытворчасць, але, і гэта галоўнае, на настрой людзей.

Зайшоў Кацянок. Ён быў у новым шэрым касцюме, белай кашулі. Урачысты. Разумеў, што ў жыцці ўпраўлення незвычайны дзень. Сказаў, што ўсе сабраліся ў канферэнц-зале і чакаюць яго, Скачкова.

Скачкоў падышоў да акна, адчыніў палавіну і перад шыбкай, як перад люстэркам, прычасаўся, паправіў гальштук. Адчуў, што хвалюецца. Ведаў, што там, у канферэнц-зале чакаюць ад яго нечага такога, пасля чаго справы ва ўпраўленні павінны палепшыцца карэнным чынам. А ці павераць людзі ў тое, што ён скажа? Ці падтрымаюць яго? А раптам, акрамя Кацянка, ніхто не падтрымае? Не пакідала хваляванне, пакуль не выйшаў за трыбуну. Убачыўшы ўважлівыя позіркі, скіраваныя на яго, падумаў, што ўсе, хто сядзіць у чаканні яго слова, ужо паверылі яму, раз так уважліва глядзяць на яго. Гэта надало ўпэўненасці. Пачаў гаварыць, адарваўшыся ад канспекта,— не даклад рабіў, а раіўся з прысутнымі.

— Мне, як новаму кіраўніку,— разважаў ён,— не вельмі хацелася б пачынаць з загадаў, патрабаванняў.

Я добра ўсведамляю, што які б разумны начальнік ні быў, усё роўна ён адзін у полі не воін. Мне хочацца параіцца з вамі, падумаць разам, як выйсці з таго становішча, у якое трапілі.

Вы ведаеце, што амаль усё абсталяванне патрабуе рамонту. Свідравіны запушчаны. Я не хачу гэтым самым кінуць цень на свайго папярэдніка. Ён добра працаваў, але працаваў тады, калі абсталяванне было новае. Цяпер яно знасілася, устарэла, яго трэба неадкладна мяняць ці ставіць на капітальны рамонт. Капітальнага рамонту патрабуюць большасць свідравін, вадаводаў, нафтаводаў, воданагнятальныя станцыі, помпы,— адным словам, ледзь не ўсё. Нам з вамі трэба сур'ёзна падумаць пра рамонт. Але разам з гэтым нельга зніжаць тэмпы дабычы нафты. Тэхналогія прафілактычных рамонтных работ у нас не адпрацавана, пра многае мала ведалі і ведаем, а пра многае і не здагадваемся. Большасць з вас пачалі рабіць тут у якасці нафтавікоў упершыню. Тут набіраліся вопыту, пасцігалі сакрэты прафесіі. І вось сёння ўсе мы раптам сутыкнуліся з цэлым шэрагам складаных праблем, без вырашэння якіх мы не можам рухацца наперад. Што ж нам рабіць? Канешне, добра было б, каб зараз нам далі магчымасць скласці праект рамонту ўсіх свідравін, воданагнятальных станцый і ўсіх іншых механізмаў. Потым адрамантаваць. Але для гэтага патрэбен час. І ніхто нас не вызваліць ад выканання плана. Значыцца, трэба зрабіць так, каб план выконваўся і паралельна з гэтым рабіўся рамонт. Як гэтага дабіцца? Мы доўга ламалі галаву над гэтым. У выніку прыйшлі да думкі, што без рашучых, можа, нават у нечым і рызыкоўных мер не абысціся. Што ж прапануецца?

Калі сказаць коротка, то неабходна часова ўзмацніць інтэнсіўнасць эксплуатацыі некаторых свідравін. Каб не толькі выканаць план гэтага года, але і мець магчымасць спыніць некаторыя найбольш запушчаныя свідравіны для капітальнага рамонту. Другі накірунак. Зараз у стане бурэння некалькі свідравін. Трэба хутчэй іх увесці ў эксплуатацыю. Бурыльшчыкі абяцалі скараціць тэрміны бурэння, што паможа нам павялічыць дабычу нафты. За кошт гэтага прыросту мы таксама зможам яшчэ некалькі свідравін паставіць на рамонт. Спадзяюся, вы маю думку зразумелі. З аднаго боку, часовая інтэнсіўная эксплуатацыя дзеючых свідравін, падкрэсліваю, часовая, а з другога боку — усе сілы на рамонт тых свідравін, далейшая

эксплуатацыя якіх сёння не мае сэнсу. Каб дабіцца рэзкага павелічэння аб'ёму рамонтных работ, трэба ўзмацніць рамонтную службу. Нават за кошт іншых цэхаў. І яшчэ адзін генеральны накірунак. Трэба павялічыць пластавы ціск. Для гэтага ўсе воданагнятальныя станцыі, падкрэсліваю, часова, пераводзяцца на больш напружаны рэжым работы. Паралельна будзем будаваць новыя станцыі. Прынятыя меры павінны стварыць умовы для паспяховага выканання планавых заданняў, а галоўнае, для правядзення неабходнага рамонту, у выніку чаго мы пачнём працаваць без перагрузак, аўралаў. Але для гэтага, таварышы, неабходна пайсці на апошні, падкрэсліваю, вымушаны аўрал. Але іншага выйсця няма. Мы ўсе павінны гэта добра зразумець. Гэта вымагае ад кожнага з нас больш адказнасці ў рабоце, высокай дысцыплінаванасці. Пазбавіцца за кароткі час усіх тых недахопаў, якія накапліваліся гадамі,— задача надзвычай складаная, але з якой мы павінны справіцца. У мяне няма сумнення, што справімся. У мяне ўсё. Можа, у каго яшчэ ёсць якія меркаванні? Можа, не ўсё ўлічылі? Можа, хто ведае які іншы шлях да поспеху? Прашу!

Скачкоў агледзеў прыціхлую залу.

— Можа, ёсць пытанні?

— А што гаварыць? — пачуўся голас з месца.— Усё ясна. Трэба брацца за работу.

— Правільна! — падтрымалі яго.— Плана няма, грошай няма. Жонкі дамоў не пускаюць.

— А як жыллё?

— Усё будзе залежаць ад плана. Будзе план, будуць грошы на жыллё. Вось так.

— Можна мне, Міхайлавіч? — падняўся галоўны інжынер. Яго маршчыністы твар быў сумны і нейкі ўжо абыякавы. Было ўражанне, што яму ўсё тут нецікава і сядзіць ён толькі таму, што паложана па службе.— Я хачу сказаць пра нашы мерапрыемствы. Добрыя мерапрыемствы. Прадуманыя. Але вось якая думка раптам стукнула і ў маю галаву. Добра, калі ўсё будзе добра. А раптам пры павышаных нагрузках абсталяванне пачне таго, выходзіць са строя? Пачнуць ломацца трубы? Што я хачу гэтым сказаць? Усе мы павінны строга выконваць правілы эксплуатацыі абсталявання. Каб не здарылася непапраўнае... І вось яшчэ пра што я падумаў, Міхайлавіч, калі слухаў вас,— прамоўца, здавалася, звяртаўся толькі да Скачкова, бо глядзеў толькі на яго.— Тое, што скажу,

можа, і ерась, але... Раз стукнула ў галаву думка, то чаму ж ёй не падзяліцца? Тым больш што не так часта гэта здараецца. А можа, усё зрабіць інакш? Выкарыстаць тое, што вы чалавек новы? Вы прыехалі, убачылі, прааналізавалі становішча і прыйшлі да вываду, што на такім абсталяванні рабіць далей нельга. Вы пакуль ні за што не адказваеце. Вось і пішыце запіску ў адпаведныя інстанцыі. План немагчыма выканаць, пакуль не адрамантуем усё абсталяванне. Можа, удалося б дабіцца зніжэння плана? А потым зноў працавалі б спакойна, без перагрузак, без рызыкоўнай напружанасці. А што? Нам ставіць так пытанне нельга, у нас спытаюцца, дзе мы былі раней. А вам што? Калі падрыхтаваць і такі варыянт, паказаць Дарашэвічу? А?

— Згодзен,— сказаў Скачкоў.— Сто разоў згодзен з вамі, Ігар Сямёнавіч. Пры адной умове. Калі вы разам са мной паедзеце і самі далажыце пра гэты варыянт генеральнаму дырэктару. Вы ж ведаеце, што ён і слухаць не хоча пра зніжэнне плана.

— Валерый Міхайлавіч, вы толькі зразумейце мяне правільна,— пачырванеў Бурдзей,— гэта не прапанова, а проста думка, якая ўзнікла нечакана...

«Ці не хоча ён адгарадзіцца?» — падумаў Скачкоў, азірнуўся на галоўнага геолага, які, уткнуўшы бараду ў грудзі, скрыжаваўшы рукі перад сабой, здавалася, драмаў.— Можа, яшчэ каму прыйшла ў галаву якая раптоўная думка?.. Няма?.. Тады не будзем губляць часу. Просьба да ўсіх. Вы хутка атрымаеце мерапрыемствы, абмяркуйце іх у сваіх калектывах, падумайце над выкананнем.

Сабраўшы свае паперы, Скачкоў сказаў Бурдзею і Працько, каб заглянулі да яго. Падняўшыся ў кабінет, выклікаў па тэлефоне машыну.

Калі зайшлі галоўны інжынер і галоўны геолаг, Скачкоў адразу ж накінуўся на абодвух:

— Ну і памочнікі!.. Не чакаў я ад вас такога,— і спытаў у Бурдзея: — І чаго вас занясло? Вы ж адобрылі мерапрыемствы, а выступілі фактычна супроць іх. Можа, захацелася перастрахавацца?

— Ну што вы, Валерый Міхайлавіч,— аж пакрыўдзіўся галоўны інжынер.— І ў думках такога не было. Думаў, людзі разварушацца, заспрачаюцца, не будуць такімі пасіўнымі, вось і падкінуў думку... Каб, значыцца, абмеркаваць з усіх бакоў...

— Цікава,— засмяяўся Скачкоў.— Калі атрымлівалі

прэміі, тады ў вас не ўзнікала жадання абмеркаваць становішча з усіх бакоў... А вы,— звярнуўся да галоўнага геолага,— зусім праспалі нараду. Вы што, не маглі падтрымаць?

— Не мог.

— Не верыце ў намечанае?

— Чаму ж? Веру. Больш таго, нават перакананы, што ўсё вельмі прадумана, усё абавязкова выканаем. Становішча палепшыцца. Можа, нават рэзка. Але толькі на кароткі тэрмін. Галоўная праблема — праблема стабільнай работы промысла так і застанецца нявырашанай,— і раптам папрасіўся: — Вазьміце мяне ў Гомель.

— Які ён мудры ў нас,— сказаў Скачкоў, глянуўшы на Бурдзея.— Вазьмі яго з сабой, а ён там раскрытыкуе цябе.

— Абяцаю расхваліць. Скажу, што лепшага ў цяперашніх умовах нельга прыдумаць. Але скажу, што гэта часовае вырашэнне праблемы. Каб выконваць план, працаваць без раптоўных зрываў, мала трымаць гаспадарку ва ўзорным стане. Трэба яшчэ мець рэальны план. Усе нашы беспарадкі ад нерэальных планаў. Надуманых, навукова не абгрунтаваных. Нам трэба дакладна ведаць патэнцыяльную магчымасць кожнай свідравіны ўсяго промысла. Мы павінны ведаць, колькі трэба ўзяць нафты з кожнай свідравіны ў год, каб яна дала нам найбольшую яе колькасць за час свайго існавання. Ведаем? Не. Ці вельмі прыблізна. А без гэтага нельга скласці рэальныя планы. Трэба, каб прыслалі камісію падлічыць магчымасці промысла. Камісію вучоных, даследчыкаў, не ведаю каго, але каб прыслалі. Трэба з усёй рашучасцю ставіць гэтае пытанне. Маўляў, не прыміце прапановы, адмаўляюся ад работы. Толькі так! Можна абысціся і без пагроз, калі сумееце пераканаць, што такая камісія трэба як паветра. Тады будзем мець рэальны план. Тады пры адпаведнай тэхнічнай узброенасці паспяхова будзем яго выконваць. Працаваць. Стабільна і доўга. Вось пра што мне хочацца там сказаць.

— Гэта цікава, гэта надзвычай цікава,— пачаў узрушана Скачкоў.— Але чаму вы гэтага не даказвалі майму папярэдніку? Мы зараз не ведалі б такога спаду. Ці вам таксама прыемна было, што ўпраўленне дае па тры планы ў год?

— А вы падыміце архівы, паглядзіце, колькі разоў я афіцыйна пісаў пра гэта,— спакойна сказаў галоўны гео-

лаг.— Ваш папярэднік і ўсе разам з ім, у тым ліку Кацянок і Бурдзей, асепленыя славай, прэміямі, лічылі мяне дзіваком. Канешне, ваш папярэднік свайго дабіўся, пайшоў на павышэнне, а промысел пасадзіў на мель. Мяне высмейвалі, мне, як малому дзіцяці, даказвалі, што краіне трэба нафта, а ты, маўляў, са сваімі ідэямі ставіш палкі ў калёсы. Вось так.

Скачкоў уважліва паглядзеў на галоўнага геолага, высокага, мажнага, крыху прыгорбленага, у тоўстым шэрым світэры, са спакойным барадатым тварам, з невялічкімі спакойнымі вочкамі, якія, здавалася, ніколі не выдавалі яго настрою.

— Што вы прапануеце канкрэтна? — спытаў у яго.

— Я прашу запісаць у нашы мерапрыемствы такі пункт.— Галоўны геолаг крыху задумаўся, прыплюшчыўшы вочы, потым нібы прадыктаваў: «Дабівацца неадкладнага вывучэння магчымасцей кожнай свідравіны, кожнага радовішча, і на падставе гэтых даследаванняў скласці навукова абгрунтаваны план дабычы нафты ў Зуеўскім нафтагазадабываючым упраўленні».

— Як вы глядзіцё на гэту прапанову? — звярнуўся Скачкоў да Бурдзея.

— Прапанова слушная,— адказаў не вагаючыся галоўны інжынер.— Але ўпісваць ў нашы прапановы яе не варта. Нашы прапановы павінны быць абсалютна рэальнымі, каб усе верылі ў іх выкананне. А выкананне гэтага пункта ад нас не залежыць.

— А гэта правільна,— пагадзіўся з ім Скачкоў.

— Дзівакі,— усміхнуўся ў бараду Працько.— А грамадская думка? У нас ёсць дэпутаты. Яны маглі б гаварыць пра гэта на сваіх сесіях. Выступаць у прэсе. Паступова дайшло б да каго трэба. План наш яўна завышаны. Які трэба? Не ведаю... Мяне можна абвінаваціць, што я запусціў кантроль над свідравінамі. Можна. Я таксама грэшны. Хоць і мне не да гэтага было. Гналі план. У выніку мы так і не ведаем, колькі нафты павінны браць з кожнай свідравіны, тым больш што геалагічныя ўмовы тут спецыфічныя. Свідравіна на свідравіну не падобныя. Вы разумееце, што атрымалася? — ён падышоў да Скачкова і тлумачыў толькі яму: — Калі ўдарыў першы магутны фантан нафты, усім падалося, што пад намі яе цэлае мора. Акіян! У план паставілі дзесяць мільёнаў у год. Знізілі да пяці. Скаціліся да трох. Цяпер не можам адолець і тры. А каб з самага пачатку рабілі разумна, па-

гаспадарску, то бралі б па чатыры. І не адзін дзесятак год. Адным словам, Валерый Міхайлавіч, калі вы не даб'е-цеся перагляду плана, праз год-другі вас здымуць з пасады як чалавека, які не забяспечыў патрэбнага ўзроўню ў кіраўніцтве ўпраўленнем. Вам якраз зараз і падняць гэтае пытанне. Другога такога зручнага моманту не будзе. Праз год будзе позна.

— Значыцца, як я зразумеў, нашы мерапрыемствы нічога не варты?

— Чаму не варты? — збянтэжыўся галоўны геолаг.— Дзякуючы ім, мы, можа, сумеем дабіцца таго тэхналагічнага парадку, які павінен быць на кожным сучасным нафтапромысле. Без гэтага далей ісці нельга. Вазьміце мяне з сабой, буду абараняць гэтыя мерапрыемствы як звер.

— Пра свае прапановы таксама не забудзеце?

— Чаму пра свае? Спадзяюся, яны стануць і вашымі. Пра іх будзеце гаварыць вы ці я з вашага дазволу. Спадзяюся, за дарогу я сумею вас пераканаць. Бо калі мы з вамі не паразумеемся, нам цяжка будзе працаваць разам. А я не хачу пераязджаць з Зуева, я прывык тут...

— Цяпер ясна, чаму да гэтага часу вы не дабіліся свайго,— упікнуў яго Скачкоў.

Зайшла сакратарка, сказала, што машына пад'ехала.

Калі Скачкоў і Працько зайшлі ў кабінет генеральнага дырэктара, Дарашэвіч падняўся з-за стала, выйшаў ім насустрач, падаў руку спярша галоўнаму геолагу, потым Скачкову, весела рагатнуў:

— Можаце нават не гаварыць, з чым прыехалі. Раз з галоўным геолагам — мне ўсё ясна,— ён спыніўся перад крыху разгубленым Скачковым, глянуў на яго, хітравата ўсміхнуўся аднымі вачыма.— Дарэчы, помніцца адна цікавая гісторыя. Яшчэ з тых часоў, калі я працаваў у раёне. Быў у нас сакратар райкома камсамола нейкі Кабылкін. Страшна разумны хлопец. Але не лез за трыбуну, не любіў. На сходах, канферэнцыях заўсёды выстаўляў каго-небудзь замест сябе. Напіша яму прамову, патрэніруе, а потым сядзіць у зале і слухае, як гучыць ім напісаны тэкст. Асабліва любіў вазіць выступаць аднаго супрацоўніка раённай газеты. Хлопец прыгожы, голас звонкі, камандзірскі. Прозвішча Кастылёў ці Кастыль. Дык вось паслухалі, паслухалі таго Кастыля і паднялі ў абком камсамола. А потым і вышэй. Чуў я, што наш Кабылкін цяпер нібы памочнікам у яго. А той Кастыль нейкім главукам

кіруе. Вось так часам бывае на свеце. Так што, Валерый Міхайлавіч, не вазіце з сабой у розныя ўстановы сваіх падначаленых, хе-хе...

— Думаю, што ў даным выпадку вы, Віталій Апанасавіч, памыліліся. Не падыходзіць ваша гісторыя. Мы прывезлі нашы мерапрыемствы,— Скачкоў інтанацыяй голасу выдзеліў слова «нашы».— Лічым, што яны рэальныя. Толькі хацелася б, каб вы памаглі нам абсталяваннем і запаснымі часткамі,— і ён паклаў сінюю папку на стол генеральнага дырэктара.

— Цікава, цікава,— вярнуўся на сваё месца Дарашэвіч, перагартаў кароткімі пальцамі лісткі, упікнуў: — Вы так доўга рыхтавалі свае прапановы, што думаў, прывязеце цэлы гросбух, а вы падкінулі нейкую цыдульку. Але нічога, хутчэй прачытаем. Пачакаеце, пакуль гляну? Можа, папрасіць, каб чаю вам падалі?

— Не, дзякуем,— ледзь не ў адзін голас адмовіліся Скачкоў і Працько. Яны ўселіся ў крэслы, што стаялі паўз сцяну. Працько адразу ж заняў сваю прывычную паставу, схіліў галаву, упёршыся ў грудзі барадой, і ўважліва разглядаў нешта перад сабой на квяцістым дыване, які займаў усю падлогу ў вялізным кабінеце. Скачкоў жа не зводзіў вачэй з Дарашэвіча, стараючыся па выразу твару здагадацца, як успрымае той іх прапановы. Дарашэвіч, павесіўшы на нос акуляры, уткнуўся ў папку і нібы застыў, толькі яго мясістыя губы, якія зрэдку варушыліся, выдавалі, што чалавек чытаў, чытаў уважліва, засяроджана. Вось ён, нарэшце, адарваўся ад папер, зняў акуляры, кончыкам стракатага гальштука працёр іх, паклаў на стол перад сабой, пасядзеў яшчэ трохі ў задумлівасці, потым, крутануўшыся на крэсле, каб лаўчэй было глядзець на прысутных, не хаваючы захаплення, сказаў:

— Вельмі грунтоўна, вельмі грунтоўна,— ён накрыў тоўстай далоняй з растапыранымі пальцамі папку.— Прызнацца, не чакаў такой грунтоўнасці. Усё прадумана. Разумна, разумна... Але...— ён глянуў на Скачкова, спыніўся позіркам на Працько, усміхнуўся яму.— Але... Навядзём парадак, пачнём выконваць план. А далей?

— Потым будзем думаць далей,— адказаў Скачкоў.

— А я думаў, раз вы прыехалі разам, то вас таксама трывожыць заўтрашні дзень. Бо Працько калі і думае пра што-небудзь, дык толькі пра заўтрашні дзень, хе-хе...— і загаварыў заклапочана, звяртаючыся да галоўнага геолага: — Я думаў пра вашу запіску, Віктар Іосіфавіч. Не

адзін раз перачытаў. Трэба прызнаць, вы мелі рацыю біць трывогу. Але тады нафта сама бегла ў рукі, толькі бяры. Потым верылі, што геолагі яшчэ знойдуць не адно радовішча. А яны нічога не знайшлі. Я часам пачынаю думаць, што нічога і не знойдуць... Цяпер шкадую, што не прыслухаліся раней да вас.

— Я вельмі рад,— сказаў Працько.

— Я гаварыў з Балышам. І не адзін раз,— працягваў Дарашэвіч, адкінуўшыся на спінку крэсла, пакамечыў рукамі жывоцік.— І ўчора званіў. Балыш пакуль што супроць усялякай камісіі. Катэгарычна. Пакуль вы, гаворыць, не пачнеце выконваць план, да таго часу пра камісію і не заікайцеся. Вось так. Яго, вядома, можна зразумець. Калі зараз ён прышле нам камісію, то гэтым самым прызнае, што ён па-варварску эксплуатаваў радовішча, калі сядзеў тут начальнікам упраўлення. Вось і патрабуе выканання плана. Карацей, калі хочам дабіцца змяншэння плана, трэба выконваць завышаны. Іншага выйсця няма. Магу паабяцаць вам, як толькі ўпраўленне па здабычы нафты ўзнімецца да планавых паказчыкаў, я сам паеду ў міністэрства і без камісіі не вярнуся. Як гаворыць мой унук, жалезна! А пакуль, таварышы, закасвайце рукавы...

Пры развітанні Дарашэвіч пацінуў першаму руку Скачкову, але неяк мімаходзь, болей для ветлівасці, а Працько ўсміхнуўся, ласкава зазірнуў у вочы, трымаючы за локаць, правёў да дзвярэй.

— Запахла смаленым, дык запіскі мае ўспомніў,— сказаў Працько ўжо ў машыне.

— Складана,— уздыхнуў Скачкоў, крыху абражаны той падкрэсленай непачцівасцю, якую праявіў да яго генеральны дырэктар.— І адкуль у Дарашэвіча прывычка расказваць дурацкія гісторыі?

— Пад старасць усе любяць успамінаць,— усміхнуўся галоўны геолаг.— Нам ад гэтага не лягчэй. Мы з вамі паміж прыродай і начальствам. А яны адзін аднаго не вельмі часам разумеюць.

— Нічога не скажаш, аптымістычная сімфонія,— успомніў Скачкоў сваё ўчарашняе захапленне мерапрыемствамі.

— Я ведаю аптымістычную трагедыю, а вось сімфонію...— сказаў Працько.

Скачкоў уздыхнуў:

— Будзем спадзявацца, што да трагедыі не дойдзе. Хоць і аптымістычнай...

Галоўны геолаг прамаўчаў. Скачкоў азірнуўся, той сядзеў, упёршыся барадой у грудзі, заплюшчыўшы вочы. Здаецца, драмаў.

## 9

Ала Пятроўна, накінуўшы на плечы паліто сядзела за сваім столікам і правярала дыктанты. Не заўважыла, як зайшла дырэктарка. Пачуўшы пастук абцасаў, адарвалася ад сшыткаў, глянула перад сабой. Антаніна Сяргееўна ў новым блакітным касцюме, з тонкім шалікам на шыі кіравала да яе. Твар яе быў асветлены радаснай усмешкай.

Пра гэты блакітны касцюм, у якім зараз з'явілася дырэктарка на работу ў дажджлівы асенні дзень, гаварылі ўсе. Расказвалі, што яна заказала яго ў атэлье ў той жа дзень, як убачыла на Але Пятроўне блакітнае плацце. Але ў атэлье, як водзіцца, вельмі доўга шылі касцюм, некалькі разоў перараблялі яго, бо не лёгка было ўлагодзіць патрабавальную заказчыцу. Нават такому знакамітаму закройшчыку, як Журавель. Пашылі, калі ўжо мінулі сонечныя дні бабінага лета.

І вось зараз Антаніна Сяргееўна блакітным воблакам набліжалася да Алы Пятроўны, чакаючы калі не пахвальбы,— на яе не вельмі разлічвала,— дык хоць крышачку захаплення і зайздрасці ў вачах. Ала Пятроўна, вядома, заўважыла і сумела ацаніць абнову — касцюм сапраўды быў выдатны і маладзіў жанчыну год на дзесяць,— але нічым не выдала свайго захаплення. Адкінуўшыся на спінку крэсла, тулячыся ў паліто, нацягваючы рукамі полы на калені, спытала:

— Калі гэта, Антаніна Сяргееўна, цяпло дадуць? А то хоць у валенках прыходзь. У класе вучні надыхаюць, а тут немагчыма. Як у склепе.

Антаніна Сяргееўна прама на вачах абвяла, паблякла, разгубілася так, што спачатку не знайшлася што і сказаць. А потым, сеўшы бокам на крэсла перад столікам Алы Пятроўны, з такой заклапочанай зацікаўленасцю спытала, нібы для гэтага толькі і зайшла ў настаўніцкую:

— Як справы? Даўно збіралася з вамі пагаварыць, ды ўсё часу не было. А тут глянула ў расклад, бачу, фортачка ў вас. Зайду, думаю.

Ала Пятроўна не любіла нікому расказваць пра свой клас, а тут не стрывала: не хацелася далей крыўдзіць дырэктарку. У душы варухнулася нечаканае шкадаванне да старой жанчыны, такой бездапаможнай перад сваім узростам:

— Не вельмі. Б'юся, б'юся, і ні з месца. Спачатку думала, што забылі за лета. Але чым болей вучу, тым болей пераконваюся, што не забылі. Яны не ведалі. Многае з мінулых гадоў прыходзіцца вучыць спачатку. Але і гэта не страшна. Страшна, што не хочуць вучыцца. Прыгрозіш двойкай у чвэрць, не баяцца. Усё роўна, кажуць, будзе тройка. Якія могуць быць тройкі, калі дыктанты пішаце на двойкі? Напішам на двойку, вы, гавораць, паправіце, мы перапішам на пяцёркі. Вы чулі такое? Суцяшае, што ў класе некалькі чалавек вучацца нядрэнна. А некаторыя нібы і не чуюць, што ім гаворыцца на ўроку. Наробяць дома такога... Вы толькі гляньце,— Ала Пятроўна паказала дырэктарцы старонку ў сшытку, расквечаную чырвоным.

— Што ж зробіш,— голас у дырэктаркі гучаў так, як і павінен гучаць у чалавека, прывыкшага загадваць.— Дзеці да нас з ведамі не прыходзяць. Прыходзяць вучыцца. Некаторыя, на вялікі жаль, не хочуць, а некаторых мы не ўмеем вучыць.

— Не ведаю, што рабіць,— скардзілася Ала Пятроўна, не заўважаючы сапраўднага настрою дырэктаркі.— Часам здаецца, мне папаліся самыя дрэнныя класы.

— Дарэчы, дарагая,— здзекліва сказала дырэктарка,— чамусьці ўсе новенькія настаўніцы лічаць, што ім пападаюцца самыя дрэнныя класы. Але запомніце, дрэнных класаў не бывае. Ёсць дрэнныя настаўнікі. Я, вядома, не маю іменна вас...

— Я разумею, Антаніна Сяргееўна, што вы маеце на ўвазе тых настаўнікаў, у якіх вучні нічога не ведаюць,— гледзячы ў вочы дырэктарцы, сказала Ала Пятроўна.

Антаніна Сяргееўна не чакала такога, сумелася, не знайшлася што сказаць, паднялася, моўчкі пайшла з настаўніцкай. У дзвярах спынілася:

— Вынікі за чвэрць пакажуць, хто чаго варты.

З расказаў Фаіны Алегаўны Ала Пятроўна ведала, што ў гэтай школе лічыліся добрымі настаўнікамі тыя, у каго вучні мелі лепшыя ацэнкі. Дарэчы, такі крытэрый найбольш правільны, але пры ўмове, што ацэнкі аб'ектыўныя, незавышаныя. А ў тым, што вучням яе папярэд-

ніцай ставіліся завышаныя ацэнкі, яна не сумнявалася. Канешне, Ала Пятроўна магла б паставіць усім, у тым ліку і тым, што нічога не ведаюць, тройкі. Але яна ведала, што ніколі гэтага не зробіць. Не пойдзе супроць свайго сумлення. А галоўнае, ацэнкі страцяць тады ў вачах вучняў усялякую вартасць. Потым іх двойкай не падгоніш. Яна за чвэрць паставіць вучням толькі тыя ацэнкі, якія яны заслужаць. А гэта значыць, у большай паловы будуць двойкі. Такім чынам, нягледзячы на свае старанні, Ала Пятроўна будзе лічыцца самай горшай настаўніцай школы. А настаўнікі, горшыя за яе, будуць жыць спакойна, да іх не будуць чапляцца...

А можа, яна, Ала Пятроўна, сапраўды не ўмее вучыць дзяцей? Развучылася за той час, як не рабіла ў школе. Варта б схадзіць да некаторых настаўнікаў, паглядзець, як яны працуюць. І відаць, трэба пачаць з наведвання ўрокаў яе папярэдніцы Святланы Маркаўны. Усе трубяць пра яе, як пра лепшую...

Святлана Маркаўна, калі Ала Пятроўна папрасілася да яе на ўрок, узрадавалася. Ёй, відаць, пальсціла, што гэтая ганарліўка, захацела павучыцца ў яе педагагічнаму майстэрству, і яна гучна, каб усім было чутно ў настаўніцкай, сказала:

— З радасцю падзялюся з вамі, Ала Пятроўна, сваім вопытам,— і яе шырокія блакітныя вочы аж заззялі.

На здзіўленне Алы Пятроўны, Святлана Маркаўна ўрок правяла выдатна. Нібы загадзя ведала, што прыйдуць вучыцца ў яе педагагічнаму майстэрству. Алу Пятроўну ўразіла, як яна падавала новы матэрыял. Амаль не заглядваючы ў канспект, чытала вершы на памяць, выразна, з настроем. Ала Пятроўна так зацікавілася, што спачатку сядзела, як прыкладная вучаніца, і слухала. Пазней заўважыла, што ў паводзінах Святланы Маркаўны болей ад дрэннай артысткі, якая завучана і эфектна іграе сваю ролю, чым ад настаўніцы, заклапочанай, каб яе словы даходзілі да кожнага вучня. Яна наогул не звяртала ўвагі на клас, слухала толькі сябе, сачыла толькі за сабой.

Але Пятроўне хацелася ведаць, як яе вучні засвоілі новы матэрыял, і таму на наступны ўрок яна зноў пайшла да Святланы Маркаўны.

Вучні адказвалі па-рознаму. Адны лепш, другія горш, былі і такія, што нічога не ведалі. Але настаўніцу гэта не хвалявала. Яна сядзела за сталом, глядзела ў акно, больш думаючы пра нешта сваё. Дадатковых пытанняў не

задавала, не спрабавала глыбей праверыць веды. Тым, хто нешта адказваў, ставіла добрыя ацэнкі, а тым, хто нічога не ведаў, нічога не ставіла, толькі прасіла:

— Падвучы, калі ласка, наступны раз выклічу.

Двоек па яе прадмеце ў класным журнале не было зусім.

— Дзеці ж перастануць вучыцца,— сказала Ала Пятроўна, калі яны прыпыніліся ля акна ў калідоры пагаварыць пра ўрок,— калі не будзеце ставіць двойкі.

— У мяне свой погляд на ацэнкі,— засмяялася Святлана Маркаўна і павучальна, яўна пераймаючы дырэктарку, дадала: — Хто хоча вучыцца, будзе вучыцца, а хто не хоча, таго ніякімі двойкамі не падгоніш. А потым... Каб начальства не чаплялася да двоек. А то якому балвану пастaвіш двойку, тут жа завуч патрабуе ад цябе план індывідуальнай работы з ім. Цябе скланяюць на педсаветах. Ад праверак і розных камісій няма адбою. Навошта мне гэта? Навошта мне гробіць сваё здароўе з-за нейкіх дурняў? Не хочуць вучыцца, не трэба... Канешне, каб не ганялі за двойкі, я ставіла б. Яшчэ б колькі ставіла! І не толькі двойкі, а і калы. І ў атэстат. Хай кастыляе на тых калах у жыццё, хай усе ведаюць, які ён лайдак. А калі ў начальства фармальны падыход да ацэнак, навошта мне сябе падстаўляць? Я таксама хачу жыць спакойна...

Смела гаварыла Святлана Маркаўна. Яна, відаць, сапраўды нікога не баялася. Канешне, ёй можна быць такой, калі за яе спіной муж, які штогод рамантуе школу. Вядома, Ала Пятроўна магла б і свайго Скачкова прымусіць нешта зрабіць для школы. У яго гаспадарка вялікая. Але...

Ала Пятроўна падзяліла сваіх вучняў на групы па пяць-шэсць чалавек і з кожнай групай займалася пасля ўрокаў. Занова вучылі пройдзены раней матэрыял, пісалі кароткія дыктанты, тут жа іх правяралі, аналізавалі памылкі. З невялікай групай дзяцей працаваць было няцяжка. Школьнікі ўважліва слухалі настаўніцу, стараліся. А на ўроках вучылі тое, што трэба было вучыць. Ала Пятроўна заахвочвала дзяцей як магла. Калі бачыла, што вучань стараецца, а вучоба не даецца, то такому магла завысіць ацэнку. Ставіла тройку, калі трэба было ставіць двойку. Калі ж сутыкалася з абыякавасцю да вучобы, не шкадавала і калоў. Але самае сумнае было ў тым, што большасць вучняў абыякава адносіліся да сваіх ацэнак: не верылі, што ім за чвэрць будуць двойкі.

У выніку вучні стараннеи вучыліся, лепш адказвалі на ўроках. Але гэтае паляпшэнне было зусім мізэрным, нязначным, яно мала радавала Алу Пятроўну, хоць і мацавала веру ў поспех.

Канчаткова сцвердзіць гэтую веру павінен быў дыктант. Ён больш дакладна павінен быў выявіць веды дзяцей.

Ала Пятроўна старанна рыхтавала вучняў да гэтага дыктанта. На ўроках дыктавала асобныя словы, нават сказы, якія павінны былі сустрэцца ў дыктанце. Кожны ўрок нагадвала, на якія правілы трэба звярнуць увагу. Рыхтавала дзяцей і псіхалагічна. Маўляў, трэба ўмець на нейкі час засяродзіцца, забыць на ўсё, бо калі на ўроку што праслухаеш, потым можна ў кніжцы вычытаць, калі ж на дыктанце задумаешся, памылка адразу зляціць у сшытак. Наогул, паводзіны дзяцей, іх уменне слухаць вельмі турбавалі Алу Пятроўну. Вучні не ўмелі засяродзіцца, перагаварваліся, шумелі. Асабліва на апошніх уроках. Відаць, стамляліся. Нават тады, калі сядзелі ціха, то не ўсе слухалі настаўніцу — было відаць па вачах, што думалі пра іншае. Спытаеш якога, пра што ўрок, а ён і пытання не чуе.

Вялікіх намаганняў каштавала Але Пятроўне прымусіць дзяцей слухаць сябе.

Настаўніца рыхтавалася да дыктанта больш, чым вучні.

Напярэдадні ёй дрэнна спалася. Здавалася, у пакоі не хапала паветра. Яно было сухім і пыльным. Не памагала і адкрытая фортачка: на вуліцы было ціха, паветра, загусцеўшае ад туману, здавалася нерухомым. Яна паднялася, выйшла на балкон. Пастаяла, пакуль не стала холадна. Калі заснула, то сну спакойнага не было. Паднялася з цяжкой галавой. Пасля цёплага душа пацягнула на сон, ды так моцна, што хоць кідай усё і падай на ложак. Напілася моцнай кавы. У галаве не паяснела, толькі загрукала ў вісках.

Ала Пятроўна стаяла перад адчыненай шафай, думала, што адзець. Хацелася не кідацца ў вочы, але быць урачыстай і строгай. Каб і сваёй знешнасцю ўплываць на настрой вучняў. Яны павінны адчуць, які ў іх сёння дзень. Адзела цёмна-зялёны касцюм. «Толькі для дыпламатычных прыёмаў»,— неяк сказаў пра касцюм Скачкоў. Пасля той рэплікі яна не насіла яго. І вось спатрэбіўся. Потым доўга ладзіла прычоску. Нічога нечаканага не прыду-

мала. Зачасала валасы назад, завязала на патыліцы ў гулю.

Калі зайшла ў клас, дзеці прыціхлі. Дзяўчынкі глядзелі на настаўніцу застылымі вачыма. Не даючы ні секунды на роздум, Ала Пятроўна пачала гаварыць, яшчэ кіруючыся да стала.

— Дзеці, у нас сёння вельмі адказны дзень. Будзем пісаць дыктант,— яна паклала на стол класны журнал, дастала з партфеля загадзя падрыхтаваны тэкст.— Сшыткі ва ўсіх на стале? Напішам чысло. Напісалі? Так... Дыктую....

Ала Пятроўна дыктавала тэкст больш выразна, чым трэба было. Ёй хацелася хоць чым памагчы сваім выхаванцам. Тады, можа, болей паверацы у сябе. Паверыўшы, лепей стануць вучыцца.

Увагі і засяроджанасці школьнікаў хапіла ненадоўга. Не прайшло паўурока, а ім ужо не сядзелася. Употайкі заглядвалі адзін аднаму ў сшыткі, перашэптваліся. Каб як утрымаць іх увагу, настаўніца пачала дыктаваць гучней, ходзячы паміж парт. Адзін раз нехта ззаду хіхікнуў. Азірнулася. Убачыла толькі нізка схіленыя над партамі галовы. Адчувала, што ў класе нешта адбылося ці адбываецца, але вучні стараюцца не выдаваць сябе. Можа, заўважылі што на ёй? Можа, выпацкалася ў крэйду? Яна мелькам агледзела сябе, нічога не ўбачыла. Пачала зноў дыктаваць. Ледзь не па складах, не адрываючыся ад тэксту. Зноў зашапталіся, завалтузіліся. Зарыпала парта. Раптам Калінаў падняўся, глянуў праз плячо дзяўчынкі, што сядзела перад ім.

— Калінаў, што такое? — крыкнула Ала Пятроўна.

— Праслухаў,— падняўся вучань, гледзячы на настаўніцу з-пад ілба.

— Прапускае, і нам перашкаджае,— паскардзілася яго суседка.

— Нечага тут,— ціха сказаў ёй Калінаў.— А то прыйдзецца твайму бацьку музыку заказваць.

У класе так дружна рассмяяліся, нібы ўсе толькі і чакалі гэтых слоў.

Калі б не дыктант, Ала Пятроўна выгнала б Калінава з класа, цяпер жа нібы і не заўважыла яго выхадкі, спытала:

— Дзеці, хто яшчэ прапусціў?

Некалькі вучняў паднялі рукі...

Да канца ўрока давялося некалькі разоў перадыктоў-

ваць асобныя сказы. Зверыць жа ўвесь тэкст не хапіла часу,— празвінеў званок.

І вось Ала Пятроўна сядзела ў настаўніцкай і крэмзала чырвоным вучнёўскія сшыткі. Першыя дзве работы былі напісаны дрэнна. Болей не хацелася правяраць. А тут яшчэ дырэктарка са сваімі роспытамі. Зусім сапсаваўся настрой. Ала Пятроўна склала сшыткі ў партфель і пайшла дамоў.

Дома не адразу засела за сшыткі. Паабедаўшы, доўга мыла посуд. Перамыла і той, што чыстым стаяў у шафе. Потым узяла газеты і прылегла на канапу. Трэба ж паглядзець, што дзеецца на свеце. Чытанне заўсёды супакойвала. Але на гэты раз думкі ўпарта вярталіся да дыктанта. Зразумела, пакуль не праверыць сшыткі, спакою не будзе. Узяўшы партфель, прысела да стала, што стаяў ля акна.

Некалькі сшыткаў папаліся добрых. Паставіла чацвёркі. Потым яшчэ адну тройку. Потым некалькі двоек запар. Самае прыкрае, што ўсе памылкі былі на тыя правілы, якія вучылі якраз перад дыктантам, у тых словах, якія не адзін раз пісалі на апошніх уроках. Узнікала нават думка, што памылкі рабіліся знарок. Раптам некалькі дыктантаў аказаліся амаль без памылак. Але яны не абрадавалі, толькі болей раздражнілі. Напісалі ж, змаглі, і не самыя лепшыя вучні. Значыцца, маглі напісаць усе. А сшытак Калінава і зусім вывеў з сябе. Замест тэкста на ўсю старонку намаляваў вастраносую галаву сабакі. З доўгага языка капала слюна. З той слюны нітачкай складваліся словы: гаў! гаў!.. Гэта ўжо быў здзек, здзек над ёй, настаўніцай, над яе стараннем. Ала Пятроўна шпурнула сшытак некуды ў куток пакоя. Дрыжачай рукой разгарнула наступны. Там было так намазюкана, што нічога не прачытаць. Яна шпурльнула і гэты сшытак. А потым ужо не магла стрымаць сябе. Схапіла правераныя і неправераныя сшыткі і кінула іх. Па пакоі закружыліся блакітныя, белыя, ружовыя прамакаткі.

Ала Пятроўна ўпала на ложак, уткнулася тварам у падушку, расплакалася. Плакала ад адчаю, ад сваёй бездапаможнасці. Плакала, шкадуючы сябе. Не, з яе хопіць. Хай хто хоча ідзе ў тую школу, а яе нага туды не ступіць. Нечага там рабіць. І наогул, нечага было ехаць у гэтую глухамань. Была ж добрая работа, ніхто ніколі не крыўдзіў. Толькі хвалілі...

Каб Ала Пятроўна болей пабыла адна, яна супакоіла-

ся б, сабрала сшыткі і нікому не сказала б пра свой часовы адчай. Але якраз у гэты дзень раней, чым звычайна, прыйшоў дамоў муж. Яна чула, як бразнуў замок, потым зашамацеў плашч. Ляпнула вечка ў скрынцы для абутку — шлёпнуліся на падлогу тапачкі. Зайшоў у залу, відавочна здзівіўся, убачыўшы раскіданыя па пакоі сшыткі. Які час было ціха. Потым зноў затупаў па падлозе, засланіў сабой дзверы ў спальню, паглядзеў на Алу Пятроўну, насцярожана спытаў:

— Што за разбой такі?

Ала Пятроўна мацней сціснула зубы, каб не пачуў, што яна плача.

Скачкоў падышоў да яе, ціха крануў за плячо:

— Спіш, Алачка?

Яна тарганула плячом, скінула яго руку.

Ён пастаяў у нерашучасці, потым падсеў да яе, зноў спытаў:

— Што з табой, Алачка? Можа, хто пакрыўдзіў?

— Ты! Ты! Ты! — яна прыўзнялася, абаперлася на рукі, глянула на яго замурзанымі ад тушы вачыма.— Ты пакрыўдзіў.

— Якая ты ў мяне прыгожая! — рассмяяўся Скачкоў.— Праўда. Глянь на сябе! — падняўся, узяў на тумбачцы кругленькае люстэрка.

Ала Пятроўна адпіхнула руку з люстэркам.

— Ну калі жанчына не хоча глядзецца ў люстэрка, то справы сапраўды дрэнь,— спрабаваў жартаваць Скачкоў.— Расказвай, што здарылася. Нешта сур'ёзнае? Я ведаю, цябе драбязой не раздражніш...— і свядома пальсціў: — Жанчыны з такім моцным характарам, як у цябе, не так часта сустракаюцца... Можа, адна на такі горад, як наш Зуеў.

— Здзекуешся? — у голасе меней ранейшага адчаю, болей стрыманасці.— Якая дурная! Якая дурная! Жыла, гора не ведала. Дзе ж, сапраўднага жыцця захацела. Атрымала! Сунулі недавучак і цяпер смяюцца. Усе смяюцца,— і ўжо праз усхліпванне ўпікнула: — Ты таксама...

І заплакала так, што здавалася, вось-вось захлынецца без паветра.

Скачкоў прынёс шклянку вады, ручнік. Даў напіцца, выцер туш пад вачыма. Ала Пятроўна прыхінулася да яго грудзей, сцішылася, як сціхае пакрыўджанае малое, сустрэўшы спагадлівую ласку.

— Супакойся, Алачка... На свеце няма нічога вартага тваіх слёз.

— Супакоішся тут,— прашаптала. Села, паправіла валасы, шмарганула носам.— Ідзі паглядзі, што яны напісалі. Жах! Як ніхто ніколі іх не вучыў. Два месяцы білася — і ні з месца. Дырэктарка сказала, па ацэнках за чвэрць будуць меркаваць пра мае здольнасці. Будуць двойкі, значыцца, не ўмееш вучыць. А паставіш тройкі, правераць, скажуць, займаешся прыпіскамі. І будзе правільна. Бо тройкамі, акрамя ўсяго, многія прыкрываюць сваю бяздзейнасць. Карацей, хочаш застацца ў школе, танцуй пад іх дудку. Не будуць чапаць. Будзеш дабівацца свайго, прышлёпнуць. Нейкае зачараванае кола. Як разарваць яго?..— і сумна ўміхнулася.— Праца па прызванню, называецца. Табе што? Сеў у машыну і паехаў, а тут хоць вешайся...

Скачкоў разумеў і не стаў пярэчыць, даказваць сваё, чакаў, пакуль яна супакоіцца. Падняўся, сабраў раскіданыя сшыткі, паклаў іх стосікам на стол. Некалькі сшыткаў разгарнуў, убачыў толькі чырвонае. Вярнуўся ў спальню. Жонка сядзела, гартала нейкую кніжку.

— Паляжала б... Можа, акрамя ўсяго, ператамілася. Што ты хочаш,— штодзённае нервовае напружанне. Адпачні. Сшыткі хай пачакаюць.

— Хацелася ж ведаць.

— Адразу багата хочаш.

— Баюся, што нічога не зраблю ні адразу, ні наогул,— уздыхнула. Размаўляла без ранейшай нервовасці, нават з нечаканай цвярозасцю.— Помню, першы дзень прыйшла ў школу. Ішла як на свята. Адзелася. А яны паглядзелі на мяне, як на выскачку. Нехта нават хіхікнуў. Цяпер ведаю, чаго хіхікалі. Маўляў, пачакай, хутка абліняеш. Ведалі, якія класы мне ўсучылі. Што рабіць? Вучыць далей? Нічога не даб'ешся, выганяць. Кідаць?.. Потым не даруеш сабе...

Скачкоў ведаў, больш таго, быў перакананы, што праца ў школе — яе лёс. Толькі там яна можа знайсці сябе. Ва ўсялякім разе, яна жыве школай. І гэты псіхалагічны зрыў, гэты адчай, гэтае часовае расчараванне найбольшы доказ таму. Ведаў, што зараз яе нічым не суцешыш. Можа, хоць крыху суцяшальным будзе расказ пра сябе, што яму зараз таксама нялёгка. Тады яе бяда побач з яго бядой не будзе такой няўцешнай...

— Чорт ведае што робіцца,— пачаў ён.— Канешне,

бывае такое ў жыцці, што, здаецца, ніякагаа выйсця. Асабліва калі замахнешся на нешта значнае. Стаіць яно перад табой скалой, і да яго ніякага доступу. Але такое бывае тады, калі хочацца хутчэй дабіцца свайго. Адным скачком... Усё канчаецца тым, што, расквасіўшы сабе нос, сядзім і плачам. А ісціна ў тым, каб кожны дзень упарта рабіць сваё. Кожны дзень. Тады і не заўважыш, як тая скала апынецца ззаду...

У мяне таксама тупік. У гэтым месяцы план завальваем больш паспяхова, чым раней. Некаторыя свідравіны паставілі на рамонт, а запчастак няма. А на тых, што працуюць, не атрымалі нафты столькі, колькі хацелі. Не хапае пластавога ціску. Воданагнятальныя станцыі працуюць ваўсю. Болей з іх не выціснеш. Новых помпаў няма. А на іх разлічвалі. Вось так. Людзей не хапае. Нашы цудоўныя мерапрыемствы, якія ўхвалены на ўсіх узроўнях, аказаліся непатрэбнай паперкай. Пакуль што... Бо нешта ж робім. Разаслалі ва ўсе канцы пасланцоў дабываць тэхніку, метал. Многія вяртаюцца з пустымі рукамі, але не ўсе. Тыя трубы, помпы, якія ўсё ж удалося вымаліць у некага, ужо ў дарозе. Калі будуць, ніхто не ведае. Генеральны дырэктар звоніць кожную раніцу. Маўляў, вы мастакі толькі прыгожыя паперы складаць, а на справе не вельмі. Здзекуецца. Здаецца, вось-вось скажа, што не спраўляешся. Што рабіць? Апусціць рукі? Не, падумаў я. Адступаць няма куды. Змагацца да канца. Тым больш што сюды самі прыехалі, самі ўзвалілі на сябе...

— Вось іменна,— цяпер ужо мужу спачувала Ала Пятроўна.

— І правільна зрабілі. Хіба не так? Давай успомнім, як жылі да гэтага? Лёгка жылі... Фактычна ні за што не адказвалі. Вечная незадаволенасць сабой, вечнае адчуванне сваёй нікчэмнасці. Не ведаю, як у цябе, а ў мяне такі настрой часта з'яўляўся. Падумай сама... Атрымаў вышэйшую адукацыю, канкрэтную спецыяльнасць. А што зрабіў? Стараўся ўзняцца над шэрым жыццём. Думаў, дасягну гэтага, зрабіўшы кар'еру. Не заўважыў, як страціў самастойнасць, сябе. Не, сябе яшчэ не страціў. Каб страціў, не аказаўся б тут... Што ж лепей? Тое жыццё ці гэта? Цяпер на маіх плячах лёс цэлага калектыву. Яго поспехі, яго праца, нарэшце, яго паўсядзённае жыццё залежыць ад таго, ці сумею наладзіць як след работу. Нялёгка? Яшчэ як. Затое робіш нешта значнае, патрэбнае людзям. Зусім другі настрой. Нават сам іншы. У псіхала-

гічным плане. І, акрамя ўсяго, цікава. Мне цяпер не хапае часу. Раней паглядваў на гадзіннік, колькі засталося да канца работы, а тут, каб меў уладу, наогул замарудзіў бы час. Правільна зрабілі, што пераехалі. І ў цябе ўсё наладзіцца. Настане час, калі яшчэ не захочаш пакідаць школу. Успомніш потым... А ведаеш, пра што я часам думаю. Відаць, у кожнага чалавека настае ў жыцці такі час, калі ён павінен вытрымаць свой галоўны экзамен... У адных раней, у другіх пазней. У нас з табой зараз. Дык лепей позна, чым ніколі. Іншы ўсё жыццё прасядзіць ля карытца з прэстыжным цестам, прахрумкае і не заўважыць, што сапраўднае ў жыцці праляцела міма, не спазнанае ім. Так і пакіне гэты свет не зведаўшы, чаго ён прыходзіў на зямлю. Добра, што мы з табой спахапіліся. Можа, мы спазнаем яшчэ такую радасць, такое шчасце, пра існаванне якіх не падазравалі? Ва ўсялякім разе, будзем болей сябе паважаць. Можа, у гэтым і сэнс жыцця? Уяві сабе, што табе ўдасца — яно так і будзе — пераламаць настрой сваіх вучняў, навучыць іх добраму, навучыць іх вучыцца, працаваць, любіць веды, памагчы ім стаць выдатнымі людзьмі. Вучоба — гэта тая ж праца. Лайдак у школе ніколі не будзе добрым працаўніком у жыцці. Сумленне ў чалавека адно. Хіба мала радасці будзе ад таго, што навучыла, як ты кажаш, недавучак думаць. Гэта будзе подзвіг...

— Так ужо і подзвіг,— усміхнулася Ала Пятроўна.

І гэтая ўсмешка болей за ўсё абрадавала Скачкова.

— А што не так? — загаварыў весялей.— Подзвіг, ды яшчэ які. Трыццаць абалтусаў зрабіць людзьмі?.. Гэтыя абалтусы, калі вырастуць, паразумнеюць, усё жыццё будуць дзякаваць табе. Дзеля гэтага варта змагацца... Канешне, бывае цяжка, але што рабіць?

— Сапраўды, што рабіць? — спытала Ала Пятроўна.

— Карабкацца на скалу,— засмяяўся Скачкоў.

## 10

Калі вахта ад'язджала дамоў на выхадныя, Алесіч нават не выйшаў з вагончыка, прыкінуўся, што спіць. Ляжаў на ложку, чакаў, пакуль адыдзе аўтобус. Таварышам сказаў, што ў Зуеў не паедзе, а калі надумаецца ехаць да маці, то гэта зусім у другі бок. Пачуўшы, што гул аўтобуса аціх, выйшаў, скіраваў да вагончыка майстра. Рослік

сядзеў ля маленькага століка, прыцісնуўшы плячом да вуха тэлефонную трубку, запісваў у тоўсты сшытак і крычаў:

— Ідзём з апераджэннем графіка. Сутак на пяць. Дызелі не глушым і на секунду. Праз тыдзень закончым бурыць. Перадайце, каб не марудзілі з гаручкай. Заяўкі павезлі вахценным аўтобусам... Канешне, перарасход... Як вы хацелі? На павышаных хуткасцях... Нічога, раней закончым, эканомія будзе. Вы прэміі рыхтуйце, а не вымовы, хе-хе... Усяго! — паклаў трубку на месца, падняўся, стоячы дапісаў нешта ў сшытку, жвава павярнуўся ўсім каржакаватым целам да дзвярэй, заўважыў Алесіча.

— Вы не паехалі?

— Як бачыце.

— Чаму?

— Баюся. Калі паеду, баюся, доўга будзеце мяне чакаць,— усміхнуўся Алесіч. Яго востры нос здаўся яшчэ вастрэйшым.— Лічыце, Сцяпан Юр'евіч, не хачу ехаць, хачу рабіць. Магу хоць зараз на вахту.

— Не маю права пакідаць вас без адпачынку. Так што...— Рослік лічыў гаворку скончанай, падышоў да Алесіча, спыніўся, бо той перашкаджаў яму выйсці.

— Вы што, Сцяпан Юр'евіч? Не разумееце, што з такімі грашыма ў кішэні мне нельга без дзела...

— А-а...— разглядаючы Алесіча карымі вачыма, Рослік параіў.— Адашліце жонцы.

— Няма жонкі,— буркнуў Алесіч.— Так што пасылайце, начальнік, на вахту. Лепей рабіць, чым дрыхнуць. На зарплату не прэтэндую...

— Добра,— пагадзіўся Рослік.— Добра, ідзіце. Якраз верхавы дамоў прасіўся. Падменіце яго.

Алесіч падаўся ў раздзявалку, пераадзеўся ў рабочае, пайшоў на буравую. Верхавому там нечага было рабіць: трубы падымаць не збіраліся. Алесіч усеўся на стальных абсадных трубах, якія загадзя завезлі для мацавання ствала свідравіны. Новенькія трубы блішчэлі сінявой.

Алесіч сядзеў, унурыўшыся галавой у брэзентавую робу і не зводзіў прыжмураных вачэй з харчпункта. Вось дзверы ў сталоўцы адчыніліся. Каця ляпнула імі, зачыніла. Размахваючы поламі халата, як белымі крыламі, падалася ў свой вагончык. Замок на дзверы не павесіла, значыцца, вось-вось вернецца назад. І калі цяпер не заўважыла яго, то вяртаючыся, абавязкова заўважыць. Нельга не зачапіцца позіркам за адзінокага чалавека на трубах.

Толькі ці пазнае яго? Усе буравікі ў аднолькавых робах. А хоць і пазнае, усё роўна не падбяжыць. Адкуль ёй ведаць, што сядзіць ён з-за яе?

Калі б Алесічу хто сказаў, што ў яго сэрцы нараджаецца каханне да Каці, ён толькі рассмяяўся б.

Пасля той памятнай начной размовы яны ні разу не сустрэліся. Нават выпадкова. Алесіч некалькі разоў прыходзіў на харчпункт раней, каб хоць словам перакінуцца з ёй праз акенца, але яна не паказвалася. Некалькі разоў заставаўся пазней, спадзяваўся дачакацца, калі яна выйдзе па посуд. Ні разу не выйшла. Відаць, чакала, пакуль у вагончыку нікога не застанецца. А можа, не хоча сустракацца з ім? Але гэта пакуль што яго не засмучала. Яму прыемна было думаць пра яе, бачыць хоць здалёк. Больш нічога не вымагала ад яго тое, што кволенькім парасткам прабівалася ў сэрцы. Больш таго, ён лічыў, што застаўся на буравой зусім не з-за яе, ён сапраўды баяўся апынуцца з грашыма ў горадзе, дзе мог заглянуць у які піўны бар...

Калі Каця зноў пабегла на сваю кухню, Алесіч падняўся, заспяшаўся ўслед. Далікатна пастукаў у дзверы. Адчыніўшы іх, жанчына дапытліва паглядзела на яго сваімі мяккімі шэрымі вачыма.

— Прабачце,— прабарматаў Алесіч чырванеючы.— У вас, можа, ёсць гарачая вада. Памыць мне трэба...

— Вы ўжо самі намыеце,— засмяялася Каця і загадала.— Нясіце, што ў вас там. Якраз збіраюся свае халаты мыць, дык заадно...

Алесіч ускочыў у свой вагончык. Што ж ёй аднесці? Робу? Не. Робы возяць мыць у горад. Трусы, майку? Няёмка. Фактычна ж чужая жанчына. Дастаў з-пад ложка невялічкі чамадан, адкрыў яго. Там ляжалі капялюш, гальштук, сарочка. Яшчэ зусім чыстая. Адзеў адзін раз, калі хадзіў у кантору да Скачкова. Дастаў яе, пакамечыў, выцер ёй запыленыя халявы гумавых ботаў.

— Вось сарочка,— падаў ёй скрутак.— Чыстая, ды недзе прытуліўся...

— І ўсё? — здавалася, расчаравалася жанчына.

Па металічнай лесвіцы Алесіч лёгка падняўся ў люльку. Ніколі яшчэ ён не адчуваў сябе такім лоўкім і дужым. Яму здавалася, што нехта пільна сочыць за ім. Хацелася быць лепшым пад тым паглядам... Падняўся, азірнуўся наўкола, застыў у здзіўленні. Нібы ўпершыню ўбачыў сваю зямлю з вышыні. Не адзін раз пралятаў над ёй са-

малётам. Лятаў яшчэ на двухкрылых, якія над зямлёй высока не падымаліся. Зямля была як на далоні. Даводзілася лятаць і высока, бачыць зямлю пад коўдрай белых воблакаў. Бачыў штодня і цяпер са свае люлькі. Бачыў ноччу, пабітую дрыготкімі кроплямі начных агнёў, бачыў раніцай у туманах, бачыў удзень пры сонечным ззянні. Усялякую бачыў. Але ніколі яна не здавалася такой прыгожай, як зараз. Пералескі гарэлі барвамі. Далёкія сасняві, асабліва на захадзе, былі ў туманнай смузе,— там раслі, падымаліся цяжкія хмары, гналі перад сабой разбаўлены туман. Ззялі на сонцы, як паліраваныя, стужкі асфальтавых дарог. Палі спачывалі ў чаканні зімы. Праз агаленыя прысады ў вёсцы за шашой павылузваліся цагляныя домікі пад блакітным шыферам. Ва ўсім наваколлі была такая празрыстасць, такое чыстае паветра, што ў Алесіча слёзы навярнуліся на вачах. Ад радасці, што жыве на такой зямлі. Яму аж сумна стала, што тут, на верхатуры, ён толькі адзін. Якое захапленне загарэлася б у вачах сына, будзь ён тут. Ён жа, здаецца, вышэй трэцяга паверха не падымаўся. Ды што ўбачыш з таго паверха ў горадзе? Сцены, дахі? Можа, напісаць яму пісьмо, хай прыедзе на буравую, ён пакажа яму багата чаго цікавага...

Вярнуў яго ў рэальнае жыццё з далёкіх мрояў голас майстра. Рослік крыкнуў яму, махнуў рукой. Свечка пайшла ўверх. Цяжкі талер спыніўся перад самым носам, вызваліў трубу. Алесіч лоўка падхапіў яе крукам, труба паслухмяна прыхінулася да стальной бэлькі. Не паспеў Алесіч налюбавацца прыгожа выгнутай стромкай свечкай, мокрай і бруднай ад глінянага раствору, як талер паднімаў наступную,— відаць, вельмі спрытны бурыльшчык стаяў унізе. Гэтую Алесіч перахапіў крукам яшчэ раней, чым яна вызвалілася канчаткова, і, не даўшы ёй нават варухнуцца, ціха, без стуку, прысланіў да папярэдняй. Алесіч працаваў хутка, весела, з азартам. Быццам гуляўся з тымі трубамі. Знізу магло здацца, што трубы самі, як жывыя разумныя істоты, вызваліўшыся, станавіліся ахвотна на сваё месца. Калі ж якая спрабавала закапрызіць, ухіліцца, кінуцца ў другі бок, Алесіч перахопліваў яе. Яму было радасна адчуваць характар такой свавольніцы, яе цяжар.

Калі паднялі ўсе свечкі, Алесіч не апусціўся ўніз, хоць і была часіна на перадых, стаяў, паглядваў, як буравікі варушацца ля ротара, мяняюць долата.

Пачалі апускаць свечкі. Цяпер трэба было круком пад-

цягваць трубы да талера, хутка і дакладна, каб талер не вісеў перад носам у чаканні. Але і цяпер, калі даводзілася напружвацца, ён рабіў усё лёгка і жвава. Толькі тады, калі апошняя труба пайшла ўніз, адчуў, як ныюць ад стомы рукі і плечы. Ногі, калі ён спускаўся па лесвіцы, паздрадніцку трымцелі.

З усмешкай пад натапыранымі вусамі Рослік чакаў яго.

— Ну і гвардзеец,— смяяўся майстар, углядаючыся ў Алесіча.— Прызнацца, не чакаў такога спрыту. Нават не падазраваў, што работай верхавога можна залюбавацца. А стаяў і любаваўся. Віншую! — і ён падаў Алесічу руку.

— Вы што, не ведалі, што алкашы ўмеюць працаваць,— хацеў пажартаваць Алесіч, але ў яго гэта прагучала залішне сур'ёзна.

— Не можаце забыць? — насупіўся майстар.— Калі вам непрыемна, прабачце... Як кажуць, болей не буду.

Прызнанне майстра яшчэ болей радасці надало Алесічу.

— Жартую, Юр'евіч,— з прыкметнай цеплынёй у голасе сказаў Алесіч і пайшоў пераадзявацца.

Цяжка чалавеку аднаму ў горы. Заўсёды хочацца падзяліцца ім з кім-небудзь. Не лягчэй аднаму і ў радасці. Радасць не ў радасць, калі на аднаго. У такіх выпадках чалавек яшчэ болей адчувае сябе самотным, пакінутым. У такія хвіліны вельмі хочацца ўбачыць нешта падобнае ў вачах блізкага табе чалавека, адчуць, што ён жыве такім жа пачуццём, як і ты, сэрцам разумее звон тваё душы.

Алесіч счакаў, пакуль усе пойдуць у сталоўку. Яму хацелася зайсці туды апошнім, каб ніхто не перашкодзіў яму затрымацца каля акенца, перакінуцца словам з Кацяй, сустрэць яе пагляд. Яго яда стаяла ў акенцы на падносе. Алесіч нагнуўся, зазірнуў на кухню. Кашлянуў. Каця стаяла ля пліты і нешта варушыла доўгім нажом на скавародзе. Яна азірнулася, яго не заўважыла. Стаяць і чакаць было нечага. Ён узяў паднос з талеркамі і пайшоў у свой куток. Сеў спіною да ўсіх — зараз ён нікога не хацеў бачыць, не хацеў, каб і яго бачылі. Узнёсла-радасны настрой змяніўся прыгнечаным. Як хто раптоўна патушыў у яго душы агеньчык, ад якога светла было самому, і ўсё навокал таксама асвятлялася ім. Ён ужо шкадаваў, што не паехаў у вёску, а застаўся тут. Дурань ён дурань. Яшчэ сарочку аднёс мыць...

— Можа, нясмачна? — пачуўся ля самага вуха турботлівы і крыху насмешлівы голас Каці.

Алесіч уздрыгануўся ад нечаканасці.

— Ой, злякаўся, ці што? — засмяялася Каця, і зноў пацікавілася: — Можа, сапраўды не падабаецца? Дык заменю.

— Не, не,— не сваім голасам адказаў Алесіч. Адчуў, як варухнулася сэрца і быццам заціхла, спынілася.

Відаць, ён смешным здаўся жанчыне, што яна зноў весела засмяялася.

— Вось ваша сарочка,— і яна паклала перад ім на стол папяровы пакунак. Аднесла посуд, вярнулася, нагой падцягнула бліжэй табурэтку ад суседняга століка, прысела.

— Сёння ўвечары зайдзі. А? Пасядзім, пагамонім. Цяпер вечары доўгія, тут без людзей ваўком завыеш... Толькі глядзі, каб майстар не заўважыў.

Алесіч сядзеў як аглушаны. Пра такое ён і не марыў.

— Калі табе не цікава, то...— яна па-свойму зразумела яго маўчанне.

— Не, не,— горача запярэчыў Алесіч.— Я што? Я, як кажуць, заўсёды таго. Сам думаў, каб сустрэцца. Пагаварыць. Ды баяўся...

— Пад самым небам робіць, а на зямлі баіцца,— усміхнулася яна. І гэтай усмешкай так багата было сказана, што Алесічу раптам захацелася прыпасці да яе рукі, расплакацца: з такой спагадай, ласкавасцю і дабрынёй у вачах, здаецца, ніхто і ніколі не глядзеў на яго. Нават Вера ў лепшыя часы іх жыцця.

— Дзякую,— ціха сказаў ён.

— Як загарыцца ў мяне святло...— паднялася, сабрала посуд на яго століку.

Алесіч выйшаў, спыніўся. Што ж рабіць? На буравой ён не трэба. Хіба калі долата зламаецца. А калі не зламаецца, то да заўтрашняй раніцы яму вольная воля. Толькі адлучацца нікуды нельга, каб можна было ў любы момант паклікаць. Хіба пайсці падрамаць? Хутчэй час пройдзе. Ён так і зрабіў. Раздзеўся, лёг на ложак. Падалося, што ляжыць доўга. Глянуў на гадзіннік, прайшло не болей дзесяці мінут. Падняўся, падаўся на буравую. Памочнікі бурыльшчыка сядзелі на трубах. Ім таксама нечага было рабіць. Пасядзеў ля іх. Паслухаў, пра што гаварылі. Усіх турбавала, куды перабяруцца, як закончыцца бурэнне тут. Потым пацікавіўся, як працуюць дызелі. Працавалі пад павышанай нагрузкай. Гулі, аж трымцела зямля.

Пастаяў ля бурыльшчыка, паглядзеў. Той, здаецца, не заўважаў яго. Трымаўся рукой за рычаг, не зводзіў вачэй з прыбораў...

Ніколі яшчэ кароткі асенні дзень не здаваўся Алесічу такім доўгім. Ледзь дачакаўся змяркання.

Пад вечар пацягнула прахалодаю, захутала неба чорнымі хмарамі.

Сцямнела хутка.

Алесіч надзеў штаны ад касцюма, чыстую, крыху калянуюю ад праса сарочку. Гальштук завязваць не стаў. Накінуўшы на плечы пінжак, выйшаў, прысеў на лаўку, прыхінуўся спіною да століка. На кухні гарэла святло. Значыцца, Каця яшчэ там.

Цемень схавала ўсё навокал. Нават неба было чорнае, як бяздонная ямка. Чырвоныя аганькі на буравой, як далёкія зоркі, бездапаможна праменіліся,— яны заўсёды так гараць у сырое надвор'е. Над шашою блякла адсвечвалі хмары, адбіваючы святло ад аўтамабільных фар.

Нехта прашастаў зусім блізка.

— Адпачываем, Андрэевіч? — пачуўся голас Рosліка.

— Выйшаў на хвілінку перад сном,— Алесіч падняўся, нібы сабраўся падацца ў вагончык. Нават зрабіў некалькі крокаў. Заўважыўшы, што майстар знік у цемры, спыніўся. У Каціным вагончыку прыглушанае фіранкай цьмяна блішчэла акенца. Агледзеўся. Вакол, здаецца, нікога. Толькі чуваць, як натужна гудуць дызелі. Пахла сырой звялай травой. Алесіч скіраваў да вагончыка Каці. У дзверы не пастукаў. Піхнуў іх рукою. Яны, ледзь рыпнуўшы, адчыніліся. Туманны слуп святла ўпаў на зямлю. Алесіч зачыніў дзверы, павярнуў ключ. Замок гучна шчоўкнуў, нібы ў ім лопнула спружына. Каця ў белым халаце стаяла ля стала і рэзала хлеб.

— Добры вечар...— запнуўся. Хацеў назваць Кацю па бацьку, але не ведаў, як яе завуць, а назваць толькі адно імя пасаромеўся.

— Добры вечар, Іван,— сказала яна так проста і будзённа, што Алесіч адразу адчуў сябе як дома.— Распранайся, праходзь. Во трошкі пасядзім, пагаворым, а то і гаварыць можна развучыцца,— і счакаўшы, пакуль ён распрануўся, усеўся, знікла за шырмай, якая раздзяляла вагончык на дзве палавіны.

На століку ўзвышаліся пляшка гарэлкі і дзве пляшкі мінералкі. Але нічога, можна не піць. Хіба толькі сама захоча. Для смеласці. Тады яму не адмовіцца.

Шырма ўскалыхнулася, з'явілася Каця ў караткаватым, аж адкрываліся круглыя калені, зялёным плацці, у туфлях на высокіх абцасах. Зараз яна падалася больш стромкай, вышэйшай ростам. Твар пабялеў, шэрыя вочы пацямнелі ці падаліся такімі, што мала было святла ў вагончыку. Чорныя валасы, раскінуўшыся густым снопам на плячах, здавалася, адхілялі сваім цяжарам галаву назад. Каця падабрала плацце, накрыўшы ім табурэтку, села. Адразу ж узяла відэлец, пачала раскладваць закусь на талеркі. Яе рукі павольна плавалі над столікам. Яна гаварыла ціха, ледзь не шэптам, падкрэсліваючы гэтым таямнічасць іх сустрэчы:

— Я заўважыла, што ты не паехаў на выхадныя. Падумала, некуды ехаць. Засмучаны заўсёды. Думаю, бяда ў чалавека... Ведаеш, раней мне ўсе людзі былі аднолькавыя. А як здарылася са мной гора, нібы зняла цёмныя акуляры. Бачу ўсіх адзінокіх, нешчаслівых. Цябе шкада. Чаму, не ведаю. Але не пра гэта я хацела. Я не ведаю, як дзякаваць табе, што памог пазбавіцца ад штангіста. Верыш, у мяне за ўсё жыццё, акрамя яго, не было нікога. Можа, і не будзе. Страшна падумаць, што яшчэ хто цябе так пакрыўдзіць...

«Ясна,— падумаў расчаравана Алесіч,— ёй сумна адной, вось і паклікала мяне... А я чортведама што падумаў. Але ж яна паклікала не абы-каго, а мяне...»

— Ён майстру таксама напісаў,— скардзілася Каця.— Бачыла пісьмо сярод газет. Почырк на канверце знаёмы. Што напісаў, не ведаю... Але ўяўляю! Майстар глядзіць на мяне як на якога злачынцу. Эх, жыццё, жыццё... Іншы раз як задумаешся...

— Бывае,— уздыхнуў Алесіч, са скрухаю падумаў: «Няўжо толькі для таго паклікала, каб паскардзіцца на свой лёс?»

Каця запытальна глянула на Алесіча, які сядзеў, як ёй падалося, нейкі бездапаможны, разгублены. Усміхнулася.

— Давай, Іван, за знаёмства...

Ён хацеў адмовіцца, але сустрэўшы даверлівы позірк, не адважыўся. Чокаючыся, усміхнуўся. Яна адказала яму ледзь улоўнаю ўсмешкай на пульхных вуснах.

— За знаёмства, Іван!

— За вас,— ён зрабіў адзін глыток, паставіў шклянку.

— А ты? — спытала ў яго, выпіўшы.

— Я сваю норму выканаў раней...

— Тады хоць вячэрай, на мяне не глядзі... Ведаеш, настаішся на кухні, не да яды.

Ён з замілаваннем паглядваў на яе, кожны раз адводзячы позірк, калі яна падымала на яго шэрыя пацяплеўшыя вочы.

— Табе і сапраўды некуды ехаць? — паставіла локці на стол, падпёрла ружовымі кулакамі падбародак,— падрыхтавалася да доўгага слухання.

— Чаму ж няма? Ёсць. Маці блізка. Улетку жыў у яе. Цяпер там нечага рабіць. Тут весялей...

— Вельмі весела,— нечакана рассмяялася яна.— Сям'я ёсць?

— Не ведаю... Здаецца, няма. Жывуць у Мінску. Жонка, сын... Карацей, няма сям'і... Распалася. Хто вінаваты? Канешне, муж. У вашага брата заўсёды муж вінаваты.

— Рэўнасць? — спытала Каця.

— Не,— паглядзеў на шклянку гарэлкі, адсунуў яе ад сябе, выпіў мінералкі.— Хоць, вядома, была і яна. Але не з-за рэўнасці. Відаць, я вінаваты. Не трэба было жаніцца. Пагуляць яшчэ трэба было, прыгледзецца, навучыцца разбірацца...

— Думаеш, навучыўся б? — усміхнулася Каця.— Пакуль за скавараду не схопішся, не будзеш ведаць, што гарачая.

— Канешне, я вінаваты... Каб не ажаніўся, можа б, другім чалавекам быў. А так... Адкуль было ведаць, якая яна. А можа, яна не была такая? Потым стала такой. А я не заўважыў, як гэта здарылася. Я і сам не быў такі, як цяпер. Калі б тады ды цяперашні розум... А так што? Што зразумеў? Нічога. Зялёны быў.— Ён расказваў і не мог пазбавіцца адчування, што гэта не ён гаворыць, а нехта другі апавядае пра яго жыццё ягоным голасам. А ён, Алесіч, сядзіць і толькі слухае гэты голас.— Вырас у вёсцы. Маці малапісьменная, якіх два класы закончыла. Пісьмо напісаць, прачытаць, і ўсё. Бацьку амаль не помню. Вайну прайшоў, а пасля вайны паехаў на лесанарыхтоўкі ў Карэлію, там яго і прываліла сасной. Маці хацела, каб я вучыўся. Тады ўсе хацелі, каб дзеці не заставаліся ў вёсцы, выходзілі ў людзі. І мая надрывалася, зарабляла капейку на кніжкі. Вучыся, кажа, у горадзе жыць будзеш. Усе туды лезуць. Відаць, нядрэнна там, што назад не вяртаюцца. Не паступіш вучыцца, на работу пойдзеш. Капейчыну мець будзеш, не ў калгасе. Тады ў калгасе заробкі былі ніякія... Паехаў паступаць ва уні-

версітэт. Думаў, універсітэт нешта большае, чым інстытут. Само слова «універсітэт» падабалася. Не паступіў. Па конкурсу не прайшоў. У вёску не вярнуўся. Уладкаваўся на заводзе. Вучнем токара. Праз паўгода рабіў самастойна. Паўтары сотні меў. Уяўляеце, якія гэта грошы для вясковага хлопца. У нас з маці ніколі не было столькі адразу. Вучыцца? А навошта? Жыў у інтэрнаце. Інтэрнат стаяў на краі горада. За ім — лес. У буднія дні працавалі, вечарамі чыталі, у кіно хадзілі. Там і кінатэатр. Ніколі чаргі не было. Акраіна. Ніхто намі не цікавіўся. Сумна было. Асабліва ў выхадныя дні. Хацелася дамоў. Ездзіў. Але не часта. Часта ж не наездзіш: далекавата. Збіраліся кампаніямі. Куплялі чарніла. Улетку ў лясок, узімку дома. Так кожны выхадны. Прывык. Чакаеш выхаднога, каб сабрацца ды па рубліку. Выпіць не цягнула. Болей ад самотнасці... Захварэў наш брыгадзір, пайшлі адведаць. Жыў ён з сям'ёй у асобнай кватэры. Была нядзеля. Настрой не вельмі. Хацеў якраз з'ездзіць у вёску. Білета на цягнік не купіў. Разгаварыліся з брыгадзірам. Расказаў пра сваё жыццё-быццё. Жаніцца, кажа, табе трэба, а то алкаголікам станеш. А так клопат будзе... Тады ў мяне нікога не было. Праўда, на танцы хадзіў, некаторых праводзіў. Але так... Правядзеш, а назаўтра і забудзеш. І дзяўчаты пападаліся прыгожыя, харошыя. А аднойчы убачыў яе, Веру, што жонкай стала. Стаіць сярэдняга росту, русявая. Нічога асаблівага. Сустрэліся позіркамі. У мяне ўсярэдзіне ўсё і абарвалася. Зайгралі танга. Стаю як аглушаны, а ногі самі ідуць да яе. Не лепшая ж за іншых, нічога асаблівага, а іду. Як магнітам пацягнула. У тую ж ноч да раніцы не заснуў. Пра яе думаў... Сустракаліся на танцах. Аднойчы не прыйшла. Пабег да яе дамоў. Думаў, што здарылася. Сядзіць, шые сукенку нейкай кабеце. Кабета тая побач, чакае. Яна на прыватнай кватэры жыла. Пакойчык маленькі, толькі ложак ды швейная машына. У атэлье рабіла. Потым я кожны вечар да яе дамоў хадзіў. Канешне, жанчына яна...— хацеў сказаць агонь, ды спахапіўся, паглядзеў на Кацю, пачырванеў, пачаў нібы апраўдвацца.— Я так і не ведаю, было ў нас каханне ці не. Не пабачыш дзень, сумна. Калі разам, сядзім і маўчым, не ведаем, пра што гаварыць. Можа, і не было пра што гаварыць? Не ведаю. Не думаў я ў тое лета жаніцца, але ажаніўся. Не мог жыццё ўявіць без яе. Ды яно і не трэба было без яе... Такі настрой быў, значыцца. Жылі на прыватнай. Са сваімі са-

бутэльнікамі перастаў сустракацца. Пра гарэлку думаць забыўся. Ды і не было за што. Збіралі грошы. Чакалі кватэру. Жонка склала спіс, што трэба купляць. Якую мэблю, які посуд. Падлічыла, колькі што каштуе. Сачыла за кожнай капейкай. Я не пярэчыў. Яшчэ радаваўся, што яна ў мяне такая гаспадарлівая. Думаў, атрымаеш кватэру, пачнецца нармальнае жыццё. Як ва ўсіх. Атрымалі... Ад завода. Два пакоі. Нармальная кватэра. Усё купілі. Не горш за іншых. А яна сваё... І тое ёй трэба, і тое... А я, дурань, ва ўсім патакаў.

Асабліва спачатку, што ні папросіць, калі ласка. Можа, і сапсаваў яе гэтым. Хаця не, яна была такая. Добрага чалавека не сапсуеш. Нарадзілася сапсаванай. Як што дзе ўбачыць, не супакоіцца, пакуль не набудзе. Спачатку ганялася за дыванамі, потым за крышталём. Зарплаты ў нас нядрэнныя, каб жыць, але каб ганяцца за модай, малавата было, не хапала. Прыйдзеш з работы, стомлены, у вушах ад станкоў гудзе, паляжаць бы трохі, адпачыць, а яна як заведзеная пласцінка. І тое трэба, і тое, а ты зарабляеш як кот наплакаў. Навошта я за цябе пайшла, лепей пайшла б за экспедытара, ён у масле купаецца. Жыла б па-чалавечы. Так кожны дзень. Уяўляеце? Слухаў, слухаў, пакуль цярпенне не лопнула. Давяла да таго, што нельга было жыць цвярозым. Чэсна. Пачаў выпіваць. Неяк зачапіла п'янага, правучыў. Потым баялася чапаць. Думаеце, мне хацелася напівацца? Ніколькі. Але як успомніш, што цябе чакае дома, ісці не хочацца. Заглянем з таварышамі ў бар, па келіху з прыцэпам асушым... Тады мне мора па калені. Прыйду — і спаць. У пакой, дзе я, не заходзіла... Затое калі прасплюся, хоць вушы затыкай. Людзі вунь усё ў хату цягнуць, а ты са сваім ротам дзіравым, алкаголік няшчасны, хутка без штаноў застанешся... Аднойчы так дапякла цвярозага, што крышталь увесь памалаціў, дыван пасек на кавалкі... Багата я чаго тады на смецце пусціў... Толькі тэлевізар не крануў. Любіў глядзець хакей. І сын да мультфільмаў прывык. Не засне, пакуль не пaглядзіць. Раз электрыкі не было, ноч праплакаў,— Алесіч задумаўся, доўга маўчаў. Каця яго не чапала. Потым, спахапіўшыся, глынуў мінералкі, загаварыў зноў: — Я тады ёй сказаў: вельмі багата хочаш. Запомні, не перастанеш стагнаць, на сметніку будзеш. Крыху супакоілася. Але я ўжо спыніцца не мог. Алкаголікам стаў. Чэсна. Самым сапраўдным. На рабоце пайшлі нелады. Каму п'яніца трэба? Не адну ра-

боту змяніў. Ад прыроды я не тупіца. Усё мог рабіць. У мяне гэтых прафесій набралася, пальцаў не хопіць пералічыць... Ведаеце, дайшло да таго, што перастаў зарплату насіць дамоў. Кожны дзень піў. Напазычаешся за месяц... Пачаў у жонкі цыганіць траячкі... Ведаеце, варта толькі пачаць каціцца ўніз, потым спыніцца вельмі цяжка. Само нясе. Застаўся без работы. Пачаў шмоткі прадаваць. Чэсна. Што было, то было. Перад вамі таіцца не стану. Вядома, жанчына не вытрымала. Заявіла ў міліцыю, адправіла лячыцца. Гавораць, гэта хвароба на ўсё жыццё. Няпраўда. Калі чалавеку няма чым жыць, то канешне. Ён сам не хоча лячыцца. А калі захочаш, вылечышся. Канешне, каб не сын, не вылечыўся б. А так сын... Ён мяне вылечыў. Думаў, усё зраблю, каб яму ніколі не было сорамна за бацьку. Сам рос без бацькі. Ведаю, што такое. Думаю, пачну новае жыццё. Прыехаў, а яна не пусціла. Прагнала. Вось так. Цяпер яна для мяне не існуе. Сына не магу забыць... Паехаў да маці ў вёску і, канешне, не ўтрымаўся... У вёсцы сустрэўся са сваім земляком. Скачковым. Накіруй, кажу, мяне на работу, каб гэтай заразы,— ён паказаў вачыма на бутэльку,— і блізка не было. І я тут...

— Што ж я нарабіла! — пляснула рукамі Каця.— Якая я дурная! Даруй мне, не ведала.

— Што вы? Што вы? Я вельмі рады... Вы ж бачыце, як я п'ю... І то за знаёмства з вамі. Калі хочаце ведаць, я з-за вас застаўся. Чэсна.

Гэтае прызнанне для яе было нечаканым. Яна сумелася, потым, нібы нічога не чула, спакойна спытала:

— Раптам усё спачатку?.. Даравацъ сабе не магу,— апусціла вочы пад яго ўпартым паглядам.— Спецыяльна ж ездзіла ў Зуеў.

— Кіньце і не ўспамінайце. Хочаце, каб болей ні кроплі? З гэтай вось мінуты? Запомніце, зараз адзінаццаць пятнаццаць... Усё! Прымушайце, не вазьму. Хоць і хочацца. Маніць не буду. Здаецца, з бутэлькай праглынуў бы. Але не дачакаецца. Хай стаіць. Пальцам не дакрануся.

— Можа, чаю? — спытала Каця.

— Цяпер толькі чай. Будзем піць толькі чай і глядзець на жыццё цвярозымі вачыма.

— Выдатна,— яна ўключыла электрычны чайнік, загадзя падрыхтаваны, паставіла на стол слоік з варэннем.— Трэба было адразу чай, а я...

— Нічога. Затое ўсё сказаў,— і папрасіў Кацю.— Мне, калі ласка, не вельмі моцнага...

І пакуль Каця мыла над вядром маленькі чайнічак, сыпала туды чай, залівала кіпнем, налівала ў шклянкі, Алесіч ціха, упаўголаса гаварыў:

— Я багата думаў пра вас. З таго моманту, як убачыў... Але не спадзяваўся, што вы запросіце. Гэта для мяне... новае жыццё. Чэсна!

Яна маўчала. Ці не ведала, што адказаць, ці не надавала асаблівага значэння яго словам. Пасля чаю Каця паглядзела на свой беленькі наручны гадзіннік, паднялася:

— Ну што, Іван? Мне заўтра рана падымацца...

Алесіч падышоў да яе, узяў за руку.

— Дзякую, Іван, што зайшоў,— яна вызваліла руку, пачала збіраць на стале посуд.

— Каця! — стаяў ён у разгубленасці.

— Пара, Іван...

— Гоніце? Я ж абяцаю...

— Іван,— яна з сумам паглядзела на яго.— Ідзі дамоў. Так будзе лепей,— і адвёўшы вочы, дадала: — Не ўсё адразу, Іван.

— Запомніце, Каця. Я гаварыў не пустое.

— Вельмі добра, Іван. Рада за цябе. Спакойнай ночы!

— Да сустрэчы, ці як?

— Канешне, да сустрэчы! — яна пастаяла ў адчыненых дзвярах, прасачыла, пакуль ён не схаваўся ў цемры.

Алесіч ішоў, апусціўшы галаву, праклінаючы сябе, што нагаварыў лішняга. Пасля гэтага яна, вядома, не захоча сустракацца з ім. Запрасіла і раптам паказала на дзверы. Ветліва, бяскрыўдна, але паказала. Каб загадзя думала паказаць на дзверы, не запрашала б.

Алесіч зайшоў у надыханы вагончык. Упоцемку раздзеўся, кінуў адзежу на спінку ложка, лёг не накрываючыся.

Не спалася... Ляжаў, глядзеў у цемру, што плоймай шэрых мух варушылася перад вачыма, думаў пра Кацю... Эх, дарэмна ён расказаў пра сябе. Але нічога! Хай ведае. Каб потым не лічыла яго лгуном. А ён пастараецца ёй даказаць, што цяпер не такі, якім быў. Яна паверыць яму. Часу наперадзе багата. Тут, на буравой, можа, болей тыдня будуць разам. І потым ён абавязкова паедзе туды, куды пашлюць Кацю. Часу хопіць, каб яна разгледзела яго. Яна пераканаецца, што Алесіч словы на вецер не кі-

дае. А калі паверыць яму, ён жыцця не пашкадуе, каб яна была самая шчаслівая жанчына ў свеце. Ён будзе жыць дзеля яе. Яна ж таксама адна. Ёй адной таксама не мёд. Нічога, што сёння прагнала. Яна не супроць з ім зблізіцца, але не адразу. Хоча трохі павадзіць за нос. Бабы ўсе такія. Няхай павалаводзіцца. Ён пачакае. Тут можна пачакаць. А потым... Потым ён дзеля яе свет пераверне... Канешне, трэба будзе неяк выбіць кватэру, каб ні ад кога не залежыць. Прыйдзецца папрасіць Скачкова. Ён чалавек чулы, зразумее і паможа... А ў выхадныя дні яны будуць ездзіць у вёску да маці. Ён там адрамантуе хату, зробіць на гарышчы асобны пакойчык. У вёсцы ні ў кога няма другога паверха, а ў яго будзе. У канцы саду лазеньку пабудуе. Не абы-якую лазеньку — фінскую. Разам сходзяць у лес, навяжуць венікаў. Сад абновіць. Завядзе лепшыя гатункі. Парэчак насадзіць. Пойдуць жа дзеці, няхай вітаміняцца, растуць дужымі. Старой весялей будзе з унукамі. Наогул дзяцей яны будуць пакідаць на ўсё лета ў маці. Самі паедуць па краіне. Ён жа амаль нічога не бачыў у сваім жыцці. Нават мора. Сорамна прызнацца ў гэтым, але так. Не давялося. А што паспела ўбачыць Каця? Таксама нічога. Не было калі глядзець. Маладая яшчэ... А добра, што сёння сказаў ёй усё. Хай ведае, што ў яго сур'ёзна, што ён не бабнік які легкадумны. А раптам яна прагоніць яго? Скажа, што ён ёй не трэба? Не, не можа быць. Яна ж бачыць, што робіцца з ім, адчувае, што ў яго на сэрцы. Разумныя жанчыны ад такога не адмаўляюцца. А яна разумная. Яна самая разумная. Яна адзіная такая ў свеце. Яна — яго лёс. Ён гэта адчуў, першы раз убачыўшы яе. Недарэмна ж ён аказаўся на гэтай буравой. Лёс звёў іх тут. Яго і яе лёс...

Алесіч заснуў ледзь не пад раніцу са шчаслівай усмешкаю на твары.

Пасля вячэры Рослік пабыў на буравой, паглядзеў, як працуе бурыльшчык, потым усеўся з неасветленага боку раздзявалкі, паглядваў на вагончыкі. Яны хоць і не вельмі асвятляліся ліхтарамі на буравой, але можна было заўважыць, хто куды пайшоў. Вось патухла святло амаль ва ўсіх вагончыках. Свяцілася толькі на кухні. Некалькі разоў выскоквала Каця, потым зноў вярталася назад. У руках паблісквала вядро. Відаць, выносіла нешта выліваць. Нарэшце на кухні стала цёмна. Калі Каця прашмыгнула

ў свой вагончык, не ўгледзеў. Раптам убачыў, як там бякла засвяцілася акенца.

Некалькі дзён назад ён атрымаў пісьмо ад Кацінага мужа. Той пісаў, што, з самага пачатку сумеснага жыцця з Кацяй, бачыў, якая яна верціхвостка. Але вывадаў не рабіў, мер не прымаў, пакуль ва ўсім не пераканаўся. Калі апошні раз прыязджаў на буравую, то сутыкнуўся з нейкім слабасільным, але нахабным суб'ектам, якога ён не забіў толькі таму, што ведае, які дэфіцыт рабочых рук у нефтаздабываючай прамысловасці. Пасля сутычкі з тым суб'ектам ён канчаткова пераканаўся ў здрадлівай сутнасці сваё жонкі, пасля чаго больш не лічыць яе сваёй. І калі ён зараз піша майстру, кіраўніку працоўнага калектыву, дык не таму, што хоча, каб яму памаглі вярнуць жонку на шлях праведніцы, а таму, што разумее, якую бяспеку нясе такая жанчына на буравой. Маўляў, сам майстар павінен ведаць, што яму рабіць...

Так, Рослік ведае, што нясе калектыву легкадумная жанчына на буравой. У яго практыцы нешта падобнае было. Некалькі год назад працавала кухарам маладзенькая дзяўчына. Прыгожая, але не ў меншай меры і легкадумная. Пайшлі заляцанні, рэўнасць. Усё скончылася бойкай паміж вахтамі. Была аварыя. Бурыльшчык пасля начной пагулянкі ці задрамаў ля рычагоў, ці задумаўся пра прыгожыя вочы, толькі даў такую нагрузку на калону, што тая пераламалася якраз пасярэдзіне. Тры дні пайшло на ліквідацыю аварыі. З таго выпадку Рослік пільна сачыў за жанчынамі, якія рабілі на буравой. Асабліва цяпер, калі ім даведзены такі напружаны план, калі кожная мінута на ўліку.

І вось зараз, затаіўшыся пад раздзявалкай, Рослік хацеў высачыць, хто ж ходзіць да Каці. Прасядзеў болей гадзіны, а ў вагончык ніхто не зайшоў. Але чаму так доўга там гарыць святло? Чаму яна не кладзецца спаць? Ёй жа на досвітку падымацца. Рослік падняўся і падышоў да Кацінага вагончыка, прынік вухам да глухой сцяны. Стаіўся. Чулася глухая мужчынская балбатня. Спачатку падалося, што гаворыць радыё. Заглянуў у акенца. У адным месцы фіранка адтулілася і ў вузкую шчылінку была відаць на стале мужчынская рука. Ля рукі — шклянка. Праз вакенца голас быў чуваць болей выразна. Рослік пазнаў голас Алесіча. «Цяпер ясна, чаму не паехаў на выхадныя,— падумаў Рослік.— Ад бабы адарваццa не можа, валацуга...»

Рослік вярнуўся да раздзявалкі, закурыў. Думаў, што рабіць. Прагнаць Алесіча? Верхавы выдатны. Шкада такога рабочага. Начальства цікавіцца, як ён тут робіць. А можа, ён і ні пры чым? Зацягнула гэтая... Не дарэмна ж муж пра яе піша. Дарэчы, і ён, Рослік, у свой час папярэджваў яе, каб на буравой ніякіх шураў-мураў...

Раніцай, адразу ж пасля снедання, Рослік паклікаў Кацю да сябе. Ён абурыўся яе паводзінамі і сказаў, што не можа трымаць яе на буравой ніводнай гадзіны.

— Калі падаць заяву? — толькі і спытала жанчына.

Калі Алесіч прыйшоў абедаць і, беручы паднос з талеркамі, нагнуўся, каб заглянуць на кухню, то ўбачыў, як ля пліты віхаўся высокі юнак у белым каўпаку на галаве.

Ён пазнаў у ім рабочага з буравой.

## 11

Праз шкляныя дзверы ў залу з пярэдняй цадзілася бляклае святло. Скачкоў уключыў над галавой бра, глянуў на гадзіннік, знайшоўшы яго пад падушкай. Была палова сёмай. Паляжаў, спадзеючыся, што жонка вернецца. Яна не вярталася. Можа, дома яе няма, што не чуваць ніякіх гукаў? Падхапіўшыся, заглянуў у пярэднюю.

Ала Пятроўна ў плашчыку наросхрыст ладзіла на галаве маленькі чорненькі капялюшык. Збоку ля ног стаяў бухматы партфель.

— Час пераблытала? — спытаў.— Яшчэ ж рана.

— З адным вундэркіндзікам займаюся. Пасля абеду не можа заставацца, маці яго ў другой змене, а ў іх дома малыя... А хлопчык разумненькі, можа вучыцца... Вось і сустракаемся раніцай з ім.

— Хутка начаваць будзеш у школе? — Скачкоў узяў гантэлі і, пераадольваючы тупы ўпарты боль у плячах,— казалі ўрачы, што пачынаецца астэахандроз,— пачаў імі размахваць.

— Можа быць, можа быць,— яна, адарваўшыся ад люстэрка, азірнулася на мужа. У яго пасля сну быў нейкі пастарэлы, пакамечаны твар.— Паляжаў бы яшчэ. Куды табе спяшацца?

— Каб жа спалася,— паскардзіўся ён.— Сама ведаеш. Раней не спалася, што план не выконвалі. Цяпер, калі план пайшоў, яшчэ болей трывогі. Ці ўтрымаемся, ці не здарыцца раптам чаго?

— Я пабегла,— яна ўзяла партфель і, схіліўшыся пад яго цяжарам, неяк бокам нырнула ў дзверы.

— Ты хоць паснедала? — крыкнуў услед, але яна не пачула яго.

Скачкоў не раз шкадаваў, што адправіў жонку ў школу. Ён думаў, што яна будзе такая настаўніца, як і ўсе. Хоць адкуль яму было ведаць, як жывуць іншыя настаўніцы? Але быў перакананы, што нельга забываць з-за школы сям'ю, мужа, усіх тых хатніх клопатаў, якімі жыве кожная замужняя жанчына. Ала Пятроўна паводзіла сябе так, нібы ў яе не было ні мужа, ні сям'і. Забылася, калі абеды варыла. Хоць тыя абеды менш за ўсё яго турбавалі,— у яго ніколі не было часу з'ездзіць дамоў,— але каб ведаў, што дома чакае яго абед, можа б, і заехаў. Яму ўжо даўно абрыдлі прэсныя катлеты ў іхняй сталоўцы. Спачатку хоць раніцай рабіла які сняданак. Цяпер і яго не робіць. А часам і пра вячэру забывае. Няма часу. Штодня да апоўначы сядзіць за сшыткамі. І, галоўнае, не зачапі яе, раззлуецца. Маўляў, не да жартачкаў. Ён паступова нават страціў адчуванне, што жыве ва ўласнай кватэры, дзе забываеш усе трывогі і клопаты, спачываеш душой. Жывеш, як у камандзіроўцы. Здавалася, вось-вось адолееш неадкладныя справы, зноў вернешся да звычайнага жыцця, спакойнага, уладкаванага. Можа, з-за гэтага яму снілася так часта сталічная кватэра?.. Вецер сячэ па вокнах, а ён сядзіць у глыбокім крэсле, падсунуўшы бліжэй таршэр, чытае дзіцячую кніжку з прыгожымі малюнкамі. Кожны раз ён баяўся прачнуцца — у сне ведаў, што бачыць сон,— каб не пазбавіцца светлай спакойнай радасці...

Адзеўшыся, Скачкоў заглянуў на кухню. На стале стаяла шклянка з недапітым чаем, ляжала надкусаная скіба ачарсцвелага батона. «Дапрацуецца да язвы страўніка»,— раздражнена падумаў. Сам таксама снедаць не стаў. Выліў у шклянку з маленькага чайнічка заварку, выпіў без цукру. Чай быў гаркаваты і вязкі, як няспелая груша-дзічка. Але пасля такога пітва заўсёды яснела ў галаве, дакладна і хутка думалася.

Скачкоў любіў прыходзіць у кантору, калі там нікога не было. У калідорах трымалася вільготнае паветра,— толькі што прыбіральшчыца пакінула мамяшканне. Ён садзіўся за стол у сваім кабінеце, праглядаў розныя паперы — зводкі, дакладныя, заявы,— пісаў нетаропка, разборлівым почыркам рэзалюцыі, накідваў план работы на

дзень. Ён ніколі не прымаў ніякіх рашэнняў у канцы дня, калі быў стомлены ці чым узрушаны, імкнуўся стварыць ва ўсіх падначаленых ураджанне непаспешлівай разважлівасці ў сваёй рабоце. Сам не любіў мітусіцца, ад усіх патрабаваў таксама, каб не мітусіліся, каб болей думалі, меней памыляліся. Мітусня пры напружанай рабоце да дабра не давядзе. І вось з раніцы можна было пасядзець, падумаць, узважыць з усіх бакоў кожную праблему, бо пасля дзевяці ад адных тэлефонных званкоў галава кругам ідзе. Не да думання тады.

Скачкоў ямчэй усеўся ў мяккае з драўлянымі падлакотнікамі крэсла, гулліва крутануўся на ім у адзін, другі бок, нібы праверыў, як яно трымалася, глянуў на гадзіннік. Званіць у дыспетчарскую было ранавата. Ён звычайна званіў туды роўна а палове дзевятай. Там прывыклі, што да гэтага часу трэба мець усе звесткі. Спазніцца нельга. Спазненне не даруецца. Ніякія апраўданні не прымаюцца. Ніхто і не будзе цікавіцца прычынамі. Проста будзе зменшана прагрэсіўка за месяц. Скачкоў стаў глядзець паперы, падрыхтаваныя звечара ў асобнай папцы. Не хапала ўвагі чытаць. З галавы не выходзіла думка, як спрацавалі за апошнія суткі. Ад гэтых сутак залежаў месячны план. Ці не здарылася раптам што? Хоць пра розныя нечаканасці нечага было думаць. Каб што здарылася, яго, начальніка, знайшлі б адразу. Але трывога жыла ў ім. Гэту трывогу магла зняць толькі гаворка з дыспетчарам. Гадзіннік нібы спыніўся. Прыгледзеўся,— секундная стрэлка імкліва гнала час. Мінутная стаяла на месцы, як прыліпла да цыферблата. Скачкоў дастаў зводку па здабычы нафты за папярэднія дні... Эх, каб за гэтыя суткі якіх працэнтаў сто дзесяць, быў бы месячны план. Месячны план за два дні да канца месяца! Пра такое ўжо і забылі ва ўпраўленні. Відаць, не верацъ, што можа так быць. Нарэшце мінутная стрэлка прыліпла да лічбы шэсць. Скачкоў узяў тэлефонную трубку, націснуў на зялёную кнопку на настольным камутатары.

— Слухаю вас,— пачуўся санлівы і нейкі вялы голас дзяжурнай. Яна сапраўды разаспалася ці знарок выдае сябе такой супакоенай, ведаючы, што начальнік не шануе мітуслівых.

— Добрай раніцы, Сонечка! Як настрой? Якія сны бачыла?

— Ой, якія сны, Міхайлавіч! — здаецца, яна там пазяхнула.— Цэлую ноч толькі дзынь-дзынь... У вушах зві-

ніць. То салярка трэба, то электразварка. Што гаварыць, Міхайлавіч, самі ведаеце...

— Пра план хоць не забылі? — смяецца Скачкоў, здагадваючыся, што звесткі павінны быць радасныя.

— План... зараз,— чуецца, як яна там шамаціць паперамі.

«Сапраўды, Соня»,— думае Скачкоў.

— Вы мяне слухаеце, Міхайлавіч? — зноў абыякавы голас.— Та-а-ак, па перапрацоўцы газу — сто адзін працэнт, па рамонту — дзевяноста, па бурэнню — сто трыццаць...

— Па здабычы? — не вытрымлівае Скачкоў.

— Па здабычы? — пытаецца дыспетчарка так, нібы начальнік цікавіцца якой драбязой.— Па здабычы, Міхайлавіч,— яна там замаўкае ці знарок робіць паўзу, ведаючы яго нецярпенне.— Па здабычы, Міхайлавіч, усяго сто дваццаць адзін працэнт,— і нечакана смяецца.

— Пры сустрэчы расцалую,— ён кладзе трубку і, не ўмеючы стрымаць радасць, падхопліваецца, выглядвае ў прыёмную. Там пакуль нікога. Выбягае ў калідор, піхае дзверы адны, другія — усе замкнёныя. «Як можна зараз сядзець дома? Ну і энтузіясты!» — абураецца ў думках. Вярнуўшыся ў кабінет, Скачкоў набірае нумар генеральнага дырэктара. «Можа, і гэты дзе спіць?» — падумаў, прыслухоўваючыся да гудкоў у трубцы.

— Дарашэвіч слухае,— пачуўся старэчы басок.

— Добрай раніцы, Віталій Апанасавіч!

— О-о! — здаецца, узрадаваўся стары.— Даўненька не чуў я вас. Нешта вы загадкава замаўчалі. Нават падумаў, ці не здарылася што там. Сёння раней прыйшоў, каб пазваніць вам, але вы апярэдзілі мяне. Чым парадуеце, Міхайлавіч?

«Нібы чакае якой бяды»,— падумаў Скачкоў, з уздыхам сказаў: — Здарылася, Віталій Апанасавіч,— зноў замаўчаў, каб потым болей уразіць генеральнага.

— Лічы, што псіхалагічна падрыхтаваў мяне, інфаркту не будзе,— смяецца Дарашэвіч.

— Ёсць месячны план, Віталій Апанасавіч. Сто адзін працэнт. Яшчэ трохі дабавіцца за два дні да канца месяца. Але тое перакінуў на наступны месяц...

У трубцы зацятае маўчанне, пасопванне, быццам чалавек не знаходзіць слоў.

— Та-ак,— нарэшце падаў голас Дарашэвіч.— Значыцца, ёсць план? Віншую! — І больш ажыўлена, раптам

усвядоміўшы ўсю значнасць пачутага: — Шчыра віншую, Валерый Міхайлавіч! Гэта сапраўды радасная вестка. Як лічыце, Валерый Міхайлавіч, мы доўга пратрымаемся на гэтай вышыні?

— Не ведаю,— не таіўся Скачкоў.— Шчыра прызнацца, кожны дзень у трывозе. Таму і план апошніх двух дзён перакіну на наступны месяц, на выпадак якой нечаканасці...

— Ну што ж, думаю, якраз настаў час ехаць у Маскву, выбіваць камісію.

— Ці не рана?

— А раптам будзе позна? План ёсць? Ёсць. Большу гэта і трэба. У даным выпадку адклад не ідзе на лад. А што? Навошта адкладваць? У вас там нічога не намечана такога, чаго нельга адкласці?

— Прызначыў нараду на дзевяць. Думаў параіцца з кіраўнікамі служб пра перспектыву промыслу. А за цякучкай забылі пра заўтрашні дзень.

— Перспектыва пачакае, Валерый Міхайлавіч. Трэба каваць жалеза, пакуль гарачае. Так што едзем. Спадзяюся, вы з радасцю паедзеце. Рыхтуйцеся далажыць. Коратка, ясна, пераканаўча.

— Што тут рыхтавацца? — Скачкоў разумеў, што павінен ехаць і дакладваць сам генеральны дырэктар. Яму паложана гэта па службе. Але па нейкіх невядомых яму, Скачкову, прычынах, той не хоча не толькі ехаць адзін, а і ўхіляецца ад даклада, усё спіхвае на яго, свайго падначаленага. Відаць, страхуецца. Хоча застацца ў баку. Прымуць іх прапановы наконт камісіі, добра, не прымуць, скажа, што ён, Дарашэвіч, быў таксама супроць, але яму Скачкоў не верыў. Стары мудрыла гэты Дарашэвіч. Але як бы там ні было, у міністэрства ехаць трэба. Перагляд планаў неабходны болей яму, Скачкову, чым Дарашэвічу, чалавеку амаль пенсійнага ўзросту.— Я гатоў хоць зараз, Віталі Апанасавіч.

— Ну і добра, што так. Выязджай. Сёння і паляцім. Я закажу білеты на самалёт,— і, не даўшы ачомацца Скачкову, паклаў трубку.

Скачкову не падабалася такая паспешлівасць. Ён разумеў, што Дарашэвіч лічыць іх поспехі часовымі, калі не зусім выпадковымі, таму так спяшаецца выкарыстаць выкананне месячнага плана. А галоўнае, Скачкоў прывык планаваць загадзя кожны дзень. Цяпер жа намечанае на сёння, заўтра і паслязаўтра адсоўвай надалей, усё кідай,

ляці як на пажар. Каб ён, Скачкоў, ведаў загадзя пра паездку, і галоўнае, што яму там прыйдзецца дакладваць, ён сустрэўся б са сваімі падначаленымі, яшчэ не адзін раз узважылі б кожную думку. А цяпер для гэтага не застаецца часу.

Пачуўшы, як у прыёмнай загрукала крэсламі сакратарка,— яна заўсёды, як прыходзіла, пачынала перастаўляць крэслы, якія прыбіральшчыца напярэдадні пассоўвала са сваіх месцаў,— Скачкоў націснуў кнопку пад сталом.

Сакратарка застыла ў дзвярах, не зводзячы вачэй са свайго начальніка.

— Эма Рыгораўна, калі ласка, пазваніце ў гараж, каб машына была. Еду ў Гомель.

Галоўныя геолаг, інжынер, начальнік тэхналагічнага аддзела зайшлі ў кабінет разам. Працько быў у цёмнасінім новым касцюме і ў сваім традыцыйным шэрым світэры. Ён вялай паходкай, пакалыхваючыся ў бакі, падышоў да Скачкова, падаў цяжкую мясістую далонь. Бурдзей у нязменным шэрым касцюме і чорнай вадалазцы, падаючы руку, прыязна ўсміхнуўся, як звычайна ўсміхаюцца блізкаму чалавеку. Кацянок жа, вяртлявы, хуткі ў рухах, мітуслівa спяшаўся за галоўным інжынерам, счакаў, падаў сваю вузкую далонь, схіліўшы пакорліва галаву. Потым сеў ля століка насупроць, дастаў запісную кніжку, аловак, падрыхтаваўся запісваць указанні. Галоўныя ж, геолаг і інжынер, уселіся ля сцяны.

Неўзабаве зайшло яшчэ некалькі супрацоўнікаў канторы.

— Сёння мне хацелася паразважаць разам з вамі пра наш заўтрашні дзень,— пачаў Скачкоў, па чарзе разглядаючы прысутных. Заўважыў, як Бурдзей і Кацянок, пераглянуўшыся, нечаму свайму ўсміхнуліся.— План мы пачалі выконваць, настаў час падумаць пра перспектыву...

— Якая перспектыва! — усклікнуў галоўны інжынер.— Тут во тры дні б'юся, каб запусціць новую помпу. Не хапае дэталей. Пакралі іх па дарозе ці не было зусім?

— Вадаводы паржавелі, трэба абнаўляць, а трубы ўсё ў дарозе,— падтрымаў яго і Кацянок.

— У вас будзе час падумаць над гэтым,— адказаў адразу ім двум Скачкоў.— Сёння нарады не будзе. З генеральным дырэктарам едзем тэрмінова ў Маскву. Дарэчы, па вашай запісцы,— звярнуўся да галоўнага геолага, які,

выцягнуўшы ногі перад сабой, скрыжаваўшы рукі на жываце, здавалася, сабраўся падрамаць у кабінеце начальніка.— Дарашэвіч настойвае, каб у міністэрстве дакладваў я. Дарэчы, Віктар Іосіфавіч, за гэты час у вас не ўзнікла якіх новых меркаванняў? Можа, што не ўлічана?

Працько нічога не сказаў, толькі матнуў барадой, быццам падмёў ёю грудзі.

— Мяне, ведаеце, што турбуе? — Скачкоў мелькам глянуў на Кацянка, які тут жа адарваўся ад свае запісной кніжкі і ўпіўся позіркам у начальства.— Раней не хацелі размаўляць, бо не было плана, цяпер не захочуць размаўляць, бо ёсць план.

— Па-першае, вам не мінуць Балыша. Ён сітуацыю ведае,— сказаў Працько.— Калі забыўся, у запісцы ўсё сказана. Успомніць. А што ёсць план — гэтага баяцца нечага. Сам Балыш абяцаў разгледзець пытанне тады, калі будзе план. Не думаю, каб ён не разумеў, колькі нашкодзіў промыслу сваімі перавыкананнямі плана, і думаю, цяпер захоча выправіць сваю памылку. Калі што здарыцца ў нас, пачнуцца ўсялякія праверкі, тады выплыве і яго варварская дзейнасць. Зараз у яго ёсць магчымасць замясці сляды. А каб ён адчуў, якая пагражае небяспека, раскажыце яму, якой цаной нам даецца план.

— Канешне, становішча ў нас сур'ёзнае. Мы так раскруцілі махавік, што ён вось-вось разляціцца. Калі звоняць дамоў, ідзеш да тэлефона і трымціш, ці не аварыя ўжо. Так, цяжка даецца нам план...— Бурдзей задумаўся ці зрабіў выгляд, што задумаўся.— Але... Ці варта гаварыць пра гэта Балышу? Згодзен, Балыш па-варварску эксплуатаваў радовішча, браў нафту без усялякага разліку, у выніку мы з вамі апынуліся ў тупіку. Але ж мы з вамі не з меншым варварствам зараз адносімся да тэхнікі, прымусілі яе працаваць на грані магчымага. За гэта таксама па галоўцы не пагладзяць.

— Ну, ведаеш,— не спадабаліся яго разважанні Скачкову.— Зрабіў адкрыццё. Канешне, мы стварылі вялікае напружанне. Але гэта часова. Калі адрамантуем свідравіны, паставім новыя воданагнятальныя помпы, усё прыйдзе ў норму...

— Калі не павялічаць план. Паглядзяць, што перавыконваем, і павялічаць,— уставіў сваё Кацянок.

— Я вас, Вячаслаў Мікітавіч, не разумею. Дрэнна, калі не выконваем, дрэнна, калі перавыконваем...

— Усё дрэнна,— хмыкнуў Кацянок і, нахіліўшыся,

пачаў таропка нешта занатоўваць у сваю запісную кніжачку.

— Прабачце мне, Ігар Сямёнавіч,— пачаў спакойна Працько, звяртаючыся да галоўнага інжынера.— Але вашы прапановы носяць правакацыйны характар.

— Ого-го! — падняў галаву і заклекатаў, як бусел, Кацянок.

Бурдзей, здавалася, не чуў, што сказаў Працько.

— Я разумею, Ігар Сямёнавіч,— разважаў далей галоўны геолаг,— што вы гэтага не хочаце, але аб'ектыўна атрымоўваецца так. Вы ведаеце, я не прывык хаваць сваіх думак. Канешне ж, трэба расказаць, як мы працуем. Нічога не трэба хаваць. Гэта трэба нават для падстрахоўкі. Каб потым мелі права сказаць, што папярэджвалі, дабіваліся... А будуць ведаць там, можа, хоць трохі віны возьмуць і на сябе. Але не гэта галоўнае. Галоўнае ў тым, што расказ, як нам даецца план, на маю думку, будзе важкім аргументам у карысць перагляду плана, у карысць камісіі. Упэўнен у гэтым.

— Гэта разумна,— пагадзіўся і начальнік тэхналагічнага аддзела.

— Ну што ж, здаецца, дамовіліся,— падсумаваў гаворку Скачкоў.— Так і будзем дзейнічаць... Відаць, дні тры праезджу. Хачу папрасіць вас, каб не забывалі на пільнасць. Мы стварылі напружанне ва ўсіх калектывах. Такая праца патрабуе дысцыпліны, дакладнасці. А як часам бывае? У некаторых настрой, абы хутчэй. Недзе нешта пачынае рабіцца наспешліва, цяп-ляп. Прыехаў на адну свідравіну, там помпу збіраліся падымаць. А раствору глушыць свідравіну не завезлі. Яшчэ просьба. Калі прыйдзе наймацца на работу які токар ці слесар, то бярыце. Самі ведаеце, як у нас з кадрамі. І апошняе, не забывайце пра заўтрашні дзень, думайце.

Падняўшыся з-за стала, пры выхадзе з кабінета, Скачкоў пацікавіўся ў галоўнага геолага:

— Віктар Іосіфавіч, вы даўно былі ў нафтаразведчыкаў?

— Учора,— адказаў Працько.— Нічога суцяшальнага. На новых структурах, на якія спадзяваліся, нічога не знайшлі. Вярнуліся на старыя. Ёсць прыхільнікі таго, што там ёсць нафта. Абнадзейваюць.

— Яны пяць гадоў ужо абнадзейваюць,— хмыкнуў Кацянок.— Толькі за нос водзяць.

— Справа, вядома, няпростая,— разважаў далей

Працько.— Яны і тут знайшлі нафту не так хутка. Пакуль не разгадалі яе сакрэту. Цяпер па гэтаму ж метаду шукаюць на другіх плошчах. Утварыўся пэўны шаблон мясцовага паходжання. А ў нас, што ні структура, то свой сакрэт...

— Ясна,— уздыхнуў Скачкоў.— Пакуль на новыя запасы разлічваць нечага. Ну, бывайце!

І ўжо ў дарозе, за Зуевым, успомніў, што не паведаміў жонцы пра свой нечаканы ад'езд. Звязаўся па рацыі з дыспетчарскай, папрасіў пазваніць у школу Але Пятроўне.

Генеральны дырэктар чакаў яго. Як толькі Скачкоў зайшоў да яго ў кабінет, ён адразу ж пачаў сабірацца. Апрануўшыся, яшчэ раз перагледзеў усе паперы ў папцы, ці не забыўся раптам чаго.

— Ну, пайшлі! — зашчапнуў ён папку на кнопкі.

Дарашэвіч усю дарогу маўчаў, быў нейкі зажураны, засяроджаны. Ці балела што ў чалавека, ці проста быў не ў настроі. Яго мясістыя губы абвіслі, ад чаго ўвесь твар неяк пастарэў, абвяў, набыў хваравіты выгляд. Скачкову аж шкада стала старога. Не вытрываў, спытаў:

— Можа, нездаровіцца? Дык не паедзем. Ніхто ў шыю не гоніць.

— Трэба! Ёсць такое слова, Валерый Міхайлавіч,— павучальна сказаў Дарашэвіч.— Не хочацца, а трэба. Адчуваеш сябе як тая жаба, што скача ў вужаву зяпу. Не хоча, а скача,— і ўжо ў зале аэравакзала, калі яны стаялі ў чарзе на рэгістрацыю пасажыраў, уздыхнуўшы, працягваў:

— Каб вы ведалі, Валерый Міхайлавіч, як не хочацца ехаць. І сам не разумею чаму. Можа, таму, што Балыш абавязкова чым-небудзь сапсуе настрой. А галоўнае, ніколі не ведаеш, якую яшчэ прэтэнзію ён прыдумае. Наогул, як стаў Балыш нашым куратарам, немагчыма працаваць... Адным словам, Валерый Міхайлавіч, ніколі не дапускайце, каб ваш падначалены падняўся вышэй за вас.

Яшчэ ніколі так шчыра не гаварыў з ім генеральны дырэктар. Скачкову хацелася не тое што паспачуваць яму, а падтрымаць гэтую гаворку, каб разбурыць тую аддаленасць, якая ўсё была паміж імі.

— Мне часта прыходзіць у галаву такая думка,— пачаў ён.— Вельмі часта мы ездзім без усялякай патрэбы. Ну навошта вось зараз нам ляцець? Болей таго, чым у

запісцы, мы не скажам. Пасляць запіску, хай чыталі б, думалі, прымалі рашэнне. А то столькі часу губляем з-за розных паездак.

— Гэ, каб жа меней пісалі,— Дарашэвіч павярнуўся да Скачкова, сказаў цішэй: — Часам эмоцыі чалавека болей уплываюць, чым самая перакапальная паперына. Цяпер жа інфляцыя папер. Вы не заўважылі? Багата пішам. Розныя ўказанні мяшкамі спускаюць. А мы мяшкамі пасылаем даведкі. Я недзе чытаў, што эпісталярны жанр нібы адмёр. Не, не адмёр. Абюракраціўся. Нідзе ніколі людзі не пісалі столькі. Чалавек стаў абыякавы да паперы. У яго не хапае часу. Помню, у мяне быў адзін знаёмы начальнік упраўлення. Ніяк не разумеў ён гэтага. Па традыцыі лічыў, што папера — усё. Па прынцыпу: «Без бумажки ты букашка, а с бумажкой — человек». Па любому поваду ён пісаў паперы. З яго смяяліся, што ён і жонцы адказваў пісьмова, калі тая пыталася раніцай, ці выспаўся. Нікуды не ездзіў. Не любіў ездзіць ці сапраўды быў перакананы, што папера — усё. Дакумент! Маўляў, калі чаго і не даб'ешся, паперына засведчыць, што не спаў у шапку, дзейнічаў. Пісаў багата. А справы ў яго ішлі далёка не лепей, чым у іншых. Можа, нават і горш. Яго часта правяралі. Апошні раз правяралі з міністэрства. Абвінавацілі ў бяздзейнасці. Як? — даводзіў ён сваё.— У мяне ж дакументы, я дзейнічаў... Неэфектыўна дзейнічалі,— сказалі яму. Безвынікова. І хутка вызвалілі ад займаемай пасады. Вось так, Валерый Міхайлавіч. Запомні, калі ля паперы няма жывога чалавека, над ёй ніхто не ламае галавы. Але і дадаткаў да папер у выглядзе жывых істот становіцца столькі, што і гэта пачынае ўсё горш і горш дзейнічаць. Вось чаму мы з вамі ўжо едзем удвух. Можа, нашым здвоеным псіхалагічным націскам як-небудзь даб'ёмся свайго,— і засмяяўся.— Як мая тэорыя? — і больш заклапочана працягваў: — Там прывыклі, што я прыязджаю нешта патрабаваць. А вы для іх новы. Да новага чалавека заўсёды болей увагі. А потым... Я даўно стаўлю пытанне, каб зменшыць план, бо геолагі не далі таго прыросту нафты, на які разлічвалі. Пайшлі насустрач. Зменшылі. А потым Балыш, ваш папярэднік, пачаў даваць ледзь не два планы. Мне, вядома, вымова. Вы, маўляў, спецыяльна дабіліся змяншэння, каб прэміі заграбаць... Праўда, ніхто з іх не хоча ехаць сюды заграбаць тыя прэміі. Папрыліпалі там да міністэрскіх крэс-

лаў... Баюся, каб і сёння не тыцнулі мяне носам у тое зніжэнне.

«Вось чаму ён бярэ мяне з сабой,— падумаў Скачкоў.— Баіцца падстаўляць сябе».

— Нічога, Віталій Апанасавіч, сёння мяне будуць біць,— сказаў услых.

— Для гэтага я і бяру вас,— нечакана рагатнуў Дарашэвіч і адразу ж загаварыў пра іншае.— Наогул, не люблю ніякіх камісій. Пасля іх звычайна робяцца аргвывады.

Зарэгістрыраваўшыся, моўчкі чакалі ў тамбуры пасадкі на самалёт. Маўчаць было няёмка, і яны часта пазіралі праз шкляныя дзверы на лётнае поле, ці не падцягнулі іх самалёт. А потым, у самалёце, уладкаваўшыся ў крэсле, абвязаўшыся рэмнем, якога ледзь хапіла абхапіць пукаты жывоцік, Дарашэвіч сказаў:

— Хоць трохі адпачнём... Я табе скажу, у наш час толькі ў дарозе можна па-сапраўднаму адпачыць. Ні тэлефонных званкоў табе, ні наведвальнікаў. Ні начальнікаў, ні падначаленых. Думаеш, дарэмна многія любяць ездзіць у камандзіроўкі? — і ён, адкінуўшы крэсла, заплюшчыў вочы. Здавалася, адразу ж задрамаў. Нават не варухнуўся, калі бортправадніца частавала пасажыраў ліманадам, разносячы яго ў дробненькіх пластмасавых кубачках.

Калі прыляцелі ў Маскву, да канца рабочага дня заставалася яшчэ некалькі гадзін.

— Выдатна. Зараз жа паедзем у міністэрства. Можа, сёння і вырашым усе свае праблемы, яшчэ паспеем вярнуцца начаваць дамоў,— нечакана хуткім крокам Дарашэвіч скіраваў да стаянкі таксі.

— А можа, зранку? — ледзь паспяваў за ім Скачкоў.— Усе добрыя справы робяцца зранку.

— У міністэрствах наадварот,— Дарашэвіч першым прапусціў у машыну Скачкова, потым усеўся побач з ім.— Ведаеш, у канцы дня начальства стомленае, думаць яму не хочацца. Каб доўга не валаводзіцца, хутчэй дае дабро.

— Цяпер я да вас, Віталій Апанасавіч, буду прыязджаць у канцы дня,— засмяяўся Скачкоў.

— Я кажу пра міністэрства,— і растлумачыў: — Мы з вамі не пытанні, не праблемы вырашаем, а робім канкрэтную справу. Нам трэба светлая галава. Так што да мяне прыязджай зранку. Пасля абеду будзем званіць у міністэрства... Хе-хе...

«Відаць, стаміўся стары,— падумаў пра Дарашэвіча Скачкоў.— А адпачыў у самалёце, адразу павесялеў, настрой палепшыўся».

У міністэрстве спачатку зайшлі да Балыша.

Балыш, убачыўшы ў дзвярах гасцей, кінуўся ім насустрач. Гэта быў стройны, шыракаплечы чалавек гадоў пад сорак. Цёмна-зялёны касцюм яшчэ болей падкрэсліваў маладжавасць твару. Яго светлыя вочы аж пацямнелі ад расчуленасці, узрадаванасці.

— Мне заўсёды прыемна бачыць вас, Віталій Апанасавіч. І вас, Валерый Міхайлавіч,— Балыш кожнаму з іх падоўгу трос руку, потым мітусліва бегаў па кабінеце, не ведаў, дзе пасадзіць дарагіх гасцей.— Ну як там? Як Дняпро? Як там нашы лясы? Бары? Дубравы? Як там нашы наогул? Каб вы ведалі, як мне ўсё тое сніцца. У сне часта вяртаюся туды. Еду, еду і, на вялікі жаль, прачынаюся ў Маскве. Хе-хе... Ну, сядайце, сядайце. Расказвайце...— Ён узяў крэсла, паставіў перад імі, усеўся.

Скачкоў, убачыўшы такую шчырую сустрэчу, свяціўся светлаю ўсмешкаю, упэўнены, што гэта — добры знак, што яны хутка, без лішняй цеганіны, вырашаць усе свае праблемы. Дарашэвіч жа сядзеў маўклівы, прыкметна Банасцярожаны. Відаць, ён лепей за Скачкова разумеў Балыша. Калі першае ўзбуджэнне прайшло, калі былі сказаны ўсе прывітальныя словы і наступіла кароткая замінка, Дарашэвіч спытаў:

— Можа, Раман Тарасавіч, зараз і пагаворым пра нашы справы? Мы прыехалі з запіскай, пра якую вы ведаеце, але, можа, забылі, дык кініце вокам? — і пачаў расшпільваць папку.

— Ведаю, ведаю,— Балыш замахаў рукой, маўляў, нечага даставаць паперы.— На памяць ведаю. Яшчэ з тых часоў... Зробім так. Пойдзеце да намесніка міністра. Усё роўна без яго вашы праблемы не вырашыць. Я дакладваў яму пра вашу ідэю.

— А ён? — пацікавіўся Дарашэвіч.

— Сказаў, прыедуць, будзем глядзець. Так што зараз жа і ідзіце. Ён, здаецца, на месцы. Я пазваню яму ў прыёмную, каб адразу далажылі пра вас.

— Дрэнь нашы справы,— сказаў у калідоры Дарашэвіч. Убачыўшы, што Скачкоў не разумее яго, растлумачыў: — Я, відаць, прымхлівы чалавек, але калі адразу асечка, то гэта — дрэнная прыкмета. Балыш сам мог узяць

на сябе наша пытанне. Не ўзяў. І яго залішняя ветлівасць не спадабалася мне. Як што залізаць стараецца...

Не паспелі яны зайсці ў прыёмную намесніка міністра, як ім сказалі, што іх ужо чакаюць.

Высокі, сівагаловы, у шэрым гарнітуры, намеснік міністра сустрэў іх мяккаю ўсмешкай на такім бледна-шэрым твары, нібы ніколі не бачыў сонца. Пакуль яны ўселіся ля прыстаўнога століка, пацікавіўся, ці добра ўладкаваліся ў гасцініцы. Дарашэвіч не стаў адказваць на яго пытанне, дастаў з папкі запіску, паклаў на стол перад гаспадаром кабінета.

— Тут нашы меркаванні, просьба...

Намеснік міністра, не глянуўшы на паперыну, адсунуў яе ўбок, нібы яна мазоліла вочы, стрымана ўсміхнуўся.

— Навошта мне папера, калі вы тут? Дакладвайце, толькі коратка. У мяне дзесяць мінут,— глянуў на наручны гадзіннік.

— Валерый Міхайлавіч, дакладвайце,— сказаў Дарашэвіч Скачкову, а намесніку міністра растлумачыў: — Мы дамовіліся, што ён будзе...

— А чаму ён? — здзівіўся намеснік міністра.— Ён няхай дакладвае ў вашым кабінеце, а тут я хачу паслухаць вас.

Дарашэвіч, відаць, не чакаў такога, прыкметна разгубіўся, падняўся.

— Можна седзячы,— ласкава дазволіў намеснік міністра.

Дарашэвіч расказаў пра эксплуатацыю промыслу, паўтарыўшы ледзь не слова ў слова запіску, раней напісаную галоўным геолагам упраўлення. Калі ж ён загаварыў пра тое, што зараз невядома колькі нафты можа даць кожная свідравіна, намеснік міністра перабіў яго:

— Ці не хочаце вы, каб вам зноў знізілі план?

— Не выключаны і такі варыянт,— стараўся не быць катэгарычным Дарашэвіч.

— Ясна,— накрыў далонню намеснік міністра іх запіску. Яго жэст сведчыў, што ў яго ёсць ужо рашэнне, пра якое ён зараз і скажа. Але з рашэннем намеснік міністра не спяшаўся. Ён раптам кінуўся ва ўспаміны.— Цікава, Віталій Апанасавіч, у вас атрымоўваецца. Як помню вас, вы кожны раз наведвалі мой кабінет з адной і той жа просьбай: знізіць план. Ніколі не прыйшлі і не папрасілі павысіць план. Ці, можа, я забыўся? І самае цікавае, што

пры гэтым заўсёды адна і тая ж прычына. Прыродныя ўмовы. Аб'ектыўныя фактары, так сказаць. Калі вы працавалі ў Куйбышаўскай вобласці, то толькі тое і рабілі, што дабіваліся зніжэння плана.

— Але там сапраўды выпрацавалі радовішчы,— паныла запярэчыў Дарашэвіч.

— Ведаю, ведаю... Цікава іншае. Дзе б вы ні з'яўляліся, там адразу ж узнікалі аб'ектыўныя фактары.

— Што ж рабіць, калі я заўсёды пападаў на шапачны разбор,— паспрабаваў пажартаваць Дарашэвіч. Але намеснік міністра не прыняў яго жарту, сядзеў з акамянелым тварам.— Вы ж заўсёды накіроўвалі мяне ў тыя рэгіёны, дзе змяншаліся запасы нафты. Вы ніколі не накіравалі мяне на перспектыўны нафтапромысел. Ды хіба я адзін такі?

— Бывае, канешне, і ў іншых такое. Як эпізод. У вас тэндэнцыя. Як толькі мне дакладваюць, што вы просіцеся на прыём, я ведаю, чаго вы хочаце. І ніколі яшчэ не памыляўся. Гады тры назад вы даказвалі тут, што вам завысілі план...

— І я аказаўся правы,— сказаў з нечаканай дзёрзкасцю Дарашэвіч, відаць, зразумеўшы, што далей далікатнічаць няма ніякага сэнсу.— Мяне здзіўляе ваша пастаяннае жаданне ва ўсім гэтым бачыць вінаватым толькі мяне. А вінаватых трэба шукаць у іншых месцах. Паглядзіце, як шукаюць нафту, як вызначаюць яе запасы, як даводзяцца планы, з якой столі яны бяруцца... Потым віна кладзецца на невінаватых, але якіх лёгка, а можа, і зручна абвінаваціць,— цяпер ужо наступаў Дарашэвіч. Няўстрымна, смела, нават, можа, занадта смела для кабінета намесніка міністра. Скачкоў чакаў, што калі гаспадар кабінета не пакажа ім на дзверы, то абавязкова знойдзе спосаб асадзіць Дарашэвіча. Але той нібы і не чуў выпаду Дарашэвіча. А тым часам Дарашэвіч працягваў: — Помню, я рабіў на Паўночным Каўказе. Тады наш трэст узначальваў вядомы вам Капылоў. Дык вось у яго быў...

— Не трэба, Віталій Апанасавіч. Даволі я наслухаўся вашых баек,— абарваў яго намеснік міністра і загаварыў роўным, па-ранейшаму ласкавым, нават зараз болей ласкавым голасам.— Правільна, камісія ўстанавіла, што запасы завышаны. І ўсё ж цікавая рэч атрымліваецца, мой дарагі Віталій Апанасавіч. Быў начальнік упраўлення Балыш, планы выконваліся і перавыконваліся. Забралі Балыша, паказчыкі зноў пакаціліся ўніз. Цяпер прыйшоў

новы начальнік, з планам зноў усё нармальна... А можа, сакрэт, Віталій Апанасавіч, у тым, як хто працуе. Мы ж не можам сістэматычна зніжаць планы. Не маем права заахвочваць няўменне працаваць.

Убачыўшы, што Дарашэвіч звяў, зніякавеў, нават колерам у твары змяніўся, Скачкоў кінуўся абараняць яго:

— Чаму вы вырашылі, што мы дабіваемся зніжэння плана? Можа, камісія прыйдзе да вываду, што план трэба якраз павялічыць?

— А потым, Віталій Апанасавіч,— намеснік міністра нават не звярнуў увагі на рэпліку Скачкова,— трэба болей патрабаваць ад геолагаў. Мне здаецца, яны занадта супакоіліся. У іх галовах не нафта, а дачы. Пятрушка ўсялякая, салата. Дарэчы, колькі вам год?

— З гэтага трэба было і пачынаць,— падняўся Дарашэвіч.— Мой узрост такі, што са мной не варта гуляць у кошкі-мышкі. Хочаце адправіць на пенсію, адпраўляйце...

— Можа, я хацеў якраз прапанаваць вам перспектыўны нафтапромысел? — цялёпнуў плячыма намеснік міністра.

— Не трэба. Вам не ідзе гумар,— сказаў Дарашэвіч.— Я прыйшоў да вас, каб вырашыць пытанне. Адчуваю, што вы не гатовы да гэтага. У вас наша запіска. Пачытайце, разбярыцеся, калі вам не абрыдла яшчэ займацца сваімі абавязкамі. Потым скажыце пра сваё рашэнне,— і ён, не развітаўшыся, скіраваў да дзвярэй.

Намеснік міністра падняўся, правёў Скачкова.

— Не пакідайце старога. Нешта ён залішне раздражнены,— папрасіў на развітанне.

Скачкоў і Дарашэвіч моўчкі спусціліся па лесвіцы, моўчкі ехалі ў таксі. Толькі ў гасцініцы, разыходзячыся па сваіх нумарах, Скачкоў сказаў:

— Можа, Віталій Апанасавіч, не трэба было так?

— А як? — спыніўся Дарашэвіч.— Як трэба? Ён жа і не збіраўся вырашыць наша пытанне. Думаеце, я меней за яго разбіраюся? Я не меней за яго працаваў у нафтавай прамысловасці. І не толькі ў кабінетах, між іншым. А ён у сваім кабінеце павуццем даўно пакрыўся, на свежае паветра гадамі не вылазіў. І вучыць мяне, практыка. Мне не трэба ваша ветлівасць. Вы вырашайце пытанне. Яно не мае асабістае. Я сюды не прыехаў, каб разглядалі маю персанальную справу... «Я цябе хачу на перспектыўны промысел накіраваць». Артыст! Не, я гэтага так не пакіну. Я заўтра да міністра пайду. Яшчэ паглядзім, хто

каго куды накіруе,— і ўжо ў дзвярах, бразнуўшы ключом, нечакана спакойна сказаў.— Заходзьце, пойдзем вячэраць разам...

Не паспеў Скачкоў размясціцца ў нумары, як заверашчаў тэлефон. Званіў Дарашэвіч. Ён сказаў у тэлефонную трубку толькі адно слова: «Зайдзі...»

Дарашэвіч ляжаў на ложку. Тэлефонная трубка звісала са стала. Ён раскрытым ротам хапаў паветра, уставіўшыся шклянымі вачыма ў столь. Адчуўшы Скачкова, прамармытаў: «Усе супроць, усе...»

Скачкоў адкрыў фортачку, выклікаў «хуткую дапамогу».

Урач, які неўзабаве зайшоў, сказаў, што падобна на інфаркт.

Дарашэвіча забралі на насілках.

Скачкоў вярнуўся ў свой нумар, спыніўся сярод пакоя, не ведаючы, што рабіць. Трэба было б пазваніць Дарашэвічу дамоў, але ён не ведаў яго хатняга тэлефона. Ды і няварта спяшацца з гэтым. Можа, усё абыдзецца, толькі панікі дарэмна наробіш.

Ён набраў нумар Балыша, хоць і не спадзяваўся застаць таго на рабоце.

— Я слухаю,— абазваўся Балыш.

— Толькі што «хуткая дапамога» забрала Дарашэвіча,— сказаў Скачкоў.— Падазрэнне на інфаркт.

— Та-а-к,— здавалася, Балыш не ведаў, што сказаць.— Вось што, дзе вы зараз?.. Я еду.

Скачкоў адразу ж скеміў, што лепшага выпадку пагаварыць з Балышом нечага і чакаць. Ім тут ніхто не перашкодзіць. А галоўнае, не трэба будзе спяшацца: наперадзе цэлы вечар. Ён спусціўся ўніз, прыхапіў сяго-таго ў буфеце.

Балыш зайшоў, распрануў карычневы плашч на падкладцы са штучнай поўсці, кінуў яго на спінку ложка. Зняў пінжак, паклаў на плашч, аслабаніў гальштук, расшпіліў кашулю. Адразу ж з афіцыйнага чалавека ператварыўся ў дамашняга, непасрэднага. Было ўражанне, нібы ён, Балыш, дома, а Скачкоў зайшоў да яго ў госці.

— Ну што з тваім шэфам? — не чакаючы адказу, усеўшыся ў нізкае крэсла, узяў тэлефон, паставіў на прыпол, пазваніў, у некага спытаў пра Дарашэвіча, паслухаў, падзякаваў, сказаў Скачкову.— Справы не вельмі. Здаецца, сапраўды інфаркт. Зараз у рэанімацыі. Але, гавораць, нічога страшнага. Няўдала, я табе скажу, намякнулі яму

на пенсію. Наш намеснік міністра ніколі не вызначаўся далікатнасцю.

— Сапраўды, далікатнасці не хапала,— стаяў ся... пакоя Скачкоў, не адважваючыся запрасіць госця да стала. Яго выручыў сам Балыш.

— Ну што стаіш? Давай хіба перакусім? — і пачаў адкаркоўваць бутэльку «баржомі».

— Вы сур'ёзна пра пенсію? — пацікавіўся Скачкоў.

— Не зусім. Пакуль што думалі зрабіць толькі намёк, каб, значыцца, прывыкаў да думкі...

— Прынялі б нашы прапановы наконт камісіі, а потым пра пенсію,— упікнуў Скачкоў субяседніка.

— Якая камісія? — здзіўлена вырачыў светлыя вочы Балыш.— Пра што вы гаворыце? Вы хоць помніце, што напісана ў вашай запісцы?.. Вы даказваеце, што крытычнае становішча ўзнікла ў выніку варварскай эксплуатацыі радовішча. А хто яго эксплуатаваў? Я. Вы хочаце, каб я пайшоў да міністра і падпісаў сабе прыгавор? Пашукайце, як кажуць, дурняў у другім месцы. А потым, калі гаварыць сур'ёзна, навошта вам тая камісія? План робіце? Робіце. Што вам яшчэ трэба?

— Вы ведаеце, як даецца нам план?

— Прыкладна, уяўляю. Стараецеся, не спіце ў шапку. Адным словам, умееце працаваць. За вас, здольных, ініцыятыўных,— ён усміхнуўся тонкімі амаль бясколернымі вуснамі.

— Вы ведаеце, што свідравіны працуюць на мяжы магчымага? Помпы, што заканчваюць ваду, хутка разарвуцца ад напружання. Людзі забыліся пра выхадныя, асабліва рамонтнікі. Калі ўсё больш-менш адрамантуем, можа, спадзе напружанне. Але ці будзе тады нафта? І хоць не хочацца вам, Раман Тарасавіч, а мы вымушаны будзем вярнуцца да пытання аб камісіі. І думаю, што хутка. Уяўляеце, раптам, што здарыцца. Тады ўсё ўсплыве. Хто і як раней здабываў нафту... Я, вядома, пастараюся не дапусціць да гэтага, але калі вы не паможаце нам зараз, я да міністра дайду. Дамоў вярнуся толькі з камісіяй.

Скачкоў стрымана ўсміхнуўся.

— Упэўнен? — іранічна ўсміхнуўся Балыш.

— Я не прывык адступаць.

— Вы не такі прастачок, як мне спачатку падалося,— раптам Балыш задумаўся, апусціўшы вочы, потым глянуў

на Скачкова пранізліва. Скачкоў зразумеў, што Балыш прыняў нейкае рашэнне.— Зробім так. Напішыце мне яшчэ адну запіску. Толькі дамовімся, не таптаць мяне. Не ўспамінаць мінулае. Не спасылацца. Пісаць, што апошнім часам назіраюцца незразумелыя анамаліі ў паводзінах многіх свідравін, нечаканыя адхіленні ў пластавым ціску. Трэба камісія, якая б устанавіла аптымальныя рэжымы эксплуатацыі свідравін. Пра план, вядома, ні слова. Асабліва пра яго заніжэнне. План будзе давedзены згодна вывадаў камісіі. Запіску вышліце мне асабіста. Прыязджаць не трэба,— і ўсміхнуўся нечакана дружалюбна.— Вас небяспечна пускаць у міністэрства. Вядома ж, жартую... Я сам тут усё зраблю найлепшым чынам. Вось так.

— Дзякую!

— Няма за што.

— Наступіла нялоўкае маўчанне.

— Што будзем рабіць? — спытаў Скачкоў.

— Зараз што-небудзь прыдумаем,— падняўся Балыш, глянуў на гадзіннік.— Хвілiначку, я зараз дзынкну дамоў,— падышоў да тэлефона, набраў нумар, сказаў: — Гэта ты? Слухай, малыш, я сёння затрымаюся. Тут з Зуева прыехалі, іх пытанне на калегіі. Не, яшчэ не слухалі. Можа, праз гадзінку... Нібы першы раз зацягваецца калегія... Потым, сама разумееш, не пакінеш іх адных, трэба хоць трохі пабыць разам... Не, можа тут дзе. Усяго! — ён паклаў трубку, весела сказаў: — Я перад сваёй благавернай адмаліўся... Часу ў нас багата. Зараз спусцімся ў рэстаран, пасядзім, палюбуемся, як сталіца адпачывае. І самі якую мадэрновую полечку адбацаем. Ну, што задумаліся? Не журыцеся... Пайшлі!

## 12

Пасля тлумнага школьнага памяшкання, у якім, здавалася, заўсёды трымалася пыльнае паветра, вуліца радавала сваім спакоем і цішынёй. Голыя дрэвы не засланялі сабой забудоў. Восень была такая сухая, што лісце, якое апала, цёрлася пад нагамі, быццам перад гэтым доўга сохла ў гарачай печы. Калі па дарозе праязджала машына, услед кружылася тая пацяруха жоўтым пылам.

Ала Пятроўна спынілася ў канцы вуліцы, дастала з сумачкі паперку, паглядзела адрасы вучняў, якіх наме-

ціла наведаць. Спачатку яна пабудзе ў Ігара Калінава, які жыў далей за ўсіх, а потым па дарозе дамоў загляне да астатніх. Хутка з вуліцы, па якой ішла, завярнула ў завулак, зарослы густой травой. Трава прабілася і між доўгіх шэрых плітак, якімі быў выслан вузенькі — удваіх не размінуцца — тратуар.

Дамы хаваліся за высокімі штыкетнікамі. Іх нумары пісаліся на веснічках ля шчылінак ад паштовых скрынак.

Ля веснічак з патрэбным нумарам Ала Пятроўна спынілася ў разгубленасці. Побач з нумарам была бронзавая шыльдачка, якая чырвонымі літарамі папярэджвала, што ў двары злы сабака.

Ала Пятроўна ляпнула клямкай, спадзеючыся, што, можа, хто выйдзе на гук ці хоць гаўкне той самы злы сабака. Было ціха. Яна прыадчыніла веснічкі, заглянула ў двор. Нідзе нікога.

Дом быў нізкі, пад ацынкаванай бляхай, на дзве кватэры. Па баках блішчэлі шматлікімі шыбкамі дзве падобныя адна на адну веранды. Да дзвярэй Калінавых вяла сцежка з чырвонай цэглы. Яна пайшла па гэтай сцежцы, часта нагінаючыся пад галлём ад раскідзістых яблынь, што раслі абапал. Падняўшыся на ганак, пашукала кнопку ад званка. Кнопкі не было. З кватэры чулася прыглушаная музыка. Іграў тэлевізар ці радыё. Пастукала ў дзверы. Ніхто не адгукнуўся. Паспрабавала адчыніць дзверы, яны былі незамкнёныя...

На верандзе паўз сцяну да самай столі стаялі скрынкі з яблыкамі. Моцна пахла антонаўкамі. У жанчыны аж слюнкі сабраліся пад языком. Мінуўшы веранду, асцярожна прыадчыніла дзверы ў пярэднюю.

— Дома хто ёсць? — спытала, на ўсялякі выпадак, трымаючыся рукой за клямку.

У пярэдняй было яшчэ двое дзвярэй. Настаўніца не ведала, у якую ёй падацца. Пастаяўшы ў чаканні, адчыніла тыя дзверы, што былі бліжэй. Убачыла невялікі пакой з вузкім брудначатым акном без фіранкі. Ля сцяны — нізкая канапка з аблезлай аўчынай на ёй. Ля канапкі — алюмініевая місачка з вадой. У пакоі смуродна пахла псінай. Яна паспешліва зачыніла дзверы. Непрыемны пах нібы прыліп да носа. Ала Пятроўна прыадчыніла другія дзверы. Праз вузкую шчыліну ўбачыла каляровы тэлевізар. Перадавалі канцэрт. Жанчына ва ўсім чырвоным блыталася ў залацістых стужках, што звісалі аднекуль зверху, і нешта нашэптвала пра старадаўні гадзіннік.

Ала Пятроўна зайшла ў пакой.

На канапе ляжаў Ігар Калінаў і чытаў нейкую тоўстую ў чырвоных вокладках кнігу.

— Ігар! — паклікала настаўніца.

Хлопчык не пачуў. Ала Пятроўна падышла да яго, кранула за локаць. Ігар адхіліў кнігу, які час няцямна глядзеў на настаўніцу, не разумеючы, якім чынам яна аказалася ля яго.

— Не пазнаеш? — засмяялася Ала Пятроўна.

Ігар падхапіўся, сеў, прыгладзіў рукой узлахмачаную чупрыну, шмаргануў носам.

— Сядайце, Ала Пятроўна,— хлопчык паднёс да канапы крэсла, пачакаў, пакуль настаўніца сядзе, сеў зноў на канапу.

— Урокі павучыў? — спытала Ала Пятроўна.

— Яшчэ не. Зачытаўся...

— Выключыў бы тэлевізар. Як ты чытаеш пры ім?

— Нельга.

— Не выключаецца?

— Выключаецца,— глянуў з-пад ілба на настаўніцу.— Бацька з суседам купілі тэлевізары. Замачылі, потым заспрачаліся, хто выбраў лепшы. Пабіліся аб заклад. Дамовіліся не выключаць, каб паглядзець, чый раней сапсуецца. Выключаюць, калі скончацца перадачы. Раніцай адразу ж уключаюць. Паслухайце, у суседа таксама гаворыць,— ён прыглушыў крыху свой тэлевізар. Тая ж музыка пачулася праз сцяну ад суседа.

— Як жа ўрокі?

— Пад музыку,— усміхнуўся Ігар.— Прывык. Праўда. Яно і нядрэнна. Не прапусціш цікавую перадачу.

— Можа, яшчэ ёсць у вас пакой, каб вучыць не пад музыку?

— У нас яшчэ два пакоі. Спальня,— і ён паказаў на дзверы, якіх спачатку Ала Пятроўна не заўважыла.— Там бацька з мамай спяць... Праз адчыненыя дзверы глядзяць тэлевізар. І кнігі нашы там.

— Урокі тут вучыш? — настаўніца ўгледзела адразу за канапай невялічкі столік, на якім ляжаў партфель Ігара.

— Тут. І сплю тут. На гэтай канапе.

— А тэлевізар?

— Я ж кажу, прывык. Гляджу, пакуль не засну. Бывае, і бацька засне. Тады да раніцы мігае.

— Та-ак,— Ала Пятроўна цяпер зразумела, чаму такі

незасяроджаны на ўроках яе вучань. Ён заўсёды launched пэратомлены, ніколі добра не адпачне. У галаве не ўрокі, а тэлеперадачы ў перамешку з Дзюма.— Я хацела з тваімі бацькамі пагаварыць. Чаму яны не прыйшлі на сход?

— Не маглі. У іх на рабоце быў сход.

— Сёння таксама на рабоце?

— Дома. Пайшлі гуляць з Марго.

— З Марго?

— Сабака. Яны з ім гуляюць кожны дзень.

— Я нікога не сустрэла з сабакам.

— Яны тут не гуляюць. Тут, кажуць, глуха, няма людзей. Марго можа адзічэць. Пахваліць яго няма каму. Яны ездзяць у цэнтр горада. А то ў парк, на набярэжную. Але ў парк ходзяць улетку. Цяпер — у горадзе...

— Калі ты гуляеш на вуліцы?

— Калі захачу. Сёння не хацелася. Чытаў.

— Шкада, што бацькоў не застала...

— Яны хутка будуць, Ала Пятроўна. Яны Марго заўсёды кормяць у шэсць. Потым глядзяць кіно. Так што вось-вось прыйдуць. Зараз амаль шэсць,— ён глянуў на круглы гадзіннік, што вісеў на сцяне над сталом.

Грукнулі дзверы. Спачатку недзе ў калідоры, а потым у пярэдняй пачуўся малады жаночы смех. У пакой ускочыў высокі вастраморды сабака з доўгай вогненнарыжай абвіслай поўсцю па баках. Зашлёпаў шырокімі, як растаптанымі, лапамі па падлозе. Абнюхаў настаўніцу, тыцнуўся пысай у прыпол Ігару.

— Марш! — шлёпнуў хлопчык па шыі сабаку.

Сабака піснуў і выбег з пакоя.

— Ігар! — адразу ж пачуўся строгі мужчынскі голас.— Колькі разоў гаварыў, каб не крыўдзіў Маргончыка.

— Хто гэта да нас зайшоў? — запела радасна жанчына, з'явіўшыся ў дзвярах. На ёй быў шырокі карычневы плашч з капюшонам. На галаве staўбунаватая прычоска. На шыі квяцістая хусцінка.— Добры вечар, Ала Пятроўна. Ой, як хораша, што вы заглянулі. Мы толькі што з Пецяй гаварылі пра вас. Учора не змаглі прыйсці на сход, дык ходзім і думаем, як сустрэцца з вамі,— і знікла.

Заглянуў гаспадар. Ён быў у скураным паліто і такім жа скураным капелюшы з вузенькім брыльком. Павітаўся, раскланяўся і таксама знік. І вось яны ўжо абое, распрануўшыся, зайшлі ў пакой. Гаспадар сеў на канапу побач з сынам, а яна, пастукваючы высокімі абцасамі, замі-

тусілася, прыбіраючы з абедзеннага стала, што стаяў ля акна побач з тэлевізарам, крыштальную вазу з завялымі астрамі, засцілаючы яго белым шапаткім настольнікам.

— Зараз вось пасядзім, чайку пап'ём, пагамонім. Пеця, ты пайшоў бы ўключыў самаварчык.

— Ой, нічога не трэба,— узмалілася Ала Пятроўна.— У мяне часу няма.

— Не, не,— запярэчыла гаспадыня.— Пеця! Я прашу цябе. Уключы самаварчык...

— Зараз,— гаспадар падняўся, звярнуўся да настаўніцы: — Давайце плашчык, павешу,— і выставіў кароткія моцныя рукі.

— Не, дзякую,— адмовілася настаўніца.— Я зараз пайду. Не адны вы не былі на сходзе.

— Вельмі прыемна, вельмі прыемна,— рагатнуў мужчына.— Мы баяліся, што толькі мы не былі. А калі нас многа, то не страшна. Калектыўна яно весялей,— ён выйшаў, хутка вярнуўся, зноў сеў на канапу.— Слухаем вас, прабачце, не ведаю, як велічаць.

— Ала Пятроўна,— падказаў сын.

— Слухаем вас, Ала Пятроўна.

— Ваш сын не напісаў дыктант,— сказала Ала Пятроўна.

— Ведаем, ведаем. Ігарок казаў, вы хутка дыктавалі.

— Можа, і так, не будзем удакладняць,— здавалася, пагадзілася настаўніца.— Але ён наогул не пісаў. Пагля-дзіце, чым займаўся на ўроку,— і яна разгарнула сшытак якраз там, дзе замест дыктанта была намалявана востраносая галава сабакі.

— Евачка! — нечакана радасна закрычаў гаспадар, убачыўшы малюнак.— Ідзі паглядзі. Выліты Маргончык. Хутчэй жа!..

Ева, нагнуўшыся над сшыткам, завохкала, заахкала, радасна паглядваючы маленькімі вочкамі то на мужа, то на настаўніцу.

— Ала Пятроўна,— папрасіў гаспадар настаўніцу.— Падарыце нам гэты малюнак, калі, вядома, можна. Мы збіраем партрэты сабак. Сабралася вялікая калекцыя. Паказаць?

— Дзякую, дзякую! Другім разам. Я спецыяльна зайду,— паабяцала настаўніца.— Лепей пагаворым, чаму ваш сын дрэнна вучыцца. Хлопчык здольны. Я паглядзела, яму няма дзе вучыць урокі.

— Што вы, што вы! — запела Ева.— Як няма дзе? Асобны пакой, асобны стол...

— Мы яму аддалі залу,— перапыніў жонку гаспадар.— Тут цэлы дзень нікога. Тэлевізар? Тэлевізар вось зараз уключаны. Скажыце, ён не дае гаварыць? Не. Мы нават не чуем яго. Дома бібліятэка. Чытай, калі ласка... Вядома, Мапасана яму не даю, а так... Абы ахвота. Марго завялі, каб вучыўся любіць усё жывое. Праўда, з пугай ля яго не стаім. Хай вучыцца адказваць за сябе.

— Няўжо вас не хвалюе, што ён дрэнна вучыцца? — настаўніца ледзь стрымлівалася, каб не абурыцца.— Ваш бацькоўскі абавязак...

— Прабачце, Ала Пятроўна,— не цярпелася гаспадару выказацца.— Вы, спадзяюся, акрамя мовы і літаратуры вучылі эканоміку, гісторыю. І, відаць, маеце нейкае ўяўленне пра грамадскі падзел працы. Якія нашы абавязкі перад грамадствам? Абавязкі рабочага класа? Стаяць ля станкоў, зарабляць грошы. Адзяваць, карміць дзяцей. Ваш абавязак — іх вучыць. Грамадства даручыла вам гэтую святую працу. Цяпер, уявіце, наш завод не спраўляецца з планам. Значыцца, дзесяткі заводаў недапалучаць нашы вырабы, не справяцца са сваімі заданнямі, а з-за іх, у сваю чаргу, сотні, тысячы заводаў забуксуюць. Мы, усведамляючы гэта, што робім? Застаёмся пасля работы. Працуем у суботу. Выконваем свой рабочы абавязак. І правільна. Не можаш справіцца ў рабочы час, рабі пасля работы. Але зрабі! Так і вы... Не можаце навучыць іх на ўроках, вучыце пасля ўрокаў. А як жа? Грамадства не павінна цярпець з-за таго, што нехта з нас не ўмее працаваць.

Ала Пятроўна разумела, што яны з гаспадаром размаўляюць на розных мовах, таму няма ніякага сэнсу з ім зараз спрачацца. Яго трэба запрасіць у школу на педагагічны савет ці бацькоўскі камітэт і пагутарыць там.

— Ну добра,— паднялася настаўніца.

— Куды вы? Пасядзім за самаварчыкам, пагаворым, паспрачаемся. Ведаеце, як часам хочацца паразважаць з адукаваным чалавекам. А то, акрамя распараджэнняў, загадаў, нічога не чуеш. А часам паспрачацца, паразважаць хочацца. Калі ласка, Ала Пятроўна, не адмаўляйцеся,— і нечакана пагрозліва крыкнуў у дзверы жонцы: — Што ты там куёўдзішся?

— Дзякую! — адмовілася Ала Пятроўна.

— Ала Пятроўна, Ала Пятроўна, куды ж вы? — засла-

ніла сабой дзверы гаспадыня.— Каб вы ведалі, які ў нас чай. Такі ніколі ў магазіне не купіце.

— Другім разам, другім разам,— паабяцала Ала Пятроўна.— Я абавязкова зайду да вас. Выберу вольны вечарок і зайду,— і не стрымалася, каб не ўпікнуць гаспадароў: — А то цяжка гаварыць пры ўключаным тэлевізары.

— Я заглушу яго зараз жа. Суседа паклічу. Во дзе цікавы чалавек. Разам пасядзім... Можа, па чарачцы зробім за нашу даўгавечную тэхніку. Ала Пятроўна, глядзіце, я выключаю тэлевізар...

— Не, дзякую, я пайшла,— выходзячы з пакоя, яшчэ раз глянула на Ігара, які ўвесь час сядзеў на канапе, звесіўшы галаву. Праводзіў ён яе сумным позіркам, відаць, болей за ўсіх хацеў, каб яна засталася.— Глядзіце, не празявайце з-за сабакі сына.

На гэтай жа вуліцы, толькі на другім яе канцы, у драўляным двухпавярховым доме на першым паверсе жыў Юра Шагун.

Адчыніў ёй сам Юра. Які час стаяў моўчкі, разглядаючы настаўніцу, аслупянеўшы, відаць, ад нечаканасці. Ён быў у бруднай майцы, вылінялых сініх штанах, басаногі:

— Можа, запрасіў бы зайсці, Юра?

— Заходзьце,— ледзь не шэптам сказаў хлопчык, прапусціў яе ў пакой.

— Дома хто ёсць? — спытала ціха настаўніца, зразумеўшы, што не без прычыны гаворыць вучань ціха, аглядзелася. У цеснай пярэдняй, заста́ўленай нейкімі скрынкамі, з аблезлай, даўно нефарбаванай падлогай моцна пахла мандарынамі.

— Мама. Але яна спіць. Сёння раніцай прыехала з рэйса. Яна заўсёды, як прыедзе з рэйса, багата спіць. Дзень і ноч...

— А хто яна ў цябе?

— Правадніца. Тры дні ў рэйсе, потым — дома...

— Хто там? — раптам пачуўся буркатлівы жаночы голас.— Калі Доўгі, не пускай. Гані, каб і духу яго не было тут.

— Не, не Доўгі,— крыкнуў Юра і запытальна паглядзеў на настаўніцу, не ведаючы, гаварыць пра яе маці ці не.

— А хто такі Доўгі? — шэптам спытала настаўніца. Яна таксама не ведала, як сабе паводзіць далей, развітацца і пайсці ці паспрабаваць пагаварыць з маці вучня.

— Тут адзін... Забірае ў мамы мяшкі з бутэлькамі, калі яна вяртаецца з рэйса. А сёння раніцай прынёс мала грошай, сказаў, што ўпусціў бутэлькі і яны пабіліся. Мама выгнала яго, сказала, каб болей не прыходзіў.

— Няхай адпачывае,— па-змоўніцку сказала настаўніца.— Ты хоць пакажы, дзе вучыш урокі.

— Тут,— ён на цыпачках падышоў да дзвярэй у залу, прыадчыніў іх.— За гэтым сталом. У нас адзін стол. Ядзім на кухні, гэта сёння толькі...

На круглым стале з тоўстымі выгінастымі ножкамі, засланым стракатай цыратай, стаялі талеркі, шклянкі, распачатая бутэлька піва, жаўцела шалупінне ад мандарынаў. На другім краі стала ляжалі стосікам кнігі, разгорнуты сшытак. На падлозе — раскрыты школьны партфель.

— Павучыў урокі?

— Не ўсе. Памыю пасуду, давучу.

— А хто табе гатуе, калі мама ў ад'ездзе?

— Ніхто. Яна наварыць, мне хапае. Чаю нагрэю, калі бульбы ў духоўцы напяку.

Ала Пятроўна яшчэ раз зазірнула ў залу. Цяпер яна паспела ўбачыць, што на стале стаялі крыштальныя чарачкі, са столі звісала грувасткая люстра з празрыстымі вісюлькамі. На спінцы крэсла вісела расшытая на полах каляровымі ніткамі аўчынная душагрэйка. На падлозе стракацеў дыван. Яна мелькам зірнула і на вешалку ў пярэдняй, шукаючы вачыма мужчынскае адзенне. Тут вісела жаночае паліто ў стракатую клетку, шэрая пуховая хустка і куртачка Юры з рукавамі ў гармонік.

— А ваш бацька дзе?

— Не ведаю. Маці не любіць, калі пытаюся. Ала Пятроўна, можа, разбуджу яе? Выспіцца — ноч наперадзе.

— Не трэба, Юра. Хай заўтра яна загляне ў школу. Добра?

— Ыгы.

Ала Пятроўна разумела, што маці з-за доўгіх адлучак не зможа прасачыць за сынам. І таму не ведае, як і з кім праводзіць час Юра, калі застаецца дома адзін. Можа, збіраюцца сябры і без кантролю дарослых займаюцца абы-чым, толькі не вучобай. Заглянуць бы сюды, калі маці будзе ў ад'ездзе, пацікавіцца, што ён робіць адзін, без яе.

— Ну добра, Юра. Я пайду. А ты вучы ўрокі, заўтра выклічу. Каб адказаў добра. Маці прыйдзе, а ў цябе ў журнале — пяцёрка. Ёй радасць. Дамовіліся?

— Ыгы,— кіўнуў кудлатай галавой Юра, засвяціўшыся даверлівай дзіцячай усмешкай.

На вуліцы звечарэла. Зрэдку на слупах блішчэлі чырвоным лямпачкі.

Ва ўсіх вокнах новага пяціпавярховага дома, у якім жыў Васіль Журавель, ярка гарэла святло, і сам дом нечым нагадваў велічны карабель сярод прысадзістых драўляных дамкоў, густа абсаджаных дрэвамі.

У пад'ездзе моцны пах смажанай рыбы. Недзе спявалі ў некалькі галасоў. Вёў песню хрыплаваты моцны барытон дарослага, яго падтрымлівалі кволыя дзіцячыя галасы. Чуўся піскпявы смех жанчын.

Спявалі ці ў той кватэры, якая трэба была настаўніцы, ці ў суседняй, нельга было разабраць. Яна націснула на кнопку званка, патрымаўшы палец крыху даўжэй, чым трэба было. Дзверы адчыніла чырванашчокая пульхная бландзінка ў ружовым плацці і белым кухонным фартушку. У руцэ трымала доўгі сталовы нож, відаць, толькі што рэзала ім хлеб.

— Тут жыве Васіль Журавель? — спыталася яна, шкадуючы, што наогул заглянула сюды.

— Тут, тут. А вы?.. Прабачце...

— Я класны кіраўнік. Вы маці?

— Не, цётка,— і крыкнула некуды праз плячо, азірнуўшыся: — Вася! Твая ўчыцелька прыйшла. Ідзі сустракай!

Раптам за спіною жанчыны вырас высокі чарнявы мужчына, з наліпшымі на спацелым ілбе пасмамі валасоў, у белай кашулі, пад блакітным, крыху адпушчаным гальштуку. Ён увесь аж свяціўся радасцю. Вочы блішчэлі, ззяла бяздумна-п'янаватая ўсмешка.

— Заходзьце, заходзьце. І не думайце адмаўляцца. Ваш плашчык прашу, сумачку... Вось так,— ён памог ёй распрануцца, узяў настаўніцу пад руку.— Раз заглянулі, то будзеце самай дарагой госцяй. Прашу, прашу...

— Ой, што вы,— няўмела адмаўлялася настаўніца.— Я зайшла спытацца, чаго вашага сына не было ў школе...

— Канешне, не было. Вы ведаеце, што сёння за дзень? Сёння дзень майго нараджэння. Сёння я гуляю, жонка гуляе, дзеці гуляюць... У бацькі свята — свята ў сям'і! А як жа? Прашу, прашу,— ён правёў яе ў залу, усадзіў на вольнае месца. Жанчына ў ружовым плацці паставіла перад ёй чыстую талерачку. Другая жанчына ў кудлатым белым

парыку і ў зялёным плацці, відаць, жонка гаспадара, нассоўвала з вялікіх талерак закусі, гаспадар наліў у чарку віна.— Я разумею, што вы зайшлі, каб даведацца, чаму мае дзеці не былі ў школе. Але абяцаю вам, ніякай гаворкі не будзе, пакуль не возьмеце грамульку за мой дзень нараджэння. І не думайце адмаўляцца. Нічога не выйдзе. Вася! — раптам звярнуўся да хлапчука, што насуплены сядзеў тут жа за сталом насупроць бацькі.— Як тваю настаўніцу завуць? Ага, Ала Пятроўна. Ала Пятроўна, у мяне адмаўляцца нельга. Прапануй я чарку любому жыхару нашага дома — ды што дома? — усяго горада, ніхто не адмовіцца. Мяне ўсе ведаюць...

— Што ты разгаварыўся? — раптам накінулася на яго жанчына ў зялёным.— Запрасіў чалавека, дык не мялі языком, як тым памялом.

— Пардон, мадам,— раскланяўся гаспадар перад жанчынай.— Прашу, Ала Пятроўна! За мае сорак пяць! Толькі багата гадоў не жадайце. Хіба яшчэ столькі. І то толькі таму, што ведаю, як трэба я народу.

— За ваша здароўе! — прыгубіла чарачку Ала Пятроўна.

— Ясна,— прытворна ўздыхнуў гаспадар.— Небагата ж вы жадаеце мне здароўя.

— Што ты прыстаў? — зноў умяшалася жанчына ў зялёным.— Чалавек на службе. Можа, яшчэ да каго трэба пайсці...

— Пардон, Ала Пятроўна. Асечка. Забыўся,— загаварыў прабачліва гаспадар.— Тады так, раз вы на службе, пагаворым пра справу, потым прадоўжым. Дык што там натварылі мае жэўжыкі? — ён паставіў убок сваю чарку, адсунуў ад сябе далей талерку, падпёр падбародак рукамі, змаршчыніў ад напружанай увагі лоб.— Слухаю, Ала Пятроўна.

— Я вучу толькі аднаго вашага сына, Васіля,— сказала настаўніца.

— Астатнім жэўжыкам, значыцца, павязло,— падміргнуў бацька двум хлопчыкам, меншым за Васіля, якія таксама сядзелі тут жа за сталом.— Пардон, Ала Пятроўна, што перапыніў...

— Ваш сын дрэнна напісаў дыктант. Сёння на ўроку аналізавалі памылкі, а яго не было.

— Канешне. Я сёння пакінуў іх дома. Не яны вінаваты, і нават не я, а мае бацькі, што мяне ў гэты дзень нарадзілі...

— Пасаромеўся б дзяцей,— упікнула яго жанчына ў зялёным.

— Чаму мне саромецца? Жыццё ёсць жыццё. Хай сыны ведаюць, якое яно. Не казачкі ўсялякія там, а жыццё. Прабачце, Ала Пятроўна, мы часта спрачаемся з жонкай наконт выхавання дзяцей. У нас з ёй розны падыход да гэтай праблемы. Яна б іх, каб магла, загарнула б у паперу з-пад цукерак і карміла б адным шакаладам. Каб ім, значыцца, салодзенька было. Я не... Капуста, перац, гарчыца, шматок сала... Вы, Ала Пятроўна, бачу, асуджаеце мяне, што мае дзеці сядзяць разам з дарослымі за сталом. Перад імі шклянкі. Можа, думаеце, у тых шклянках віно? Ні ў якім разе. Кампот, ліманад... Усё роўна асуджаеце? Па вачах бачу, Ала Пятроўна, асуджаеце. Маўляў, дзеці захочуць пераняць. Ніколі! Ведаеце чаму? У нас не п'юць. Ніколі. Толькі на дзень нараджэння. На мой. І то, як кажуць культурныя людзі, сімвалічна. Мая жонка свайго дня нараджэння не спраўляе. Да трыццаці год спраўляла, а цяпер не. Каб людзі не ведалі, колькі ёй год. А я спраўляў і буду спраўляць, пакуль жывы. З усімі разам. З жонкай, сёстрамі, братамі, дзецьмі, унукамі, калі будуць. Якое ж свята без дзяцей? Мне такое свята не трэба. Няхай вучацца сямейнаму жыццю жэўжыкі. У школе гэтаму не вучаць. А без сям'і чалавек — не чалавек. Вось чаму мае жэўжыкі сёння са мной, Ала Пятроўна. Мы ж пагаворым, патанцуем, паспяваем. Адным словам, дружба. Калі ж яшчэ такое можа быць? Ніколі. Мы ж вельмі занятыя. А піць яны ў мяне не будуць. А які пачне, з дому выганю. Чуеце, жэўжыкі?.. Я наконт гэтага строгі. Я, Ала Пятроўна, выгляд зрабіў, што пакрыўдзіўся, калі вы толькі прыгубілі, не сталі піць... Ведаеце, яшчэ ні адзін п'яніца не заказаў касцюм у нашым атэлье. Для п'яніцы няма прыгажосці. У іх у другі бок вочы глядзяць. І закройшчык, калі пачынае піць, ён ужо не закройшчык, да яго не ідуць людзі...

— Зноў разгаварыўся? — перапыніла яго жанчына ў зялёным.— Чалавек па дзелу прыйшоў, а ты?..

— Я па дзелу... Скажыце, хіба не па дзелу, Ала Пятроўна? Пра выхаванне дзяцей. Дык вось, Ала Пятроўна, з-за мяне яны не былі ў школе. Я і сваіму дырэктару сказаў, што мяне сёння не будзе, каб не шукалі. Хай хоць міністр едзе. Мае права бацька хоць адзін дзень пабыць з сынамі? Як вы, Ала Пятроўна?

Настаўніца шкадавала, што зайшла сюды. Толькі час згубіла.

— Давайце пагаворым пра вучобу сына, раз зайшла. Пра дыктант...

— Ведаеце, Ала Пятроўна, мяне не турбуе дыктант, урэшце, мяне не вельмі турбуе і яго вучоба. Школьную навуку адолець можа кожны дурань, абы штаноў не шкадаваў. Мяне турбуе адно — каб мае сыны не аказаліся ў жыцці дурнямі.

— Вы менеи слухайце яго, болей закусвайце,— папрасіла настаўніцу жанчына ў зялёным.

— Канешне, канешне, Ала Пятроўна, вы слухайце, але пра закусь не забывайце. Гэтага лешчыка вазьміце. Зусім свежанькі, халера. Учора з Дняпра. А гэта парасяцінка. Адзін старшыня завёз. Закусвайце, на нас не глядзіце, мы даўно за сталом... Дык вось, Ала Пятроўна, я гавару за жызню... А яна, жызня, штуковіна вельмі складаная... Глядзіш, часам вучоны чалавек, а жыве — лепей так не жыць. А другі бязграматны ў масле купаецца. Канешне, станкі, механізмы ўсялякія, але трэба і рыдлёўка. Трэба людзі, каб рабілі гэтымі рыдлёўкамі... Вось чаму я не цісну на хлопцаў. Хай вучацца як умеюць. Галоўнае, каб спецыяльнасць набылі. Вы скажыце, Ала Пятроўна, кім лепей быць. Дамскім закройшчыкам ці міністрам?

Ала Пятроўна толькі засмяялася.

— Думаеце, канешне, міністрам,— хітравата паглядваў на настаўніцу гаспадар.— Не спяшайцеся. Скажу вам, Ала Пятроўна, прафесія ні пры чым. Галоўнае, які чалавек. Кожная разумная жанчына скажа: лепей быць непітушчым дамскім закройшчыкам, чым пітушчым міністрам. Ні адна жонка не хоча мець мужа п'яніцу. Што такое цвярозы дамскі закройшчык? Перш за ўсё вельмі рэдкі чалавек. Вы заказалі ў мяне касцюм. Ён удаўся. Бывае, што не ўдаецца. Але рэдка. Вы жанчына. Радуецеся. Мужчына ў такіх выпадках што робіць? Запрашае ў піўны бар. Жанчына ў бар не запросіць, а аддзячыць хочацца. У маёй рабочай куртачцы на грудзях заўсёды кішэнька адтапыраная. Разумееце?.. І ў кішэньку таго... Хе-хе... Калі яшчэ ўлічыць, што не п'ю, то самі разумееце... Уяўляеце, якая надбаўка да сямейнага бюджэту? Потым мяне ўсе ведаюць. На нарадах запрашаюць у прэзідыумы. Павага ад вобшчаства. Вы ведаеце, што ў вёсцы ўсе з усімі здароваюцца, а ў горадзе не? Са мной у горадзе ўсе здарова-

юцца,— і весела засмяяўся.— Мая благаверная злуецца. Бабы са мной здароваюцца, ды якія! Прыгожыя! Прызнанне народа. Такога дабіцца цяжэй, чым дыктовачкі пісаць. Я ніколі не ўмеў іх пісаць. З-за іх не вучыўся далей. Восем класаў закончыў і ў рамеснае... Вось так. Але гэта не значыць, што я ад дзяцей не патрабую. Патрабую! Яшчэ як! Толькі памагчы не заўсёды ўмею. Не разумею іксоў, ігрыкаў... Ну, Ала Пятроўна, давайце за вашы поспехі! Настаўнікі вельмі патрэбныя людзі. Як і закройшчыкі. Мы толькі кроім адзежу, а вы гэтым жэўжыкам — душы. Гэта вялі-і-ікая работа! За гэту работу, Ала Пятроўна!

Ала Пятроўна доўга не затрымалася ў імянінніка. Сказаўшы, што ёй яшчэ трэба зайсці да некаторых вучняў, паднялася з-за стала, развіталася, не дазволіўшы дамскаму закроўшчыку праводзіць сябе, хоць той рашуча пачаў апранацца. Ды, здаецца, і жонка яго ўтрымала.

За пяціпавярховым домам, у якім жыў Васіль Журавель, праз стары сад, які, відаць, застаўся ад былой прыватнай сядзібы, стаяў яшчэ адзін пяцівярховік. Паўз яго і скіравала настаўніца на бліжэйшую вуліцу. Ля першага пад'езда яна нечакана сутыкнулася са сваім вучнем Іванам Мустафаевым. У спартыўным трыко і ў кедах ён бег з белым пластмасавым вядзёркам. Відаць, толькі што аднёс смецце. У вечаровай шэрані яна не заўважыла б хлопчыка, каб ён сам першы не павітаўся з ёй:

— Добры вечар, Ала Пятроўна!

— А-а? Іван. Ты тут жывеш?

— Тут.

Жывы, чарнявы, з цыганскімі вачыма, Іван быў самы лепшы вучань у класе. Вучыўся амаль на адны пяцёркі. Праўда, дыктант напісаў на чацвёрку. Цікава, у якіх умовах жыве гэты хлапчына? І як кантралююць яго вучобу бацькі? Цікава б даведацца.

— Хто ў вас дома, Іван?

— Мы і бацька. Мама на другой змене.

— Зайсці можна?

— Калі ласка, Ала Пятроўна. Толькі ў нас такі ералаш...

Ала Пятроўна спынілася ў парозе. У калідоры грувасціліся крэслы, скручаны ў трубку дыван. Праз адчыненыя ў пакой дзверы быў відаць вялікі круглы стол на цяжкіх ножках. На стале ляжалі раскрытыя кнігі, сшыткі. Відаць, дзеці вучылі ўрокі, ды недавучылі. Малы карапуз у адной доўгай майцы вялікай анучай коўзаў па пад-

лозе — мыў. На кухні нешта цвірчэла і булькала. Пахла падсмажанай цыбуляй.

Іван знік на кухні, і адразу адтуль выйшаў невысокі чарнавусы смуглявы мужчына, на хаду здымаючы праз шыю доўгі каляны пярэднік.

— Пройдземце, Ала Пятроўна, у нашы апартаменты,— ён шырэй адчыніў дзверы перад ёй, сказаў маломý, каб аднёс анучу. Той, прыціскаючы яе да жывата, выйшаў. Гаспадар прынёс з калідора крэслы, паставіў ля стала, запрасіў настаўніцу сесці.

Пакой быў невялікі, цесна застаўлены мэбляй. Паўз дзве бакавыя сцяны стаялі драўляныя ложкі. На адным з іх ляжалі дзве раскладушкі. За ложкам у кутку прыляпіўся невялічкі буфет.

— Вы прабачце, Ала Пятроўна, за беспарадак... Гэта ж прыйшоў з работы, а хлопцы сядзяць з кніжкамі. Кватэру не ўбралі. Я і аб'явіў трывогу. Адзін падмятаў, другі мыў, трэці бульбу абіраў. На вячэру дранікі робім. Мая Ліда іх любіць. Вось і надумалі парадаваць яе. Эй, джыгіты, дзе вы пахаваліся? — крыкнуў гаспадар.— Ідзіце сюды!

Хлопцы тоўпіліся ў дзвярах, хаваючыся адзін за аднаго. Толькі самы меншы выйшаў уперад, выставіўшы мокрую майку на жываце.

— Вось якія яны, мае джыгіты. Іван, Алесь, Павел, Андрэйка. Мы з жонкай дамовіліся,— імёны беларускія, а прозвішча маё. Мустафаевы! Вось што, джыгіты, запомніце настаўніцу. Каб пры сустрэчы віталіся і кланяліся. Ну ўсё, ідзіце на кухню, канчайце там. Ты, Іван, паглядвай, каб дранікі не падгаралі.— Калі хлопцы выйшлі, Мустафаеў усміхнуўся.— Вось так і жывём. Я вас, Ала Пятроўна, зараз пачастую чаем. Сапраўдным чаем. Усё ў вас добра, а чай не вельмі...

— Ой, дзякую,— пачала адмаўляцца Ала Пятроўна.— Я толькі зайшла паглядзець, як вы тут жывяце.

— Цудоўна жывём. Я калі прыехаў на нафтапромысел, мне далі гэты пакой. Потым прывёў сваю Ліду, а потым... Ліда часта кажа, што цесна, а мне падабаецца, што ўсе ў адным пакоі. Усе на вачах. Бачыш, хто раскрыўся ці няёмка ляжыць. У нас адна праблема. Мае джыгіты не любяць спаць на ложку, хочуць на раскладушцы. Раскладушкі толькі дзве, болей не паставіш. Я ім чаргу ўстанавіў...

— Вучыцца як памагаеце дзецям?

— Што вы? Як я магу памагаць? Я шэсць класаў маю, а Іван у сёмым. Ён бацьку навучыць. Ён і правярае ўрокі ў меншых, а ўвечары дакладвае нам з жонкай, як хто падрыхтаваўся да заняткаў... Вы прабачце мне, я зараз чайнік...

— Дзякую вам, я...— паднялася Ала Пятроўна.

— Ала Пятроўна, не трэба мяне крыўдзіць. Я вас пачастую сапраўдным чаем. Калі спадабаецца, дам рэцэпт, і вы будзеце піць сапраўдны чай. Вы ж не ведаеце, што такое сапраўдны чай. Хіба можна жыць на свеце і не ведаць гэтага? Хвілiначку, Ала Пятроўна, я зараз,— ён яшчэ пастаяў у дзвярах і толькі тады, калі ўбачыў, што настаўніца зноў села, выйшаў на кухню.

Калі Ала Пятроўна вярталася дамоў, над гарадком вісела зорная ноч. Думалася, што яна зрабіла сёння, чаго дабілася, пра што даведалася. Паглядзела, як жывуць вучні. Нечакана адкрыла, што жыццё кожнай сям'і мае свой пах. У адных псінай пахне, у другіх мандарынамі, смажаным лешчыкам ці цыбуляй... Але калі сур'ёзна падсумаваць зробленае, то радавацца нечаму. З бацькам Ігара Калінава не паспрачалася. Варта было б застацца, паслухаць болей гаспадара, самой выказацца. Можа, удалося б пахіснуць яго перакананні, самаўпэўненасць. Маці Юры Шагуна не адважылася разбудзіць. Таксама трэба было. Нічога, выспалася б яшчэ. Цяпер яшчэ раз ідзі да яе, калі сама ў школу не прыйдзе. Не, усё ж не хапае ёй, Але Пятроўне, цвёрдасці характара. У дамскага закройшчыка дык і зусім разгубілася. Можна ж было з ім выйсці ў суседні пакой, пагаварыць сур'ёзна. Не такі ён п'яны быў, каб нельга было пагаварыць з ім. Дык сама за стол уселася... Добра, што зайшла да Мустафаева. Трэба папрасіць мужа, каб знайшлі для яго кватэру. А то пра планы думаюць, а пра людзей, якія тыя планы выконваюць, няма калі падумаць.

Ала Пятроўна ішла і думала, як наладзіць, арганізаваць сваю работу так, каб пабыць у сваіх вучняў, і не адзін раз. Эх, каб часу болей было! Яго так мала. Ці, можа, яна занадта патрабуе ад сябе?

Над прыціхлым гарадком над яе галавой зіхацелі буйныя, такія блізкія і недасягальныя зоркі...

## 13

Алесіч спадзяваўся, што Каця хутка вернецца. Не магла ж яна знікнуць надоўга. Але мінуў амаль тыдзень, а яе не было. Алесіч не вытрываў і аднойчы спытаў пра яе ў майстра, зайшоўшы да яго ў вагончык.

— Яна не вернецца,— дапытліва паглядзеў Рослік на Алесіча і дадаў: — Звольнілася.

— Куды паехала?

— Не сказала,— адказаў майстар.

Алесіч выйшаў з вагончыка. Спыніўся. Трэба нешта рабіць. А што? Пакуль пра гэтае «што» не меў ніякага ўяўлення. Ясна было адно, трэба найхутчэй даведацца пра Кацю. А ці варта? Яна ж не сказала яму пра свой ад'езд. Можа, не было як? Каб захацела, знайшла б магчымасць. Магла прыйсці на буравую, паклікаць яго ці запіску пакінуць. У канверт — і яму на стол. Ці праз кухара перадала б. Не перадала. Чаму? Пакрыўдзілася? З-за чаго? Можа, ён для яе ніхто, пустое месца? Выпадковы знаёмы, якіх у яе было і будзе нямала? Гэта ж ён уявіў чортведама што, а яна... Можа, заўважыла, што сохне па ёй, вось і знікла. Пашкадавала... Усяляк можа быць. Можна прыдумаць сотні прычын, а пра сапраўдную не здагадацца. Але як бы там ні было, а ён павінен ведаць праўду. Для гэтага трэба знайсці Кацю. Як? Дзе?.. А навошта яе шукаць? Яна так жорстка, так бязлітасна абышлася з ім. Абнадзеіла і... знікла. Пажартавала! Манюка і прытворшчыца... Але столькі шчырасці было ў яе словах, позірку, усмешцы. Калі сапраўды была шчырая, не паехала б, не ўбачыўшы яго. Відаць, пад настрой раскрыла душу, а цяпер няёмка за сваю шчырасць, вось і збегла. А можа, прыехаў той штангіст і звёз? Можа, яны памірыліся? Пабыла трохі без мужыка, зразумела, што без яго не вельмі, вось і вярнулася. Здаецца, у той дзень ніякай машыны ля буравой не было, хоць ён мог і не бачыць. Сядзеў на сваёй верхатуры, а там не вельмі пазыркаеш.

Алесічу не хацелася ні з кім бачыцца, гаварыць у гэты дзень. Яму не хацелася, каб лезлі з роспытамі: чаму сумны, можа, занядужаў?..

І хоць да пад'ёму труб быў час, ён залез у сваю люльку, прысеў, схаваўшыся за борцікамі ад ветру, ад людскіх вачэй і... заплакаў. Слёзы цяклі па твары, астываючы на асенняй прахалодзе. Адчуваў, як казычуць яны халадком шчокі, шыю. Першы прыступ адчаю, крыўды, жалю

самога да сябе мінуў, але душэўная раўнавага, супакоенасць не наступілі. З'явілася абыякавасць да ўсяго. Нават да работы, да той работы, у якой ён заўсёды знаходзіў супакаенне.

Праз гул дызелей пачулася, нібы нехта клікае яго. Падняўся, глянуў уніз. Майстар махаў яму рукой, каб падрыхтаваўся: збіраліся падымаць трубы.

Хоць Алесіч працаваў, як і заўсёды, старанна, нават, можа, з большым стараннем, але работа не захапіла яго, не памагла адолець свой настрой. Праўда, панываласць знікла, не было адчування той пякучай крыўды, якая зусім нядаўна пранізвала яго, але затое была болей ясная, болей устойлівая абыякавасць да работы, да ўсяго навокал. «Навошта я тут, і, наогул, навошта ўсё гэта?» — такая думка, а больш дакладней, такое адчуванне не пакідала яго, калі ён працаваў, і потым, калі скончылася работа і можна было спускацца ўніз. Ён яшчэ доўга стаяў, прыхінуўшыся спіной да борціка, адчуваючы, як моцна стаміўся. Каб можна было прылегчы тут, ён уладкаваўся б у люльцы і на спачын.

— Эй! — зноў пачуўся крык майстра.

Калі Алесіч спусціўся, Рослік сказаў яму:

— Хацеў падымацца да вас. Што з вамі? Не захварэлі?

— Не,— нават не глянуў Алесіч на майстра, кіруючыся да раздзявалкі.

У гэты вечар яму доўга не спалася. Ён ляжаў, падклаўшы рукі пад галаву, глядзеў у цемру, не прыслухоўваючыся да таго, што гаварылі таварышы, пра што спрачаліся, што расказвалі. Яго нават не турбавала тое, што не хочацца спаць.

Раніцай, выйшаўшы з вагончыка, спыніўся, уражаны бясколернасцю, шэрасцю ўсяго наваколля. Як гэта ён не бачыў раней, якая тут сумная мясціна? Больш сумную і ўявіць немагчыма. Шэрыя палі, з рэдкімі, пахмурнымі і нейкімі сіратлівымі пералескамі. Дробны гаёк ля шашы з некалькімі старымі дрэвамі, пакалечанымі вятрамі і часам. Груды труб і іншага жалеззя сваёй змярцвеласцю дапаўнялі панываласць пейзажа. І самі вагончыкі з маленькімі вокнамі, з аблезлай сіняй фарбай, здаліся пакінутымі, утаптанымі ў гразкую зямлю. Тонкі дымок, які вывальваецца з іржавай тонкай трубы над харчпунктам, яшчэ болей падкрэсліваў гэтую пакінутасць, сіратлівасць.

Цяперашні настрой вельмі нагадваў той, які ахапіў

Алесіча пасля таго, як яго не пусціла Вера і ён мусіў паехаць у вёску. Але тады ў яго душы была абыякавасць да ўсяго свету, да самога жыцця. Цяпер ягоная абыякавасць была скіравана толькі да гэтага лапіка зямлі, дзе ён працаваў і жыў, дзе цяпер не было Каці Юркавец. Але не знікла ж яна з зямной паверхні? Недзе ж ёсць. Яе можна знайсці, болей таго, яе неабходна знайсці. І неадкладна. Бо з такім настроем ні жыць, ні працаваць нельга.

Алесіч падаўся ў вагончык майстра.

Рослік сядзеў ля рацыі і, паглядваючы ў паперку, што ляжала перад ім, у некага патрабаваў, каб яму тэрмінова завезлі трубы, хімрэагенты, салярку, бо калі сёння не завязуць, ён вымушаны будзе спыніць работы на буравой... Кінуўшы тэлефонную трубку на рычагі, падхапіўся, убачыў Алесіча, паскардзіўся:

— Бачылі? Яны яшчэ там падумаюць... План давай, а як што для нас, дык яны яшчэ будуць думаць, маць іх такую... Навошта ж гоняць у каршэнь, калі рэсурсаў не хапае? Не разумею...— і спытаў у Алесіча рэзка, нецярпліва, з той жа ўзрушанасцю, з якой толькі што гаварыў па рацыі: — Вы да мяне?

— Да вас, Сцяпан Юр'евіч,— уздыхнуў Алесіч.

— Слухаю.

— Хачу звольніцца, Юр'евіч.

— Хе, надумаліся! — засмяяўся Рослік.— Праз некалькі дзён усе мы адсюль цю-цю... Вось-вось канчаем бурыць. Канешне, калі не завязуць нам сёння што трэба, пакукуем болей. І ўсе нашы старанні кату пад хвост.

— Я сёння хачу.

— А чаму раптам так?

— Трэба.

— Што здарылася?

— Нічога не здарылася.

— А калі не здарылася...

— Не трэба ўпрошваць. Не магу. Не хачу. Хіба гэтага мала? — Алесіч утаропіўся позіркам у падлогу, баючыся падняць вочы на майстра.

— Ха! Дзівак! Расчараваліся, не цікава... Хутка ж нафту атрымаем. Вы ж ніколі не бачылі, як яна пеніцца. Дзеля гэтага, каб пабачыць, людзі чортведама адкуль едуць. А вы... Колькі дзён тут засталося. Убачыце нафту, на ўсё жыццё застанецеся нафтавіком. А што?

— Не, Юр'евіч.

— Вы сапраўды? — Рослік не верыў ці рабіў толькі выгляд, што не верыць Алесічу.

— Не жартую. Ноч думаў.

— З якога чысла? — вярнуўся Рослік да стала, разгарнуў вахценны журнал, утаропіўся ў яго.

— Хоць зараз,— сказаў Алесіч.

— Пішыце заяву,— дастаў майстар з шуфлядкі стала ліст паперы.

Алесіч падышоў да стала, крыху прыгнуўшыся, напісаў заяву.

Рослік, відаць, усё ж не вельмі верыў у намер Алесіча, але, калі ўбачыў заяву, зразумеў, што Алесіч не жартуе. Ён яшчэ раз прачытаў яе, спрабуючы зморшчыніць свой круглы, як калена, лоб, пачухаў пальцам пад носам, нібы яго рэдкія вусы раптам рассвярбеліся, глянуў на Алесіча:

— Дарагі мой, так у сур'ёзных людзей не робіцца. Пра такое звычайна папярэджваюць.

— Я раней не ведаў...

— Праз пару гадзін пачнём падымаць свечкі, а ў мяне няма верхавога,— Рослік падняўся, прайшоўся па вагончыку, зноў сеў на сваё месца.— Не магу ж я вашага напарніка пасля начной змены прымусіць яшчэ стаяць змену. Што загадаеце рабіць?.. Вось што, Іван Андрэевіч, давайце так дамовімся. Трымаць вас сілай не збіраюся. Але... прашу пару дзён пабыць. Праз пару дзён знайду каго. Зразумейце, ніякай выкруткі. Новенькага ж адразу не паставіш. Самі бачыце, якая напружанасць. Без вопыту нельга. Вы чалавек сур'ёзны, думаю, вам гаварыць багата не трэба. Я прашу вас, пару дзён якіх. А? Я вось зараз і рэзалюцыю на заяве напішу, але праз два дні...

— Раз трэба, дык трэба,— пагадзіўся Алесіч.

Упэўненасць у тым, што ён праз два дні пакіне буравую і паедзе ў Зуеў шукаць Кацю, неяк супакоіла яго. Ведаў, што зараз нечага пакутаваць, лішняе думаць, трэба працаваць. І Алесіч працаваў. Можа, нават лепей, чым калі. Бо зараз для яго праца была не проста працай, а схованкай ад душэўнай неўладкаванасці, самотнасці. Нават тады, калі яму не трэба было стаяць у сваёй люльцы і падаваць ці лавіць свечкі, ён усё роўна не пакідаў буравую, не ішоў у вагончык адпачываць, як рабілі іншыя, не сядзеў на трубах з курцамі. Ён то завіхаўся ля дызеляў, правяраючы змазку, то корпаўся ля насосаў, падцягваў гайкі, то гадзінамі стаяў ля бурыльшчыка і прыглядаўся

да яго работы. Адзін раз нават папрасіўся патрымацца за рычаг замест яго. Прарабіў болей гадзіны. Бурыльшчык сказаў, што ён робіць як сапраўдны прафесіянал, параіў асабліва не затрымлівацца ў верхавых, хутчэй спускацца на зямлю, здаваць экзамен на бурыльшчыка.

У канцы другога дня, калі Алесіч, пераадзеўшыся ў бытоўцы, кіраваў у свой вагончык, яго перахапіў майстар.

— Хачу з вамі параіцца, Іван Андрэевіч,— завёў яго ў свой вагончык, запрасіў сесці, сам сеў насупраць, усміхнуўся: — Кажуць, у лесе апенек багата.

— А не рана?

— Гэ!.. Яны ў гэтым годзе ўлетку былі. Сам рэзаў. Аднойчы цэлы рукзак прынёс. Каця такі суп нафтавікам зварыла!.. Але я больш люблю зялёнкі. У тым ляску, што за шашой, іх увосень хоць касой касі. Мінулы год з жонкай цэлую выварку насалілі. Яны якраз пачнуцца, калі мы закончым бурыць... Вы любіце хадзіць у грыбы?

— Некалі хадзіў,— не разумеў Алесіч, куды хіліць майстар.

— Я адразу, як закончым бурыць, бяру адпачынак і ў грыбы. З-за іх кожную восень хаджу ў адпачынак. Мне не трэба ні мора, ні горы — грыбы! А якое паветра ў лесе! Чысціня, цішыня! Вы хоць і нядаўна ў нас, не зарабілі яшчэ адпачынак, але магу яго вам аформіць. Пажывеце ў маці, паходзіце ў грыбы. Свае справы вырашыце. Чакаць адпачынку нядоўга, можа, з тыдзень. Не болей. Праз месяц паедзем разам на новую буравую. Хіба дрэнная брыгада ў нас? З такімі малайцамі...

— Вы бачылі маю заяву? — спытаў Алесіч.

— Што заява? Заява — паперка... Я, Андрэевіч, сур'ёзна. Вы прыроджаны буравік. Я прыглядаўся да вас. Залатыя рукі. І галава. Не хочацца адпускаць вас. Чэсна. Вы не тое што ўмееце працаваць, вы працуеце так, што стаяў бы і любаваўся вамі. З захапленнем працуеце. Ды што гаварыць! Вы з першага дня пачалі рабіць так, нібы даўно на буравой. Я думаў прыставіць да бурыльшчыка, каб вучыліся новай спецыяльнасці, а тут вы з заявай... Не разумею. Тут у вас перспектыва! Вы не стары чалавек. Бурыльшчыкам станеце, потым майстрам. Праз пару гадоў, упэўнен. За гэты час я вас працушчу праз усе спецыяльнасці. Майстар — гэта не абы-што. Галоўная фігура. Чалавеку наша прафесія дае ўсё. Маральныя і матэрыяльныя радасці. У поўнай меры. Што яшчэ трэба?

Толькі не лянуйся, старайся. Чалавекам будзеце! Дзе вы яшчэ такое знойдзеце? А заробак? Вы ж багата дзе рабілі, самі гаварылі. Упэўнен, нідзе столькі не зараблялі, як тут. Так?

— Так,— уздыхнуў Алесіч.

— Потым яшчэ болей будзе. Нам ніхто не забараняе і па дзве нормы даваць. Толькі хваліць будуць. А з вашымі здольнасцямі... Увесь час вы бабылём не будзеце. А для сям'і добры заробак — гэта ўсё. Мая палавіна раней, калі быў радавым рабочым, часта бурчэла. А цяпер прыходжу дамоў, не ведае, дзе пасадзіць, як лепей накарміць. І сама распанела. На курсы шафёрскія бегае, легкавушку ёй купляй. Ходзіць задраўшы нос, як жонка міністра якога. Вось што такое майстар-буравік,— і нечакана залівіста па-хлапечы рассмяяўся.— Потым жа робім не ў дымным цэху, на свежым паветры. Паглядзі на нашых. Усе як Мурамцы. Здаровыя, чырванашчокія. Бледнатварых няма... Жарты жартачкамі, а калі гаварыць сур'ёзна, лепшай прафесіі за нашу няма і не будзе. Хіба не так, Андрэевіч?

— Ды так,— пагадзіўся Алесіч.

Рослік прыцэліўся на Алесіча прыжмуранымі вачыма, стараючыся здагадацца, што ў таго на душы.

— Можа, не перадаваць вашу заяву ў кантору? Затрымаць?

— Можна не перадаваць. Сам завязу.

— Я думаў, што пераканаў вас,— расчаравана сказаў Рослік.

— Пераканалі. Але застацца не магу.

— Вам грошы не трэба?

— Бывае, Юр'евіч, што нічога не трэба.

— Іван Андрэевіч, можна спытаць яшчэ?

— Калі ласка.

— Няўжо з-за яе? Ці варта яна вас? Вы не думалі?

Алесіч падняўся.

— Калі ў вас усё, я пайду? Заяву сам завязу. Заўтра буду ў канторы.

— Шкада, што мы не зразумелі адзін аднаго,— Рослік падаў Алесічу яго заяву.— Давайце, Андрэевіч, дамовімся так. Калі ў вас гэты туман ці насланнё, не ведаю, як сказаць, мінецца, буду рады, калі прыйдзеце да нас.

— Дзякую! — Алесіч развітаўся.

Атрымаўшы ва ўпраўленні буравых работ разлік, даведаўшыся ў аддзеле кадраў, што Каця сапраўды звольнілася, хоць яе і ўгаворвалі застацца, Алесіч выйшаў на

цэнтральную вуліцу гарадка. Ён ішоў па тратуары і пільна прыглядваўся да стрэчных жанчын. Стараўся разгледзець іх і на другім баку вуліцы. З таго самага моманту, як ён злез з вахценнага аўтобуса, прыехаўшы з буравой, яго не пакідала адчуванне, што Каця недзе тут, у гэтым горадзе, можа, нават зараз ідзе яму насустрач ці стаіць дзе на аўтобусным прыпынку. Гэтае адчуванне падмацоўвалася яшчэ і тым, што яму не хацелася нікуды ехаць адсюль: недарэмна ж у яго такі настрой! Алесіч не сумняваўся, што ён сустрэне Кацю, толькі б не размінуцца, не прагледзець яе ў натоўпе...

Ён прайшоў усе вуліцы, мінуў чыгуначны пераезд, за якім пачыналіся прыватныя домікі і дзе амаль не было прахожых, спыніўся. Што рабіць далей? Не хадзіць жа да самага вечара па вуліцах. Мінуў поўдзень, набліжаўся вечар...

Алесіч скіраваў назад. Яшчэ раз пранізаў цэнтральную вуліцу да самага універмага, потым доўга снаўдаўся ў шматлюдным універмагу па ўсіх трох яго паверхах і ўжо перад самым закрыццём, купіўшы маці цёплыя боты, вязаную кофту, з дзесятак метраў нейкай сіняй мацеры, падаўся на аўтобусны прыпынак. Спадзяваўся, што ў матчынай хаце само сабой прыдумаецца, як быць далей.

Ён сядзеў у мяккім крэсле ля акна, крыху з'ехаўшы ўніз, ледзь не па самыя вушы ўнурыўшыся ў каўнер плашча, зрэдку паглядваў праз спацелае шкло на панылыя палі, думаў пра Кацю, думаў спакайней, без ранейшага адчаю і ўзрушанасці, як звычайна і думаецца ў дарозе, бо ў дарозе ў чалавека заўсёды мацнее надзея,— ён жа рухаецца, не стаіць няўцешна на месцы. Ды і аднастайнае пакалыхванне, натужнае і роўнае гудзенне матора навявалі супакоенасць, дрымоту. Канешне, думаў ён, каб не расказаў Каці пра сябе, яна, можа б, і не ўцякла. А так пабаялася яшчэ раз уліпнуць. Першы раз муж папаўся раўнівы, а гэты — алкаш. Ці не замнога на адну жанчыну? І вось з'ехала, можа, нават не толькі з Зуева, а і з вобласці... Можа, паехала да бацькоў? Потым яшчэ вернецца? Не, каб ехала да бацькоў, сказала б яму... Відаць, усё ж збегла. Уцякла! Ну і няхай! Ён пажыве трохі ў маці, а потым таксама з'едзе куды... Можа, нават да Веры. А раптам апамяталася, шкадуе, што не пусціла. А калі зноў не пусціць? Не, лепей паедзе ён на якую будоўлю. У новым месцы, сярод новых людзей хутка выветрыцца з

галавы і Вера, і тым больш Каця. Наплыло нешта ад адзіноты, самотнасці, а ён уявіў чортведама што. Пройдзе час, і ўспамінаць пра яе перастане...

Калі Алесіч у прыцемках зайшоў у хату, маці сядзела на ўслончыку перад грубкай. Праз адчыненыя насцеж дзверцы водбліскі полымя падалі на хату, робячы вечаровую шэрань яшчэ болей згусцелай.

Маці павярнула галаву на стук дзвярэй, не заўважыла сына, зноў утаропіла позірк на ахопленыя полымем дровы. Старая была, як і заўсёды, у заношанай кофце і спадніцы, у чаравіках без шнуркоў, абутых басанож.

— Прастудзіцца захацела? — накінуўся на яе Алесіч.— Магла б якія панчохі надзець ці анучы накруціць... Можа, па вуліцы так ходзіш?

— Ой, сынок,— яна глядзела і не верыла сваім вачам. Паднялася, стаяла, бездапаможна муляла губамі, не знаходзячы патрэбных слоў.

— На, абувай,— кінуў ён да яе ног новыя боты.— Ну што глядзіш? Памерай. Раптам не падыдуць?

Параска прысела на ўслончык, разулася, абула новыя боты, недаверліва спытала:

— Мне такія?.. Хіба я ўседжу ў такіх? Я адразу ж збягу,— і ўсхліпнула.

— Ну што ты, мама? Здароў! — ён уключыў святло.— Што сядзіш у цемры? Як тут жывеш? Во яшчэ вазьмі! — ён кінуў на прыпол вязаную кофту, скрутак мацерыі.— Можа, што пашыеш сабе. Ну што замаркоцілася? — узяў старую расхітаную табурэтку, прысеў таксама ля грубкі. Даўняй абгарэлай качаргой, якую помніў яшчэ з дзяцінства, паправіў дровы, тыя абрушыліся, задымілі...

— Як ведала, што прыедзеш. Думаю, пастаўлю бульбы. Адна, дык палю грубку раз у тыдзень, а печ зусім не палю. Звару на «казе» якога крупніку. Ой, чым жа мне цябе частаваць?

— Як чым? — засмяяўся Алесіч, узрадаваны, што так уразіў маці сваім нечаканым прыездам і падарункамі.— Бульба варыцца? Варыцца. Гуркі ёсць? Ёсць! Сала ёсць? Ёсць. Што яшчэ трэба?

— Гэта ўсё ёсць, а вось да гэтага... І сельмаг зачынены. Каб жа знаццё...

— Таго, мама, не трэба. Забыў я тое. Назаўсёды. Хіба па мне не відаць? Што ты навешала на вочы слёз, як бобу? Паглядзі нармальнымі вачыма на сына! — ён дастаў з кішэні чыстую насоўку і выцер ёй пад вачыма.

— Ой, пабягу сальца ўнясу,— яна падхапілася, забыўшы пакінуць у хаце абновы, выскачыла з імі ў сенцы. Вярнулася, паклала падарункі на стол, узяла міску, зноў выйшла, потым зайшла са шматком сала, белым, як сыр, з місаю капусты і квашаных агуркоў...

Пасля вячэры, калі першае ўзрушэнне прайшло, яны сядзелі на табурэтках перад адчыненымі дзверцамі грубкі, глядзелі, як стухае чырвонае вуголле. Старая расказвала апошнія вясковыя навіны. Раптам яна паднялася, падышла да стала, пачала там нешта шукаць сярод старых зжаўцелых газет.

— Гэта ж забылася, сын. Табе пісьмо,— і яна падала яму канверт.

Алесіч па почырку здагадаўся, што пісала Вера.

«Прывітанне! Толькі не падумай, што я раптам вырашыла прасіць цябе вярнуцца. Гэтага ніколі не будзе, каб ты ведаў. Хопіць таго, што я аддала табе свае лепшыя маладыя гады. Дзе ж, такі прыгажун закружыў галаву дурной дзеўцы. Не сумела разабрацца, што ты за чалавек. А калі разабралася... Позна было. Але нічога, болей такой дурай не буду. Разумееш? Ніколі! У мяне рука не паднялася б цяпер пісаць, каб не сын. Позна я табе паказала на дзверы. Трэба было гэта зрабіць раней, калі ён быў меншы, каб не запомніў цябе. А то ўсё дапытваецца, калі вернешся са свайго лячэння. Часам не слухае мяне, капрызіць. Становіцца нервовым. Усё прыстае, дзе бацька. Ці не сказаў яму хто, што ты прыязджаў? Дык вось, дамовімся так. Я сказала яму, што ты пасля лячэння паехаў на работу ў нейкае сакрэтнае месца, папрацуеш гадоў пяць і вернешся. За пяць гадоў хлопец падрасце, паразумнее, тады яму і бацька не трэба будзе. А пакуль трэба. Ва ўсіх таварышаў ёсць бацькі, ён таксама хоча мець бацьку. Я неяк сказала, што прывяду новага, дык ні ў якую. Кажа, з дому збягу. У яго такі ж дурны характар, як і ў цябе. Не ведаю, што і рабіць. Ты яму прысылай пісьмы. Хоць адно ў месяц. Хай ведае, што бацька не забывае яго. Канешне, было б добра, каб ты прысылаў хоць зрэдку якую дзесятку. Але адкуль будуць у цябе тыя грошы, калі рот дзіравы. Пішы. Твае пісьмы супакояць яго, можа, памогуць яму стаць лепшым чалавекам, чым ты».

Алесіч скамечыў пісьмо, кінуў на вуголле. Папера пачарнела, расправілася, задыміла, усхапілася чырвоным полымем.

Паставіўшы рукі локцямі на калені, сціснуўшы дало-

нямі галаву, ён сядзеў на нізкай табурэтцы, моўчкі разглядаючы, як дагарае вуголле ў грубцы. Не, пасля такога пісьма не паедзеш. Аддала маладосць. Нібы ён нічога не аддаў... Няхай пажыве адна. Апомніцца, позна будзе.

Успомніўся сын, успомніўся яшчэ маленькім, калі гушкаў яго на руках, а той ад захаплення зіхаў бяззубым роцікам, успомнілася, як малым корпаўся ў пясочніцы і, убачыўшы бацьку, бег насустрач, спатыкаючыся ў сваіх растаптаных сандаліках. Яму, п'янаму, не хацелася браць сына на рукі, саромеўся яго, ці што, і ён загадваў ісці назад. Сын крыўдзіўся на бацьку, потым цэлы вечар капрызніў. А ён, Алесіч, ляжаў на канапе ў дрымоце і чуў, як Вера ўшчувае малога: «І што мне рабіць з такімі мужыкамі? Адзін п'яніца, другі рымза...» І яшчэ чуў, як крычала на малога: «Ідзі, хай бацька пажалее цябе». Не вытрымаў Алесіч, падхапіўся. «Я табе пакажу, як любіць сына, я табе пакажу»,— накінуўся на жонку з кулакамі. Вера ўпершыню тады выклікала міліцыю. Калі Алесіча выводзілі з хаты, ён не бачыў сына, толькі чуў яго пранізлівы плач. Потым у выцвярэзніку той плач цэлую ноч стаяў у вушах. Алесіч некалькі разоў прачынаўся ад яго, крычаў, каб Вера не дрыхла, а супакоіла сына. Раніцай алкаголікі распытвалі, якую гэта Веру ён будзіў ноччу... Успамінаўся і шчаслівы тварык сына, калі ён у новенькай школьнай форме разам з бацькам ішоў першы раз у школу. Абяцаў пасля заняткаў сустрэць яго. Не сустрэў. Па дарозе заглянуў у піўны бар і забыўся пра сына. Прыплёўся дамоў прыцемкамі.

У той вечар яго зноў забрала міліцыя. У міліцыі пратрымалі пятнаццаць сутак. А вось быў ён дома пасля міліцыі ці адразу паехаў на лячэнне, не помніць.

— Слухай, мам, як адсюль грошы пасылаюць? — спытаў Алесіч.

— Як хто. Хто на пошту ходзіць, хто аддае паштарцы. Яна і пасылае,— адказала Параска, потым дадала: — Наша паштарка вельмі акуратная.

— Занясі ёй... Хай пашле сыну,— ён дастаў з кішэні запісную кніжку, вырваў лісток, напісаў адрас, адлічыў грошы. Аднясі. Тут трыста рублёў. Табе сотня хай будзе. Можа, у каго пазычала, аддай...

— Ці не багата? — старая глядзела на грошы так, нібы ўпершыню бачыла столькі.

— Аднясі, мам. Хай пашле.

— Пакінуў жа сабе?

— Хопіць. Цяпер, мам, у мяне грошай багата. Піць кінуў, і марожанае есці не навучыўся.

Алесіч некалькі дзён пражыў у маці. Адсыпаўся, днямі швэндаўся па вёсцы, заседжваўся з кім-небудзь на лавачцы ў зацішку, адным словам, паступова прыходзіў у сябе,— напружанасць на буравой усё ж давала сябе адчуць. Адпачыўшы, зноў занудзіўся, не знаходзіў сабе месца. Сказаў маці, што едзе на работу. Вось паедзе, пашукае Кацю, калі на гэты раз не знойдзе, тады і прыме канчатковае рашэнне, дзе яму працаваць далей.

У канторы райспажыўсаюза сказалі, што ў іх сістэме ніякай Каці Юркавец няма. Параілі звярнуцца ў заводскія сталоўкі. Нават далі нумары тэлефонаў некаторых з іх, дазволілі прама ад іх пазваніць. Званкі не далі вынікаў. Ніхто нічога не ведаў.

З райспажыўсаюза выйшаў расчараваны. Не ведаў, што рабіць далей. Убачыўшы паўз вуліцу на нізкай будыніне з шырокімі вокнамі надпіс: «Кафе Ягадка», вырашыў зайсці туды падсілкавацца, а потым схадзіць да Скачкова. Можа, прапануе якую работу.

Алесіч спыніўся ў дзвярах кафэ, выглядаючы праз густы сіні дым, які хмарай вісеў над сталамі, вольнае месца.

— Алесіч! — пачуў раптам сваё прозвішча. Прыгледзеўся. З-за кутковага століка падняўся і, чапляючыся нагамі за крэслы, кіраваў да яго высокі шыракаплечы Хвосцікаў, верхавы з трыста пятай, зменны Алесіча.

— Іван Андрэевіч! Іван Андрэевіч! — растапырыўшы дужыя рукі, абняў яго да хрумсту ў плячах, тыцнуўся носам некуды ў шыю.— Пайшлі, дарагі, пабудзь з намі. Столькі разам рабілі, а ніколі не пасядзелі за адным сталом. Пайшлі! У нас свята. Нафта! Атрымалі нафту! І дзе? Дзе не чакалі. Ніжэй, чым па праекту. Ведаеш, колькі яе там?

Яшчэ нехта памагаў Хвосцікаву ўгаворваць Алесіча, нехта ўжо нёс для яго крэсла.

— Я, хлопцы, таго, я не магу,— спрабаваў адмовіцца Алесіч.

— Хоць трохі пасядзі з намі. Падзея ж! — Хвосцікаў наліў яму ў шклянку гарэлкі.— Ну, дарагі... Я скажу, ты вельмі добры чалавек. Шкада толькі, што пакінуў нас. Гэта ж ты мяне замяніў. Помніш? Я прашуся ў майстра, пусці да старой, а ён — няма кім замяніць, а тут ты.

— Віншую вас з перамогай але...— хацеў адмовіцца Алесіч.

— Ніякіх але,— крычаў Хвосцікаў.— Столькі рабілі разам, і... ні разу не пасядзелі. Можа, болей не сустрэнемся. Слухай, чаго ты звольніўся?..

— Што ты прыстаў? — перапыніў яго другі буравік, прозвішча якога не ведаў Алесіч.— Дай чалавеку выпіць.

— Андрэевіч, тармозіш кампанію,— крычалі яму ледзь не хорам.

Алесіч бачыў, што яго не зразумеюць, калі ён адмовіцца. А растлумачыць ім прычыну няма як, яны слухаць не хочуць. Можа, лепей выпіць ды хутчэй знікнуць, каб не хапіць лішку. Ад паўшклянкі нічога не здарыцца...

Праз некаторы час Алесіч ужо не думаў пра тое, чаго прыехаў у Зуеў, сядзеў, піў, колькі налівалі, разам з усімі гарланіў песні. Часам аднекуль здалёк наплывала трывога, але глухая, дрыготкая, ён адганяў яе, як адганяюць выпадкова заляцелую муху.

Выйшлі з кафэ разам. Яшчэ трохі пастаялі, пагаварылі, а потым развіталіся. Ніхто не пацікавіўся ў Алесіча, куды ён ідзе, ці ёсць наогул куды яму ісці. Ён застаўся адзін на тратуары. Стаяў, пазіраючы па баках, не разумеючы, чаго апынуўся тут, не ведаючы, што рабіць далей. Убачыўшы праз вуліцу на аўтобусным прыпынку купку людзей, скіраваў туды. Вось ён зараз сядзе і паедзе. Куды паедзе — не ведаў. Ведаў толькі, што паедзе...

Падышоў аўтобус. Людзі пачалі тоўпіцца ля дзвярэй. Скачкоў пабег. Канешне, ён на гэты не паспее, хоць і стараецца, бяжыць з усіх сіл.

І раптам убачыў Кацю.

Яна стала на падножку, узняўшыся над усімі, азірнулася, убачыла яго, кінулася назад, але яе ўвапхнулі ў аўтобус, і той крануўся, густа задыміўшы.

Алесіч, размахваючы рукамі, пабег следам. Убачыўшы «Волгу», якая ішла насустрач, кінуўся наперарэз. Машына моцна тармазнула, яе занясло на тратуар.

— Выручай, браток,— падскочыў Алесіч да вадзіцеля.— Выручай, дарагі...

— Спачатку праспіся,— гыркнуў раззлавана той.

— Грамадзянін! — раптам нехта ўзяў яго за плячо. Алесіч азірнуўся — ля яго стаяў міліцыянер.

— Няхай пападмятае вуліцы, тады перастане кідацца пад колы,— крыкнуў нехта з прахожых.

— Таварыш сяржант, ды я...— пачаў прасіцца Алесіч.— Мне тэрмінова трэба дагнаць аўтобус. Разумееш?

— Пройдземце ў аддзяленне, там разбяромся,— даволі ветліва папрасіў Алесіча міліцыянер.

## 14

Скачкоў прачнуўся. Колькі было часу, не ведаў. Жонка яшчэ спала. Прыслухаўся, ці не грукае дзвярыма хто ў доме, ці не тупаціць па лесвіцы, спяшаючыся на працу. Было ціха. Скачкоў намацаў пад падушкай свой гадзіннік, ціха выйшаў у залу, уключыў святло,— была шостая гадзіна.

— Чаго табе не спіцца? — прабурчэла Ала Пятроўна, калі ён вярнуўся ў спальню.

— Ты ж ведаеш, пасля позняй вячэры мне заўсёды пад раніцу не спіцца.

— Навошта ж так робіш, калі ведаеш за сабой такое?

— Часам бывае нявыкрутка,— ён залез пад цёплую коўдру.— Яшчэ з гадзінку можна падрамаць.— Заплюшчыў вочы, сцішыўся. Відаць, сапраўды спадзяваўся заснуць.

— Учора дачка званіла,— сказала Ала Пятроўна.

— І што?

— Узялі садовы ўчастак. На рабоце давалі. Хочуць домік будаваць. Пыталася, ці нельга тут у якім лясніцтве заказаць зруб. Хочуць драўляную дачу.

— Навошта ім тая дача?

— Я таксама спытала пра гэта. Жыццё такое, кажа. Цяпер, маўляў, усе будуюцца.

— Хто яго ведае, можа, і такое. Толькі мы ў маладыя гады зусім пра іншае думалі. Дачы і ў галаве не стаялі.

— Тады не такія дымныя гарады былі,— сказала Ала Пятроўна і замаўчала. Здаецца, задрамала. Няхай паспіць. Відаць, учора, як і заўсёды, сядзела позна. Правярала сшыткі. Праўда, калі ён прыйшоў дамоў, яна спала. Дык ён жа з'явіўся недзе пасля дзвюх гадзін ночы. Пакуль сустрэў камісію, пакуль адвёз ды ўладкаваў у гасцініцы, пакуль павячэралі ў рэстаране...

Ён ляжаў і думаў пра дачку. Недзе ў душы была незадаволенасць: занадта ж яны за многае хапаюцца. На паўтары стаўкі робяць, пра машыну марацы, вучыцца далей хочуць. А цяпер і дача. Ці хопіць іх на ўсё гэта? Рап-

там павернецца жыццё спіной? Яно часта паварочваецца спіной да тых, хто занадта багата ад яго чакае. Заўсёды трэба рабіць нешта адно. Рабіць упарта, грунтоўна. Трэба напісаць ім пісьмо, каб асабліва не захапляліся. Яны недзе не ўяўляюць, што такое будаўніцтва сёння, калі кожная дошка, кожны кілаграм цэменту — праблема. Жыццё сваё змардуюць дарэмна, маладую пару сваю. Яшчэ ж нічога не бачылі. А хочацца свежага паветра, хай прыязджаюць сюды, у Зуеў. Прыгажэйшай прыроды, як тут, нідзе няма.

Лес, рака, паветра...

Забрынчаў тэлефон. Раз, другі... Не, не памылковы званок, як часта бывае, нехта ўпарта званіў ім. Скачкоў на дыбачках выйшаў у калідор, узяў тэлефонную трубку, прыкрываючы яе рукой, ціха сказаў:

— Слухаю.

— Прывітанне, Міхайлавіч. Прабачце, што званю дамоў. Удзень вас не спаймаць. Ну што, камісію сустрэлі?

— Сустрэлі, сустрэлі,— адказаў Скачкоў.— Усё нармальна. Пасяліліся ў гасцініцы...

— Чаму вам званю? Хачу папрасіць вас, каб вы стварылі ім усе ўмовы. Каб ніякіх пытанняў. Помніце, ад іх заключэння многае залежыць, і ў першую чаргу лёс вашага промыслу. Добра будзе, калі сумееце наладзіць з імі добрыя адносіны.

— Можа, юшку на Дняпры?

— Само сабой разумеецца,— засмяяўся Балыш.

— Я ўчора падумаў пра гэта, але не асмеліўся сказаць.

— Вядома, трэба далікатна. Эх, сам бы хацеў зараз пабыць з вамі, палюбавацца Дняпром... Зрабіце як найлепш...

— Пастараемся,— паабяцаў Скачкоў.

Скачкоў узяў электрабрытву, пайшоў у ванную. Пакуль пагаліўся, пакуль паласкаўся пад душам, паднялася і Ала Пятроўна. Яна стаяла ў калідоры і прычэсвалася.

— Алачка, ты сёння вельмі загружана? — спыніўся ля яе.

— Загружана і перагружана,— буркнула яна, незадаволеная, што ён напомніў пра яе перагрузкі.

Скачкоў адчуў, што жонка не ў лепшым настроі, нічога не стаў гаварыць. Урэшце, калі яму спатрэбіцца памочніца, ён возьме якую афіцыянтку са сталоўкі.

— А што такое? — спытала яна.

— Хацеў, каб ты памагла мне. Камісія прыехала. Думаю юшкай пачаставаць іх.

— Хочаш падлізацца?

— Ад камісіі многае залежыць. У неслужбовай абстаноўцы людзі больш шчырыя і больш шчодрыя.

— Трэба будзе адмяніць дадатковыя заняткі,— вагалася яна.

— Адменіш адзін раз. Калі ў цябе апошні ўрок?

— У дванаццаць.

— Якраз добра.

— А прадукты?

— Там будзе ўсё. Калі што, дык я прышлю па цябе машыну.

— Добра. Ідзі адзявайся, а то прастудзішся...

Калі Скачкоў прыйшоў на работу, ён першым чынам пазваніў у дыспетчарскую, пацікавіўся, як ідзе план,— план па здабычы нафты за апошнія суткі быў таксама перавыкананы. Потым запрасіў да сябе Працько, Бурдзея і Кацянка.

Працько зайшоў першым. Ён аж свяціўся радасцю. Нават знешне папрыгажэў. Свой традыцыйны шэры світэр замяніў на белую ў палосачку рубашку. Адзеў новы касцюм, гальштук. Відаць, перад гэтым пабыў у цырульні,— на галаве не было такіх лахманоў, ды і бародка прыкметна паменшала,— ад яго моцна пахла нейкім саладжавым адэкалонам. Відавочна, прыезд камісіі быў для галоўнага геолага доўгачаканым святам. Ён усеўся на крэсла ля сцяны.

Галоўны інжынер і начальнік тэхналагічнага аддзела зайшлі разам.

Бурдзей, як заўсёды, засяроджаны, стрыманы ў рухах, моўчкі павітаўся, сеў побач з Працько.

Кацянок быў нейкі панылы, хоць і стараўся схаваць свой настрой за знешняй рухавасцю. Падбег да стала, падаў начальніку руку, потым паспешліва сеў на крэсла ля стала, нібы баяўся, што яго хто абгоніць, дастаў блакноцік з нагруднай кішэні джынсавай курткі, пачаў яго гартаць.

«Ці не здарылася што?» — падумаў Скачкоў, гледзячы на Макухіна.— Не хапала якраз сёння якой-небудзь прыгоды...»

— Сустрэлі? — спытаў Працько.

— Сустрэў,— адказаў Скачкоў.— Можа, яшчэ адпачываюць. Дамовіліся, што раніцай пад'еду. Так што ўсё нар-

мальна. Нават добра. План ідзе, камісія тут... Аж не верыцца, што ўсё так... добра.

Кацянок памуляў напружана губамі, нібы анямелі яны ў яго, з нейкім сумам у вачах паглядзеў на начальніка.

«Здаецца, сапсуе настрой»,— падумаў Скачкоў.

— Званілі з помпавай станцыі,— пачаў неахвотна Кацянок.— Падае ціск. Закачваюць у зямлю вады ўдвая болей, чым звычайна, а яна як у прорву... Праўда, нафты зараз бяром болей.

— Можа, з-за гэтага? — спытаў галоўны геолаг.— А што? Можа быць.

— Не спрабавалі разабрацца? — спытаў Скачкоў.

— Не паспеў. Пазванілі ўчора позна. Дамоў. Сёння раніцай пацікавіўся — тое ж самае. Баюся, каб не лопнуў вадавод дзе... Адным словам, пакуль нічога не ясна. Мне здаецца, проста мала помпаў. Не спраўляюцца. Трэба тэрмінова ставіць дадатковыя. Хоць бы парачку.

— Калі будуць помпы? — спытаў Скачкоў у галоўнага інжынера.

— Абяцалі ў гэтым месяцы выслаць,— адказаў Бурдзей.— Я званіў ім некалькі разоў. Сёння яшчэ пазваню.

— Добра. А цяпер пра тое, дзеля чаго я вас запрасіў. Пра камісію. Рэкамендавана сустрэць яе на вышэйшым узроўні. З Масквы званілі. Зробім ім на Дняпры юшку. Пакуль бабіна лета стаіць. Гэта ім павінна спадабацца. Мы з вамі — камісія, думаю, болей нікога не трэба. Ці, можа, сакратара партбюро запросім?

— Відаць, не варта. Не любіць ён у нас такія рэчы,— сказаў Працько.

— Не любіць,— хмыкнуў Кацянок.— Толькі выгляд робіць, што не любіць...

— Ну тады і мы зробім выгляд, што не знайшлі яго,— падсумаваў гаворку Скачкоў.— Не будзем падводзіць чалавека.

— Я таксама не змагу,— сказаў галоўны інжынер.— Еду ў Гомель. Дамовіўся з адным знаёмым дырэктарам завода наконт меднага дроту для электрарухавікоў.

— Адмяніць паездку нельга?

— Нельга.

— Ну добра. Возьмем гэтую нагрузку на сябе. Значыцца, так. Вы, Вячаслаў Мікітавіч,— звярнуўся Скачкоў да Кацянка,— паедзеце да рыбакоў, у вас там знаёмыя. Возьмеце рыбы, а я пазваню ў саўгас, каб курэй

выпісалі. Таксама возьмеце. І пад дубы на Днепр. А вы...— паглядзеў на галоўнага геолага, вагаючыся, даручаць яму што ці не.

— Я гатоў выканаць любое даручэнне,— сказаў Працько.

— Вы, Віктар Іосіфавіч, заглянеце ў гастраном. Возьмеце напітак на свой густ. Гадзін у дванаццаць заедзеце ў школу па маю жонку, яна паможа там усё зрабіць. Мая задача — прывезці камісію. Калі не адмовяцца, гадзіны ў чатыры будзем. Адмовяцца, перадам па рацыі. Пытанняў няма? Дзейнічайце!

Скачкоў, сказаўшы сакратарцы, што з камісіяй выехаў на аб'екты, сеў у машыну і скіраваў у гасцініцу.

Камісія поўным складам сядзела ў кафэ. Снедалі.

Усе ўтрох размясціліся за сталом ля самых дзвярэй, таму Скачкоў іх адразу ўгледзеў, зайшоўшы ў фае.

Перад кожным стаяла бутэлька кефіру.

Узначальваў камісію зусім яшчэ малады вучоны, кандыдат навук, Удальцоў. Ён, відаць, хацеў выглядаць старэй сваіх гадоў, таму адпусціў вузенькія, шнурочкам, вусікі. Вусікі былі густыя і чорныя, як намаляваныя вугалем, здаваліся лішняй, непатрэбнай дэталлю на яго белым маладжавым твары. Удальцоў піў кефір невялічкімі глыткамі, нібы спрабаваў яго на смак. Пасля кожнага глытка далікатна аблізваў кончыкам востранькага языка свае вусікі.

Два яго памочнікі былі зусім маладыя хлопцы. Як студэнты. З доўгімі, па плечы, прычоскамі, у вузкіх джынсах і ў джынсавых куртачках, паношаных, з караткаватымі рукавамі.

Калі Скачкоў паказаўся ў дзвярах, маладзейшыя заўсміхаліся яму, заківалі ветліва галовамі. Удальцоў жа ледзь прыкметна нахіліў наперад галаву, відавочна стараўся трымацца падкрэслена салідна, як і трэба трымацца кіраўніку прадстаўнічай камісіі.

— Прыемнага апетыту! — пажадаў ім Скачкоў.— Як адпачылі?

— Нармальна,— адказаў Удальцоў.

— А што тычыцца апетыту,— дадаў адзін з маладзейшых членаў камісіі,— то яго хапае толькі на кефір.

— Дык, можа, Ігар Іванавіч?..— Скачкоў насцярожыўся ў чаканні.

— Ніякага можа,— адказаў Удальцоў.— Мы якраз абмяркоўваем пытанне аб тым, каб увесці ў нашай групе

сухі закон. Да заканчэння работ. На сабе пераканаліся, што алкаголь забівае ўсялякі творчы пачатак. Нават жаданне працаваць.

— Можа, яшчэ адпачнеце з дарогі? А перад адпачынкам?

— Не, не,— замахаў рукою Удальцоў.— Ніводнага дня без працы. У нас такі дэвіз.

Скачкоў не верыў, што яны адразу ж уключацца ў работу. Калі так, трэба тэрмінова адмяняць усялякую юшку.

— Зробім так,— аблізаў кефір з вусікаў Удальцоў.— Зараз паедзем у кантору, паглядзім карты, схемы, прыкінем план работы. І пачнём. Часу ў нас не вельмі. Балыш прасіў не марудзіць.

Скачкоў вырашыў пакуль што не заікацца пра юшку. Хай будзе як будзе.

Ён пачакаў ля гасцініцы, пакуль госці сходзяць у свае нумары і збяруцца. Удальцоў даў на зборы пяць мінут. І сапраўды, роўна праз пяць мінут усе ўтрох з'явіліся ў дзвярах. Скачкоў адчыніў пярэднія дзверцы, запрасіў у машыну Удальцова. Сам усеўся з хлопцамі на заднім сядзенні. Ехалі моўчкі. Скачкоў свядома не распачынаў гаворку. За сваё жыццё ён усвядоміў, што не варта старацца шчыраваць з людзьмі, якіх добра не ведаеш. Лепей няхай самі разгаворацца.

— Колькі ў вас свідравін? — спытаў Удальцоў у Скачкова.

Скачкоў назваў лічбу.

— Нічога сабе,— Удальцоў уважліва паглядзеў на Скачкова, нібы хацеў сваім паглядам падкрэсліць, якую сур'ёзную лічбу ён назваў.— І вы хочаце, каб мы ўсе іх абследавалі?

— Для гэтага вас запрасілі.

— Фюіць! — прысвіснуў Удальцоў. Зрабіў ён гэта так па-хлапечы гарэзліва, што Скачкоў адразу ўбачыў за знешняй стрыманасцю Удальцова даволі простага і непасрэднага чалавека.— Вы што? Зімаваць нас хочаце прымусіць?

— Толькі такая праверка мае сэнс,— сказаў Скачкоў.

— Маладыя геалагіні ёсць? — пацікавіўся сусед Скачкова.

— У нас усё ёсць,— адказаў Скачкоў.

— Тады можна зазімаваць,— засмяяўся сусед.

— Як у вас з планам? — пацікавіўся зноў Удальцоў.

— Пачалі перавыконваць.
— Навошта вам камісія?
— Каб заўсёды перавыконваць план.
— Ясна,— больш Удальцоў не сказаў ні слова да самай канторы.

У кабінеце начальніка ўпраўлення Удальцоў папрасіў сваіх памочнікаў паглядзець схемы размяшчэння свідравін і, па-магчымасці, прыкінуць чарговасць іх даследавання, а сам, узяўшы Скачкова пад локаць, падвёў да акна.

— Пакуль хлопцы будуць працаваць, мы з вамі пагутарым. А то ўсядзецеся за свой стол, тэлефонныя званкі не дадуць,— усміхнуўся ён.

— Яно так,— Скачкоў прыхінуўся спіной да падаконніка.

— Вам не трэба, Валерый Міхайлавіч, даказваць,— пачаў нізкім баском, падкрэсліваючы гэтым самым не толькі сваю саліднасць, але і сур'ёзнасць гаворкі,— які аб'ём работы мы павінны зрабіць. Баюся, прыйдзецца прасіць падмацаванне. Але пакуль спяшацца не будзем. Паглядзім, як яно пойдзе. Карацей, у нас ёсць некаторыя просьбы да вас. У гасцініцы, вы ж ведаеце, доўга жыць немагчыма. У гасцініцах усе жывуць часова і, вядома, адпаведна паводзяць сябе. Там не заснеш да позняй ночы. А нам трэба добра высыпацца. Ці не змаглі б вы, Валерый Міхайлавіч, знайсці нам пару пакойчыкаў у якім інтэрнаце? Ёсць у вас інтэрнат ці якая службовая кватэра, што яшчэ лепей.

— Вырашым,— паабяцаў Скачкоў.

— Неабходна замацаваць за намі пастаянны транспарт. На ўвесь час.

— Не праблема.

— Каб вадзіцель быў халасцяк. Каб не ныў, калі затрымаемся на аб'екце ці спатрэбіцца праехаць куды ў выходны дзень. Карацей, каб вольны хлопец.

— Знойдзем такога...

— І яшчэ адна, Валерый Міхайлавіч, далікатная праблема,— бліжэй нахіліўшыся да Скачкова, зусім ціха загаварыў Удальцоў.— Я, напрыклад, не магу есці ў сталовых, кафэ, рэстаранах. Толькі хварэеш потым ад іх харчу. Тлушч няякасны, боршч учарашні... Ці нельга дамовіцца з якой акуратнай гаспадынькай, каб яна ўзяла нас сталавацца. Каб усё па-дамашняму.

— Гаспадыньку шукаць не будзем,— адразу адмовіў-

ся Скачкоў.— У гэтым няма патрэбы. Вырашым гэтую праблему ў нашай сталоўцы. Заедзем і дамовімся. Сталоўка тры кіламетры ад горада, але пры вас будзе машына. Вызначым столік. Будуць гатаваць па вашаму заказу.

— Можна і так,— пагадзіўся Удальцоў.— Цяпер пра культурную, як гаворыцца, праграму. Тут, думаю, праблем не будзе. У вас ёсць што паглядзець. Хатынь, Брэст, Белавежа... Вы, Валерый Міхайлавіч, з мясцовых?

— З гэтых мясцін. Доўга працаваў у Мінску.

— Выдатна! — усклікнуў Удальцоў.— Вы будзеце нашым гідам.

— Якія яшчэ просьбы? — спытаў Скачкоў.

Удальцоў развёў рукамі, маўляў, прабачце, але болей просьб няма.

Скачкоў пакінуў камісію ў сваім кабінеце. Спачатку хацеў знайсці Працько ці Кацянка і адмяніць юшку. Затым вырашыў: няхай будзе, як задумана. Ён як гаспадар запросіць іх на абед, а куды павязе, не іх справа. Зайшоў у бухгалтэрыю, падпісаў тэрміновыя дакументы, пазваніў у сталовую, з'ездзіў у інтэрнат, паглядзеў пакоі для гасцей.

Калі вярнуўся ў свой кабінет, убачыў, што абое маладшых членаў камісіі сядзяць і пра нешта ажыўлена гутараць, забыўшы на схемы. Удальцоў уладкаваўся за сталом на яго месцы, адкінуўся на спінку крэсла так, што, здавалася, не сядзіць, а ляжыць, крычаў у тэлефонную трубку:

— Дамовіліся, дарагуся? Як толькі ўладкуюся, выклічу тэлеграмай. А што? Свежае паветра, натуральны харч. Адпачнеш лепей, чым у самым фешэнебельным санаторыі. Карацей, закругляйся там і збірайся. Ды ты што? Больш гасцінных людзей на свеце няма. Дамовіліся?.. Будзь,— ён паклаў тэлефонную трубку, нібы з вінаватасцю сказаў Скачкову: — Я скарыстаў паўзу, пазваніў сваёй благавернай.

— Можа, не будзем губляць час, паедзем? — спытаў Скачкоў.— Ці вы яшчэ не скончылі тут свае работы?

— Якая работа? — засмяяўся адзін з членаў камісіі.— Пасля ўчарашняга галава не шурупіць.

— Можна ехаць,— не пярэчыў Удальцоў і ўжо ў машыне сказаў: — Мы тое-сёе паглядзелі ў вас. Сумная карцінка. Справаздач аб рэжыме свідравін мала. Замеры ўстановак рабіліся рэдка. Карацей, дакументы нам мала што дадуць. Трэба глядзець кожную свідравіну. Дарэчы, за та-

кі кантроль над свідравінамі трэба гнаць вашага галоўнага геолага.

— Яго не слухалі, гналі план,— заўважыў Скачкоў.

— Адным словам, Міхайлавіч, нам прыйдзецца тут пасядзець не тыдзень,— заключыў Удальцоў.

Спачатку пазнаёміліся з горадам, паглядзелі, якім ён быў да адкрыцця нафты. Праехалі па новых вуліцах, пабудаваных з прыходам нафтавікоў. За горадам заехалі адразу ж у цэх перапрацоўкі нафты.

Абнесеныя бетоннай сцяной блішчэлі на сонцы высокія алюмініевыя цыліндры, злучаныя паміж сабой выгінастымі трубамі. Цэлыя пучкі труб у розных кірунках апляталі тэрыторыю цэха, злучаючы высокія белыя цыліндры з вялізнымі ёмкасцямі, што стаялі на другім краі.

— Усё ясна,— сказаў Удальцоў, не вылазячы з машыны.— Такіх цэхаў наглядзеліся. Можам нават сказаць, на колькі гэты цэх разлічан. Як вы думаеце, хлопцы, на колькі? — звярнуўся да сваіх памочнікаў.

— Мільёны на чатыры,— адказалі абодва ледзь не ў адзін голас.

— Угадалі,— пацвердзіў Скачкоў.— Пакуль што цэх працуе на палову сваіх магутнасцей.

— Спадарожны газ? — спытаў Удальцоў.— Мяркуючы па факелу, тут нафты кот наплакаў...

— Газ падаецца ў Зуеў. Увесь горад на ім сядзіць. Заводы таксама. Нават такія вялікія, як керамічны. Астатні перапрацоўваем і прадаём у гаспадаркі вобласці. З Украіны прыязджаюць.

— Малайцы,— пахваліў Удальцоў.— Разумна, па-гаспадарску. Паглядзіш, колькі яго гіне на нашых нафтапромыслах, душа баліць. Такім багаццем раскідваемся! Тысячы факелаў па краіне. Відовішча, вядома, прыгожае. Для паэтаў. Гаспадары павінны чырванець, гледзячы на такую прыгажосць. Валерый Міхайлавіч, вязіце далей!

Ля першай жа помпы-качалкі Удальцоў пацікавіўся:

— А ёсць такія, што самі фантаніруюць?

— Былі. Цяпер няма. Нават новыя свідравіны не фантаніруюць. Катастрафічна знізіўся пластавы ціск. Не хапае магутнасцей падтрымліваць яго.

Праз дробны малады сасоннік, па разбітай пясчанай дарозе праехалі да наступнай свідравіны. Дарога ўзяла ледзь не гадзіну. Да трэцяй свідравіны дабіраліся яшчэ болей. Пабыўшы на Бобрыкаўскім радовішчы, адным з самых буйных, дзе было болей за паўсотні дзеючых свід-

равін,— усе не сталі аглядаць,— скіравалі да трыста пятай, якую нядаўна закончылі бурэннем.

— Раскіданы свідравіны, раскіданы,— шкадаваў Удальцоў.

— Вельмі нават,— спачуваў яму Скачкоў.— Радовішчы дробныя. Запасы невялікія. Кожнае радовішча, кожная свідравіна, так сказаць, са сваім характарам. Бывае так: дзве свідравіны стаяць побач, а нафта ў кожнай з іх не падобная адна на адну. Па якасці ў адной — рыжая, а ў другой ледзь не празрыстая. Галоўнае, ніякіх дакладных звестак, колькі яшчэ можа даць кожнае радовішча. Тут багата наблытана. Перспектыўныя радовішчы выдахліся праз год, а тыя, што лічыліся бесперспектыўнымі, даюць нафту і цяпер. Ва ўсім гэтым трэба разабрацца.

— Так, рэбусаў нямала,— задумліва сказаў Удальцоў.— Але гэта якраз і цікава,— і звярнуўся да сваіх памочнікаў.— Праўда, хлопцы? Гэта сапраўды даследчая работа. Калі не будзеце спаць у шапку, паедзеце адсюль з дысертацыямі. Я сваю, дарэчы, напісаў пасля падобнай паездкі ў Татарыю. Пад нагамі ў нас не толькі карысныя выкапні, але і вучоныя ступені,— і засмяяўся.

Тыя нічога не адказалі свайму кіраўніку. Прытомленыя дарогай, моўчкі сядзелі, здавалася, страціўшы ўсялякую цікавасць да ўсяго навокал. І калі недалёка ад Зуева — былі ўжо відаць дамы за прысадамі — збочылі раптам на дарогу праз луг, яны ледзь не ў адзін голас абурыліся:

— Зноў на свідравіну?

— Яшчэ адну хачу паказаць,— сказаў Скачкоў.

— Валерый Міхайлавіч,— не вытрымаў кіраўнік камісіі.— Мы згодны, вядома, паглядзець яшчэ і абавязкова паглядзім не адну, але, можа, не сёння? Прызнацца, няма ніякага жадання,— паглядзеў на гадзіннік.— Пятая гадзіна. Што вы? Цывілізаваныя людзі пачынаюць думаць пра вячэру, а мы яшчэ не абедалі.

— Глянем,— упарціўся Скачкоў.

— Толькі адну,— Удальцоў не чакаў ад яго такой настойлівасці.

Дарога прывяла да невялікага кустоўя, над якім узвышалася некалькі старых дрэў з парыжэлым, як падпаленым лісцем,— дубы. У лістоце дрэў трымаўся, быццам туман, празрысты блакітны дым. Дарога, абагнуўшы кустоўе, згубілася на невялічкай пляцоўцы паміж зараснікамі і крутым абрывістым берагам.

Пад дрэвамі паблісквалі алюмініевымі ножкамі два сталы. Бліжэй да берага пад пагаслым кастром вісела вядзёрка з юшкай. З варыва тырчэў белы аблезлы нос шчупака. Побач з кастром у каструлі, прысунутай да вуголля, дыміліся адвараныя кураняты.

Над вуголлем паміж чырвонымі цаглінамі смажыліся шашлыкі. З мяса сцякаў тлушч, капаў на вуголле, яно ўспыхвала чырвоным полымем. Працько тушыў тое полымя, паліваючы яго з вялікага белага карца марынадам ад мяса. У паветры стаяў востры водар воцату, падпаленай цыбулі, духмянага перцу і яшчэ нечага такога адметнага, чым заўсёды пахнуць удалыя шашлыкі.

Вылезшы з машыны, Удальцоў спыніўся, пацягнуў носам паветра, пакруціў галавой:

— Дзівак у вас начальнік... Замест таго каб везці адразу сюды, ён прымусіў нас цэлы дзень дыхаць дарожным пылам,— і спыніў свой упарты позірк на Але Пятроўне, якая ў квяцістым плацці, белым пярэдніку, падвязаўшы валасы хусцінкай, на гэтым пазалочаным восенню беразе Дняпра асабліва кідалася ў вочы сваёй прыгажосцю.

— Гэта мая жонка, Ала Пятроўна,— паведаміў Скачкоў, перахапіўшы позірк Удальцова.

— Цяпер разумею, чаму не спяшаліся везці нас сюды. Я вас віншую, Валерый Міхайлавіч. У вас прыгожая жонка,— не хаваў свайго захаплення Удальцоў і, відаць, засаромеўшыся сваёй шчырасці, адразу ж падышоў бліжэй да берага ракі, спытаў з той жа інтанацыяй, з якой гаварыў пра Алу Пятроўну:

— Рыба тут ёсць?

— Ёсць. Для таго, хто ўмее лавіць,— Скачкоў падышоў да Удальцова.

Скачкоў быў на гэтым месцы не першы раз. Быў з жонкай у першыя дні іхняга праезду ў Зуеў, потым неяк заязджалі сюды з Працько, вяртаючыся з далёкай паездкі. Галоўны геолаг прапанаваў заехаць пакупацца. Тады быў цёплы жнівеньскі вечар, была цёплая ласкавая вада... Але ніколі Скачкоў не глядзеў на Днепр і задняпроўскія далі так, як зараз... Далі не былі раней такімі адкрытымі, бясконцымі, як цяпер. Днепр прыкметна пашырэў, памагутнеў,— у яго вярхоўі пачаліся асеннія дажджы. Вада калыхала прыбярэжныя лазнякі, заліла на лузе лагчыны, злучыўшыся са старыцамі. Далей ад ракі, на вышэйшым, стаялі стагі, верхавіны ў якіх мацаваліся звязанымі за чубы алешынамі. За тыя алешыны начапляла-

ся белае павуцінне. Яно доўгімі ніткамі мятлялася ў паветры.

За лугамі сінелі лясы, за імі ў асенняй празрыстасці ўгадваліся новыя далячыні...

— Просьба да стала,— падаў голас Кацянок.— Архірэйская юшка прачахне.

— Што яшчэ за дзіковіна? — пацікавіўся Удальцоў.

— Не ведаю дакладна, але чуў, што некалі архірэі не любілі поставаць. Грашыць таксама не хацелася. Варылі курэй у катле, а потым іх даставалі, кідалі туды рыбу. Нібы варылі юшку з рыбы. Потым елі, не баючыся граху.

— Сярод святых таксама хапала ашуканцаў,— засмяяўся Удальцоў.

Калі ўсе сабраліся ля сталоў, Скачкоў сказаў:

— Дазвольце, таварышы, ад імя ўсіх прысутных і адсутных, павітаць на нашай зямлі дарагіх гасцей, якіх мы доўга чакалі і ад якіх, канешне, багата чакаем... Так што, таварышы нашы дарагія, жадаем вам плённай работы!

Хутка ўсе разбіліся на купкі. Як ні стараўся Скачкоў унесці парадак у гэтае бязладдзе, яго ніхто не слухаў. Нарэшце ён адмовіўся ад свайго намеру і, заўважыўшы, як Удальцоў пры кожным зручным выпадку стараецца загаварыць з яго жонкай, падышоў, каб як узяць увагу госця на сябе.

— Ну як, падабаецца? — спытаў.

— Здорава, Міхайлавіч, здорава! — Удальцоў абняў Скачкова.— А галоўнае, такое паветра... Ведаеце, чаму ў вас такое паветра? Ад прастораў. Якія ў вас прасторы! Я хачу яшчэ палюбавацца імі. Пройдземце крыху.

Яны адышліся па беразе далей, спыніліся.

— Хачу не толькі любавацца вашымі прасторамі, але паслухаць і цішыню.— Ён спыніўся над самым абрывам, сунуў рукі ў кішэні штаноў, зачукаважыўся, перавальваючыся з пятак на наскі і наадварот. Скачкоў збаяўся, каб яго госць раптам не кульнуўся пад абрыў, узяў яго за локаць.

— За мяне не бойся,— Удальцоў паглядзеў на яго.— Ведаеш, пра што думаю?.. Я толькі вось тут, на гэтым беразе, зразумеў, чаму вы такія сціплыя людзі. З такім багаццем яно і сорамна быць не сціплым. Сціпласць у вас ад усведамлення свае сілы. На такіх прасторах могуць жыць толькі моцныя і спакойныя людзі. Вы мудра маўчыцё. Але, здаецца, я пачынаю разумець вашу мудрасць.

Карацей, мне ясна, чаму так часта Балыш успамінае гэтыя мясціны. Мы неяк былі з ім у адной кампашке. Размаўляліся пра Днепр, пра Зуеў. Там быў адзін акадэмік, мастак. Ён сказаў, што прыгажэйшых жанчын, як на лініі Гомель — Кіеў, ён нідзе не сустракаў. Той мастак багата пабачыў. Тады яму я не паверыў. Цяпер прыеду і, калі ўдасца яго сустрэць, скажу, што ён праўду казаў. А вы...— і засмяяўся.— Вы не хочаце, каб свет ведаў пра вашых прыгажунь, таму і маўчыцё. Дарэчы, часам ваша сціпласць вам не на карысць. Вось і зараз. Нечага ж хочаце ад мяне, а маўчыцё. Карацей, Валерый Міхайлавіч, што вам трэба? Слова гонару, зробім. Да людзей мы таксама па-людскі. Якое вам заключэнне трэба? Майце на ўвазе, Міхайлавіч, навука можа ўсё.

— Дзякую, Ігар Іванавіч. Але нічога асаблівага не трэба. Трэба ісціна, і толькі. Аб'ектыўная ацэнка.

— Яна ў любым выпадку будзе аб'ектыўная. Нам толькі трэба ведаць, Міхайлавіч, якая яна павінна быць.

— Абсалютна аб'ектыўная. Не болей і не меней. Мы павінны ведаць, колькі трэба штодня браць нафты з кожнай свідравіны, каб выбраць яе за час эксплуатацыі як мага болей. І ўсё.

— Мне гаварыў Балыш, што вы яшчэ малады кіраўнік. Але што такі малады, не ўяўляў. Самі, Міхайлавіч, падумайце... Такая сустрэча, такія ўмовы, такі прыём. Проста не верыцца, што ўсё гэта толькі з-за ветлівасці. Аказваецца, вам, акрамя аб'ектыўнай ісціны, нічога не трэба. Што вы за людзі? Вы не ўяўляеце, які гэта парадокс у наш час. Паверце, я наглядзеўся на гэтым свеце ўсялякага. Мне шчыра хочацца вам памагчы...

— Аб'ектыўная ісціна будзе самай лепшай вашай дапамогай... Пойдземце, а то мая, здаецца, не вытрывала, бяжыць нас клікаць.

Ала Пятроўна сапраўды бегла да іх, прытрымліваючы рукамі плацце на каленях.

— Валера! — задыхана крыкнула яшчэ здаля.— Там піпікае. Я да вашых, смяюцца. У начальніцкай машыне піпікае, хай начальнік і слухае.

Скачкоў асабліва не спяшаўся да машыны: калі не вельмі што трывожнае, то папіпікаюць, як кажа жонка, і перастануць, а калі што неадкладнае, не адчэпяцца, пакуль не даклічуцца.

— Я слухаю,— узяў ён тэлефонную трубку.

— Валерый Міхайлавіч, з вамі будзе гаварыць сакра-

тар райкома,— вяла, санлівым голасам сказала дыспетчар, і ў трубцы шчоўкнула.

— Валерый Міхайлавіч? — пачуўся голас Міхейкі.

— Слухаю вас, Яўген Васільевіч.

— Дзе вы зараз? Далёка ад Зуева?

— Мінут дзесяць на машыне.

— Выдатна. У мяне сядзіць старшыня калгаса з «Усхода» і плача. Вы ніколі не бачылі, як плачуць старшыні калгасаў? Прыязджайце, пабачыце. Чакаем.

— Што? — трывожна спыталася Ала Пятроўна, якая стаяла побач.

Скачкоў на які момант задумаўся. Відаць, нешта здарылася ў тым калгасе, і даволі сур'ёзнае, што старшыня плача. І звязана тое здарэнне з нафтавікамі, інакш яго не трывожылі б. Скачкоў вырашыў не псаваць настрой людзям, нічога нікому не гаварыць. Скажа, калі ўсё высветліцца.

— Ну што? — падбег расчырванелы Кацянок, які заўсёды, як паспеў заўважыць Скачкоў, стараўся ведаць усё, што адбываецца ва ўпраўленні.

— Нічога асаблівага,— сказаў Скачкоў.— Запрашаюць у райком партыі... Вось што, Вячаслаў Мікітавіч, глядзіце, каб усё добра было. Я хутка.

Ля райкома яго ўжо чакалі. Стаялі дзве машыны,— сакратара райкома і старшыні калгаса. Сакратар райкома Міхейка стаяў на высокім ганку з светлавалосым маладжавым чалавекам, які быў у запыленым плашчы без шапкі. Гэта і быў старшыня калгаса «Усход» Лукоўскі.

— Паедземце, Валерый Міхайлавіч, паглядзіце, як вы засалілі калгас,— сакратар адразу ж пайшоў да свае машыны...

Спыніліся ля прамога шырокага меліярацыйнага канала. На другі бок, за каналам, ледзь не да самай вёскі, якая цямнела прысадамі на самым небасхіле, ляжала роўненькае, як адпрасаванае, поле. Яно было зялёнае, як рунь, але ў многіх месцах пажаўцела, як хто павыпальваў там траву. Удалечыні віднеліся палівачныя машыны на колах. Кожны раз, калі Скачкоў праязджаў па дарозе паўз гэты канал, бачыў, як над тымі машынамі віселі вясёлкі.

— Тры ўкосы ўзяў у гэтым годзе,— гаварыў старшыня.— Гэтае поле паказвалі ўсім дэлегацыям як дасягненне нашай меліярацыі. Замежных гасцей прывозілі. Дзякуючы гэтаму полю мы ўвесь Зуеў малаком поім. А цяпер

што? Жоўценькая траўка. Я спачатку падумаў, што гэта на восень. На агранома накінуўся, што тукаў перабаршчыў... Брыгадзір заўважыў, што рыба ў канале пузам уверх. Памачыў палец, лізнуў, а ён салёны.

— Валерый Міхайлавіч, калі ў вас аварыя была? — пацікавіўся сакратар райкома.

— Не ведаю. Пры мне не было. Ва ўсялякім разе, ніякіх звестак не маю. Хутчэй за ўсё пра аварыю нічога не ведаем,— і раптам успомніў, як раніцай скардзіўся Кацянок, што вада як у прорву, а пластавы ціск падае. Значыцца, разрыў недзе ў вадаводах ці нават у самой воданагнятальнай свідравіне. Вось і прабілася вада на калгаснае поле.— Я адразу ж пазваню, як высветлім прычыны.

Скачкоў хацеў не вяртацца на Днепр, а паехаць у кантору, падняць на ногі аварыйную службу. Потым падумаў, што на беразе засталася Ала Пятроўна, да якой Удальцоў раптам пачне чапляцца. Ён не баяўся за жонку, але не хацеў, каб пра іх плявузгалі абы-што.

Перадаўшы па рацыі на воданагнятальную станцыю, што адключылі ўсе помпы і не ўключалі да асобага распараджэння, загадаў вадзіцелю кіравацца на Днепр.

Яшчэ здаля, калі толькі збочылі з шашы на палявую дарогу, убачылі, як там, за кустоўем, на беразе ракі калышуцца ў шэрым вечаровым небе водбліскі ад кастра. Чулася песня. Гучаў моцны і чысты жаночы голас, яго падтрымлівалі несуладныя мужчынскія басы:

> Днепр волной игривою моет берега,
> Здесь любовь рождается, крепко — навсегда...

## 15

Ала Пятроўна запоўніла ведамасць паспяховасці свайго класа за першую чвэрць, падпісалася. Паднялася, адышлася ад стала, глянула на ведамасць здаля. У вочы кідаліся двойкі, закручастыя, хвастатыя, тлустыя. Яны ўтваралі кідкі слупок, на якім адразу спыняўся позірк.

Палова вучняў мелі двойкі па яе прадмету.

— Баюся, дырэктарка не прыме такую прыгожую ведамасць,— сказала Ала Пятроўна мужу, які ляжаў на канапе, чытаў газеты.

Скачкоў прамаўчаў.

— І правільна зробіць,— заключыла Ала Пятроўна.— Для яе такая ведамасць, як атамная бомба. Можа, і горш.

Столькі двоек за чвэрць! Канец славе. З перадавых школа адразу пападае ў самыя адстаючыя. Хіба такое дапусціць Антаніна Сяргееўна? Ніколі. Толькі не ведаю, што зробіць. Парве ведамасць ці загадае перапісаць.

— Чаго панікуеш? — упікнуў Скачкоў.

— Я? — хмыкнула Ала Пятроўна.— Хай дырэктарка панікуе. Яна нядаўна збірала настаўнікаў. Сказала, што ў журналах яшчэ нямала двоек і што да канца чвэрці іх трэба выправіць. Прасіла, каб усю ўвагу адстаючым. Маўляў, яны не павінны закончыць чвэрць з дрэннымі ацэнкамі. Смешная логіка. З выдатнікамі нечага вазіцца, вучыце лайдакоў. Хіба не так? Чаму за крытэрый бяруць адстаючых, а не выдатнікаў? Што некаторых навучыць зусім немагчыма, пра гэта не думаюць. У мяне болей двоек, чым у каго. Выходзіць што? Выходзіць, твая жонка самы бяздарны педагог. Пачнуць хадзіць, правяраць. Жыць не захочаш. Варта мне замест двоек паставіць троечкі, і я добры педагог. Праўда, вучні зразумеюць, што можна не вучыцца, на фальшывых тройках праехаць ад першага па дзесяты клас. Як быць?..

Які час Скачкоў маўчаў, нібы не чуў, што гаварыла яму жонка. Потым разважліва, нават крыху філасафічна пачаў:

— Каб не памыліцца, трэба заўсёды заставацца чэсным і праўдзівым. Мне здаецца, многія нашы недахопы ад таго, што недзе нехта трошкі адыме, а хто наогул трошкі ўтоіць. У маштабе краіны гэта вырастае ў вялікія пралікі.

— Гэта наогул,— уздыхнула Ала Пятроўна.

— Хочаш канкрэтна? — усміхнуўся Скачкоў.— Калі ласка. Не здавай дырэктарцы, аддай ведамасць завучу.

— Так і робіцца ў нармальных школах. А наша перадавая. Таму дырэктарка прымае ведамасці, баіцца, каб завуч не дапусціў якога праліку.

Ала Пятроўна хацела здаць ведамасць перад тым, як ісці дамоў, каб не псаваць сабе настрой на пачатку дня: ведала, без сутычкі з дырэктаркай не абысціся. Але калі пачула, што Антаніну Сяргееўну сёння не пазнаць, бо прыйшла ў яркім чырвоным касцюме, у імпартных чабоціках на шпільцы, зрабіла прычоску, пафарбаваўшы валасы ў залацісты колер, Ала Пятроўна вырашыла зараз жа аднесці ведамасць. «Сапсую ёй настрой, каб не выпендрывалася».

Антаніна Сяргееўна сядзела за сваім сталом, выста-

віўшы ногі ў новых жоўтых чабоціках. Перад ёй стаяла чашка чаю. З чашкі падымалася пара. Відаць, дырэктарка чакала, пакуль чай прачахне. На краі стала стаялі дзве парожнія талеркі.

За сваім сталом сядзеў завуч і нешта засяроджана пісаў.

— Можна, Антаніна Сяргееўна? — спынілася ў дзвярах Ала Пятроўна.

— Калі ласка,— дырэктарка прыдзірліва агледзела знешнасць настаўніцы, засталася задаволенай. Яна, канешне, не ведала, што Ала Пятроўна сёння знарок адзела някідкае плацце, каб не раздражняць дырэктарку.— Што ў вас?

— Ведамасць за чвэрць.

— Пакажыце, пакажыце,— Антаніна Сяргееўна адсунула ўбок талеркі, чай, узяла ведамасць, спачатку глянула на яе абыякава, як і прывыкла глядзець на ведамасці, потым схіліла ніжэй галаву над паперай. Яе вузкія бровы папаўзлі ўверх.

— Вашу ведамасць не магу прыняць,— сказала строга.

Ала Пятроўна не чакала іншай рэакцыі, таму, нікольків не разгубіўшыся, спытала:

— Можа, вас засмучаюць двойкі? Паверце, Антаніна Сяргееўна, яны абсалютна аб'ектыўныя.

— Двойкі не засмучаюць. Яны такія прыгожанькія. Відаць, любіце іх маляваць,— дырэктарка ўсміхнулася.— Двойка — ацэнка законная. Вазьміце ведамасць. Яна няправільна аформлена.

— Як няправільна? — не атрымаўшы адказу, Ала Пятроўна дадала: — Я глядзела, як іншыя афармляюць. Якраз так.

— Няўважліва глядзелі,— і Антаніна Сяргееўна ўзялася за чашку з чаем.

— Здаецца ж, усё правільна...

— Вось іменна, што здаецца. Паглядзіце больш уважліва.

— Давайце, Антаніна Сяргееўна, не фантазіраваць. Не губляйце мой і свой час. Двойкі на тройкі перапраўляць не буду. Хай вучні не думаюць, што ім буду патураць. Калі двойкі не ўстрывожаць іх, можа, устрывожаць іхніх бацькоў. А то дайшло, што ўжо прыпеўкі спяваюць: «А для стройкі хопіць тройкі». Так што, Антаніна Сяргееўна, другой ведамасці не будзе,— і Ала Пятроўна імкліва выйшла з кабінета.

Яна чакала, што зараз яе паклічуць. Не прымірацца ж дырэктарка і завуч з яе выхадкай. Але ніхто яе не патрывожыў. Дырэктарка і завуч рабілі выгляд, што нічога не адбылося. Пры сустрэчы віталіся, як і заўсёды, нават з больш прыязнай усмешкай, чым раней. Відаць, кіраўнікі школы, зразумеўшы, што яе не пераканаць, прымірыліся. Так думала Ала Пятроўна. Сапраўды, чаго ім дабівацца? Каб двойкі перапраўіла на тройкі? Каму ад гэтага карысць? Нікому... Хай лепей горкая праўда, чым салодкі падман. Так разважала Ала Пятроўна і не сумнявалася, што разважала правільна. І таму калі яе зноў перастрэла па дарозе са школы Фаіна Алегаўна, то ў яе аж настрой прапаў: Фаіна Алегаўна перадавала не самыя радасныя чуткі. На гэты раз яна мелася сказаць ёй таксама нешта непрыемнае, таму што доўга не адважвалася распачаць гаворку пра галоўнае, а ўсё лепятала то пра тое, якая доўгая і цёплая восень, то пра нейкі фільм, які ўпершыню за два гады ім удалося паглядзець з мужам у кінатэатры. Ала Пятроўна зыркнула на яе, яшчэ болей памізарнелую ў доўгім сінім плашчы, засмяялася:

— Ой, гаварыце, Фаіна Алегаўна, што ў вас там. Мяне нічым не злякаеце.

— Я сапраўды баялася,— з палёгкай уздыхнула Фаіна Алегаўна.— Бачу, у вас настрой добры, думаю, псаваць яго ці не... Гэта ж учора ішла ў сталоўку. У мяне была фортачка. Раніцай паснедаць не паспела, думаю, пайду ў сталоўку якога кефіру вып'ю. Параўнялася з дзвярыма дырэктаркі, чую крык. Прыпыніла крок. Крычала Святлана Маркаўна. Я, можа, не стала б прыслухоўвацца, каб не пачула ваша прозвішча. Спынілася насупроць дзвярэй ля акна, дастала з сумачкі свае прычындалы, давай падмалёўвацца. Думаю, калі хто будзе ісці міма, хай бачыць, што прыводжу сябе ў парадак перад тым, як зайсці да яе светласці... І вось чую. Аж захліпаецца, крычыць Святлана Маркаўна. Вы самі вінаваты, крычыць на дырэктарку, што ўзялі гэтую модніцу, якая даўно не помніць, што такое граматыка. Яна толькі ўмее пляткарыць, што я запусціла дзяцей. Яна ж ходзіць па кватэрах, расказвае бацькам, што я дрэнная настаўніца...

— Глупства нейкае,— абурылася Ала Пятроўна.— Наадварот, усяляк падкрэсліваю, што яна добрая настаўніца, а дзеці лянуюцца.

— Яна гаворыць тое, што выгадна гаварыць... Стаю, слухаю. Раптам стала ціха. Відаць, загаварыла дырэктар-

ка. Яна заўсёды ціха гаворыць, калі вельмі злая. Ледзь не шыпіць. І становіцца ветлівай. Як мёдам намазаная. Мне захацелася глянуць на іх знянацку. Адчыніла дзверы, не пастукаўшы нават. Дырэктарка сядзіць белая. Убачыла мяне, застыла з адкрытым ротам, не ведае, што сказаць. Святлана Маркаўна чырвоная, як з лазні. Відаць, рымзала. Вочы ад злосці не сінія, а зялёныя. Я кажу, хачу паглядзець ведамасць сваю, здаецца, забыла падпісаць.

«Другі раз зойдзеце»,— сказала дырэктарка і ветліва мне ўсміхнулася. Я наўцёкі з кабінета. Нечага стаяць, раз дырэктарка так усміхаецца.

— Няхай пазлуюцца...

— Каб толькі гэтым скончылася. Упэўнена, супроць вас нешта прыдумаюць. Толькі што?.. Не ведаю. Вядома, вы добра зрабілі, што паставілі двойкі. Галоўнае, чэсна... Потым у вас будзе нейкі рост паспяховасці. Але гэтыя двойкі яны не даруюць. Пераканана. І зробяць яны гэта на педсавеце. Толькі самі не ведаюць што, таму педсавет і адкладваецца. Звычайна яго праводзілі адразу ж пасля заканчэння чвэрці, а сёлета цягнуць. Будуць цягнуць, пакуль не прыдумаюць вам якую-небудзь пастку. Упэўнена. Ім трэба факты супроць вас. Зараз будуць іх шукаць. Добра рыхтуйцеся да педсавета.

— Мне нечага рыхтавацца. Ацэнкі аб'ектыўныя. За сябе не баюся. Хай камісію прысылаюць.

— Да камісіі не дойдзе. Яны не дурныя, разумеюць, што камісія ім не паможа. А правакацыю якую прыдумаюць. Напрыклад, дамовяцца з бацькамі вашых вучняў, тыя напішуць скаргу на вас. У якую высокую інстанцыю. Потым закруціцца. І разбірацца не стануць. Ім абы зачэпка...

— Няўжо да гэтага апусцяцца? — не верыла Ала Пятроўна.

— Куды ім дзявацца? Вы сваёй прынцыповасцю, праўдзівасцю выкрываеце іх з галавой. Яны не проста злуюцца. Яны баяцца праўды. Праўда — іх канец. Яны пойдуць на ўсё, каб прымусіць вас танцаваць пад іх дудку ці пакінуць школу.

— Дзякуй вам, Фаіна Алегаўна, за папярэджанне, але буду рабіць так, як рабіла. Не хлусіла і хлусіць не збіраюся. Хай яны баяцца мяне,— і засмяялася.— Яны ўжо баяцца, раз такія злыя.

— Ой, Ала Пятроўна, вы такая смелая,— Фаіна Але-

гаўна аж забягала наперад, каб заглянуць у твар субяседніцы.— Я зайздрошчу вам. Я не магу так. Баюся,— і яе дробны тварык яшчэ болей мізарнеў, станавіўся падобны на твар пакрыўджанага дзіцяці.

Не верыць Фаіне Алегаўне яна не магла. Заўсёды яна гаварыла праўду. І зараз, бясспрэчна, сказала праўду. Не выключана, што яе здагадка наконт пераносу педсавета таксама праўдзівая. І ўсё ж Ала Пятроўна лічыла, што Фаіна Алегаўна залішне драматызуе. Не можа быць, каб дырэктарка пайшла на такія ўступкі Святлане Маркаўне. Хоць баба ёсць баба. Сама пудрыцца і заўсёды хоча хоць крышачку прыпудрыць сваю работу. Але гэта можна яшчэ неяк зразумець, дараваць. А вось каб дырэктарка пагадзілася натраўляць на настаўніцу бацькоў... Не, такога не можа быць. Гэта ўжо за межамі не толькі педагогікі, а нават элементарнай прыстойнасці.

Калі ж на другі дзень Ала Пятроўна ўбачыла на сваім уроку бацьку Васіля Жураўля, адчула, як у яе затрымцелі рукі ад нервовай узрушанасці. Знакаміты дамскі закройшчык прыйшоў на яе ўрок без дазволу. Значыцца, яму сказалі прыйсці. Каб сам надумаўся, абавязкова папрасіўся б. Тады, калі яна выпадкова трапіла на яго дзень нараджэння, заўважыла, што Журавель, нягледзячы на залішнюю балбатлівасць, быў даволі далікатны і пачцівы чалавек. Канешне, яго ўгаварылі прыйсці без папярэджання, знянацку. Ну і няхай сядзіць. Яна адкажа яму тым жа,— будзе рабіць выгляд, што не заўважае яго. Але яе ўвесь час так і цягнула глянуць у той куток, дзе сядзеў нязваны госць. І кожны раз, калі яна мелькам кідала хуткі позірк на госця, ён паспяваў перахапіць яе позірк і ў адказ прыязна ўсміхнуцца. А можа, праверыць яго, падумала Ала Пятроўна. Калі Журавель прыйшоў сам паглядзець, як яго сын адказвае, ён не пасаромеецца папрасіць выклікаць Васіля да дошкі. А калі падаслалі, ён праседзіць моўчкі.

Ала Пятроўна не выклікала Васіля да дошкі, не спытала яго і тады, калі ён падняў руку.

Бацька не папрасіў за сына.

Пасля ўрока Ала Пятроўна пацікавілася:

— Ну як, Генадзь Іванавіч, спадабалася ў нас?

— Не чакаў, не чакаў,— пачырванеў дамскі закройшчык.— Сам з цікавасцю слухаў. Вас добра слухаюць дзеці. Прычына ў тым, што нашы жэўжыкі мала вучаць дома. Вось і адстаюць. Паслухаюць вас і думаюць, усё

запомнілі. А калі які не хоча вучыцца, што зробіць настаўніца? Нічога,— і Журавель паспешліва развітаўся.

На другі дзень на яе ўрок з'явілася жанчына ў форме правадніцы пасажырскіх цягнікоў. Ала Пятроўна адразу здагадалася, што гэта была маці Юры Шагуна. Добра, што яна заглянула. Наступнага ўрока ў Алы Пятроўны няма, і яна пагаворыць з жанчынай пра яе сына.

Пасля ўрока Ала Пятроўна ўзяла жанчыну пад руку і, асляпіўшы яе белазубай усмешкай, сказала:

— Як добра, што вы зайшлі. Я даўно хацела з вамі пагаварыць...

— Каб не Святлана Маркаўна,— прызналася тая,— не зайшла б. Сустрэла мяне і кажа, што перажывае за майго сына, што той стаў горш займацца, папрасіла пабыць на вашым уроку. Можа, кажа, у сына з'явіцца больш адказнасці...

— Прыемна, што былы класны кіраўнік не забывае сваіх выхаванцаў, турбуецца пра іх,— перапыніла яе Ала Пятроўна.— Але лепш пагаворым пра вашага сына. Ён у вас жыве без нагляду. Таму і вучыцца дрэнна. Трэба нешта рабіць. Ці папрасіць каго, каб глядзелі за ім, калі вас дома няма, ці самім памяняць работу, каб не адлучацца надоўга.

— Ой, што вы! Гэта толькі сказаць лёгка — памяняць работу. Дваццаць год праездзіла. Прывыкла. А потым і стаж. Куды я пайду зараз? Я больш нічога не ўмею рабіць. Прасіла, каб мне ў Гомелі далі кватэру. Нельга, кажуць. Няма прапіскі. Мяняйцеся. Я даўно б памянялася, каб у мяне была лепшая кватэра. Хто з Гомеля пойдзе на такую? Такога дурня не знойдзеш... Ала Пятроўна, можа, школа памагла б мне атрымаць кватэру? Каб якіх пару пакойчыкаў. Я ўзяла б кватарантку. Грошай не брала б, хай за сынам глядзіць. А што?

— Баюся, што школа вам не паможа,— сказала Ала Пятроўна.— У нас многія настаўнікі на прыватных жывуць...

— Вось так заўсёды,— буркнула жанчына.— З прэтэнзіямі ўсе, а як памагчы...

— Не пра тое мы з вамі гаворым. Пагаворым лепей пра сына...

Ала Пятроўна, відаць, не была б Алай Пятроўнай, каб у гэты ж дзень, калі ў настаўніцкай сабраліся ўсе выкладчыкі, не спытала знарок гучна ў Святланы Маркаўны:

— Святлана Маркаўна, можа, скажаце, каб з баць-

коў маіх вучняў вы запрасілі на наступны мой урок? А то прыходзяць без папярэджання. Я толькі хвалююся...

Святлана Маркаўна схапіла свой плашч, партфель і выскачыла ў калідор, ляпнуўшы дзвярыма так, што ледзь не павыляталі з тых філёнгі.

Больш ніхто з бацькоў не прыходзіў. Было ясна, што яны не апраўдалі спадзяванняў Святланы Маркаўны, а можа, нават самой дырэктаркі.

Затое праз некалькі дзён на ўрок заглянула сама Антаніна Сяргееўна. Заглянула, відаць, выпадкова. Ішла па калідоры, надумала раптам заглянуць у які-небудзь клас, ну і заглянула ў той, які першым трапіўся на вочы. Выпадкова аказаўся клас Алы Пятроўны. Антаніна Сяргееўна, вядома ж, папрасіла прабачэння, што зайшла на ўрок з невялічкім спазненнем, сказала, што яна пастараецца не перашкаджаць, толькі ціхенька пасядзіць, паслухае. Ля дошкі якраз стаяў Ігар Калінаў і, як заўсёды, нічога не ведаў. Ала Пятроўна яшчэ выклікала да дошкі некалькі вучняў, выклікала самых горшых. Задавала ім самыя простыя пытанні. Ёй хацелася, каб дырэктарка ўбачыла, якія дасталіся ёй вучні.

«Ой, што ў вас за вучні? — охала і ахала Антаніна Сяргееўна пасля ўрока. І ўсё гэта з ласкаваю ўсмешкай, з такім шчырым спачуваннем, што можна было падумаць, калі яна наогул турбавалася па-сапраўднаму чыімі-небудзь поспехамі, дык гэта поспехамі Алы Пятроўны. Пра ўрок жа яна не сказала ні слова,— добры ён ці дрэнны.

На другі дзень дырэктарка зноў наведала клас Алы Пятроўны. Праўда, на гэты раз яна зайшла яшчэ на перапынку. Ала Пятроўна адчыніла дзверы ў клас, глядзь, а на апошняй парце сядзіць Антаніна Сяргееўна. Хоць і смелай жанчынай была Ала Пятроўна, і ўсё ж адчувала, што ёй увесь час нешта замінала. Каб не збіцца, не заблытацца, Ала Пятроўна мусіла часцей заглядваць у канспект, чым звычайна.

Калі ж Антаніна Сяргееўна і ў трэці раз зайшла на ўрок без папярэджання, Ала Пятроўна адчула, што ў яе не хопіць вытрымкі яго правесці. Але дапусціць, каб дырэктарка заўважыла яе ўзрушанасць, разгубленасць, яна не магла.

Ала Пятроўна агледзела клас, усміхнулася так, нібы нічога не здарылася, дастала з партфеля зборнік вершаў Мікалая Рубцова, які ўчора набыла ў кнігарні і забылася пакінуць дома. Гартаючы кніжку, сказала:

— Сёння, дзеці, у нас будзе крыху незвычайны ўрок. Я вучу вас больш двух месяцаў. Хочацца ведаць, як вы навучыліся разумець літаратурныя творы. Зараз я прачытаю некалькі вершаў, а вы мне скажыце, які з іх больш вам спадабаўся і чаму. Першы верш:

БЕРЕЗЫ

Я люблю, когда шумят березы,
Когда листья падают с берез.
Слушаю — и набегают слезы
На глаза, отвыкшие от слез.

Все очнется в памяти невольно,
Отзовется в сердце и крови.
Станет как-то радостно и больно,
Будто кто-то шепчет о любви.

Только чаще побеждает проза,
Словно дунет ветер хмурых дней.
Ведь шумит такая же береза
Над могилой матери моей.

На войне отца убила пуля,
А у нас [redacted] деревне у оград
С ветром и дождем шумел, как улей,
Вот такой же желтый листопад...

Русь моя, люблю твои березы!
С первых лет я с ними жил и рос.
Потому и набегают слезы
На глаза, отвыкшие от слез...

— Зразумелі, дзеці, пра што верш? — спытала Ала Пятроўна.

Клас прыціх, затаіўся.

— Ці нічога не дайшло?

— Дайшло,— пачуўся голас з задняй парты.

— Добра, калі дайшло. Зараз яшчэ адзін верш прачытаю, каб было з чым параўноўваць. Слухайце. Верш без назвы.

Я забыл,
Как лошадь запрягают,
И хочу ее
Позапрягать.
Хоть они неопытных
Лягают
И до смерти могут
Залягать.
Не однажды
Мне уже досталось

13. Зак. 1816

От коней,
И рыжих, и гнедых,—
Знать не знали,
Что такое жалость,
Били ■ зубы прямо
И под дых.
Эх, запряг бы
Я сейчас кобылку
И возил бы сено,
Сколько мог,
А потом
Втыкал бы важно вилку
Поросенку
Жареному
В бок...

— Дзеці, які вам верш лепей спадабаўся? — настаўніца акінула позіркам насцярожаных вучняў.

— Другі лепшы,— падаў голас Васіль Журавель.

— Чаму?

Хлопчык падняўся, пастаяў, нагнуўшы галаву, усміхнуўся:

— У ім гаворыцца пра жаранага парасёнка.

Клас выбухнуў смехам.

— Я не ведала, Васіль, што ты гумарыст. Сядай...

— А мне спадабаўся першы,— сказаў Юра Шагун,— таму, што гэта песня. Яна жаласлівая.

— Та-ак, добра. Хто яшчэ хоча сказаць?

Дзеці гудзелі, перашэптваліся, спрачаліся, але рукі болей ніхто не падаваў.

Раптам дырэктарка паднялася і, нічога не сказаўшы, пакінула клас.

Адразу ж паднялося некалькі рук.

Ала Пятроўна не думала прысвячаць увесь урок гаворцы пра вершы, але ўбачыўшы, як дзеці ажыўлена разважаюць, не перапыняла іх, прыглядалася, як хто разважае, думае. Яна была задаволена гэтым нечаканым нават для яе самой урокам. Былі задаволены і дзеці: ім не было новага дамашняга задання.

Назаўтра на яе ўрок заглянуў завуч. Праўда, Віктар Іванавіч папярэдзіў, што зойдзе, але пасядзеўшы, паслухаўшы, таксама нічога не сказаў. Толькі пажадаў пры развітанні: «Працуйце, як і працавалі».

Потым пачалі хадзіць на яе ўрокі настаўнікі. Дырэктарка сказала, няхай вопытныя педагогі паглядзяць, як вучыць дзяцей новенькая, можа, карыснае што падкажуць. Трэба ж выцягваць клас з прарыву. Не можа гэтага

зрабіць Ала Пятроўна адна, можа, калектыўна дамогуцца чаго-небудзь.

Зразумела, Ала Пятроўна толькі рада была такой увазе калег да свае працы. Праўда, яна ледзь вытрымала, калі аднойчы ўбачыла на сваім уроку Святлану Маркаўну. Спачатку хацела пакінуць клас, нават школу, пакінуць назаўсёды і болей не вяртацца. Але перамагла звычайная жаноцкая цікаўнасць. Ёй захацелася пачуць, што ж скажа пра яе ўрок Святлана Маркаўна.

Але Святлана Маркаўна нічога не сказала. Яна, відаць, брала прыклад ў дырэктаркі — больш клапаціцца пра сваё здароўе, чым пра працу, таму пасля ўрока толькі паспачувала Але Пятроўне:

— Усё добра. Але дарэмна вы так хвалюецеся. Сэрца не хопіць, калі так хвалявацца за кожнага прыдурка. Але нічога, з часам гэтая хвароба пройдзе.

Больш у Святланы Маркаўны не знайшлося ніякіх заўваг. Наогул, ніхто з настаўнікаў, хто быў на яе ўроках, не крытыкаваў яе, болей хвалілі. Некаторыя спачувалі, асцярожна, намёкамі. Ва ўсялякім разе, Ала Пятроўна была ўпэўнена, што на педсавеце, які неўзабаве сабраўся, да яе чапляцца не будуць. Няма падстаў.

У гэты дзень яна адзела новы касцюм, які прывёз з Масквы муж, ведаючы любоў жонкі да прыгожых і арыгінальных рэчаў. Касцюм быў не столькі прыгожы, колькі кідкі. Спаднічка кафейнага колеру самая звычайная, прамая, знізу завужаная. Кофта таксама традыцыйная, але наперадзе ў яе было столькі ўсялякіх кішэнек з бліскучымі замочкамі, столькі ўсялякіх вісюлек, што яна кожнага, нават абыякавага да моды чалавека, уражвала сваёй нечаканасцю. У класе, дзе праходзіў педагагічны савет, Ала Пятроўна села за першым сталом, прама перад носам у дырэктаркі. І тая, абражаная непавагай да яе, не вытрывала, села збоку, каб не бачыць перад сабой Алу Пятроўну, пакінуўшы за сталом прэзідыума завуча і сакратарку, якая пісала пратакол пасяджэння.

Вынікі за першую чвэрць падводзіў завуч. Гаварыў памяркоўна, стараўся нікога не крыўдзіць. Гаварыў пра работу ўсіх настаўнікаў па чарзе. Пра Алу Пятроўну сказаў, можа, крыху болей, чым пра астатніх, зазначыўшы, што ёй не ўдалося дабіцца паспяховасці ад усіх вучняў, у многіх за чвэрць двойкі. Гэта, бясспрэчна, вельмі прыкры факт. Але ёсць усе падставы, што становішча ў хуткім часе павінна выправіцца. Ала Пятроўна доўгі час не пра-

13*

цавала ў школе, можа, гэта нейкім чынам паўплывала на канчатковыя вынікі. Але мы ведаем, што Скачкова грунтоўна рыхтуецца да ўрокаў, багата займаецца пасля ўрокаў з адстаючымі, так што ёсць падставы спадзявацца на лепшае.

Ала Пятроўна азірнулася, сустрэлася позіркам з Фаінай Алегаўнай. Тая цялёпнула плячыма, маўляў, нічога не разумею, і паказала вачыма на дырэктарку, жадаючы гэтым сказаць, што яшчэ рана радавацца, што яшчэ не сказала свайго слова галоўны прамоўца,— Антаніна Сяргееўна. Ала Пятроўна была пераканана, што тая ўжо нічога не дадасць да таго, што сказаў завуч. Яны ж, відаць, перад педсаветам абмеркавалі даклад, прыйшлі да агульнай згоды. Не такія яны дурні, каб выносіць сваю нязгоду на калектыў. Але Ала Пятроўна памылілася ў сваіх меркаваннях. Яна гэта зразумела адразу ж, як дырэктарка, узяўшы слова пасля завуча, сказала першыя фразы.

— Я, відаць, не маю права,— пачала ўпаўголаса, як і заўсёды любіла гаварыць, Антаніна Сяргееўна,— хаваць ад педагагічнага калектыву школы, што карэнным чынам не згодна з некаторымі ацэнкамі завуча. Я гаварыла яму пра гэта, пазнаёміўшыся з дакладам, але Віктар Іванавіч чамусьці не палічыў патрэбным прыслухацца да мяне. Хачу сказаць адразу, што завучу варта быць больш прынцыповым, больш патрабавальным. Лібералізм у выніку і прыводзіць да такіх сур'ёзных зрываў, які мы назіраем у сёмых класах, дзе вядзе мову і літаратуру Ала Пятроўна. Тое, што адбылося ў гэтых класах, гэта не проста нейкая выпадковасць, гэта надзвычайная падзея ў нашай школе. Яшчэ ніколі і ніхто не радаваў нас такой колькасцю двоек. Амаль палова вучняў! Што такое двойка для вучня? Гэта траўма. Вучань перастане верыць у сябе. Бацькі наказваюць дзяцей, і часам вельмі жорстка. Двойка — гэта бяда. І пра гэта так спакойна гаворыць завуч. Нічога не магу зразумець. Больш таго, ён стараўся апраўдаць Алу Пятроўну. Не, не спакойна трэба гаварыць пра гэта, а крычаць... А галоўнае, нам трэба з вамі разабрацца, што ж там адбылося. Я не хачу сказаць, што двойкі атрымалі былыя выдатнікі. Не, яны заўсёды былі сярэднімі вучнямі. Але яны паспявалі, бо з імі працавалі. Я сама хацела разабрацца, у чым справа. Наведала некалькі ўрокаў Алы Пятроўны. Урокі як урокі. Больш удалыя, менш удалыя. Усялякія. Але Ала Пятроўна недаравальна разбазарвае час. Іншы раз замест урока наладжвае гутаркі не

па праграме. Выпадкова я аднойчы трапіла на такую гутарку. Настаўніца прачытала вучням некалькі вершаў падазронага зместу і папрасіла, каб дзеці ацанілі іх. Не ведаю, можа, такія гутаркі і карысныя, але нельга ж імі замяняць урокі. Можа, якраз з-за гэтага Ала Пятроўна не сумела за два месяцы хоць трошкі навучыць дзяцей. Ала Пятроўна доўгі час не рабіла ў школе, адстала ад сучасных патрабаванняў. І замест таго, каб пераймаць вопыт нашых лепшых педагогаў, яна вырашыла, што яна болей за ўсіх ведае, што вучыцца ёй не абавязкова,— вось і вынік.

Ала Пятроўна выступае за чэснасць у рабоце. Гэта добра. Але трэба помніць, што чэснасць педагога ў працы без двоек. Вучоба вучняў — вось галоўны паказчык чэснасці педагога. Але, трэба сказаць, не толькі яна вінаватая. Мы ўсе не менш за яе вінаватыя, бо на ўсё гэта спакойна глядзелі праз пальцы. Чакалі лепшага. Вось і дачакаліся... Я дала слова загадчыку райана, што ў другой чвэрці мы заваюем страчаныя пазіцыі. У сувязі з гэтым хачу сур'ёзна папярэдзіць Алу Пятроўну, калі яна рашуча не зменіць свае адносіны да працы, не ліквідуе пралікі ў рабоце, не даб'ецца ў другой чвэрці поўнай паспяховасці, тады з ёй будзем размаўляць зусім на іншай мове.

Спачатку Ала Пятроўна не думала выступаць, хоць дырэктарка нагаварыла нямала лухты. Але на яе выступленне можна не звяртаць увагі. Завуч сказаў добра, праўдзіва. У дырэктаркі і завуча няма адзінства ў ацэнцы яе работы. Так што, калі ёй не ўдасца ліквідаваць двойкі ў другой чвэрці, ніхто нічога ёй не зробіць. Калі цяпер нічога не зрабілі, тады тым болей. Але выступіла Святлана Маркаўна. Пашкадавала, што яе такія добрыя ў мінулым вучні зараз дрэнна вучацца, параіла Але Пятроўне часцей бываць на ўроках калег, вучыцца ў больш вопытных педагогаў. А то пабыла ў яе, Святланы Маркаўны, адзін раз, і ўсё.

— Не хацела гаварыць я сёння,— паднялася Ала Пятроўна,— але прымусілі... Я добра ведаю, Антаніна Сяргееўна, што такое дыпламатыя, але прымяняць яе ў жыцці так, як вы, не ўмею. Не навучылася. Мала з вамі працавала. Таму зараз скажу, што думаю. Можа, гэта не сціпла, але я не знаходжу асаблівых пралікаў у сваёй рабоце. Вы іх таксама не знаходзіце, Антаніна Сяргееўна, калі гаварыць сур'ёзна. Вы некалькі разоў былі на маіх уроках і нічога не сказалі пра мае недахопы. Можа, вы іх не заў-

важылі — гэта іншая справа. Убачыўшы вас у сваім класе чацвёрты раз, падумала, праўдзе ўрок не па праграме. Ведала, што парушаю, але пайшла на гэта свядома. Думала, што скажа цяпер дырэктар, думала, не сцерпіць жа. А вы нічога не сказалі тады, чакалі педсавета... Дзякуючы вашым клопатам, да мяне пачалі хадзіць настаўнікі ледзь не кожны дзень. Усе, хто быў на маіх уроках, сядзяць тут і не дадуць мне схлусіць. Ніхто з іх не сказаў, што мае ўрокі няўдалыя. Большасць хваліла. Так што я не разумею, пра якія пралікі ў маёй рабоце вы гаворыце. Для вас, Антаніна Сяргееўна, не сакрэт, што зараз я толькі і раблю, што займаюся ліквідацыяй зусім іншых пралікаў. Вельмі істотных пралікаў маёй папярэдніцы Святланы Маркаўны. Вось яна не ўмела, не ўмее і не хоча вучыць дзяцей. Вы, Антаніна Сяргееўна, ведаеце пра гэта, таму ледзь не кожны год перакідваеце яе з класа на клас, а расстацца з ёй не можаце. Шкада. Бо хто ж вам тады будзе рамантаваць школу?.. Хай бы ўжо сядзела гэта Святлана Маркаўна як мыш, не лезла, куды не трэба. Не было б крыўдна... Я паставіла аб'ектыўныя ацэнкі. Лепшыя пастаўлю толькі тады, калі ў дзяцей будуць адпаведныя веды. Ставіць ацэнкі фармальна вы ад мяне, Антаніна Сяргееўна, не даб'ецеся. Вы дабівайцеся, каб лепей вучыла дзяцей ваша любіміца Святлана Маркаўна. А то яна замест павышэння свайго майстэрства, пачынае падсылаць на мае ўрокі бацькоў сваіх былых вучняў. І не круціце галавой, Святлана Маркаўна. Мне бацькі самі прызналіся, як вы прасілі іх пабыць на маіх уроках. Хацелі скруціць мне галаву чужымі рукамі? Не выйшла, Святлана Маркаўна. І не выйдзе. Я настаўніца. Гэта бачаць усе. А вы...— Ала Пятроўна махнула рукой і звярнулася да дырэктаркі, якая сядзела нечакана надзвычай спакойная, нават усміхалася.— А вы, Антаніна Сяргееўна, ніколі не прымусіце мяне ставіць ліпавыя ацэнкі. Будзеце прымушаць, да Масквы дайду... Вось так.

— Ого-го! — усклікнула дырэктарка.

Раптам нехта гучна ўсхліпнуў. Плакала Святлана Маркаўна. Яна падхапілася, падбегла да дырэктаркі, замахала рукамі, нешта хацела сказаць, але, пабялеўшы, пачала хіліцца на самлелых нагах. Першым кінуўся да яе завуч. Падбегла медсястра, ткнула ёй пад нос нейкую бутэлечку. Святлана Маркаўна закруціла галавой, расплюшчыла вочы. Завуч з фізруком вывелі яе ў калідор. За імі

выйшла медсястра. Дырэктарка моўчкі барабаніла пальцамі па стале. Вярнуўся завуч, сказаў:

— Усё нармальна. Адпачывае ў медпункце. Фізрук пабег званіць яе мужу.

— Ну вось што,— пачала ціха, ледзь не шэптам дырэктарка.— Я адразу заўважыла, што ў вас, Ала Пятроўна, вельмі мала ад нашага савецкага педагога, што асабліва праявілася зараз у адносінах да вашага калегі, сумленнай і патрабавальнай настаўніцы. А вы... вы хадзілі ў школу, як у тэатр ці на выстаўку мод.

— У вас вучылася,— не стрывала Ала Пятроўна.

— Каб вы думалі болей пра работу, а не пра спаборніцтва са мной, больш глыбокія веды былі б у вашых вучняў. А так... І работай і сваімі бестактоўнымі паводзінамі вы даказалі поўную няздатнасць быць педагогам. Вам не месца ў савецкай школе... Я даводжу да вашага ведама, таварышы, што буду ставіць пытанне перад інстанцыямі аб звальненні Скачковай. Мы не можам, не маем права ахвяраваць спрацаваным дружным калектывам дзеля капрызаў аднаго чалавека.

— Вы сябе маеце на ўвазе? — спытала Ала Пятроўна.

— Вашу нетактоўнасць можна не пацвярджаць,— адказала даволі спакойна дырэктарка.

— Але нельга ж адразу рабіць такія вывады,— нясмела запярэчыў завуч.

— Вам нельга,— адрэзала яму дырэктарка.— У вас вельмі мала педагагічнага стажа для гэтага. А мне можна.

— Я не бачу падстаў,— не здаваўся завуч.

— Трэба часцей бываць на ўроках,— сказала на гэта раздражнена Антаніна Сяргееўна.— Трэба кіраваць педагагічным працэсам, а не па магазінах бегаць.

Віктар Іванавіч не сказаў больш ні слова. Ніхто з настаўнікаў таксама не выступіў у абарону Алы Пятроўны. Ды дырэктарка і не дала болей нікому гаварыць, перайшла адразу ж да наступнага пытання,— аб паляпшэнні медыцынскага абслугоўвання школьнікаў. Потым гаварылі пра абсталяванне кабінетаў, пра паламаныя парты, пра работу сталовай, а пра Алу Пятроўну больш не ўспаміналі. Ну і няхай... Яна прыйшла ў школу не дзеля таго, каб яе заўважалі, хвалілі, каб яе любіла начальства. Яна прыйшла вучыць дзяцей і будзе чэсна рабіць сваю справу. Няхай дырэктарка не лякае яе, што звольніць. Ала Пятроўна не з тых, каго можна напалохаць. А калі раптам яна пачне чапляцца, Ала Пятроўна пойдзе і ўсё раскажа.

Яна ведае, куды трэба пайсці... І ўсё ж як не суцяшала сябе яна, на душы заставалася прыкрасць. Лепей бы яна маўчала. Усё роўна нічога нікому не даказала.

Пасля педагагічнага савета Ала Пятроўна не хацела ні з кім сустракацца, гаварыць. Нават з гэтай маўклівай праведніцай Фаінай Алегаўнай, якая сядзела на педсавеце, як наляканая мыш, нават слова не падала. І знікла першай. Калі яна толькі паспела выскачыць?

Ала Пятроўна зайшла ў настаўніцкую, схапіла плашч, партфель і, апранаючыся на хаду, скіравала да выхаду.

У варотах школьнага двара стаяла Фаіна Алегаўна. Нізкарослая, у доўгім цёмным плашчы, з бухматымі сумкамі ў руках, яна нечым нагадвала сухіх і легканогіх старых, што прывозяць на базар лекавыя травы.

Ала Пятроўна паімкнулася моўчкі абмінуць яе, але тая зачапіла яе:

— Ой, Ала Пятроўна, я ж вас чакаю.

Ала Пятроўна прыцішыла хаду.

— Вы так здорава сёння выступілі. Я зайздросціла вам.

— Пагана на душы ад усяго гэтага,— паскардзілася Ала Пятроўна.— Нагаварылі гадасцей адна адной, а нашта? Цяпер доўга будзем абмывацца.

— Чаму доўга? Нядоўга,— упэўнена сказала Фаіна Алегаўна.— Яны не ўяўляюць, з кім счапіліся. Яны не ведаюць вас. Мяне таксама. Яны думаюць, што я ім усё дарую. Ніколі! Я адна баялася, а цяпер... Адным словам, Ала Пятроўна, у мяне лопнула цярпенне. Болей маўчаць не магу.

— Чаму ж не выступілі на педсавеце? — хмыкнула Ала Пятроўна.— Ці ваша цярпенне лопнула пасля педсавета?

— Там выступаць, што ваду ў ступе таўчы,— не пакрыўдзілася Фаіна Алегаўна.— Я і не ўмею выступаць, я губляюся. Я напішу. У райком партыі. Не думайце, мне ёсць што напісаць. Я ўсё ведаю. Калі прымушалі перапраўляць двойкі на тройкі, нават тыя ведамасці з двойкамі захаваліся. Я ведаю ўсіх настаўнікаў, якіх таксама прымушалі гэта рабіць. Усё ведаю пра Святлану Маркаўну. Ведаю, як дырэктарка прыстрашыла завуча. Цяпер вось гісторыя з вамі. Усё ведаю. Запісана.

— Можа, пачакаць? — вагалася Ала Пятроўна.— Паглядзім, як павядзе сябе дырэктарка. Пачне яшчэ прыдзірацца, тады...

— Тады позна будзе. Тады скажуць, што мы так рэагуем на патрабаванні. І нам не паверацць. Не, калі пісаць, то трэба цяпер. Неадкладна. Сёння вас, заўтра мяне... Будзем сядзець і чакаць, пакуль нас зганьбяць? Выганяць? Наступаць дык наступаць. Напішам праўду. Я даўно збіралася напісаць. Але адной было боязна. А тут з'явіліся вы. Думаю, вось гэтая з характарам, можа змагацца за справядлівасць.

— Вы хочаце, каб я падпісалася?

— Канешне. Абавязкова,— сказала Фаіна Алегаўна.— Для вас даражэй за ўсё вучні, іх веды. Вы не зможаце лгаць. А вас прымушаюць. Нельга прымірыць дабро і зло, справядлівасць і несправядлівасць. Тым больш што гаворка ідзе пра будучае нашых выхаванцаў. Яны бачаць наша махлярства з ацэнкамі. Якія ж з іх вырастуць людзі, калі яны з дзяцінства прывыкнуць да крывадушша, зробяць яго нормай жыцця? Яшчэ, калі хочаце, гэтую беспрынцыпнасць возьмуць на ўзбраенне. З гэтым вы ніколі не прымірыцеся, ведаю. Ці хіба не так?

— Калі будзем пісаць? — спытала Ала Пятроўна.

— Хоць сёння. Вось толькі дзяцей дагледжу...

— І адразу ж прыходзьце да мяне,— папрасіла Ала Пятроўна.— Мой позна прыходзіць з работы, так што ніхто нам не перашкодзіць. А прыйдзе, на кухні замкнём,— бліснула белазубай усмешкай.

Увечары, калі яны ўселіся ў зале за сталом, узброіўшыся паперай і ручкамі, Ала Пятроўна спытала:

— З чаго пачнём?

— Я думаю так,— і Фаіна Алегаўна, зморшчыніўшы лоб так, што яе броўкі сышліся над пераносіцай, пачала разважаць.— Пачнём з таго, што наша школа перадавая ў горадзе па ўсіх паказчыках. Згодна справаздачам. А на справе ўсё не так. Тут напішам, як мы здаём ведамасці. Калі там двойкі, іх не прымаюць, не прымаюць, пакуль двойкі не перапpавяць на тройкі. Прывядзём прыклады. У мяне нямала іх. Потым паразважаем, чаму ў нас лёгка стаць прыкладным настаўнікам. Для гэтага толькі не трэба мець сумлення. Не шкадуй ацэнак, і ўсё. Таму чэсныя настаўнікі, якія змагаюцца за веды вучняў, а не за ацэнкі, заўсёды ў адстаючых. З іх смяюцца. У школе створаны такі мікраклімат, што змаганне за веды не заахвочваюцца. Гэта разумеюць дзеці і не хочуць вучыцца. Раз змаганне за веды фармальнае, то і работа з бацькамі таксама фармальная. Навошта сустракацца з імі, дамагацца, каб яны

болей сачылі за дзецьмі, цікавіліся іх ведамі, калі прасцей паставіць тройку і не турбавацца. Усё ясна і проста. А слава тая ж. Наогул, дырэктарка ўсе старанні настаўнікаў скіравала на тое, каб лепей пражыць. Навошта, напрыклад, ёй думаць пра рамонт школы, калі яе адрамантуе муж Святланы Маркаўны. І тут падрабязна апішам, як пад крылом дырэктаркі працвітаюць такія, як Святлана Маркаўна. Ну як? Такі план прымаецца?

«А ты блышка куслівая»,— падумала Ала Пятроўна, разглядаючы Фаіну Алегаўну. Цікава, чаму гэта ёй раней не стукнула ў галаву, што яна падобна на блыху? Тонень-кія ручкі, ножкі, маленькі тварык на кароткай шыі, а галава, як цяльпучок.

— Ці не падабаецца? — перапытала Фаіна Алегаўна, убачыўшы, што Ала Пятроўна задуменна маўчыць.

— Дыктуйце,— узяла ручку Ала Пятроўна.— У мяне почырк разборлівы...

## 16

У канцы дня Алесічу сказалі, што можна ісці дамоў, але ён папрасіўся застацца да раніцы.

— Спадабалася? — строга спытаў дзяжурны міліцыянер.

— Не дагледзеў адзін сон.

— Ідзі глядзі, раніцай раскажаш.

Асенні дзень толькі пачынаўся. На траве пад платамі ляжаў іней. Было ціха. Калі праязджала машына, яшчэ доўга трымаўся ў празрыстым паветры смурод згарэлага бензіну.

Алесіч адразу ж падумаў пра Кацю. З-за яе ён і застаўся на ноч, каб раніцай папільнаваць жанчыну ля аўтобуснага прыпынку,— можа, зноў будзе садзіцца.

Хуткімі крокамі скіраваў на цэнтральную вуліцу. Яна была амаль бязлюднай. Садзіліся на аўтобус і выходзілі, можа, па два-тры чалавекі. Алесіч спыніўся крыху воддаль ад прыпынку і пільна сачыў за кожным чалавекам.

З бакавой вуліцы выйшаў піянерскі атрад. Першым крочыў рослы хлапчына са сцягам. За ім — барабаншчыкі. Барабанны пошчак далёка разносіўся ў настылым паветры. Дзеці былі ў рознакаляровых куртачках, паліто нчыках. З-пад каўнерыкаў тырчэлі чырвоныя гальштукі. Высокая танклявая піянерважатая маладым голасам звон-

ка крычала: «Раз, два!.. Ігар, ты што ногі паблытаў?» Алесіч не зводзіў вачэй з калоны, пакуль яна не схавалася ў выгінастай вуліцы. Падумаў пра сына... Недзе таксама маршыруе і, можа, таксама не ўмее хадзіць пад каманду, і на яго крычыць піянерважатая. Па шчацэ прапаўзла нібы казытлівая муха — сляза. Змахнуў яе рукой, твар быў калючы. Успомніў, што даўно не галіўся...

Прастаяўшы ля прыпынку яшчэ з паўгадзіны, пайшоў шукаць цырульню.

Прытрымліваючы халаднаватымі пругкімі пальцамі шчаку, жанчына шкрабла цёплай брытвай па твары. Як электрычныя разрады, патрэсквала шчаццё.

Алесіч, адкінуўшы галаву на падстаўку, заплюшчыўшы вочы, думаў пра сваё.

Можа, не ганяцца за Кацяй? Яна ж фактычна ўцякла ад яго. І цяпер хаваецца. Можа, узяць ды вярнуцца зноў у Мінск, уладкавацца дзе на заводзе? Можа, дадуць месца ў якім інтэрнаце? Цяпер жа гэтых інтэрнатаў багата. Жыў бы, працаваў, сустракаўся б з сынам. Можа б, і з Верай яшчэ ўсё наладзілася? Яна некалькі разоў яму снілася. Хоць Каця таксама... За пятнаццаць сутак тут ён багата каго пабачыў у сне... Успомнілася Верына пісьмо. Не, такія пісьмы не пішуць, калі хочуць памірыцца... Але нічога, не дазволіць Вера хадзіць да яе дамоў, будуць бачыцца з сынам ля школы. А падрасце, сам будзе бегаць да бацькі. Не можа быць, каб ён, Алесіч, не адваяваў яго ў жонкі. Мужык з мужыком заўсёды дамовяцца. Ён пастараецца быць чулым і клапатлівым бацькам. Ды і Мінск ёсць Мінск...

— Усё, малады чалавек,— пявучы голас жанчыны вяртае яго ў рэчаіснасць.— Гадоў на дваццаць памаладзелі. Можна да дзевачак цяпер...

Алесічу не падабаецца гэты нявінны і банальны жарт кабеты. Ён моўчкі дзякуе кіўком галавы, разлічваецца і выходзіць з цырульні. Ранішняя прахалода кранае паголены твар, і ад гэтага яшчэ болей бадзёрасці і жывасці ва ўсім целе. З'яўляецца адчуванне лёгкасці і нерастрачанасці маладой сілы. Хочацца дзейнічаць, нешта рабіць. Рашэнне прыходзіць само сабой. Зараз ён пойдзе ва ўпраўленнне да Скачкова, папросіцца да іх на працу. Да буравікоў не пойдзе, хопіць, напрацаваўся. Каб уладкавацца дзе ў Зуеве. У якіх майстэрнях. Можа б, і Кацю хутчэй сустрэў тут.

Алесіч імкліва ідзе па тратуары, ідзе, як ходзяць лю-

дзі, калі ведаюць, для чаго яны жывуць і што ім трэба ад жыцця. У канторы рашуча адчыняе цяжкія дзверы на тугой спружыне. У фае ля століка з тэлефонам дрэмле стары, накрыўшы ногі сінім плашчом. Стары адкрывае вочы на стук дзвярэй, недаўменна глядзіць на Алесіча.

— Што вам трэба?

— Таварыша Скачкова.

— Прачніцеся, малады чалавек, прачытайце, што напісана на дзвярах,— бурчыць стары.

— А што там напісана? — нічога не разумее Алесіч.

— У суботу і нядзелю кантора не працуе. Сёння субота...

— Субота? — перапытвае Алесіч. Які час стаіць моўчкі і думае, што яму рабіць. Паехаць да маці? Ехаць у вёску, не ўладкаваўшыся на працу, не хацелася. Зноў старая замаркоціцца. Можа, пазваніць землячку? Раптам дома?

— Як пазваніць Скачкову дамоў? — пытаецца ў старога.— Што вы так падазрона глядзіцё на мяне? Пазваніце самі, скажыце, што з ім хоча гаварыць Алесіч, калі думаеце, што я...

Стары набраў нумар, назваўся, сказаў Скачкову, што яго просяць і адразу ж перадаў трубку Алесічу.

— Валерый Міхайлавіч, прывітанне! Гэта я...

— Дзе ты, што робіш? — спытаў, як падалося, радасна Скачкоў.

— У вашай канторы.

— Слухай, прыязджай-ка да мяне. Тут якраз яшчэ адзін наш зямляк. Кірылаў. Ведаеш такога?

— Можа, няёмка? — завагаўся Алесіч.

— Не гавары глупства. Чакаем. Нам якраз трэцяга не хапае,— і рассмяяўся.— Запомні адрас...

Паклаўшы трубку, Алесіч паўтарыў у думках назву вуліцы і нумар дома, распытаў у старога, як туды дабрацца. Праз нейкі час ён ужо націскаў на кнопку, што мацавалася на вушаку ля дзвярэй, абабітых чорным дэрмацінам. Дзверы адчыніў Скачкоў. Ён быў у белай кашулі пад гальштукам. На шыі вісеў цыратавы пярэднік.

— Заходзь, заходзь,— запрасіў ён Алесіча, праводзіў у залу.— Уладкоўвайся, дзе бачыш. Адным словам, адчувай сябе як дома. Снедаў? Не? Выдатна. Я сёння таксама доўга спаў. Каб не Кірылаў, яшчэ качаўся б у пасцелі. Ведаеш, першы практычна выхадны. Хлопцы з камісіі цягнулі ў Брэст, адмовіўся. І добра зрабіў. Як ведаў, што

заедзе Кірылаў, а потым і ты. Ну вы, сябры, пагаварыце тут, я зараз,— ён знік на кухні.

Кірылаў сядзеў у крэсле і, паклаўшы нагу на нагу, нешта пісаў у блакноце, прымасціўшы яго на калені. Прыўзняўшыся, ён паціснуў Алесічу руку, зноў усеўся, звесіўшы над блакнотам кучаравую галаву.

Алесіч адсунуў ад стала крэсла, нясмела прысеў.

— Я гаварыў Кірылаву,— прынёс Скачкоў талерку нарэзанага хлеба, спыніўся ля стала, выглядаючы, дзе б яе паставіць,— добра, што вы заглянулі. А то не ведаў бы, што рабіць. Аказваецца, у нас няма ў жыцці нічога, акрамя работы. Апынешся дома і не ведаеш, да чаго рукі прыкласці,— нарэшце знайшоў месца для талеркі, зноў знік і хутка зайшоў ужо без пярэдніка.— Ну, сябры, давайце да стала! Як кажуць, чым багаты, тым і рады. Кірылаў, кідай свае паперкі.

— Хвіліначку, мне тут пару слоў засталося, а то потым забуду,— папрасіўся Кірылаў.

— Пазаўчора быў на трыста пятай,— сеў Скачкоў за стол, пачаў адкаркоўваць бутэлькі.— Майстар сказаў, што ты звольніўся.

— Звольніўся.

— Дзе цяпер?

— Зараз у вас у гасцях,— усміхнуўся Алесіч.— А пятнаццаць сутак і адну ноч прабыў у міліцыі.

— У міліцыі? У якой міліцыі? — Скачкоў падняў зеленаватыя вочы на Алесіча.

— У Зуеўскай. Пятнаццаць сутак. Законных,— гаварыў весела Алесіч, нібы хваліўся.— Мяне раней адпусцілі б, каб хадзіў падмятаць вуліцы. Тых, хто хадзіў, адпускалі,— не хапае ў міліцыі месцаў для нашага брата. А я адмовіўся падмятаць. Не хацеў, каб мяне бачылі.

— Яшчэ міліцыі табе не хапала,— упікнуў яго Скачкоў.

— Ведаеце, Міхайлавіч, лепшага месца падумаць пра жыццё, відаць, і няма. Ніхто не турбуе, ляжыш днямі сабе. Толькі цвыркун недзе цвыркае...

На кухні забарабаніў покрыўкай чайнік. Скачкоў паспяшаўся туды, вярнуўшыся, пацікавіўся:

— А што ты натварыў?

— Адзін знаёмы чалавек, за якім я ганяўся, прама на вачах сеў у аўтобус. Я даганяць — не дагнаў. Хацеў перахапіць легкавушку, а тая, як ашпараная, на тратуар. Міліцыянер за карак. Парушаеце, грамадзянін. Стварылі

аварыйную сітуацыю, якая пагражала цяжкімі паслед-ствіямі. Перад тым я якраз трохі таго. З буравікамі ў ка-фэ. Пахла, значыцца. Ну, мяне і ў кутузку, каб не ства-раў аварыйных сітуацый. Адным словам, Валерый Мі-хайлавіч, мне трэба работа.

— Назад не хочаш? Магу зноў пазваніць начальніку канторы.

— Не. Да буравікоў не хачу.

— Майстар цябе хваліў. Казаў, што...

— Канешне, там перспектыва і ўсё такое, але... Па-куль не хачу. Можа, пазней і таго, толькі не цяпер. Ця-пер мне трэба дзе ў Зуеве. Можа, якім токарам, дызелі-стам.

— Шчыра скажу, не вельмі падабаецца мне тваё ля-тунства.

— Нельга дык нельга,— паціснуў плячыма Алесіч.

— Чаму ж нельга? Можна. Але каб не бегаў, каб хоць трохі пасядзеў на месцы.

— Часам не ўсё ад мяне залежыць.

— У рамонтнікі пойдзеш? Рамантаваць свідравіны? Удзень на выездзе, на ноч у Зуеў.

— Можна.

— Дамовіліся? Калі дамовіліся, то... Кірылаў, давай за стол!

— Іду, іду,— ён схаваў ручку.— Схема нарыса ёсць. Цяпер магу і за стол. Прыеду, адразу на машынку. Толькі давай удакладнім тое-сёе, каб не наблытаў чаго,— усеўся за стол, пачаў гартаць блакнот.

— Не мудры ты асабліва. Напішы, што людзі праца-валі як трэба, і ўсё. Ніякіх сакрэтаў. А лепей зусім не пі-шы. Не для славы сюды прыехаў.

— Нам сціпласці з табой, канешне, не пазычаць. Але загадана напісаць. Некаму здаецца, што пачытаюць пра цябе служылыя і таксама пачнуць прасіцца на нізавую работу. Слухай. Я пералічу, што ты нарабіў... Так,— ён пагартаў блакнот.— Адрамантавалі запушчаныя свідраві-ны і паставілі там больш магутныя электрапомпы. За кошт новых воданагнятальных станцый павялічылі плас-тавы ціск. Узмацнілі рамонтную службу. Кадрамі і тэхні-кай. Скарацілі на адну трэць па часе рамонтныя работы на свідравінах. Тыя свідравіны, што фантануюць, пачалі эксплуатаваць больш інтэнсіўна.

— Пра гэта зусім не трэба пісаць,— запярэчыў Скач-коў.— Выкрасьлі.

— Я пішу, што часова.

— Не трэба і часова. Гэта варварства. Мы пайшлі на гэта, каб любымі сродкамі выканаць план. Як толькі адрамантуем болей свідравін і прабурым некалькі такіх, як, напрыклад, трыста пятая, адразу ж адмаўляемся ад гэтага.

— Добра, пераканаў. Пойдзем далей,— ён зноў пагартаў блакнот.— Потым я падрабязна апісваю, што канкрэтна зроблена рамонтнікамі, потым пра новае абсталяванне, якое ўдалося раздабыць і якое трэба набыць у бліжэйшы час, каб промысел пачаў працаваць рытмічна, без аўралаў, без перагрузак, без непатрэбнай рызыкі. Далей расказваю пра камісію, якая павінна вызначыць для промысла навукова абгрунтаваны план...

— Не забудзь пра людзей. Галоўнае — яны...

— Ведаю.

— Ведаеш, а не пішаш...

Алесіч сядзеў, паглядваючы на пітво, якое яму не трэба было, прыслухоўваўся да гаворкі, у якой не прымаў удзел, і не мог пазбавіцца адчування, што ён тут лішні, шкадаваў, што наогул зайшоў сюды.

— Апошняе пытанне,— папрасіў Кірылаў.— Мы забылі пра перспектыву.

— Якая можа быць перспектыва, калі піттво на стале,— адмахнуўся Скачкоў. І калі Кірылаў схаваў блакнот, сказаў: — Дзякую, хлопцы, што зайшлі. Прызнацца, весялей жыць на свеце, калі вось так, як зараз. Разам. Ведаеце, тут, у Зуеве, сяброў пакуль няма ў мяне. Працую нядаўна, ды ў маім узросце не так лёгка і заводзіць іх.

— У цябе іх не было і ў Мінску,— буркнуў Кірылаў, зыркаючы па талерках.

Алесіч не хацеў піць гарэлку, але баяўся, што яго пачнуць прымушаць, як гэта звычайна водзіцца ў малалікіх кампаніях. Але на яго не звярталі ўвагі. Ён, патрымаўшы шклянку, паставіў яе на стол, наліў сабе мінералкі.

— Былі. Чаму ж не было? Але болей па сумеснай рабоце,— сустрэўшы недавер у вачах Кірылава, дадаў: — Праўда, нейкія недаўгавечныя. Павысіцца ці на іншую службу пяройдзе, і яго ўжо няма. Знікае. Відаць, жыццё такое. Часу не пакідае на сяброўства.

— Глупства. Пры чым тут час? — гаварыў Кірылаў, не падымаючы вачэй ад свае талеркі.— Не было ў цябе сяброў і не будзе. Ведаеш чаму? Таму што ты не рыбак. Запомні, службовага сяброўства не бывае. Кар'ерызм. Зай-

здрасць, падхалімства, разлік, рэўнасць,— усё гэта ніяк не спрыяе сяброўству сярод чыноўнікаў. Сяброўства грунтуецца на агульным захапленні, на агульных парываннях душы, на вялікай шчырасці. Сяброўства сапраўднае сярод рыбакоў, паляўнічых, кнігааматараў, урэшце, сярод карцёжнікаў,— рассмяяўся Кірылаў.

— Сярод землякоў,— уставіў Алесіч, якому хацелася таксама прыняць удзел у гаворцы.

— Іменна,— пацвердзіў Скачкоў.

— Землякі — гэта зусім іншае,— павучальна сказаў Кірылаў.— Тут роднасць. Але гэтая роднасць пачынае таксама таго. З вамі сабраліся не ў роднай вёсцы, а недзе... У роднай вёсцы нам некалі сабрацца...

— Мы з Валерыем Міхайлавічам сустракаліся,— пахваліўся Алесіч.

— Нават разам лавілі рыбу. Вось так, таварыш Кірылаў,— засмяяўся Скачкоў і тут жа перамяніў гаворку.— Слухай, Алесіч, гэта Бык жывы яшчэ? Быў у вёсцы і неяк забыўся пра яго спытаць.

— Памёр гэтым летам,— сказаў Алесіч.— Мне гаварылі, як толькі сышоў снег, ён прадаў хату. Што ты робіш? Дзе жыць будзеш? Улетку на прызбе, а ўзімку мяне не будзе. І праўда. Маці расказвала: прапіў грошы, што ўзяў за хату, і памёр...

— Была ў мяне гісторыя з гэтым Быкам,— пачаў успамінаць Скачкоў.— Залез да яго ў сад. Там расла вельмі смачная груша. Потым вымерзла. Галіна абчахнулася, я зваліўся. І зашчаміўся. Ні туды ні сюды. А тут Бык ідзе. Спыніўся, паглядзеў. Прынёс лесвіцу, вызваліў мяне. Ну, думаю, зараз і дасць. А ён насыпаў мне поўную запазуху ігруш і кажа: раз не ўмееш лазіць па дрэвах, то прыходзь да мяне, калі захочацца ігруш.

— Гэта яшчэ што? — і Кірылаў закруціў кучаравай галавой, смеючыся.— Вы не чулі, як ён з калодзежа мяне выцягваў? Гадоў дзесяць назад было. Прыехаў у госці. Увечары сабраліся з мужыкамі, пасядзелі крыху на ганку сельмага. Іду дамоў вясёлы, пад ногі не гляджу. На нашым канцы калодзеж абнаўлялі. Мянялі зруб. Паднялі крыху над зямлёй, але не закончылі. Я і шахнуў туды. Добра, што вады было мала. Лета якраз сухое стаяла. Пачаў крычаць. Холадна ж. Якраз Бык ішоў міма. Пачуў крык, апусціў цэбар. Мяне не пазнаў. Назаўтра расказваў, што некага выцягнуў ноччу з калодзежа, але яму не павервылі.

Алесічу таксама захацелася нешта расказаць землякам, але як назло ніводнага эпізоду не ўспомнілася, і ён расказаў пра Кацю, як убачыў яе, калі тая садзілася ў аўтобус, як пагнаўся ўслед, трапіў у міліцыю.

— Гэ! — усклікнуў Скачкоў.— Дык ты яе знойдзеш і збяжыш ад нас?

— Магчыма,— не хаваўся Алесіч.— Усё будзе залежаць ад яе. Пагодзіцца быць са мной, не збягу, а хату ў вас папрашу. Дасцё?

— Трэба даць, вядома,— падтрымаў яго Кірылаў.

— Я не супраць,— адказаў Скачкоў.— Я разумею, што для яго цяпер кватэра. Гэта новае жыццё. Але... Ёсць чарга, якую парушаць...

— Часам не грэх і парушыць,— заўважыў Кірылаў.

— А ведаеце, здаецца, я змагу памагчы. Брыгадзір рамонтнікаў Мустафаеў вызваляе аднапакаёўку, вось мы і аддамо яе табе,— і ўсміхнуўся Алесічу.— Дык гаворыш, усё будзе залежаць ад нявесты?

— Выходзіць, Валерый Міхайлавіч.

— Цікава,— задумаўся Скачкоў.— Мы часта гаворым пра ўсялякія высокія матэрыі, а аказваецца, галоўнае ў жыцці яна, жанчына.

— Я табе гэта ўсё жыццё даказваю,— рагатнуў Кірылаў.

Яны яшчэ б доўга сядзелі ў гэты дзень, каб не трэба было Кірылаву ехаць у Мінск. Скачкоў пайшоў праводзіць яго на аўтавакзал, а Алесіч падаўся ў інтэрнат нафтавікоў, куды загадзя пазваніў Скачкоў і папрасіў уладкаваць яго на некалькі дзён.

На другі дзень раніцай Алесіч быў у аддзеле кадраў нафтагазадабываючага ўпраўлення. Кадравік, з паголенай да бляску галавой у белай тэнісцы, доўга гартаў яго працоўную кніжку, пазіраючы на Алесіча, нібы не верыў, што гэта яго кніжка, потым зняў трубку, пазваніў:

— Валерый Міхайлавіч? Мне гаварылі пра Алесіча Івана Андрэевіча? Так. Вы добра яго ведаеце? Глядзелі яго працоўную кніжку? Дзесяткі месцаў змяніў. Акрамя грузчыка ці дворніка яму больш нічога не змагу прапанаваць... Ваша справа. Зараз,— і вярнуўшы Алесічу працоўную кніжку разам з непадпісаным накіраваннем, сказаў: — Ідзіце да начальніка,— а сам зноў нешта пачаў гаварыць па тэлефоне.

Сакратарка не дазволіла Алесічу заходзіць у кабінет

начальніка, пакуль не пераканалася, што той сапраўды запрашаў яго да сябе.

— Вітаю, вітаю! — выйшаў з-за стала яму насустрач Скачкоў: — Што, асечка? Як бачыш, у нас вельмі строга. Але нічога... Спадзяюся, ты мяне не падвядзеш?

— Зразумела,— паабяцаў Алесіч.

— Добра, калі так. Давай тваё накіраванне.

Распытаўшы, дзе знаходзіцца цэх па падземнаму рамонту свідравін, Алесіч паспяшаўся туды пехатою,— гэта было недалёка, на акраіне горада.

— Мне званіў пра вас Скачкоў,— сказаў яму начальнік цэха, малады хлапец, які сядзеў у зашклёнай будцы накшталт кіёска па продажу газет.— Гаварыў, што вы добры спецыяліст. Але... У цэху слесараў камплект. Вы не такі стары, каб сядзець на месцы. У брыгадах спецыялістаў не хапае. Работа раз'язная. Бываюць аўралы, калі дзе якая аварыя. Але заўсёды на машыне. Адвязуць і прывязуць. Дык, можа?..

— Згодзен,— Алесіч не даслухаў да канца начальніка цэха.

— Добра. Пойдзеце ў брыгаду Тарлана Мустафаева. Брыгадзір вопытны, вашых гадоў, так што паразумецца з ім будзе няцяжка. А галоўнае, ёсць у каго павучыцца. Ён сапраўдны нафтавік.

Тарлана Мустафаева Алесіч застаў у двары. Гэта быў невысокі мужчына ў вязанай шапачцы, нацягнутай на галаву ледзь не па вушы. Чорныя вусы на беларускі манер — шырокія з крыху абвіслымі канцамі — на дробным смуглявым твары. Тарлан Мустафаеў якраз збіраўся выязджаць са сваёй брыгадай. Узяўшыся за ручку адчыненых дзвярэй абшарпанага, з пагнутымі бакамі «рафіка», паставіўшы адну нагу ў шырокім гумовіку на прыступку, ён нешта гаварыў вадзіцелю грузавіка з пад'ёмным кранам.

— Салям алейкум! — падаў руку Мустафаеў.— Калі-небудзь быў рамонтнікам?

— Быў багата дзе, а вось у нафтавікоў ніколі,— адказваў Алесіч.

— Ну, калі багата дзе, то ў нас навучышся,— і ўсміхнуўшыся ў свае густыя вусы, спытаў: — Беларус?

— Беларус.

— Вельмі добра. А то робім у Беларусі, а ў брыгадзе ніводнага беларуса. Усякія нацыянальнасці ёсць, а беларуса няма. Цяпер — камплект. Сядай у «рафік»,— і зага-

даў маладому хлапцу, які ўжо сядзеў у машыне: — А ты, Мурат, застанься. Ідзі, дарагі, на прамвузел, глядзі, каб хутчэй раствор вязлі. З імі і прыедзеш...

І ўжо ў дарозе, калі выехалі за горад, брыгадзір, падсеўшы да Алесіча, спытаў:

— Мясцовы, прыехаў?

— Мясцовы. Рабіў на трыста пятай.

— Дарагі ты мой, дык ты лепей за нас ведаеш, як і што там пад зямлёй,— потым замаўчаў, углядаючыся ў акно.— У нас дома, панімаеш, горы і горы. Адну гару абышоў, яшчэ адна, а потым і яшчэ. А тут... Неба, вачэй не хапае. Харошая ў вас зямля. Людзі яшчэ лепшыя. Я прыехаў сюды вучыць вашых джыгітаў здабываць нафту. У нас яна даўно, з дзяцінства прывыкаем. Прыехаў халасцяком. Доўга быў халасцяком. Хоць нашы каўказскія красавіцы на ўвесь свет славяцца. Косы, як ноч, вочы, як глыбокі калодзеж. Зірнеш раз, прапаў на ўсё жыццё. Там я вытрымаў. А тут здаўся. Падняў рукі ўверх і кажу: «Бяры, сінявокая Ліда, я твой на ўсё жыццё». Цяпер шкадую, што пазнавата ў вас знайшлі нафту. Болей бы джыгітаў бегала ў дзіцячы садзік. Хоць мне крыўдаваць нечага. Чатырох джыгітаў падаравала мне Ліда. І яшчэ хацела, але я сказаў — хопіць. І гэтым месца мала. Хата — адзін пакой. Сам панімаеш... Аднойчы ўвечары сяджу з джыгітамі сваімі, нешта робім, чакаем маму. Заходзіць. Не, не Ліда. Панімаеш, сонца. Такое і ў кіно не ўбачыш... Потым жонцы кажу, каб не пікадала мяне аднаго дома. У Мустафаева ёсць вочы, ёсць сэрца. Мустафаеў жывы чалавек. Паглядзела настаўніца, як мы жывём з джыгітамі і пайшла. Як і не было яе. Як сон. А праз некаторы час мяне выклікаюць у прафком і просяць прынесці даведкі. Панімаеш, хочуць даць мне трохпакаёвую кватэру. Я кажу Лідзе, чатыром джыгітам будзе сумна ў трох пакоях. Яна зразумела мяне. А ў цябе колькі джыгітаў?

Алесіч успомніў Косціка, сына, Веру... Нічога не адказаў, толькі ўздыхнуў.

— Калі няма, то не марудзь. У нас на Каўказе старых коней не купляюць і не прадаюць. Каму трэба стары конь. Стары конь, як тупы кінжал...

Усю дарогу Алесіч прыглядаўся да брыгадзіра, прыслухоўваўся да яго гаворкі з членамі брыгады, да тых жартаў, якімі абменьваліся паміж сабой рабочыя, не забываючы часам шпурнуць калючае слова і ў брыгадзі-

ра. Складвалася ўражанне, што адносіны паміж рабочымі і брыгадзірам занадта ўжо свойскія, ледзь не панібрацкія. Пры такіх адносінах вельмі цяжка трымаць дысцыпліну, а без дысцыпліны работа не тая. Але як жа здзівіўся Алесіч, убачыўшы гэтых «несур'ёзных» людзей, калі яны пад'ехалі да станка-качалкі, якую і павінны былі рамантаваць.

Качалка застыла, апусціўшы да самае зямлі сваю месяцападобную галаву, нечым нагадваючы стомленага каня, які схаваўся ў зарасніках высокай травы ад мух.

— Даўно не ступала нага нашага брата тут,— сказаў Мустафаеў, сабраўшы ля станка сваіх спадручных.— А вы ведаеце, што для нашага ўпраўлення кожная недабраная тона нафты. Панятна? Значыцца, так, таварышы. Трэба ажывіць гэтую свідравіну. Мы не ведаем, што там такое. Абарваліся штангі ці, можа, запарафініліся трубы. А можа, і тое і другое. Падымем штангі, паглядзім, што там такое? Панятна? За дзела! Ты,— ён глянуў на Алесіча,— будзеш памагаць машыністу пад'ёмніка. Прыглядайся, як і што. Нам трэба яшчэ адзін машыніст. Вучыся.

Замацаваўшы пад'ёмную вышку адцяжкамі, пачалі падымаць штангі. Іх складвалі тут жа ля свідравіны адна на адну, як звычайна складваюць доўгія жэрдкі. Штангі былі замасленыя, з наліплымі наплывамі парафіну, камкамі пяску, гліны.

Усе працавалі засяроджана, моўчкі, без мітуслівасці, бездакорна выконваючы загады свайго брыгадзіра.

Неўзаметку мінула паўдня.

Машыніст пад'ёмнай установкі Запарожац ужо некалькі разоў даволі выразна паглядваў на сонца.

— Тарас, вочы аслепіш,— заўважыў Мустафаеў.— Падымем штангі, паедзем на абед.

Паднялі абламаную штангу. Яе абламаны канец быў тонкі, завостраны. Штанга і абламалася ў тонкім месцы.

— Перацёрлася,— сказаў Мустафаеў і махнуў машыністу, каб глушыў рухавік.— Ці ў свідравіны недзе выгіб, ці пясчаная пробка. Вось што, Сцяпан,— звярнуўся брыгадзір да вадзіцеля «рафіка».— Паедзеш у цэх. Хай зараз жа вязуць пару новых штанг. Можа, яшчэ якую прыйдзецца мяняць. І колакал. Без яго астатнія штангі не падняць. Па дарозе закінеш нас у сталоўку. Сам паабедаеш потым. Ну, таварышы, як гавораць у нас на Каўказе, па конях!

Усе селі ў «рафік».

Па дарозе Мустафаеў сказаў Алесічу:

— Будзеш добрым рамонтнікам. У цябе ёсць рэакцыя. Я назіраў. Для рамонтніка рэакцыя — усё. У нашай справе часам секунда багата значыць...

У калідоры сталовай распранулі брэзентавыя курткі, памылі рукі, зайшлі ў залу. Там ужо нікога не было. Афіцыянткі прыбіралі памяшканне.

— Салям алейкум! — павітаўся Тарлан Мустафаеў з дзяўчатамі, узяў паднос і пайшоў да раздатачнай. Алесіч стаў у чарзе апошнім. Праз акенца зглянуў на кухню.

Абедалі, як і працавалі, моўчкі і засяроджана.

Алесіч раптам пачуў, як усе заварушыліся. Пагледзеў,— усе скіравалі свае позіркі ў адзін бок, некуды за яго спіну.

— Добры дзень! — прагучэў за спіной ціхі Кацін голас.— Прыемнага апетыту!

Азірнуўся і Алесіч. Падняўся. Які час стаяў моўчкі, не мог паварушыць анямелым языком.

— Я прыглядаюся, прыглядаюся, ты гэта ці не ты? — Ёй, відавочна, было прыемна сустрэць Алесіча, асабліва такім разгубленым.

Загрукалі табурэткі. Рамонтнікі як па камандзе падняліся і выйшлі.

— Даўно ты тут? — ледзь стрымлівала смех Каця. Яе шэрыя вочы радасна блішчэлі.

— А ты? — выдыхнуў Алесіч.

— Пару тыдняў.

— Я нядаўна,— перахапіў паветра Алесіч і загаварыў болей спакойна.— Звольніўся з трыста пятай адразу ж пасля цябе. Што здарылася? І не сказала...

— Доўга расказваць...

— Можа, сустрэнемся? — зусім узяў сябе ў рукі Алесіч.— У колькі заканчваеш?

— У восем.

— Падысці?

— Падыдзі,— неяк абыякава сказала яна яму і пайшла на кухню.

Алесіч стаяў і глядзеў ёй услед, пакуль Каця не схавалася за дзвярыма. Яго збянтэжыла, што яна так спакойна, нібы незадаволеная чым, рассталася з ім. Быццам ёй усё роўна, сустрэнуцца яны ці не. Ён таксама добранькі. Нібы язык праглынуў. Можна было пагаварыць, ніхто ж не перашкаджаў. Але цяпер не пабяжыш услед.

Выйшаў са сталоўкі, далучыўся да таварышаў, што стаялі ў чаканні «рафіка».

— Сябры! — весела пачаў Тарлан Мустафаеў.— Ганьба нашай брыгадзе, калі такое сонейкае ўзыдзе над іншым працоўным калектывам. Дарагі наш Алесіч, гонар нашай брыгады ў тваіх руках. У мяне, сябры, такая прапанова. Калі Алесіч не заваюе гэту шэравокую, мы яго выключым з брыгады. Хто за?

Усе дружна паднялі рукі.

Пад'язджаючы да свідравіны, Тарлан Мустафаеў ціха спытаў у Алесіча:

— У колькі трэба?

— У восем.

— Адпусцім.

Працаваў Алесіч як у сне, амаль не ўсведамляючы таго, што рабіў. У галаве стаяла Каця. Снежным комам нараставі словы і думкі, якія ён сёння скажа ёй. Калі заставалася мінут дзесяць да васьмі гадзін, а штангі яшчэ ўсе не паспелі апусціць, да разгубленага і засмучанага Алесіча падышоў брыгадзір.

— Слухай,— сказаў ён.— Бяры «рафік» і едзь. Самі справімся. Сапраўдны джыгіт не павінен спазняцца. Машыну назад прышлеш.

У вокнах сталоўкі яшчэ гарэла святло, кідаючы жоўтыя плямы на шэры асфальт перад будынкам, на клумбу-ўзгорачак са счарнелым каліўем ад былых кветак. Алесіч стаяў воддаль, у цемры, куды не даставала святло, каб не быць заўважаным, сачыў за дзвярыма.

Падышоў, грукаючы бляхай, невялічкі аўтобус. Патухла святло у вокнах. Зырчэла лямпачка толькі над дзвярыма. Выйшла некалькі жанчын з цяжкімі сумкамі, павалюхалі да аўтобуса. Апошняй паказалася Каця — у белай хустцы і ў цёмным паліто. Замкнула дзверы, спынілася, агледзелася.

Алесіч выйшаў ёй насустрач.

Каця махнула вадзіцелю рукой, каб яе не чакалі. Паветра напоўнілася чадным смуродам, аўтобус крануўся, стаў паварочваць на дарогу, абмацваючы яе фарамі.

Яны пайшлі пехатою.

Дарога ішла праз поле, блякла асветленае маладым месяцам. Наперадзе мігаў агнямі Зуеў. Крыху збоку ад цэха падрыхтоўкі нафты піянерскім гальштукам калыхалася кволенькае полымя...

— Я шукаў цябе,— сказаў Алесіч.

— Я так і знала. Таму засталася тут.

— Чаму ж нічога не сказала?

— А навошта? — засмяялася Каця.

Алесіч насупіўся. Які час зноў маўчалі. Яна ішла, размахваючы вольнымі рукамі, павесіўшы на плячо невялічкую сумачку. Ёй, відаць, прыемна было крочыць полем, дыхаць вечаровым студзёным паветрам пасля кухоннай гарачыні. Алесіч злаваўся на сябе, што ўсе словы, якія ён запашваў для яе, як вымела з галавы. І ўжо ля самага горада, разумеючы, што там, на асветленых вуліцах, ён нічога ёй не скажа, рашуча пачаў:

— Слухай, Каця. Я маю загад свайго брыгадзіра Тарлана Мустафаева. Ён сказаў, калі не заваюю цябе, то ён выключыць мяне са свае брыгады... Вось так, Каця.

Яна зыркнула на яго бліскучымі цёмнымі ў начной шэрані вачыма...

— Без загаду не можаш?

## 17

Генеральны дырэктар пазваніў на кватэру раніцай.

— Скачкоў слухае,— крыкнуў устрывожана ў трубку. Яго заўсёды палохалі такія раннія званкі: званілі такой парой толькі тады, калі здаралася дзе якая-небудзь аварыя.

У трубцы гучаў спакойны хрыплаваты голас стомленага чалавека:

— Дарашэвіч звоніць.

— Добрай раніцы, Віталій Апанасавіч,— стрымана павітаўся Скачкоў.

— Прабачце, Валерый Міхайлавіч, што рана турбую. Ведаеце, старому не спіцца.

— Адкуль звоніце, Віталій Апанасавіч?

— Са свайго кабінета.

— Як адпачылі? Як адчуваеце сябе?

— Вы, Валерый Міхайлавіч, адразу багата хочаце ведаць... Будзем лічыць, што ўсё нармальна, раз на рабоце. Як у вас?

— Можна лічыць, што таксама ўсё нармальна.

— Гэта добра,— які момант чулася толькі ў трубцы цяжкое дыханне.— Але мне падалося, што ў вашым голасе мала ўпэўненасці.

— Вы ж ведаеце, як даецца нам план.

— Прыкладна... А ўсё ж, як з планам?

— Трымаемся на ўзроўні. Вось які ўжо месяц без зрываў. Бывае, што і перавыконваем.

— Гэта добра. А як наконт перспектывы? Як вы ўяўляеце сабе заўтрашні дзень промыслу?

— Мне хочацца, Віталій Апанасавіч, адказаць вам вашымі ж словамі,— засмяяўся Скачкоў.— Багата хочаце ведаць адразу. А калі сур'ёзна, то лічу, што ўсё тое, што робім сёння,— стараемся абнавіць абсталяванне, адрамантаваць, увайсці ў нармальны рытм,— будзе карысна для заўтрашняга дня. Спадзяемся, што хутка камісія скончыць работу, тады таксама многае праясніцца...

— Валерый Міхайлавіч,— перапыніў яго Дарашэвіч.— Хачу пад'ехаць да вас. Паглядзець, як і што там, паездзіць.

— Сабраць калектыў?

— Не трэба. Хачу сустрэцца толькі з вамі. Ёсць пра што пагаварыць...

Скачкова пытанне генеральнага дырэктара пра перспектыву ўстурбавала па-сапраўднаму. Калі гаварыць шчыра, то гэта самае балючае месца ў яго рабоце. І зусім не таму, што Скачкоў не надаваў ніякага значэння заўтрашняму дню промыслу, а проста з-за паўсядзённай мітусні не знаходзілася часу грунтоўна падумаць пра гэта, параіцца са сваімі спецыялістамі. Відаць, трэба адкінуць усё, нават самае-самае тэрміновае. Але спачатку самому трэба больш канкрэтна ўяўляць, чаго ён хоча. Што ён скажа падначаленым? Не толькі ж іх слухаць. Такі ўжо абавязак кіраўніка.

Пра ўсё гэта хацелася падумаць, падумаць неадкладна, і таму ён вырашыў прайсціся на работу пехатою. Бо ў канторы не дадуць засяродзіцца тэлефонныя званкі. Ды і людзі, даведаўшыся, што ён раней прыходзіць, таксама стараліся перахапіць яго, каб пашчыраваць без перашкод.

Машыну, якая прыязджала па яго асеннімі дажджлівымі раніцамі, прапанаваў жонцы.

— Што ты? — адмовілася тая.— Па дарозе толькі і падыхаеш свежым паветрам.

Яшчэ трымалася ранішняя шэрасць. З дрэў абрываліся буйныя кроплі і з шоргатам падалі ў прывялае лісце, якога вецер багата пазмятаў пад платы. Дым з комінаў вывальваўся на мокрыя дахі домікаў, сінечай напаўняў прыціхлыя прысады, выпаўзаў на вуліцу. Пахла пры-

шкваранным салам, падгарэлай цыбуляй. Плылі нізка цяжкія воблакі. Здавалася, што ўсё неба сунулася. Хоць бы не было дажджу, падумаў Скачкоў, бо тады не вельмі паездзім са старым і хворым Дарашэвічам.

Некалі Скачкоў не такой уяўляў сваю работу. Яму думалася, што ён будзе займацца агульным кіраўніцтвам, узгадненнем розных пытанняў з інстанцыямі, вызначэннем стратэгічных накірункаў у рабоце калектыву. А паўсядзённую цякучку, драбязу возьмуць на сябе розныя службы, якіх нямала ва ўпраўленні. Начальнікі аддзелаў, цэхаў, майстры, брыгадзіры. Недзе ўсіх каля чатырохсот чалавек. Нямала на дзве тысячы рабочых. Каб кожны з кіраўнікоў выконваў сумленна свае абавязкі, яму, начальніку ўпраўлення, нечага было б і рабіць. Ва ўсялякім разе, не плыло б у яго кабінет столькі драбязы, разабрацца ў якой часам не хапала дня. Іншы раз складвалася ўражанне, што ніхто ва ўпраўленні не бярэ на сябе ніякіх пытанняў, усе са ўсім ідуць да яго, Скачкова, усё стараюцца ўзгадніць з ім. Не падвезлі трубы на буравую, звоняць яму. Пабіўся які слесар з жонкай, без Скачкова нібы не ведаюць, як рэагаваць. Не хапае пакрышак, зноў да яго... Падначаленых багата, а ён, начальнік, адзін, і пакуль што не самы вопытны ў практычнай рабоце. Колькі ні гаварыў, каб стараліся болей браць на сябе, дык як глухія. Маўляў, толькі ён, начальнік, і можа вырашыць, бо іх не заўсёды слухаюць... Ці, можа, гэта ад таго, што развялося ва ўпраўленні багата адказных асоб і ў выніку ніхто ні за што не адказвае. Яно нядрэнна, што ён, начальнік, ведае становішча ва ўпраўленні да драбніц. Але занадта ж багата гэтых драбніц на аднаго. Ва ўсім гэтым ён, відаць, сам вінаваты. На пачатку работы свядома ва ўсё ўнікаў, хацеў болей ведаць, і не заўважыў, як пачаў захлынацца ў цякучцы.

І вельмі добра, што пазваніў Дарашэвіч і нагадаў пра галоўны яго абавязак. Відаць, Дарашэвіч лепей за яго, Скачкова, разумее, што робіцца тут, у яго пад носам. Усё ж разумны гэты Дарашэвіч. Шкада, што не скаліся з ім добрыя адносіны. Вечна ён незадаволены, раздражнены — не хацелася і сустракацца.

Наогул, трэба карэнным чынам перастроіць сваю работу. Неадкладна, з сённяшняга дня. Дабівацца, каб кожны выконваў свае абавязкі, не спіхваў іх на іншых. Тэрмінова трэба змяніць парадак прыёму наведвальнікаў. А то захацелася быць занадта дэмакратычным, вось

прымаў усіх без усялякага абмежавання. У любы час. Гэта хутка ўсвоілі ўсе ва ўпраўленні і павалілі да яго.

У прыёмнай сядзела некалькі чалавек, чакалі яго. Звычайна ён радаваўся, што людзі чакаюць яго. Скачкоў бачыў у гэтым адзнаку яго аўтарытэту. Сёння ён інакш паглядзеў на наведвальнікаў. Павітаўшыся, не стаў запрашаць іх да сябе, як рабіў раней, а запрасіў толькі сакратарку.

— Вось што, Эма Рыгораўна,— сказаў ёй. Ёсць просьба. Зрабіце для мяне і маіх намеснікаў, загадчыкаў аддзелаў аб'явы, калі хто прымае па асабістых пытаннях. Час размяркуйце самі. Думаю, у вас тут разуменне болей, чым у мяне. Цяпер наконт прыёму наогул наведвальнікаў. Завядзіце кнігу ўліку тых, хто просіцца на прыём...

— Такая кніга заўсёды была. Пры вас, праўда, я не карысталася ёй...

— Трэба зноў карыстацца. Запісвайце, па якому пытанню і хто просіцца да мяне, і накіроўвайце да таго, хто гэтымі пытаннямі займаецца.

— Ясна, Валерый Міхайлавіч.

— Пачынайце зараз жа запісваць, раз кніга ўліку ёсць. Усіх, хто там сядзіць у прыёмнай. Запрасіце галоўнага інжынера, геолага, начальніка тэхналагічнага аддзела.

Твар сакратаркі, заўсёды мяккі і добры, раптам пастражэў, яна вышэй узняла галаву, паправіла рукою на галаве белыя валасы і нечакана цвёрдаю паходкай выйшла з кабінета.

Хутка зайшлі насцярожаныя Працько, Бурдзей і Кацянок. «Відаць, паказала свой адміністрацыйны характар Эма Рыгораўна,— падумаў Скачкоў,— што ўсе такія перапалоханыя».

— Указанняў ніякіх не будзе,— усміхнуўся Скачкоў.— Сядайце, калі ласка... У вас на рабоце нічога пільнага няма? Ніхто нікога не чакае? Можам гадзінку-другую пагаварыць? Ну і цудоўна... У жыцці кожнай установы, кожнага кіраўніка наступае такі момант, калі неабходна тое-сёе перагледзець, удакладніць. Гаворка ідзе пра далейшае ўдасканаленне нашай з вамі работы. Я, чалавек новы, займаўся ўсім, унікаў ва ўсё. Мне трэба было ўсё ведаць. Мушу сказаць, што мой лікбезаўскі перыяд скончыўся. Я даў указанне сакратарцы, каб для кожнага з нас склала графік прыёму наведвальнікаў. Трэба пакончыць са стыхіяй. Каб, напрыклад, да мяне не ішлі з ты-

мі пытаннямі, якімі займаюцца іншыя супрацоўнікі і якія яны павінны вырашыць. Гэта дасць магчымасць мне больш займацца сваімі непасрэднымі абавязкамі. І не толькі мне, а ўсім вам.

— І да нас дабраўся,— прашаптаў Кацянок, нахіліўшыся да галоўнага інжынера.

— Вы нечым незадаволены? — заўважыў гэты рух Скачкоў.

— Тут гавораць, што ваш лікбезаўскі перыяд скончыўся не на карысць падначаленым,— засмяяўся Працько.

— Гэта яшчэ кветачкі, а ягадкі наперадзе,— сказаў галоўны інжынер, і яго маршчыністы твар пасвятлеў, на нейкі момант засвяціўся глыбіннай усмешкай і адразу ж патух, пасля чаго здаўся яшчэ больш пастарэлым.

— Вось і пагаворым пра ягадкі,— стрымана ўсміхнуўся Скачкоў.— А то з-за паўсядзённай калатнечы неяк забылі пра заўтрашні дзень. Хоць пакуль што не да яго было. Працавалі фактычна ў аварыйнай сітуацыі. Працаваць заўтра так не можам і не маем права. Трэба ў бліжэйшы час выйсці на новы ўзровень арганізацыі працы і тэхнічнай узброенасці. Але пакуль што памяркуем, як будзем працаваць у будучым годзе. Камісія, як ведаеце, не скончыла свае даследаванні, такім чынам яе вывады не паўплываюць на план будучага года. Ён, відаць, застанецца без змены. Справімся з ім ці не? Думаю, у будучым годзе нашы магчымасці палепшацца. Будзе болей капітальна адрамантаваных свідравін, закончыцца будаўніцтва яшчэ адной воданагнятальнай станцыі. Уступяць у строй некалькі новых свідравін. Але ці ўсё намі зроблена, што можна зрабіць? Ці ўсе рэзервы выяўлены? Ці ўяўляем мы, з якімі праблемамі сустрэнемся заўтра? А варта б было падумаць пра гэта. Упэўнен, многае можна прадугледзець.

Зараз, напрыклад, мы рамантуем тое, што дайшло да ручкі. У бліжэйшы ж час трэба скласці план прафілактычнага рамонту. Мы думаем над такім планам, ці ўсё жыццё будзем толькі лапіць дзіркі? Цяпер пра механізацыю. Рэзервы тут, уяўляецца мне, сапраўды незлічоныя. Усе мы ведаем, якое абсталяванне на промысле. Трэба скласці графік абнаўлення гэтага абсталявання. Нам трэба перспектыўная схема абваднення радовішчаў, план тэхналагічнай апрацоўкі свідравін... Ды ўсіх праблем не пералічыць. Вы спецыялісты і ведаеце больш за мяне.

Вось і падумайце над гэтым. Галоўнае патрабаванне да мерапрыемстваў — мэтазгоднасць, рэальнасць, своечасовасць. Усялякая недакладнасць будзе расцэньвацца як неахайнасць і абыякавасць да выканання сваіх абавязкаў.

— Сапраўды, ягадкі,— хіхікнуў Кацянок.

— Давайце падумаем і вось пра што,— Скачкоў нібы не пачуў рэплікі Кацянка.— Пра ўмовы працы кожнага рабочага на яго рабочым месцы. Возьмем, напрыклад, нашых рамонтнікаў. Як у нас робіцца? Раніцай людзі едуць за сотню, а то дзве сотні кіламетраў на работу, увечары вяртаюцца назад. Губляем час, ганяем тэхніку. А можа, абсталяваць некалькі машын так, каб там можна было разагрэць абед, адпачыць, пераначаваць. Каб нашы рамонтнікі працавалі, не паглядваючы на гадзіннік. Адным словам, гаворка ідзе пра культуру вытворчасці. Культуру быту. І не толькі рамонтнікаў. Варта б на гэту праблему глянуць шырэй. Падумаць пра далейшае ўдасканаленне вытворчасці, транспарту, забеспячэнне буравых тым жа растворам, з якім заўсёды мы чамусьці спазняемся. Можна тут пазбегнуць недахопаў? Думаю, можна... А ўявіце сабе, нам раптам паведамляюць, што адкрылі новае радовішча нафты. Гатовы мы да гэтага?

— Знадаела чакаць тую нафту,— сказаў Бурдзей.— Геолагі, відаць, самі не вераць у поспех...

— Гэта ж разведка,— не пагадзіўся Скачкоў.— Сёння няма, а заўтра ёсць. Расчараваліся яны там ці не, а разведку вядуць, шукаюць. Як бачыце, у нас з вамі нямала праблем, пра якія трэба думаць і думаць...

— Калі тут думаць? — хмыкнуў Кацянок, які ўвесь час сядзеў са скептычнаю ўхмылкаю на твары, нешта запісваючы ў блакноціку.— Кожны дзень трымціш, каб дзе што не зламалася, не ўзарвалася. Тут, Валерый Міхайлавіч, не да фантазій...

— Я ніколі не лічыў сябе фантазёрам, Вячаслаў Мікітавіч,— без крыўды заўважыў Скачкоў.— А то, што вы кожны дзень трымціце, як прызналіся, дык гэта ў значнай ступені ад таго, што мы не сваімі пытаннямі займаемся. У нас ёсць каму трымцець замест вас... А вось тое, пра што я гавару,— гэта праблемы для нас з вамі.

— Валерый Міхайлавіч, вы так гаворыце, нібы я супроць,— пацісвуў плячыма Кацянок.— Я заўсёды лічыў і лічу, што гэта даўно трэба было зрабіць. Але ўсе мы так загрузлі ў цякучцы... Самі ведаеце, якая сітуацыя...

— Вось каб не было болей такіх сітуацый, мы павін-

ны перагледзець сваю работу. Кожны в нас. І вы, і я... І, канешне, галоўны геолаг. Для геалагічнай службы ў нас таксама работы багата. На трыста пятай атрымалі нафту там, дзе не чакалі. Колькі яе там? Можа, цэлае мора?

— Не, не мора,— запярэчыў Працько.— Хутчэй за ўсё мы папалі на лакальную лавушку.

— Усцешыў,— засмяяўся Скачкоў.

— А вось якіх памераў тая лавушка, не ведаем,— разважаў далей галоўны геолаг.— Я зараз працую над запіскай генеральнаму дырэктару, каб даразведалі плошчы вакол трыста пятай, а можа, і па ўсяму радовішчу. Не выключана, што ніжэй усюды ёсць нафта.

— Бачыце, Вячаслаў Мікітавіч, нягледзячы на цякучку, чалавек рыхтуе свае прапановы аб даразведцы плошчы,— упікнуў Скачкоў начальніка тэхналагічнага аддзела.

Кацянок толькі пакруціў галавой.

— Усім нам нялёгка,— сказаў Бурдзей.— Капаемся, як тыя жукі... Своечасова падняў пытанне Валерый Міхайлавіч...

— Маіх заслуг тут няма,— адмахнуўся Скачкоў.— Самі абставіны дыктуюць...

Прагаварылі доўга, ледзь не да абеду.

Калі ўсе выйшлі з кабінета, Скачкоў глянуў на гадзіннік. Вось-вось павінен быў пад'ехаць Дарашэвіч. Ён заўсёды быў дакладным. Скачкоў апрануў плашч, надзеў капялюш, адкрыў у акне фортачку, выйшаў з надымленага кабінета.

— Калі будзеце? — спытала ў яго Эма Рыгораўна.— Раптам шукаць будуць.

— Да вечара не буду. Калі што важнае, звяжыцеся па рацыі,— і, развітаўшыся з сакратаркай, спусціўся на першы паверх. Праз акно ў калідоры ўбачыў, як да ўпраўлення пад'ехала чорная «Волга», паспяшыў да выхаду.

— Валерый Міхайлавіч! Давай у машыну! — паклікаў, прыадчыніўшы дзверцы, Дарашэвіч. Калі Скачкоў усеўся, сказаў: — Паглядзім тваю гаспадарку. А па дарозе будзеш расказваць, якія ў вас тут навіны? Дарэчы, што адбылося на трыста пятай?

— Загадка, Віталій Апанасавіч, але прыемная,— глядзеў Скачкоў на памаладзелы твар генеральнага дырэктара.— Прабурылі да праектнай глыбіні, атрымалі нафту.

Усё, як чакалі. Але нафты той ледзь-ледзь. Працько звярнуў увагу, што не дабурыліся да мацерыковай пароды. Кажа, трэба прабурыць глыбей. Маўляў, якія дваццаць тон у суткі нас не выратуюць, але затое будзем ведаць, што там. Усе супроць. Толькі час змарнуем, і так з планам гарым... Усялякае гаварылі. Я, вядома, здаўся, падпісаў просьбу буравікам. Тыя не адмовілі. Прабурылі паўсотні метраў, паднялі керн. Нафтаносны. Паставілі на выпрабаванне. Фантан! Галоўны геолаг начаваў і дняваў на буравой. Як носам чуў, што там ёсць нафта.

— Пакажыце мне вашу выратавальніцу.

— Сапраўды выратавальніца. Істотна памагае спраўляцца з планам.

— Камісія што робіць?

— Працуе. Стараюцца. Але да канца года, відаць, не скончаць. План на будучы год застанецца той жа.

Машына спынілася ля прахадной цэха падрыхтоўкі нафты.

Дарашэвіч выйшаў з машыны, па прывычцы пагладзіў цяпер ледзь прыкметны жывоцік. Наогул, Дарашэвіч прыкметна схуднеў. Шэрае паліто вісела на ім як на калу. Ён агледзеў бліскучыя белыя цыліндры, шырокія прысадзістыя ёмістасці, памуляў мясістымі крыху засмяглымі губамі, уздыхнуў:

— Вось тут увесь я. Можа, самае значнае, што мне ўдалося зрабіць. Гэты цэх... Але занадта вялікі. Аказаўся непатрэбным. Мала нафты для яго. Ведаеце, Валерый Міхайлавіч,— ён паклаў худую кастлявую руку на плячо Скачкова,— што такое не вязе? Мне ніколі не вязло ў жыцці... Сюды прыехаў спачатку начальнікам упраўлення. Да гэтага ў Куйбышаўскай вобласці рабіў. Там нафта кончылася, упраўленне закрылі. Мяне сюды. Тут толькі ўсё пачыналася. Недзе побач з гэтым цэхам восьмая свідравіна. Па трыста тон нафты давала ў суткі. Гэта была першая свідравіна, якая дала нафту. Вялікую нафту, як тады думалі. Тут і пабудавалі цэх. Спачатку часовы, потым гэты. Зрабілі аб'яднанне. Мяне на аб'яднанне. Ну, думаю, нарэшце павязло. Панаехалі людзі з усіх канцоў краіны. Працавалі дружна...— і раптам нечакана для Скачкова генеральны дырэктар сказаў зусім пра іншае.— Але... сяброў так і не завёў. Ці ўзрост такі, калі цяжка заводзіць сяброў, ці занадта горды сам... Спачатку гэтага не адчуваў. Адчуў пазней... Азірнуўся, а паскардзіцца няма каму. Вось так, Валерый Міхайлавіч. Улічыце... Кароткім

аказалася маё свята. Не ведаю, сам яго сапсаваў ці мне яго сапсавалі... Ну, пайшлі паглядзім! — Дарашэвіч першым скіраваў да прахадной. Мінуўшы яе, да лабараторнага корпуса не пайшоў, збочыў да печаў — трох доўгіх і высокіх цыліндраў, што ляжалі на цагляным падмурку. Падняўшыся па крутых жалезных прыступках да адной з іх, адчыніў маленькія дзверцы, заглянуў усярэдзіну. На бледным твары адбіліся ружовыя зайчыкі. Некаторы час зачаравана глядзеў, як у доўгай круглай печы, па сценах, абплеценых тоўстымі трубамі, у якіх падагравалася нафта, шугала чырвонае полымя.

— Гарыць! — уздыхнуў Дарашэвіч, спусціўшыся на зямлю.— Гарыць, Валерый Міхайлавіч. І няхай доўга-доўга гарыць. А мы паедзем далей,— і ўжо ў машыне прызнаўся: — Некалі я гэты агонь запальваў.

Увесь час, пакуль яны ездзілі, Скачкова не пераставалі здзіўляць паводзіны Дарашэвіча. Ён амаль ні пра што не распытваў, не цікавіўся, што робіцца на нафтапромысле, а больш сам успамінаў пра мінулае, пра розныя драбніцы свае работы. Дарашэвіч больш нагадваў абыякавага турыста, чым генеральнага дырэктара аб'яднання. Сам жа Скачкоў не назаляў расказамі пра сваю работу,— не цікавіцца, не трэба. Можа, яму зараз і не хочацца слухаць, можа, яму хочацца проста паглядзець, успомніць нешта. Патрэба такая ў чалавека з'явілася пасля хваробы, пасля доўгай адарванасці ад працы.

Ля ёлкі трыста пятай свідравіны затрымаўся болей чым дзе. Адкруціў пробнаадборачны кран, набраў на палец карычневай пены, панюхаў, лізнуў кончыкам языка.

— Родненькая,— прашаптаў.— Яшчэ пры мне Працько патрабаваў забурыць тут свідравіну. Але знайшліся людзі, якія запярэчылі. Маўляў, побач мемарыяльныя могілкі. Але тады мы не настойвалі асабліва. Было дзе бурыць,— ён дастаў насоўку, выцер палец, спытаў.— Тут ваш бацька пахаваны? Адведаем?

Кустоўе стаяла голае, без лісцяў. Там-сям гарэлі чырвоныя гронкі рабін. Трава ўсохлася і глуха шаргацела пад нагамі. На дубе вісела ржавае пакручастае лісце.

— А ў вас нешта ёсць ад бацькі,— сказаў Дарашэвіч, углядаючыся ў партрэт на абеліску.— Толькі ў вашым твары болей нейкай старэчай заклапочанасці, ці што.

— Колькі разоў я не бываю тут і кожны раз мяне ўражвае бацькава ўсмешка. Такі цяжкі час быў, а як умелі смяяцца!— І, гледзячы на маўклівага Дарашэвіча, да-

даў: — Не думаю, каб у нас было болей клопатаў, чым у іх.

— Час быў не такі,— пачаў Дарашэвіч, не адводзячы вачэй ад фотаздымка маладога партызана, нібы шукаючы ў яго пацвярджэння сваім разважанням. Яны болей думалі пра Радзіму, партыю, чым пра сябе. Ведаеце, як у той песні: «Раньше думать о Родине, а потом о себе...» — Дарашэвіч падышоў да Скачкова, узяў за локаць, сказаў яшчэ цішэй: — Ведаеце, Валерый Міхайлавіч, я, здаецца, разумею ваш парыў...

— Можа, гэта і смешна, але калі пабуду тут, з'яўляецца адчуванне, што не адзін,— прызнаўся Скачкоў.

— Аднаму нялёгка. Па сабе ведаю. Асабліва гэта адчуў я цяпер. У вас, відаць, таксама няма сяброў. Мне, дарэчы, пра гэта хацелася пагаварыць з вамі. Шчыра. Першы, а можа, і апошні раз. Не лякайцеся, Валерый Міхайлавіч,— сумна ўсміхнуўся генеральны дырэктар.— На той свет не збіраюся. Адпраўляюць на пенсію. Сказалі што вы, дарагі таварыш, папрацавалі нядрэнна, маеце права адпачыць... Праўда, ніхто яшчэ не даказаў, што такі адпачынак трэба чалавеку. Я разумею, адпачынак трэба, калі цябе ногі не носяць. А то здаровы чалавек — і без справы. Але я не пра гэта... Прыехаў я пакаяцца перад вамі. Вельмі шкадую, што не памог вам стаць як след на ногі. Вы, вядома, абышліся і без мяне, але пры маёй дапамозе болей зрабілі б. А вы ведаеце, чаму я вам не памагаў? Быў упэўнен, што вы прыехалі ва ўпраўленне часова. Думаў, агледзецеся, потым зоймеце маё месца.

Скачкоў не стрываў, гучна рассмяяўся.

— Мне таксама цяпер смешна, Валерый Міхайлавіч,— гаварыў Дарашэвіч роўна, нават падкрэслена абыякава. Відаць, яго нікольки ўжо не хвалявала тое, пра што ён расказваў.— А раней адно ваша прозвішча мяне раздражняла. З-за гэтага я занадта быў нецярплівы да вас, прыдзірлівы... Ведаеце, у мяне з вамі атрымалася якраз так, як у нашага Саўкі. Жыў у нашай вёсцы Саўка са сваёй Насцяй. Было ў іх пяцёра дзяцей. Са скуры вылузваліся, абы вывесці дзяцей у людзі, каб яны, значыцца, не засталіся ў вёсцы. Дзеці добра вучыліся, усе паканчалі інстытуты. Цяпер вялікія начальнікі, вучоныя. Адзін прафесар, другі палкоўнік. Дачка замужам за намеснікам міністра. Чацвёрты ў Сібіры ў лясхозе таксама нейкі начальнік. А самы меншы Рыгор не захацеў нікуды ехаць, застаўся ў вёсцы. Вучыўся добра, але закахаўся ў настаў-

ніцу мясцовай пачатковай школы, з-за яе і застаўся. Як яго ні ўшчувалі бацькі, не паслухаўся. Дурнем лічылі яго, а старэйшымі ганарыліся. А тыя старэйшыя раз'ехаліся па ўсяму свету і дома амаль не бываюць. Калі заедуць на дзень-другі, і ўсё. Яно зразумела, людзі жывуць сваім жыццём, можа, нават нялёгкім. І зараз давялося старым дажываць свой век з меншым нялюбым сынам, які не спраўдзіў іх надзей. Цяпер яны, чуў, не нарадуюцца, што меншы нікуды не з'ехаў, што ёсць ім ля каго прытуліцца пад старасць. Вось так, Валерый Міхайлавіч. Я таксама спачатку на вас глядзеў, як Саўка з Насцяй на свайго меншага. А цяпер, аказваецца, мне няма з кім пагаварыць, акрамя вас. Вось так...— Дарашэвіч задумаўся, потым глянуў на Скачкова, уздыхнуў.— Наогул, Валерый Міхайлавіч, вы многім тут пераблыталі карты. Справа ў тым, што некаторыя таварышы вельмі хацелі на ваша месца. Але баяліся. Баяліся адказнасці. Промысел, ведаеце, у якім стане быў. А тут вы... Многія былі ўпэўнены, што вы не справіцеся, яшчэ болей усё заваліце. Тады ўсе грахі спішуць на вас. Грахі Балыша і новыя. І ачышчанае месца захопіць той, хто хацеў. А вы не апраўдалі спадзяванні кар'ерыстаў. Яны цяпер пачалі ліхаманкава шукаць, да чаго б прычапіцца.

— Хто яны? — не стрываў Скачкоў.

— Дакладна не ведаю, магу толькі здагадвацца... Дык вось, прычапіцца няма да чаго. Пушчана плётка, нібы вы недалёкі чалавек, далей свайго носа не бачыце. Няма шырыні, перспектыўнага мышлення. Вузкі сляпы практыцызм. План любымі сродкамі. І дзе я пра гэта пачуў, як вы думаеце?.. У міністэрстве. Па дарозе з санаторыя заязджаў у Маскву. Дарэчы, Балыш ведае ўсё пра кожны ваш крок. Яго нехта інфармуе. Відаць, той, хто хоча на ваша месца. Вось так, дарагі Валерый Міхайлавіч. Вы думаеце, я выпадкова сёння па тэлефоне спытаў у вас пра перспектыву?

— Кацянок? — падаў думку Скачкоў.

— Якія падставы ў вас так лічыць?

— Сёння раніцай якраз гаварылі пра планы на будучы год. Кацянок неяк мітусліва паводзіў сябе. Подленькая ўхмылачка не выходзіла з твару. Мне кінулася гэта ў вочы.

— Канешне, ім нічога не застаецца, як ухмыляцца. Сваёй сённяшняй нарадай вы выбіваеце з-пад іх канька. Не выключана, што апошняга.

— Мне не верыцца, каб Кацянок. Ён так памагаў мне. План мерапрыемстваў ліквідацыі недахопаў склаў. Мне здавалася, ён сумленны работнік.

— Адзін з вашых недахопаў, Валерый Міхайлавіч, што вы пра ўсіх мяркуеце па сабе,— нібы ўпікнуў яго Дарашэвіч.— Ён, можа, і сумленны, але для сябе. Ой, нямала цяпер такіх. Я пераканаўся. Але, ведаеце, я не ўпэўнен, што Кацянок. Не выключана, што нехта іншы рвецца на ваша месца. Кацянок не цягне. Малады. Мне ўяўляецца, што Кацянок хутчэй пешка ў нечай ігры. Хто дырыжор? Вось пытанне. Не выключана, што сам Балыш. Але гэта не даказана. Ясна адно — нехта вельмі хацеў, каб мы з вамі завалілі план. Тады прагналі б і мяне разам з вамі. Не атрымалася. Але мне не павязло. Захварэў. Не ведаю, хто імкнецца на маё месца, але такі чалавек ёсць. Упэўнен таксама, што не вы. Бо тады не чапляліся б так да вас. Той чалавек, які зойме маё месца , на самыя адказныя пасады ў аб'яднанні пасадзіць сваіх людзей. Так што старайцеся не памыліцца. Абапірайцеся на такіх, напрыклад, як галоўны геолаг Працько. Такіх большасць сярод інжынераў, брыгадзіраў, рабочых.

— Дзякую за шчырасць, Віталій Апанасавіч.

— Вам дзякуй, Валерый Міхайлавіч. Мне прыемна, што я памыліўся. Даруйце за падазрэнні... Ну паехалі, а то ноч нас застане,— і ён скіраваў першым да машыны, што стаяла на дарозе адразу за гайком.

Скачкову хацелася болей пабыць з Дарашэвічам, пагаварыць. Ён аніколі так не гаварыў ні з кім пра работу, пра ўзаемаадносіны.

— Сумна,— сказаў Скачкоў ужо ў машыне.— Толькі паразумеліся з вамі, толькі б працаваць ды працаваць, а трэба расставацца.

Калі машына, валюхаючыся па выбітай дарозе, даехала да шашы і, уключыўшы фары, высвечвала пад'ём, Скачкоў прапанаваў:

— Віталій Апанасавіч, тут недалёка мая маці жыве. Можа, заедзем? Пачастуе нас чаем на траўках, яблычкамі...

— Паехалі! — пагадзіўся Дарашэвіч.

— Тады давай, браток, управа,— папрасіў Скачкоў вадзіцеля.

## 18

Прайшло больш тыдня пасля таго, як Ала Пятроўна і Фаіна Алегаўна адаслалі сваё пісьмо ў райком партыі, але адказу не было. І ніхто не прыходзіў правяраць школу. Можа, там знайшлі скаргу дробязнай, дык напісалі б ім. Настаўніцы не хаваліся ж, паставілі свае прозвішчы, указалі адрасы.

Тым часам да настаўніц дайшло, што дырэктарка хадзіла ў райана, дабівалася, каб звольнілі Алу Пятроўну. З ёй, відаць, не пагадзіліся, бо пакуль што загаду не было. Але Антаніна Сяргееўна не змірылася. Праўда, яна цяпер не хадзіла на ўрокі Алы Пятроўны, але затое зачасціў завуч. Віктар Іванавіч, які на педсавеце абараняў настаўніцу, цяпер стаў раптам вельмі прыдзірлівым. Не было таго ўрока, якога ён не збэсціў бы. Відаць, завуч, у якога была хворая жонка і трое малых і якому часта даводзілася адлучацца са школы, баяўся дырэктаркі, пачаў дагаджаць ёй. Гэта было настолькі відавочна, што Ала Пятроўна нават не ўспрымала сур'ёзна прыдзіркі Віктара Іванавіча. Праўда, аднойчы не вытрымала і спытала ў яго, ці не сорамна яму лгаць самому сабе. «Я хачу, каб у вас было лепш,— адказаў завуч настаўніцы, пачырванеўшы,— таму і звяртаю вашу ўвагу на недахопы».

— Іншы раз у школу не хочацца ісці,— паскардзілася Ала Пятроўна, калі яны з Фаінай Алегаўнай кіраваліся разам дамоў.— Такое ўражанне, што дырэктарка помсціць мне. Кожны дзень ганяе завуча на мае ўрокі. А той прыдзіраецца! Ці не даведалася яна пра наша пісьмо?

— Усё можа быць. Яны даўно тут працуюць, іх усюды ведаюць,— сказала Фаіна Алегаўна і, глянуўшы на засмучаную Алу Пятроўну, рашуча дадала: — Зробім так, Ала Пятроўна. Пачакаем з тыдзень. Калі ніякіх вынікаў не будзе, пойдзем у райком, а калі спатрэбіцца, то паедзем і ў вобласць. Адступаць нам цяпер ніяк нельга.

На другі дзень пасля гэтай гаворкі, толькі ўсе сабраліся ў настаўніцкай, прыбегла сакратарка і сказала, што Антаніна Сяргееўна тэрмінова запрашае ўсіх у актавую залу.

На сцэну паднялася дырэктарка з незнаёмым маладым чалавекам.

Антаніна Сяргееўна ў блакітным касцюме аж свяцілася радасцю. Малады чалавек нечага саромеўся. Калі ішоў

па сцэне да стала, то хаваўся за дырэктарку. Ён быў невысокага росту, з вузкімі глыбокімі залысінамі, вушаты, як кажан. Крываногі.

— Глядзі, нібы коціць на веласіпедзе,— хіхікнула Фаіна Алегаўна. Ала Пятроўна стрымана ўсміхнулася.

— Дарагія мае калегі,— урачыста пачала Антаніна Сяргееўна.— Ёсць прыемная навіна для ўсіх нас. У нашу школу прыбыў інструктар райкома партыі Ігар Клімавіч Шуцік. Ён будзе вывучаць нашу работу па выхаванню падрастаючага пакалення. Мне гэта вельмі прыемна. Спадзяюся, што гэта не меней прыемна і ўсім вам. Калі працуеш не шкадуючы сябе і асабліва калі яшчэ таго-сяго дабіваешся, хочацца, каб твае старанні заўважалі, цікавіліся тваёй працай. Вядома, што кожнаму з нас хочацца працаваць лепш. Збоку ясней відаць нашы недахопы. Спадзяемся, што Ігар Клімавіч падкажа нам нешта карыснае. Мы ўсе будзем толькі ўдзячны яму за гэта. Так што, таварышы, не саромейцеся паказаць тое дадатнае, што ёсць у вашай рабоце. Недахопы таксама не хавайце. Тым больш што схаваць іх не ўдасца. Ігар Клімавіч вучыўся ў нашай школе, дарэчы, скончыў яе з залатым медалём, так што ад яго нічога не схаваеш.

Ала Пятроўна слухала дырэктарку і нічога не разумела. Няўжо сапраўды Антаніна Сяргееўна не баіцца праверкі? Няўжо яна думае, што ў школе няма такіх недахопаў, за якія нельга не трывожыцца. А можа, яна проста ўмее валодаць сабой, умее не выдаваць свой настрой? Ала Пятроўна пашукала вачыма Святлану Маркаўну. Няхай дырэктарка ўмее прыкідвацца,— яна прайшла немалую жыццёвую школу,— а тая ж рабіла ўражанне непасрэднай жанчыны. Святлана Маркаўна сядзела з блукаючай усмешкай на твары. Яе сінія вочы аж зіхацелі ад захаплення тым, што адбывалася.

Ала Пятроўна пакасілася на Фаіну Алегаўну. Яе дробны тварык, як заўсёды, быў крыху засмучаны, задумлівы. Здавалася, жанчына думае пра сваё, нічога не чуе і не бачыць, што робіцца наўкола.

А тым часам дырэктарка закончыла сваю прамову, запэўніўшы паважанага Ігара Клімавіча, што педагагічны калектыў зробіць усё, каб яго місія была паспяховай.

— Чаго яны такія вясёлыя? — выходзячы з актавай залы, пацікавілася Ала Пятроўна.

— Чаго ім журыцца? — Фаіна Алегаўна глянула на Алу Пятроўну так, нібы не верыла, што тая сапраўды ні-

чога не разумее.— Хіба не чулі, што гэты з райкома — іх былы вучань? Можа, яшчэ медаль яму зрабілі. Недарэмна ж яна нагадала пра яе са сцэны.

— Ён жа будзе хадзіць на ўрокі, гаварыць з настаўнікамі. Праўды не схаваеш,— Ала Пятроўна не верыла, каб знаёмства магло паўплываць на выніκі праверкі.— Не стане ж ён хлусіць сам сабе. Ён разумее, што ў яго становішчы...

— Ён і не будзе хлусіць,— хмыкнула Фаіна Алегаўна.— Ён напіша праўду. Праўду пра тыя ўрокі, на якіх пабудзе, праўду пра тых настаўнікаў, з якімі пагутарыць. Хадзіць будзе на тыя ўрокі, на якія параіць дырэктарка, гаварыць будзе з тымі настаўнікамі, з якімі скажа Антаніна Сяргееўна. Так абставяць, што з кім трэба, ён і не сустрэнецца.

— З намі ж ён сустрэнецца?

— Яны зробяць так, што ў яго не хопіць часу на нас.

— Самі падыдзем.

— Хіба што.

— А раптам ён не па нашаму пісьму наогул? — падала думку Ала Пятроўна.— Таму дырэктарка такая і радасная.

— Не думаю...

Першыя дні прадстаўнік райкома хадзіў на ўрокі, здавалася, без усялякага плана. На ўрокі Алы Пятроўны і Фаіны Алегаўны не заглядваў, больш таго, нават не зрабіў спробы пазнаёміцца з настаўніцамі, пагаварыць, хоць яны стараліся часцей пападацца яму на вочы. Сустракалі ў калідоры, калі ён ішоў з якога-небудзь класа, ці ўмешваліся ў гаворку, калі ён гаварыў у настаўніцкай з кім-небудзь. А Ігар Клімавіч упарта не заўважаў іх. І толькі на пяты дзень ён прыйшоў на ўрок Алы Пятроўны. Пасля ўрока, застаўшыся ў класе, прызнаўся, што ён правярае іх скаргу, сказаў, што яму прыемна было пазнаёміцца з ёй, Алай Пятроўнай, што ўрокам яе ён задаволены і наогул нямала добрага наслухаўся пра яе ад настаўнікаў. Праўда, не ад усіх. Удакладніў некаторыя прозвішчы, папрасіў пакуль што нікому не гаварыць, з якой мэтай ён у школе.

Аб'яву пра агульны сход педагагічнага калектыву павесілі загадзя.

У гэты дзень Ала Пятроўна прыйшла ў школу раней звычайнага. У настаўніцкай яшчэ нікога не было, і яна, дастаўшы з партфеля маленькае люстэрка і ловячы ў ім

то вочы, то нос, то губы, пачала прыхарошвацца. Дома яна не стала гэтага рабіць, бо на вуліцы імжыла і ўсё роўна ўсё сапсавалася б. Адвёўшы руку далей, акінула вокам увесь твар. Убачыла шыю, прыкметна пасечаную маршчынкамі, падумала, што пара пераходзіць на плацці з высокімі каўнерыкамі.

Мінулі часы, калі можна было ганарыцца сваёй высокай роўнай шыяй...

Зайшла Фаіна Алегаўна.

Яна заўсёды хадзіла ў сінім доўгім плашчы, у вязанай шэрай па самыя вочы шапачцы. Валасы перавязвала гумкай, як школьніца. Цяпер жа яна была ў светлым паліто, у такім жа белым капялюшыку. Валасы раскідзістай хваляй ляжалі на плячах. Распрануўшыся, разула боцікі, дастала з партфеля лодачкі на высокім абцасе. У бліскучых чорных туфлях, у трыкатажным ружовым касцюме яна з шэрай блышкі зрабілася раптам кідкай прыгажуняй.

— Дырэктаркі не баіцёся? — захаплялася ёй Ала Пятроўна.

— Хай яна мяне баіцца,— засмяялася Фаіна Алегаўна, і смех яе быў не прыглушаны, а малады і звонкі.

— Можа, што чулі?

— Не. Але ўпэўнена, што будзе на нашай вуліцы свята. Хіба не заўважылі, як раптам абліняла Антаніна Сяргееўна? Як не дзіўна, а мне гэта прыемна.

Відаць, нейкім чынам настаўнікі даведаліся, што па віне Алы Пятроўны і Фаіны Алегаўны правяралася школа. Бо калі яны ішлі па калідоры ў залу, то ўсе пазіралі на іх так, нібы ўпершыню заўважалі нешта адметнае ў іх абліччы, паводзінах. Фаіна Алегаўна саромелася такой увагі, ішла, сціпла апусціўшы вочы. А Ала Пятроўна кожнага, хто заглядваўся на яе ці вітаўся з ёй, асляпляла белазубай усмешкай.

Ля ўваходу ў актавы зал падхапіла пад руку Фаіну Алегаўну, якая пачала адставаць, прапускаючы наперад Алу Пятроўну.

— Ну, што спынілася?

— Гляджу, дзе сесці.

— А што тут глядзець? — сказала Ала Пятроўна знарок гучна, каб яе болей пачула.— Сядзем пад носам у начальства, каб не забылася, што мы ёсць,— і сапраўды ўсадзіла Фаіну Алегаўну і сама села побач на першым радзе, перад самай сцэнай.

Зайшлі ў залу і, падняўшыся на сцэну па прыступках збоку, скіравалі да стала, пакрытага чырвоным, дырэктарка школы, інструктар райкома партыі і загадчык райана.

У шэрым някідкім плацці, з прылізанымі валасамі і старэчай гуляй на патыліцы, сціпла стаяла, узяўшыся за спінку крэсла, Антаніна Сяргееўна, чакаючы, пакуль усядзецца начальства. Шыракаплечы і высокі загадчык райана побач з дробненькім Ігарам Клімавічам рабіў уражанне вельмі мажнага чалавека. У яго быў невялічкі кірпаты нос, што заўсёды надавала яго буйнаму твару вясёлы выраз. Наогул, загадчык райана быў вясёлы чалавек. І зараз, падняўшыся, усміхнуўся, нібы для яго большай радасці і не існавала, як зараз сустрэцца з настаўнікамі, потым сказаў ціхім голасам:

— Як вы ведаеце, у вашай школе амаль дзесяць дзён знаходзіўся Ігар Клімавіч Шуцік. Яму было даручана райкомам партыі не толькі праверыць пісьмо, з якім звярнуліся ў райком вашы дзве настаўніцы, а наогул паглядзець, як і што тут робіцца. Сваімі назіраннямі, меркаваннямі ён падзяліўся ў нас, у аддзеле народнай асветы. Мы запрашалі на гэту гаворку Антаніну Сяргееўну. Трэба сказаць, заўвагі аб недахопах у рабоце школы ўспрыняты з разуменнем. Антаніна Сяргееўна папрасіла нас, каб мы свае меркаванні далажылі педагагічнаму калектыву школы, для чаго вас і запрасілі сюды. Калі ласка, Ігар Клімавіч, вам слова.

Шуцік падняўся. У зале сядзела нямала яго былых настаўнікаў, і гэта відавочна бянтэжыла інструктара райкома. Стаяў, нібы не ведаў, што яму рабіць. Яму нешта сказаў загадчык райана, і Шуцік выйшаў за вузкую абшарпаную трыбунку, якая стаяла з боку стала. Пачаў гаварыць нясмела, няўпэўнена, відаць, адчуваў сябе, як вучань на экзамене.

— Я вучыўся ў гэтай школе. Я люблю сваю школу. Самыя лепшыя ўспаміны — успаміны пра маё школьнае жыццё. Мне заўсёды здавалася, што наша школа самая лепшая. Можа, таму, што яна свая, родная... Калі мне папала ў рукі пісьмо настаўніц Алы Пятроўны і Фаіны Алегаўны, яно мяне вельмі ўстрывожыла. Не хацелася верыць у тое, што там было напісана. Я папрасіў, каб мне даручылі праверыць скаргу. Не скажу, каб я пасля праверкі расчараваўся ў роднай школе, але многае тут мяне засмуціла.

Калі гаварыць пра настаўнікаў, пра іх майстэрства, то

тут нямала добрага. Ёсць высокае педагагічнае майстэрства, ёсць уменне зацікавіць вучняў. У кожнага гэта праяўляецца па-свойму, але гэта якраз і цікава. У большасці ёсць жаданне ўдасканальваць сваю работу. Значыцца, недахопаў будзе станавіцца менш і менш. Вядома, добраму няма мяжы. Але гэты пазітыўны працэс — аб'ект штодзённай увагі саміх педагогаў, кіраўнікоў школы, адным словам, спецыялістаў, якія лепей за мяне разумеюць у педагагічнай навуцы.

Але я хачу спыніць вашу ўвагу на адной вельмі прыкрай тэндэнцыі, якая, як іржа, раз'ядае школу. Цяжка сказаць, па чыёй віне, але амаль усіх настаўнікаў ахапіла барацьба не за трывалыя веды вучняў, а за высокія ацэнкі. Кожнаму ж ясна, што выставіць высокія ацэнкі значна лягчэй, чым навучыць дзяцей. Сумленне пад замок — і дзейнічай. На вялікі жаль, кіраўніцтва школы спрыяла развіццю гэтай тэндэнцыі. Настаўніку, які ставіў лодыру двойку, гаварылі, што ён не ўмее якасна працаваць, забівае ў вучня веру ў сябе, у свае здольнасці. Замест таго каб скіраваць увагу педагогаў на працу з бацькамі, ім сцвярджалі, што адмоўныя ацэнкі нараджаюць сямейныя канфлікты, бо многія бацькі вельмі раўніва адносяцца да ацэнак свайго чада. Цэлыя тэорыі выдумляліся ў абарону фальшывай станоўчай ацэнкі. Гэтыя тэндэнцыі парадзілі нямала адмоўных з'яў. Адна з іх. Вучні хутка сцямілі, што можна не вучыць, маўляў, тройка будзе заўсёды. А многім большага і не трэба. Другая з'ява. Некаторыя настаўнікі пачалі думаць не пра змест урока, а пра яго форму. Урок дзеля ўрока. Канешне, значна прасцей правесці бліскучы ўрок, чым дабіцца, каб вучні нешта запомнілі, зразумелі.

Самае прыкрае, што ўсіх задавальняла такое становішча. І трэба было, каб у школе з'явіліся новыя педагогі, якія не маглі прымірыцца з паказухай. Але яны адразу ж папалі пад абстрэл кіраўніцтва школы і некаторых сваіх калег. І тое, што яны ўстаялі пад гэтым абстрэлам, не паддаліся, робіць ім гонар. Яны паказалі сябе сапраўднымі педагогамі, а галоўнае, сапраўднымі грамадзянамі. У іх да сваіх абавязкаў дзяржаўны падыход. Яны разумеюць, што дапушчаны брак у выхаванні дзяцей сёння, абернецца заўтра недобрасумленнай працай, бракам у вытворчасці. Такія настаўнікі — наш залаты фонд. У крыўду мы іх не дадзім. Глядзеў я журнал наведвання ўрокаў завучам школы. Чытаў ацэнкі, заўвагі. Мне падалося, там ба-

гата суб'ектыўнасці, адсутнічае жаданне разабрацца ў вартасцях і недахопах урокаў Алы Пятроўны. Мяне гэта вельмі збянтэжыла. Я са школьных гадоў ведаў Віктара Іванавіча як прынцыповага і добрасумленнага настаўніка. Што ж адбылося? Віктар Іванавіч? Антаніна Сяргееўна? Я вас паважаю і люблю, як можа паважаць і любіць сваіх настаўнікаў вучань. Але, прабачце, ілгаць не магу.

Я быў на ўроках Алы Пятроўны. Урокі змястоўныя, цікавыя. Матэрыял падаецца эмацыянальна. Вучні не застаюцца абыякавымі. Слухаюць. Увага настаўніцы скіравана на тое, каб зацікавіць усіх вучняў, каб яны не драмалі на ўроках, актыўнічалі. Праўда, пакуль што не ўсе яны спраўляюцца з праграмай, але няма сумнення, што адставанне вучняў — з'ява часовая.

Спадабаліся мне ўрокі і Фаіны Алегаўны.

У райана адбылася сустрэча з кіраўніцтвам школы. Кіраўнікі школы паабяцалі выправіць становішча...

— Не хоча старая на пенсію,— шапнула Фаіна Алегаўна на вуха Але Пятроўне.

— Абяцанні кіраўніцтва школы,— працягваў Ігар Клімавіч,— прыняты да ведама ў райкоме партыі і ў райана. Мы верым, што калектыў школы справіцца з адзначанымі недахопамі, што школа зноў стане ўзорнай у барацьбе за трывалыя веды сваіх выхаванцаў...

Ігар Клімавіч сеў на сваё месца.

— Таварышы, пытанні ёсць? Можа, хто жадае выступіць? — спытаў загадчык райана, весела ўсміхаючыся.

Паднялося некалькі рук адразу...

## 19

Алесіч з Кацяй пакуль што жылі на прыватнай кватэры. Яны займалі асобны пакойчык-прыбудовачку. Хоць пакойчык быў невялічкі, з нізкай столлю, з адным акенцам у агарод, але ён падабаўся ім тым, што меў уваход адразу з калідора — адасоблены.

Гадоў дзесяць таму, а можа, крыху і болей, калі пад Зуевам знайшлі чорнае золата і па ўсёй краіне разнеслася чутка пра вялікую нафту, сюды, у даўно абжытыя чалавекам мясціны, наехала нямала спецыялістаў-нафтавікоў асвойваць новае радовішча. Невялікі зялёны гарадок з адных прыватных домікаў не меў жылля, каб прыняць столькі людзей. Тады жыхары пачалі ліхаманкава ўцяп-

ляць сенечкі, ставіць розныя прыбудовачкі. Грошай за катухі нафтавікі не шкадавалі.

Калі ж нафтавікі пабудавалі сабе дзесяткі высокіх дамоў і прыватныя дамкі пад іржавымі дахамі ў зараслях садоў аказаліся ўсяго толькі акраінай новага горада, а галоўнае, прыток новых людзей спыніўся, то ўсе гэтыя прыбудовачкі, уцепленыя сенечкі ў большасці сваёй аказаліся незанятымі. Таму Алесічу з Кацяй не цяжка было знайсці сабе жытла. У іх нават была магчымасць выбіраць. Пасяліліся на самай акраіне, каб Каці бліжэй было хадзіць у сваю сталоўку. А цэх, у якім рабіў Алесіч, зусім быў побач. Праўда, Алесіч на месцы ніколі не сядзеў, усё болей быў у раз'ездах.

Хоць іхняе жытло было без усялякіх зручнасцей, пакуль што пра лепшае яны не марылі. Аглушаныя асабістым шчасцем, яны, здавалася, наогул нічога не заўважалі навокал. Бачылі толькі адзін аднаго. У іх было галоўнае — месца, дзе можна было адпачыць, пераначаваць, а потым ісці на працу на ўвесь дзень, каб зноў жыць чаканнем сустрэчы.

Аднойчы ўвечары, калі яны, павячэраўшы тым, што Каця прынесла са сталоўкі,— дома ў іх не было як гатаваць, а на кухню да гаспадароў не хацелася лезці,— сабраліся спаць, Алесіч сказаў:

— Каця, нам трэба запісацца. Так сказаць, каб законна.

— Калі раней не ўцякла, то цяпер не ўцяку, не бойся,— засмяялася.— Прывязаў моцна.

— Не з-за гэтага. Па мне, хоць усё жыццё няхай так будзе... Наш брыгадзір вызваліў аднапакаёўку, мне яе абяцаюць.

— Калі гэта будзе?

— Прасілі дакументы прынесці.

— Развод жа трэба.

— Канешне.

— Я даўно табе гаварыла...

Сапраўды, яшчэ раней, у хвіліны спакойнай і разважлівай цвярозасці, якія іншы раз прыходзілі да іх, яна не раз угаворвала Алесіча з'ездзіць да яе былога мужа. Алесіч усяляк аднекваўся. Маўляў, нечага туды ездзіць, хай падавіцца ён тымі шмоткамі — Каця хацела забраць свае рэчы. Адну не адпускаў і з ёй не хацеў ехаць: некалі пахваліўся Каці, які смелы быў ля таго штангіста, цяпер баяўся, што яна расчаруецца ў ім. Штангіст, можа, і не

выкіне яго праз балкон, але так шпурльне, што кулей вылеціш, адкрываючы лбом дзверы.

— Навошта ездзіць? Можа, падаць у суд. І ўсё. Яму паведамяць. Я ж не ездзіў, калі мая падала на развод. Паслаў пісьмо, што не супроць. І ўсё.

— А мой раптам не дасць развод.

— Чаму не дасць?

— Яму што? У яго кватэра. Тры пакоі. Прывядзе якую і будзе жыць. Можна не спяшацца з разводам. Не, трэба паехаць і пагаварыць. Па-добраму.

— А можа, пісьмо напісаць? — Алесіч гатоў быў на ўсё, абы не ехаць.

— Не адкажа. І, можа, наогул чытаць не стане. Не, трэба з'ездзіць. Забяром рэчы. Там усё маё засталося.

— Я ж казаў табе, абыдземся. Грошай няма, ці што? Вазьмі і купі што трэба.

— Грошы... Грошы яшчэ спатрэбяцца. Сам гаворыш, што кватэру дадуць. У пустой жыць не будзеш.

— Хопіць і на кватэру,— буркнуў Алесіч. Яго пачынала раздражняць упартае жаданне жонкі абавязкова з'ездзіць да свайго былога мужа, а галоўнае, што ён, Алесіч, нічога не можа прыдумаць, каб перашкодзіць гэтай паездцы.

— Ты гатоў і ад кватэры адмовіцца, абы не ехаць,— упікнула яго Каця.

— Глупства!

— Калі паедзем? — яна паднялася, падышла да ложка, запусціла пяцярню яму ў чупрыну.

— Выключай святло! — размяк Алесіч.

Было позна. Даўно перастаў гудзець тэлевізар за сцяной у гаспадароў. Яны нядаўна купілі яго і цяпер кожны вечар глядзяць перадачы да самага канца, пакуль дыктар не пажадае спакойнай ночы. Узышоў месяц, кінуў белыя плямы праз акенца на ложак у нагах і на сцяну. На абоях заблішчэла срэбрам фарба. Чулася, як недзе шашаль тачыў дрэва.

Алесіч не спаў. Ён быў задрамаў, але яму раптам прысніўся сын. Нібы залез на буравую вышку і скокнуў адтуль, растапырыўшы крыльцамі рукі. Відаць, захацеў хлапец паляцець птушкай. Алесіч кінуўся, каб падхапіць яго.

— Ты спіш? — спытаў шэптам.

— Сплю,— адазвалася Каця.— А ты?

— Сон раптам прысніўся... Слухай, Каць, нарадзіла б ты мне хутчэй каго, а то...

— Тут не паскорыш. Меней думай.

— Ты не крыўдуй. Што ні кажы, сын. Можа, таму і ўспамінаецца, што раней толькі і радасць тая была, што ён, Косцік...

Каця доўга маўчала. Алесіч падумаў, што яна заснула.

— Іван, ты не спіш? — раптам спытала яна.— Дык вось, Іван, запомні. Будзе ў нас дачка ці сын ці некалькі дзяцей, усё роўна, ты не павінен забываць свайго Косціка. Напішы яму пісьмо. Запрасі на канікулы. На ўсё лета. А што? Можа, паедзем куды ў водпуск, яго возьмем. Ці ў тваё маці пажыве. Пабегае з вясковымі хлопчыкамі. Мы будзем прыязджаць. Ці да мае маці... Яна на Прыпяці. Рыбы багата, грыбоў... А што? Няўжо твая не разумее, што хлопчыку бацька трэба?

— Разумее. Пісала ж, каб пісаў, і наогул...

— Тым больш. Ён усё роўна цябе не забудзе, хоць яна і новага бацьку завядзе. Ты пісаў яму?

— Грошы пасылаў...

— Што грошы? Яму пісьмо тваё, можа, даражэй за грошы.

— Слухай, Каць, ты ўяўляеш, якая ты жанчына? За цябе жыццё мала аддаць.

— Ой, толькі паміраць не трэба,— усміхнулася яна.— Давай лепей спаць.

— Слухай, Каць,— падклаў ёй руку пад галаву, павярнуўшыся да яе. Можа, зробім так? У суботу заедзем да мае маці. Павінен жа я паказаць цябе. Хай старой радасць будзе. А то думае, я ў яе які шалапутны. І раптам з табой прыеду... Такая, як ты, за шалапутнага не выскачыць. Пасядзім, пагаворым, можа, каго і з родзічаў паклічам. Потым заедзем у Гомель. Возьмеш у яго што трэба, і адразу дамоў. Як кажуць, адным заездам...

Прапаноўваючы Каці спачатку заехаць у вёску да маці, Алесіч спадзяваўся, што яны там затрымаюцца і ў іх не застанецца часу на паездку ў Гомель...

— Добра. Спі... Заўтра пагаворым.

У пятніцу ўвечары, прыйшоўшы з работы, першае, што зрабіла Каця, агледзела прыдзірліва касцюм мужа — шэры, у чорную крапінку.

— Касцюм яшчэ нічога,— сказала яна.— А вось новую рубашку і гальштук трэба. Капялюш таксама не пашкодзіць. Плашч возьмем, калі будзе ва універмазе,— на імгненне задумалася.— Вось што. Заўтра зраніцы заедзем ва універмаг, купім табе ўсё, а потым — у рэстаран. Я там

заказала сёе-тое з яды. Не бойся, не спознімся,— убачыўшы пахмурнасць на яго твары, пастаралася супакоіць яго.— Таксі возьмем і паедзем...

— Навошта ўсё гэта? — яму не падабалася залішняя мітусня.— Мая маці звычайная жанчына. Яна будзе рада нам усякім.

— Я даўно хацела купіць табе тое-сёе з адзення. Гэта раз. І маці нейкі падарунак трэба...

Асфальт ужо вызваліўся ад наледзі. Сухі, ён блішчэў на сонцы, асабліва ўдалечыні,— як шкляны. Прасёлачныя дарогі чарнелі яшчэ утрамбаваным снегам. Да вёскі даехалі без затрымкі. З паўночнага боку вуліцы пад платамі ляжалі аселыя гурбы, з паўднёвага боку — вылузнулася зямля, там-сям падсохла. Некалі ў дзяцінстве на такіх вось сухіх лапіках хлапчукі гулялі ў чыжыка, у мяч. Цяпер малых не было відаць. Пасярод вуліцы булькаў таропкі раўчачок. Месцамі на ім з розных трэсак і смецця ўтваралася плацінка, і тады раўчачок разліваўся ў брудную запененую лужыну, якая адлівала на сонцы ўсімі колерамі вясёлкі,— расплыўся па вадзе бензін ці салярка.

Пад'ехаць да самага матчынага двара не ўдалося. Вуліцу перагарадзіла шырокая, ад плота да плота, калюжына. Алесіч як не даказваў таксісту, што зямля пад вадой цвёрдая, той адмовіўся ехаць далей. Маўляў, забуксую, хто тады выцягне, а час — грошы.

— Данясем, Іван,— і яна дастала з багажніка каструлі, скрутачак з падарункам.

Параска якраз была дома. Яна секла ржавай цапкай счарнелы лёд ля варот на вуліцу, прабіваючы раўчачок для вады, што разлілася ад хлява да самых сянец. Убачыўшы сына ў капелюшы, у прыгожым карычневым плашчы, з алюмініевымі каструлямі ў руках,— ён іх трымаў, прыціскаючы да жывата,— і прыгожую жанчыну таксама з каструляй і з невялічкім скрутачкам, знерухомела, стаяла і не верыла вачам сваім.

— Сустракай, маці, гасцей,— ён панікаў вачыма, куды б паставіць каструлі, каб абняць маці, але двор увесь быў гразкі.— Гэта Каця. Мая жонка.

— Добры дзень, мама,— Каця паставіла сваю каструлю на чорны снег, падышла да старой, пацалавала яе.— Што вы плачаце? Я сына вам прывезла.

— Ой, дзякую,— прашамкала амаль бязгучна Параска. З яе пачырванелых вачэй бобам пасыпаліся слёзы.

Ачомаўшыся, змахнула слёзы рукой.— Ой, што ж гэта мы стаім? Заходзьце ў хату...

Алесіч паставіў каструлі ў задняй хаце ля парога, вярнуўся, прынёс тую, што пакінула на снезе Каця.

— Ой, дзеткі,— мітусілася старая.— Я ўжо і не чакала, што так будзе. Дзякую, што не забылі старую. Ты ж, донька, распраніся, у хаце цёпла, печ прапаліла... Іван, памажы ёй распрануцца.

— Не турбуйцеся,— папрасіла, убачыўшы, як старая заляпала засланкай.— Мы не галодныя. Нядаўна снедалі. Во сабяруцца людзі, разам пасядзім.

Алесіч узяў свой плашч і жончын, павесіў іх у старой выліняла шафе, з расхітанымі дзверцамі, у якой вісела адно толькі паліто з цыгейкавым каўняром, яго паліто, ён насіў у маладосці, і матчына даўняя плюшавая жакетка.

— Мам,— Алесіч спыніўся сярод хаты.— Вось гэта і ёсць мая Каця. Хачу, каб уся вёска ведала пра яе. Так што запрашай столькі, колькі месца ў хаце.

— Ой, пачакайце, дзеткі, я хоць трохі прыбяруся, а то як поралася раніцай, так і хаджу.— Яна юркнула за паркалёвую занавеску, дзе ля ложка, у нагах, стаяла скрыня. Хутка выйшла ў новай вязанай кофце, якую мінулым летам прывёз ёй Алесіч, у новай сіняй спадніцы і ботах. Боты, відаць, яшчэ ні разу не абувала — былі зусім навенькія.

— Пачакай, мама, ты зараз будзеш у нас як нявеста,— сказала Каця, разгарнула скрутак, дастала гаруску, накінула жанчыне на плечы.

Параска нясмела, сарамліва глянула на сябе ў люстэрка, што, пакрытае жоўтымі падцёкамі, вісела на сцяне паміж акон.

— Цябе сапраўды хоць замуж аддавай,— засмяяўся Алесіч.— А што? Можа, ёсць які кавалер?

— Каго паклічам? — спытала клапатліва маці.

— Яшчэ пытаешся каго. Усіх! — весяліўся Алесіч.— Тут, можа, засталося людзей, што ўсе ў адну хату памесцяцца. А што? Хіба не памесцяцца? Тады толькі родзічаў і суседзяў.

Пад вечар у хаце сабралася болей людзей, чым запрашалі. Па вёсцы распаўзлася чутка, што Параскін Іван прыехаў на легкавушцы, у капелюшы, пад гальштукам. Такі важны і салідны. Як вялікі начальнік. І жонку прыгожую прывёз. Уся ў шаўках. Усім, вядома, хацелася па-

глядзець на гэтае дзіва. Таму прыйшлі не толькі запрошаныя. Давялося ў суседзяў пазычаць стол і табурэткі,— не хапіла месца.

Калі ўсе, нарэшце, уселіся, Іван папрасіў наліць чаркі і выпіць за сустрэчу.

— Не, так не пойдзе,— падняўся Каптуроў, стары дзядок, сусед. Ён у маладыя гады таварышаваў з Алесічавым бацькам.— Я цябе, Іван, ведаю, калі ты яшчэ калыхаўся ў начоўках пасярод хаты. Вунь яшчэ ў брусе і той крук тырчыць. Рос на вачах. А потым у горад з'ехаў. Казалі, весела там жыў. Не ведаю, не бачыў. Ва ўсялякім разе, туды нас не запрашаў. А калі б і запрасіў, не паехалі б. Далёка. Каго там браў сабе за жонку, таксама не бачылі. Можа, такую ўзяў, што за яе і чарку не варта было піць. Яна ж, колькі жыла з табой, ні разу носа не паказала тут. Можа употайкі прывозіў? Не бачыў. І ніхто не бачыў. Думаеш, не ведаем, чаму ты болей глядзеў у бутэльку, чым на жонку? Ведаем. І разумеем. А потым і ад родных мясцін адарваўся. Вырваў сябе з карэннем. А без карэння заўсёды смага мучыць... Вось так. Хочаш, Андрэевіч, каб я далей гаварыў, пасадзі сваю маладзічку.— Ён замаўчаў, стаяў, чакаў, пакуль Каця, якая ўсё яшчэ нешта падавала на стол, не села побач з Алесічам. Расчырванелая ад старання, яна прыкметна бянтэжылася ад усеагульнай увагі.

— Вось цяпер, як належна,— працягваў Каптуроў.— Хто ты цяпер, Андрэевіч? Можаш не гаварыць. Цяпер паглядзім, каго ты прывёз. Таварышы, ціха! Паспееце выпіць... Дык вось. Аўтарытэтна заяўляю, як чалавек, які нямала пажыў на свеце, багата пабачыў, да Берліна дайшоў, так што ведаю гэту самую Еўропу. Ты прывёў у матчыну хату прыгожую жанчыну. І добрую. Чаму? На роднай зямлі ў цябе праясніліся вочы, ты ўбачыў прыгожае. А цяпер, Андрэевіч, да цябе пытанне. Што гэта такое,— і ён абвёў вольнай рукой застолле.— Сабраліся, сядзім, нічога не ведаем. Перакус, выпівончык, ці што? А што трэба з такой нагоды? Вяселле, Андрэевіч. Вялікае і прыгожае. Каб усе запомнілі. Няўжо, Андрэевіч, не зробіш? Каб твой бацька быў жывы, ён не дазволіў бы без вяселля. Яго няма. Я не дазволю без вяселля. Загадваю зрабіць вяселле. А паколькі таго вяселля прыйдзецца доўга чакаць, давайце зараз усе дружна вып'ем за шчасце нашых маладых,— ён прыгубіў шклянку, скрывіўся, зморшчыніўся, як ад нечаканага зубнога болю.— Горкая...

— Горка! — радасна закрычала яго суседка.

— Горка! — закрычаў Каптуроў.

— Братцы, гэта ж не вяселле,— спрабаваў пратэставаць Алесіч.

— Усё роўна горка! — крычаў Каптуроў.— Горка-а!

Паднялася Каця, падштурхнула локцем разгубленага Алесіча, пацалавала яго.

— Ура! — закрычаў Каптуроў, выпіў чарку і бразнуў яе аб падлогу.

На працягу ўсяго застолля Алесіч лавіў на сабе насцярожаны, крыху разгублены пагляд маці. Яна кожны раз, калі хто прапаноўваў чарговы тост, паглядвала на яго, сачыла, ці вып'е. Відаць, не магла паверыць, што яе сын сапраўды ўзяўся за розум... Алесіч не піў — не хацелася. Ён падымаў шклянку, нюхаў і ставіў яе на месца.

— Ды вазьмі ты! — сказала яму Каця.

— Не хачу псаваць свята,— нахіліўся ён да яе.— Ведаеш, мне яшчэ ніколі не было так добра.

На другі дзень Алесіч прачнуўся, калі ў хаце было зусім светла. У печы патрэсквалі дровы, пахла гарачымі аладкамі — маці рыхтавала сняданак. Каця спала. Калі яна паспіць яшчэ хоць гадзінку, тады на ранішні цягнік яны спозняцца. А потым нечага і ехаць у Гомель. Што рабіць там у канцы дня? І каб не разбудзіць жонку, Алесіч ляжаў, не варушыўся.

— Тут сусед яшчэ не пахмяляецца? — адчыніў дзверы Каптуроў. Убачыўшы адну Параску ля печы, загаварыў цішэй.— Яны што, спяць? Ну, панятна. Прабачце. Не ведаў. Ты, Арцёмаўна, дай мне якую грамульку, а то галава, як тая высахлая бочка без клёпак...

Каця адкрыла вочы.

— На цягнік не праспалі? — падняла ўскудлачаную галаву.

— Калі хочаш спаць, спі.

— Можа, паспеем яшчэ?

— Адпачывала б лепей.

— Не, калі надумалі, то...— яна падхапілася, накінула на плечы халат, пасядзела на ложку, пакуль выйшаў з хаты Каптуроў.— Падымайся, яшчэ паспеем.

— Можа, адкладзем?

— Не, не, не,— замітусілася яна, адзяваючыся.

З-за таго, што Каця настаяла на паездцы, а ён не сумеў адбіцца, у яго сапсаваўся настрой. Усю дарогу Алесіч маўчаў. Сядзеў з заплюшчанымі вачыма, рабіў выгляд,

што яму хочацца спаць. Каця не лезла з размовамі, толькі на вакзале ў Гомелі спытала:

— Паедзем тралейбусам ці схопім таксі?

— Як хочаш...

Яна скіравала на тралейбусны прыпынак. Ехалі моўчкі, моўчкі ішлі паўз высокія шэрыя дамы па мокрай асфальтавай дарожцы — з раніцы крыху імжыла. Ля самага дома, дзе жыў былы Кацін муж, яна прызналася:

— Ой, каб ты ведаў, як не хочацца сустракацца з ім. Аж ногі млеюць...

— Во яшчэ! — абурыўся Алесіч.— То цягнула мяне, то баіцца цяпер. Ідзі ўжо, калі прыехалі. Толькі доўга не барыся.

— А ты?

— Пачакаю. Што мне там рабіць? Не буду ж я ў вашых шафах капацца.

Каця стаяла, пакусвала вусны. Вочы яе набраклі слязьмі, звузіліся, пацямнелі. Здавалася, жанчына восьвось расплачацца. Алесіч сеў на лаўку, усміхнуўся:

— Будзем чакаць, пакуль сам вынясе тваё?

— Ухапіўся за шмоткі,— упікнула яна.— Трэба ж пра развод дамовіцца.

— Пойдзем і дамовішся.

— Калі так, то пайшлі назад,— закапрызіла і Каця.— Нібы адной мне гэта трэба.

— Ну што ты? — памякчэў Алесіч.— Адразу ўжо і... Сама падумай, навошта я там? Самі хутчэй дамовіцеся.

— Я баюся, Іван,— прызналася Каця. Глянуўшы на яго, папрасіла.— Хадзі ты. Цябе ён баіцца. Ты пагаварыў з ім тады, адразу перастаў ездзіць. І цяпер пагавары. Ці таксама баішся?

— Хто? Я? — запетушыўся Алесіч.— Добра. Не тырчаць жа нам тут да ночы. Я пайшоў. Ды не сядзі так, паглядвай уверх. Калі шугану твайго штангіста праз балкон, каб раптам не чмякнуўся ён табе на галаву.

Алесіч даволі жвава падняўся на пяты паверх, узняў руку, каб націснуць на чорную кнопку званка, і раптам убачыў, што тая нібы скача ў вачах, ніяк не мог злавіць кнопку пальцам — трымцела рука. Націснуў далоняй. Недзе, нібы пад зямлёй, боўкнула. Ніхто не выходзіў. Другі раз націскаць не стаў. Вырашыў пачакаць роўна дзве мінуты. Калі ніхто не адчыніць, ён спусціцца ўніз і скажа, што няма нікога дома. Глянуў на гадзіннік, стаў чакаць. Раптам ледзь чуйна шчоўкнуў замок. Дзверы ціха пры-

адчыніліся, выглянула круглая курносая невялічкая галава з кароценькім чубчыкам, навіслым над ілбом.

— Да мяне? — даволі ветліва спытала галава. У яе аблічча не было нічога пагрозлівага.

— Прабачце, але ёсць справа,— даволі смела сказаў Алесіч.

— Прашу,— гаспадар гасцінна адчыніў дзверы, упусціў Алесіча, зноў шчоўкнуў замком. Ён быў у майцы, якая аж лопалася на пукатых бугрыстых грудзях, у спартыўных сініх штанах, закасаных па калені, босы. У пярэдняй стаяла пластмасавае блакітнае вядро з чорнай вадой. На вядры вісела мокраяануча. З яе на падлогу капала брудная вада.— А я якраз узяўся марафет навесці, а то пыл на ўсім такі, хоць малюнкі малюй. Прабачце, я зараз,— ён занёс вядро з анучай у ванную, выйшаў адтуль у сінім шарсцяным касцюме з белымі абводачкамі на рукавах і на каўнерыку вакол магутнай шыі, у белых кедах. Запрасіў Алесіча ў залу, усадзіў у нізкае мяккае крэсла ля журнальнага століка, сам усеўся насупроць у такое ж крэсла.— Прабачце, здаецца, я вас недзе бачыў.

— Магчыма,— сумеўся Алесіч.— Прабачце, што без папярэджання. Але ў нас неадкладная справа.

— У каго гэта ў вас? — засмяяўся штангіст.— Вы ж адзін.

— У нас з Кацяй.

— А-а, цяпер успомніў, дзе з вамі сустракаліся. Не пакалечыў я вас тады?

— Не, як бачыце,— пачырванеў Алесіч.

— А дзе яна?

— Ля пад'езда сядзіць.

— Сорамна зайсці... Канешне, сорамна глядзець мне ў вочы. Я з самага пачатку зразумеў, што яна сцерва.

— Папрашу не абражаць. Яна мая жонка.

— Жонка? — аж прыўзняўся штангіст на падлакотніках, потым зноў плюхнуўся ў крэсла.

— Та-а-ак.— Алесіч не зводзіў вачэй са штангіста. Ён сапраўды баяўся яго.

— Ха-ха-ха! — заліўся штангіст смехам.— Віншую, дарагі. А я, дурань, баяўся, што яна вернецца да мяне. Каб яшчэ не такая...

— Я вас прашу!

— Прабачце, прабачце. Добра, не будзем пра яе. Я таксама некалі нікому не дазваляў дрэннага слова сказаць пра Кацю. Прыдушыў бы, каб хто каўкнуў паскуд-

нае. Потым у самога пралупіліся вочы. Хоць не буду пакутаваць, што дарэмна абражаў сваімі падазрэннямі добрую жанчыну. Добра, добра, болей ні слова... Даўно вы разам?

— Не вельмі.

— Вы яшчэ абое як у шорах. Нічога не бачыце, нічога не чуеце. Што ж, я рады, што яна не засталася мне.

— Ёй трэба аформіць развод.

— Ясна. Не распісваюць?

— Вядома, праблемы ёсць. Прыехалі пагаварыць. Дамовіцца. Каб без лішніх скандалаў, па-людску.

— На якіх умовах? — спытаў гаспадар.

— Якія могуць быць умовы? Ваша згода.

— Вы так лічыце? А яна?

— І яна.

— Хе, нібы я не ведаю яе. У нас жа нейкая агульная маёмасць з ёй... Я рэаліст, цвярозы чалавек, разумею, што трэба падзяліцца. Справядліва. Каб, як кажуць, бакі былі задаволены. Хоць яна і таго, але я не стану глядзець ужо, якая яна там...

— Яе паклікаць? — спытаў Алесіч.

— Пачакайце, пачакайце,— запярэчыў гаспадар.— Спачатку пагаворым з вамі. Як мужчына з мужчынай. Мы лепей зразумеем адзін аднаго. Яна вас слухае? Лічыцца з вашай думкай?

— Як паложана,— адказаў Алесіч.

— Дапусцім, што яно так на самай справе,— з недаверам паглядзеў на яго гаспадар.— Тады з вамі і дамовімся. Прызнацца, я чакаў такой размовы, больш таго, даўно падрыхтаваўся да яе. Ведаў, не мінаваць. Не ведаў толькі з кім. Я рад, што будзем гаварыць з вамі, а не з ёй. Ведаеце, нервы ў кожнага...— ён падняўся, адсунуў шкло на кніжнай паліцы, выняў кнігу, а з кнігі — пляскаты жоўценькі ключык, адамкнуў тым ключыкам бар, дастаў чорную глекаватую бутэльку.— Можа, возьмем па чарачцы?

— Дзякую. Не п'ю.

— Французскі каньяк? У мяне гарэлка ёсць...

— Наогул не п'ю.

— Не разумею,— пацiснуў плячыма штангіст.— Я думаў, якраз гэтым яна вас і прывабіла,— ён схаваў бутэльку зноў у бар, замкнуў яго, ключык паклаў у кнігу, кнігу наставіў на месца.— Як яна ўмее частаваць! Вышэйшы пілатаж. Звычайнае чарніла так падасць, што праглынеш

за лепшы напітак... Але калі не гэта, то што? Звычайная баба.

— Давайце пра дзела,— перапыніў яго Алесіч.

— Я казаў, што чакаў такой гаворкі і падрыхтаваўся да яе. Дарэчы, як у вас з кватэрай?

— У перспектыве...

— Ясненька,— ён усеўся зноў у крэсла, выцягнуў ногі з круглымі тоўстымі каленямі, як у жанчыны, закінуў нагу на нагу. Далей гаварыў, разглядваючы свае кеды з такой уважлівасцю, нібы вывучаў, як яны зроблены.— Я ацаніў усё, што мы нажылі з ёй разам. Падлічыў. Вядома, сюды ўвайшло і яе адзенне. На яго пайшлі ўсе мае рэкорды. Барахло яе каштуе якраз столькі, колькі ўся мэбля. Так што мэбля застаецца мне. Дываны хай бярэ. Цяпер пра галоўнае. Калі ў вас там у Зуеве наконт кватэры нейкая пэўнасць, то я прасіў бы гэтую кватэру пакінуць за мной. Каб не разменьваць...

— Ды мы...— Алесіч хацеў сказаць, што ім нічога ад яго не трэба, акрамя згоды на развод.

— Пачакайце, я скажу свае ўмовы, потым вы свае,— не даў яму выказацца гаспадар.— Чаму я не хачу мяняць? Мне, вядома, горад дасць кватэру, але такой, канешне, не дасць. Цяпер такіх не будуюць. Навошта ж, каб яна дасталася абы-каму? Побач з домам спартыўная школа. Мне абяцаюць месца ў гэтай школе. Потым я не люблю пераезды. Прывык. Калі адступіцеся ад кватэры, гэта будзе вельмі высакародна з вашага боку. У замен на вашу згоду прапаную некалькі варыянтаў. Магу кампенсаваць грашыма. Магу аддаць усю мэблю і яшчэ некаторую суму па ўзаемнай дамоўленасці. Магу аддаць «Жыгулі». Вядома, у любым выпадку яна забірае ўсё сваё адзенне. Вось мае ўмовы...

— Ды нічога нам не трэба,— нарэшце сказаў Алесіч тое, што збіраўся сказаць з самага пачатку.— Нам трэба толькі ваша згода на развод.

— Гэта вы так лічыце. Мне трэба ведаць, як яна лічыць.

— Яна хацела ўзяць толькі свае шмоткі.

— Вось бачыце, хоча ўзяць шмоткі. Можа, яшчэ што хоча? Вядома, мне чужога нічога не трэба. Хачу, каб потым без прэтэнзій... Вы гаворыце, яна ўнізе? Ідзіце, вядзіце сюды, і мы разам, як кажуць, паставім усе кропкі над і.

— Калі пагадзіцца,— засумняваўся Алесіч.

— Пагадзіцца, пагадзіцца. Яшчэ як пагадзіцца. За анучамі прыбяжыць,— але апошніх слоў штангіста Алесіч ужо не чуў, выйшаў.

— Ой, што ж ты так доўга там быў? — падхапілася насустрач яму Каця.— Чаго толькі не перадумала. Хацела ўжо міліцыянера клікаць, якраз міма ішоў.

— Чаго ты баішся? Мяне не ведаеш, ці што? — засмяяўся Алесіч.— У мяне гіпноз. Толькі зыркнуў на яго, ён перада мной на задніх лапках: чаго жадаеце?

— Пагадзіўся на развод?

— Канешне. Толькі хачу ў яго спытаць, а ён ужо гаворыць, што згодзен. Гіпноз! І не толькі згодзен. Усе твае шмоткі аддае. Дываны таксама. І «Жыгулі» ў прыдачу. Пайшлі, забярэш, што табе трэба.

Пакуль яны падымаліся па лесвіцы, Алесіч падрабязна расказаў жонцы пра размову са штангістам.

— А ты? Што ты сказаў?

— А што я? Я чалавек горды. Я сказаў, што нічога нам не трэба. Толькі развод. І ўсё. А што?

— Машыну возьмем. Адмаўляцца не будзем.

— Навошта яна?

— Ты ж некалі гаварыў, каб у цябе была машына, толькі тое і рабіў, што катаў бы мяне. Вось і будзем катацца.

Алесіч, які падымаўся па лесвіцы ўслед за жонкай, раптам абагнаў Кацю, заглянуў у твар,— яму не верылася, што яна гаворыць шчыра. Не, здаецца, не жартавала.

— Заходзьце, заходзьце,— адчыніў перад ім дзверы штангіст.— Віншую цябе, Екацярына, з законным шлюбам! Жадаю шчасця, багата дзяцей, здаровенькіх і разумненькіх!

Каця нічога не адказала.

— Твой законны не захацеў выпіць чарачку французскага каньяку,— працягваў штангіст.— Я падумаў, што ён без твайго дазволу нічога не робіць. Можа, цяпер па чарачцы? Пасядзім, пагутарым...

— Не, не,— закруціла галавой Каця, больш за ўсё баючыся, што раптам Алесіч пагодзіцца.— У нас часу няма.

— Няхай будзе па-твойму,— і штангіст запытаў заклапочана ў Каці: — Думаю, муж сказаў пра мае ўмовы. Дарэчы, можаш узяць сервізы... Пакінь мне толькі якіх пару талерак.

— І «Жыгулі»,— сказала Каця.

— Цудоўна,— абрадаваўся штангіст.— Зробім так. Вы пакуйце ўсё, што трэба, а я пайду прыганю машыну,— і спытаў у Алесіча.— Умееш ездзіць?

— Разбяруся,— адказаў Алесіч.

— Думаю, табе не трэба гаварыць, дзе што ляжыць,— сказаў штангіст Каці.— Нічога не мяняў, не перастаўляў. Пайшоў, праз паўгадзіны буду,— і ён, дастаўшы з нейкай патаемнай шуфлядкі ў серванце ключ ад гаража, выйшаў.

— Відаць, знайшоў сабе новую бабу,— хмыкнула Каця.— Вось і абрадаваўся, што так лёгка пазбавіўся нас. Думаю, другой прычыны не можа быць. Ведаю яго,— яна дастала з шафы простынь, загадала Алесічу.— Пакуй сервізы.

Паказала, дзе стаяў посуд, і пачала складваць сваю адзежу.

— А ты не хацеў машыну браць,— сказала Каця, калі яны напакавалі два вялізных вузлы з адзежай і посудам.— На сабе гэта хіба панеслі б?

— Я наогул нічога не браў бы.

— Не перажывай, яго тут нічога няма. Усё куплена за мае. Я не меней яго мела ў рэстаране. Калі падлічыць, можа, яшчэ і не ўсё забралі. Павер, ён заўсёды быў добранькі толькі за кошт другіх.

Пакуль яны ўсё павыносілі на вуліцу, да пад'езда пад'ехаў на «Жыгулях» штангіст. Ён памог ім затаптаць вузлы ў багажнік, посуд паставілі на заднім сядзенні. І калі ўжо Алесіч сеў за руль, падаў яму невялічкую паперыну:

— Даверанасць на машыну. Каб міліцыя не прыдзіралася. Праз дзень-другі перадам дакументы. Сам пераафармлю. Ну, дзякуй табе, што вызваліў мяне ад жонкі і машыны,— засмяяўся сапраўды задаволена. Але, відаць, яму падалося, што мала ўсеў Кацю і Алесіча, таму, заглядваючы ў машыну, запрасіў: — Дарэчы, ледзь не забыўся. Буду рады, калі вы прыедзеце на маё вяселле. Усё ж свае людзі, хе-хе... Калі не зможаце самі прыехаць, магу прыехаць па вас, у мяне «Волга» будзе. А што, падумайце. Народ сабярэцца культурны. Жонка інтэлігентная, кандыдат навук.

— Табе якраз і трэба кандыдат навук, каб павучыла таму-сяму,— адказала яму Каця.— Паехалі!

Алесіч не запускаў матор, чакаў, пакуль пойдзе штангіст. А той, заўважыўшы, як няўпэўнена садзіўся за руль Алесіч, чакаў яшчэ адной магчымасці пасмяяцца з яго.

— Ты хоць ездзіў калі? — устрывожылася Каця.

— Некалі на палутарцы на заводскім двары смецце вазіў,— сказаў Алесіч.— Але не журыся. Выедзем з шыкам...

Ён завёў матор і так газануў, што машына аж падскочыла, ірвануўшыся з месца. Дзынкнуў на заднім сядзенні посуд. Каця закрыла вочы рукамі, сядзела, не дыхала. Машына як рэзка рванулася з месца, так нечакана спынілася, выехаўшы з двара.

— Прыехалі,— уздыхнуў Алесіч і ўсміхнуўся жонцы. На яго твары высыпаў пот.— Пасядзі хвілінку, трэба пару слоў сказаць знаёмаму міліцыянеру,— і Алесіч, вылезшы з машыны, скіраваў да паставога, што стаяў недалёка на скрыжаванні вуліц.

— Дазвольце звярнуцца,— падышоў ён да яго.— Выручай, браток. Жонка разбеглася з мужам, ён так абрадаваўся, што ў прыдачу да жонкі даў мне яшчэ і свае «Жыгулі». А я за рулём ні бум-бум. Можа б, якога вадзіцеля папрасіў, каб падкінуў нас з жонкай у Зуеў. Разлічуся, як палажана.

Міліцыянер глянуў на гадзіннік, спытаў:

— Можаце пачакаць?.. Выдатна. Праз паўгадзіны канчаю дзяжурства і завязу вас. Мне якраз трэба ў Зуеў да маці...

— Дзякуем.

## 20

— Слухай, Валера, выступіш у маім класе? Перад вучнямі, іх бацькамі? — спытала Ала Пятроўна, збіраючыся ў школу. Яна ўчора позна заседзелася за сшыткамі, легла спаць, пакінуўшы іх на стале, і цяпер таропка пакавала сшыткі ў партфель.

— Чаму я? — выглянуў з пярэдняй ён з паліто ў руках. Якраз апранаўся.

— Калі начальнік выступіць, лягчэй будзе дамаўляцца з яго падначаленымі,— сказала яна.

— Што ты яшчэ прыдумала? — прысеў на шырокі падлакотнік грувасткага крэсла.

— Не я прыдумала, жыццё...

— І якое ж яно ў вас там?

— Як і было. Знешне. Так жа звіняць званкі, так жа школьнікі тузаюцца ў калідорах на перапынках. Як было багата сшыткаў правяраць, так і засталося, не паменела.

Як хадзілі на ўрокі правяральшчыкі, так і ходзяць. Цяпер нават болей. Настрой у настаўнікаў, праўда, змяніўся. Няма таго страху, які быў раней. Раней ідзеш у школу і думаеш, якога яшчэ падвоху чакаць, цяпер гэтага няма. Дырэктарка вельмі заклапочана, каб вярнуць свой аўтарытэт. Кажуць, шукае які завод ці фабрыку, дзе б вучні праходзілі вытворчае навучанне. Эксперымент такі. Завуч на кожнай нарадзе хваліць нас з Фаінай Алегаўнай. Аж смешна. Камедыя! Святлана Маркаўна нібы хоча перавесціся ў тэхнікум, не хоча заставацца. Але самае галоўнае, што ў школе рэзка панізілася паспяховасць. Цяпер у кожным класе і па кожнаму прадмету ёсць двойкі. Змагаемся за веды. Некаторыя вучні не хочуць вучыцца. Гаворыш ім, гаворыш, а яны, як глухія. Ёсць і такія, што вучаць урокі без усялякай цікавасці. Ім, вядома, сумна ад такой вучобы. Мне ж хочацца, каб вучні з нецярпеннем чакалі кожнага ўрока, заглядвалі на наступную старонку падручніка...

— Багата ты хочаш.

— Можа быць. Але без гэтага страчвае сэнс вучоба. Як дабіцца, каб усім дзецям хацелася вучыцца? Як расварушыць дзяцей? Пераканана, без дапамогі бацькоў цяжка дабіцца поспеху... Склікала іх, гаварыла. Пасядзелі, паслухалі і пайшлі такімі, якімі прыйшлі. Я падумала, а калі паспрабаваць праводзіць бацькоўскія сходы разам з вучнямі? І запрашаць на іх цікавых людзей?

— Ты лічыш, я цікавы чалавек?

— Лічу, што ты самы цікавы чалавек,— асляпіла яго белазубай усмешкай.

— Пра што мне гаварыць?

— Хе! Столькі пражыў на свеце і не ведае, што сказаць дзецям... Раскажаш, як вучыўся, як хацелася вучыцца. Табе ж хацелася вучыцца? Наогул, якое месца ў тваім жыцці займае вучоба. Параіш ім нешта карыснае. З вышыні свайго вопыту. Думаю, цябе вучыць не трэба.

— Калі сход?

— Калі скажаш...— яна шчоўкнула замком партфеля, выйшла ў пярэднюю.

«А што я магу параіць дзецям з вышыні свайго вопыту?» — падумаў Скачкоў, нацягваючы паліто на плечы.

Сеўшы ў машыну, сказаў вадзіцелю ехаць у цэх падземнага рамонту свідравін. Да яго дайшлі чуткі, што апошнім часам рамонтнікі выязджаюць на працу з затрымкай. Нібы іх падводзіць транспартны цэх. Даручыў Ка-

цянку разабрацца і далажыць. Той далажыў, што сур'ёзных парушэнняў не выявіў. Захацелася самому пагледзець, як там наладжана работа.

Раніца выпала туманная. З неба, як праз сіта, сыпаўся мокры снег. Забруджаная вада залівала каляіны, шэрымі веерамі разляталася з-пад калёс у бакі, забруджваючы снег на абочыне. Дворнікі нудна шкраблі лабавое шкло, навяваючы дрымоту.

«Што ж параіць дзецям?»

Стараўся ўспомніць што-небудзь са свайго жыцця. Нічога павучальнага не ўспаміналася... Можа, нагадаць пра якія карысныя ісціны? Якія ж ісціны ён выверыў сваім жыццём, сваім вопытам? Лезла ў галаву банальнае, усім вядомае... Хіба расказаць, як багата трэба ведаць нафтавіку? Дык любому працаўніку трэба ведаць нямала. Пра гэта пішуць усе піянерскія газеты. Трэба сказаць нешта сваё, такое, што толькі ён адзін ведае. А што? Вось каб выступаць перад таварышамі па рабоце, ён знайшоў бы што сказаць. І кажа. Ледзь не кожны дзень. На сходах, на планёрках. Пра нафтапромысел, пра яго праблемы... Дзецям жа гэта гаварыць не станеш. Ім трэба не пра вытворчасць, ім трэба пра жыццё. Як будаваць яго, ад якіх памылак берагчыся. Недзе чуў ці чытаў, што каштоўнасць кожнага чалавека як асобы вымяраецца тым, які вопыт ён можа перадаць дзецям. Няўжо яго жыццё нічым не павучальнае для дзяцей, няўжо яму нечага пакінуць ім у спадчыну? А можа, расказаць пра тыя праблемы, якія не ўдалося адолець яго пакаленню, якія застануцца на іх долю? Каб не думалі, што ўсё зроблена. Дзецям часта здаецца, што яны спазніліся нарадзіцца. На справе для кожнага пакалення новым цяжарам на іх плечы кладуцца новыя праблемы. Для кожнага пакалення спраў застаецца не меней, чым было іх у папярэдняга. А можа, і болей. Ускладняецца жыццё, ускладняюцца праблемы... Таму кожнаму наступнаму пакаленню трэба ведаў болей, чым папярэдняму. Але пра гэта ведаюць усе. Дзяцей можна яшчэ зацікавіць, а бацькоў? Трэба сказаць такое, каб узрушыць тых і тых. Тым больш што сход агульны. Не, трэба арыентавацца на дзяцей. Але і іх агульнымі ісцінамі не возьмеш. Дзеці нямала чытаюць, багата ведаюць. Праўда, не ўсё разумеюць, але нічога, зразумеюць, калі жыццё ляжа на іх плечы паўсядзённымі клопатамі...

А што б ён, Скачкоў, мог параіць роднай дачцэ? Што ён раіў ёй у свой час? Каб старалася вучыцца, каб нідзе

позна не барылася, каб заўсёды гаварыла бацькам, куды ідзе, дзе будзе, калі вернецца дамоў. Больш нічога не ўспаміналася. А як трэба жыць, здаецца, пра гэта не гаварыў.

І ўсё ж, што ён скажа вучням?

Няўжо нечага?

Пражыў нямала, пабачыў багата. Ваенныя яго ўзросту даўно на пенсіі. Мемуары пішуць...

Глянуў на вадзіцеля. Сцяўшы тонкія губы, той пільна глядзіць прыжмуранымі вачыма перад сабой. На твары супакоенасць упэўненага ў сабе чалавека. Цікава, якімі праблемамі жыве ён, шафёр першага класа, які за рулём больш дваццаці гадоў. Не толькі ж запчасткамі забіта яго галава?

— Слухай, Фёдаравіч, вось каб цябе паслалі ў школу выступіць перад дзецьмі, што б ты ім параіў? Са свайго вопыту, вядома.

— Што? — ён задумаўся, правёў рукой па чупрыне, пабітай сівізной, як маладзенькім інеем.— Я лічу, Міхайлавіч, што ўсе мы аднолькава можам параіць нашым дзецям. У нас з вамі няма маёнткаў, фабрык, заводаў. Мы пралетарыі. Якое багацце ў нашага брата? Праца. Болей нічога. Каб жыццё не падалося сумным, трэба мець прафесію па душы. Ёсць любімая прафесія,— ты шчаслівы чалавек. Наш брат работай прывязаны да жыцця. Няма ў чалавека любімага дзела — і ён як перакаці-поле. Канешне, можна параіць захапіцца рыбалкай, паляваннем,— гэта ўпрыгожыла б жыццё. Але цяпер рыбы няма, дзічыны таксама. Падарожнічаць? За якія сродкі? І як ні круці, нашаму брату застаецца адно — праца. Вось і трэба, каб яна была ў радасць. А што? Хіба не так. Міхайлавіч?

— Так, так, Фёдаравіч,— сказаў Скачкоў, падумаўшы, што дзяцей, якія яшчэ чакаюць ад жыцця нечага незвычайнага, такой парадай не ўсцешыш, не разварушыш.

А якой?

Усе гэтыя дні, калі правяраў своечасовы выезд рамонтных брыгад на аб'екты, праводзіў лятучкі, быў на воданагнятальнай станцыі, сустракаўся з бурыльшчыкамі, рабіў дзесяткі буйных і дробных спраў, Скачкоў не пераставаў думаць, што ж ён скажа дзецям. Разважанні няспыннай плынню жылі ў яго свядомасці. Яго ж выступленне, акрамя таго, што павінна было спадабацца бацькам і дзецям, павінна было спадабацца і жонцы. Не хацелася, каб

яна расчаравалася ў ім. А ў галаву лезлі толькі агульнавядомыя ісціны і нічога свайго, арыгінальнага. Няўжо ён такі заштампаваны? Але ж можна разважаць і так. Усе гэтыя агульнавядомыя ісціны, яны ж і яго асабістыя таксама. Людзі ў краіне жывуць агульнымі інтарэсамі, агульнымі імкненнямі, і таму ў іх багата агульных думак. Любіць сацыялістычную Радзіму, свой народ, свой край, быць высакародным у адносінах да людзей, быць чэсным, не задзіраць нос, дбаць перш за ўсё пра агульнае,— помніць, што шчасце толькі ў творчай працы, у барацьбе за светлую будучыню,— хіба мала?

Але такія разважанні мала супакойвалі яго. Ведаў, ад яго чакаюць нечага адметнага, што можа сказаць толькі ён, Скачкоў, нафтавік, кіраўнік вялікага вытворчага калектыву. Дык, можа, асабліва і не мудрыць? Расказаць пра нафтапромысел, расказаць, якая гэта складаная вытворчасць, якія тут складаныя механізмы, каб ведалі дзеці, што працаваць тут можна, толькі маючы грунтоўныя веды. А гэта і будзе агітацыя за вучобу... Тое, чаго чакае ад яго Ала Пятроўна.

Напярэдадні выступлення ў школе Скачкоў нікуды не паехаў, застаўся ў канторы, сказаўшы Эме Рыгораўне, сакратарцы, каб нікога не пускала да яго, не злучала тэлефоны. У сваім жыцці ён нямала парабіў усялякіх дакладаў, багата выступаў з лекцыямі, пісаў артыкулы ў газеты і часопісы, пісаў свае, пісаў для іншых, але ніколі не адчуваў такой няўпэўненасці, як цяпер.

Таму ён вырашыў адмежавацца на які час ад усіх спраў і напісаць калі не тэкст, дык хоць план выступлення, а потым паказаць яго жонцы, параіцца.

У аддзеле кадраў яму падрыхтавалі даведку аб супрацоўніках і рабочых упраўлення. З гэтай даведкі нечакана для сябе ён высветліў, што ўсе рабочыя з сярэдняй адукацыяй. Ёсць з вышэйшай. Асабліва сярод вартаўнікоў і вахцёраў. Яно і зразумела — там рабілі амаль адны пенсіянеры. Значыцца, дарагія дзеткі, калі хочаце пасля школы працаваць на нафтапромысле, пастарайцеся спачатку атрымаць атэстат сталасці. Хай задумаюцца!

Скачкоў ужо ведаў, пра што гаварыць на сходзе. План выступлення складаўся ў галаве лёгка і натуральна.

Ён хуценька пачаў запісваць яго.

Ціха адчыніўшы дзверы, які час моўчкі стаяла ў парозе Эма Рыгораўна, не спускаючы сваіх чарнявых вачэй з начальніка. Вось ён узняў галаву, кінуў выпадковы

няцямны позірк на дзверы, падалося, не заўважыў яе, бо зноў пачаў нешта пісаць.

— Валерый Міхайлавіч,— ціха паклікала Эма Рыгораўна.— Просіцца на прыём Удальцоў Ігар Іванавіч са сваімі памочнікамі. Яны сёння ад'язджаюць.

— Як ад'язджаюць? Так нечакана?

— Чаму нечакана? З тыдзень назад я заказвала ім білеты.

— І маўчалі,— упікнуў жанчыну.

— Думала, вы ведаеце.

— Дзе яны?

— Тут.

— Хай заходзяць,— Скачкоў склаў свае запісы, схаваў іх у кішэню пінжака, выйшаў насустрач вучоным.

Ён прывык іх бачыць у высокіх гумавых ботах, у брэзентавых куртках, барадатых. Цяпер яны былі ўсе ў аднолькавых па-вясенняму светлых касцюмах, відаць, нядаўна купленых, такія акуратненькія чысцюлі. Каб не загарэлыя абветраныя твары, то можна было падумаць, што ў кабінет уварваліся манекены з вітрыны універмага.

— Што ж не папярэдзілі? — парукаўся з кожным Скачкоў, запрасіў праходзіць і садзіцца.— Мы арганізавалі б вам людскія праводзіны, а то...

— Бачылі, што занятыя, не лезлі са сваімі клопатамі. Ды і некалі было. Сядзелі ноч і дзень. Пісалі даведку ў міністэрства. Хацелася зрабіць яе тут. У Маскве не ўдалося б так хутка. Там у кожнага свае турботы. Карацей, дакумент падрыхтаваны,— і Удальцоў паклаў перад Скачковым тоненькую папку.— Копія нашай даведкі. І рэкамендацыі,— ён крануў пальцам свае вусікі, якія на загарэлым твары не здаваліся такімі чорнымі, як спачатку.— Карацей, гэта не проста даведка, а ахоўная грамата для вас. Па нашым разлікам самы рэальны для ўпраўлення план — тры мільёны. Цяпер колькі ў вас? Чатыры? Варварства. Тэрмінова пішыце пісьмо ў міністэрства. Хай пераглядаюць. Нічога, што год пачаўся. Трэба пераходзіць на той рэжым, які мы рэкамендуем для кожнай свідравіны. Калі будзеце працаваць і далей, як цяпер, праз год нашы рэкамендацыі могуць устарэць. Сітуацыя ў многіх свідравінах можа змяніцца. У вас такі перабор! Адзін мільён! Карацей, Валерый Міхайлавіч, мы сваю місію выканалі і, дзякуючы вам, думаем, паспяхова. Вы нам стварылі ўмовы лепшых не трэба. Сваю даведку мы заўтра ж перададзім у міністэрства. Але і вы не спіце ў шап-

ку. Турбуйце іх. Там багата папер усялякіх, каб не забыліся на гэту...

— Дзякуем, Ігар Іванавіч,— Скачкоў узяў папку і схаваў яе ў сейф.— Заўтра пагляджу, а сёння... У колькі поезд?

— Праз пяць гадзін,— глянуў на гадзіннік Удальцоў.

— Выдатна, паспеем яшчэ ў рэстаране пасядзець,— Скачкоў падняў тэлефонную трубку, каб пазваніць у бухгалтэрыю, хацеў выпісаць якую сотню ў кошт зарплаты, бо якраз не захапіў з сабой грошай.

— Нічога не трэба,— спыніў яго Удальцоў.— Абед заказаны ў вашай сталоўцы. Карацей, бярыце сваіх саратнікаў, і паехалі.

Правёўшы членаў камісіі на поезд, позна вечарам Скачкоў вярнуўся дамоў.

Ала Пятроўна, накінуўшы на плечы цёплую хустку, за сталом правярала сшыткі.

— Дзе так загуляўся? — спытала, незадаволеная познім вяртаннем мужа. Абяцаў жа прыйсці раней, паказаць сваё выступленне.

— Праводзіў камісію.

— Я думала, над выступленнем сядзеў,— буркнула яна.

— Працаваў і над выступленнем,— бадзёра адказаў Скачкоў.

— Ці не ў рэстаране? — упікнула яна. Але гэтага ён не пачуў, паспеў зайсці ў ванную. Там загудзела вада.

Калі назаўтра ён разам з жонкай зайшоў у клас, калі Ала Пятроўна яго прадставіла дзецям і іх бацькам і Скачкоў, выйшаўшы да стала, убачыў стомленыя, пакрэсленыя маршчынамі, удумлівыя, твары людзей, якія, відаочна, не меней за яго пабачылі і пачулі, і твары дзяцей, светлыя, як сланечнікі ў зялёным агародзе, нечакана зразумеў, што ўсё, падрыхтаванае ім тут, не трэба. Бацькі, відаць, не меней за яго ведаюць пра тыя прадпрыемствы, дзе робяць,— а розніцы паміж нафтапромыслам і заводам ніякой, а для дзяцей яго лекцыя прагучыць, як чарговы дыдактычны ўрок...

— Вось прыйшоў да вас, каб расказаць пра людзей нашых, нафтаздабытчыкаў, а глянуў на вас і разгубіўся,— убачыў па тварах, што ягоная шчырасць кранула ўсіх.— Зразумеў, што гэта вам не трэба... Што ж вам расказаць?.. Можа, расказаць, як вучыўся ў школе? Можа, хто з бацькоў таксама вучыўся, як я? Расказаць?

— Давай,— пачуўся ззаду прыглушаны бас.

— Адразу хачу сказаць, што мне было вельмі цяжка вучыцца. Колькі вас у класе? Трыццаць пяць? Дык вось мне ў трыццаць пяць разоў было цяжэй, чым вам зараз. Уяўляеце? А чаму? Адзін быў у класе. Адзін. Пасля вайны гэта было. У малодшыя хадзіла болей, а ў чацвёрты адзін я. Некаторым не было ў чым хадзіць. Каму было ў чым, на вячоркі бегалі, а не ў школу. Сорамна было. А як жа! Жаніхі — і раптам у чацвёрты клас. Я таксама саромеўся. Але бацька памахаў перад носам рэмнем, і я ўсё зразумеў. Хай лепш будзе сорамна, чым балюча. Такім чынам я адзін і аказаўся ў класе. Не, забыўся, нас у чацвёрты адразу прыйшло пяцёра. Пяцёра і пачало вучыцца. Потым яны пакідалі школу. Адзін сказаў настаўніцы, што з граматы хлеба не гамаці, і пайшоў у кузню малатабойцам. Другі адразу ж кінуў школу, як пачаліся задачкі на адыманне. Казаў, каб яны былі на складанне, то вучыўся б хоць да дзесятага класа. Зараз ён робіць у калгасе кладаўшчыком, яму вельмі на карысць пайшлі задачкі на складанне. Трэці не ўмеў вершыкі на памяць вучыць. Выйдзе да дошкі і плача. Кінуў школу, захапіўся сабакамі. Па некалькі штук іх жыло ў яго двары. З таго хлопца, дарэчы, добры конюх атрымаўся. Цяпер, праўда, ён без работы, бо няма коней. Чацвёртай была дзяўчынка. Саромелася ў матчынай ватоўцы хадзіць у школу, а дзяўчынка была прыгожая, вось і кінула школу. Потым яна паехала ў Іванава, стала ткачыхай. Нядаўна ў газеце чытаў пра яе нарыс. Завочна вучылася. Зараз кіруе фабрыкай. Герой Сацыялістычнай Працы. Адным словам, я застаўся ў класе адзін. На мяне аднаго быў заведзены класны журнал. Мяне кожны дзень выклікалі да дошкі, кожны дзень правяралі дамашняе заданне... Вось чаму мне ў трыццаць пяць разоў цяжэй было вучыцца, чым зараз. Затое, калі пачаў хадзіць у пяты клас, я ажыў. Нас было там чалавек трыццаць, выклікалі да дошкі раз у месяц. Не вучоба, а маліна. Хоць падручнікаў было мала. Па аднаму на клас. Жылі ў розных вёсках. Дзень адна вёска вучыць, дзень — другая. А калі не вывучыў, а цябе выклікалі, маўляў, да мяне не дайшоў падручнік. Але настаўнікі не звярталі на гэта ўвагу. Ставілі двойкі. Хацеў, вывучыў бы. І ніякай гаворкі. Самае цікавае, што ўсе вучыліся. І нядрэнна. Запісвалі ўрокі за настаўнікамі, па запісах вучылі. Акрамя вучобы яшчэ і бацькам памагалі. Ездзілі на санках па дровы — коней было мала,— seклі тыя дровы, разграбалі

снег вакол хаты. Улетку абавязкова рабілі ў калгасе. Наогул, здаецца такой праблемы, як працоўнае выхаванне, тады не было... Дарэчы, мастацкіх кніжак наогул не было. Бібліятэкі згарэлі. У каго кніжкі былі свае, таксама пагарэлі разам з хатамі. Каб у нас было столькі кніжак, як у вас цяпер, канешне, мы таксама багата чыталі б. Прачытанае ў дзяцінстве запамінаецца на ўсё жыццё. Наогул, уражанні дзяцінства ўплываюць на многае, нават на выбар прафесіі... Ва ўсялякім разе, так было са мной. Чаму я, хлопец з лясной маленькай вёскі, раптам стаў нафтавіком? Адкуль гэта ў мяне? І наогул, выпадкова гэта ці не?.. А ведаеце, далёка не выпадкова. Пра якія карысныя выкапні Беларусі мы чулі тады? Мы чулі, чыталі, што наша багацце — торф. А ў нашым раёне і торфу няма. Канешне, хацелася, каб і ў нас нешта знайшлі. Калі я вучыўся ў старэйшых класах, раптам пачуў, што недалёка ад нас, у Хойніцкім раёне, знайшлі нафту. Пра гэта пісалі ў газетах, гаварылі па радыё. Настаўнік на ўроку расказваў, які росквіт у сувязі з нафтай чакае наш край. Тады, вядома, мы не ведалі, што тая нафта вельмі сярністая, для прамысловасці непрыдатная. І вось, калі я закончыў школу, адразу ж паехаў у нафтавы інстытут. І пачаў працаваць як нафтавік. Тут, у Беларусі... Праўда, нафту не адкрыў, яе адкрылі без мяне, але нейкае дачыненне да гэтага меў. Потым працаваў у розных установах, а цяпер зноў стаў нафтавіком. Як кажуць, законным. Цяпер шкадую, што багата часу праседзеў у кабінетах. Каб усё жыццё займаўся нафтай, я болей ведаў бы пра яе, быў лепшым спецыялістам. Хоць, я вам скажу, яшчэ ніхто, нават самы вучоны нафтавік усяго не ведае пра яе. Дарэчы, у маладосці часта здаецца, што мы ўсё пра ўсё ведаем. Было такое і ў мяне некалі. Ведаеце, як яно потым атрымоўваецца ў жыцці? Чым болей вучышся, тым болей разумееш, што вельмі мала ведаеш.

Напрыклад, што такое нафта?

Розныя спецыялісты па-рознаму адкажуць на гэта пытанне. Для геолагаў — гэта адзін з карысных выкапняў. Для прамыславікоў — яна проста сыравіна, з якой можна рабіць нейкія рэчы. Для хімікаў — гэта рэчыва, якое яшчэ далёка не вывучана навукай. Кожны па-свойму глядзіць на нафту і кожны па-свойму яе ацэньвае. Дык што такое нафта? Кажуць, мінерал. Але мінералы, як правіла, рэчыва не арганічнае. Таму нафту часта называюць арганічным мінералам. Чым пахне? Бензінам, ке-

расінам, саляркай і нават падгарэлым супам. Усяго хапае там. Якога колеру? Рыжая, вішнёвая, чырвоная, чорная, зялёная, жоўтая, празрыстая, адным словам, усялякая. Чаму? Ніхто не ведае. Колькі важыць нафта? Розная парознаму. Ёсць больш лёгкая, ёсць больш цяжкая. Як правіла, усе нафты лягчэй за ваду. Але сустракаюцца і такія, якія ідуць на дно ў вадзе, як камень. Чаму? Адказу на гэтае пытанне няма. Ці яшчэ адна таямніца чорнага золата. Заўважана, чым глыбей у зямлі нафта, тым яна лягчэй. Чаму? Тлумачэння няма. А вось на Сураханскім радовішчы, чым глыбей нафта, тым яна цяжэй. Наогул нафта задае чалавеку тысячы «чаму». Вядома, нафта ў вадзе не раствараецца. Вада ў нафце — таксама. А вось атрыманае з нафты трансфарматарнае масла ўбірае ваду, як губка. А жалеза вельмі добра раствараецца ў нафце. Такая яе асаблівасць нямала прыносіць клопатаў нам, нафтавікам. Ці яшчэ адна таямніца. Як, вядома, асфальт робяць з нафты. Ён, аказваецца, рэагуе на святло. Лепш асветлены асфальт горш раствараецца. Яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя адзін вучоны выкарыстаў гэту яго асаблівасць для атрымання малюнка на металічнай пласцінцы. Не выключана, што такая асаблівасць асфальту можа знайсці прымяненне ў фатаграфіі. У гісторыі навукі было такое не адзін раз, калі раптам пачынаюць шырока выкарыстоўваць даўно забытыя адкрыцці. Але ёсць адна асаблівасць нафты, якая не выклікае ніякага сумнення. Яна гарыць. Дарэчы, тэмпература згарання нафты значна вышэйшая, чым пораху і трацілу.

Чым жа растлумачыць, што не ўсе таямніцы нафты яшчэ раскрылі? Думаю, гэта можна растлумачыць тым, што вучоныя не ведаюць да канца, з чаго складаецца нафта. Бензін, керасін, розныя маслы, асфальт, салярка, вазелінавае, машыннае, верацённае, трансфарматарнае масла... Усяго не пералічыць. А калі на нафту глянуць вачыма хіміка, то ў ёй знойдзем амаль усе элементы табліцы Мендзялеева. Кісларод, вадарод, азот, сера, жалеза, кальцый, барый, медзь, ртуць... Дарэчы, у рознай нафты свой набор металаў. Чаму так, ніхто таксама не ведае. А колькі прымесей? Не злічыць. Вучоныя выявілі ў ёй толькі каля двухсот пяцідзесяці сярністых злучэнняў, пяцьдзесят розных кіслот. У любой нафце заўсёды ёсць парафіны. У адной толькі іх болей, у другой меней. Яшчэ адна незразумелая рэч, звязаная з парафінамі. Асфальт утвараецца пры акісленні нафты. І вось у асфальтах ні-

колі не сустракаюцца парафіны. Дзе яны дзяваюцца?.. Невядома. Дарэчы, у нафтах ніколі не сустракаюцца хлор, бром і ёд. Але ў вадзе, якая заўсёды падпірае нафту і непасрэдна з ёй кантактуе, яны заўсёды ёсць.

Але самая вялікая таямніца нафты — яе паходжанне. Адкуль яна ўзялася? Як утварылася ў зямных нетрах?

Ёсць дзесяткі гіпотэз аб яе паходжанні. Некаторыя лічаць, што нафта ўтварылася ад загінуўшых жывёлін і раслін. Некаторыя лічаць, што нафта вулканічнага паходжання. Нібы яна ўтварылася на вялікай глыбіні ў зямных нетрах у выніку розных хімічных рэакцый з мінеральных рэчываў. Дарэчы, у лабараторных умовах атрымана нафта з мінеральных рэчываў, якая нічым не адрозніваецца ад прыроднай. Амаль нічым не адрозніваецца ад прыроднай і нафта, атрыманая ў лабараторных умовах з арганічных рэчываў. Вось так... Ёсць і касмічная тэорыя, паколькі ў метэарытах, у гэтых пасланцах космасу, знаходзяць бітум. Калі абагуліць усе гіпотэзы, то стане ясна, што погляды на паходжанне нафты падзяляюцца ў асноўным на дзве групы: на прыхільнікаў арганічнага паходжання нафты і на іх праціўнікаў.

Навукі дакладна вядома, што ўсе арганічныя рэчывы аптычна актыўныя. Гэтая асаблівасць ёсць і ў нафты. Калі прапускаць праз яе прамень святла, яна адхіляе яго. На гэтай падставе некаторыя лічаць нафту арганічнага паходжання. Праўда, празрыстая нафта такой асаблівасці не мае. Зноў таямніца. Але аптычная актыўнасць характэрна некаторым мінералам, такім, як кварцы. Гэта дае падставу прыхільнікам неарганічнага паходжання нафты крытыкаваць прыхільнікаў арганічнага паходжання нафты.

Як жа ўяўляюць сабе ўтварэнне нафты вучоныя-арганікі?

Расліны і жывёлы, што насяляюць азёры, моры, загінуўшы, ападаюць на дно. Ападаюць разам з рознымі бактэрыямі, солямі. З часам такіх ападкаў набіраецца вялікая тоўшча. Пад вялізным ціскам і пад уплывам высокай тэмпературы, якая заўсёды трымаецца на глыбіні, з усіх гэтых арганічных ападкаў і ўтвараецца нафта.

Вучоныя падлічылі, што ў ападкавых пародах нашай планеты ўтрымліваецца каля васьмідзесяці тысяч мільярдаў тон арганікі. Гэта прыкладна ў сто разоў болей выяўленых на сённяшні дзень запасаў нафты.

Што іменна з гэтых вуглевадародаў утварылася і

ўтвараецца нафта, прыхільнікі арганічнага паходжання нафты не сумняваюцца.

Але арганікам не верацъ прыхільнікі неарганічнага паходжання нафты. Яны даказваюць, што нафта ўтварылася на недасягальнай для чалавека глыбіні пад уздзеяннем тэмпературы і ціску. Потым па ўсялякіх трэшчынах яна падымаецца вышэй і накапліваецца ў так званых лавушках пад салянымі ці іншымі купаламі, якія не прапускаюць нафту вышэй.

Калі так, разважаюць прыхільнікі арганічнага паходжання нафты, чаму тады нафта сустракаецца толькі ў ападкавых пародах, чаму яе няма ў крысталічных тоўшчах, дзе яна павінна б быць, калі сапраўды ўтварылася ў зямных глыбінях?

Адным словам, паходжанне нафты да сённяшняга дня не высветлена. Гэта праблема яшчэ чакае сваіх даследчыкаў.

Мне ж асабіста часта думаецца, што дарэмна арганікі і неарганікі спрачаюцца між сабой. Відаць, нафта ў прыродзе ўтвараецца і арганічным шляхам, з загінуўшых раслін і жывёл, а таксама і дзякуючы хімічным рэакцыям на вялізных глыбінях. Таму і сустракаюцца такія непадобныя адна на адну нафты. А потым, яны ж, гэтыя нафты, могуць яшчэ і змешвацца ў самых розных прапорцыях...

Чаму ж нам так неабходна ведаць пра паходжанне нафты? Здабыча нафты расце з кожным днём. Дакладнае веданне паходжання нафты паможа геолагам адкрываць новыя яе радовішчы, а галоўнае, вызначыць, ці багата яе ў зямной кары, ці надоўга хопіць людзям.

Бачыце, колькі таямніц, звязаных з нафтай, якую людзі ведаюць, здавалася б, вельмі даўно. Я назваў далёка не ўсе сакрэты чорнага золата. Так што вам яшчэ багата чаго засталося высвятляць. Ці возьмем такую праблему, звязаную з нафтай. Вы ведаеце, што з яе вырабляюць гуму, бензін, нейлоны, капроны, выбуховыя рэчы, розныя фарбы, лякарствы, харчовы бялок. Усё немагчыма пералічыць, што робяць людзі з нафты. І зусім немагчыма ўявіць, якія яшчэ карысныя рэчы навучацца рабіць з яе. А пакуль што мільёнамі тон гэту каштоўнейшую сыравіну, якой роўнай няма на зямлі, мы спальваем у топках, у аўтамабільных рухавіках... Каб захаваць яе для будучага чалавецтва, трэба знайсці іншыя крыніцы энергіі. Атамная энергія, энергія сонца, ветру, вады... Так, можна навучыцца дабываць энергію са звычайнай вады, якой на

зямлі хопіць на ўсе вякі... Над гэтай праблемай працуюць вучоныя зараз, прыйдзецца працаваць над ёй і вам. Гэта абавязкова трэба зрабіць. Бо калі не зробім, то спалім усю нафту, так і не разгадаўшы яе таямніц.

І такіх праблем, над якімі вам яшчэ прыйдзецца ламаць, ды яшчэ і як ламаць, свае галовы, вам пакінем нямала.

Вы павінны іх вырашыць ці старацца іх вырашыць, калі хочаце, каб добра жылося на зямлі вам, вашым дзецям, унукам, праўнукам... З такімі праблемамі могуць справіцца толькі адукаваныя, мудрыя людзі.

Усе сядзелі прыціхлыя, нават не варушыліся,— так слухалі. Калі Скачкоў скончыў гаварыць, падумаў, што прагаварыў якіх мінут дзесяць. Глянуўшы на гадзіннік, здзівіўся — прайшло болей гадзіны.

— Пытанні ёсць? — пацікавілася Ала Пятроўна.

— Часцей трэба такія сходы,— пачуўся голас ззаду. Гаварыў мужчына з чырвоным абветраным тварам, з кароткімі валасамі — вожыкам — на галаве.— А то сабяруць і далдоняць: трэба вучыцца, трэба вучыцца. А яно потым зусім не хочацца вучыцца. А пачуўшы такое, дурань зразумее, што без навукі не пражыць.

— Кажуць, што зямля асядзе, калі нафты багата выкачаюць. Гэта праўда? — спытала маладая жанчына ў чырвоным плашчыку і белым берэціку.— У маёй маткі ў вёсцы на агародзе стаіць качалка, суседзі смяюцца, што яе хлеў хутка пад зямлю праваліцца разам з каровай. Баіцца ў хлеў хадзіць даіць карову, так налякалі.

— Асядзе зямля, і будзе там возера,— засмяяўся чырванатвары.

— Можна мне? — падняўся дамскі закройшчык Генадзь Іванавіч.— Я што хачу сказаць? Цікавая лекцыя. Праваліцца зямля ці не праваліцца? Тут не да жартачкаў. Гаворка ідзе вельмі сур'ёзная. Ясна, што без вучоных сучасная дзяржава не можа. Трэба вучыцца. Але ці ўсім? Канешне, сакрэт нафты трэба разгадаць. Без вучоных не абысціся. А ці можа дзяржава абысціся без прыбіральшчыкаў, без санітарак у бальніцах? Пакуль што нешта не бачу такіх машын, каб двары падмяталі. І ў пакоях без швабры не абысціся. Не галавой, а рукамі трэба паварушыць. Што казаць, яшчэ багата ў нас работ, дзе рукі трэба. А мы што? Навукам вучым, а працаваць не. Як паны якія. У нас у канторы прыбіральшчыца захварэла. Тры дні ў прыёмнай не падмяталася, пыл не выціраўся.

А сакратарка сядзіць з чырвонымі пальчыкамі і не здагадаецца, што трэба ўзяць венічак. Лепей па вушы ў смецці, чым венічкам памахаць. Яна ж і дома недзе такая. А чаму? Таму што з дзяцінства не прывучалі. Лектар гаварыў тут, як яны працавалі ў дзяцінстве. Дык і людзі ж з іх атрымаліся разумныя, працавітыя. А цяпер? На будоўлях не хапае рабочых, а ў канторах лішнія. Чаму?

— А я сваіх джыгітаў сам прывучаю,— падаў голас Мустафаеў.— Я зранку кожнаму — даручэнне. Табе тое, табе тое. У мяне няма праблемы. Любяць працаваць.

— Не ва ўсіх жа так,— працягваў дамскі закройшчык.— У мяне суседзі. Ён і яна. Вучоныя людзі. З партфелямі ходзяць. Адна дачка. Яны ж ёй талеркі не даюць памыць. Я сваім сынам сказаў, каб на такой не жаніліся. Вось вы, начальнік, гаварылі багата і мудра. Скажыце, як зрабіць, каб дзеці не адбіваліся ад працы? А то ж да смешнага дайшлі. У другога адляціць гузік, ён і ходзіць расхрыстаны, пакуль маці не прышые. Мы ж працаўнікі, дзяржава працоўных, а каго росцім? Як тут быць, таварыш начальнік?

— А песні якія спяваюць па радыё? — падаў голас чырванатвары.— Пра арэлі ўсялякія, пра дзень нараджэння. А каб пра работу, дык не. Некалі спявалі: «Мы кузнецы...» А цяпер?

— Гэта так,— сказала маці Ігара Шагуна, правадніца.— Я ў паяздах езджу. Наглядзелася. Колькі такіх, што бачаць шчасце ў тым, каб нічога не рабіць. І не робяць. Знаходзяць такую работу, дзе можна лынды біць. Вёскі пусцеюць, а гарады лопаюцца ад людзей. Усе рынуліся на лёгкі хлеб. Я некалі расла ў маці. Яна мяне змалку на поле брала. І палола, і лён аббівала. А свайго не магу прымусіць. Каб школа, ці што...

— Ператворым школы ў заводы,— хмыкнуў бацька Ігара Калінава.— Хай не вучацца, а ўкалваюць. Дагаварыліся. Мы ж ганарымся, што наша краіна шчаслівага дзяцінства. Навошта адымаць у дзяцей яго? Дзеля чаго змагаліся?

Усім хацелася выказацца. Гаварыў сусед з суседам. Пачалася бязладная перабранка. Узняўся гул. Нельга было нічога пачуць.

— Таварышы! — ударыла далонню па стале Ала Пятроўна.— Увага! Я разумею, што гэтая праблема ўсіх вас вельмі хвалюе. Мне здаецца, трэба спецыяльна сабрацца

і пагаварыць пра гэта. А цяпер давайце закругляцца, а то дзеці не паспеюць падрыхтаваць урокі.

Пасля сходу Скачкоў з Алай Пятроўнай не вельмі спяшаліся дамоў.

Вясна набірала разгон. З прысадаў цягнула пахам адмяклых дрэў. Дарога пачарнела. З мокрых дахаў сыпаўся капеж у рыхлы снег.

— А ты разварушыў іх,— пахваліла мужа Ала Пятроўна.

— Ерунда атрымалася. Думаў сказаць адно, а сказаў другое,— Скачкоў быў незадаволены сваім выступленнем.— Каб знаццё, болей расказаў бы пра наша пасляваеннае дзяцінства, як жылі, як працавалі. Яны ж нічога не ведаюць пра гэта.

— Нічога, яшчэ будзе час. Не апошні сход.

## 21

Ля канторы Скачкова перахапіў брыгадзір рамонтнікаў Тарлан Мустафаеў. Ён узяў яго пад руку, узяў моцна, учэпіста,— не вырвешся,— бліснуў усмешкай пад чорнымі навіслымі вусамі:

— Не спяшайся, начальнік, пагавары са сваім брыгадзірам. Даруй, што так. Не магу, панімаеш, у твой кабінет папасць. Сакратарка, як тыгра. Сапсаваны патэфон. Адну і тую ж пласцінку круціць, з вашым пытаннем ідзіце да Кацянка. Гэта мне. Нібы не ведаю, да каго мне трэба. А што Кацянок? Я гаварыў яму не адзін раз, а ён нічога не робіць. Я яму не начальнік. Панімаеш? Ты яму начальнік. Скажаш, зробіць.

— А што сказаць?

— Скажы, каб раствор вазілі. Учора прывезлі пасля абеду. Паўдня прасядзелі без дзела. Тарлан Мустафаеў не любіць без дзела. Тарлан Мустафаеў нядаўна кватэру атрымаў. Тарлан Мустафаеў не хоча дрэнна работаць. Панімаеш? Скажы яму, начальнік, каб не забываў нашу брыгаду.

— Якія яшчэ просьбы? — спытаў Скачкоў.

— Навошта ўсе адразу, начальнік? Зрабіце гэта. Потым яшчэ будуць. Не хвалюйся, начальнік, у мяне заўсёды ёсць просьбы. Але не ўсе адразу. Панімаеш? Ніякага начальніка не хопіць на ўсе просьбы.

— Добра, Тарлан. Скажу каму трэба.

— Дзякуй, Міхайлавіч. І скажы сваёй тыгры, каб не звярэла, каб чалавекам была. Жанчына павінна быць чалавекам. Мяне не пускаць да цябе ў кабінет... Я, Мустафаеў, павінен у калідоры лавіць начальніка... Смех...

— Як мой землячок працуе? Алесіч? — перавёў гаворку Скачкоў.

— Калі ў вас усе такія, як Алесіч, мне вельмі панятна, чаму цябе паставілі начальнікам. Разумныя людзі растуць у вашай вёсцы... Не забудзь жа сказаць Кацянку,— і Тарлан Мустафаеў, развітаўшыся, пайшоў да лятучкі.

У прыёмнай Скачкоў пацікавіўся, калі да яго прыходзіў Тарлан Мустафаеў.

— Некалькі разоў,— адказала Эма Рыгораўпа.— Двойчы накіроўвала яго да Кацянка. Адзін раз да галоўнага інжынера...

— Ясна,— Скачкова, які спыніўся ў прыадчыненых дзвярах у свой кабінет, зноў затрымала Эма Рыгораўна.

— Вам тэлеграма, Валерый Міхайлавіч,— яна даволі жвава для сваёй аб'ёмнай постаці паднялася з-за стала, падала яму складзены аркушык паперы.

Скачкоў тут жа разарваў тэлеграму, прачытаў: «Тэрмінова прашу прыбыць у міністэрства. Намеснік міністра...»

— Хм...— паціснуў плячыма ён.— Па якому пытанню? Якія даведкі браць з сабой? Цёмная ноч...

— Відаць, па плану,— Эма Рыгораўна села за свой столік з пішучай машынкай, аддана глядзела на Скачкова чарнявымі вачыма.— Можа, білет заказаць на самалёт, Валерый Міхайлавіч?

— Закажыце. І выклічце машыну,— Скачкоў пайшоў у кабінет.

Яго ўжо чакалі. У кабінеце сядзелі галоўны геолаг Працько, падпёршы цяжкую галаву барадой, якая за гэтую зіму прыкметна параскашнела, відаць, ён ні разу яе не караціў; галоўны інжынер Бурдзей з даўно не стрыжанымі валасамі, якія аж закрывалі вушы, і начальнік тэхналагічнага аддзела Кацянок з натапыраным вераб'іным чубчыкам.

Скачкоў сеў за свой стол, агледзеў усмешліва прысутных, спытаў:

— Гляджу я на вас і думаю, ці маеце вы маральнае права працаваць у сучасным нафтагазадабываючым упраўленні?

Кацянок з Бурдзеем пераглянуліся, як падалося, насцярожыліся. Працько сядзеў спакойна, як манумент.

— Нібы жывіцё не ў дваццатым стагоддзі,— даводзіў сваё Скачкоў.— Пазарасталі, як пяшчэрныя людзі. Ці, можа, забылі дарогу ў цырульню?

— Не да парасят, калі свінню смаляць,— сказаў Макухін.

— Дзе ж тую свінню смаляць? — апошнім часам Скачкоў пачынаў недалюбліваць Кацянка. Занадта багата наганяе страху. Паслухаеш яго іншы раз, жыць не хочацца.

— Ужо не ведаеш, дзе ноч, дзе дзень,— бурчэў Кацянок.— Не працуем, а ўвесь час пажар тушым. Не ведаю, колькі так вытрымаем. Валерый Міхайлавіч, няўжо не бачыце, якая напружанасць? Добра было б, каб гэта ўсё часова, а калі — сістэма? Не... Яшчэ трохі — і пачнуць разбягацца людзі, нягледзячы на прэміі. Каму такое трэба? Была ж камісія, усе чакалі вынікаў. Маўляў, стане лягчэй. Месяц, як паехала камісія. І што? Дзе палёгка? Усё засталося па-ранейшаму. Які быў план, такі застаўся.

— Як вы ведаеце,— перапыніў яго Скачкоў,— даведка камісіі і наша пісьмо знаходзяцца ў міністэрстве.

— Ясна, што ў міністэрстве. Але ў каго? У таго, хто павінен прыняць рашэнне, ці, можа, у якой сакратаркі пад сукном? А мы сядзім, чакаем. Трэба ехаць, дабівацца, каб хутчэй зменшылі план. Пад ляжачы камень вада не цячэ.

— Гэта праўда,— сказаў Скачкоў.— Я сёння еду ў Маскву, выклікаюць. Што тычыцца ляжачага камня, Вячаслаў Мікітавіч, то часам пад камень, які і не ляжыць, вада не цячэ. Колькі разоў да вас звяртаўся Тарлан Мустафаеў, каб яму своечасова завозілі раствор? Тарлан Мустафаеў — не ляжачы камень... Я таксама даручаў вам разабрацца з рамонтнікамі.

— Мустафаеў думае, што ён адзін ва ўпраўленні,— пайшоў у наступ Кацянок.— Ён не адзін такі. Мустафаеў, як прыедзе на свідравіну, так адразу вязі яму раствор. А ён, раствор, можа, яшчэ болей каму трэба ў гэты час. А ў мяне ёмістасцей, самі ведаеце, не хапае, каб усіх адразу забяспечыць. Прыходзіцца пачакаць. Як некалі казала мая маці, я не музыка, адразу для ўсіх не сыграю...

— Правільна, але... Вы, Вячаслаў Мікітавіч, для ўсіх ва ўпраўленні прадстаўнік кіраўніцтва, кіраўнік. Калі хто з рабочых ці брыгадзіраў звяртаецца да вас, зрабіце ўсё

магчымае і нават немагчымае, але просьбу задавольце. Раз адмовіце, два адмовіце, трэці раз да вас не звернуцца. Тады навошта вы? Наогул, людзям, якія звяртаюцца, трэба памагаць. Лайдак не пабяжыць да начальства, будзе чакаць, пакуль само начальства пра яго падумае. А гэтыя неспакойныя, няўрымслівыя, хочуць зрабіць болей, хутчэй, не любяць спаць у шапку. Такіх трэба заахвочваць... Мяне сёння перахапіў ля канторы Мустафаеў.

— Ён яшчэ не даехаў да свідравіны, а ўжо вязі яму раствор.

— Правільна патрабуе. Ідзіце, Вячаслаў Мікітавіч, і дайце распараджэнне, каб Мустафаеву ў першую чаргу адправілі раствор.

— І тут не могуць без блату,— буркнуў Кацянок, стукнуўшы дзвярыма.

— Якая яго муха ўкусіла? — здзівіўся Скачкоў.— Ніколі такі злы не быў.

— Я яму шапнуў, што вас выклікаюць у Маскву, каб прызначыць замест Дарашэвіча начальнікам аб'яднання, а Кацянок не хоча з вамі расставацца,— засмяяўся галоўны інжынер.— Гэтага не можа быць, кажа, гэта так не робіцца. Адным словам, у хлопца прапаў настрой.

— Не будзем пра гэта,— усміхнуўся Скачкоў і звярнуўся да галоўнага геолага.— Дарэчы, Віктар Іосіфавіч, як справы ў нафтаразведчыкаў?

— Ніяк.

— Вы ж казалі, што яны паднялі нафтаносны керн.

— Сам бачыў. Нюхаў. Усе адзнакі нафты. А сталі выпрабоўваць, суха. Нафтаносны керн вельмі часта — яшчэ не нафта. Хутчэй за ўсё яе там няма. Каб была, то знайшлі б. Калі яна на Зуеўскай плошчы была, дык шукалі, шукалі і знайшлі. А то дзесяць гадоў шукаюць і ніводнага пакуль радовішча. Праўда, ёсць у іх адзін геолаг настырны. Буткевіч. Не здаецца яшчэ, гаворыць што вялікая нафта наперадзе. Праўда, яму не вераць, смяюцца, як з дзівака. Карацей, справы ў іх не вельмі. Калі ў гэтым годзе нічога не знойдуць, то іх, відаць, разгоняць.

— Нічога сабе перспектыва, вясёленькая,— уздыхнуў Скачкоў і звярнуўся да галоўнага інжынера.— Ігар Сямёнавіч, дакладвайце...

Планёрка зацягнулася. Акрамя бягучых пытанняў, пагаварылі пра перспектыву нафтапромыслу. Усе службы падрыхтавалі свае мерапрыемствы, так што было пра што пагаварыць, пра што паспрачацца...

Калі, нарэшце, Скачкоў застаўся адзін у кабінеце, ён пазваніў у школу. Жонкі ў настаўніцкай не было. Сказалі, што на ўроку. Папрасіў, каб пазваніла яму. Выйшаў, спытаў у сакратаркі, ці ёсць білет на самалёт.

— Білет заказаны,— паведаміла Эма Рыгораўна.— Да адлёту засталося крыху болей трох гадзін. Машына чакае.

Скачкоў вярнуўся ў кабінет, сабраў на стале паперы, патрэбныя, на яго думку, паклаў у карычневую скураную папку, з якой звычайна ездзіў на нарады ў аб'яднанне, у міністэрства.

Пазваніла жонка.

— Што там здарылася? — не без трывогі, хоць і весела, спытала яна.

— Тэрмінова еду ў Маскву.

— Я ўжо прывыкла, што ты заўсёды тэрмінова некуды едзеш.

— Разумееш, не ведаю, чаго выклікаюць. Можа, па плану, а можа, наконт работы.

— Якой работы? — насцярожылася Ала Пятроўна.

— Разумееш, пакуль што нікога не прыслалі на месца Дарашэвіча. Багата адкрыта нафты ў Сібіры. Таксама трэба кадры. Я не ведаю, чаго выклікаюць, але не выключана... Каб якая справаздача, напісалі б, а то нічога, просьба прыехаць, і ўсё...

— Дзякую, што здагадаўся пазваніць, параіцца. Нарэшце дачакалася...

— Не трэба, Ала.

— Хіба не так? Можа, і зараз прыняў рашэнне, ды няма смеласці сказаць. Рыхтуеш мяне паступова. Не ведаю. Але думаю, што хопіць з нас. Гады не тыя. Ды і школу зараз не магу кінуць. Вось так, Валера... Калі назад?

— Не ведаю. Думаю, заўтра.

— Шчаслівa,— і ў тэлефоннай трубцы запішчала.

«Здаецца, знайшла сябе баба»,— падумаў пра жонку Скачкоў. Але радасці на душы не было. Быў сум. Можа, ад таго, што жонку перастала цікавіць яго жыццё, ва ўсялякім разе, зараз яна аднеслася да яго абыякава. Захапілася школай, а на ўсё астатняе завязала вочы. Нават нічога не параіла. Сказала як адрэзала, што нікуды не паедзе. А ён як хоча. І сапраўды, як быць? Хоць пакуль што тут ніякай праблемы няма. Усё ясней яснага. Яна нікуды не паедзе, а значыцца, і ён. Адкуль жа гэтыя сумненні, гэтая няпэўнасць? Нейкія ваганні? Каб з кім пагаварыць, параіцца, можа б, зняў з душы цяжар. Але з кім?

Сапраўды, з кім? Перабраў у памяці ўсіх, каго ведаў тут, у Зуеве. Аказалася, няма нікога. У Мінску быў Кірылаў. Аднавяскоўвец, сусед. Заўсёды, калі цябе ахутвала шэрым туманом самотнасць, пазвоніш яму, сустрэнешся, глядзіш — і пасвятлее жыццё. А можа, пазваніць зараз? А што сказаць? Як жывеш? І ўсё? Праўда, часам гэтага дастаткова, каб на душы павесялела. Важна ведаць, што ёсць чалавек, які разумее цябе, што ты не адзін на зямлі... Але цяпер не паспееш дазваніцца. Чакаць няма калі... А наогул, чаму я захандрыў? Нічога ж не здарылася. Еду ў Маскву. Праўда, невядома, чаго выклікаюць. Але ж гэта не падстава хандрыць...

— Валерый Міхайлавіч,— вырасла ў дзвярах Эма Рыгораўна.— Машына чакае.

— Еду, еду,— спахапіўся Скачкоў.

Скачкоў усеўся ў машыне на задняе сядзенне.

Заўсёды, калі яго ахоплівала вось такая, як зараз, засяроджанасць на нечым сваім, калі ў душы панавала незадаволенасць і нейкая цьмяная панываласць, хацелася быць аднаму, каб ніхто не парушаў твайго настрою, не прынізіў патаемную пакутлівасць душы пустой і непатрэбнай гаворкай. Седзячы на пярэднім сядзенні, побач з вадзіцелем, Скачкоў заўсёды адчуваў нейкую вінаватасць перад ім, не мог маўчаць, заўсёды пра нешта пытаўся ці што-небудзь расказваў. Ззаду ж можна было сядзець моўчкі, крыху з'ехаўшы з сядзення, унурыўшыся ў каўнер плашча, вось як і зараз,— ад гэтага яшчэ ўтульней адчуваеш сябе,— і не гледзячы на дарогу, думаць пра сваё.

Вадзіцель добра разумеў настрой свайго пасажыра і, калі той садзіўся ззаду, не турбаваў яго, нават не пытаўся, куды ехаць. Ехаў, і ўсё. Зараз ён ведаў, што трэба ў аэрапорт, і моўчкі гнаў туды машыну.

Перад мостам праз Днепр машына рэзка запаволіла скорасць, Скачкоў аж хітнуўся ўсім целам, нахіліўшыся наперад. Гэты штуршок абудзіў яго ад маўклівай засяроджанасці.

— Што здарылася, Фёдаравіч? — пацікавіўся.

— Днепр, Міхайлавіч...— Заўсёды, як такой парой еду праз Днепр, рука сама тармозіць машыну,— яму, відаць, знадаела ехаць моўчкі, ён азірнуўся, апаліў Скачкова падзіцячы радаснымі вачыма.— Суткамі б любаваўся. Такі разліў!..

Скачкоў глянуў у акенца. Ад дарогі і да самага далё-

кага лесу, які цёмнай палоскай сінеў на гарызонце, разляглася вада, перакуліўшы ў сябе высокае неба, з рэдкімі белымі, прасвечанымі сонцам, аблачынкамі. Яны, тыя аблачынкі, застылі ў бяздонні, адразу за дарогай, прашытыя лазой з пухнатымі коцікамі на тонкіх ружовых галінках. І ад гэтага святла, ад гэтага неба, што залюбавалася сабой у люстраным разліве, веяла такой неабсяжнасцю, нібы само наваколле разбухла, як разбухае вясной усё — пупышкі на дрэвах, рака...

У Скачкова аж кругі пайшлі ў вачах, ён заплюшчыў вочы, потым глянуў на другі бок дарогі, на поўнач. Там быў такі ж бясконцы разліў, толькі не блішчэў так на сонцы, а ўвесь наліўся сінечай, што на краі зямлі злучалася з небам.

— Разгуляўся, сівы,— сказаў у захапленні Скачкоў.

— Як на Волзе.

— Вы не мясцовы?

— Цяпер мясцовы,— і пакуль не пераехалі мост, болей не сказаў ні слова. Калі ж выехалі на лясную шашу, пагнаў машыну так, што ў вачах зарабацініла ад мільгання бяроз.— Некалі служыў у гэтых мясцінах. Сустрэў адну. І, як кажуць, прыкіпеў на ўсё жыццё.

— Не цягне дамоў?

— Не вельмі. Абжыўся, стары мой сюды пераехаў. Там нікога з блізкіх не засталося. Я неяк паехаў, бачу, старому аднаму цяжка, ну і прывёз яго. Пажыў колькі, а потым пачаў: не, сын, не магу! Яно і панятна. Мы на рабоце, ён дома. Каб яшчэ якое дзела. А што можна рабіць у гарадской кватэры. Ні печ паліць, ні дровы секчы. Кажа, горш, чым у турме. Назад адправіць? Не. Стары вельмі. Што я зрабіў. Купіў яму хатку ў адной вёсцы пад Зуевам. Што вы думаеце, Міхайлавіч, ажыў дзед. Завёў трусікаў. Там такая ферма, што ого! Да яго ездзяць аматары-трусаводы, мяняюцца. Развёў вушастых розных колераў. Сапраўдная калекцыя, скажу вам. Сваю вёску не ўспамінае. Знайшоў дзела па душы. Мы з жонкай кожны выхадны бываем у яго. Дзеці ўсё лета жывуць там. У мінулую нядзелю былі. Як водзіцца, пасядзелі, пагаварылі. Пра нашу жызню, значыцца. Ён раптам і кажа: звазіў бы мяне, сын, на Волгу, апошні б раз глянуць на тыя мясціны, дзе гусей пасвіў... Ёсць у душы нешта вось такое... Мясціны ў нас там прыгожыя... За нашай вёскай была невялічкая рачулка. Вясной, калі разлівалася Волга, вада залівала і луг наш, і лес, і рэчачку. Затое ўлетку рыбы хоць адбаўляй. Асаб-

ліва ў сенакос. У яме ваду ўскаламуціш, шчупакі лычы павысоўваюць наверх, толькі хапай. Палавіць бы цяпер рыбку рукамі...— і ён, паправіўшы пабітую сівізной чупрыну, глянуў на гадзіннік, што быў у яго на руцэ, шпарчэй пагнаў машыну і ўжо да самага аэрапорта не сказаў ні слова...

Той панылы настрой, які раптам ахапіў Скачкова пасля гаворкі з жонкай, мінуў, ён выйшаў з машыны прыкметна паспакайнелы, больш упэўнены ў сабе.

Намеснік міністра пасля таго, як быў у яго Скачкоў разам з Дарашэвічам, нікольні не змяніўся, як не мяняецца партрэт на сцяне. Ён быў у тым жа шэрым гарнітуры, і была нават тая ж усмешка на тым жа бледным твары. Ён і зараз, як і тады, пацікавіўся найперш, ці ўладкаваўся Скачкоў у гасцініцы, затым пакапаўся ў паперах, што ляжалі перад ім у тоненькай зялёнай папцы, адсунуў убок, паклаў на яе сухую белую руку з тонкімі доўгімі пальцамі, глянуў на Скачкова з нечакана добрай, цёплай усмешкай на твары. Ад такога прыветлівага пагляду Скачкоў усміхнуўся, адчуўшы сябе не на прыёме ў вялікага начальніка, а нібы ў гасцях у блізкага сябра.

— Вам вядома наша рашэнне па плану ўпраўлення?

— Не.

— Мы заслухалі на калегіі вывады камісіі і пагадзіліся з імі. Зменшылі план. Пачынаючы з другога паўгоддзя. Так што будзеце працаваць на навуковай аснове,— усміхнуўся намеснік міністра, потым зноў загаварыў больш афіцыйна, роўным сухаватым голасам, нібы выступаў з заявай на дыпламатычным прыёме: — Ваша дзейнасць, Валерый Міхайлавіч, атрымала надзвычай высокую ацэнку на калегіі. Усім спадабалася, з якой рашучасцю вы паставілі пытанне аб неабходнасці навуковых абгрунтаванняў вашых вытворчых планаў. Вы дабіліся свайго. Пакінулі вам два мільёны тон у год.

— Мае заслугі адносныя. Яшчэ да мяне гэту праблему падымаў наш галоўны геолаг Працько...— і пра сябе падумаў: «А чаму толькі два мільёны? Камісія ж была за тры?»

— Не ведаем, хто раней ці пазней прапаноўваў, ведаем толькі, што гэта адбылося з вашым прыходам ва ўпраўленне. Ваш прынцыповы падыход да ўдасканалення вытворчасці на выверанай навуковай аснове — гэта вельмі каштоўная рыса ў вас як у кіраўніка... Адкрыты запасы нафты ў Сібіры. Некаторым здаецца, што раз гэта так.

то цяпер хапай колькі можаш. Усю ўсё роўна не вычарпаеш. Гэта надзвычай шкодныя настроі. Нам трэба ў Сібіры вось такія, як вы, патрабавальныя, удумлівыя, прынцыповыя кіраўнікі, каб не прыжыліся там рвацкія тэндэнцыі. Тым больш у Зуеве справы наладжваюцца, ды і перспектывы там, будзем шчырымі, ніякай.

— Прабачце, але я не магу прыняць вашу высокую ацэнку,— сказаў Скачкоў.— Стаж практычнай работы ў мяне невялікі, вопыту таксама ніякага. І наогул, рана гаварыць, што ў Зуеве ўсё адладжана належным чынам...

— Вы не дасцё згоды, калі вам будзе прапанавана пасада ў Сібіры? Я вас правільна зразумеў?

— Вы мяне правільна зразумелі.

— Хоць спыталі б, якую пасаду вам хацелі прапанаваць.

— Я прыехаў у Зуеў не дзеля кар'еры,— сказаў Скачкоў.— Не той узрост, каб думаць пра гэта.

— Самы ўзрост для адказнай работы,— намеснік міністра выйшаў з-за стала.

— Лічу, што ў мяне вельмі адказная работа. Мала наладзіць вытворчасць, яшчэ трэба ўтрымаць яе на гэтым узроўні...

— З вашага дазволу мы пакінем за сабой права вярнуцца да гэтай гаворкі,— намеснік міністра праводзіў Скачкова да дзвярэй кабінета.— Помніце, калі вам захочацца раптам паехаць у Сібір, мы будзем вітаць ваша жаданне.

Ён ішоў па доўгіх прыцемненых калідорах, разважаючы пра ўсё, што адбылося. Цікава, ці ведаў пра гэта Балыш? Каб ведаў, мог бы пазваніць, папярэдзіць. А калі ведаў і не пазваніў? Выходзіць, ён зацікаўлены, каб Скачкова перавялі ў Сібір? Выходзіць, Скачкоў недзе яму перашкаджае. Чым і дзе? Можа, тым, што добра ведае пра дзейнасць Балыша ў Зуеве? І заўсёды можа сказаць пра гэта? Такое можа быць прычынай, але не зусім. Балыш чалавек з галавой і павінен разумець: калі ён, Скачкоў, нічога нідзе не сказаў пра яго дасюль, то цяпер тым больш не скажа: самае цяжкое засталося ззаду. Хутчэй за ўсё Балыш расхваліў яго намесніку міністра, і ў таго ўзнікла ідэя перавесці Скачкова ў Сібір. Намеснік міністра не падзяліўся гэтай ідэяй з падначаленым. Не абавязаны. Урэшце, пра гэта няцяжка даведацца. Сам Балыш выдасць сябе.

Балыш сустрэў Скачкова шумнай радасцю. Выскачыў

з-за стала, подбегам кінуўся насустрач, абняў. Такім узрушана радасным Скачкоў яшчэ ніколі не бачыў яго.

— З прыездам! Што ж не паведамілі? Як даехалі? Дзе спыніліся? Як там справы? — Балыш сыпаў пытаннямі, не даючы магчымасці Скачкову адказаць ні на адно з іх.

— Усе навіны ў вас,— сказаў Скачкоў.— Вы ж не папярэдзілі, чаго выклікаюць.

— Так, так... Тады не губляйце часу, ідзіце да намесніка, чакае...

— Я быў у яго.

— І што? — нецярпліва спытаў Балыш.

— Прыемная навіна. План знізілі да двух мільёнаў, хоць камісія прапаноўвала спыніцца на трох.

— Дзякуйце мне,— Балыш паказаў Скачкову на крэсла, усеўся сам, паправіў светлы пінжак у рыжую крапінку, крыху аслабаніў стракаты гальштук.— Зайшоў, значыцца, да мяне Удальцоў, ну і кажа, што тры мільёны трэба план, маўляў, самы аптымальны, самы рэальны. Я гавару, каб яшчэ раз падлічылі, болей уважліва, бо не можа быць, каб тры, маўляў, я промысел ведаю як свае пяць пальцаў. Падлічыце яшчэ, болей дакладна. Падказаў, канешне, не без таго,— ён падміргнуў Скачкову, абыякава спытаў.— Што яшчэ сказаў намеснік міністра?

— Такога нічога...

— Гм...— Балыш пранізліва зыркнуў на Скачкова і спытаў: — Ён думаў перавесці вас у другі больш перспектыўны рэгіён. Не прапаноўваў?

— А-а...— Скачкоў нібы першы раз пачуў пра намер перавесці яго на другую работу.— Я думаю, чаго ён дапытваецца, як мне падабаецца ў Зуеве. Я, канешне, сказаў, што мне вельмі падабаецца, што лепшага месца не ведаю на зямлі.

— Адмовіліся?

— Мне нічога не прапаноўвалі.

— Застаецеся?

— Вядома. Не для таго ж прыехаў з Мінска ў Зуеў, каб ехаць яшчэ некуды.

— Так, так, так,— забарабаніў у задумлівасці Балыш пальцамі па стале.

Скачкоў заўважыў, што яго яўна збянтэжыла тое, што ён сказаў.

— Калі назад? — заўсміхаўся Балыш, спахапіўшыся.

— Першым самалётам, на які куплю білет.

— Паедзеце заўтра. Я заказаў вячэру ў адным рэстаранчыку. Сёння вы мой госць.

— Гэта я вас павінен запрасіць на вячэру,— сказаў Скачкоў.— План — ваша заслуга.

— Ёсць яшчэ больш істотная прычына. Справа ў тым, Валерый Міхайлавіч, што мяне прызначылі генеральным дырэктарам вашага аб'яднання. Замест Дарашэвіча. Загад падпісан. Так што планам я памог не толькі вам, але і сабе.

— Віншую вас, Раман Тарасавіч,— і ў апраўданне, што павіншаваў пасля некалькіх секунд разгубленасці, дадаў: — Такая нечаканасць...

— Дзякую! Я, ведаеце, па вашаму прыкладу. Нечага тут папяровы пыл нюхаць, бліжэй да жыцця,— і, падміргнуўшы дружалюбна ўсё яшчэ збянтэжанаму Скачкову, гарэзліва спытаў: — Дык як? Выцягнем план? Хопіць сілы?

— Такі план, ды яшчэ з вамі...— засмяяўся Скачкоў.

— Так, так. Цяпер у нас хамут адзін.

— Хамут у мяне, у вас пуга.

— Не будзем, Валерый Міхайлавіч,— падняўся Балыш.— Вы пачакайце мяне тут, я пайду запрашу некаторых таварышаў. Яны спатрэбяцца нам яшчэ не раз,— і ён выйшаў.

У кабінеце трымаўся паўзмрок. Праз акно, зацененае зялёнымі шторамі, ледзь цадзілася святло. Крэслы, стол, тэлефоны таямніча блікавалі лакіроўкай. Праз падвоеныя шчыльныя рамы сюды не даходзілі гукі з вуліцы.

Успомнілася апошняя гаворка з генеральным дырэктарам. Дарашэвіч, відаць, здагадваўся пра намеры Балыша ці, можа, нават ведаў пра іх, але нічога не сказаў яму, Скачкову, толькі намякнуў... Няўпэўнены, відаць, быў... А можа, і нядрэнна, што будзе Балыш? Усё-такі работнік вопытны, папрацаваў у нафтавай прамысловасці нямала. Вось толькі не падабаюцца яго хітрыкі з планам. Захацеў спакойнага жыцця. Нічога не скажаш, мудрыла гэты Балыш. Але чаму ён хацеў пазбавіцца яго, Скачкова? Чым ён перашкаджае яму? Можа, меціў каго са сваіх сяброў на яго месца? Ва ўсялякім разе супроць яго, Скачкова, асабіста ён хутчэй за ўсё нічога не мае.

Хутка вярнуўся Балыш і адразу ж, дастаўшы з шафы скуранае чорнае паліто, пачаў апранацца:

— Пайшлі, нас чакаюць.

Ля пад'езда стаялі дзве чорныя «Волгі». Яны з Балы-

шом селі ў пярэднюю машыну. У ёй былі ўжо два чалавекі таксама ў скураных паліто і ў аднолькавых шэрых капелюшах.

— Мой начальнік Зуеўскага НГДУ,— прадставіў Балыш ім Скачкова.

Тыя разам заківалі галовамі, вітаючыся.

Машына кранулася з месца, выруліла на вуліцу і яе, здавалася, панясло агульным патокам транспарту, як ветрам.

— Дарэчы, Валерый Міхайлавіч,— расказваў Балыш,— раней рабіў у Мінску, а вось кінуў высокую пасаду, пераехаў у Зуеў. Цяпер і я, гледзячы на яго, таксама навастрыў лыжы туды. Багата нас заседзелася ў зацішных кабінетах, варта было б многім паехаць на практычную работу. На скразнячок. З-за папер забылі, што ёсць жывая работа. Там жа, помню, не заўважаеш часу. Ляціш! А галоўнае, які край! Людзі! Помню, прыехалі асвойваць радовішча. Некалькі інжынераў, тэхнікаў. Прыехалі і рабочыя, але не столькі, колькі трэба. Зверху націскалі, давайце нафту, давайце болей... Тады наша нафта была як знаходка пад бокам у нафтапровада... Спецыялістаў вучылі на месцы. Арганізавалі курсы, вучылі прама на промысле. Пастаіць учарашні конюх ля майстра з тыдзень, потым сам робіць. І не горш за свайго настаўніка. Гэта ж толькі ўдумацца! Раней на Палессі не чулі пра такую прафесію, як нафтавік. А за лічаныя гады стварылі прамысловасць, вырасцілі сваіх спецыялістаў. Сёння беларускія нафтавікі робяць за Уралам, у Сібіры. І як робяць!

Скачкоў амаль не чуў, што гаварыў сваім знаёмым Балыш. Затуліўшыся ў куточку машыны, сядзеў, думаў пра новага начальніка аб'яднання. Што за чалавек. Чаго хоча? Чаго дабіваецца? Ясна, што не любіць ускладняць сабе жыццё. Пастараўся, каб зменшалі план. Такі план можна выконваць без напружання. Нават на тым абсталяванні, што ёсць. Мудры гэты Балыш... Любіць уладу. Бачыце, мой начальнік і ледзь па плячы не паляпвае. Такая начальніцкая бесцырымоннасць. Відаць, любіць, каб падначаленыя глядзелі яму ў рот. Ад яго, Скачкова, ён гэтага не дачакаецца. І ўсё ж Балыш паважае яго, бач, на вячэру запрасіў. Можа, хоча болей зблізіцца, пасябраваць. Рабіць разам прыйдзецца. Той раз зацягнуў у рэстаран, не дазволіў разлічвацца, сам разлічыўся. Відаць, тады ўжо ведаў, што будзе генеральным дырэктарам аб'яднання.

Яно нядрэнна, калі з начальствам добрыя адносіны. І ўсё ж нягледзячы на гэтыя суцяшальныя разважанні, яго не пакідала адчуванне, што ён тут у гэтай кампаніі нібы лішні, ніхто не заўважае яго. Скачкоў адчуваў сябе саўдзельнікам нечага непрыстойнага, такога, пра што ўслых не гавораць, чаго саромеюцца. Гэтае адчуванне прыгнечвала яго, можа, таму ён і быў такі сцішаны, негаваркі, не рэагаваў на анекдоты, якімі, як трапнымі стрэламі, абменьваліся ўсе трое: Балыш і гэтыя двое ў шэрых капелюшах.

...На другі дзень Скачкоў вылецеў першым рэйсам з Масквы.

— Што новага, Фёдаравіч? — спытаў у шафёра, сеўшы ў машыну, якая чакала яго адразу ж пры выхадзе з аэравакзала.

— На трыста пятай нешта здарылася,— адказаў вадзіцель.— Не ведаю толькі што. Чуў гаворку ў гаражы. Кажуць, усё начальства туды паехала.

— Гані, Фёдаравіч, таксама туды,— папрасіў Скачкоў.

Выехаўшы за Гомель, Скачкоў пачаў звязвацца па рацыі з дыспетчарскай. Але дыспетчарская маўчала,— было далекавата, не праходзіў сігнал. Сувязь з'явілася, калі пад'язджалі да Дняпра. Вадзіцель бачыў занепакоенасць начальніка і не збавіў скорасць, калі праязджаў праз мост.

— Што на трыста пятай? — спытаў Скачкоў у дыспетчара.

— Вада, Міхайлавіч,— адказаў санлівы спакойны голас.

Скачкоў раздражнена бразнуў трубкай на рычажкі.

Успомнілася, як учора ў рэстаране, добра асвоіўшыся, выхваляўся Балышу і яго сябрам, які пераварот зробіць на промысле трыста пятая. Яна, маўляў, ключ да вялікай нафты, да новых радовішчаў. Праз некалькі дзён прыедзе Балыш і, вядома ж, захоча глянуць на трыста пятую. Што ён пакажа яму? Вадзічку. Прыкра было на душы. Хто яго цягнуў за язык? Ніхто ж не цягнуў. Падагрэтае азартам, выплыла з закуткаў душы жаданне пакрасавацца, здзівіць гэтых незнаёмцаў-зазнайкаў нечым, ну і расхваліўся...

У машыне-лятучцы сабраліся галоўны геолаг, галоўны інжынер, начальнік тэхналагічнага аддзела. З адчыненых дзвярэй вывальваўся сіні тытунёвы дым... Усе схіліліся над сталом, разглядаючы схему.

— Раз вада пайшла, выходзіць, можна і курыць тут? — даў знаць прысутным Скачкоў, што ўсё ведае.— Што думаем рабіць?

— Падлічваем, на якой глыбіні ставіць цэментовы мост,— адказаў Кацянок.

— А што тут думаць? — нахіліўся над схемай Скачкоў.— Хіба невядома, на якой глыбіні нафтавы пласт?

— Вядома,— адказаў Бурдзей.— Але Працько хоча паставіць мост ніжэй. Я лічу, што нечага мудрыць. Трэба браць нафту з апрабаванага пласта.

— Мы ведаем, якая нафта ў апрабаваным пласце. Па чайнай лыжцы ў гадзіну,— падняўся Працько, які стаяў над сталом, абапёршыся на яго рукамі, паварушыў плячыма, якія, відаць, у яго самлелі.— Хачу паставіць мост значна ніжэй, але вышэй вады. Паспрабаваць там. Не можа быць, каб там не было нафты.

— Эксперыменцікі...— хмыкнуў Кацянок.— Нам трэба план. Другія суткі без плана сядзім.

— Канешне, эксперыменцік,— развaward як заўсёды, спакойна Працько, нават вялавата.— Можа, удасца, а можа, і не. Але, дзякуючы такім эксперыменцікам, мы лепей ведаем рэгіён. Тым больш што я не сумняваюся — там нафта...

— Там вада, а не нафта. І вы гэта ведаеце,— гарачыўся Кацянок.— І я не стаў бы губляць час. Трэба хутчэй ставіць мост, апускаць электрапомпу, браць нафту, якая ёсць.

— Я згодзен з Кацянком,— сказаў галоўны інжынер.— Так і зробім. А дзве свідравіны, якія пачалі бурыць далей, апробуем на розных узроўнях. Будзе нафта, апусцім мост ніжэй. Цяпер рызыкаваць не будзем. Раз падышла вада, трэба далей ад яе адскочыць.

— Давайце і так,— не пярэчыў Працько. Ён, відаць, не вельмі быў перакананы ў сваёй праваце...

## 22

Алесіч залез у кішэню пінжака, дастаў маленькую чырвоную кніжачку, акуратненька загорнутую ў пэлафан. Разгарнуў, прачытаў сваё прозвішча, перачытаў усе віды транспарту, якімі ён, Алесіч, цяпер мае права кіраваць...

Калі ўзнікла патрэба здаваць на правы, Алесіч задумаў атрымаць не аматарскія, а сапраўдныя правы прафе-

сіянала. Вывучыць маторы для яго не было праблемай,— у свой час ён багата парамантаваў іх. Паездзіў крыху на лятучцы, на якой іх вазілі на буравую, некалькі разоў праехаў на вахценным аўтобусе. Сам прыгнаў свае «Жыгулі» з Зуева ў вёску... Хлапец, якога ён папрасіў адагнаць машыну, усю дарогу праседзеў побач...

Кніжачка яшчэ пахла тыпаграфскай фарбай. Алесіч за сваё жыццё нямала памяняў прафесій, але ніколі ў яго не было такога саліднага, такога прыгожанькага, такога сур'ёзнага дакумента, як пашпарт. І фотакартка ёсць.

— Ніяк не налюбуешся,— сказала Каця. Яна сядзела побач, трымаючы на каленях белую бухматую сумку.— Глядзі, сурочыш...

— Сёння правязу цябе, як на самалёце. Вецер будзе трымець, а не ржавы кузаў. Правы! Ніхто не спыніць. Не мае права. А я маю права, як вецер. Хоць убачыш, што такое сапраўдны шафёр. Ты яшчэ не бачыла сапраўднага шафёра. Гэта не твой штангіст-аматар.

— Ой, добры ты хлопец,— нагнулася яна да яго, каб яе слоў не было чутно іншым.— Але яшчэ б лепшым быў, каб так не хваліўся.

— Калі я хваліўся? Хвалько той, што слова свайго не трымае. А калі я, скажы, не стрымаў свайго слова? Калі гаварыў пустое?

— Ды і зараз,— яшчэ гучней рассмяялася Каця.

Алесіч пакрыўджана адвярнуўся, пачаў праз акно разглядаць паплавы, якія блішчэлі на сонцы рэдкімі шкельцамі вады, зялёную азіміну, пералескі, што зманліва сінелі за палямі. Ад шашы адскоквалі, як маладыя парасткі, палявыя дарогі з тонкімі шнурочкамі першых каляін. Удалечыні, ля бела-ружовага бярэзнічку, жаўцела легкавушка. Нехта прыехаў па бярозавік. Гэта ж цяпер і яны з Кацяй могуць паехаць у любы лясок, нацадзіць соку. А можна заехаць у такі глухмень, дзе іх ніхто не ўгледзіць і яны будуць адны... Не, малайчына Каця, што настояла ўзяць машыну. У іх цяпер будзе сапраўднае лета. Аб'ездзяць усё наваколле. А можа, і да мора дакоцяцца. І Косціка з сабой возьмуць. Во хлопцу радасць будзе, калі Вера толькі адпусціць яго. Канешне, разумная баба адпусціла б, а гэтая...

— Ну, што адвярнуўся? — штурханула локцем яго Каця.

— Нічога не адвярнуўся. Проста заглядзеўся.

— Давай збірацца,— і яна, падаўшы яму цяжкую

сумку, паднялася, пачала папраўляць на шыі ў блакітную палосачку шалік, зашпільваць плашч.

Вуліца ў вёсцы зусім высахла. Трактары пакрэмзалі яе да жоўтай зямлі. Пад платамі чарнела мінулагодняе лісце. Дрэвы ахутаў зеленаваты дымок. Пахла разварушаным гноем.

Параска ў ватоўцы сядзела сярод двара на нізкай калодачцы і перабірала бульбу-сеянку.

Пад бярозай, што расла ля плота ад вуліцы, стаяў вышчарблены збанок, і ў яго з драўлянага латка капаў бярозавік.

— Ой, добра, што вы прыехалі,— паднялася насустрач Параска, выцерла рукі аб полы ватоўкі, павіталася з гасцямі і, праводзячы іх у хату, расказвала.— А то ўжо журыцца пачала. Бульбу сеяць трэба, гной вазіць трэба, а машына ўвесь двор заняла. Да хлява не пад'ехаць з канём. Каптуроў прыйдзе і смяецца: здай, кажа, гэтую дранדулеціну на металалом, хоць падушачак дадуць чай піць,— і ўжо ў хаце спытала: — Можа, бярозавічку хочаце?

— Накапаў?

— Цячэ. Каптуроў прасвердзіў. Яму кажу, не трэба, а ён — як не трэба? Госці рады будуць. Вам з чулана, там у бочцы, ці з-пад бярозы, свежанькі?

— З-пад бярозы, мама, з-пад бярозы. Халодненькага, салодзенькага, з камарыкамі,— і спытаў у Каці: — Ты любіш бярозавік?

— Мой бацька па некалькі бочак збіраў кожную вясну. Цэлае лета квас пілі,— адказала яна.

Алесіч, пераадзеўшыся, пайшоў у двор.

Машына была заляпана высахлай шэрай гразззю — пераганялі ў дажджлівы дзень, калі дарогі былі як кісель.

Алесіч вымыў машыну, парасчыняў усе дзверцы, падаставаў з-пад ног дыванчыкі, развесіў іх на варотах на агарод, каб выветрыліся. Потым паддамкраціў адзін бок машыны, узяў дзяркач, вядро з вадою, залез пад машыну, пачаў мокрым дзеркачом шураваць па днішчы,— хацелася паглядзець, ці не хаваецца пад накарэлым брудам іржавы метал. Усё днішча было як новае, толькі ў некалькіх месцах пагнутае, як хто ўдарыў камнем. Масціка адскочыла, метал парудзеў. Захапіўшы наждачную паперу і бляшанку з масцікай, Алесіч зноў залез пад машыну...

— Слухай, Іван, цябе не прыдавіла там, жывы? —

выйшла з хаты Каця, падышла да машыны, шоргаючы лена па зямлі шлёпанцамі без заднікаў.

— Жывы.

— Абед даўно на стале, а цябе няма. Хутка і жонку забудзеш з-за машыны.

— Машыну глядзець трэба. Можа, лепей, чым жонку. Жонка не заржавее.

— Глядзі не празявай,— пастаяла, пачакала.— Ты хутка ці, можа, да ночы будзеш там ляжаць?

— Хутка...

Каця адышлася, прысела на ганак, выставіла на сонца белыя круглыя калені.

Раптам бразнула фортка, нясмела адчынілася. Алесіч убачыў жаночыя ногі ў панчохах са шнурочкам кубікаў па баках, у чорных бліскучых туфлях на такіх высокіх абцасах, што аж згарбаціліся ступні. Шчыкалаткі вузкія, галёнкі мускулістыя, прыгожыя. Ён адразу ж пазнаў, хто зайшоў. Незразумелы сум, туга па страчаным ўдарыла ў сэрца тупым болем.

Алесіч перавёў позірк на зялёную спадніцу, якая хавала калені, на чорную сумку, што была відаць толькі напалавіну, на дзіцячыя ногі ў кароценькіх штоніках і ў чорных чаравіках з аблупленымі насамі.

— Добры дзень вам! — прапеў знаёмы голас, крыху нясмелы, украдліва саладжавы, але напорысты.— Тут Алесіч?

— Тут, тут,— адазвалася Каця, паднялася, скіравалася да форткі, раптам спынілася.

Алесіч ляжаў пад машынай, не зводзіў вачэй з ног жанчыны, нібы тыя магнітам прыкавалі яговы позірк да сябе. У роце перасохла, язык сшэрхнуў. Трэба было вылазіць з-пад машыны, нешта гаварыць. А што?

— Ваня, цябе чакаюць,— голас у Каці спакойны, нават радасны. Гэта добра, што ў яе такі настрой. Не раздражняецца, хоць, бясспрэчна, здагадалася, хто прыехаў.

Алесіч вылез з-пад машыны.

Ля расчыненай форткі стаяла Вера і трымала за руку Косціка.

Глянуўшы на Веру, Алесіч ледзь не рассмяяўся. Зялёная спадніца, квяцістая кофта, белы расхрыстаны плашч, валасы светла-фіялетавага колеру, быццам адмачваліся ў разведзеным чарніле. Вусны нафарбаваны кветачкай,— як хто прышпіліў пад носам маладзенькую ружу.

Косцік, цыбаты, хударлявы, з вострым тварыкам быў

у сінім касцюмчыку, з якога даўно вырас. Ды Алесіч не вельмі прыглядаўся да яго адзення. Ён глядзеў сыну ў вочы, сіняватыя, як у дзяўчынкі...

— Косцік,— прашаптаў Алесіч.

— Татачка,— хлопчык ірвануўся да бацькі, павіс у яго на шыі, лёгкі, кастлявы.

— Родненькі мой,— Алесіч абнімаў яго вузкія плечы, адчуваючы пад рукамі вострыя вугольчыкі лапатак. Чуў, як пухнуць вочы ад слёз. Сын таксама, відаць, плакаў, бо занадта ўжо часта шморгаў носам у яго пад вухам. Косцік і раней, калі крыўдзіўся, не плакаў, а шморгаў носам якраз так, як зараз.

Як праз тоўшчу вады, даходзіў да Алесіча Кацін голас:

— Што ж вы будзеце стаяць так? Зойдземце ў хату. Якраз абедаць сабраліся, усё на стале. Пасядзім, пагамонім...

— Дзякую,— працадзіла Вера. Заўсёды, калі злавалася, замест таго каб крыкнуць ці топнуць нагой, пачынала расцягваць словы, прапускаючы іх праз нос, прыкідваючыся занадта ласкавай. Ад гэтага яе ласкавасць была занадта ўжо здзеклівай.— Наеліся на ўсё жыццё, хопіць з нас.

— Я па-добраму,— сказала Каця разгублена.

Вера ўсё стаяла ля адчыненай форткі і грэбліва крывіла свае вусны.

— Можа, хопіць абдымацца? — спытала яна.— Косцік, ідзі сюды! Я каму сказала?

Алесіч адчуў, як хлапчуковы рукі мацней абшчарэпілі яго шыю, потым абвялі. Косцік каўзануўся з бацькавых абдымкаў на зямлю, азірнуўся на маці, спыніўся ля машыны, пачаў возькаць пальчыкам па фары, пільна разглядаючы яе.

— Пойдзем, Вера, сапраўды?.. Дзякую табе, што сына прывезла,— і звярнуўся да Каці: — Запрашай жа гасцей у хату!

— Запрашала,— паскардзілася Каця, як звычайна скардзяцца на неслухаў.

— Не думай, што я прывезла яго табе. Чакай...— сказала зласліва Вера.— Прыехалі во глянуць на цябе. А то такога панапісваў у пісьме...

— Не стаяць жа тут,— глянуў бездапаможна на Кацю. Тая па-свойму зразумела яго, пайшла ў хату, вынесла табурэткі.

— Сядайце! — паставіла сярод двара, сама адышлася на ганак.

— Нічога, пастаім,— адмовілася Вера.— За дарогу насядзеліся. І некалі расседжвацца, хутка назад...

— Куды спяшацца? — асвоіўся Алесіч, пасмялеў.— Пабудзьце трохі. Я падвязу вас потым да станцыі.

— Не паны, каб на машынах раз'язджаць,— хмыкнула Вера.

— Ты ж не прыехала, каб пастаяць у фортцы.— Ён пільна паглядзеў на яе, зноў спыніўся позіркам на яе нагах. Спахапіўшыся, дадаў: — Нейкая ж прычына...

— Ма-а-ам! — Косцік хацеў, каб яны засталіся.

— Канешне,— ганарліва ўскінула фіялетавую галаву Вера.— Не без прычыны... Прыехала сказаць, што ты сына не палучыш. І не спрабуй заманіць. Нават машынай. Калі напісаў, не паверыла. Думала, пішаш, каб заманіць малога. Ха! У яго машына...

— Гэта не мая, яе,— паказаў на Кацю.

— Наша,— удакладніла Каця.

— Канешне, не твая. У цябе яе век не было б,— Вера зыркнула на Кацю.— Пад'ехала, значыцца, на машыне? Купіла?

— Я не прадаюся,— сказаў Алесіч.

— Цябе чаркай нечага купіць, не то што машынай,— махнула безнадзейна рукой Вера.

— Прашу без абраз,— сказала Каця.

— Не з табой гавару,— агрызнулася Вера.— Без адвакатаў абыдземся. Я з бацькам свайго сына гавару... І нечага тут.

Каця моўчкі пайшла ў хату.

— Навошта ты так? — упікнуў мякка Алесіч.— Што яна табе дрэннага зрабіла?

— Купіла цябе.

— Ты мяне прагнала.

— Ты не хацеў са мной жыць. Каб хацеў, не піў бы. А то ж не хацеў. Толькі прыкідваўся, што хацеў. Цяпер я ўсё зразумела. Захацелася бабу з машынай. Канешне, у мяне машыны няма. Агледзеўся, што ад мяне ніякай выгоды, вось і пачаў выкабельвацца. Прыкінуўся алкаголікам, грошы не аддаваў, з кулакамі кідаўся. Цяпер я зразумела цябе. Дабіваўся, каб выгнала. Каб я вінаватая была, а не ты...

— Вера, што ты гаворыш? — не верыў вушам сваім Алесіч. Цяпер ён ненавідзеў яе. Так і раней было заўсё-

ды. Калі яна моўчкі што рабіла дома, гатоў быў гадзінамі любавацца ёй. І нават захапляцца. І захапляўся. Калі ж яна пачынала дакараць яго, забівала, атручвала яго закаханасць.— Сына пасаромелася б...

— Няхай сын ведае праўду,— ледзь не на крык перайшла Вера.— Няхай чуе, а то вырасце такі ж дурны, як я. То ж трэба так папасціся. Даравалсь сабе не магу. Думала, чалавек знайшоўся, шчасцейка светлае... То ж трэба такім быць. Знарок напівацца, вытвараць абы-што, каб толькі жонка яго выгнала. Узяць бы ды сказаць, што не хачу з табой жыць, дык не, трэба ж паздзекавацца. Трэба ж здароўе ўгробіць, каб нікому ўжо не трэба была, сына асіраціць. Усё жыццё буду праклінаць тую мінуту, калі цябе сустрэла... Глядзі, сын, запамінай, каб ніколі не быў такім. Каб ты ўтапіўся ў маіх слязах!..

— Вера, ты ж разумная жанчына,— Алесіч хацеў супакоіць Веру. Паглядваў на акно, баяўся, каб не пачула гэтую гаворку маці.

— Разумная... Якая я разумная, калі прагледзела такога прыстасаванца, як ты. Сляпая я, а не разумная,— шмарганула носам Вера.— Добра, што хоць цяпер разгледзела. Лепей позна, чым ніколі. Ну што глядзіш? Не бачыла тваіх бессаромных буркалаў? Не думай, што табе ўсё так мінецца. Я яшчэ твайму начальству напішу, хай ведае, што ты за цаца.

— Эх, ты! Ніколі не думаў, што ты такая.

— Якая?

— Я не хачу пры сыне...— Яму хацелася крыкнуць ёй, што яна, і толькі яна вінавата, што так атрымалася ў іх, але стрымаўся, спытаў: — Можа, табе цяжка? Можа, памагчы чым? Давай абмяркуем усё спакойна. Памагу. Не чужая ты мне. Ты ж маці майго сына...

— Ха-ха-ха!.. Маці яго сына! Вы чулі, людзі? Адкуль ты ўзяў, што ён твой сын? Ты ж з-за гарэлкі свету божага не бачыў...

— Ну і даеш,— рассмяяўся Алесіч.— Можа, ты і прыехала, каб сказаць мне гэта? Каб сын паглядзеў на бацьку, убачыў, які ён, і думаць пра яго перастаў?.. Запомні, ад сына ніколі не адракуся, што б ты ні гаварыла.

— Хто табе дазволіць адмовіцца? Дакумент ёсць.

— Што яшчэ? — рэзка спытаў Алесіч. Ён пачынаў страчваць вытрымку.

— Твае падачкі мне не трэба. Грошы пасылае. Жаласнік знайшоўся. На аліменты падам.

— Будзеш меней палучаць.

— А гэта яшчэ пабачым. Хацеў цырканнем адкупіцца. Аддасі ўсё, што паложана. Вось так. Пайшлі, сын! Паглядзелі на родненькага татачку...— хацела засмяяцца Вера, але ў яе выйшла нейкае недарэчнае хмыканне, як плач.— Хай цалуецца з гэтай... машынай.

Косцік стаяў, апусціўшы галаву, возькаў пальчыкам па фары.

— Няхай пабыў бы...

— Пайшлі! — Вера, здавалася, не пачула Алесічавых слоў.— Пабачыў бацьку? Не будзеш цяпер ныць. Пайшлі! Каму сказала? Што ты там прыліп? Жалязякі не бачыў? — яна пачакала крыху, потым імкліва падышла да сына, схапіла за руку і пацягнула на вуліцу так хутка, што малы ледзь паспяваў перабіраць тонкімі нагамі ў цеснаватых штоніках. У фортцы праз парог Косцік спатыкнуўся і, відаць, паляцеў бы потырч, каб не трымала яго маці. Вера так тузанула яго за руку, што ў хлопчыка аж галава адкінулася назад. Ці, можа, ён хацеў азірнуцца на бацьку?

Алесіч стаяў, не ведаючы, што яму рабіць. Потым выйшаў на вуліцу. Вера з сынам была ўжо ля суседняга двара. Ішла ледзь не подбегам, раскалыхаўшыся на сваіх высокіх абцасах. Як уцякала ад каго. Хлопчык ледзь паспяваў за ёй, часта азіраючыся назад.

На рагу вуліцы ён азірнуўся апошні раз, нібы птушачка ўзмахнула белым крыльцам, і знік.

— Чаго прыязджала? — спытала Каця. Ён і не пачуў, як яна выйшла на вуліцу.

— Я напісаў, каб прывезла на канікулы сына. Як ты раіла. Не паверыла, што ў нас машына. Прыехала праверыць. Канешне, яна абрадавалася б, каб убачыла мяне пад плотам п'яным. А так... Ты ж чула.

— Крыху чула.

— Шкада.

— Яе?

— Сына. Ды і яе. Так нічога і не зразумела жанчына,— і падумаў, ці не прыязджала яна памірыцца з ім, ды ўбачыла Кацю...

— Пайшлі абедаць.

— Не хочацца. Нешта стаміўся.

— Ля машыны павазіўся. Можа, дарэмна яе ўзялі?

— Ладна,— паклаў ён руку на яе пругкае плячо.— Толькі без самаедства. Узялі дык узялі. Маліцца на яе не

станем. А паездзіць паездзім,— і каб Каця не падумала, што ў яго галаве зараз толькі Вера з Косцікам, дадаў: — Народзіш малое, будзем у лес вазіць яго азонам дыхаць...

На другі дзень, памогшы старой з раніцы ўскапаць граду ў садзе, пад яблынямі, паабяцаўшы ў наступную нядзелю прыехаць і пасадзіць бульбу на плану,— Алесіч дамовіўся з брыгадзірам наконт каня,— яны з Кацяй селі ў машыну, выехалі за вароты. Алесіч вылез, прысунуў спарахнелыя вароты на месца, зноў сеў у машыну. Пракалыхаліся паўз двары па разбітай трактарамі і машынамі вуліцы, выбраліся на шашу. Алесіч наддаў газу, і машына зашамацела па асфальце, нібы на прысохлую траву ў пакосах паліўся густы споры дождж. У машыне, якая стаяла ў цяньку пад хатай, трымаўся яшчэ ранішні халадок, у адкрытае акенца залятаў напорысты ветрык, прапахлы сырой зямлёй...

Алесіч пільна глядзеў на дарогу перад сабой, а ў вачах стаялі Косцік, Вера. Асабліва сын. Алесіч сам стараўся болей думаць пра яго, толькі б выцесніць з галавы Веру, але як ні намагаўся, яму гэта не ўдавалася. У памяці ўсплывала то яе постаць у белым плашчы, то фіялетавая галава, то моцныя ногі ў чорных бліскучых туфлях на высокіх абцасах. Каб пазбавіцца гэтых прывідаў, пачынаў успамінаць, што гаварыла яна. Тады ў душы нарастала раздражненасць супроць яе, і не так думалася...

Але ўсё роўна думалася. Думалася ўчора пасля таго, як яна пайшла, і потым, калі яны з Кацяй леглі спаць. Каб запоўніць сябе нечым іншым і выцесніць са свядомасці непатрэбнае, ён, прыхіліўшы да сябе жонку, пачаў лашчыцца да яе.

— Маці яшчэ не спіць,— адштурхнула яго яна, адвярнулася і хутка заснула.

А яму не спалася. Не спалася доўга, ледзь не да раніцы. Перадумалася за ноч усё. Усё, што ў іх было з Верай з таго памятнага вечара, калі ён упершыню ўбачыў яе на танцавальнай пляцоўцы і ўсё навокал перастала існаваць, акрамя яе, і да таго дня, калі ён быццам на крылах ляцеў з лагера дамоў, а яна не пусціла яго...

І зараз, седзячы за рулём, ён таксама думаў пра Веру, сына, хоць і не хацеў гэтага. Здаецца ж, даўно выкінуў яе з галавы, а вось трапілася на вочы і зноў запаланіла думкі сабой, быццам нейкая незразумелая сіла ідзе ад жанчыны, не дае забываць. Ці ў яго душы не згаслі яшчэ пачуцці да яе? Ці, можа, думае пра Веру з-за сына? Ці,

можа, з-за таго, што Каця раптам нібы сцяной адгарадзілася ад яго, пакрыўдзіўшыся? Каб яна разбурыла гэтую сцяну, замесціла б усё сабой. Але ж не хоча зрабіць гэтага. Учора не захацела і зараз сядзіць, як чужая. Выпадковы пасажыр. А можа, яна ніяк не адолее ў сабе крыўду? Можа, чакае ад яго першага кроку?

Алесіч паглядзеў на маўклівую Кацю, спытаў:

— Заедзем? У лясок? Бярозавіку нацэдзім. Часу навалам. Я знарок спяшаўся раней выехаць, каб заехаць у лясок... А? Каця?

— Няма настрою.

— Чаму?

— Не ведаю.

— Можа, думаеш пра яе?

— І яе з галавы не выкінеш.

— Ды кінь ты, не думай. Ну прыехала, падудзела над вухам, як тая зялёная муха. Бачыла, можа, як уляціць такая ў хату, пачне кідацца ад сцяны да сцяны, пакуль не прыб'еш ці не знойдзе шчыліну і не выляціць зноў? Так і яна. Падудзела, патрэсла фіялетавай галавой і вылецела... Сына шкада.

Каця нічога не сказала, толькі ўпотайкі глыбока ўздыхнула. Алесіч заўважыў гэта. Падміргнуў, усміхнуўся жонцы:

— Дык заедзем? А? Можа, там якраз салавей шчоўкае.

— Няхай шчоўкае.

— Ну што ты замаркоцілася?

— Прызнацца, пагана на душы. Лепей не бачыла б яе. У вачах стаіць... Я ж не ўкрала цябе. Не ведаю, што са мной. Толькі пагана і цяжка на сэрцы. Розумам разумею, што ні перад кім ні ў чым не вінаватая, а ў душы нейкі чарвяк...

— Ды кінь ты. Ведама, дурная баба. Заедзем?

— Табе адно ў галаве, а мне не да гэтага,— і раптам прыўзнялася, абхапіла яго за шыю, нахіліла да сябе.

— Ты што робіш? У кювет заедзем...

— Няхай, абы з табой. Я цябе нікому не аддам. Чуеш?

— Заедзем?

— Што ты ўсё дапытваешся? Мужык, называецца,— яна яшчэ раз моцна прыціснулася да яго шчакі сваёй гарачай шчакой, потым адхінулася ў знямозе аж да самых дзверцаў.

Алесіч убачыў наперадзе з'езд з шашы на палявую

дарогу, якая жоўтай нітачкай рэзала зялёную азіміну, выцягнуўшыся па ледзь прыкметнаму ўзгорачку да самага ляска, збавіў хуткасць, і толькі хацеў павярнуць руль улева, як матор чыхнуў і заціх.

Алесіч паспрабаваў завесці яго, але старцер гудзеў, як стомлены чмель, а матор не заводзіўся. Алесіч вылез з машыны, падняў капот. Ён ведаў многія аўтамабільныя маторы як свае пяць пальцаў. Паспеў разабрацца і ў гэтым. Спачатку падумаў, што, можа, дзе адышла якая клема. Праверыў праводку. Усё было на месцы. Праверыў свечы. Іскрылі лепей не трэба. Ён нічога не разумеў. Стаяў ля задранага капота і чухаў патыліцу... Амаль побач скрыганула тармазамі «Волга». Алесіч пазнаў вадзіцеля, які вазіў старшыню іхняга калгаса. Сёння бачыў, як некалькі разоў старшынёўская «Волга» прабегла па вуліцы іхняй вёскі.

— Кукуем? — высунуў галаву з машыны малады светлавалосы хлапец у сінім берэце.

— Ехаў нармальна — і раптам... Цяпер не заводзіцца,— паціскаў плячыма Алесіч.— Можа б, глянулі?

Хлапец у берэце вылез з машыны, сеў за руль «Жыгулей», павярнуў жоўты ключык. Стрэлкі на ўсіх прыборах за шкельцамі захіталіся, а тая, што паказвала бензін, не паварухнулася.

— Адразу відаць, што навічок,— засмяяўся хлапец.— У цябе ж гаручкі нуль. Яшчэ няма такой машыны, каб на нулі ездзіла,— і зарагатаў.

— А я, дурань, пра бензін не падумаў,— пачырванеў Алесіч.

— У каністры няма?

— У мяне і каністры няма. Сёння першы раз выехаў.

— Запомні на ўсё жыццё першую запаведзь шафёра. Заўсёды павінна быць у багажніку каністра з бензінам. Табе не спатрэбіцца, можа, такому небараку, як ты, спатрэбіцца. У мяне заўсёды каністра поўненькая. Я табе трохі дам.— Ён прынёс каністру, лейку і сапраўды наліў небагата.— Нічога, да запраўчнай дацягнеш, калі буксаваць не будзеш,— і зноў зарагатаў.

— Я хоць убачыла, што такое сапраўдны шафёр,— упікнула яго Каця, калі Алесіч сеў за руль.— Ці забыўся, як выхваляўся?

Ён прамаўчаў.

— Ведаеш, чаго ў мяне такі настрой,— Каця мелькам глянула на кіслы, абвялы твар Алесіча, твар незадаволе-

нага сабой чалавека.— Я паглядзела, як ты бегаў ля машыны, і ўсё зразумела. Твая былая жонка ні пры чым. Учора дзень пракорпаўся ля машыны, усё дзьмухаў на яе, і сёння яна цябе турбуе. Спачатку машына, а потым я... Учора за ўвесь дзень не падышоў да мяне. Не заўважыў гэтага? Баюся, ці не зазасціць машына табе вочы?

— Не выдумляй.

— Што я выдумляю?

— Што гаворыш. Учора ты так не думала. І сёння. Зараз прыдумала. Я ўсё разумею, Каця. Любой такая, як Вера, сапсавала б настрой. Выкінь яе з галавы. Назаўсёды... Гэта ўсё драбяза... А вось што перад табой апраставалосіўся... Як я забыўся на бензін?.. Але нічога, Кацюша,— ён праваю рукой прыхінуў яе да сябе.

— Трымай руль, а то завязеш у канаву.

— У канаву не завязу, а ў лясок. Бачыш, наперадзе бярозы і сасна без верхавіны. Гэта той лясок, што ля нашай буравой. Помніш?

— Думаеш, хадзіла ў той лясок?

— Там бацька Скачкова пахаваны.

— Чула.

— Давай заглянем. Цяпер там нікога.

— Зноў машына заглохне.

— Мы з'язджаць не будзем. А, Каця?

— Паехалі дамоў.

— А што дома?

— Што і тут.

— Тут вясна, сонца. Прырода, адным словам. А там?

— Знадаела табе там? — бліснула яна шэрымі вачыма на Алесіча.

— Вядома, не.

— Паехалі, калі не,— і ўбачыўшы, як зноў спахмурнеў тварам Алесіч, узяла за руку, якой ён трымаў рычаг ад каробкі перадач.— Яшчэ з'ездзім. Цяпер у лесе брудна, пыльна. Ды і бензіну ў цябе...

— Прычапілася да бензіну,— буркнуў Алесіч і пагнаў машыну хутчэй.

Шаша блішчэла на сонцы, аж рэзала вочы. Каця павярнулася да мужа, разглядала яго загарэлы твар, спахмурнелы, насуплены, і яе радаваў яго настрой.

Мільганулі бярозы з абвіслым, як абламаным, голлем і каржакаватая без верхавіны сасна. Каця падумала, што добрае месца для бусла, як гэта ніхто не здагадаўся ўсцягнуць туды барану ці кола.

За акном замільгалі платы,— пачыналася вёска. Машыну затрэсла: кончыўся асфальт, пачалася брукаванка. Алесіч збавіў хуткасць, узяў болей управа. Левыя колы таўкліся па бруку, затое правыя каціліся па роўнай, укатанай веласіпедыстамі сцежачцы.

— Ой, Ваня, спыніся,— спахапілася Каця.

— Што такое?

— Заглянем у магазін. Кожны раз, калі ехалі міма, хацелася заглянуць. Ды з аўтобуса не пабяжыш.

Алесіч крыху збочыў, але да самага магазіна не паехаў.

— Ведаеш, сто метраў не дацягнем да запраўчнай, сорамна будзе каціць на руках,— павінаваціўся ён.

— Табе бензіну шкада болей, чым жонку,— пажартавала Каця.

— Я пачакаю,— Алесіч ніколі не любіў без мэты швэндацца па магазінах. Дастаў чыстую анучку, узяўся праціраць лабавое шкло, якое ледзь прыкметна запылілася. Потым памацаў калёсы, ці не нагрэліся, нагнуўся, глянуў на задні мост.

— Іван! — пачуўся гучны Кацін голас.

Алесіч азірнуўся. Жонка стаяла на ганку і хуценька махала рукой, клікала да сябе. Нетаропка скіраваў да магазіна.

— Ды хутчэй ты! — яна аж збегла па прыступках яму насустрач, падхапіла пад руку, пацягнула.— Пойдзем, пабачыш, які цудоўны магазін. Столькі імпарту! Адзін касцюм вісіць, прыгожы-прыгожы, прымераеш. Калі падыдзе, возьмем.

— Не трэба мне касцюм. У мяне ёсць касцюм.

— Паглядзіш гэты.

Як ні адмаўляўся, як ні працівіўся Алесіч, але ўсё ж давялося яму прымераць касцюм. Касцюм сапраўды быў прыгожы і пашыты як на яго. Глянуў на сябе ў люстэрка і не паверыў, што гэта ён, Алесіч. Перад ім стаяў нехта іншы, горды, саманадзейны.

— Лепей купіла б якую куртку ў машыне ездзіць,— спрабаваў ён аднекваца.— Куды мне хадзіць у такім?

— Як куды? Сёння пойдзем у кіно.

— Адаб'юць мяне зуеўскія бабы ў цябе.

— Не бойся, не аддам,— і звярнулася да прадаўца: — Будзем браць, загарніце... У вас курткі на яго ёсць?

Прадаўшчыца прынесла некалькі куртак. Лёгкую, летнюю, і пару на падкладцы са штучнай футры.

— Мерай! — падала іх у прымерачную Алесічу. Пастаяла, паглядзела, як сядзяць.— Бяром дзве. Летнюю і цёплую. Такія не заўсёды бываюць.

Каця купіла яму дзве белыя рубашкі, стракаты гальштук, хацела купіць яшчэ чэхаславацкія чаравікі, але не хапіла грошай.

Алесіч не пярэчыў. Разумеў, што няма сэнсу пярэчыць. Каця была як апантаная, не хацела нічога слухаць. Ён моўчкі стаяў з пакупкамі ў руках, чакаў, пакуль яна разлічыцца.

— Ну, што насупіўся? — весела спытала яна, выходзячы з магазіна. Вочы яе свяціліся радасцю, твар ззяў непадробным шчасцем.

— За што жыць будзем? Да зарплаты яшчэ...

— Ты забыўся, што раблю ў сталоўцы? — засмяялася Каця.— Як-небудзь пракармлю...

Алесіч ніяк не чакаў ад яе, добрай, разумнай, разважлівай, такой бяздумнасці. Хоць пакупкі павінны былі б яго радаваць, гэта ж быў клопат пра яго, але на душы не было радасці, адна няёмкасць.

Калі селі ў машыну, ён адразу ж пагнаў яе на вялікай хуткасці, пасярод дарогі, па самаму бугрыстаму бруку.

— Не гані так,— уважліва паглядзела на яго Каця, усміхнулася.— Растрасеш, некага будзе вазіць у лес дыхаць азончыкам...

Алесіч спыніў машыну ля самага пад'езда, счакаў, пакуль выйдзе жонка, паднёс пакупкі да дзвярэй, вярнуўся, адагнаў машыну на пляцоўку для стаянкі аўтамабіляў. Ехаць нікуды не збіраўся. Зняў дворнікі,— яму раілі рабіць так вопытныя прыватнікі, маўляў, крадуць,— замкнуў дзверцы на ключ. Раптам яго паклікала Каця. Яна стаяла на балконе другога паверха, трымаючы ў руцэ нейкую паперку.

— Іван, тут запіска.

— Кідай,— падышоў бліжэй.

— І ў нядзелю не даюць пакою,— скамечыла паперку, кінула ўніз.

Алесіч прачытаў наспех напісаныя алоўкам каракулі:

«Дарагі Алесіч. Мы брыгадай тэрмінова паехалі на трыста пятую. Мяняць электрапомпу. Калі скончым, не ведаем. Можа, у нядзелю. У панядзелак абяцалі адгул, так што выходзь у аўторак. Панятна? Тарлан Мустафаеў.

— Паедзеш? — спытала Каця.

— Трэба глянуць. А то скажуць...

— Адкуль яны ведаюць, што ты дома?

— Я ведаю.

— Перакусіў бы хоць.

— Я хутка. На вячэру прыеду. Не сумуй,— памахаў рукой, вярнуўся да машыны. Дворнікі не стаў ставіць на месца, разважыўшы, што надвор'е яснае і ён, наогул, праз якую гадзіну вернецца.

Выехаўшы з завулка на галоўную вуліцу, амаль пустую ў выходны дзень, адразу ж набраў хуткасць. Незаўважна праскочыў горад, вылецеў на шашу. На шашы пагнаў машыну яшчэ хутчэй. Першы раз ён сядзеў за рулём, калі ў машыне нікога не было. Едзь як хочаш. Ніхто не папросіць ехаць цішэй. Ты сам гаспадар хуткасці, гаспадар дарогі, прасторы! Ад усведамлення гэтага было радасна на душы. Такую радасць ён перажываў, можа, упершыню. Пра яе не раскажаш, яе трэба перажыць. Ён абавязкова навучыць ездзіць і Кацю, а потым сына, калі будзе ў іх сын, а калі будзе дачка, то і дачку! Вузкая шаша імкліва расшыралася перад самай машынай, кідаючыся пад колы. Матора не было чуваць, толькі свістаў-завываў вецер і шапацелі шыны...

Калі Алесіч убачыў бярозы і сасну без верхавіны, пашкадаваў, што так хутка даехаў. Хацелася яшчэ ляцець і ляцець, слухаць завыванне ветру і шапаценне шын.

Ён скінуў газ. Машына так разагналася, што не затармазі, праехалі б міма дарогі, па якой трэба было збочыць да трыста пятай свідравіны. Па прасёлачнай дарозе закалыхаўся на мяккіх спружынах, як у калысцы.

Выехаўшы з ляска, адразу ж убачыў ля свідравіны пад'ёмны агрэгат і рабочых. Яны апускалі трубы. Іх засталося зусім мала. Крыху воддаль стаяў вахценны аўтобус.

Тарлан Мустафаеў сядзеў у дзвярах аўтобуса, паставіўшы ногі на прыступкі, паклаўшы рукі на калені,— адпачываў. Яго чорны камбінезон быў заляпаны глінай. Гліна высахла, патрэскалася.

Алесіч, пакінуўшы машыну на дарозе, падышоў да брыгадзіра.

— Прабач, дарагі, што патурбавалі,— саскочыў на зямлю Тарлан Мустафаеў, прысеў на ногі, зморшчыўшыся.— Пераседзеў... Самлелі. Не спалі ноч, хацелі да раніцы скончыць, панімаеш? Ды не паспелі, яшчэ і дня прыхапілі. Але хутка канец. Можна было і не ехаць.

— Каб ведаў,— Алесіч адчуваў сябе ніякавата, што

без яго абышліся.— Ездзіў да маці, толькі вярнуўся. Запіска. Пачытаў і сюды.

— Нічога, нічога, хопіць яшчэ і на твой лёс аварый,— супакоіў яго брыгадзір.— Я таксама ледзь не з'ехаў. Сабраўся на рыбалку. Сусед на машыне пад'ехаў. Сталі грузіцца, а тут начальнік цэха на лятучцы. Ты сапраўдны чалавек, Мустафаеў, кажа, ты ніколі не падводзіў цэх, бяры машыну, збірай брыгаду і на трыста пятую электрапомпу мяняць. Тэрмінова. Панімаеш? Канец месяца, плана няма. У панядзелак зловіш свайго шчупака. Мустафаеў сказаў жонцы, каб не чакала шчупака, ішла ў магазін, купляла хек. Таксама смачная рыба. І паехаў збіраць брыгаду. Цябе не было дома. Пакінуў запіску. Прачытаеш, зразумееш. І не памыліўся. Дзякую! Панімаеш, паставілі электрапомпу з капіталкі, матор згарэў. Скажы Скачкову, няхай паганяе электрыкаў. Трэба ж рамантаваць добра, а то цяп-ляп, а ў брыгады Мустафаева няма выхаднога. Я свайго шчупака спаймаю і ў панядзелак, а жонка не любіць у выхадны без мяне заставацца... Але нічога. Хутка паедзем дамоў... Яшчэ б раней паехалі, каб парадку болей было. Учора сабраліся, кінулі ўсё, і, думаеш, адразу за работу? Не! Чатыры гадзіны чакалі раствору. Ад Мустафаева быстрай работы хочуць, а самі? Чаму зноў раствор не прывезлі, калі трэба? А потым прывезлі, думаеш, такі, які трэба? Не. Няма нейкага хімрэагента. Прывезлі аблегчаны... Добра, калі трохі аблегчаны, а калі... Яны прывезлі і паехалі, а тут сядзі і бойся, што з-за таго рэагента ў неба ўзляціш. Добра, што нафты там кот наплакаў, а каб болей... Скажы Скачкову, няхай выганіць Кацянка. Пакуль будзе Кацянок, парадку не будзе. Панімаеш? Які ты начальнік, калі не можаш прымусіць вазіць нармальны раствор? На складзе няма рэагента. Даўно ведаў? Чаго чакаў? Ногі на плечы і па ўсёй краіне шукай. Краіна вялікая, дзе-небудзь знойдзеш. Хай ногі бегаюць, калі галавы няма. Думаеш, бегае? Недзе дома ля тэлевізара спіць. А чаму? Таму, што душа ў Кацянка спакойная. Не такая, як у нас з табой. Я на сходзе скажу пра гэта. Не паслухае, у райком пайду. Тарлан Мустафаеў усе дарогі ведае...

— Пайду, можа, падмяню каго,— сказаў Алесіч, калі брыгадзір выгаварыўся.

— Не трэба. Без цябе справяцца, засталося мала... Твая тачка? — кіўнуў на легкавушку.

— Мая.

— Даўно купіў?
— Так дасталася.
— Падарылі?
— Ыгы.
— Я заўсёды гаварыў, што ў вас добрыя людзі. Машыну можа падарыць толькі добры чалавек. Новая?
— Амаль.
— Можна глянуць? — і Мустафаеў пайшоў да машыны, сеў за руль.
— Хочаце праехаць? — падаў яму ключык Алесіч.
Тарлан Мустафаеў завёў матор, счакаў, пакуль побач усядзецца Алесіч, крануўся з месца, ціха, быццам вобмацкам, праехаў па калдобістай дарозе бліжэй да свідравіны, спыніўся перад пад'ёмным агрэгатам.
— Выдатная машына! — пахваліў брыгадзір.— Мая Ліда таксама хоча машыну. Я сказаў, вось будзе ў мяне адпачынак, куплю машыну, пасаджу яе, сваіх джыгітаў, насыплем у багажнік сушаных грыбоў і паедзем глядзець горы. Адтуль дынь прывязём. Дыні хочацца. Даўно не еў. Панімаеш? Ліда пытаецца, калі ж паедзем. Кажу, адрамантуем свідравіны, тады. Трэці год рамантую. Без адпачынку. А як адпачываць, калі столькі работы. І джыгіты няхай падрастуць. Потым на ўсё лета паеду...
— Тарлан! Тарлан! — трывожна закрычалі рабочыя.
Тарлан Мустафаеў выскачыў з машыны, пабег да свідравіны. Алесіч, заглушыўшы матор, кінуўся за брыгадзірам.
У свідравіне пеніўся раствор, вывальваючыся праз трубу, як пералітае піва з кухля. Пена нарастала, вадкасць булькала.
Тарлан Мустафаеў пагнуўся, апусціўшы свае чорныя вусы, ледзь не да самай пены, знерухомеў, потым крыкнуў:
— Матор!
Адзін з рабочых кінуўся да агрэгата, але ў гэты момант тонкая труба, на якой апускалі электрапомпу ў свідравіну, імкліва папаўзла ўверх, пад'ёмны агрэгат нахіліўся і пачаў падаць сваёй стралой на брыгадзіра.
— Тарлан! — закрычаў Алесіч, падскочыў да брыгадзіра, хацеў адштурхнуць яго ўбок, але перад вачыма бліснула, як сонца. Алесіч спатыкнуўся аб металічную трубу, упаў, закрыўшы твар рукамі, пакаціўся, адчуў, як апякло ўсяго...

# 23

Пажар на свідравіне палыхаў тры дні.

Слуп чорнага дыму быў відзён на дзесяткі кіламетраў. Ён распаўзаўся ў небе чорнымі пісягамі, засланяючы сонца. Стагнала полымя. Газ з зямлі вырываўся з гулам і грукатам, нібы пераварочваў на сваім шляху цяжкія валуны. Чырвоныя пажарныя машыны, сагнаныя з некалькіх раёнаў, бяссільныя стаялі наўкола, нагадваючы божых каровак, што сабраліся пагрэцца.

Часам агонь спадаў, страчваючы сілу. І тады была відаць чорная зямля, пакарожаныя трубы, шкілет грузавіка з пад'ёмным механізмам, згарэлая легкавушка, якая стаяла на голых дысках. Людзі з бранспойтамі кідаліся наперад, залівалі зямлю вадой, тая шыпела, усё пакрывалася малочнай парай. Потым зноў у глыбінях зямлі нехта варочаў цяжкія валуны,— выбухвала полымя, засланяючы неба чорным дымам.

У першы ж дзень на пажар прыехаў генеральны дырэктар аб'яднання Балыш. Вылезшы з машыны, якая спынілася за ляском, крыху з'ехаўшы з шашы, размахваючы поламі дарожнага плашча, ён скіраваў да купкі людзей, што стаялі з падветранага боку ад свідравіны і ў маўклівым атупленні глядзелі на агонь.

— Ахвяры ёсць? — не павітаўшыся, спытаў у Скачкова, і толькі потым усім па чарзе падаў руку, строга ўглядаючыся ў кожнага прыжмуранымі вачыма.

— Трое,— сказаў Скачкоў.— Адзін у цяжкім стане дастаўлены ў бальніцу.

— Чаму не тушыце?

— Няма чым. Пажарныя машыны не могуць блізка пад'ехаць.

— Падрыхтавалі мне сюрпрызік,— паласнуў Скачкова халодным паглядам Балыш.— І плана няма, і цяпер гэтая стыхія,— потым падышоў да галоўнага геолага Працько, які стаяў крыху воддаль ад усіх, выставіўшы бараду наперад так, быццам сушыў яе ля агню.— Вось вам, дарагі Віктар Іосіфавіч, і вада.

— Удар па скептыкам,— усміхнуўся Працько, а потым, спахапіўшыся, прыкрыў рот канцом барады, нібы пашкроб ёй губы.

— Вы рады катастрофе? — настрой галоўнага геолага ўразіў Балыша.

— Канешне, трагедыя. Што гаварыць... Але гэта вы-

бух па тых, хто перастаў верыць у нашу нафту. А то пачалі крычаць, што болей у нашай зямлі нафты няма, што высмоктваем апошнія кроплі... Апошнія кроплі так не палыхаюць. Дрэнна ведаем свае нетры,— і раптам зусім па-будзённаму спытаў у Балыша: — Можа, цяпер не спыняць разведку?

— Ну, любуйцеся, любуйцеся,— Балыш зноў вярнуўся да Скачкова.— Якія меры прыняты ў бліжэйшых вёсках?

— Дзяжураць пажарныя машыны.

— Адказу з міністэрства няма?

— Няма.

— Паеду пазваню,— і Балыш паспяшаўся да свае машыны.

На трэці дзень прыехала спецыяльная пажарная каманда. З вялікіх доўгіх машын згрузілі рэактыўныя ўстаноўкі. Накіроўваючы на агонь шквальныя струмені паветра, некалькі разоў спрабавалі збіць полымя. Яно, згаслае, кожны раз успыхвала з новай сілай: газ і нафта, якія вырываліся з зямлі, загараліся ад распаленых каменняў і жалеза.

Пажарнікі з бранспойтамі ў руках, прыкрываючыся высокімі бляшанымі шчытамі, падыходзілі так блізка да агню, што ў іх смылелі бровы, калі яны выглядвалі з-за шчытоў.

І толькі ў канцы дня, калі полымя само крыху звяла, удалося збіць яго. Пажарнікі палівалі зямлю вадой да таго часу, пакуль не перастала падымацца пара.

Пацягнула ветрыкам. Пасвятлела паветра.

На краі неба доўга яшчэ вісела чорная хмара дыму.

— Ну што стаіш, мілачка? Я ж сказала, нельга, значыцца, нельга. Не разумееш, ці што? І нечага там... Чалавек без свядомасці. Ні спытаць, ні сказаць,— бурчэла старая ў белым халаце. Жоўтагаловая — валасы былі пафарбаваны,— мажная, яна ўзвышалася над сталом, як капа, паглядваючы добрымі бясколернымі вачыма на Кацю.

Каця, здавалася, не чула яе слоў.

Дзяжурная паднялася, выйшла з-за стала, загарадзіўшы сабой ледзь не ўвесь вузкі калідор, каб затрымаць Кацю, калі тая раптам паспрабуе прарвацца.

— Можа, так, мілачка, зробім? — больш лагодна загаварыла старая.— Пакінь свой тэлефон, як прыйдзе ў сябе

ён, мы пазвонім. Няма тэлефона, наш запішы, пазваньвай. Сама падумай, што рабіць тут супроць начы?

З дзвярэй, што былі адразу за столікам дзяжурнай, выйшаў высокі ўрач у суправаджэнні маладзенькай танклявай медыцынскай сястры. Сястра, віхляючы круглым задком, зацокала высокімі падкаванымі абцасікамі ў далячынь глыбокага змрачнаватага калідора, а ўрач, правёўшы позіркам сваю памочніцу, спытаў у Каці:

— Вы да каго?

Каця моўчкі глядзела на ўрача шэрымі вачыма, у якіх, цяжка сказаць, было больш адчаю ці мальбы.

— Да абгарэлага,— шапнула дзяжурная.— А я...

— Хай пройдзе! — дазволіў урач і, запусціўшы рукі ў кішэні халата, выставіўшы вострыя локці, неяк стомлена пайшоў услед за медсястрой.

— Ну, мілачка, калі сам дазволіў, то, канешне. Толькі ў плашчыку нельга. Дай мне яго,— яна ўзяла плашч, пачапіла на вешалку, што стаяла ля сцяны насупроць стала, зняла белы халат,— іх некалькі вісела там,— накінула яго жанчыне на плечы, правяла да дзвярэй, уздыхнула.— То ж трэба такое горачка...

Палата была невялікая, з адным акном, заслоненым зялёнай шторай. У памяшканні трымаўся вечаровы паўзмрок. Паўз сцяну, галовамі да акна, стаяла два ложкі. Адзін з іх быў незаняты, а на другім, што злева, ляжаў чалавек з забінтаванай па самыя бровы галавой. Віднеліся вочы, бровы, шчокі, падбародак і нос, які выпіраўся клінам на схуднелым твары. Самы канец носа кругліўся распухлай сіняй слівінай. На твары выразна вымалёўваліся сляды далоняў. Там, дзе яны закрывалі скуру, яна была светлая, жывая, крыху пакрытая шчэццю на шчоках. У астатніх месцах — пачырванела, абпаленая.

Усё цела хворага, ад самага падбародка, было накрыта нацягнутай прасцінай. Яна бугрылася толькі на грудзях і там, дзе былі ступні. На сцяне ў нагах вісеў нейкі шкляны цыліндрык з вадкасцю. Ад яго звісала, хаваючыся пад прасцінай, чырвоная гумавая трубачка.

Каця доўга ўглядалася ў твар Алесіча, потым прыўзняла з боку прасціну. Жывот і месцамі ногі былі перахоплены бінтамі. У большасці ж абпаленае цела заставалася адкрытым. З ран сачылася сукравіца. Пасцеля знізу набракла чырвоным.

Каця, відаць, не ўстаяла б на нагах, каб не схапілася

за крэсла, якое стаяла тут жа ля ложка і на якім, відаць, нядаўна сядзеў урач.

— Вазьмі, мілачка, вадзіцы,— Каця не пачула, як аказалася побач старая з белым карцом у руках.— Вазьмі вадзічкі, а то... Ды прысядзь, чаго стаіш? — яна ўзяла вольнай рукой яе за плячо і ледзь не сілком усадзіла.— Хоць трохі халодненькай, не так будзе душу смаліць.

Каця закруціла галавой, адмовілася.

— Не хочаш цяпер, потым вып'еш,— паставіла карэц на тумбачку.— Толькі не бяры да сэрца так, мілачка. Будзе як будзе...— і выйшла, паскрыпваючы масніцамі.

Каця не зводзіла вачэй з Алесіча. Яна так пільна ўзіралася ў яго, нібы не верыла, што гэта ён, сумнявалася, думала, што тут ляжыць нехта іншы, а не Алесіч, які яшчэ некалькі гадзін таму вёз яе на машыне і так няўмела прасіў заехаць у лясок. Каб яна не заўпарцілася падурному, яны надоўга б забарыліся там, можа б, яшчэ і цяпер не вярнуліся дамоў...

Зайшла медыцынская сястра, пстрыкнула ўключальнікам — жоўтае святло напоўніла пакой,— працокала да ложка, павярнулася да Каці вузкай, зусім яшчэ дзіцячай спіной у накрахмаленым халаціку, каб жанчына не ўбачыла, што там пад прасцінай, адхінуўшы якую, зрабіла ўкол, нацягнула зноў яе, засунуўшы верхні край прасціні пад плечы Алесіча, а ніжні пад пяткі. Выходзячы, медыцынская сястра азірнулася на Кацю, сустрэўшы ў яе вачах нямое пытанне, нічога не сказала, толькі папрасіла:

— Пачне занадта стагнаць ці яшчэ што, націсніце на кнопку, я прыйду ці ўрач,— і зачыніла за сабой дзверы.

Твар у Алесіча нібы ажыў. Бледныя плямы, сляды ад далоняў, пацямнелі, наліліся чырванню. Сутарга кранула шчаку. Алесіч варухнуў вуснамі, замармытаў.

Каці падалося, што ён нешта сіліцца сказаць. Яна прыўзнялася, бліжэй нахілілася да яго, каб лепей было чуваць. Стаяла так доўга, пакуль не самлела спіна. Тады Каця падсунула крэсла, прысела ў галовы, абапёршыся локцямі ў край ложка.

Алесіч гаварыў усё болей выразна. Чуліся не толькі асобныя словы, а цэлыя сказы. Здавалася, што ён з некім спрачаўся, некаму даводзіў сваё, даводзіў упарта, раздражнена, не слухаючы ўяўнага субяседніка.

«Я празяваў... Кажу, я, значыцца, я... Куды толькі глядзеў?.. Вера? Ты слухаеш мяне? У бутэльку глядзеў.. Канешне, каб ты не была скупердзяйка... Ха, табе ж трэ-

ба было болей за ўсіх! Не магла, як людзі... Ты слухаеш? Каб не скупая, не завідушчая... Ты ніколі не верыла мне... Цябе ніхто так не любіў і любіць не будзе. Табе не гэта трэба было... Не гэта! У цябе свой інтарэс. Так, так... Я вінаваты, канешне. Дурань быў... Дагаджаў... Трэба было, каб адчула... Не, не, твая ўлада была, твая... Рабіла што хацела. Хацела нагамі душу вытаптаць... Не чуеш? Не падыходзь блізка!.. Горача, як ад агню. Не падыходзь!.. Бутэлькай зараз. Чуеш?.. Табе мала яшчэ? Нечага сказаць? Хе-хе!.. Ты маўчала, калі быў п'яны. Баялася... Не, не трэба... Горача! Мне піва... халодненькага... Што маўчыш? Вера?.. Не гавары ерунду. Кажу, пальцам не крану... Піў, што ты такая. Ясна? Ты як звер... Я толькі на парог, а ты ўжо звер. Давай, давай... Толькі і чуў — анучы, анучы, анучы... У бар пайду. Ясна? Што стала на дарозе? Адыдзі, калі жыць хочаш... Каб мяне не пускаць...— Алесіч закруціў галавой. Яго твар аж перакасіла сутаргай ад болю. Каця прыўзнялася, кранула рукой шчакі, апусціла яму на лоб далоню. Алесіч расплюшчыў вочы.

— Пі-іць,— ледзь чуйна прашаптаў ён.

Каця схапіла карэц. Ён быў ледзь не поўны. Яго нельга было нахіліць. Азірнулася, куды б выліць лішнюю ваду. Нічога не знайшла. Адпіла ледзь не палову. Паднесла карэц да засмяглых вуснаў Алесіча. Ён прагна глынуў некалькі разоў. Вада пацякла па падбародку, на шыю...

— Дзякую, Каця...— прашаптаў, стомлена паглядзеўшы на жанчыну.— Скажаш Скачкову, што раствор... Я таксама дурань. Трэба было не вазіцца ля машыны, а бегчы. Я выключыў бы рухавік. Застаўся, а яны не здагадаліся... Чуеш? — ужо нават не шаптаў, а толькі выдыхнуў паветра Алесіч.— Мустафаеў добры чалавек, але раствор...— ён заплюшчыў вочы, які час ляжаў сцішана, нібы заснуў глыбокім сном. Потым замуляў вуснамі, прастагнаў, зноў пачаў трызніць.

«Што робіш? Вера!.. Гэта ж гарэлка... Ты думала, малако?.. Але навошта выліваць?.. Што ты вярзеш? Эх ты!.. Ты ніколі не ведала, як я хацеў дамоў. Дурны?.. Канешне... Дурны, што сумаваў... Прыйшоў, не адмовіўся... А ты?.. Ты ненавідзела мяне! Няпраўда?.. Хе... Можа быць... Мяняўся. Яшчэ як мяняўся!.. Ты не хацела мяняцца. Чаго за мяне выходзіла?.. Думала, мяшок з грашыма. Мама, не слухай яе. Гані!.. Прэч! Мы з Косцікам парыцца пойдзем. Ты бачыла, якую лазню зрабіў? Што ты!.. З Косцікам сходзім у лес па венікі. Пачакай!.. Кос-

цік, куды пабег? Расці вялікі... Знішчы яе! Чуеш? Каб ніводнай кроплі не засталося. Чуеш?.. Сам не пі. Не крыўдзі людзей... Памагай... Ты ведаеш, колькі крыўды на зямлі?.. Сам парумзай, сам... Лепей сам... Косцік! Ты слухаеш? Куды палез? Абгарыш. Не чапай! Там сонца... Чуеш? На сонцы вішаняк няма... Чуеш? Назад! Каму сказаў? Згарыш! Косцік! Каму сказаў? Я табе... Я табе...» — Алесіч паспрабаваў падняцца, выгнуўся так, што ледзь не зваліўся з ложка, потым застагнаў праз зведзеныя болем зубы, застагнаў працяжна і жудасна, быццам завыў.

Каця націснула кнопку і не адпускала яе, пакуль у палату не ўляцеў урач, а за ім застакатала, як кулямёт, абцасікамі медыцынская сястра.

— Адпусціце кнопку! — яшчэ з парога крыкнула яна пісклявым галаском.

Урач акінуў учэпістым позіркам хворага, які ўжо не стагнаў, а толькі сутаргава варушыў вуснамі, часта дыхаючы. Зноў пабялелі сляды далоняў на твары.

— Крычаў? Хацеў падняцца? — урач мацаў пульс на скроні Алесіча.

Каця кіўнула галавой у адказ.

— Гэта нядрэнна,— сказаў суцяшальна ўрач, паглядваючы на жанчыну, потым мякка, з нехаванай пяшчотай загадаў медыцынскай сястры.— Укол! Капельніцу на ўсю ноч.

Медыцынская сястра выйшла. Урач не зводзіў вачэй з яе, пакуль не прычыніліся дзверы, потым звярнуўся да Каці:

— Можа, адпачылі б крыху? У ардынатарскай можна. Пасля ўколу ён будзе спаць. Мы будзем паглядваць.

Каця апусцілася на крэсла, не глянуўшы на ўрача.

— Ваша справа,— ён яшчэ трохі пастаяў у дзвярах, нібы спадзяваўся, што Каця пераменіць сваю думку.

Пасля ўколу Алесіч паспакайнеў. Дыханне стала глыбей. Сляды далоняў на твары пазбавіліся жахлівай бледнасці, наліліся ружовасцю. Відаць, Алесіч сапраўды заснуў глыбокім сном. Потым зноў пачаў нешта мармытаць. Але цяпер як ні прыслухоўвалася Каця, нічога не магла разабраць. Яна стамілася сядзець, нахіліўшыся, адкінулася на спінку крэсла, сядзела і не зводзіла вачэй з яго твару, напружана прыслухоўваючыся да мармытання.

Пад гэтае мармытанне, як пад калыханку, Каця і задрамала...

Спахапілася, пачуўшы сваё імя.

У акно праз зялёныя шторы цадзіўся ранішні світа-так. Бездапаможна блішчэла электралямпачка пад столлю.

Яна азірнулася наўкола, быццам забылася, дзе знаходзіцца.

— Каця! — прашаптаў Алесіч.

У ранішняй шэрані яна ўгледзела спачатку яго вочы, якія з нямой упартасцю глядзелі на яе, твар, які цямнеў невыразнай плямай сярод белых бінтоў.

Каця прыўзнялася, нахілілася да яго.

— Пі-і-іць,— папрасіў ён.

Яна паднесла яму карэц. Алесіч прагна зрабіў некалькі глыткоў, сцяў вусны. Яна стаяла з карцом у руцэ, баялася паварушыцца, каб раптам не прапусціць ніводнага гуку.

— Каця...— ён вяла варушыў вуснамі.— Будзе хто, сын ці дачка...— ён перадыхнуў, адпачыў.— Найдзі Косціка. Хай пазнаёмяцца. Ім разам лепей будзе,— замаўчаў. Цяпер маўчанне было больш працяглае. Калі загаварыў зноў, то словы яго ледзь можна было разабраць.— Дзякуй, Каця!.. Ты ў мяне...— і не зводзячы ўзмакрэлых вачэй з жанчыны, усміхнуўся.

Сляза збегла па ружовай скроні...

Каця таксама ўсміхнулася яму. Ёй падалося, што ён здзівіўся яе ўсмешцы,— зрэнкі вачэй яго раптам расшырыліся, вочы застылі. А ўсмешка не зыходзіла з яго твару, быццам застыла. Гэта была ўжо не ўсмешка, гэта было нешта...

— Ванечка-а-а-а!..

Каці падалося, што гэта і не яна крычала, а нехта іншы крычаў яе голасам...

З раніцы Скачкоў паехаў у рамонтны цэх, потым пабыў на некалькіх свідравінах, якія якраз рамантавалі, паглядзеў, як і што там робіцца, пагаварыў з рабочымі. Вярнуўся ў кантору недзе ў другой палове дня.

Эма Рыгораўна, якая заўсёды вітала яго, падняўшыся з крэсла, зараз нават не адарвала вачэй ад пішучай машынкі.

— Прывітанне, Эма Рыгораўна! — падкрэслена гучна сказаў Скачкоў, падумаўшы, што тая не пачула, як ён адчыніў дзверы.

— Прывітанне! — кіўнула сівой галавой сакратарка, не глянуўшы на яго.

— А што гэта людзей столькі сабралася ў канторы? — пацікавіўся начальнік упраўлення, крыху збянтэжаны яе няўвагай да сябе.

— Прызначаны сход на чатыры,— буркнула Эма Рыгораўна.

— Хто загадаў?

— Званілі з прыёмнай генеральнага дырэктара.

— Даўно?

— З раніцы.

— Гм...— Скачкоў зайшоў у кабінет.

Наогул, у апошнія дні, адразу ж пасля таго як у аб'яднанні з'явіўся Балыш, яго не пакідала адчуванне, што ён толькі фармальна начальнік упраўлення, а кіруе ўпраўленнем, людзьмі, усёй работай нехта таямнічы, іншы. Такое часам у яго з'яўлялася і раней, калі толькі пачынаў тут ужывацца, але тады ён тлумачыў гэтае адчуванне тым, што пакуль не прывык на новым месцы, і асабліва не звяртаў на яго ўвагу. І яно прайшло. І вось з'явілася зноў. Адкуль? Чаму? Можа, таму, што заўважыў, як некаторыя яго распараджэнні выконваюцца марудна, з неахвотай. Можа, такое і раней было, ды не заўважаў? Не, раней такога не было, як цяпер. Узяць хоць бы яго распараджэнне аб своечасовай завозцы раствору на свідравіны? Сам займаўся, даручаў Кацянку сачыць за гэтым. І ўсё роўна, то не завязуць, калі трэба, ці завязуць не такі. Так не магло доўга цягнуцца, павінна было нешта здарыцца, вось і здарылася. Як хто знарок падстроіў. Можа, і на трыста пятую аблегчаны раствор завезлі, вось і адбыўся выбух? Нешта ж хацеў сказаць пра раствор Алесіч... Разбярыся цяпер, як яно там было...

Чулася, як недзе гучна грукаюць дзвярыма, як нехта таропка пратупаў па калідоры, нехта недзе гучна рассмяяўся. Скрыганула тармазамі машына на вуліцы. Выбухнулі мужчынскія галасы. За сцяной, у суседнім кабінеце, надрываўся тэлефон. Каго ж там няма? Ён так і не ведае, хто сядзіць па суседству з яго кабінетам. Здаецца, ён ніколі не прайшоўся па калідоры далей сваіх дзвярэй. Не паглядзеў. Цікава, чаму ніхто не заходзіць да яго? Дарэчы, пра што ж будзе нарада? Ці ведаюць людзі? Хоць адкуль будуць ведаць, калі ён, начальнік, не ведае... Можа, якія дакументы трэба падрыхтаваць? Не, каб трэба была нейкая падрыхтоўка, сказалі б...

Раптам ціха, неяк ужо занадта асцярожна адчыніў дзверы галоўны геолаг, высунуў галаву.

— Заходзь, заходзь, Віктар Іосіфавіч,— абрадаваўся яму Скачкоў.

— Што за нарада? — спытаў, усеўшыся на сваё любімае крэсла, ля сцяны, Працько.

— Прызнацца, не ведаю. Можа, хоча сустрэцца з калектывам?

— Лепшага моманту не знайшоў? — усумніўся Працько.— Балыш не дурань, каб у такі дзень сустракацца. Падабраў бы больш вясёлы дзень.

— Думаеш, з-за аварыі?

— Хутчэй за ўсё.

— А пра што гаварыць? Трэба ж разабрацца, а потым. Нельга ж так.

— Разбіраюцца, калі хочуць высветліць ісціну. А калі не? Калі ў Балыша якая іншая мэта?

— Якая яшчэ можа быць мэта?

— Не ведаю.— Працько пачаў камячыць канец свае барады.— Бачыў, як на пахаванні Балыш і Бурдзей шапталіся. Ля іх круціўся Кацянок.

— Я не прыглядаўся.

— Я таксама. Але выпадкова...

— Пра што ж яны маглі шаптацца?

— Не ведаю, не чуў. Але ўпэўнен, гэтыя людзі дарэмна не шэпчуцца. Думаю, што правесці нараду на другі дзень пахавання захацелі не выпадкова. Пасля адбыўшагася ўсе як ніколі ўражлівыя. Можа, якраз і разлічваюць на гэты настрой.

— Ай, Віктар Іосіфавіч, ты ўжо занадта,— не паверыў яму Скачкоў.— Не думаю, каб такім псіхолагам быў Балыш. Проста не церпіцца чалавеку пакрасавацца перад былымі сваімі падначаленымі ў новай якасці. Чалавек любіць, каб яго заўважалі...

— Не думаю, каб Балыш быў такі прымітыўны,— Працько, можа б, і яшчэ што сказаў, каб раптам не зайшлі ў кабінет Балыш і сакратар райкома Міхейка. Скачкоў глянуў на галоўнага геолага, сустрэўшы яго позірк, ледзь прыкметна кіўнуў галавой, маўляў, ты правільна меркаваў. Раз Балыш прывёз сакратара райкома, то, сапраўды, задумана нешта надзвычай важнае.

Працько непрыкметна выйшаў з кабінета.

...Балыш сам узяўся весці нараду.

Ён не пайшоў за трыбуну, як звычайна рабілі ўсе

прамоўцы, а выйшаў наперад з супроцьлеглага ад трыбуны боку стала. Спыніўся ледзь не на краі сцэны. Невысокага росту, у цёмна-сінім касцюме, пад блакітным гальштукам, светлавокі, з бліщчастай, акуратна прычасанай чупрынай, маладжавы,— канешне ж, ён захацеў пакрасавацца перад сваімі былымі супрацоўнікамі... І гэта было настолькі прыемна яму, што Балыш не стрымаўся, усміхнуўся, спахапіўшыся, моцна змаршчыніў лоб, надаўшы твару строгую засяроджанасць, пачаў ціха, упэўнены, што яго і так добра пачуюць усе.

— Што ж, таварышы, якая б трагедыя ні выпала на нашу долю з вамі, яна не можа выбіць нас з каляіны, з рабочага рытму. Жыццё ідзе далей і патрабуе ад нас актыўнай дзейнасці. У нас з вамі, таварышы, ёсць над чым падумаць, ёсць багата нязробленага. Каб гэтая трагедыя здарылася тады, калі мы з вамі толькі пачыналі распрацоўваць радовішча, можна было б неяк апраўдаць гэтую аварыю. А гэта здарылася цяпер, калі мы добра ведаем характар нашай нафты, яе паводзіны. Значыцца, нельга прымаць пад увагу нечаканасці геалагічнага характару. Аварыя, відаць, вынік пэўных адносін людзей да сваіх абавязкаў. Вось і давайце іменна зараз, калі ўсім яшчэ баліць, і пагаворым шчыра. Спадзяюся, што перад тварам адбыўшайся трагедыі ніхто не здолее пакрывіць душой.

Скачкоў глядзеў са сцэны на Працько, які сядзеў на першым радзе, як заўсёды, упёршыся барадой у грудзі, спакойны, абыякавы, прыкметна сумнаваты. Нібы ён і сапраўды загадзя ведаў пра ўсё і цяпер нікольні не здзіўляўся таму, што адбывалася.

— Прашу, таварышы, выказвацца,— стаяў на краі сцэны Балыш, разглядаючы прысутных у зале. Потым, вярнуўшыся на сваё месца, сеў побач з сакратаром райкома.

Падняўся, пастаяў моўчкі галоўны геолаг, нібы вагаўся, гаварыць з месца ці выйсці за трыбуну. Усё ж выйшаў за трыбуну.

— Я ўвесь час, колькі тут вы рабілі,— пачаў, гледзячы на Балыша,— даводзіў вам, паважаны Раман Тарасавіч, што мы вельмі павярхоўна ведаем свае нетры. Вядома, у нас вельмі доўга шукалі нафту. Пакуль не знайшлі падыход да яе, не раскрылі яе сакрэт. І чамусьці адразу ўсе палічылі, што гэты ключык падыходзіць да ўсіх радовішчаў Палесся. Не паспелі адарвацца ад аднаго шаблону, як адразу ж трапілі ў палон новага. Чамусьці

не хочам прызнаць той факт, што тут кожнае радовішча ў выніку складаных геалагічных працэсаў мае сваю спецыфіку. Мы дрэнна ведаем свае нетры, Раман Тарасавіч. Дарэчы, іменна пагэтаму так доўга не могуць знайсці геолагі новых радовішчаў. Таму і на трыста пятай мы нечакана атрымалі нафту з той глыбіні, на якой і не марылі яе сустрэць. Праўда, нам не павязло. Аднекуль узялася вада. Мы падумалі, што там скончылася нафта, цяпер ведаем, што не скончылася. Яна нагадала пра сябе, не даравала нам залішняй супакоенасці. Я не магу зараз назваць сапраўдных прычын трагедыі, але, бясспрэчна, што адна з іх — наша цемната. Мы, Раман Тарасавіч, вельмі багата не ведаем пра нашу зямлю, пра яе таямніцы, і баюся, што яшчэ доўга не будзем ведаць, калі будзем так адносіцца да яе вывучэння, як вы,— і Працько так жа нетаропка, падкрэслена замаруджана пайшоў на сваё месца.

— Вы, можа, і нашы беспарадкі спішыце на прыроду? — кінуў яму ўслед Балыш.

— Дазвольце мне,— падняўся сярод зала невысокі шыракаплечы ў чорным камбінезоне, нібы прыйшоў сюды адразу ад станка, рабочы.— Я ў прафкоме адказваю за вытворчы сектар.

— Калі ласка, за трыбуну,— папрасіў яго Балыш.

— Нічога, вы мяне і так пачуеце,— застаўся на месцы той.— Што я скажу? Не першая гэта ў нас аварыя. Былі і раней. Асабліва калі нафты было болей. «Ёлкі» ў неба ляцелі. Блізка не было заведзенага матора, ніхто не курыў. Абыходзілася. А што адбылося тут? Відаць, празявалі, калі пайшоў газ. Можа, сядзелі, адпачывалі, перакур, значыцца... Можа, матор працаваў на агрэгаце. Мы ведаем, якія ў нас іскратушыцелі. Ад іх трава загараецца, не толькі газ. Вось яно і загарэлася. Можа, раствор не такі завезлі, што ў нас даволі часта бывае. Сапраўднай прычыны мы зараз, канешне, не ведаем, тут яшчэ трэба разабрацца. Але затое мы ведаем, што людзі працавалі ў выходныя дні. Пасля напружанага працоўнага тыдня. Стомленыя. Відаць, спяшаліся. У выніку, не тая пільнасць, не тая асцярожнасць. Мы часта гаварылі на прафкоме, што нельга так рабіць. Усе пагаджаюцца і ўсё роўна робяць. План! Перад ім і выхадныя не выхадныя. Некаторыя, можа, думаюць, калі чалавек не мае цаны, дык ён наогул нічога не варты... У мяне ўсё.

— Цікава. Адзін усё спісаў на няведанне прыроды,

а другі на выхадныя. Выходзіць, вінаватых няма? — паківаў галавой Балыш.— Няўжо няма адказных за тую ж тэхніку, за тыя ж іскратушыцелі?

— І не знойдзеце,— ужо з месца крыкнуў прафсаюзнік.— Ведаеце чаму? Багата адказных развялося. Паспрабуй разабрацца, хто вінаваты. Палічыце толькі ў нашай канторы, колькі дзвярэй з шыльдачкамі. І за кожнымі дзвярыма — адказны. Загляніце ў цэхі, на газавы завод. Вельмі багата шыльдачак.

— Яшчэ адну вельмі істотную прычыну знайшлі,— хмыкнуў Балыш.— Ці вы не ведаеце, што кожны, што сядзіць за шыльдачкай, адказвае за канкрэтны ўчастак? Ці, можа, не так?

— Можна мне? — падхапіўся Кацянок і, калі яму дазволілі, выйшаў за трыбуну, папрравіў рукою свой вераб'іны чубок, азірнуўся на прэзідыум, нібы шукаючы там падтрымкі, пачаў гаварыць спачатку крыху блытана, відаць, хваляваўся.— Вось тут чакаюць, каб мы назвалі канкрэтную прычыну трагедыі. Відаць, хочуць, каб мы сказалі, хто там разявіў, хто падпаліў. Канешне, раз выбухнула, загарэлася, то прычына ёсць. І тут правільна гаварылі, што яе трэба знайсці. Знойдзем мы яе ці не знойдзем, але ўпэўнен, што тая прычына не галоўная. Галоўная прычына трагедыі крыецца ў той атмасферы, якая створана ва ўпраўленні ў апошні час... Год назад да нас прыйшоў начальнікам Скачкоў Валерый Міхайлавіч. Вопытны сталы работнік. Мы з вялікім спадзяваннем сустрэлі яго. Думалі, што ён выведзе ўпраўленне з прарыву, у які нечакана яно трапіла. Мы чакалі, што ён рашуча паставіць пытанне аб змяншэнні плана, паколькі план, даведзены нам раней, практычна аказаўся не рэальным. І ён, як новы чалавек, меў усе маральныя правы дабівацца змяншэння плана. Яму гаварылі пра гэта. Не гнаць любымі сродкамі план, а дабівацца яго перагляду. На вялікі жаль, у яго для гэтага не хапіла смеласці ці характару, не ведаю. Ён пайшоў іншым шляхам. Маўляў, выклічам камісію, якая дасць нам адпаведныя рэкамендацыі, а пакуль трэба выконваць план. Усім калектывам думалі, як дабіцца выканання плана. Выхад быў адзін. Працаваць з большым напружаннем. І такое напружанне ў першую чаргу намаганнямі самога начальніка было створана. Праўда, некаторыя таварышы даказвалі, што такое напружанне да дабра не давядзе, але Скачкоў прапусціў міма вушэй гэтыя папярэджанні. Працавалі з вялікімі пера-

грузкамі. Не вытрымлівала абсталяванне, ламаліся машыны, лопаліся трубы. З некаторых свідравін пачалі качаць болей нафты, чым паложана. Упрошвалі буравікоў, каб яны хутчэй уводзілі ў строй як мага болей свідравін. План любымі сродкамі. Гэта адразу адбілася на якасці работ. У паспешлівасці перасталі лічыцца з правіламі тэхнікі бяспекі. План, план, план! Нават насуперак тэхнічным магчымасцям. Самае цікавае, што Скачкоў стаў на шлях не толькі варварскай эксплуатацыі некаторых свідравін, але і варварскага выкарыстання тэхнікі... Канешне, план — святы закон для нас. Але яго трэба выконваць законнымі сродкамі. Калі ён выконваецца незаконнымі сродкамі, яго выкананне становіцца таксама незаконным. Узяць для прыкладу хоць тую ж трыста пятую. Абрадаваліся, што атрымалі фантан. Замест таго каб браць нафты столькі, колькі паложана па навуцы, пачалі браць па прынцыпу: абы болей. Усё дзеля таго ж славутага плана. І загубілі свідравіну. Замест нафты атрымалі ваду. Паспешліва апусцілі ў свідравіну электрапомпу. Ды хоць бы новую. А то ж з рамонту. Магчыма, добра не праверыўшы. Скачкоў гатоў быў пайсці на ўсё, абы план. Часам складвалася ўражанне, што ён працуе пад нейкім страхам. Гэты страх ахапіў увесь калектыў... Проста не верылася, што чалавек, прайшоўшы такую выдатную школу кіруючай работы, так бязграматна кіраваў калектывам. Праўда, на першы погляд усё было задумана нібы разумна. Мелася на ўвазе, што пакуль будуць рамантаваць некаторыя свідравіны, астатнія які час папрацуюць больш інтэнсіўна. Маўляў, часова. Калі ж усё будзе адрамантавана, промысел запрацуе ў патрэбным рытме. Але так не адбылося. Напружанасць перакінулася на рамонтныя службы. Рамантавалі паспешліва, няякасна. Зношаныя дэталі замянялі не новымі, а старымі, не лепшымі. Не хапала цярпення дачакацца новых. Абы хутчэй. Пра заўтрашні дзень не думалі. Раздулі рамонтныя службы. Бралі абы-каго. Можна сказаць, з вуліцы. Часам малакваліфікаваных рабочых. У выніку ў рамонтнікаў знізіўся агульны прафесіяналізм. Прыклады? Узяць хаця б таго Алесіча... Не сакрэт, што чалавек быў хворы. Нідзе не мог працаваць. Вось і ўзялі. Дарэчы, узялі пасля таго, як яго прагналі буравікі. Наш аддзел кадраў быў супраць. Але Скачкоў не палічыўся з думкай аддзела. Узяў. Больш таго, без чаргі даў кватэру. Яно б не шкада было, каб кватэра дасталася

сапраўднаму спецыялісту. А то ж невядома каму. І самае незразумелае, што Алесіч працаваў у брыгадзе, якая вяла найбольш складаны рамонт. Можа, аварыя і адбылася якраз з-за яго нявопытнасці. Цяпер не праверыш.

І яшчэ. Калі калектыў працуе напружана, то ў такіх умовах ад кіраўніцтва патрабуецца асаблівая дакладнасць і аператыўнасць. Гэта закон. А што рабіў наш Валерый Міхайлавіч? Даў, напрыклад, указанне сваёй сакратарцы, каб яна не пускала да яго ўсіх, хто хоча зайсці, а накіроўвала да таго, хто займаецца адпаведнымі пытаннямі. І вось пачалі бегаць людзі па калідорах, шукаць патрэбных адказных таварышаў. А той адказны таварыш усё роўна не мог вырашыць самастойна пытанне, ішоў разам з наведвальнікам да начальніка. Губляўся дарагі час, з'явілася больш блытаніны, непатрэбных размоў...

У выніку вось такіх непрадуманых указанняў Валерый Міхайлавіч адарваўся ад калектыву. Стварыў напружанне, а сам убок. У зацішак. Страціў паўсядзённы кантроль над вытворчасцю... Помніце, увосень прыехала да нас камісія. На добры лад, дык сустрэць бы таварышаў, пагаварыць, высветліць патрэбы, памагчы і няхай людзі працуюць. Але Скачкоў не такі, ён з размахам. Шырокая натура! Сабраў нас, усіх сваіх памочнікаў, камісію і на Днепр. Нават жонку з работы сарваў, каб яна, значыцца, хлеб рэзала. А ў гэты час аварыя. Парвала вадаводы. Калгасныя палі засаліла. Замест таго каб нас падняць па трывозе, ён нічога нікому не сказаў да наступнага дня. Былі страчаны цэлыя суткі. Ці яшчэ прыклад. Працавалі, ведаеце, фактычна без перадыху. Кожная мінута на ўліку. Што робіць Скачкоў. Збярэ нас у сваім кабінеце, маўляў, давайце памарым, таварышы, пра будучыню промыслу. Людзі чакаюць у прыёмнай, у нашых кабінетах разрываюцца тэлефоны, а мы сядзім і марым, расказваем адзін аднаму казкі.

Напружаная атмасфера ва ўпраўленні ў калектыве, адсутнасць дакладнасці ў кіраванні, адсутнасць каардынацыі паміж службамі, адсутнасць, нарэшце, пачуцця адказнасці ў некаторых таварышаў і прывяло ўсіх нас да таго, што здарылася,— да трагедыі. Усе мы аднолькава вінаватыя. Але, паверце, не было калі агледзецца, адумацца...

Скачкоў слухаў і не верыў вушам сваім. Кацянок, які заўсёды глядзеў яму ў рот, больш таго, сам багата чаго рабіў з таго, што зараз крытыкаваў, цяпер прыпісваў усё

толькі аднаму яму, Скачкову. І як лоўка! Гаворыць нібы і праўду. Усё гэта мела месца. І ў той жа час няпраўда. Шыварат-навыварат. Усё падаецца знарок скажона. Няўжо сапраўды ўсё падстроілі? З якой мэтай? Некаму не падабаецца Скачкоў. Вось і выкарысталі момант. Яго яшчэ папярэджваў Дарашэвіч. Праўду казаў стары. Ну няхай гэты Кацянок кар'ерыст. Няхай Балышу хочацца мець свайго чалавека. Балыша, урэшце, можна зразумець. Але чаму ў зале не абураюцца? Слухаюць развесіўшы вушы. Няўжо верацъ? А чаму б і не? Адбылася трагедыя. Людзі прагнуць ведаць прычыны. Кацянок называе іх. Усё гэта сапраўды мела месца... Але пасля гэтага яму, Скачкову, тут нельга працаваць... Хоць не варта спяшацца. Трэба пачакаць, што скажуць іншыя. І ўсё ж было крыўдна. У грудзях ныў тупы боль. Нейкі шум стаяў у галаве. Ён баяўся, каб раптам не стала блага. І калі Балыш спытаў у яго, ці не хоча выступіць, ён адмовіўся. Наогул, усё, што потым адбывалася ў канферэнц-зале, раптам перастала яго цікавіць, нібы ён сядзеў на якім чужым сходзе, у чужым незнаёмым калектыве, не разумеў і не хацеў зразумець, пра што ідзе гаворка. Ён быў тут і ў той жа час яго не было. Не хацелася верыць, што гэта не сон...

Вось як у дрыготкім мроіве падняўся Працько. Што ён хоча сказаць? Нядаўна ж выступаў. Балыш запрашае яго за трыбуну.

— Я не хачу ісці за трыбуну, якую апаскудзіў сваім выступленнем Кацянок,— адказвае Працько. Цікава, ён ніколі яшчэ не быў такі злосны. Вось ён павярнуўся да Кацянка, які сядзеў ззаду яго.— Ніколі не думаў, што ты здольны на такое, што ты такі...— і не дагаварыўшы, неяк безнадзейна махнуў рукой і сеў.

— Хто яшчэ? — дапытваецца генеральны дырэктар.— Толькі давайце, таварышы, без гэтага, без злосці...

— Дазвольце мне,— падняўся Бурдзей. Ён нахіліў сваю худую постаць, аж павіс над чалавекам, што сядзеў перад ім, усміхнуўся прэзідыуму, усміхнуўся аднымі вуснамі, шматлікія маршчыны на твары нават не варухнуліся.— Дазвольце мне з месца. Я некалькі слоў. Хачу зрабіць заўвагу нашаму шаноўнаму галоўнаму геолагу Віктару Іосіфавічу Працько. Мне здаецца, ён незаслужана пакрыўдзіў Кацянка, абвінаваціўшы яго ў немаведама чым. Я не згодзен з ім.— Памаўчаўшы, крыкнуў: — Катэгарычна! Кацянок малады спецыяліст. Гарачы. Усё пры-

мае блізка да сэрца. Падняўся і сказаў усё, як думае. Адкрыта, чэсна. Можа, што перабольшыў, можа, што не так, але ўсё шчыра, зацікаўлена. Дык за гэта мы павінны быць удзячны яму, а не біць дубінкай па галаве, Віктар Іосіфавіч.

— Правільна,— падаў голас Балыш, глянуў на сакратара райкома.— Хто яшчэ хоча сказаць?

— Ёсць пытанне,— ледзь не ў канцы залы падняўся лысаваты чалавек.— Вось ляжыць вялікі мех солі. Яе можна пераносіць клункамі. Можна ўсім узяцца і перанесці цалкам мех. А можна гэны мяшок узваліць аднаму чалавеку на плечы, і той чалавек надарвецца. Вось вы ўзвалілі такі мяшок на плечы начальніка. Тут ужо адзін гаварыў, што багата развялося шыльдачак. Пытанне: хто ж за тымі шыльдачкамі, чаму ж яны не ўзялі хоць па жменьцы той солі? А? Цікава б паслухаць...

Потым яшчэ бралі слова некалькі чалавек. Іх прэтэнзіі ў асноўным зводзіліся да розных вытворчых праблем. То няма труб, то няма гумы для грузавікоў, то не хапае ізаляцыйных матэрыялаў... Пра Скачкова не гаварылі. Ці разгубіліся пасля выступлення Кацянка, палічыўшы, што ўжо нечага абараняць свайго начальніка, ці, можа, не хацелі пра яго гаварыць благое, маўляў, і так хапіла, а добрага не знаходзілі?..

Калі нарада скончылася і людзі пачалі разыходзіцца, на сцэне крыху затрымаліся сакратар райкома, генеральны дырэктар аб'яднання і Скачкоў.

— Дык як мне быць? — спытаў ён, паглядваючы то на Міхейку, то на Балыша.— Падаваць заяву, ці як?

— Вам, Валерый Міхайлавіч, болей гадоў, чым мне,— засмяяўся Міхейка.— Так што не мне раіць вам...

— Я лічу, Валерый Міхайлавіч,— пачаў разважліва Балыш,— што ваша пытанне сведчыць пра вашу самакрытычнасць, пра тое, што вы ўсё правільна зразумелі. Паверце, я асабіста, думаю, і ўсе ва ўпраўленні, нічога супроць вас не маюць. Ведаю і вашы адносіны да мяне. Але... Аварыя. Гэта сур'ёзна. Мы яшчэ будзем разбірацца. Урэшце, і не ў аварыі справа. Аварыі бываюць. Гэта няшчасце... Але як здарылася так, што вашы памочнікі пачынаюць гаварыць супроць вас? Не разумею... Не разумею, як можна дажыцца да такой непавагі? Ва ўсялякім разе, вам ёсць над чым задумацца. Вы чалавек вопытны, разумны, самі прымеце правільнае рашэнне. Я магу толькі паабяцаць памагчы вам уладкавацца. Я ведаю пра ва-

шу гаворку з намеснікам міністра. Яго абяцанне застаецца ў сіле. Вось так... Урэшце, магу ўзяць вас да сябе ў аб'яднанне. Будзеце жыць у абласным цэнтры...

Пры апошніх словах Балыш іранічна ўсміхнуўся.

— Ёсць над чым падумаць,— сказаў на развітанне сакратар райкома. Было незразумела, ён падтрымлівае Балыша ці не.

Скачкоў падаўся ў свой кабінет. У калідорах, на лесвічнай пляцоўцы стаялі людзі, смяяліся, гучна гаварылі, відаць, абмяркоўвалі нараду. На яго не глядзелі, быццам не заўважалі. Ён, як невідзімка, пранік у свой кабінет. Нават пільная Эма Рыгораўна, якая якраз з некім гаварыла па тэлефоне, вачыма не павяла ў яго бок.

«Цікава, я ёсць, і мяне ўжо няма»,— падумаў ён, седзячы за сваім сталом. На календары было запісана некалькі тэлефонных нумароў, па якіх яшчэ да катастрофы павінен быў тэрмінова пазваніць. Цяпер званіць не хацелася. Яму таксама ніхто не звавіў. «Мяне, выходзіць, сапраўды тут няма,— з сумам думаў ён.— Мяне няма, няхай і нічога майго тут не будзе. Можа, прагледзець шуфлядкі, выкінуць непатрэбшчыну, што паспела накапіцца? Не, няхай хто другі наводзіць парадак. Вось кнігі варта забраць». Ён іх складваў у ніжнюю шуфлядку, калі дзе выпадкова купляў, а потым забываўся. Сапраўды, некалькі кніг ляжала там... Пачаў іх гартаць.

Ляпнулі дзверы. Глуха застагнаў паркет. Нехта цяжкі набліжаўся да яго стала. Скачкоў падняў вочы — перад ім стаяў і перабіраў пальцамі сваю бараду галоўны геолаг. Ён заўсёды так рабіў, калі хваляваўся.

— Прабач, Віктар Іосіфавіч, не заўважыў, як зайшоў,— Скачкоў сунуў шуфлядку на месца.

— Чаму ты прамаўчаў? — абурыўся Працько.— Што здарылася? Табе на галаву вылілі памыйніцу бруду, а ты ўсім сваім выглядам паказваў, што нічога не заўважаеш, ва ўсялякім разе, бруд прымаеш за божую расу. Чаму не сказаў, што Балыш прымусіў выконваць план, што іменна ён марудзіў з камісіяй? Я чакаў, спадзяваўся, што ты пасадзіш на месца гэтага смаркача... Не пасадзіў. А ўсе падумалі, што Кацянок гаварыў праўду... Нічога не разумею. Што здарылася?

— Разгубіўся,— прызнаўся Скачкоў.— Дарэчы, мне Балыш намякнуў, каб я, значыцца, заяву...

— Глупства! — аж забегаў па кабінеце Працько. Яшчэ ніколі Скачкоў не бачыў яго такім рухавым.— Каб

усе начальнікі, як ты, рэагавалі на выступленні розных Кацянкоў, ніводнага б начальніка не засталося ад Брэста да Сахаліна. Трэба змагацца, трэба паказваць характар, волю... Ну, здарылася. Ну і што? А ці ведаеш ты, што з тваім прыходам у нашым упраўленні з'явіўся хоць нейкі парадак? Мы паверылі самі сабе. Мы ўсе ўбачылі, што можна, аказваецца, працаваць значна лепш. Яны табе зайздросцяць. Той жа Балыш, Бурдзей і яшчэ болей гэты інтрыган Кацянок. Яны баяцца цябе. Усе бачаць, якія яны прымітывы на тваім фоне. Няўжо ты гэтага не разумееш?

— Балыш мой начальнік.

— Ну і што? Над Балышом няма начальніка, ці што? Канешне, калі будзеш, як заяц...

Зазваніў тэлефон.

— Нехта цябе шукае,— і Скачкоў падаў трубку галоўнаму геолагу.

Той паслухаў, паклаў трубку на месца.

— Збірайся, паехалі! — сказаў Скачкову.

— Куды?

— Паехалі! Пазваніў Буткевіч з канторы глыбокага бурэння. Атрымалі фантан. Знайшлі нафту! Уяўляеш, што гэта такое для нашага ўпраўлення? Другое дыханне,— і ўбачыўшы, што Скачкоў раздумвае, закрычаў: — Ты што? Не паедзеш? Эх ты! — і вылецеў з кабінета.

«І ўсё ж трэба было ехаць,— падумаў Скачкоў.— Хаця навошта?»

Ён яшчэ трохі пасядзеў, не ведаючы, што рабіць, потым падняўся і ціхаю хадою скіраваў дамоў. Яшчэ ніколі ён не адчуваў сябе такім стомленым...

## 24

У настаўніцкай ледзь чутна забрынчаў тэлефон. Яго знарок прыглушылі, каб званкамі не раздражняў засяроджаных педагогаў.

Трубку падняла Фаіна Алегаўна.

— Цябе запрашае дырэктарка,— сказала яна Але Пятроўне і дадала не без зласлівасці: — Не можа прыняць нейкае рашэнне, не параіўшыся з табой.

— Не выдумляй,— Ала Пятроўна дастала з сумачкі расчоску і, прыхарошваючыся, гарэзліва ўсміхнулася.— Трэба ж, каб мая прычоска не была горшая за яе.

— Няўжо ты не заўважыла, што Антаніна Сяргееўна даўно перастала з табой спаборнічаць? — цялёпнула вострымі плячыма Фаіна Алегаўна.— Яна для сябе знайшла новы стыль. Стыль старой афіцыйнай асобы. І супакоілася. Тут табе, Ала Пятроўна, яе не пераплюнуць. Ты занадта маладая і прыгожая для гэтага...

— Усё ж ты язвачка,— задаволеная кампліментам сяброўкі, Ала Пятроўна выйшла з настаўніцкай.

Яна прайшла шумлівым калідорам, выстаўляючы перад сабой рукі, каб раптам які вучань не ўрэзаўся ў яе,— насіліся жэўжыкі па калідоры, не зважаючы ні на кога,— спусцілася па лесвіцы на першы паверх. Тут было цішэй, не так мітуслівa,— на першым паверсе размяшчаліся майстэрні, лабараторыі, у якіх займаліся ў асноўным старшакласнікі.

Антаніна Сяргееўна сядзела за сваім сталом і нешта засяроджана пісала. Яна сапраўды выглядала вельмі афіцыйна. Гладка прычэсаная сівая галава, бледны задумлівы твар, чорны касцюм,— вузкая строгая спадніца і пінжак накшталт мужчынскага.

Дырэктарка падняла вузкую з сінімі выпуклымі венамі руку, паказала ёй на крэсла, маўляў, прысаджвайцеся. Дапісаўшы некалькі слоў, паскардзілася:

— Усё пішу тлумачальныя запіскі ў розныя інстанцыі, якія прымаюцца меры, каб павысіць паспяховасць у школе.— Усміхнулася, як падалося настаўніцы, спачувальна паглядзела на яе стомленымі, абкружанымі сеткай маршчын вачыма.— Прабачце, Ала Пятроўна, калі я вас адарвала ад работы, але ў нас, педагогаў, ніколі не бывае так, каб не было якой работы... Хачу параіцца з вамі. Мяне сёння выклікалі ў райана. Адказныя таварышы заклапочаны праблемай працоўнага выхавання школьнікаў. Цяперашняя практыка не дае жаданых вынікаў. Шукаюцца шляхі ўдасканалення выхаваўчага працэсу, у прыватнасці працоўнага. А то вельмі часта нашы выпускнікі не ўмеюць нічога рабіць, а галоўнае і самае трывожнае, не любяць працу. Асабліва фізічную. Плануецца ў некалькіх школах раёна ўрокі працы перанесці ў цэх, на калгасную ферму і паглядзець, што з гэтага атрымаецца. Вучань да заканчэння школы павінен атрымаць канкрэтную спецыяльнасць. Магчыма, гэтая спецыяльнасць будзе ўпісвацца ў атэстат сталасці ці будзе давацца спецыяльнае пасведчанне. Прапанавана нашай школе прыняць удзел у гэтым эксперыменце. Мы доўга думалі з завучам, які клас

вызначыць для гэтай мэты і спыніліся на вашым класе, Ала Пятроўна. Сваёй работай вы даказалі сапраўдную зацікаўленасць у выхаванні вучняў.

— Маўляў, хай пабегае, можа, супакоіцца? — сказала Ала Пятроўна.

— Што вы! — аж падалася наперад дырэктарка.— У нас і ў галаве не было такога. І не будзе. Запомніце, Ала Пятроўна. Калі хочаце ведаць, я вельмі задаволена, што вы ўзнялі пытанне аб ацэнках. Вы думаеце, мне прыемна было кожны раз прымушаць вас выпраўляць ведамасці? Загадваеш, а самой сорамна глянуць у вочы педагогу. А што было рабіць? Ад мяне патрабавалі, я патрабавала. Вы думаеце, загадчык райана не ведаў, як робіцца гэтая паспяховасць? Ён сам былы дырэктар школы. Цяпер гэтую практыку асудзілі публічна, я паабяцала выправіцца і вось працую, чэсна гляджу ў вочы начальству і падначаленым. Так што вы дарэмна, Ала Пятроўна... Я супроць вас абсалютна нічога не маю. Больш таго, я вам зараз скажу, што недзе ў душы зайздросціла вам, што вы такая смелая... У мяне ў свой час не хапіла смеласці. Я вельмі добра разумею цяпер, калі хочаш здзейсніць нешта значнае, то трэба абапірацца на такіх педагогаў, як вы. Гэта шчыра. Іменна таму мы з завучам і спыніліся на вашым класе. Мы ўпэўнены, што ў вас будзе па-сапраўднаму вытворчае навучанне. Вы не дазволіце, каб адрабілася там абы-як. А эксперымент вельмі сур'ёзны, адказны. І яшчэ. Мы ўлічылі і тое, што для эксперымента вызначаны рамонтны цэх нафтагазадабываючага ўпраўлення. Будзеце рыхтаваць свайму мужу кадры. Гавораць, у іх не хапае рамонтнікаў.

— Дзякую за давер, Антаніна Сяргееўна,— яна паднялася, трэба было ісці на ўрок.

— Яшчэ хвіліначку, Ала Пятроўна. Ёсць просьба. І не адна, а дзве. Будзем прасіць вас выступіць на наступным педсавеце з паведамленнем, як вы наладжваеце індывідуальную работу з вучнямі. Тэорый не трэба, раскажыце пра свой вопыт. Трэба звярнуць асаблівую ўвагу настаўнікаў на індывідуальную работу з вучнямі. Без гэтага мы не пазбавімся двоек. Ёсць вельмі запушчаныя вучні. Дык як, Ала Пятроўна? Для агульнай карысці?

— Пастараюся,— пагадзілася настаўніца.

— І яшчэ. Хутка будзем рамантаваць школу. Водаправодныя трубы зусім згнілі. Іх трэба мяняць. Пагаварылі б з мужам, можа, у іх ёсць такія трубы. Якіх дзвесце

метраў. Чаму б ім не памагчы нам. Мы ім рамонтнікаў падрыхтуем, а яны нам — трубы...

— Спытаю,— паабяцала Ала Пятроўна.

У настаўніцкай нікога не было. Толькі Фаіна Алегаўна за сваім сталом перабірала сшыткі. Хутчэй за ўсё без усялякай патрэбы. Затрымалася, каб дачакацца Алу Пятроўну.

— Ну што? — адразу ж спытала ў яе, як толькі Ала Пятроўна з'явілася ў дзвярах.

— Нічога асаблівага, потым раскажу,— яна схапіла сшыткі, класны журнал, выскачыла ў калідор, панеслася ў свой клас.

Усе пяць урокаў, што былі ў Алы Пятроўны ў гэты дзень, праляцелі як адзін кароткі ўрок. Яна не заўважыла, як мінула паўдня. Яна яшчэ ніколі не працавала так лёгка, з такім натхненнем. Часам сама здзіўлялася, адкуль у яе бяруцца словы. Ніколькі, здавалася, не стамілася.

У другой палове дня яна гадзіны дзве займалася з адстаючымі вучнямі, потым які час у настаўніцкай правярала сшыткі. Напісала планы заўтрашніх урокаў. Глянула на гадзіннік, было ля шасці вечара. Не заўважыла, як і дзень прамільгнуў. Склала сшыткі, падручнікі ў шуфлядку стала і з парожнім партфелем пайшла дамоў. Партфель быў такі лёгкі, быццам і не было яго. Лёгка было і на сэрцы. Наогул, настрой быў такі, што зараз ісці не дамоў бы, а куды ў кіно ці ў парк. Вось як толькі прыйдзе Скачкоў дамоў, яны і пойдуць з ім. Куды? Глядзець вясну... Яны ж не бачылі вясны яшчэ. Увесь час занятыя. Але сёння яна можа дазволіць сабе такую раскошу...

І вуліца падалася ёй сёння такой маладой, вясёлай, якой не бачыла яна яе ніколі.

На вокнах драўляных домікаў стаялі ружовыя лялькі, заглядзеўшыся круглымі сінімі вачыма на зараснікі бэзу ў гародчыках. Бэз выкінуў фіялетавыя свечкі, якія вось-вось распусцяцца духмяным суквеццем. Цікава, ці носяць тут вучні бэз на экзамены? У іхняй вёсцы бэз прыносілі на экзамены абярэмкамі. Кожны вучань стараўся абавязкова прынесці болей кветак. Думалі, што настаўнікі будуць дабрэйшымі ад гэтай вясновай прыгажосці.

Школьныя экзамены ў памяці заўсёды пахлі бэзам. Кветкі бэзу нагадвалі юнацтва...

Дарэчы, тады, калі вучылася яна, экзамены былі па-

сля кожнага класа. Пеніўся ў гародчыках бэз, звінелі ў балоце за вёскай жабы, кігікалі над цёплымі палямі кнігаўкі, і ва ўсёй прыродзе была такая разамлеласць, што не хацелася сядзець за падручнікамі, вучыць білеты, хацелася бегчы ў поле, ганяцца за жоўтымі матылькамі, набіць аскоміну маладым чырванаватым шчаўём, ірваць жоўтую лотаць у цёплай вадзе на ўскрайку балота, пырскацца той вадой...

І сёння ў яе якраз такі настрой, як і ў далёкім юнацтве...

Чаму ж іменна сёння? Таму што сёння яе прызналі. І хто? Хто яшчэ зусім нядаўна не лічыўся з ёй.

Аказваецца, самая вялікая радасць у чалавека, калі яго намаганні, яго старанні, яго праца ідуць на карысць людзям. Гэтую ісціну яна ведала даўно, чула пра яе з дзяцінства. Але яна была для яе толькі думкай, пустым гукам, пакуль сама не адкрыла яе для сябе, не прапусціла праз сваё сэрца. У свеце, відаць, пра ўсё напісана, усё адкрыта, усё вядома. Але любая старая даўняя ісціна стане тваім здабыткам толькі тады, калі адкрыеш яе для сябе сваім уласным вопытам, калі яна запульсуе ў тваёй крыві. Ісціна, не прапушчаная праз сэрца, яшчэ не ісціна. Вось чаму ў школе трэба больш часу аддаваць выхаванню ў дзяцей эмоцый. А то гаворым ім карыснае, вучым, як і што рабіць, а яны робяць усё наадварот, пасвойму. Жыццё іхняе душы вельмі часта не супадае з нашымі пажаданнямі. Выходзіць, што мы, настаўнікі, нашпігоўваем ім галовы фактычна пустымі гукамі, ставім ацэнкі за веданне тых гукаў, а выспяванню эмоцый не памагаем, не ўплываем на жыццё душы. А трэба ж, каб нашы вялікія ісціны, законы нашага сацыялістычнага жыцця станавіліся законамі жыцця дзяцей. Як гэта зрабіць, яна не ведае і пакуль што сур'ёзна пра гэта не задумвалася. Значыцца, яна як настаўніца пакуль што не робіць галоўнага ў выхаванні дзяцей. І, можа, не толькі яна? Трэба на канікулах пацікавіцца, што пісалі пра гэта вялікія дзеячы асветы. Асвета таму і называецца асветай, што асвятляе не толькі дарогу, а душу і сэрца...

Ала Пятроўна лёгка, як на маладых нагах, узбегла на другі паверх, адчыніла дзверы і адразу ж кінулася да тэлефона, каб пазваніць мужу, папрасіць не затрымлівацца на рабоце. Набрала нумар. Ніхто не адказаў. Уключыла святло, пачала разувацца, заўважыла сярод пакоя мужавы чаравікі. Заглянула ў залу.

Скачкоў ляжаў на канапе, падклаўшы рукі пад галаву, глядзеў у столь. Плед валяўся на падлозе ля канапы. Ала Пятроўна падняла яго, аднесла ў спальню, вярнулася, прысела ля мужа, дапытліва паглядзела на яго. Скачкоў як глядзеў у столь, так і працягваў глядзець, не заўважаючы жонкі.

— Што здарылася, Валера?

— Мяне няма,— адказаў, не глянуўшы на яе.

— Як гэта няма?

— Няма, і ўсё.

— Не разумею гумару,— усміхнулася Ала Пятроўна.

— Не да гумару.

— Што здарылася?

— Намякнулі, каб падаў заяву.

— Ой, а я чортведама што падумала,— засмяялася Ала Пятроўна так, як смяюцца звычайна з драбязы.— За што?

— Аварыя, ахвяры... Але, думаю, гэта толькі зачэпка. Балыш хоча на маё месца некага свайго. Была нарада. Крытыкавалі. За тое, што было, і за тое, чаго не было. Няслі, адным словам, лухту. Балыш прапанаваў свае паслугі. Магу, кажа, памагчы ўладкавацца на добрую пасаду ў Сібіры ці нават узяць да сябе ў аб'яднанне. У абласным цэнтры, кажа, будзеш жыць.

— Нахабнік! — абурылася Ала Пятроўна.— Чалавек добраахвотна прыехаў сюды, хоць бы гэта паважалі... Абласны цэнтр!.. Хай яшчэ разбяруцца, хто там вінаваты, потым... Я вось схаджу ў райком. А што?

— Дзякую! Але не трэба нікуды хадзіць. Балыш запрасіў на нараду сакратара райкома. Відаць, узгадніў з ім усё. Праўда, сакратар нічога пэўнага не сказаў. Ні за мяне, ні супроць. Дарэчы, іменна пры сакратару Балыш прапанаваў мне свае паслугі. Так што скардзіцца няма каму. Хоць яны і не справядліва са мной. Толькі больш-менш адладзілі работу промыслу, дабіліся рэальнага плана. Геолагі знайшлі новае радовішча нафты. Цяпер толькі б працаваць... І на табе...

— А што будзе?

— Што будзе?.. Трэба падумаць,— ён сеў на канапу.— Вось возьмем з табой карту нашай вялікай Радзімы, выберам кропку на ёй, якая больш кінецца ў вочы і...

— А я?

— Думаеш, табе работы не знойдзецца?

— Тут мне паверылі.

— Табе ўсюды паверацць.

Ала Пятроўна разгублена пакусвала губы.

— Слухай, Валера,— пачала развaжліва яна,— хіба абавязкова высокая пасада? Ты меў высокую пасаду. Адмовіўся. Якая розніца, кім тут быць? — і ўсміхнулася.— Табе проста прадастаўляецца магчымасць пачаць спраўды ўсё спачатку.

— Гумар заўсёды не лішні, вядома. Ён вораг адчаю,— Скачкоў падняўся, нібы сабраўся куды ісці, потым спыніўся перад ёй.— Разумееш, я пастаўлены ў нявыгадныя для мяне, калі хочаш, майго прэстыжу ўмовы. Мяне лічаць вінаватым. Ніхто на сходзе не кінуўся мяне абараняць. Адзін Працько абурыўся выступленнем Кацянка. А ў маю абарону не сказаў фактычна ні слова. Калі цяпер я пагаджуся на паніжэнне, тым самым прызнаю сваю вінаватасць... Як мне глядзець у вочы людзям пасля гэтага?

— Мне здаецца, тут больш прыдуманай псіхалогіі, чым аб'ектыўнай ацэнкі сітуацыі. Няўжо ты сур'ёзна думаеш, што людзі толькі і думаюць пра цябе? Яны заняты сваёй справай. Ты проста ўсё перабольшваеш. Табой кіруе не развaжлівасць, а абражанае самалюбства. Але гэта часова. Праз дзень-другі ты на ўсё будзеш глядзець іншымі вачыма.

— Не, дарагая Ала Пятроўна,— цвёрдым голасам упэўненага ў сваёй праваце чалавека пачаў Скачкоў.— Гэта непрыдуманая псіхалогія. Не настрой. Можа, жанчыны жывуць эмоцыямі, я даўно жыву галавой. І зараз усё ад галавы. Перакананы, мне заставацца тут нельга. Потым сам сабе гэтага не дарую...— і раптам папрасіў: — Зрабіла б чаго пад'есці, пакуль душ прыму. У жываце скразнякі гуляюць...

У Алы Пятроўны ледзь хапіла сілы выйсці на кухню. Ногі падкошваліся, не хацелі трымаць яе. Нешта напорыстае і балючае разрывала грудзі. Хацелася расплакацца. Яна прысела на табурэтку, сціснула моцна зубы, каб раптам не захліпнуцца ў рыданні раней, чым забулькае ў ваннай вада.

Зашумела, задрынчэла кранам вада.

Ала Пятроўна дала волю слязам. Крыўда на мужа, на яго абыякавасць да яе, крыўда на ўсё, як ёй зараз здавалася, няўдалае і пакалечанае сваё жыццё, вылілася сударгавым рыданнем. Яна доўга сядзела, хліпала, не магла ніяк сцішыцца. Угледзела на стале, як праз туман, карэц,

узяла яго, набрала пад кранам вады, выпіла. У грудзях палягчэла. Яе раптам ахапіла абыякавасць. Не хацелася варушыцца. Сядзела і не ведала, чаго прыйшла на кухню, што ёй тут трэба. Успомнілася, як учора гаварыла з ёй дырэктарка... Зноў захліпала. Зарыпелі дзверы ў ваннай. Яна падхапілася, нагнулася над ракавінай, пусціла шумлівы струмень вады, пачала мыць чыстую талерку.

Зайшоў муж, адсунуў нагой далей ад стала табурэтку, сеў.

— Мяне прынізілі. Публічна. Практычна абразілі. Хто са мной будзе лічыцца пасля гэтага?

— Гэта ўсё так, Валера. Але чаму ты думаеш толькі пра сябе?

— Не пра сябе,— не зусім зразумеў ён яе.— Пра справу. Я зразумеў, што магу рабіць нешта карыснае. І рабіў. Ва ўсялякім разе, не адседжваўся за нечай спіной.

— Я не пра тваю работу. Чаму не падумаў пра мяне?

— А што? Ты праверыла сябе ў школе. Пераканалася, што гэта твая стыхія... А людзі ўсюды ёсць, і ўсе савецкія.

— Не, Валера, я хачу служыць тым людзям, якія паверылі мне.

— Не разумею,— насцярожыўся Скачкоў. Ён выцер спацелы твар ручніком, які трымаў на каленях, спытаў: — Ты што, супроць?

— Я радавая настаўніца. У начальнікі не рвуся. Ты пастарайся адкінуць сваю абражаную начальніцкую фанабэрыю і ўбачыш, як адпадуць амаль усе твае праблемы. Думаю, ніякай катастрофы няма. Дадуць табе работу, можа, якраз і нядрэнную. Сам яшчэ радавацца будзеш. Хіба абавязкова быць начальнікам? Большасць жа людзей не начальнікі — і жывуць. Не пакутуюць. А потым... Зразумей, мне зараз ніяк нельга кідаць школу. Калі я кіну, усе скажуць, што вучні, іх поспехі мне да лямпачкі. Я не магу, не маю права здрадзіць вучням і ў першую чаргу сабе. Ты сам некалі гаварыў, што ў жыцці кожнага чалавека наступае такі момант, калі чалавек павінен здаць экзамен на чалавечую годнасць. Было такое ў мяне, калі хацела кінуць школу. Помніш? Ты мне гаварыў тады, што, нягледзячы ні на што, трэба заставацца чэсным і праўдзівым перад людзьмі, перад сабой...

— Гаварыць добра,— усміхнуўся ён, пашукаў вачыма на стале слоік з малаком. Напіўся набгом, выцер ручніком губы.

— Ясна,— уздыхнула Ала Пятроўна.— Ты любіш пагаварыць пра прызванне, пра чэснасць, пра прынцыповасць, але калі ўсё гэта не тычыцца цябе. А як жыццё наступіла табе на мазоль, ты ўсе гэтыя словы выкінуў на сметнік, як выкідваецца шалупінне. А ведаеш чаму? Бо па сваёй сутнасці ты кар'ерыст. І з Мінска пабег сюды не таму, што табе захацелася практычнай работы, што дачпэ захацелася перадаць кватэру, што цябе пацягнула да родных мясцін. Да маці. Няпраўда! Проста цябе доўга не павышалі, вось і захацелася паказаць сябе...

— Лухну гаворыш,— ён падняўся, кінуў ручнік на табурэтку, было відаць, што вельмі злуецца. Вушы яго на фоне акна, прасвечваючыся, чырванелі.

— Я заўсёды гавару лухту. Ведаеш чаму? Ты ніколі не разумеў і не хацеў зразумець мяне...

— Разумею,— сказаў ён.— Але павер, абставіны. Растлумачыш там, што мяне пераводзяць. Думаеш, людзі не зразумеюць? Зразумеюць і даруюць.

— Людзі даруюць, толькі я сабе не дарую.

— Табе, значыцца, напляваць на мяне? — спытаў ён ціха.— Не хочаш падумаць пра мяне?

— А ты пра мяне? — не вытрывала, крыкнула.— Ты пра мяне хочаш падумаць?

— Я пра цябе якраз і думаю. Помніш, ты некалі баялася, што нас зноў раз'яднае работа. Яна і раз'яднала нас. Дарэчы, твая работа. Мы ўжо не думаем адно пра аднаго... Заедзем у якую глухамань, і ў нас зноў будзе ўсё так, як і тут упачатку, калі толькі прыехалі.

— Мяне гэтым не купіш...

— Я купляю? — абурыўся Скачкоў.

— Чаго ж ты раней пра гэта не думаў? А калі прыпякло...— і нечакана сказала зусім спакойна.— Я нікуды не паеду. Калі ў тваёй душы што засталося да мяне, зразумееш, а не, дык... Хоць на ўсе чатыры! Не трымаю.

— Вось ты як! — Скачкоў выбег з кухні, ляпнуў дзвярыма ў пярэдняй.

Яна падскочыла да акна, убачыла, як ён на хаду засоўваў рубашку ў штаны, а полы пінжака яму перашкаджалі.

«Ну і апшараны,— падумала з горыччу.— Даў бы волю злосці, пакрычаў бы, а то пабег. Дзе ж, інтэлігентны, выхаваны чалавек. На жонку крычаць не можа... Цяпер будзе бегаць, пакуль не перакіпіць, не астыне...»

## 25

Скачкоў хутка ішоў па вуліцы. Яго, як вецер, гнала думка, што балючай стрэмкай шчымела ў галаве: ён нікому не трэба. Не трэба ва ўпраўленні, не трэба дома. Усе абыходзяцца без яго, і знікні ён раптам зусім, то, відаць, ніхто не спахопіцца.

Ён зараз і сам сабе не трэба.

Але ад самога сябе нікуды не ўцячэш.

У грудзях аж смыліць. Язык высах, не паварушыць. Эх, каб зараз кухаль піва! Халодненькага!

Успомніў, што ля універмага заўсёды стаяла жоўтая бочка на гумавых колах. Наўспрамкі, завулкамі выйшаў на цэнтральную вуліцу якраз насупроць універмага. Ля бочкі не было прадаўца. Сеў у аўтобус, праехаў адзін прыпынак, ля гарадскога парку выйшаў. На дзвярах павільёна, што стаяў на цэнтральнай алеі, недалёка ад танцпляцоўкі, вісеў замок з беленькай паперкай у шчыліне для ключа.

На дзвярах мелам напісана: «Пайшла на базу».

— Тры дні на той базе,— пачуўся пад вухам буркатлівы голас.

Скачкоў азірнуўся. Побач стаяў няголены бяззубы мужчына ў балоневай куртцы на голым целе. На валасатых грудзях сінеў крутадзюбы арол.

— З той базы хутка не вяртаюцца,— бурчэў ён.— Здохнуць можна, пакуль дачакаешся. Давай, друг, рубельчык, мы тут на траўцы каленвальчык раскруцім.

— Я п'ю толькі ліманад,— і Скачкоў падаўся па алеі.

— Нейкі ненармальны,— пачулася ўслед.

На беразе Дняпра, абапіраючыся на тонкія высокія палі, над вадой вісеў невялічкі рэстаранчык «Хваля». Літары былі залішне вялікія, і з-за гэтага сама пабудова, асабліва здаля, здавалася цацачнай.

Па хісткай кладцы з драўлянымі парэнчамі, адшмуляванымі рукамі да бляску, Скачкоў прайшоў у залу, у якой не было ніводнага чалавека, усеўся за куткавы столік ля самага акна, захіленага лёгкай фіранкай. Адсунуў фіранку ўбок, каб была відаць рака, ад якой цягнула закалыханай прахалодай. Вада была шэрая, хоць над ёй і вісела неба. Рака не вызвалілася яшчэ ад бруду, змытага з прыбярэжных паплавоў. За ракой, над рудым лугам з купкамі чырвона-фіялетавага вербалозу, падымаліся дробныя кудлатыя воблачкі.

На гэтым беразе, дзе канчаўся абрыў і быў гарадскі пляж, на палову заліты вадой, бледнаногія дзяўчынкі гулялі ў мяч. Гульня ў іх ніяк не ладзілася: вялікі сіні мяч увесь час адганяла ветрам убок.

Бліжэй да рэстарана пачалі будаваць набярэжную. Пад высокім абрывам заасфальтавалі шырокую сцежку, бераг адзелі ў граніт і на тым граніце паставілі бетонную рашотку. У вялікім горадзе такая набярэжная выглядала б натуральнай, можа, нават і сціплай, а тут на фоне высокага берага з драўлянымі даўнімі домікамі на ім, яна была як асколак нейкага другога горада, які выпадкова, па нейкаму непаразуменню трапіў сюды. «Як і я — асколак другога жыцця — не ўпісаўся ў мясцовы пейзаж»,— падумаў пра сябе Скачкоў.

— Тут ёсць хто-небудзь? — спытаў нецярпліва.

З-за цяжкой зялёнай шырмы, якая закрывала заднюю сцяну залы, выплыла ў блакітнай сукенцы і ў блакітным высокім какошніку на русявай галаве вялая жанчына. Яна паглядзела на Скачкова туманнымі вачыма і ўсміхнулася малінавымі вуснамі:

— Я вас слухаю,— дастала з кішэнькі ў сукенцы невялічкі блакноцік, узяла маленькую беленькую ручку, што вісела на доўгім залатым ланцужку замест кулона, падрыхтавалася запісваць.

— Бутэлечку піва. А калі з халадзільніка, то і дзве.

— Піва няма. Не завезлі,— мядовым галаскам прапела яна.

— Тады мінералкі.

— Таксама не завезлі.

— Шклянку халоднай вады,— захваляваўся Скачкоў.

— Мы, дарагі таварыш, бяром заказы толькі на тое, што ў меню.

— А што ў меню?

— Усё. Глядзіце,— яна паклала перад ім вузкі доўгенькі буклецік з блакітнымі хвалямі і блакітнымі чайкамі на першай старонцы, усміхнулася паўнакроўнымі вуснамі, павольна паплыла за зялёную шырму.

«Навучыліся ветлівасцю прыкрываць хамства»,— прабурчэў Скачкоў і не стаў нават глядзець меню, выйшаў.

Скачкоў недзе чытаў, што самы лепшы сродак ад дрэннага настрою — хуткая хада. Узмацняецца абмен рэчываў, лепей працуе сэрца, святлее ў галаве. Ён ішоў па тратуары, яшчэ не ведаючы, куды спяшаецца. На аўтобусным прыпынку стаяў аўтамат з газіроўкай. Сунуў у пічы-

лінку капейку, у шклянку плюхнула пеністая вада. Яна была нясмачная. Цёплая, кіславатая і, падалося, пахла бензінам. Ён і не дапіў шклянку, выліў і кінуўся да аўтобуса, які якраз спыніўся.

Вярнуцца дамоў? Зноў спрачацца з жонкай? Не, дамоў вяртацца ранавата. Хоць да вечара недзе трэба прашвэндацца.

На аўтавакзале вылез з аўтобуса. Хацеў заглянуць у буфет — там заўсёды было свежае піва. Якраз аб'явілі пасадку на аўтобус, які ішоў праз яго вёску.

А чаму б не з'ездзіць да маці. Даўно не быў. Апошні раз заязджаў да яе разам з Дарашэвічам. Дык калі гэта было?.. Вось ён зараз паедзе і прабудзе там некалькі дзён.

Узяў білет, з тэлефона-аўтамата пазваніў жонцы. Хай ведае, дзе ён,— раптам кінуцца яго шукаць.

— Слухай, еду ў вёску на некалькі дзён,— сказаў так, нібы прад'явіў ёй ультыматум.

— Чаго? — у яе голасе ніякай раздражненасці.

«Выбіла з каляіны, а цяпер весяліцца»,— непрыязна падумаў Скачкоў, адказаў з усмешкай:

— Як чаго? Наймацца ў пастухі.

— Не да жартаў,— цяпер у голасе слёзы.

«Ага, дапякло,— абрадаваўся Скачкоў.— Падумай пра ўсё на адзіноце, яно карысна...»

— Я не жартую,— і павесіў трубку.

Аўтобус быў амаль парожні. Скачкоў прымасціўся на пярэднім сядзенні, адразу ж за кабінай вадзіцеля, сядзеў унурыўшыся, глядзеў у акно і нічога там не бачыў: думаў пра сваё.

Што ж адбылося? Што раптам выбіла яго з той каляіны, па якой ён так упэўнена пачаў рухацца і, здавалася, будзе рухацца бясконца. Чаму ў яго такі настрой, нібы ён нечакана апынуўся перад глухой сцяной і замітусіўся ў разгубленасці, нічога не разумеючы.

Сапраўды, што адбылося?

Яго не звольнілі, але выставілі на сходзе, як апошняга дурня. Нібы ён, Скачкоў, не працаваў, а толькі тое рабіў, што шкодзіў промыслу. І, галоўнае, усе слухалі і верылі. І ніхто не абараніў... Можа, у словах Кацянка была праўда? Чаму ён, Скачкоў, лічыць, што ўсё рабіў найлепшым чынам? Не памыляўся? Можа, ён сапраўды пыхлівы кар'ерыст, як сказала пра яго жонка? Зачапілі яго фанабэрыю — і ўжо трагедыя. Толькі маскіраваўся? Маскіраваўся перад людзьмі, маскіраваўся перад сабой. Выдаваў сябе

за іншага. Гарадзіў усялякую лухту пра прызванне, пра сапраўдную справу ў жыцці, балбатаў, што яму хочацца працаваць бліжэй да родных мясцін. А можа, ім рухала толькі яго абражаная фанабэрыя? А як жа! Яго доўга затрымалі на службовай лесвіцы. Заседзеўся. Хай заседзеўся і не на маленькай пасадзе, але чалавек хутка прывыкае да любой пасады, і тады хочацца большага. Хацелася большага і яму. А тое большае кожны раз нехта перахопліваў. Урэшце не вытрымаў і пайшоў на самы ніз, маўляў, там жывая работа, а не папяровы шум. Употайкі спадзяваўся, што яму будуць іграць на медных трубах, а кончылася тым, што далі прачуханца, пры ўсіх раздзелі... Ён, абражаны, затрымцеў ад злосці, толькі не на сябе, а на ўсіх, на ўвесь свет... Калі ты сапраўды не кар'ерыст, калі ты не хварэеш на агідную фанабэрыю, чаго мітусішся, не знаходзіш сабе месца? Радуйся, што маеш магчымасць працаваць на самых нізах, пра што не раз гаварыў сам... Калі быць паслядоўным, калі быць верным сваім жа выказванням, трэба заставацца тут, трэба не зрываць жонку,— хай працуе, раз знайшла сябе. Можа, яна тут адчула сябе шчаслівай? Можа, яна не верыць у сямейнае шчасце, таму і трымаецца за школу?.. Можа, дзеля яе, дзеля яе шчасця варта і застацца? І не толькі дзеля гэтага, а каб захаваць усё лепшае, што ў яго ёсць. Каб змагацца за лепшае ў другіх. Але разважаць лягчэй, чым зрабіць. Ён адчуваў, што ў яго няма сілы застацца, няма сілы зрабіць так, як падказвае розум. Нешта ў душы пратэстуе. Як раздваіўся. Быццам у ім жыве два чалавекі, і вось зараз счапіліся — хто каго... А можа, ёнператаміўся? І ўсё светлае і хмурнае, разумнае і дурное перамяшалася, як той бялок і жаўток у яйку-баўтуну? Вось і едзе, бяжыць і сам не ведае куды...

Дрэвы перад хатамі пазеляненелі, і ўся вясковая вуліца ад гэтага памаладзела, павесялела, не была панылай, як увосень, калі ён прыязджаў з Дарашэвічам. Вішні і грушы адзеліся ў белую квецень, нібы ахуталіся лёгкім празрыстым цюлем. Ружовым туманом дыміліся яблыневыя сады — вось-вось зацвітуць...

Маці сядзела ля двара на лавачцы. Перад ёй стаяла вядро напалавіну з вадой. Хоць дзень быў і цёплы, у яе на плячах была ватоўка, а на галаве — цёплая хустка.

Скачкоў павітаўся, узяў вядро, напіўся набгом. Вада была халодная, аж нутро ўсё астыла, і нейкая прэсная.

— Лепей сырагвашкі якой...

— Нап'юся, мама, яшчэ і сыраквашкі,— ён прысеў побач.— Ну, як ты тут?

— Во па ваду хадзіла. Багата не данясу, паўвядзёрка набрала, прынесла, прысела і сяджу. У хаце пуста, у двары пуста, не хочацца і заходзіць. Раней хоць карову глядзела, а цяпер пагналі яе на пашу, прыбяжыць толькі пад вечар,— і пацікавілася ў сына: — А што без Алы? Прывёз бы. Даўно ж не была.

— Прыехаў паглядзець, як сады цвітуць,— ён нібы не пачуў пытання пра жонку.— Падумаў, што даўно не бачыў. Апошні раз, калі яшчэ ў дзесятым класе быў. З таго часу вясной ні разу не давялося пабыць дома. Думаю, з'езджу, пабуду дзён колькі. Вось і прыехаў.

— Летасць наш сад цвіў. Аж белы стаяў. Голля не было відаць. Адцвіў, дык у межах і пад плотам як снегу насыпана. Сёлета не будзе цвісці. Хіба адна яблыня. Але ў людзей будуць цвісці. У некаторых кожны год цвітуць. А ў нас праз год. Неяк адразу пайшло так. Адзін год густа, другі пуста. Ой, што ж гэта мы сядзім? Пойдзем у хату.

— Ідзі, а я вады прынясу,— Скачкоў узяў вядро, выліў ваду, што была ў ім, у гародчык пад таполю, скіраваў да калодзежа.

Хоўра ўнесла гладышку малака, паклала на стол лусту счарсцвелага хлеба,— па хлеб хадзіла ў магазін раз у тыдзень.

— Перакусі пакуль, потым бульбачкі звару,— і яна ўселася абіраць бульбу, пазіраючы на сына, які еў без усялякай, здавалася, ахвоты.

— Можа, што не так, Валера? — пацікавілася.— Гляджу на цябе, як хто душу выняў. Можа, з Алай не паладзілі?

— Ды не, мама. Усё добра. Я ж кажу, прыехаў паглядзець, як сады цвітуць.

— Я падумала, можа, што праз пажар той. Адсюль відзён быў. Як хмара чорная, стаяў дым над лесам. Я так напераджывалася, так напераджывалася, чаго толькі не перадумала.

— У нафтавікоў такое, мама, бывае. Стыхія.

— Стыхія... То ж трэба, Парасцы так не павязло. Колькі нацярпелася яна, ніхто ж не ведае. Толькі трохі наладзілася, і на табе.

— Падышоў да яе на пахаванні, паспачуваць хацеў,

а яна і галавы не падняла. Не пазнала. Галасіла ўсё. Трэба б зайсці, можа, памагчы чым...

— Ой, сын, нічога ёй не трэба. Яна ж зусім... Сустрэлі яе бабы, калі вярнулася з пахавання, яна ім і давай расказваць, маўляў, няпраўда, што сын памёр, што гэта прыдумалі. І вясёлая такая, смяецца. Спачатку і паверылі. Потым толькі здагадаліся... Увечары яна прыбегла ў магазін, крычыць, каб не хавалі ад яе Івана, яна ўсё роўна яго знойдзе і пакажа, дзе арэхі растуць. Насадзіў, крычыць, адной цыбулі ды часнаку, каб горка было, а сам уцёк па гарэлку. Бегае вакол магазіна... Шукала, пакуль бабы не сказалі, што сын яе паехаў у Гомель. Паверыла. Паспакаінела, нібы і насланнё прайшло, захліпала і пайшла дамоў. Не дай бог такое...— Хоўра памыла бульбу, заліла яе чыстай вадой, паставіла чыгунок на прыпечку, дастала з-пад печча «казу».

— На «казе» хутчэй зварыцца,— і пайшла па дровы.

Скачкоў падаўся ўслед за маці. Хоўра пад падстрэшкам выбірала сушэйшыя смалякі. Ён нашчаляў лучынак, занёс іх у хату, спытаў, што яшчэ трэба зрабіць.

— Нічога. Адпачывай,— яна пачала распальваць лучынкі.

Скачкоў выйшаў у сад. У агародзе яшчэ нічога не рабілася. Толькі ля плота была ўскапана невялічкая градка. Падумаў, што трэба б старой памагчы пасадзіць бульбу, падумаў абыякава, як пра нешта вельмі далёкае. Мелькам агледзеў яблыні,— сапраўды цвісці не збіраліся...

Вярнуўся ў двор. Маці адчыняла фортку карове, якая вярнулася з чарады. Карова, грукаючы бруднымі капытамі,— недзе лазіла па тваністым лузе,— уляцела ў двор, кінулася да памыйніцы з пойлам.

— Пашы ніякай, толькі выбегаецца за дзень,— сказала Хоўра.

Пасля вячэры Скачкоў адчуў, што пацягнула на сон. Не дачакаўшыся, пакуль пачне цямнець, улёгся. «Вось адасплюся, можа, і мінецца гэтая млявасць, абыякавасць да ўсяго»,— падумаў, засынаючы. На досвітку, як толькі маці загрукала чыгункамі ў другой палове хаты, прачнуўся. Адчуў, што заснуць зноў не зможа,— сон як рукой зняло. Сеў на канапе. Што ж рабіць? Ён не ведаў, што яму рабіць тут. Каб не сказаў маці, што пабудзе некалькі дзён, паехаў бы назад у Зуеў. А што рабіць там? Спрачацца з жонкай? А што тут? Днямі валяцца на канапе? Нельга. Маці пачне дапытвацца, што з ім. Яна і так, здаецца,

нешта заўважыла. Сысці б куды, каб ніхто не турбаваў, ні пра што не распытваў. Куды? А калі пайсці на рыбалку? А што? Хочаш, глядзі на ваду, хочаш, ляжы на мураве, любуйся воблакамі ў небе,— ніхто не патрывожыць. Паветра, цішыня... І вуда недзе павінна быць. Некалькі год назад завёз, думаў прыехаць у адпачынак парыбаліць, ды так і не сабраўся.

Вуда стаяла на тым жа месцы ў каморы, дзе ён некалі яе паставіў. Леска была яшчэ даволі трывалая. Кручкі хоць пакрыліся ржой, але былі моцныя. У двары Скачкоў знайшоў старую бляшанку ад кількі, накапаў за хлявом на агародзе ружовых вузлаватых чарвякоў, зайшоў у хату, накінуў на плечы паношаную матчыну ватоўку.

— Паснедаў бы,— уздыхнула старая, боўтаючы цеста ў макотры,— збіралася пячы аладкі.

— Потым, зараз не хочацца,— сунуў у кішэню лустачку хлеба.

Раніца была ядраная і празрыстая. На траве высыпала раса, і здалёк здавалася, што на поплаў лёг маладзенькі іней. Вада застыла ў нерухомасці. Кусты лазы, маладая зялёная асака, супроцьлеглы бераг адбіваліся ў ёй з такой яснасцю, што здаваліся праўдашнімі.

Скачкоў дайшоў па беразе да самага лесу, далей ад вёскі, угледзеў утульную ўпадзінку за ўзгорачкам, разаслаў ватоўку, усеўся і пачаў распутваць леску на вудзільні. Паднялося сонца, адбіўшыся ў возеры,— было ўражанне, што ўзыходзілі два сонцы, адно падымалася ў неба, другое апускалася ў ваду. Яшчэ болей пасвятлела. Скачкоў які час зачаравана глядзеў на ваду, шкадуючы патрывожыць яе ржавым кручком. Потым, спахапіўшыся, закінуў вуду. Глядзеў на паплавок, які, крыху пакалыхаўшыся, разганяючы дрыготкія кругі, застыў над блакітнай безданню. Яго чырвоная шапачка адбівалася ў вадзе, і здавалася, у возеры плавае чырвоны шарык. Сонца болей разагрэла паветра. Над дальнім ворывам яно ўжо заструменіла мроівам, нібы жаўрукі раскалыхалі яго сваім цюрканнем.

Скачкоў лёг на спіну, ляжаў, прыслухоўваўся да птушыных спеваў, глядзеў у сінюю бездань. Калі доўга глядзець, то пачынае здавацца, што сінія глыбы варушацца, перавальваюцца з боку на бок, выныраючы з бясконцых глыбіняў, хаваюцца, на іх месца з'яўляюцца новыя. Аж у галаве павяло ад гэтага руху. Заплюшчыўся. У вачах замільгалі залацістыя мухі. Пачуў, як нешта зусім блізка

зашамацела. Як яшчарка. Падхапіўся,— вудзільня была ў вадзе. Падхапіў. Напялася леска. Пацягнуў мацней. У паветры закалыхалася залацістая круглая рыбіна, як скаварада. Крутануўшыся, падскочыла ўверх, плюхнулася ў ваду, абпырскаўшы няўдалага рыбалова. Скачкоў начапіў яшчэ большага чарвяка, чым перад гэтым, зноў закінуў вуду. Цяпер сядзеў, як наструнены, не спускаў вачэй з чырвонага шарыка. У яго нават настрой змяніўся. Ад абыякавасці ў душы не засталося і следу. З'явілася мэта: спаймаць рыбіну. Каб яшчэ тую, што ўцякла. Можна і большую. І гэтая мэта, здавалася, была зараз самай галоўнай. Больш ні пра што не думалася. Нават тыя непрыемнасці, што апошнім часам абрынуліся на яго, побач з гэтай мэтай падаліся дробнымі і нікчэмнымі. Дурань ён дурань, што раней не захапляўся рыбалкай. Можа б, зусім іншае было разуменне галоўнага ў жыцці. Не выпадкова, усе рыбакі больш спаважныя, немітуслівыя. Ён гэта заўважыў, калі яшчэ рабіў у Мінску. Думаў, што ў іх такія характары. Аж не. Рыбалка, аказваецца, не толькі захапленне, але і акрэсленая норма паводзін чалавека. Не, відаць, спяшаецца з вывадамі. Пасядзеў паўгадзіны, рыбіну яшчэ не патрымаў у руках, а ўжо развёў цэлую філасофію. Ён заўсёды спяшаўся з абагульненнямі. Можа, таму і рабіў памылкі ў жыцці... У гэты момант закалыхаўся паплавок. Скачкоў выхапіў вуду, але, відавочна, паспяшаўся. Не даў рыбіне зачапіцца. На кручку вісеў кароткі аб'едак. Скачкоў павярнуўся ўзяць новага чарвяка і аж здрыгануўся ад нечаканасці.

Побач сядзела Параска. Яна была ў зімовых ботах, хоць дзень стаяў цёплы, у зыркай гарусцы на плячах. Тварззяў ненатуральнай усмешкай. Смяяліся не толькі вочы, а і вусны, шчокі, лоб і нават валасы на галаве, неахайна раскіданыя. Бяздумная абыякавая ўсмешка не была асмучана думкай, не афарбавана захапленнем ці радасцю.

— Лаві, лаві, Ванечка,— пралепятала жанчына, гледзячы перад сабой на возера.— Я ведала, што ты тут. Злыя языкі нагаварылі, што ты памёр. Ад зайздрасці, што ў мяне самая прыгожая хустка. Вось і плявузгаюць. Я ведаю, што ты схаваўся ад людзей. Я, Ванечка, нікому не скажу, што ты тут. Сядзі і лаві рыбку. А я зараз пайду і прынясу табе паўліцерку. Прадаўшчыца ў магазіне гаворыць, што твая паўліцерка стаіць. Хе-хе... — яна рассмяялася.— Усе думаюць, што ты пад музыку ляжыш.

Няхай думаюць. Я нікому не скажу, што ты тут. Я і ў вёсцы не скажу, дзе была. Скажу, па траву хадзіла. А ты сядзі, Ванечка, лаві рыбку, лаві. Толькі не праганяй свайго хлопчыка, калі прыбяжыць. Дзеці любяць з рыбкай гуляцца. Ты маленькі любіў апалонікаў лавіць... Я сёння ў сельсавет пайду, каб закрылі нафту. Яны казалі мне, што дазволілі адкрыць нафту, бо думалі, што яна не гарыць. А раз гарыць, то закрыюць. Цяпер усё закрываюць, што гарыць. Баяцца за зямлю. Успыхне зямля, а куды людзям дзявацца? Хіба што да рыбак у возера. Дык ты, Ванечка, хоць усіх рыбак не лаві, хай застанецца трохі, а то нам сумна будзе без рыбак.—Яна паднялася, шоргаючы нагамі па траве, выйшла на дарогу, пастаяла, замахала рукамі, нібы адганяла ад сябе пчол, і пабегла ў вёску...

Новага чарвяка Скачкоў ледзь начапіў — трымцелі рукі. Закінуў вуду. Як ні стараўся засяродзіцца на паплаўку, у вачах стаяла бяздумная Параспіна ўсмешка. Скачкоў хацеў зматаваць вудачку, але паплавок імкліва пайшоў пад ваду, леска туга напялася. Падняў вудзільна — у паветры закалыхаўся буйны карась. Скачкоў зняў яго, кінуў на траву. Рыбіна не выклікала ў яго радасці. І ўсё ж ён начапіў яшчэ аднаго чарвяка. Але і цяпер часцей паглядваў на дарогу, што вяла з вёскі, чым на паплавок: не хацеў, каб другі раз застала яго тут Параска.

Неўзабаве зачапіўся яшчэ адзін карась, хоць крыху і меншы за папярэдняга. Да Скачкова зноў вярнуўся рыбацкі азарт. Цяпер ён толькі зрэдку паглядваў на дарогу і толькі тады, калі нажыўляў чарвяка.

Раптам на дарозе паказалася «Волга». Услед за ёй цягнуўся празрысты, як дым, пыл. Скачкоў падумаў, што шукаюць яго. Але ва ўпраўленні белая машына, а ў аб'яднанні — чорная. А гэта нейкая шэрая, як асфальт. Можа, хто з начальства ў калгас прыехаў? У пачатку возера машына спынілася. З яе выйшаў чалавек у шэрым гарнітуры, падняўся на ўзгорак,— калі чысцілі возера, то не ўвесь іл вывезлі на палі. Застаўшыеся там-сям узгорачкі зараслі травой. Чалавек той доўга стаяў, нешта разглядаючы. Вось ён вярнуўся ў машыну. Машына скіравала на дарогу, што ішла праз луг на гэты бок возера. Скачкоў зразумеў, што шукаюць яго, і, відаць, заўважылі, што рулююць сюды. І няхай рулююць. Ён не пабяжыць насустрач, нават не паварухнецца. Будзе лавіць рыбу, як і лавіў. Якраз, можа, яшчэ зачэпіць аднаго карасіка. І са-

праўды, паплавок нырнуў пад ваду. Спаймаўся карасік, але на гэты раз дробненькі...

— Прывітанне, стары! — пачуўся вясёлы голас Кірылава. Ён ішоў да яго, расставіўшы рукі, нібы баяўся, што Скачкоў пабяжыць уцякаць. Твар у Кірылава яшчэ болей азызнуў, пад вачамі набракла, валасы пасвятлелі. Толькі ўсмешка была ранейшая. Па-маладому вясёлая.

— Якім ветрам, дарагі? — Скачкоў абняў сябрука.

— Вудзільня папаўзло! — крыкнуў Кірылаў, схапіў вуду. На кручку сядзеў вялікі цяжкі карась.— Гэта мой! Скажы, што не я спаймаў яго?!

— Якім ветрам, пытаюся?

— Дзе чарвяк? — Кірылаў адчапіў рыбіну, нажывіў кручок, закінуў вуду і толькі потым адказаў на пытанне Скачкова.— А ты як думаў? Ты папаўся, як гэты карась на кручок, а я сядзець буду? Прыехаў ратаваць цябе.

— Жонка пазваніла?

— Не.

— Адкуль ведаеш?

— Прэса ўсё ведае...

— Ты жонцы званіў?

— Не,— і спытаў у сваю чаргу: — Што думаеш рабіць?

— Лавіць рыбу, пакуль ловіцца.

— Выдатна. А наогул? — Кірылаў прысеў на ватоўку, аслабаніў гальштук.— Хораша тут!

— Усю рыбу разагнаў сваім басам,— сеў і Скачкоў, спытаў: — Хто сказаў?

— Пазванілі. Мог, вядома, і ты пазваніць, але ад цябе ніколі не дачакаешся... Хацеў на пажар прыехаць, але якраз нумар у друк трэба было падпісваць. Стаяў нарыс пра цябе. Давялося зняць. Вядома, часова... Што думаеш рабіць?

— Калі шчыра, пакуль нічога. Не хочацца. Сядзеў бы днямі на возеры... Але доўга тут не пасядзіш. Зіма настане...

— Жартуем?

— Я пра настрой... А рабіць... Канешне, нешта трэба рабіць. Хачу паехаць у Сібір. Мне яшчэ раней прапаноўвалі месца.

— Не весела — пра Сібір... Жонка не хоча?

— Не хоча. Рашуча. Заўсёды была хоць куды, а то ні ў якую. Сам, кажа, хоць на ўсе чатыры. Можа, паехаць без яе? Доўга адна не ўседзіць. Калі-небудзь прыедзе.

— Без жонкі загінеш. Ты прывык на ўсім гатовенькім. Цяпер не адвыкнеш.

— Але тут я, відаць, не змагу.

— Чаму тут? Думаеш, дарэмна я заходзіў да твайго былога шэфа? Ён гатоў узяць цябе назад. У Капшукова нешта не пайшло. Наламаў дроў. Дарэчы, шэф казаў, што дасць кватэру. У іх якраз дом будуецца. Падумай...

— Вяртацца назад? Не. Гэта не мне трэба ехаць туды, а ім сюды. Ну, калі не самому шэфу, дык усім з аддзела,— і ўсміхнуўся.— А то, засядзеўшыся там, пачынаем думаць, што не мы для людзей, а яны для нас. А калі гаварыць сур'ёзна, то хай бы паглядзелі, як выконваюцца іх рэкамендацыі тут, каб меней фантазіравалі, былі рэалістамі. А то гаворым, напрыклад, пра навуковую арганізацыю працы і часта не ведаем канкрэтныя ўмовы. Іх трэба ведаць. Каб за кожным сталом, за кожным станком, пачынаючы ад міністра і канчаючы рабочым, была навуковая арганізацыя працы. Каб яе арганізоўваць, трэба ведаць не толькі вытворчасць, але і псіхалогію людзей. Не, усім нам, узляцеўшым высока, трэба папрацаваць на нізах. Канешне, усе прайшлі праз нізы, калі пачыналі. Гэта так. Але тады мы былі зялёныя. А вось, набраўшыся вопыту ўверсе, папрацаваць тут, унізе...— гэта зусім, як кажуць, іншы каленкор. А потым за гэты час і нізы памяняліся... Я вось часам думаю, ці не падрыхтаваць у дырэктыўныя органы абгрунтаваную запіску на гэту тэму?

— Ведаеш, Валера, адкуль твае няўдачы ў жыцці? — спытаў Кірылаў, падняўшы вуду, на якой вісеў некрануты чарвяк.— Сапраўды, разагнаў табе рыбу... Я табе гаварыў некалі. Мала таго, што ты залішне чэсны, а ты яшчэ і фантазёр, калі зусім не пражакцёр. Ты больш жывеш уяўленнямі, чым самім жыццём. Вось ты хочаш, каб усе былі рэалістамі, а сам далёка не рэаліст. Павучыся ў Балыша. Во хто рэаліст. Рэаліст-стратэг. Ты прасачы яго шлях. Начальнік упраўлення якраз тады, калі нафта біла фантанам. Даваў два планы без асаблівай натугі. Сумеў паказаць сябе. Я, грэшны, таксама пісаў пра яго. Малады, энергічны. Заўважылі. Прапанавалі аб'яднанне. Ты ведаеш пра гэта? Не? Ён адмовіўся. Яго сціпласць ацанілі. Якасць, якая рэдка сустракаецца ў кіраўнікоў. Праз год прапанавалі месца ў міністэрстве. Другі раз адмаўляцца, вядома, няёмка. Пайшоў. А на справе ўпёк. Бо не дурань, бачыў, якая катастрофа чакае промысел. Гэта ведалі мясцовыя. Таму ніхто з іх на начальніка ўпраўлення не

пагадзіўся. Прызначылі цябе. А ты, замест таго каб выкрыць усю варварскую дзейнасць свайго папярэдніка, не шкадуючы сябе, пачаў наладжваць вытворчасць. Ніхто не ведае, колькі табе гэта каштавала. Ды і ўсяму калектыву. Дзякуючы табе, Балыш спіхнуў Дарашэвіча. Дарашэвіч кіраваў аб'яднаннем якраз тады, калі ва ўпраўленні не было Балыша, а ты яшчэ не прыйшоў. План папоўз уніз. Хто вінаваты? Вядома, генеральны дырэктар. Хоць бы таму, што не змог падабраць начальніка ўпраўлення. І вось Балыш Дарашэвіча спіхнуў, а сам папрасіўся на яго месца. Уяўляеш? З міністэрства на аб'яднанне? Гэта недзе было ацэнена, як праява заклапочанасці пра справу, як праява высокага пачуцця адказнасці. Да свайго прыходу ў аб'яднанне ён пастараўся зменшыць план упраўленню. Упраўленне ў аб'яднанні галоўнае, астатнія — драбяза. Справы пры Балышу пойдуць найлепшым чынам. Паставіць яшчэ замест цябе свайго чалавека, той будзе яму ва ўсім падпяваць. Праз гады два-тры Балыш — намеснік міністра. Там адзін з намеснікаў збіраецца на пенсію. Вось так, дарагі мой. Жыве чалавек і не сумуе. Прадумана робіць кар'еру. Канешне, цябе ён не пацерпіць побач. Ты занадта чэсны, занадта прыстойны. Побач з такімі, як ты, людзі, пра якіх гавораць, што яны ўмеюць жыць, адчуваюць сябе няёмка. А яны не прывыклі да адмоўных эмоцый. Вось чаму табе і прапаноўваюць пасаду ў Сібіры. Можа, нават і высокую.

— Няўжо гэта праўда?

— Канешне.

— Адкуль ведаеш?

— Прэса ўсё ведае.

— Цікава, цікава...

— Канешне, цікава.

— Выходзіць, думай не пра агульнае, а пра сваё асабістае? Калі ўсе пачнём так жыць, што будзе? Загінем, развалімся...

— Дзівак... Такія, як ты, самі не жывуць і іншым не даюць. Вось цябе і не любіць Балыш. У наш трывожны час няма сэнсу жыць далёка перспектывай. Як кажа мой шафёр, лепей ездзіць на бліжніх фарах. Хоць дарога далёка не відаць, затое ніколі не ўскочыш у калдобіну...

— Ну добра,— памяркоўна пачаў Скачкоў.— Няхай будзе па-твойму. Час трывожны... Ну і што? Хапай жыццё, грабі пад сябе? Не, не разумею такой філасофіі. Гэта і не філасофія, а адчай. На ўсіх гэтых, хто крычыць, што

вось-вось усё ўзляціць у паветра, я гляджу, як на правакатараў. Гэта, калі разабрацца, заклік да безразборлівасці. Думаеш, нашы бацькі не ведалі, што могуць не дажыць да перамогі? А якія былі!.. Яны не ездзілі на бліжніх фарах. Таму мы з табой зараз і жывём.

— Правільныя думкі, але адарваныя ад рэальнасці. А я рэаліст. Прывык жыць не ўяўленнямі, а фактамі. А факты такія. Балыш не разважае, ты разважаеш. Хто Балыш, а хто ты? — Кірылаў развёў рукамі.— Вось табе і ўся філасофія.

— Што параіш?

— Самае лепшае — вярнуцца назад. Атрымаеш хату, будзеш жыць з дачкой у адным горадзе, няньчыць унукаў. Хоць пажывеш спакойна.

— Спакой нам толькі сніцца,— Скачкоў падняўся, глянуў на гадзіннік. Не гаворка з Кірылавым, а больш дакладна, не змест яе, а прысутнасць сябра надалі Скачкову ўпэўненасці і нават рашучасці.— Спакойна можна жыць толькі ў абывацельскім свеце, у сапраўдным жыцці або перамога, або паражэнне. Адным словам — барацьба. Дарэчы, куды сёння едзеш?

— Хачу пабыць на адным заводзе ў Зуеве...

— Падкінеш мяне?

— Не толькі падкіну, а і пабуду ў цябе ў гасцях.

Скачкоў ніколі не любіў адкладваць задуманае на заўтра,— стараўся зрабіць адразу ж. Іншым часам і залішне стараўся. Вось і зараз. Хоць Кірылаў і сказаў яму, што заедзе па яго праз гадзіну, а ён сабраўся за якіх дваццаць мінут і ўжо сядзеў ля двара на лавачцы, чакаў яго.

— Хоць рыбку ўзяў бы,— стаяла маці ля форткі, прыхінуўшыся спіною да шулы.

— Хай табе,— сказаў Скачкоў. Адчуўшы, што маўчаць няёмка, пацікавіўся.— Табе не горача ў ватоўцы? Цёпла ж...

— Яно здаецца, што цёпла. А зямля халодная.— Хоўра з прыхаваным у зажураных вачах шкадаваннем паглядзела на сына.

Калі пад'ехала машына, Скачкоў прыхінуў да сябе маці, бадзёра сказаў:

— Не журыся тут...

— Не пабачыў, як і сады цвітуць...

— Пабачу, мама, абавязкова пабачу. У нядзелю з Алай прыедзем памагаць табе бульбу садзіць. Дамоўся з брыгадзірам наконт каня...

— Добра,— яна ніколькі не абрадавалася яго абяцанню прыехаць у нядзелю з жонкай. Відаць, не верыла.

Дзве высокія бярозы стаялі абсыпаныя дробнымі лісточкамі,— іх не пашкодзіў пажар. Верхавіна ж у сасны зжаўцела. Гаёк змярцвеў. Птушкі пакінулі гнёзды, якія пачалі віць. Коцікі на вербалозе абсыпаліся, звяўшы. Утаптаная зямля была прыпудрана чорнай мукой. Сажа наліпла і на партызанскіх абелісках.

Скачкоў і Кірылаў выйшлі з машыны, прайшлі праз ацішэлы гаёк да палянкі пад дубам, які яшчэ і не думаў распускацца.

Скачкоў глянуў на здымак бацькі, і яму падалося, што ў таго нейкі спахмурнелы твар. Бацька не смяяўся, а нібы крычаў, шалёна і люта, як звычайна крычаць, калі кідаюцца ў атаку. Але вось сышоў цень з фотаздымка, бацька зноў смяяўся, шчыра і адкрыта, як заўсёды.

— Тарлан Мустафаеў, Іван Алесіч, Тарас Запарожац, Сцяпан Кудраўцаў,— услых прачытаў Кірылаў прозвішчы на часовым абеліску.

— Адным словам, дарагі мой Кірылаў, нічога ў іх не выйдзе. Не дачакаюцца яны тут спакойнага жыцця. Ні Балыш, ні Кацянок, ні Бурдзей. Не дадзім. Вось разам з бацькам, Мустафаевым і іншымі... У мяне копія заключэння камісіі. Там чорным па беламу напісана тры мільёны, а не два. Плюс новае адкрыццё нафты. Сам паеду ў міністэрства.

— Выходзіць, усё спачатку,— не спытаў, а з перасцярогай сказаў Кірылаў.

— Выходзіць так...

Кірылаў неяк здзіўлена паглядзеў на сябра і моўчкі скіраваў да машыны. Маўчалі ў дарозе да самага Зуева. Калі ўехалі ў горад, Скачкоў спытаў:

— Зойдзем да мяне?

— Пабуду на заводзе, а потым да цябе,— адказаў Кірылаў.

— Чакаю пасля шасці,— і Скачкоў папрасіў вадзіцеля спыніцца ля двухпавярховага будынка з каланадай.

Сакратар райкома Міхейка прыняў Скачкова адразу ж, як толькі пра яго далажылі.

— Я чакаў вас, між іншым,— прызнаўся ён і чамусьці пачырванеў. Запрасіў прысесці ля прыстаўнога століка, сам сеў насупроць, паставіў локці на стол, сашчапіў тонкія пальцы, спытаў: — Якія навіны, Валерый Міхайлавіч?

— Быў у вёсцы. Адведаў старую. Вярнуўся... Просьба ёсць, Яўген Васільевіч.

— Слухаю.

— Вы пасля сходу ва ўпраўленні сказалі, што мне ёсць над чым падумаць. Вось я і думаў... Ведаеце, Яўген Васільевіч, я ніколі не быў лайдаком. Заўсёды працаваў чэсна. Стараўся. Рос па службе. Нядрэнна рос. Цанілі, так сказаць... Сюды прыехаў не дзеля кар'еры... Можа, развучыўся працаваць, не ведаю, але не ўсё ў мяне атрымоўвалася як трэба. Я гэта разумею, Яўген Васільевіч. Больш таго, я толькі цяпер пасціг усе сакрэты, так сказаць... Цяпер толькі б працаваць. Разумею, што ў сувязі з адкрыццём новага радовішча нафты работы будзе багата, але іменна па гэтай прычыне вам трэба вопытны кіраўнік. А я так сказаць, стрэлены верабей. Вы ведаеце думку Балыша, і, тым не меней, лічу, што ёсць сэнс пакінуць мяне начальнікам упраўлення. Вось і ўся мая просьба, Яўген Васільевіч...

— Іншага я ад вас, Валерый Міхайлавіч, і не чакаў,— Міхейка падняўся, падышоў да акна, зазірнуў на вуліцу, потым прыхіліўся да падаконніка. Было відаць, што ён нечым узрушаны, але стараецца не выдаваць свайго настрою.— Я не ведаю, чым вы кіраваліся, калі ехалі сюды з Мінска. Але ўпэўнен, што не вельмі ўяўлялі, куды ехалі. Цяпер уяўляеце і ўсё ж застаецеся. Гэтае пра многае гаворыць... Пра вашу грамадзянскую пазіцыю, пра пачуццё адказнасці... Былі, вядома, і будуць недахопы, як і ў кожнага, хто нешта робіць. Вы часам спяшаецеся, залішне даверлівы. Не шкодзіць павучыцца разбірацца ў людзях. Але гэтая навука бясконцая. Для кожнага з нас... — Міхейка зноў сеў за столік.— Валерый Міхайлавіч, спынімся на тым, што гэтай гаворкі не было? А?.. Пагаворым пра нашы бягучыя справы? У сувязі з адкрыццём новага радовішча на наступным бюро будзе гаворка аб перспектывах развіцця нафтаздабываючай прамысловасці ў раёне. Вы змаглі б падрыхтаваць свае прапановы па гэтаму пытанню?

— Калі бюро? — падняўся Скачкоў.

...Ля пад'езда на лаўках сядзелі школьніцы ў чорных пярэдніках і школьнікі ў сініх касцюмчыках. З імі сядзела, відаць, настаўніца. Чарнявая, драбнатварая. На тратуары стаяў мужчына ў скураным пінжачку, трымаючы на павадку высокага сабаку з доўгай рыжаватай поўсцю і вострай, як шыла, пысай. Чалавек размаўляў з вясёлай

бландзінкай у форме правадніка пасажырскіх цягнікоў. Чарнявага мужчыну ў белай кашулі акружылі жанчыны. Ён, відаць, расказваў нешта цікавае, што тыя аж шыі павыцягвалі, як гускі, слухаючы яго.

«Нешта здарылася ў пад'ездзе,— падумаў Скачкоў.— Вяселле ці можа каго хаваюць...»

Ён таропка падняўся на свой паверх.

Дзверы ў кватэру былі прыадчынены.

У зале, заваленай вузламі з адзежай, скруткамі кніг, чамаданамі, ля стала сядзела Ала Пятроўна. Акружыўшы яе, стаяла некалькі дзяўчынак. І жонка, і дзяўчынкі павярнуліся, моўчкі глядзелі на яго засмучанымі вачыма.

— Што за вакзал? — весела спытаў Скачкоў.

— Сабралася пераязджаць,— сказала Ала Пятроўна.— А дзеці не пускаюць.

— Куды пераязджаць? — здзівіўся Скачкоў, нібы і сапраўды не зразумеў, пра што ідзе гаворка.— Ніякіх пераездаў. Застаёмся тут. Чэсна,— усміхнуўся, гледзячы на разгубленую жонку.

Алу Пятроўну ўразіла яго ўсмешка. Яна была амаль такая ж, як у партызанскага камандзіра на абеліску. І сам ён быў вельмі падобны на свайго бацьку. Здавалася, нават памаладзеў.

Ёй хацелася кінуцца да яго, абняць, але ў кватэры былі пабочныя, і таму яна толькі сказала:

— Распакоўвай чамаданы, раз так...

**Гаўрылкін Л.**

Г 24 Застаюся з табой: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1986.— 335 с.: іл.

У кнізе расказваецца пра беларускіх нафтавікоў, пра станаўленне новага атрада рабочага класа Палесся. Людзі працуюць, каб даць краіне як мага больш «чорнага золата», мараць пра шчасце, шукаюць свайго месца ў жыцці. Некаторым з іх — галоўным героям твора Сачкову і Алесічу — гэты пошук даецца цяжка, патрабуе ўсіх сіл, ведаў, намаганняў.

Асноўныя падзеі адбываюцца ў невялікім палескім горадзе і навакольных вёсках.

$Г\frac{4702120200-067}{М\ 302(05)-86}$ 9—86 **ББК84 Бел7**

*Леонид Иванович Гаврилкин*

**ОСТАЮСЬ С ТОБОЙ**

*Роман*

~ ~ ~

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Рэдактар М. Н. Герчык. Мастак М. С. Будавей. Мастацкі рэдактар М. Я. Шкурпіт. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Карэктар Я. Ф. Харко.*

ІБ № 2324

Здадзена ў набор 10.09.85. Падп. да друку 03.04.86. АТ 00540. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 17,64. Ум. фарб.-адб. 17,64. Ул.-выд. арк. 19,99. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1816. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

З набору Мінскага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбіната МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23, друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600, Мінск, Ленінскі праспект, 68. Зак. 889.